# Народная лексіка Гомельшчыны

## ў фальклоры і мастацкай літаратуры

Слоўнік

# НАРОДНАЯ ЛЕКСІКА ГОМЕЛЬШЧЫНЫ
## *ў фальклоры і мастацкай літаратуры*

### СЛОЎНІК

Пад рэд. У. В. Анічэнкі

Мінск
Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна
1983

# ПРАДМОВА

Неадкладнай задачай нашых моваведаў з'яўляецца складанне рэгіянальных слоўнікаў featureрознага тыпу, каб на аснове іх у далейшым падрыхтаваць поўны слоўнік беларускіх народных гаворак. Значным дасягненнем дыялектолагаў можна лічыць актыўны збор, сістэматызацыю і лексікаграфічную апрацоўку мясцовай лексікі, якая здаўна бытуе ў народным асяроддзі на правах рэгіянальных норм.

На жаль, у нас яшчэ недастаткова вывучаны ў лінгвістычных адносінах фальклорны эпас, у якім захаваліся цікавыя дыялектныя словы і формы. Іх не заўсёды ўдаецца зафіксаваць сёння ў вясковых населеных пунктах з-за нівеліроўкі, а часта і сцірання дыялектных адрозненняў пад уплывам беларускай літаратурнай мовы. Каштоўнасць фальклорнага матэрыялу павышаецца яшчэ і тым, што ён бярэ свой пачатак з глыбокай старажытнасці, ствараўся і беражліва захоўваецца не адным пакаленнем з характэрным для яго мясцовым вымаўленнем у кожным канкрэтным выпадку. Фальклорная лексіка значна дапаўняе лексічнае багацце сучасных беларускіх народных гаворак.

Асабліва вызначаецца ў гэтых адносінах Гомельшчына, у склад якой уваходзіць значная частка Усходняга Палесся, дзе бытавалі і бытуюць сярод вясковага насельніцтва самабытныя фальклорныя матывы, якія захоўваюць разнастайнасць і спецыфіку гутарковага слова.

Другой немалаважнай крыніцай адлюстравання рэгіянальнага моўнага каларыту з'яўляюцца творы беларускай мастацкай літаратуры, у якіх пісьменнікі найчасцей карыстаюцца мясцовай лексікай у стылістычных мэтах, асабліва пры характарыстыцы мовы персанажаў. Сярод твораў гэтага тыпу творы пісьменнікаў, што паходзяць з Гомельшчыны, займаюць асобнае месца. У іх найбольш поўна прадстаўлена дыялектная лексіка, недастаткова зафіксаваная існуючымі слоўнікамі.

Укладальнікі слоўніка паставілі сваёй задачай стварыць лексікаграфічную працу камбінаванага тыпу на аснове фальклорных матэрыялаў, запісаных на тэрыторыі Гомельшчыны ў дарэвалюцыйны і савецкі час, а таксама твораў беларускіх пісьменнікаў, што паходзяць з гэтага кутка Беларусі. Ад існуючых слоўнікаў ён адрозніваецца не толькі тым, што ў ім сістэматызаваны і лексікаграфічна апрацаваны многія новыя лексемы, але і, гэта галоўнае, вызначэннем яго рэестравай часткі. У слоўнік не ўключаліся словы, змешчаныя ў нарматыўных лексікаграфічных крыніцах без памет абласное, размоўнае, прастамоўнае, устарэлае.

Даволі складанай праблемай для ўкладальнікаў слоўніка было вызначэнне рэгіянальнай лексікі ў беларускай мастацкай літаратуры, дзе нярэдка цяжка сказаць, якое слова ўведзена пісьменнікам з народнай мовы, а якое можна лічыць яго ўласным наватворам. Каб вызначыць рэгіянальную спецыфіку такіх лексем, яны, як правіла, супастаўляліся з фальклорнымі запісамі і дыялектнымі матэрыяламі Гомельшчыны.

Увогуле пры адборы рэестравай лексікі ўкладальнікам слоўніка давялося кіравацца наступнымі прынцыпамі: уключаць словы, якія адрозніваюцца ад літаратурных каранёвым саставам (*гэйкнуць* — крыкнуць, *дуйка* — мяцеліца, *дзявічкі* — вячоркі); семантычнай структурай (*аддзел* — атрад, *дзяжка* — лыка, *дружына* — муж, *зарагацець* — заіржаць); словаўтваральнымі (*аблік* — улік, *абрадзіць* — нарадзіць, *агіцірнік* — агітатар, *гарац* — гарнец, *грыбавік* — грыбнік, *зачаць* — пачаць); марфалагічнымі (*брыва ж.*— брыво н., *гарно н.*— горан м., *дзіва ж.*— дзіва н., *дэпеш м.*— дэпеша ж., *закус м.*— закуска ж., *зграй м.*— зграя ж., *змярканак м.*— змярканне н.) і акцэнтуацыйнымі асаблівасцямі (*бахóн* — бóхан, *вясёла* — весела, *гóршчык* — гаршчóк, *дáляй* — далéй, *дзянны́* — дзённы, *дурнóта* — дурнатá, *зáпячак* — запéчак). Усяго ў слоўніку налічваецца каля 3500 рэестравых слоў.

Усе лексемы размешчаны ў алфавітным парадку з захаваннем правапісу арыгіналаў (у матэрыялах з мастацкай літаратуры) і перадачай іх згодна з правапіснай сістэмай сучаснай беларускай літаратурнай мовы (у фальклорных запісах), але з паралельным напісаннем у дужках у мясцовым вымаўленні.

Кожнае рэестравае слова забяспечана граматычнай, а калі неабходна, і спецыяльнай паметай, пасля чаго падаецца яго значэнне.

Што датычыць абсалютных сінонімаў (лексічных, словаўтваральных і марфалагічных), то яны афармляюцца самастойнымі слоўнікавымі артыкуламі, але тлумачацца толькі адзін раз там, дзе ўпершыню сустракаюцца ў рэестравай частцы слоўніка. У канцы слоўнікавага артыкула прыводзяцца параўнальныя сінанімічныя пары.

Тлумачэнне фразеалагізмаў падаецца пры апорным слове. Скажам, рэестравае слова *даць* ужываецца не толькі самастойна, але і як апорнае слова ў спалучэннях *даць дыбка, даць жару, даць загуды, даць ляшча (плескача), даць нырца, даць прачуханца.* Такі ж прынцып захаваны і пры падачы ў рэестравай частцы слоўніка ўстойлівых спалучэнняў.

Рэестравыя словы, іх значэнні, фразеалагізмы і устойлівыя спалучэнні ілюструюцца прыкладамі іх ужывання ў фальклорных і мастацкіх тэкстах. І толькі ў некаторых выпадках цытуемыя ўрыўкі з этнаграфічных матэрыялаў адсутнічаюць, бо неабходныя словы не забяспечаны імі або растлумачаны на рускай мове.

Ілюстрацыйны матэрыял суправаджаецца пашпартызацыяй, а пасля кожнай фальклорнай цытаты прыводзіцца назва вёскі, дзе быў запісаны матэрыял.

Ва ўсіх ілюстрацыях да рэестравых слоў захаваны асаблівасці мясцовага вымаўлення і правапісу, за выключэннем кантэкстаў з дарэвалюцыйных выданняў, у якіх літара Ѣ заменена літарай *е*, *ъ* у канцы слоў апушчаны.

У стварэнні слоўніка прынялі удзел: У. В. Анічэнка («Прадмова», А—З), В. А. Горленка (Л—П), Л. І. Злобін (Р—Я), Д. А. Лявончанка (І—К).

Укладальнікі слоўніка шчыра ўдзячныя рэцэнзентам — кандыдатам філалагічных навук А. К. Малюку, Я. М. Рамановіч і А. І. Чабярук за іх каштоўныя парады і пажаданні, накіраваныя на паляпшэнне зместу гэтай працы.

# ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

## Граматычныя і стылістычныя паметы

Абрад.— абрадавае
Абразл.— абразлівае
Аг.— агульны род
Адз.— адзіночны лік
Анат.— анатомія
Астр.— астраномія
Асудж.— асуджальнае
Бат.— батаніка
Безасаб.— безасабовы дзеяслоў
Бібл.— біблейскае
Буд.— будаўніцтва
Ваен.— ваенны тэрмін
Вык.— выказнік
Выкл.— выклічнік
Гіст.— гісторыя
Геал.— геалогія
Груб.— грубае
Геагр.— геаграфія
Гукаперайм.— гукапераймальнае
Дакор.— дакорлівае
Дзеепрым.— дзеепрыметнік
Дзеясл.— дзеяслоў
Дзіц.— дзіцячае
Ж.— жаночы род
Жарт.— жартоўнае
Заал.— заалогія
Займ.— займеннік
Зак.— закончанае трыванне
Зборн.— зборны назоўнік
Злучн.— злучнік
Зневаж.— зневажальнае
Іран.— іранічнае
Кул.— кулінарыя
Ласк.— ласкальнае
Лаянк.— лаянкавае
Ліч.— лічэбнік
М.— мужчынскі род
Міф.— міфалагічнае
Мн.— множны лік
Муз.— музыка
Н.— ніякі род
Наз.— назоўнік
Неадабр.— неадабральнае
Незак.— незакончанае трыванне
Пабочн.— пабочнае слова
Павел.— павелічальнае
Пагард.— пагарджальнае
Памянш.— памяншальнае
Пар. ст.— параўнальная ступень
Паэт.— паэтычнае
Перан.— пераноснае значэнне
Песен.— песеннае
Проціл.— процілеглае
Прым.— прыметнік
Прыназ.— прыназоўнік
Прысл.— прыслоўе
Рэл.— рэлігія
Рыб.— рыбалоўства
С.-г.— сельскагаспадарчае
Спец.— спецыяльны тэрмін
Ткац.— ткацтва
Тэхн.— тэхнічны тэрмін
Тэкст.— тэкстыльны тэрмін
Уст.— устарэлае
Царк.— царкоўны тэрмін
Цяп. ч.— цяперашні час
Часц.— часціца
Шматкр.— шматкратны дзеяслоў

## Выкарыстаныя крыніцы

Б, II — Балады.— Мн., 1978, кн. 2.

БКЭ — Беларускі казачны эпас. Рукапіс бібліятэкі Польскай акадэміі навук у Кракаве (№ 2499).

ВП — Веснавыя песні.— Мн., 1979.

Гам., ША — *Гамолка М.* Шлях адкрыты.— Мн., 1960.

Гаўр., ПД — *Гаўрылкін Леанід.* Пакінутая на досвітку: Аповесці.— Мн., 1970.
Грам., В — *Грамыка М.* Выбранае.— Мн., 1967.
Губ., БК — *Губарэвіч К.* Брэсцкая крэпасць: П'есы.— Мн., 1963.
Губ., ГС — *Губарэвіч К.* Галоўная стаўка: П'есы.— Мн., 1963.
Губ., ДП — *Губарэвіч К.* Далёкая песня: П'есы.— Мн., 1963.
Губ., НКП — *Губарэвіч К.* На крутым павароце: П'есы.— Мн., 1963.
Дан., Ж.— *Даніленка М.* Журлівіца.— Мн., 1980.
Дан., ЗА — *Даніленка М.* Запаветны акіян.— Мн., 1972.
Дан., МН — *Даніленка М.* Майская навальніца.— Мн., 1959.
Дан., МП — *Даніленка М.* Мая песня.— Мн., 1952.
Дан., Н — *Даніленка М.* Наваселле: Апавяданні і нарысы.— Мн., 1964.
Дан., НД — *Даніленка М.* Наш дом.— Мн., 1971.
Д-З, ПП — *Довнар-Запольский М.* Песни пинчуков: Сборник этнографических материалов.— Киев, 1895.
Дуб., I — *Дубоўка У.* Выбраныя творы.— Мн., 1965, т. 1.
Дуд., ББ — *Дудар А.* Беларусь бунтарская.— Мн., 1925.
Дуд., ЗС — *Дудар А.* І залацісцей і сталёвей.— Мн., 1926.
Дуд., М — *Дудар А.* Марсельеза: Апавяданні.— Мн., 1927.
Дуд., С — *Дудар А.* Слуцак: Паэмы.— Мн., 1935.
Дуд., СС — *Дудар А.* Сонечнымі сцежкамі: Вершы.— Мн., 1925.
Дуд., ШШ — *Дудар А.* Шанхайскі шоўк.— Мн., 1926.
ДФ — Дзіцячы фальклор.— Мн., 1972.
Дземб., ООМГ, I — *Дембовецкий А. С.* Опыт описания Могилевской губернии.— Могилев-на-Днепре, 1882, кн. 1.
Дземб., ООМГ, II — *Дембовецкий А. С.* Опыт описания Могилевской губернии.— Могилев-на-Днепре, 1884, кн. 2.
ЖП — Жартоўныя песні.— Мн., 1974.
ЗП — Зімовыя песні.— Мн., 1975.
Кап., А — *Капыловіч М.* Адна.— Светлае жыццё, 22.IX, 1973.
Кап., Ж — *Капыловіч М.* Жыві.— Полымя, 1970, № 1.
Кап., СЖЛ — *Капыловіч М.* Скрозь жывуць людзі.— Мн., 1968.
Кап., ССА — *Капыловіч М.* Сяргей, сын Антолін.— Маладосць, 1972, № 4.
Кар., II — *Карский Е. Ф.* Материалы для изучения белорусских говоров: Сборник отделения русского языка и словесности императорской Академии наук.— Спб., 1903, вып. 2.
Карш., С — *Каршукоў Яўген.* Суседзі.— У дарогу.— Мн., 1963.
Карш., ПБ — *Каршукоў Яўген.* Пятроўская быль.— Полымя, 1970, № 5.
КЖЧК — Казкі пра жывёл і чарадзейныя казкі.— Мн., 1971.
Крауч., НХП — *Краўчанка У.* Над хвалямі Прыпяці.— Мн., 1964.
ЛБВ — *Гілевіч Н. С.* Лірыка беларускага вяселля.— Мн., 1979.
Лупс., ВТ — *Лупсякоў М.* Выбр. творы.— Мн., 1968.
Лупс., ДЧ — *Лупсякоў М.* Дняпроўская чайка: Выбр. творы.— Мн., 1968.
Лупс., З — *Лупсякоў М.* Званары: Выбр. творы.— Мн., 1968.
Лупс. М — *Лупсякоў М.* Міхалапіха: Выбр. творы.— Мн., 1968.
Лупс., МД — *Лупсякоў М.* Міхалаў дуб.— Мн., 1974.
Лупс., НБД — *Лупсякоў М.* На берагах Дняпра.— Мн., 1966.
Лупс., П — *Лупсякоў М.* Паядынак.— Мн., 1957.
Лупс., ПГ — *Лупсякоў М.* Праз гады.— Мн., 1968.
Лупс., ТС — *Лупсякоў М.* Торба з салам: Выбр. творы.— Мн., 1968.

Лупс., УВН — *Лупсякоў М.* У вераб'іную ноч.— Мн., 1958.
Мак., ВКЛ — *Макаёнак А.* Выбачайце, калі ласка.— Мн., 1953.
Мак., К — *Макаёнак А.* Камедыі.— Мн., 1961.
Мак., КЛЖ — *Макаёнак А.* Каб людзі не журыліся.— Мн., 1958.
Мак., ЛА — *Макаёнак А.* Лявоніха на арбіце.— Мн., 1961.
Мел., I — *Мележ І.* Збор твораў.— Мн., 1969, т. 1.
Мел., II — *Мележ І.* Збор твораў.— Мн., 1970, т. 2.
Мел., III — *Мележ І.* Збор твораў.— Мн., 1970, т. 3.
Мел., IV — *Мележ І.* Збор твораў.— Мн., 1970, т. 4.
Мел., V — *Мележ І.* Збор твораў.— Мн., 1971, т. 5.
Мел., VI — *Мележ І.* Збор твораў.— Мн., 1971, т. 6.
Мел., БД — *Мележ І.* Блізкае і далёкае.— Мн., 1954.
Нав., Б — *Навуменка І.* Бульба.— Мн., 1964.
Нав., В — *Навуменка І.* Вераніка.— Мн., 1968.
Нав., ВС — *Навуменка І.*— Вецер у соснах.— Мн., 1967.
Нав., СД — *Навуменка І.* Сасна пры дарозе.— Мн., 1962.
Нав., СТ — *Навуменка І.* Сорак трэці.— Мн., 1974.
Нав., ТСЗ — *Навуменка І.* Тая самая зямля.— Мн., 1971.
Нав., ТЮ — *Навуменка І.* Таполі юнацтва.— Мн., 1966.
Наўр., ГС — *Наўроцкі А.* Гарачы снег.— Мн., 1968.
Наўр., НУМ — *Наўроцкі А.* Неба ўсміхаецца маланкаю.— Мн., 1962.
Пал., КЗС — *Палескі В.* Калі зацвітаюць сады.— Мн., 1950.
Палт., КС — *Палтаран В.* Ключы ад сезама.— Мн., 1967.
ПК — Песні пра каханне.— Мн., 1978.
ПНСА — *Гілевіч Н. С.* Песні народных свят і абрадаў.— Мн., 1974.
Радч., ГНП — *Радченко З.* Гомельские народные песни: Записки императорского русского географического общества по отделению этнографии.— Спб., 1888, т. 13, вып. 2.
Рак., БВ — *Ракітны М.* Была вясна.— Мн., 1964.
Рак., В — *Ракітны М.* Выбранае.— Мн., 1972.
Рак., СЛС — *Ракітны М.* Сярод людзей сваіх: Апавяданні.— Мн., 1967.
Рам., БС — *Романов Е. Р.* Белорусский сборник.— Витебск, 1887, т. 1.
Рам., БС, I—II — *Романов Е. Р.* Белорусский сборник.— Киев, 1886, т. 1, вып. 1, 2.
Рам., БС, III — *Романов Е. Р.* Белорусский сборник.— Витебск, 1887, т. 1, вып. 3.
Рам., БС, IV — *Романов Е. Р.* Белорусский сборник.— Витебск, 1891, т. 1, вып. 4.
Рам., V — *Романов Е. Р.* Белорусский сборник.— Витебск, 1981, вып. 5.
Рам., БС, VII — *Романов Е. Р.* Белорусский сборник.— Витебск, 1910, вып. 7.
РП — Радзінная паэзія.— Мн., 1971.
Саб., I — *Сабаленка Раман.* Выбр. творы.— Мн., 1968, т. 1.
Саб., II — *Сабаленка Раман.* Выбр. творы.— Мн., 1968, т. 2.
Саб., БАС — *Сабаленка Раман.* Былое астаецца ў сэрцы.— Мн., 1965.
Саб., ЖЗ — *Сабаленка Раман.* Жменя зярнят.— Мн., 1957.
Саб., ЗПД — *Сабаленка Раман.* З пройдзеных дарог: Апавяданні.— Мн., 1962.
Сач., А — *Сачанка Б.* Аксана.— Мн., 1971.

Сач., АП — *Сачанка Б.* Апошнія і першыя: Аповесці.— Мн., 1968.
Сач., БРВ — *Сачанка Б.* Барвы ранняй восені.— Мн., 1962.
Сач., Д — *Сачанка Б.* Дарогі: Выбр.— Мн., 1971.
Сач., ЗМП — *Сачанка Б.* Зямля маіх продкаў.— Мн., 1964.
Сач., НН — *Сачанка Б.* Ноч няволі.— Апошнія і першыя.— Мн., 1968.
Сач., П — *Сачанка Б.* Памяць.— Мн., 1973.
Сач., ПНР — *Сачанка Б.* Пакуль не развіднела.— Мн., 1965.
Сач., ЧН — *Сачанка Б.* Чужое неба.— Мн., 1975.
Серж., КАБСП — *Сержпутоўскі А. К.* Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета: Матэрыялы да вывучэння беларускай мовы, этнаграфіі і літаратуры.— Мн., 1926, адз. 1, сер. 4, кн. 1.
Серж., ОБ — *Сержпутовский А. К.* Очерки Белоруссии.— Живая старина. Вильна, 1907, вып. 3.
Серж., ПЗБП — *Сержпутоўскі А. К.* Прымаўкі і забабоны беларусаў-палешукоў.— Мн., 1930.
Серж., СРБП — *Сержпутовский А. К.* Сказки и рассказы белорусов-полешуков: Материалы к изучению творчества белорусов и их говоров.— Спб., 1911.
Смаг., К.— *Смагаровіч М.* Крокі.— Мн., 1966.
Смаг., МТ — *Смагаровіч М.* Мой таварыш: Вершы.— Мн., 1955.
Сно, ВБП — *Сно Э.* В болотах Полесья.— Спб., Без г.
Сярк., МСТВ — *Сяркоў І.* Мы з Санькам у тыле ворага.— Мн., 1968.
ЧК, I — Чарадзейныя казкі.— Мн., 1973, ч. 1.
ЧК, II — Чарадзейныя казкі.— Мн., 1978, ч. 2.
Шам., I — *Шамякін І.* Збор твораў.— Мн., 1977, т. 1.
Шам., II — *Шамякін І.* Збор твораў.— Мн., 1977, т. 2.
Шам., III — *Шамякін І.* Збор твораў.— Мн., 1978, т. 3.
Шам., IV — *Шамякін І.* Збор твораў.— Мн., 1978, т. 4.
Шам., V — *Шамякін І.* Збор твораў.— Мн., 1979, т. 5.
Шам., VI — *Шамякін І.* Збор твораў.— Мн., 1979, т. 6.
Шам., ВТБ — *Шамякін І.* Вазьму твой боль.— Мн., 1979.
Шпіл., ППБК — *Шпилевский Павел.* Путешествие по Полесью и белорусскому краю.— Спб., 1858.
Шэйн, I — *Шейн П. В.* Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края.— Спб., 1887, т. 1, ч. 1.
Шэйн, III — *Шейн П. В.* Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края.— Спб., 1902, т. 3.
Эр., ОБП — *Эремич М.* Очерки белорусского Полесья.— Вестн. Западной России, Вильна, 1867.

## Назвы раёнаў альбо былых паветаў Гомельшчыны

Акц.— Акцябрскі
Браг.— Брагінскі
Ветк.— Веткаўскі
Гом.— Гомельскі
Жытк.— Жыткавіцкі
Калінк.— Калінкавіцкі
Карм.— Кармянскі
Лельч.— Лельчыцкі
Лоеўск.— Лоеўскі
Маз.— Мазырскі
Петр.— Петрыкаўскі
Раг.— Рагачоўскі
Светл.— Светлагорскі
Рэч.— Рэчыцкі
Хойн.— Хойніцкі
Чач.— Чачэрскі

# А

**АБАБІВА'ЦЦА** *незак.* Перабівацца, пераражываць нястачу, цяжкасці. *Няхай сама абабіваецца, калі такая ўрода.* Мел., V, 18.

**АБА'БІЦЦА** *зак.* Апусціцца, агрубець. *Што не падабаюся ўжо? Старая! Абабілася!* Губ., НКП, 203.

**АБАГЛІ'ВЫ** *прым.* Асцярожны. *Маці, вядома, адчувае, што сын небяспечных думак з галавы не выкінуў, шэпчацца з таварышамі, але цяпер стаў абагліва, пасур'ёзнеў, паразумнеў.* Нав., СТ, 140.

**АБАЛІ'ЦЬ** (обаліць) *зак.* Паваліць, перакуліць, абярнуць. *А сьвіня побегла, ступу обаліла, дай просо разсыпала.* БКЭ, 19; Камаровічы Маз.

**АБАЛО'НКА** *ж.* Абалона (слой драўніны). *Хата ў Халімона пастаўлена не з якой там абалонкі, яна зрублена пад чысты вугал са смольнага сасновага бярвення.* Саб., ЗПД, 19. Параўн. а б а л о н ь I.

**АБАЛО'НЬ** I *ж.* Тое, што а б а л о н к а. Эр., ОБП, 111; Брагін.

**АБАЛО'НЬ** II *ж.* Балонка (шыба). *Так он адчыніў абалоне — дай орліца влецела ў хату.* БКЭ, № 40; Ужынец Рэч.

**АБАРАЦІ'ЦЦА** (оборотитца) *зак.* Вярнуцца. *Слуги з етым словом обороцились назад.* Рам., БС, III, 157; Навасёлкі Раг.

**АБАСПА'ЦЦА** *зак.* Перабраць меру ў сне. *Ведаеце, таварыш камандзір, ад гультайства можна абаспацца і нават апухнуць.* Саб., БАС, 216.

**АБАЎЛЯ'ЦЦА** (обавляться) *незак.* Затрымлівацца, марудзіць. *Да тольки, панначко, будзь ласкава не обавляйся.* Шэйн, III, 384; Ельск.

**АБА'ЧЫЦЬ** (обачыць) *зак.* Паглядзець. *Бабо, пайдзі, обач сваго Іванка.* БКЭ, № 1; Маз.

**АБАШМА'РЫЦЬ** *зак.* Знайсці, адшукаць. *Была толькі вялая з доўгімі белымі махрамі бульба, якую я — на шчасце абашмарыў у нечым пограбе цэлую кучу.* Сач., АП, 333.

**АБВЯРНУ'ЦЦА** (абвернутца) *зак.* Абвярцецца. *Зарэзаў гэто ён казла, абвернуўся ў казліную шкуру.* Серж., СРБН, 41; Лучыцы Маз.

**АБГО'НКА**. Гл. б а р а з н а - а б г о н к а.

**АБДЗЕ'НЬ** прысл. Днём. *Было вельмі добрае тое лето: абдзень пагода, цёпло, а ў ночы ци цёплая раса, ци цихеньки цёпленьки дожджык.* Серж., СРБН; 17; Лучыцы Маз.

**АБЕ'РУЧКІ** *прысл.* Аберуч. *Ухапиў пан аберучки гарщок и побег дамоў.* Серж., СРБН, 41; Лучыцы Маз.

**АБЖЫДА'ЦЬ** (обжидать) *незак.* Чакаць. *Я побягу, а ты обжидай мяне тут!* Рам., БС, I — II, 222; **Гом.**

**АБЗАВЯДЗЁНКА** :на абзавядзёнку — на развод. *Прадасць* [Зіна яблык] *і нам на абзавядзёнку дасць.* Дан., НД, 118.

**АБЗЫВА'ЦЦА** *незак.* Адклікацца (на адлегласці). *Ены йдуць далей, а ено абзываецца, далей мо за крокаў дваццаць.* Серж., СРБП, 46; Лучыцы Маз.

**АБЛАВУ'ШКА** *ж.* Аблавуха. *Нарэшце адзін з хлопчыкаў у насунутай на вочы аблавушцы асмеліўся.* Саб., ЗПД, 61. Параўн. ш а п к а-а б л а в у ш к а.

**АБЛАКА'Т** *м.* Адвакат. *А ты што за аблакат?* Губ., НКП, 210.

**АБЛА'МА** (облама) *ж.* Аблава. *Шукали, шукали, и обламу делали,— ня найшлі!* Рам., БС, I—II, 263; Перарост Гом.

**АБЛАТАШЫ'ЦЬ** *зак.* Атрэсці (свавольна). *Учора ў суседа сад, мабыць, хацелі аблаташыць, бо сабака аж роў ад злосці.* Кап., СЖЛ, 98.

**АБЛАЧЫ'НКА** *ж.* Памянш.-ласк. Воблачка. *Па-летняму гарачае сонца плыве ў блакітнай з рэдкімі аблачынкамі высі.* Нав., СТ, 328.

**АБЛІ'К** *м.* Падлік. *Аблік дакладны, дасканалы план...* Дуд., С, 28.

**АБЛІКА'ЦЫЯ** *ж.* Апавяшчэнне. *Ну, и здзелалі абликацыю, на сорок вёрст от своей деревни, што от такій то чалавек обед дав, приходиться на обед.* Рам., БС, IV, 82; Карм.

**АБЛІПА'ХА** *ж.* Слота. *Узяў мяшок, пайшоў на сяло, а на двары нейкая абліпаха.* Нав., ТСЗ, 14.

**АБМА'ШКА** *ж.* Прамашка, промах. *Але Антанюк, як добры тактык, бачыў усе яго абмашкі і выбіраў момант, каб нанесці рашучы ўдар.* Шам., V, 227.

**АБНАЧЫ'ЦЦА** (обночиться) *зак.* Выбраць месца і прыпыніцца на нач. *Дле синего моря обночилися, Стали ены ночевать, синій огонь раскладаць.* Радч., ГНП, 178; Гом.

**АБО'Р** (обор) *м.* Абора (хлеў). *Первая радось — у твоим доми, Другая радось — у твоим оборы.* Шэйн, I, 81; Колкі Рэч. Параўн. і б о р а.

**АБО'ЎДЗІЛА** *м. Пагард.* Боўдзіла. *Дурань! Абоўдзіла!* Мел., VI, 270.

**АБПІНЯ'НКА.** Гл. х у с т к а - а б п і н я н к а.

**АБПЛЯ'МІЦЬ** *зак.* Запляміць. *Усю падлогу абплямілі. Толькі ж памыла.* Кап., СЖЛ, 44.

**АБРАДЗІ'ЦЬ** *зак.* Нарадзіць. *А праз тыжнею два ці тры і абрадзіла хлопчыка, такога ж харошага і такога вялікага.* ЧК, I, 230; Петр.

**АБРАЗА'НКА** *ж.* Абрэз (від зброі). *Нехта чысьціць рулю ржавай абразанкі і змывае з рук сьляды крыві.* Дуд., СС, 28.

**АБРАМІ'ЗІЦЬ** *зак.* Запэцкаць. *Кулага тая ўзяла дый выбегла з бойкі, абрамізіўшы ўсяго дзеда.* Сач., АП, 363.

**АБРАТАВА'ЦЬ** *зак. Перан.* Уціхамірыць, надзець аброць, забратаць. *Чуць не забіў дзед бабу, але суседзи пачули крык, збеглиса й абратавали.* Серж., СРБП, 70; Лучыцы Маз.

**АБСТАЛЮ'НАК** *м.* Абставіны. *Вось, бадай, і ўвесь абсталюнак майго жыцця.* Саб., II, 156.

**АБСТРЫ'КАЦЦА** *зак.* Апячыся (крапівой). *То Лявонка чаравікі не на тую нагу абуе, то ў крапіву залезе і абстрыкаецца ўвесь, думаючы, што гэта не крапіва, а звычайная трава.* Сач., АП, 383.

**АБСЯДЛА'ЦЬ** *зак.* Сесці верхам на плечы. *Можа ўрэшце і абсядлаць бацьку, тады ён адразу стане канём і будзе імчаць з кута ў кут, варта толькі добра яму шпорамі.* Нав., В, 14.

**АБТО'РКАЦЦА** (обторкаться) *зак.* Абчапіцца. *Скинули ему гуски по пёрушку, ён обторкався, пуднявся и пулятев з ими.* Рам., БС I—II, 270; Жлобін.

**АБТО'ЎЧАНКА** *ж.* Крупы, ачышчаныя ад шалупіння. *Страшэня паклаў пачак на паліцу ў вялізны макацёр і зверху засыпаў ячнай абтоўчанкай, каб назаўтра ўзяць іх запазуху і аддаць каму трэба.* Саб., ЗПД, 11.

**АБТРАПА'НЕЦ** *м.* Басяк, валацуга. *Я табе пакажу, дурань, абтрапанец, як да дачкі заляцацца.* Лупс., М, 237. Параўн. а б ш а р п а н е ц.

**АБТРУ'ШВАЦЦА** (обтрушиваца) *незак.* Атрасацца. *И в той речци купався бобер. Купався, купався, не выкупався. Вылез на бережок, обтрушивается.* Радч., ГНП, 139; Гом.

**АБТУ'КАЦЦА** (обтукатца) *зак.* Прывыкнуць. *Ены обтукаются.* Радч., ГНП, 10; Гом.

**АБТУ'ШАНЫ** *прым.* Патушаны, пагашаны. *Нас прывялі да абтушанага вогнішча, дзе, відаць, уранні варыўся сняданак.* Саб., ЗПД, 182.

**АБУЛЯ'-ШТО** *ў знач. наз. Неадабр.* Абы-што. *Ды кінь ты абуля-што плявузгаць, людзей пасаромейся.* Сач., АП, 28.

**АБХАРЧЫ'ЦЦА** (обхарчитца) *зак.* Выйсці, кончыцца (пра харчы). *Обхарчився ён, што и есць нечаго.* Рам., БС, I—II, 166; Мяркулавічы Раг.

**АБЧАПУ'РАЦЬ** (обчапураць) *зак.* Апрацаваць, ачысціць, дэзінфіцыраваць. *Ну, прислуги яе обмыли, обчапурали тыя раны.* Рам., БС, I—II, 186; Гарадзец Раг.

**АБШАЛЮ'ХАНЫ** *дзеепрым.* Абпырсканы, абліты (вадой, граззю). *Зводдалі глядзеў на яго абдрыпаны, абшалюханы, без пагонаў кіцель, то на такія ж абшалюханыя, замурзаныя штаны.* Сач., АП, 336. *Сохнуць абтрасяненыя вышэй кален калашыны абшалюханых, заплямленых у гразь і зеляніну палатняных штаноў — ад іх аж падымаецца пара.* Сач., АП, 37.

**АБШАЛЮ'ХАЦЦА** *зак.* Абпырскацца (вадой, граззю). *Я яшчэ спаў альбо чакаў, калі нарэшце будзе ісці, каб не надта замачыцца і абшалюхацца.* Сач., Д, 352.

**АБША'РВАЦЬ** *незак.* Атрасаць начыста. *А ігрушы-дзічкі, якія мы любілі з Лёнькам абшарваць, усё стаяць на полі.* Дан., ЗА, 243.

**АБШАРПА'НЕЦ** *м.* Тое, што а б т р а п а н е ц. *Не можа быць, каб гэты абшарпанец гэтак жыў.* Саб., ЗПД, 40.

**АБШМЫЛЯ'НЫ** *дзеепрым.* Зашмальцаваны. *Да паркана яшчэ, мусіць, старым Лаўрэнам прыстромлена абшмыляная да бляску лавачка.* Саб., I, 20.

**АБШЧАПЕ'РЫЦЬ** *зак.* Сціснуць рукамі. *Варка моцна абшчаперыла... край абшыўкі і шкадавала ў душы, што не пераехала разам са свёкрам на пароме.* Дан., Ж, 36.

**АБЫДЗЁ'НАК** (обыдёнок) *м.* Каласоўнік. Дэмб., ООМГ, II, 588.

**АБЯРЦЕ'НЬКА** (обярценька) *ж. Памянш.* Лустачка, скібачка. *Тугды самаа порцыя па стули и стола, ак была: два стаганы вуды и дви обярценьки хлиба.* Рам., БС, I—II, 329; Азяраны Раг.

**АБЯСЦІ'ЦЬ** *зак.* Абвясціць, аб'явіць. *Гад етый абястив, што я ўласть мею достать табе.* Рам., БС, IV, 2; Вылеў Гом. Параўн. а з н а й м і ц ь.

**АБЯЦА'ЛКА-ЦАЦА'ЛКА** (абецалка) *ж.* Абяцанне (нявыкананае). *Абецалка-цацалка, а дурному — радость.* Радч., ГНП, 248; Гом.

**АВАДНЕ'ЧА** *ж. Зборн.* Авадні. *Каровы лянiва дажоўвалі жвачку, адмахваючыся ад настырнай аваднечы і сляпнёў.* Саб., II, 122.

**АГАЛЬЧА'К** (огольчак) *м.* Пустка. *Огороджаю огольчак рыжих горою камянною.* Рам., БС, V, 46; Дзятлавічы Гом.

**АГАРНУ'ЦЬ** *зак.* Адолець (думкі). *Бачыць мужык, што пан вельмо моцно штось думае, да не можэ агарнуць сваею паньскою галавою.* Серж., СРБП, 52; Лучыцы Маз.

**АГІНА'ЦЦА** *незак.* 1. Туліцца. *А чорт тут агінаецца да тольки хвастом пакручвае.* Серж., СРБП, 110; Лучыцы Маз. 2. Увільваць. *Пашукайце, пашукайце, не агінайцеся,— настойваў паліцай.* Саб., БАС, 177.

**АГІЦІ'РНІК** *м.* Агітатар (завадатар, зачыншчык). *Помніць вёска і першага «агіцірніка» Міцяя.* Сач., II, 10. *Усё адно, бы агіцір-*

*нікі тыя на сходах.* Сач., ЧН, 144.

**АГІЦІ′РНІЦА** *жан. да* агіцірнік. *Галаву чмурыць агіцірніца,— пачула Ганна нечы ўедлівы шэпт.* Саб. I, 314.

**АГЛАБІ′НА** *ж. Перан.* Тупіца. *Прозвішча Рымарчук. Высокая такая аглабіна.* Нав., ВС, 276.

**АГЛАБЦЫ′** *толькі мн.* Перадок (саней). *Я паклаў на воз сваe рэчы і ўсеўся ў аглабцы, поўныя свежай саломы.* Сач., БРВ, 155.

**АГЛАШЭ′ННЫ** *прым.* Бесталковы, дзівацкі. *«Чаго ты, як аглашэнны які! — не разумееш маёй радасці»,— сказаў дзядзька Пракоп.* Саб., II, 76.

**АГО′МАЦЦА** *зак.* Схамянуцца; сабрацца з думкамі. *«Што ты вярзеш»— не магла ніяк агомацца ад пачутага Агата.* Саб., I, 332. *Пакуль немцы агомаліся, то тая дзяўчына ўжо ў ложку ляжыць, нібыта хворая на тыф.* Нав., СТ, 271.

**АГРАШЫ′ЦЬ** *зак.* Саграшыць. *З дому яны выйшлі, нічым не аграшыўшыся.* Саб., I, 211.

**АГРУ′ЗЛЫ** *прым.* Які ўрос у зямлю. *Хата, як і хлевушок, малая, агрузлая ў зямлю — якраз на адну душу.* Кап., А, 17.

**АГУ′КАЦЬ** *незак. Дзіц.* Гаварыць, размаўляць. *«Ды дзяцей прывядуць сколькі к дзеду і бабе! — падхапіла маці.— У Вольгі пятае нешта агукае».* Мел., V, 185.

**АДБІ′ЦЬ** ◆ **ад роду адбіць** — аддаліць, адхіліць, разлучыць. *Што вы мяне, красну дзевушку, ад роду адбілі.* Б., II, 95; Старыя Дзятлавічы Гом.

**АДБЫ′ЦЬ** (отбыть) *зак.* Страціць (красу). *Як пошла к свёкратку молода, Половину красы отбыло, А боли клопату прибыло.* Дэмб., ООМГ, I, 536; Гом.

**АДВАЛІ′ЦЬ** *зак.* Расчысціць, аслабаніць. *Прыйшлі людзі з віламі, з тапарамі, са стрэльбамі, адвалілі подпал і забілі мядзведзя.* ЧК, I, 185; Гом.

**АДВЯСЦІ′ЦЬ** (отвястить) *зак.* Адказваць (гаварыць у адказ). *Яны говорать: здрастуй, дзедка! Ён отвястив им: здрастуйтя, посторонныя люди!* Рам., IV, 108; Васільеўка Гом.

**АДВЯШЧА′ЦЬ** (атвяшчаць) *незак. да* адвясціць. *Ён злажыўся на яго, хацеў з ружжа ўбіць, а арол той атвяшчае.* ЧК, I, 246; Раг.

**АДГРО′ХАЦЬ** *зак.* Пабудаваць (што-н. вялікае, грандыёзнае). *Новую школу можа думаеце адгрохаць?* Дан., НД, 341.

**АДГРУ′КАЦЬ** *зак.* Мінуцца (пра гады). *Колькі ж гадоў адгрукала бацьку і колькі ж разоў прысаджваўся, адпачываў.* Дан., Н, 37.

**АДГЫ′РКВАЦЦА** *незак.* Агрызацца (груба адказваць). *Аўтушак адгырквaецца: «Куды размахаўся? Хадзі пасядзім».* Нав., СТ, 341. *«Паганаму я не вучыў»,— адгырквaўся бацька.* Сач., ЧН, 182.

**АДДУ′ЦЦА** (отдутца) *зак.* Адтапырыцца. *И лэпаа па камни — за пазухой отдулось: суди, каа, пане, по правди: будя и табе, будя и мне.* Рам., БС, III, 399; Нісімкавічы Раг.

**АДДЗЕ′Л** *м.* Атрад. *А кароль пасылаў на казакоў новыя аддзелы.* Дуд., М, 61.

**АДЗЁНАК** *м.* Адонак. *Лунёў і яшчэ трое адыходзяць падалей ад дарогі і ім шанцуе — знаходзяць даўнішні адзёнак.* Нав., СТ, 124.

**АДЗЁР** *м.* Насціл (на дрэве пад вуллі). *Паўлазили ены на адзёр и легли спаць, а Иванчык аткинуў астрогу да й пашоў к агню.* Серж., СРБП, 58. *Павёў Иванчык их к адру, прыставіў астрогу й сказаў, каб ены лезли наверх.* Серж., СРБП, 58; Лучыцы Маз.

**АДЗІН-АДЗІНЮ′СЕНЬКІ.** Адзінадзінюткі. *Старая Арцюшыха была на свеце адна-адзінюсенька.* Саб., I, 293. *На дварэ—чорная, як сажа, ноч і сярод усяго гэтага адна-адзінюсенькая дзяўчынка, амаль дзіця, з клуначкам за плячыма.* Сач., БРВ, 59.

**АДЗІНА′КІ** *прым.* Аднолькавы, та-

кі самы. *Васіль, а чаму ето ў цябе вочы не адзінакія — адно як вада светлае, а другое — як жалудок!* Мел., V, 13. *Мы цяпер адзінакія.* Мел., I, 241. Параўн. аднакі.

**АДЗІНІ'ЦА** (одиница) *ж.* Адна, адзіная. *Було, мати, не уповати, что я в тебе одиница; Було, мати, не уповати, что на личеньку бела; Було, мати, бити, учити да до всякаго дела.* Радч., ГНП, 189; Гом. Параўн. дачушка-адзініца.

**АДЗІНЮ'СЕНЬКІ.** Гл. адзін-адзінюсенькі.

**АДЗЯРЖА'ЦЦА** *зак.* Утрымацца, устаяць. *Няўжо немцы адзяржацца, няўжо не пагоняць іх назад.* Сач., БРВ, 307. *Праўда, не ўсе адзяржаліся там.* Саб., I, 118.

**АДКУСІ'ЦЬ** *зак. Перан.* Адлупцаваць. *Каб мы знайшлі таго, хто пусціў тую плётку, ну і адкусілі б.* Крауч., НХП, 459.

**АДЛІШЫ'ЦЦА** *зак.* Аддзяліцца, адасобіцца. *А тут яшчэ дачка ў калгас хоча адлішыцца.* Губ., НКП, 387.

**АДЛУ'КА** *ж.* Адлучка. *Не гневайся, цесцю, Што зяць спазніўся, Бо не быў ён дома, А быў у адлуцы У караля навуцы.* ЛБВ, 192; Хільчыцы Жытк.

**АДЛУПЦАВА'ЦЬ** *зак.* Набіць, адлупіць (моцна). *Бацька? Абяцаў адлупцаваць цябе.* Шам., IV, 551. *Са сваймі людзьмі бывае нялёгка, але свае ёсць свае... і адлупцуюць і пашкадуюць.* Шам., ВТБ, 211.

**АДМАГА'ЦЦА** (отмогатца) *незак.* Змагацца (імкнуцца перамагчы што-н.). *Ён отмогавсь, отмогавсь, кажа: я боюсь, яны устануги.* Рам., БС, IV, 27; Перарост Гом.

**АДМАЎЛЯ'ЦЬ** (отмовляци) *незак.* Замаўляць. *Ой маць моя, маци, иду живот отмовляци и золотник заговорици.* Рам., БС, V, 59; Ціхінічы Раг.

**АДМЫКНУ'ЦЬ** *зак.* Выпусціць. *Як пакажа кроў з нажа, дык каня майго яшчэ не адмыкайце, а як пацячэ цурком, тады каня адмыкніце.* ЧК, I, 68; Рудня Чач. *Адмыкнуў ён каня, конь ляціць і крычыць.* ЧК, I, 69; Рудня Чач.

**АДНА'КІ** *прым.* Тое, што адзінакі. *Партызаны — дзеці аднаго бацькі, але не аднакія...* Нав., СТ, 177. *Ето не тое, што пры цары было: цяпер і што багаты, што бедны, што брат, што сват — усе аднакія.* Мел., V, ·332.

**АДНАЛЕ'ТАВЫ** (однолетовы) *прым.* Аднагадовы. *На табе три пуки по девъять девъятов однолетовыя осины, и иди ты домов.* Рам., БС, IV, 106; Маркавічы Гом.

**АДНА'ЧА** (однача) *прысл.* Аднак. *Можа там место тыя да мяне отдадуць, аднача я батьку усердила!* Рам., БС, III, 152; Гарадзец Раг.

**АДНЫ'** (адный) *ліч. у знач. прым.* Адзін. *Быў сабе адный купец.* БКЭ, № 33; Юравічы Рэч.

**АДО'НІШЧА** (одонище) *н.* Адонак. *И цяпер, дурак, став свое копы к одонищу цягаць на своих плячах.* Рам., БС, III, 228; Нісімкавічы Раг.

**АДПАВЕ'ДЗІЦЬ** (одповедзіць) *зак. Перан.* Адмовіць (рэзка). *Хадзілі аны к ёй, пакуль ана ім одповедзіла.* БКЭ, № 4; Камаровічы Маз.

**АДРУЖО'НЫ** *дзеепрым. Абрад.* Заручаны. *Да няхай воны, да й ня тужаць по мне, що аддали мене на чужую сторону, не жонатого, и не адружонага.* Д-З, ПП, 145; Красная Воля Маз.

**АДСВЕ'ТАЦЬ** (отсветать) *незак.* Засланяць (ад свету). *Было ў месячки три братца: один зоры спотухая, другій свет отсветая.* Рам., БС, V, 16; Вылеў Гом.

**АДСІ'ДКА** *ж.* Адседка. *А Мікіта за час другой Васевай адсідкі ўгару пайшоў.* Нав., ТСЗ, 101.

**АДХЛА'ННЕ** (атхланне) *н.* Палёгка, спакой, адпачынак. *Здавалася б, што прасцей — абсадзі дарогу дрэвамі, вось і атхлaненне, канец пакутам.* Сач., ПНР, 166.

**АДЦА'ХЛІЦЬ** *зак.* Адбрахаць. *Ну,*

*яшчэ паганяе зіму: а там?.. Адбегаў, адцахліў сваё, старына.* Рак., СЛС, 141.

**АДЦЯГА'ЦЬ** (оттягать) *зак.* Адабраць. *А мы оттягаем у яго и туу коровку! А баба кажа: Як жа нам яе оттягать?* Рам., БС, III, 380; Нісімкавічы Раг.

**АДЦЯ'ЖКА** *ж.* Паўза кароткая. *Зычна, пералівіста, з адцяжкай.* Сач., БРВ, 261.

**АДЧАЙДУ'ШНЫ** *прым.* Адчайны (поўны роспачы). *Нейкая няўцямная туга, шчымлівы адчайдушны сум нечым невядомым, нязведаным агарталі мяне.* Сач., ЧН, 256.

**АДЧАЮ'ГА** *м.* Смелы чалавек. *І ўсім разказваў... як загінуў адчаюга Пашка Новікаў.* Карш., С, 76.

**АДЧЫХВО'СЦІЦЬ** *зак.* Адсцябаць. *Добра ён іх адчыхвосціў.* Шам., ВТБ, 66.

**АДЧЭ'П** *м.* Адчэпка. *Ну і героі! Наваліліся талакой на аднаго, што і адчэпу не знойдзеш.* Гам., ША, 11.

**АДША'ХАЦЬ** *зак. Груб.* Адмерыць (мераючы, пазбавіць). *Я ёй, праўда, крыллі падрэзаў — сядзібу па самыя вуглы адшахаў.* Шам., IV, 240.

**АДШЧЫКНУ'ЦЬ** *зак.* Адшчыпнуць. *На паліцу кожны раз не палезеш адшчыкнуць.* Саб., II, 41.

**АДЫ'ЛІ** *прысл.* Потым. *Ён по дорогах ездзя, а девка тая ўже дома — и разживсь, лавку сострoив, почав торгувать, адыли ўже и с купцами раззнакомивсь и с царами.* Рам., БС, I, 285.

**АЖО'СЬ** *часц.* Аж, вось. *Ажось ідуць медзведзь, лось і воўк.* БКЭ № 39; Ужынец Рэч. *Ажось і прыходзіць медзьведзь.* БКЭ, № 13; Камаровічы Маз.

**АЗА'ДАК** *м.* Частка цела чалавека ніжэй спіны. *Не хачу, каб ты бачыла мой пашкуматаны... азадак.* Шам., IV, 538.

**АЗНАЙМІ'ЦЬ** (ознайміць) *зак.* Азнаёміць, паведаміць. *Як угледзеў, што уж дома, так пашоў у карчму і ознайміў людзям.* ДКЭ, I, 21; Камаровічы Маз.

**АКАЛА'ЧВАЦЬ** *незак. Перан.* Зарабляць. *Я ў твае гады акалачваў грошы.* Наўр., ГС, 48.

**АКАНО'МІЯ** (акономия) *ж. Уст.* Маёнтак. *Ну коли були мянины етаго пана, то быв изъезд панов на мянины со ўсих князецких акономий.* Рам., БС, IV; 3.

**АКРА'ЙКА** *ж.* Акравак. *Я выпрасіў у мачыхі яшчэ і акрайку, вытканую на ўзор слуцкага пояса, прырабіў да яе кутасікі, і выйшла добрая падпяразанка.* Саб., ЗПД, 180.

**АКАРАНАВА'ЦЦА** (окороноватца) *зак.* Асесці. *Вот яны тут окороновалися жить и живуць.* Рам., БС, III, 166; Мяркулавічы Раг.

**АКЛЯ'ТАВАЦЬ** *незак.* Клясціся (праклінаць). *Гэта твой, што купіў цябе, нам аклятаваў, што не быць нам купцамі, а быць старцамі, а трэба яго з свету перавесць.* ЧК, II, 415; Маркавічы Гом.

**АКО'НАЧКА** *н. памянш.* акно. *У каморцы аконачка, У аконачцы відненечка.* ВП, 224; Заполле Петр.

**АКРУЖНУ'ЦЦА** (окружнутца) *зак.* Павярнуцца (вакол сваёй восі). *Окружнуся, дык выкруг яма.* Рам., БС, IV, 103; Маркавічы Гом.

**АКРЫ'НА** (окраина) *ж.* Край. *Не ходи, кот по окраине. Буду бить по спине.* Шэйн, I, 30; Гом.

**АКРЫ'ТЫ** *дзеепрым.* Пакрыты. *Лава гэтак адпаліравана доўгім сядзеннем на ёй, што аж блішчыць, нібы яна лакам акрыта.* Саб., II, 41.

**АКРЫ'ЎЛЕНЫ** *дзеепрым.* Акрываўлены. *Яна пачала рвацца да яго, але зморaныя, акрыўленыя людзі ўтрымалі яе.* Лупс., ПГ, 131.

**АЛАВЕ'Ц** *м.* Аловак. *«Дык як ваша прозвішча, кажаце?» — дастаючы з нутранай кішэні алавец, пытае...* Саб., БАС, 40.

**АЛАЛА'Х** ◆ **даваць алалаху —**

уцякаць. *Давай ад іх такога алалаху.* Дуб., I, 363.

**АЛЕБО′** *злуч.* Або, альбо. *Выговаруетца рабу божаму (алебо рабини) уроки урочащи, жаноцкія і паробоцкія, мужчынскія і бабськія.* Рам., БС, V, 21; Дзятлавічы Гом. Параўн. а л і.

**АЛІ′** *злуч.* Тое, што а л е б о. *Ну, яны колькі там прабылі, год алі пайгода, а радзіла тая баба дачку сабе.* ЧК, II, 126; Азяраны Раг.

**АЛЕ′НТЫ** (алентый) *прым.* Пунсовы. *Зеленая рученька. Алентый цвет.* Шэйн, III, 424; Дзякавічы Маз.

**АЛЁС** *м.* Луг заліўны; месца забалочанае. *Прывёў іх аднаму яму вядомымі сцяжынкамі ў алёс.* Дан., Ж, 21.

**АМУНІ′ЧНІК** *м.* Сельскагаспадарчая прылада (амуніцыя). *У калгасе Нупрэй вартаваў свіран, амунічнік, увесь арцельны двор.* Дан., НД, 49.

**АМШЭ′НЬ** *м.* Амшанік. Радч., ГНП, 13.

**АНГЕ′ЛЕЦ**. Гл. п а с т ы р-а н г е л е ц.

**АНГЕ′ЛЬСКІ** *прым.* Англійскі. *Блішчыць трубой над морам ангельскі параход.* Дуд., ШШ, 8.

**АНІ′ГАДКІ** *прысл.* Хоць бы што. *Добра тым, у каго над вокнамі расце бэз, наламаў сабе і анігадкі.* Саб., ЖЗ, 84. *Анігадкі нажыла сабе гаспадара.* Кап., СЖЛ, 7.

**АНДЗЕ′Л** *м.* Анёл. *Дзень добры вам усім, а вас, Карней Тарасавіч, з днём андзела.* Губ., НКП, 332. Параўн. а н я л.

**АНІКО′ЛЕЧКІ** *прысл. Памянш.* Ніколечкі. *Чаго вы, дзівакі? Тут аніколечкі не страшна.* Дан., ЗА, 128.

**АНІЧАГУ′СЕНЬКІ** *прысл. Памянш.* Нічагусенькі. *Яна анічагусенькі не ведала, Сабіна звяла яе да сваёй прыстані.* Рак., БВ, 4.

**АНЯ′Л** *м.* Тое, што а н д з е л. *«Хто там?» — пытае ксёндз. «Анял з небе».* Серж., СРБП, 52; Лучыцы Маз.

**АПАНУ′РЫЦЦА** *зак.* Зрабіцца панурым. *Ад прыроды маўклівая, Феня, пасля таго, як пастаялі яны ля пірамідкі, дзе быў пахаваны лейтэнант Астап Качарга, яшчэ больш апанурылася.* Дан., Ж, 38.

**АПА′СВАЦЦА** (апасватца) *незак.* Апасацца, асцерагацца, баяцца. *За гэтым самым у гэту нядзелю нихто ня ходзя ў лес,— бач, апасуютца.* Рам., БС, IV, 139; Прыбар Гом.

**АПА′СКА** *ж.* Боязь, страх. *Як і раней, ён недаверліва прыслухоўваўся, чакаў — жыла апаска, што ўсё зараз зноў паўтарыцца.* Мел., II, 10.

**АПА′ШКІ** *прысл.* Наапашкі. *Расціслаў зняў свой пінжак і апашкі накінуў Лоры на плечы.* Саб., I, 159. *На майку апашкі накінуў ватоўку.* Дан., Ж, 23.

**АПРАСТА′ЦЬ** *зак.* Утаймаваць, уціхамірыць. *Два гады нічога не маглі зрабіць з вёскаю немцы, ніяк не ўдавалася яе апрастаць. Ні ўгаворамі, ні пагрозамі.* Сач., II, 14.

**АПРА′ТАВАЦЬ** *незак.* Апрацоўваць. *Дзядзька Мікодым памагаў ім зямлю апратаваць, выратаваў іх кароў ад секвестратара.* Саб., I, 266.

**АПРА′ТКА** *ж.* Вопратка. *«Дык мо я пайду ды пераапрануся,— згадзілася ўжо дзяўчына,— а то ж у гэтай апратцы нікуды не гожа».* Саб., II, 166. *Думала, як вернецца, дык хоць апратку каму пашыць давядзецца.* Дан., Ж, 8.

**АПРО′СТАЦЬ** (опростаць) *зак.* Вызваліць. *Узяв сячас, зялезы еты потарвував, и яе опростав.* Рам., БС, III, 159; Навасёлкі Раг.

**АПРЫ′Ч** (оприч) *прыназ.* Апрача. *Спасались по тритцать годов и ничога ня потрабляли оприч травы.* Рам., БС, IV, 138.

**АПУ′КА** *ж.* Мяч. *Схапіўшы з чарэні ватоўку і шапку, апукаю зваліўся з печы і кінуўся ў дзверы.* Кап., СЖЛ, 23.

**АПУ′Р** (опур) *выкл.* Акыш. *Опур*

*у болото, жаб есьци.* Шэйн, III, 207; Якімавічы Рэч.

**АП'Я'ЦЦА** (опьятца) *зак.* Прыхіліцца. *Мы стояли опьявшись, люди сказали: обнявшись; Не стой, козаче, близко мене, люди скажуть: люблю тебе.* Радч., ГНП, 4; Гом.

**АРАШО'ЧАК** *м. памянш.* арэх. *На адыходзе Ганначка, ой на адыходзе. Пасадзіла арашочак на гародзе.* ЛБВ, 420; Кругавец-Калініна Добр.

**АРАШЭ'ННЕ** (орашеньне) *н.* Скананне. *Орашеньня яму уже приходзя, сусим смерць ужо подходзя.* Рам., БС, IV, 162; Навасёлкі Раг.

**АРЖО'ННЕ** *н. Зборн.* Іржышча. *Ляціць, як арол, ён ляціць над аржоннем.* Гам., ША, 21.

**АРЛО'ВЕНЬКІ** (орловенький) *прым. Ласк.* Прыгожанькі. *К позднему вечеру поспею, Свою Адарочку заспею, Да в орловеньком веночку, Да в шовковеньком платочку.* Радч., ГНП, 105; Гом.

**АРЭ'ЛЯ** *ж.* Гушкалка. *На тоўстай галіне ліпы ў гародзе Вера прывязала арэлю.* Дан., Ж, 64.

**АРЭ'ЎКА** *м. Песен.* Арол. *А на том кудры дай арэўка сядзіць, ой, ун сядзіць і ў воду глядзіць.* ЗП, 142; Дзякавічы Маз.

**АРХІМАНДРЫ'К** *м.* Архімандрыт. *А у нас будуть спрашивати хурхурэй и архимандрык.* Рам., БС, I—II, 188; Гом.

**АСВО'ЙТАЦЦА** *зак.* Асвоіцца, прывыкнуць. *Я асвойтаўся з новай для мяне работай.* Саб., II, 52. *З таго часу і жыве. Зусім асвойтаўся.* Губ., НКП, 264.

**АСЕ'ДЗЕЦЦА** *зак.* Асталявацца, асесці. *Дзякуючы Свірыду толькі тут і аседзіўся.* Саб., II, 149.

**АСКЫ'ЗЛА** *прысл.* Прагна. *Пасвіліся нечыя хілыя, перахлябістыя козы, аскызла скуб мураву рабрысты заезджаны конь.* Сач., БРВ, 189.

**АСЛАБАНІ'ЦЬ** *зак.* Вызваліць. *Рад Кузьма, што сын назваў бацькам, падняў воз и аслабаниў сына.* Серж., СРБП, 20; Лучыцы Маз. *Миколай, угодничак божжій, заступник! Ты наш навышній, ослобони.* Рам., БС, IV, 15; Гом.

**АСЛО'НЕНЫ** *дзеепрым.* Ахінуты, акружаны. *Аслоненая з усіх бакоў магутнымі камлістымі дубамі паляна-гарадок.* Сач., II, 6.

**АСЛУ'ХАЦЬ** (ослухать) *зак.* Паслухаць (услухацца). *Ана, тая дзеўка ослухала, што ужэ спяць, ціхо злезла з печы, дай грэбе тые грошы ў хвартух.* БКЭ, № 30; Камаровічы Маз.

**АСНА'ЧЫК** (осначик) *м. ласк.* аснач (шаноўны). *Меду-вина купила, осначиков поила. Осначики-бобыли меду-вина попили.* Рам., БС, I—II; Вылеў Гом.

**АСО'БЕННЫ** (особянный) *прым.* Асобны. *Ён день и ноч пойдя у особянную комнату и молитца, и читая божественное.* Рам., БС, IV, 27.

**АСТАРАНІ'ЦЦА** *зак.* Пастараніцца, збочыць. *Іван-Дараган, астараніся.* ЧК, I, 69; Чач.

**АСТРА'НТ** *м.* Гарэза. *А ўсё праз астранта Ячменніка, які так нечакана-негадана прыблукаў сёння ў інтэрнат.* Сач., БРВ, 37.

**АСТРО'ВА** *ж.* Жэрдка сукаватая. *І яны высеклі грабовую острову і па ёй, лазячы паперамена да дупла, прарубілі дзірку і забралі мёд.* Сач., ЗМП, 98. *Он... астровы адкінуў.* БКЭ, № 6; Камаровічы Маз. Параўн. а с т р о в і н а, а с т р о г а.

**АСТРО'ВІНА** *ж.* Тое, што а с т р о в а. *Сцяпан Птах — пуцявы абходчык — усе апошнія гады карыстаецца адной і той жа астровінай, каб ускарабкацца на дрэва, дзе стаіць яго вулей.* Нав., СПД, 8. *Партызаны высеклі дзве доўгія бярозавыя астровіны.* Нав., ВС, 252. Параўн. а с т р о г а.

**АСТРО'ГА** *ж.* Тое, што а с т р о в а. *Иванчык аткинуў астрогу да й пашоў к агню.* Серж., СРБП, 58. Параўн. а с т р о в і н а.

**АСТУПІ'ЦЬ** (оступіць) *зак.* Абступіць. *Собралісе селом, оступілі —*

*біць, дай годзі.* БКЭ, № 25; Камаровічы Маз.

**АСЬМА'К** (осьмак) *м. Уст.* Манета (4 кап.). *А от панначко, озьми булачку* [каравайчык] *хлеба, дробок соли и полотна на рукава да трохи осьмаков.* Шэйн, III, 384; Ельск.

**АСЯГА'ЦЦА** (осягацца) *незак.* Спяшацца, апераджаць. *Да той мёртвец хочэ іці дохаты піво піць, а козак осягаецца, думае: можэ пеўні засьпеваюць.* БКЭ, № 36; Юравічы Рэч.

**АСЯНЧУ'К** (асенчук) *м.* Парася восеньскае. *Не раўняй асенчука за весьнянога парасяці, той ужэ поцьвінак гэць екі, а ета карляк.* Серж., СРБП, 20: Стадолічы Маз.

**АТАЙБАВА'ЦЦА** *зак.* Уладкавацца, размясціцца. *Праляжаўшы ў траве паўдня і так не здагадаўшыся, што за чалавек і адкуль ён прыбіўся на паляну, атайбаваўся тут, ля майго агню.* Сач., АП, 337. *Цётка Гарпіна... прыехала з Нямеччыны трошкі раней за нас і ўжо атайбавалася на нашым селішчы.* Сач., БРВ, 175. *Добра, што Галя з Вадзімкам атайбаваліся тут, у Бацькавічах.* Саб., БАС, 178.

**АТО'** (ото) *часц.* Вось. *Ото, дзедку, у мене быў чорный хлеб і вода, а цепер белый хлеб і віно.* БКЭ, № 34; Юравічы Рэч. *Ото ж карагод, ото ж воевод.* Шэйн, III, 170; Маз.

**АТРО'К** (отрок) *м.* Дзіця (падлетак). *Твоя сястрица, моя зовица страбила индыка, страбила нашаго отроча.* Рам., БС, III, 286; Гом.

**АТУ'КАЦЦА** *зак.* Прызвычаіцца. *Трохі ўжо змірылася, атукалася, прывыкаць пачала.* Рак., БВ, 22.

**АТЫ'ЛЫ** *прым.* Сыты, тоўсты. *Тры гладкие, атылые ксендзы сабралися ехаць на воды лечытца.* Серж., СРБП, 64; Лучыцы Маз.

**АХВІЦЫ'НА** *ж.* Флігель. *Пан велеў перанесци их у ахвицыну й палажыць там, гдзе ены лежали першую ноч.* Серж., СРБП, 65; Лучыцы Маз.

**АХВО'ТКА: у ахвотку** — у ахвоту *Ездзіла-ездзіла ў поўную ахвотку, аж выбірацца не хацелася.* Дан., Ж, 99.

**АХЛАМО'Н** *м.* Чалавек неахайны. *Ты, як ахламон, прэш у чорным пінжаку, але ж я маўчу.* Нав., Б, 32.

**АЦАЛЕ'ЦЬ** *зак.* Уцалець. *Калі выпадкам зловяць ці заб'юць аднаго — можа другі ацалее, дадому дойдзе.* Сач., А, 12. *Але ад той пасадкі мала што ацалела — што пасохла, а тое, што прыжылося і зазелянела,— паламалі самі людзі.* Сач., ПНР, 166.

**АЦЕ'ЦКІ** (отецкий) *прым.* Бацькоўскі. *Ой я роду не такого, чтоб полюбила абы якога. Ой, я роду шляхетского, полюбила сына отецкого.* Радч., ГНП, 4.

**АЦЯЖА'РАННЕ** *н.* Вагавітасць, цяжкасць. *Залішняе ацяжаранне ад спакойнага жыцця.* Лупс., 3, 191.

**АЦЯМНЕ'ЦЬ** *зак.* Сцямнець. *А як толькі ацямнела — запалілі.* Сач., Д, 94.

**АЧАРО'Т** (очарот) *м.* Чарот, трыснёг. *Дзе б ты ни лёг, ня прикоснетца ничога к табе, хоть и на кладовъи, хоть и из зямли поганое що выходя, хоть и в рову, хоть и в очароти.* Рам., БС, V, 1; Красная Буда Гом.

**АЧО'МАЦЦА** *зак.* Апамятацца, агледзецца. *Было відаць, багата хто быў як бы аглушан бачаным, не мог ачомацца.* Мел., VI, 364. *Ачомайся толькі тады, калі ўбачыў Алёшу.* Гам., ША, 134. *Зараз ты прийдзешся па свежым паветры. Ачомайся трохі.* Губ., БК, 31. *Маці, нібыта ачомаўшыся ад забыцця і залішняй расчуласці, знікла за дзвярыма на чыстай палавіне.* Рак., СЛС, 65.

**АЧЭ'ПКА** *ж.* Вяроўка ў калысцы для калыхання. *Гадавала мяне родная матанька, Цёмнай ночы не даспаўшы, Яснай свечы не тушыўшы, Ачэпак з ножак не спушчаўшы.* ЗП, 318; Раг.

**АЧЭ'РПВАЦЬ** *незак.* Зачэрпваць. *Яшчэ раз цяжка ўздыхнула, пайшла ў хату і вынесла вялікае драўлянае вядро, акутае жалезам, каб было чым ачэрпваць і цягаць са студні ваду і глей.* Сач., ЗМП, 84. *Марыля бяжыць да вядра, ачэрпвае карцом ваду, нясе маці.* Сач., НН, 219.

**АШКАЛЁПАК** *м.* Асколак. *Ашкалёпкамі гранаты яму пасекла ўвесь бок, і ён сцякаў крывёю.* Саб., I, 269.

**АШКЕ'ЛАК** *м.* Асколак (люстэрка). *Не адна з дзяўчат чакае сустрэчы, углядаючыся ў ашкелак люстэрка, падводзіць вугалем бровы, а звычайным бураком, звараным на абед, падфарбоўвае губы.* Нав., СТ, 61.

**АШМЁТАК** *м.* Шматок. *Мікіта са злосці рве яе* [салому] *абедзвюма рукамі і кідае зверху на мокрую зямлю ашмёткі таго, што некалькі гадоў ляжала на хляве.* Дан., Ж, 151. *За акном быў аснежаны пляцок з голым крывым дрэвам, з ашмёткамі саломы на снезе.* Мел., VI, 369.

**АШЧАПЕ'РЫЦЬ** *зак.* Абхапіць, абняць (моцна). *Але ззаду падскочыў Валодзя Шумаковіч і, ашчаперыўшы рукамі, зваліў на падлогу.* Саб., II, 68. Параўн. а ш ч а р э п і ц ь.

**АШЧАРЭ'ПІЦЬ** *зак.* Тое, што а ш ч а п е р ы ц ь. *Амелька выскачыў з-за стала, ашчарэпіў доўгімі касцістымі рукамі Ганну і пачаў цалаваць.* Саб., ЖЗ, 88.

**АШЧЭ'ПАК** *м.* Кавалак чаго-н. *Насіце ж, пчолкі, салодкі мядок, Я ж, старая,— тоўсты ашчэпак.* ЗП, 195; Дарашэвічы Маз.

## Б

**БА'БНІК** *м.* Бабінец. *Пяе, а сам аглядуетца: ти не разжалобив ён каго? Аж и бача: стоить чаловек ли бабнику, ды й плача.* Рам., БС, III, 428; Гом.

**БАБРАВІ'НА** *ж.* Месца, дзе водзяцца бабры, *Тольки ены вылезли на берах, ось два мужыки як шабултыхнуцца ў бабравину, насилу их Иванчык выцягнуў.* Серж., СРБП, 57; Лучыцы Маз.

**БАБУ'СЕНЬКА** *ж. ласк.* баба. *Бабусенька догадалася, в одзин чобот обувалася.* Шэйн, III, 388; Ельск. Параўн. б а б у с ю х н а.

**БАБУ'СЮХНА** *ж.* Тое, што б а б у с е н ь к а. *Як учора да бабусюхна да на ксцінах была.* РП, 280.

**БАГАЦЕ'ННЫ** *прым.* Вельмі багаты, заможны. Радч., ГНП, 8; Гом.

**БАГНЮ'ТА** *ж.* Багна. *Несалодкая гэта справа — дыбаць па гэтай багнюця.* Мел., II, 389.

**БАДЗЯ'КАВАЦЬ** *незак.* Сноўдацца, ціарацца. *Што гэта вы, суседзі, тут бадзякуеце.* Сач., Д, 387.

**БАДРЫ'ЛА** (бодрила) *м.* Хвалько. *Дак яна убачила и ня стерпила: девки, каа, поглядитя: бодрила, каа, нейкій! бодрила.* Рам., БС, IV, 93; Балсуны Раг.

**БА'ЙБУС** *м.* Падлетак высакаслы. *Мітрафан, дай таму байбусу ў рот суслу, а сам бяжы сюды.* Саб., ЗПД, 52. // Гультай (вялізны). *«Настаўніцы вунь самі ўскопваюць соткі, а тыя байбусы Міронавы яшчэ хабар за каня тыцкаюць»,— хмурачыся гаварыў Дарафей.* Дан., МН, 20.

**БА'ЙБУСАВАЦЬ** *незак.* Сноўдаць без справы. *До байбусаваць!.. Уладкоўвайся куды-небудзь на працу.* Сач., А, 17.

**БАЙДА'КА** *ж.* Байдарка. Эр., ОБП, 213; Брагін.

**БАЙДУ'ЖА** *прысл.* Добра, спакойна. *Ну, понянялися мы так, посварилися, да й ўсё, и байдужа.* Рам., БС, IV, 102; Маркавічы Гом.

**БАЙСТРУЧАНЁ'** *н.* Дзіцяня, дзіцянё пазашлюбнае. *Крыўда на тое, што дачка прынесла ў прыполе байстручанё.* Саб., I, 331.

**БАЛАЗЕ'** *прысл.* Добра. *Таму ўся надзея ў нас у сям'і была на*

*бібліятэкі: балазе іх у вёсцы было дзве.* Сач., II, 54.

**БАЛАНДА′** *ж. Перан.* Пустаслоўе. *Не разводзь толькі баланду надоўга, хапае з нас дакладаў і без твайго.* Шам., V, 126. Параўн. б а л б а т н я.

**БАЛБАТА′ЦЬ** *незак.* Гаварыць шпарка, несупынна. *Зяць... многа балбоча, але заўсёды з выгадай для сябе.* Шам., V, 102.

**БАЛБАТНЯ′** *ж.* Тое, што б а л а н д а. *«Сам кажаш, што балбочуць. Значыць балбатня і ёсць»,— адказала Палагея.* Шам., I, 342.

**БАЛГА′Н** *м.* Балаган. *Глянув у правый бок, за свой балган, дэ ён судержався, жив там, жилища яго було,— наравне и овец столки порезаных вовками.* Рам., БС, IV, 110; Васільеўка Гом. *Поснедавши, стали яны товар у балгани раскладывать.* Рам., БС, IV, 143; Беліца.

**БАЛО′ННЕ** *н.* Луг заліўны. *Адсюль відаць рэчка і вялікае балонне, усё залітае вадой.* Лупс., НБД, 36. *Была дарога, што вяла да балоння.* Лупс., МД, 8.

**БАЛЬШЭ′ННЫ** *прым. Пар. ст.* Велічэзны. Радч., ГНП, 8; Гом.

**БАЛЭ′БУС** *м. Зневаж.* Гультай, абібок, аболтус. *Здароваму гэтаму балэбусу як і не было клопату, што бацьку пятлю зацягваюць.* Мел., VI, 121.

**БАНДЗЮ′ГА** *м. Зневаж.* Бандыт. *Бліснула думка, што калі бандзюга той, фашыст, не забіў Івана ў машыне, то ён будзе шукаць магчымасці забіць яго іншым чынам.* Шам., ВТБ, 364.

**БАРАЗНА′-АБГО′НКА** *ж.* Баразна абагнаная. *Бульбоўнік — чэзлы, чорны, заглушаны высокім бадыллем пустазелля, і каб не баразны-абгонкі, адгадаць было б цяжка, што на гэтым полі расце.* Нав., Б, 78.

**БАРДЖЭ′Й** (борджэй) *прысл. Пар. ст.* Хутчэй. *Я борджэй спихнув яе ў яму.* Рам., БС, IV, 117; Доўск Раг.

**БАРКА′Н** *м.* Паркан. *Як пойду я да горелочки пити, як замкнули да воротечки дети, ой я ще спрамогуся, через баркан да и перевалюся.* Радч., ГНП, 146.

**БАРСУ′ЧЧЫ** *прым.* Барсучыны. *Узяў скрынку, усунуў у барсуччу торбу, узяў ружжо і папрасіў арла правесці яго.* ЧК, I, 250; Мяркулавічы Раг.

**БАРШЧАВІ′К** *м. Бат.* Грыб махавік. *Абвіслы зялёны баршчавік... падпёрся на маладзенькую бярозку: баіцца на старасць упасці.* Сач., БРВ, 34.

**БАРЫ′ЛА** (барыло) *ж.* Бочачка (для напіткаў). *Бацька толькі і чакае, каб ён сышоў куды-небудзь,— каб разліць гарэлку з барыла, што ў склепе, па пляшках.* Мел., V, 193. *На сталах і ў траве валяліся абы-як параскіданыя драўляныя лыжкі, посуд — гліняныя міскі, макотры, конаўкі, барылы, надкусаныя лусты хлеба.* Сач., Д, 136. *Да полите, полейки, чи не дасть пан горелки, да и пива барило, чтоб поле говорило.* Радч., ГНП, 63; Гом.

**БАРЫ′ЛАЧКА** (барылочка) *ж. Памянш.* да б а р ы л а. *Медзяная барылочка по полю качалася.* Рам., БС, I—II, 443; Беліца. Параўн. б а р ы л к а, б а р ы л ь ц а.

**БАРЫ′ЛКА** *ж. Памянш.* да б а р ы л а. *Полезайте ў бочонок! Отомкнув им барылку, яны и полезли туды.* Рам., БС, IV, 47; Краснабудск Гом. Параўн. б а р ы л ь ц а, б а р ы л а ч к а.

**БАРЫ′ЛЬЦА** *н. Памянш.* да б а р ы л а. *Поцемкам вазіў туды бочкі з брагаю, адтуль крадком валок барыльцы і біклагі самагонкі.* Мел., V, 395. Параўн. б а р ы л к а, б а р ы л а ч к а.

**БАРЫ′ЦЦА** (баритца) *незак.* Марудзіць. *Личилися, барилися, кудой нам пройти к старому Петру Петровичу, чеботовичу.* Рам., БС, I—II, 175; Беліца. *Што не буде так свёкорка, як родный татка, што не буде на вулицу пускати, хоть и пусте, дак прикаже — не барися, у сеничках, на дверичках*

*хуть вернися.* Дэмб., ООМГ, I, 570; Рагінь Раг.

**БАСІ'НЫ** *толькі мн.* Жалоба па нябожчыку ў яўрэяў, калі яны восем дзён павінны быць босымі. *Цяпер Борух босы, няголены і ад таго рыжы, як памяло, сядзеў на падлозе — спраўляў па нябожчыку басіны.* Сач., БРВ, 242.

**БАСЛАЎЛЯ'ЦЬ** *незак.* Благаслаўляць (жадаць удачы, шчасця). *Ну, тат, баслаўляй: ты з дарогі а мне ў дарогу.* ЧК, I ,252; Мяркулавічы Раг.

**БА'ТУХНА** *м.* пры звароце з пашанай да бацькі. *Ён павёў яе к роднай матухне, Павёў яе к родну батухне.* ВП, 321; Беліца Жлоб.

**БАТЭ'РЫЯ** *ж. Ваен.* Батарэя. *Выстоіў батэрыю і ідзе сам на его.* БКЭ, № 40; Ужынец Рэч. *Зробім батэрые і завоюем усё царство.* БКЭ, № 38; Ужынец Рэч.

**БАЎБЕ'ШКА** *ж.* Кольцападобнае ўпрыгожанне. *У бакоўцы два акны, вялікі драўляны ложак, спінка якога ўпрыгожана круглымі дубовымі баўбешкамі, і тры табурэткі.* Нав., Б, 59.

**БАЎЛЯ'ЦЦА** (бавляцьса) *незак.* Марудзіць, затрымліваоца (доўга). *Жэна мая, я там бавляцьса не буду, я зараз прыбуду до вас.* БКЭ, № 15; Камаровічы Маз.

**БАЎТУ'ХА** *ж. Рыб.* Таптуха. *У Куранях ракі, прастору і глыбіні воднай не было, і снасць тут у людзей трымалася своя, балотная: лазовыя баўтухі.* Нав., СЛ, 38. Параўн. б а ў т у ш а.

**БАЎТУ'ША** *ж.* Тое, што б а ў т у х а. *Калі б у рэчцы вялася рыба, то цяпер яе можна было лавіць без баўтушы, рукамі.* Нав., СД, 283.

**БАХО'Н** *м.* Бохан. Радч., ГНП, 13; Гом.

**БА'ЦНУЦЬ** *зак.* Ударыць (моцна), стукнуць. *У хляве ні за што так бацнуў наском апорка па нагах каню, што той з перапуду тросся і хроп, калі зноў падыходзіў блізка.* Мел., VI, 120.

**БА'ЦЦА** *незак. Безасаб.* Здавацца, мроіцца. *Табе бацца, дурню, што я тебе люблю, а я тебе, дурня, словами голублю.* Дэмб., ООМГ, I, 578; Рагінь Раг.

**БА'ЦЮШКА** *м. ласк.* бацька. *Бацюшка кажа — за князя аддаць, Мамачка кажа — у чорныя чарнушкі.* ВП, 329; Новыя Дзятлавічы Гом.

**БА'ЧЦА** *зак. у знач. пабочн.* Здавацца (як быццам, нібыта). *Девочка по саду гуляла, красная крапивицу жала, жала ена, небогато нажала, бачца, ни с ким не стояла.* Радч., ГНП, 180; Гом.

**БА'ЯЦЬ** *незак.* Выдумліваць. *А тое, што пра машыны баяў, пра гэта і казаць няма чаго.* Мел., VI, 94.

**БЕ'БАХІ** *толькі мн.* Памёт. *Нічым не адметная вуліца з рудым пылам ды каровячымі бебахамі.* Мел., VI, 8. Параўн. б у б к і.

**БЕ'ГНУЦЬ** *незак.* Бегчы (хутка рухацца). *Бегне лісіца.* БКЭ, № 22; Камаровічы Маз. *Конь, здаецца, невялічкі, а бегне хутко.* БКЭ, № 27; Камаровічы Маз.

**БЕДАЛА'ГА** *аг.* Небарака (хто трапіў у бяду, у цяжкае становішча). *Відаць, ніколі не прыходзілася перапраўляцца яму цераз раку — вось і баіцца — аж прысядае бедалага.* Дан. ЗА, 83.

**БЕ'ЖКАМ** *прысл.* Хутчэй. *Дык ты пра гэта падумай, а заступацца бежкам.* Сач., Д, 389.

**БЕ'ЖКІ** *прысл.* Бягом. *На калгасную работу — трушком, на вяселле — бежкі.* Кап., СЖЛ, 4.

**БЕЗГАЛО'ЎЕ** *н.* Турботы, клопаты. *А чужыя жоны мужу безголовъе.* Рам., БС, I—II, 6; Перарост Гом.

**БЕ'ЗДАР** *м.* Чалавек бяздарны. *А вы на мяне пальцам паказваеце — хвалько, бездар.* Мел., VI, 190.

**БЕЛАВІ'ЦА** (беловица) *ж.* Назва хваробы па колеру хворага месца. *А скула ж ты скуляница и синяя муравица, жовтая жавтовица и белая беловица.* Рам., БС, V, 90; Карма Гом. Параўн. б я л я в і ц а.

**БЕЛАГУ′БАЧКА** *ж. памянш.* кубак. *Налі, Іванька, белагубачку Аньцы і сабе трошачкі, а што застанецца — пастаў на паліцу, на вячэру ёй.* Шам., ВТБ, 83.

**БЕ′ЛЛЕ** *н.* Белізна. *Убіраецца ў белле кветак чаромха.* Саб., I, 64. Параўн. б е л ь у 2 знач.

**БЕЛЬ** *ж.* **1**. Бялізна. *Божа ж мой! Загадала мне работку робить, Божа ж мой! Божа ж мой! Работку робить, бы й бель бялить,— божа ж мой.* Рам., БС, VII; Гом. *На рэчце на быстренькой, на калодце на зыбкенькой, там Палажка бель белила и с своим личенькам говорила.* Радч., ГНП, 2; Гом. **2**. Тое, што б е л л е. *Кусты арэшніку і брызгліны ахоплівалі бель з абодвух бакоў.* Сач., ЗМП, 106.

**БЕРАЖЫ′НА** *ж.* Бераг круты. *Ішоў Колечка беражынаю.* ПНСА; Хойнікі.

**БЕ′РВА** *ж.* Кладка, мосцік. *Комар муху ведзе, гибку берву кладзе.* Шэйн, III, 422; Дзякавічы Маз.

**БЕ′РДЗЕЧКА** (бердечко) *н. памянш.-ласк.* бёрда (новае). *Тобе, мамко, нить и бердечко, А мне, мамко, полотенечко.* Шэйн, III, 437; Дзякавічы Маз.

**БЕСПРЫТУ′ЛЬШЧЫНА** *ж. Пагард.* Беспрытульнасць (адмоўная з'ява). *Бацькі загінулі ад рук класавага ворага, а ты красці? Беспрытульшчына адрыгнулася, так, Гвозд?* Нав., СТ, 28.

**БЕ′ССАНЬ** *ж.* Бяссонніца. *У галаве шумела ад нядаўняй страляніны і бессані.* Шам., ВТБ, 484. *Капітан... падняў пачырванелыя ад бессані вочы на Варку.* Дан., Ж, 30.

**БІЗУ′Н** *м.* Бамбіза, пераростак. *У нас у сёмым класе — тады гэта была школа першай ступені — сядзелі бізуны старэй за мяне.* Нав., ВС, 23.

**БІЧО′ЎКА** *ж.* Сіло. *Узяў ахотнік бічоўку, зачапіў арла за шыю і б'е друком міжда плеч.* ЧК, I, 247; Мяркулавічы Раг.

**БЛАЗЕ′НСТВА** *н.* Блазнаванне, крыўлянне. *Нешта тут не так, думаю, быць не можа, каб Сенька такім блазенствам займаўся.* Крауч., НХП, 561.

**БЛЁЎКАЦЬ** *незак.* Плюхаць (падаць з шумам у ваду). *Бачыла, як з даху аўтобуснай будкі падалі буйныя кроплі, блёўкалі ў лужыну.* Кап., СЖЛ, 85.

**БЛІСКАВІ′ЧЫЦЬ** *незак.* Бліскацець. *Глянь жа, глянь, як пад белым мурам за слупам бліскавічыць слуп.* Дуд., СС, 39.

**БО′ДНЯ** *ж.* Бочачка. *Тобе, мамко, вся худобонька, а мне бодня и коровонька.* Шэйн, III, 437; Дзякавічы Маз. Радч., ГНП, 14.

**БО′ЖКАЦЦА** *незак.* Запэўніваць клятвенна, часта ўпамінаючы «яй жа богу». *Потым пачаў клясціся і божкацца.* Лупс., П, 91.

**БО′ЖКАЦЬ** *незак.* Стагнаць, плакаць, часта ўпамінаючы «божа». *Раней маці бедавала — божкала, што няма лішніх рук, няма каму прыглядзіць, а цяпер для яе, відаць, было ўсё роўна.* Дан., Ж, 67; *Гучна божкае глухая.* Нав., ТСЗ, 11.

**БО′ЙНЕНЬКІ** *прым. пар. ст.* бойкі, пратаптаны (пра сцежку). *Травка-муравка зелененько! До клеці сцёжка бойненько.* Шэйн, III, 415.

**БОК** *м.* Бераг (ракі). *Наши боки вельми ручают.* Радч., ГНП, 10; Гом.

**БО′ЛЕСНА** *прысл.* Балюча (з адчуваннем душэўнага болю). *Чарнушка раптам з калёс пакланіўся ёй, неспадзеўкі твар яго скрывіўся болесна, ён правёў рукавом па вачах, адвярнуўся.* Мел., VI, 71.

**БО′ЛЬНЕЙ** *прысл. Пар. ст.* Больш. *Яна тоды яму ще крапчейшаго напитку дала, каб ен упився болней, пъяней.* Рам., БС, III, 183; Гарадзец Раг.

**БО′ЛЬШАНЬКІ** *прым. Пар. ст.* Большы, старэйшы. *На Вісле яго бедалагу палажыла, і дзеці асіраццлі. І ўсе, як гарох, дробныя: адно аднаго не панясе. А гэты Толік большанькі з іх.* Кап., СЖЛ, 37.

**БО'ЛЯЧА** (болячо) *прысл.* Балюча. *Адтуль горача, адсюль боляча.* Нав., ВС, 302. *Янко раве ва ўсё горло, нибыто ему вельмо болячо.* Серж., СРБП, 72; Лучыцы Маз.

**БО'НДА** *ж.* Кавалак, кусок свежага мяса, сала. *Звычай патрабуе даваць суседзям и наогул аднавяскоўцам бонду.* Серж., СРБП, 4; Лучыцы Маз.

**БОР** ◆ **убіраць боры** — прыбірацца, убірацца. *«Жона моя верна, дзе дзяцину дзела?» — «Пошла дзяцина, пошла до коморы и убираци боры». Бацька до коморы — ажно ня браны боры.* Д-З, ПП, 145; Красная Воля Маз.

**БО'РЗДЗЕНЬКА** *прысл. Пар. ст.* Хуценька. *Янкель між тым, каб дагадзіць яму, радасны, што атрымаў доўг, борздзенька паставіў перад ім кварту сівухі.* Лупс., П, 78.

**БО'РШЧЫК** (борщик) *м. ласк.* боршч. *На палицэ борщик — Я вуем.* Шэйн, І, 114; Мялешкавічы Маз.

**БО'СІШЧА** (босища) ◆ **босае босішча** — галеча. *Откуль узявся голае голища, босае босища, пришов к нашему огнищу греться.* Рам., БС, III, 429; Беліца.

**БРА** *м. Ласк. у форме зваротку.* Браце. *От так і так, папалася я, нясчасна, уцякай, бра, барджэй, бо змей цябе з'есць.* ЧК, І, 229; Петр.

**БРАЗЧА'ЦЬ** *незак.* Бразгатаць. *Э эй! Кони заржали, ой ў другом полку шабли бразчали.* Шэйн, І, 488; Рэч.

**БРА'ННЕ** (бранье) *н.* Замужжа. *Свекруха каже, я с тобою, рано з молодою, то не бранье, то не бранье — гореванье.* Радч., ГНП, 38; Гом.

**БРАСНЕ'ЦЬ** *незак.* Броснець, плеснець. *Дзе балоты браснелі ўчора.* Дуб., І, 344.

**БРА'ТАЧКА** *м. ласк.* брат. *Ацец, матачка ў галовачках, Сястра, братачка Да ў ножачках.* ВП; Чарнін Светл.

**БРА'ТЧЫК** (братчик) *м.* Член рэлігійнай секты. Эр., ОБП, 5; Брагін.

**БРАЦІ'ХА** *ж.* Братавая. *А тая браціха выняла пісьмо дай перэменіла.* БКЭ, № 45; Вадовічы Рэч. *З раскрытым ротам доўга і разгублена глядзеў ён на браціху.* Рак., БВ, 150. *Стрэў іх пакорліва, нават ласкава, размаўляючы з браціхай, няёмка унікаючы яе позірку.* Рак., БВ, 158.

**БРО'ВА** *ж.* Брыво. *Кивнеть, моргнеть мальчишка своёй чорною бровою.* Рам., БС, І—ІІ, 59; Гом.

**БРЫЗГА'ВЕЦ** *м. Зневаж.* Нягоднік. *Баіцца, каб зноў які брызгавец не адбіў ахвоты.* Саб., ЗПД, 96.

**БРЫ'КА** *ж.* Брычка. *Продаў жэ он дом, спаковалісе з жонкай у брыкі і поехалі.* БКЭ, № 19; Камаровічы Маз.

**БУ'БКІ** *толькі мн.* Тое, што б е б а х і. *Антаніха падганяе, каза бубкі раняе, Антаніха падбірае.* ДФ, 377; Гом.

**БУ'БЛЯ** *ж.* Біблія. *Ён усё над бубляй седзеў — аседлаў калоду да й ноги прывезаў к ёй, каб не свалитца.* Серж., СРБП, 57; Лучыцы Маз.

**БУГРА'НАК** *м.* Пагорак, узгорак, высокае месца. *Цар сказав: строй ун там на бугранку.* Рам., БС, III, 332; Перарост.

**БУДА'НЧЫК** *м. памянш.* будан. *Лес поўны дзіцячага плачу, жаночых літанняў. Сястра з дзецьмі — у наспех скіданым з голля буданчыку.* Нав., СТ, 159. *Ля самых іхніх ног палыхае вогнішча, асвятляючы буданчык, блізкія лазнякі.* Лупс., ТС, 164.

**БУДЗІ'НАЧКА** (будиночка) *ж. памянш.* хата. *Ой в Кіеве, в Чернигове дымно, только мойго миленького будиночка видна.* Радч., ГНП, 151; Гом. Параўн. б у д з і н к а.

**БУДЗІ'НКА** (будинка) *ж.* тое, што б у д з і н а ч к а. *Ой где ты двор, где мой и новая будинка, нема хлеба ни скоринки, муки ни пылинки.* Радч., ГНП, 8; Гом.

**БУ'ДЗЬКА** *м.* Чалавек бывалы, хваткі. *Пакуль хвалько нахваліцца, то будзька набудзецца.* ЧК, I, 290; Рэч.

**БУЗУ'Н** *м.* Задзіра, скандаліст. *Проста ты мне спадабаўся. Ціхі, ветлівы. Не бузун.* Лупс., НБД, 171.

**БУ'ЙСТРЫ** (буйстрый) *прым.* Быстры (пра цячэнне ракі). *Пошла б я сама — боюса, в буйстрой реченьки утоплюса.* Шэйн, III, 423; Дзякавічы Маз. *Я ж тыя лесы порубаю, буйстрыя реки закидаю.* Шэйн, III, 413; Дзякавічы Маз.

**БУК** *м.* Шчолак. Радч., ГНП, 14; Гом.

**БУЛТЫХА'ЦЦА** *незак.* Ныраць, плюхацца. *А рыба нібыта ашалела — выскоквае з вады, метры два-тры пралятае ў паветры і зноў бултыхаецца ў ваду.* Сач., ЗМП, 166.

**БУЛЬБАВА'ТЫ** *прым.* Кірпаваты. *Кінуліся яшчэ ў вочы бульбаваты нос і таўставатая, трошкі адвіслая губа.* Саб., I, 131.

**БУЛЬБЕ'ШНІКІ** *толькі мн.* Страва з варанай тоўчанай бульбы з каноплямі. Радч., ГНП, 13; Гом.

**БУЛЬНЯ'ЧЫНА** (бульнячина) *ж.* Назва расліны. *Трэба выйти на линію (просеку в лесу), знайти камень и, подышовши к бульнячини, пригнуть яе к зямле и покласть на макушку камянь.* Рам., БС, V, 67; Карм.

**БУРКАВІ'НА** (бурковина) *ж.* Бурка. *Постель мне постеле жовта бурковина, а под головочку — синя жупанина.* Радч., ГНП, 150; Гом.

**БУ'РКАЛЫ** *толькі мн. Пагард.* Вочы. *Ну, чаго буркалы нацэліў, ідзі хутчэй.* Лупс., ДЧ, 176.

**БУРКАТА'ННЕ** *н.* Буркатня, бурчанне. *У кустах і ў траве часамі гучаць сапраўдныя чалавечыя галасы — буркатанне, як бы хто перамайляецца незразумела.* Лупс., ТС, 164.

**БУРКАТЛІ'ВЫ** *прым.* Бурлівы, звонкі. *А калі мы выходзілі з лесу, трэба было перайсці па хісткаму мосціку буркатлівы ручай.* Дан., ЗА, 239.

**БУРНО'С** *м.* Плашч. *Маці была апранута ў чорны бурнос, доўгі, аж да самых пят.* Саб., II, 12.

**БУСЛЕ'НІЦА** *ж.* Гняздо буслава. *На адным з іх, старым, усохлым дубе — бусленіца, і на ёй, падабраўшы пад крыло нагу, стаіць задуменны бусел.* Сач., ЗМП, 155. *Яна бачыла далёка-далёка на лузе ў самым вільчаку дуба бусленіцу і цыбатага бусла на ёй.* Сач., ПНР, 224. Параўн. б у с л я н к а.

**БУСЛЯ'НКА** *ж.* Тое, што б у с л е н і ц а. *Але як толькі ён угледзеў буслянкі вежаў над астрожнай сцяной, думкі мімаволі скіраваліся зусім на іншае.* Сач., ЗМП, 7.

**БУ'СЬКА** *м. ласк.* бусляня, буслянё. *И абернуў Бог людзей у буськоў.* Серж., СРБП, 23; Лучыцы Маз.

**БУТЫ'КА** *ж.* Бутэлька. *Ты дедушка, ты лябедушка! Ты бери бутыки, иди за горелкою.* Рам., БС, I—II, 197; Гом.

**БУХАВА'ЦЦА** (буховатца) *незак.* Біцца. *Тут етые двое зачали з им буховатца, а тые ўздогон за ими ўчатырох.* Рам., БС, I—II, 162; Навасёлкі Раг.

**БЫ'СТРА** *ж.* Імклівасць. *Да и стишила мене лозынька, ой сама на берег пошла, и листом запала; усю мою быстру суняла.* Радч., ГНП, 73; Гом.

**БЫ'СТРЫНЬ** *ж.* Быстрыня, плынь. *Алег прабраўся на невялікую прагаліну, за якой пачыналася рачная быстрынь, і спыніўся.* Гам., ША, 21.

**БЫЧА'СТЫ** *прым.* Сутулаваты. *Немец у маленькай кепачцы з бычастым загрыўкам уключыў рубільнік.* Дан., ЗА, 39.

**БЫТ ◆ быту не ведаць** — не ведаць спакою. *«Каб яна век свой так плакала, каб яна быту не ведала ад слёз», — загаласіла зноў Агата.* Саб., I, 333.

**БЭ'ЛЬКАЦЬ** *незак.* Бляяць. *Паб-*

*лізу, мусіць, на суседнім двары, бэлькалі авечкі.* Мел., V, 41.

**БЯГУ'ЧЫ** (бягучі) *прым.* Быстры. *Ножки мои бягучія, чаго скоро подломилися?* СНО, ВБП, 21.

**БЯДЗЯ'К** (бедзяк) *м.* Бядняк. *Были яны дужо з беднаго зложенія; а покуль етых сынов порасцив, бедзяк моцно став.* Рам., БС, III, 228; Нісімкавічы Раг.

**БЯЗБА'ЦЬКАВІЧ** *м.* Сірата. *Ведама, бязбацькавіч* [Сашка]. Дан., Ж, 53.

**БЯЗВО'ЧНЫ** *прым.* Сляпы. *На том дуби звив орол кубло бяздоннае, и знёс яечко бязжовтное, и вывяв дятёнка бязвочнаго.* Рам., БС, V, 127; Будзішча Гом.

**БЯЗГЛУ'ЗДЗІЦА** *ж.* Глупства, недарэчнасць. *Ад гэтага яна зрабілася яшчэ больш шумная: не гаварыла — крычала і была бесталковая — часта пляла бязглуздзіцу.* Шам., ВТБ, 114.

**БЯЗДО'ЛЛЕ** (бездолье) *н.* Нядоля. *Пріехали венчэтца — нема попа дома, ти твое нещасте, ти мое бездолье?* Рам., БС, I—II, 118; Ветк.

**БЯЗДО'МНІЦТВА** *н.* Бяздомнасць. *Хай бы яны, фашысты, спазналі, што такое вайна, разбурэнні, смерць блізкіх і бяздомніцтва.* Сач., А, 62.

**БЯЗЖО'ЎТЫ** *прым.* Без жаўтка. *На том дуби звив орол кубло бяздонное, и знёс яечко бязжовтное.* Рам., БС, V, 127; Будзішча Гом.

**БЯЗМУ'ЖНЯЯ** *прым.* Незамужняя. *Млынар ... ўскінуў на воз мяшок жыта, барану, нават унука пасадзіў — бялявенькага хлопчыка малодшай бязмужняй дачкі.* Нав., СТ, 346.

**БЯЗДО'НЫ** (бездоный) *прым.* Бяздонны. *Бездоное море.* Радч., ГНП, II; Гом. Параўн. б я з э д н ы.

**БЯЗЭ'ДНЫ** *прым.* Тое, што б я з д о н ы. *Ё, гавора, у вокіяни бязэдным зямля — иди ты достань оттуль.* Рам., БС, IV, 1; Вылеў Гом.

**БЯЛУ'Н.** Гл. г р ы б-б я л у н.

**БЯЛЬМА'ТЫ** *прым.* Бяльмасты. *Раман нядобра бліснуў бяльматым вокам.* Нав., СТ, 157.

**БЯЛЯ'ВІЦА** (белявица) *ж.* Тое, што б е л а в і ц а. *Скула скулица, белая белявица, рыжая рыжавіца... с чаго ты ўзнялася.* Рам., БС, V, 91; Баршчоўка Гом.

**БЯРЧА'СТЫ** *прым.* Узорысты без колераў. *У мяне пярыны пуховыя, у мяне падушкі цвятовыя, У мяне палажочкі бярчастыя.* Б, II, 63; Перарост Гом.

**БЯСЕ'ДА-ПЯРЭ'ЗВА** *ж.* Бяседа ў адказ (з пачастункам). *У доме адпачынку наладжваюць такія бяседы-пярэзвы часта.* Саб., I, 154.

**БЯСЧА'СНЫ** (безчастный) *прым.* Нешчаслівы, няшчасны. *Родимая моя безчастная родила, щастядоли не дала.* Рам., БС, I—II, 45; Гарадня Гом.

**БЯСШТА'ННЫ** *прым.* З голымі нагамі, без штаноў. *Простая, знаёмая з бясштаннага маленства, работа дала асалоду.* Шам., V, 18.

## В

**ВАБДЗЕ'ЛКА** *ж.* Павітуха. *Уж ты бабка-вабдзелка, Перароб майго дзіцятку, Дзіця майго маленькага, Раждённага сыночка.* РП, 156.

**ВА'ВА** *ж. Дзіц.* Боль. Радч., 12; Гом.

**ВАГО'НКА** *ж. Зборн.* Дошкі для абшалёўкі. *Як закончылі вагонкай абшываць тваю веранду — дык хоць бы абедаць паклікаў.* Дан., Ж, 70.

**ВАДАВО'ЗНІК** (водовозьник) *м.* Вадавоз. *Волик на припряжку,*

*волик на пристяжку, волик водовозьник, волик перавозьник.* Рам., БС, I—II, 201; Раг.

**ВАДЗЯ'НКА** *ж.* Вядро з вадой. Радч., ГНП, 14; Гом.

**ВАЖДА'ЦЦА** *незак.* Доўга займацца якой-н. справай. *Столькі яны важдаліся з ім... а ён вунь якой думкі пра брыгаду.* Шам., IV, 383.

**ВАЖНЕ'ЙШЫ** *прым. Пар. ст.* Цяжэйшы. *Наш, цётка, пуды на чатыры быў важнейшы.* Лупс., ВТ, 212.

**ВАЗЛІ'ШНЫ** (возлишный) *прым.* Прыгожы. *На мори — лукомор и стоит сосна, под той сосной сидять три возлишных пани.* Рам., БС, V, 19; Гом.

**ВАЗЛЯЦЕ'ЦЬ** *зак.* Узляцець. *Як той варабей вазляцеў да засвістаў, дык уся к яму, якая толькі ёсць, лятучая пціца зляцелася.* ЧК, I, 245; Мяркулавічы Раг.

**ВАЗУНО'ЧАК** *м. ласк.* вазак. *А вазуночкі паўязджалі, Паўязджалі, А касарыкі покасілі На сенажаці.* ВП, 376; Маханавічы Рэч.

**ВАЛАВО'ДЗІЦЬ** *незак.* Зацягваць наўмысна вырашэнне якой-н. справы, валакіціць. *Так хваліць, а пасля столькі валаводзіць і... адхіліць.* Шам., IV, 412.

**ВАЛАДА'РЫЦЬ** *незак.* Уладарыць. *Прошлую зіму як валадарылі паліцэйскія, старасты, вось так... і перахаваўся.* Нав., СТ, 57.

**ВАЛАЕ'Д** (волоед) *м.* Той, хто любіць есці валовае мяса. *Дружки волоеды, Як сели,— вола зъели. На столе ни крошки, А под столом — ни косточки.* Шэйн, III, 408; Дзякавічы Маз.

**ВАЛАСНЯ'ВЫ** (волоснявы) *прым.* Валасяны (зроблены з валасоў). *Мой милы в гусли играя. Яго гусли золотыя, Струночки шавковыя, И смычок волоснявы.* Шэйн, I, 175; Гом.

**ВАЛАХА'СЦЕНЬКІ** (волохастенькій) *прым. ласк.* Калматы. *Удоль по рэчачцы селезень плывет, косолатенькій, волохастенькій.* Рам., БС, I—II, 42; Юркавічы Гом.

**ВАЛАЧКО'М** *прысл.* Волакам. *Толькі праз тыдзень усплыла наверх, і рыбакі валачком выцягнулі на бераг.* Серж., КАБП, 33; Лучыцы Маз.

**ВА'ЛКА** *прысл.* Хістка, перавальваючыся. *Пачула сябе трохі лягчэй, калі Пракоп палез з-за стала, валка, няўклюдна патупаў на двор.* Мел., VI, 277.

**ВАЛУНО'К** *м. ласк.* таран. *Худы валунок,— дакорліваківаў галавой барадаты.* Дан., Ж, 154.

**ВАЛЬГО'ТА** (вольгота) *ж.* Вольнасць, воля, свабода. *И дав яму цар вольготу, на нескольки уремъя, на свадьбу.* Рам., БС, III, 351; Шарахоўскія Буды Раг.

**ВАЛЮХАВА'ТЫ** *прым.* Трохі санлівы, вялы, неахайны. *«Іван»,— крычыць валюхаваты, мабыць, год не голены дзядзька.* Нав., СТ, 165.

**ВАЛЮХА'ТЫ** *прым.* Вялы, санлівы. *Са здзіўленнем, страхам, глядзіць лётчык на неахайнага, валюхатага селяніна, які перамог яго, праслаўленага аса.* Нав., СТ, 221.

**ВАЛЮХА'ЦЬ** *незак.* Ісці, перавальваючыся з боку на бок. *Аўтушак валюхае ззаду. Абодва ідуць да сем'яў — Анкудовіч у Азяркі, дзе жыве жонка з трыма дзяцьмі, а Аўтушак далей, у Лазавіцу.* Нав., СТ, 52.

**ВАЛЯ'ННЕ** *н.* Падзенне. *Ты раба божая ня бойся ни ўбиваньня, ни валяньня, ни чижолого подыманьня.* Рам., БС, V, 55; Буда Гом.

**ВАНО'** (воно) *займ.* Яно. *Дробнэ пшонце, дробне! Но все воно здобнэ.* Шэйн, III, 429; Дзякавічы Маз.

**ВАРАНІ'СТЫ** (воронистый) *прым.* Вараны, чыстакроўны. *Наши коники воронистые, Воронистые, знакомистые.* Радч., ГНП, 41; Гом.

**ВАРАНЯ'ЧЫ** *прым.* Варонін. *У іхніх вяршалінах асталіся леташ-*

*нія варанячыя і сарачыныя гнёзды.* Лупс., ВТ, 102.

**ВАРАЦІ'ЦЬ** *зак.* Абярнуць. *«Варачу,— кажа,— тваe лаўкі,— варачу,— кажа,— дом твой!»* ЧК, I, 246; Мяркулавічы Раг.

**ВАРВО'ЛЬ** *м.* Каламазь. *Калёсы агледжаны, падмазаны варволем.* Нав., ТСЗ, 4.

**ВАРКА'Т.** Гл. к о т - в а р к а т.

**ВАРКАТО'К.** Гл. к а т о к - в а р к а т о к.

**ВАРО'НУХА** (варёнуха) *ж.* Гарэлка з мёдам і рознымі прыправамі. Эр., ОБП, 16; Брагін.

**ВАРО'ТНІЦА** (воротница) *ж.* Вароты, сплеценыя з прутоў. *Повесила я сподницу над воротницею.* Рам., БС, I—II, 238; Беліца.

**ВАРО'ЦЕЧКІ** (воротечки) *толькі мн. памянш.* вароты. *Ой у новым родзе трое воротечек.* Шэйн, III, 403; Дзякавічы Маз.

**ВАРУ'ХЛІВЫ** *прым.* Рухомы, трапяткі. *Весці ў цемры было нялёгка: толькі бачыш, што варухлівую вузкую шчыліну святла.* Мел., I, 79.

**ВАРЫВЕ'НЬКА** *ж. памянш.* варыўня. *Я... аднойчы, забраўшыся ў варывеньку, спрабаваў крэмзаць паперу.* Саб., ЗПД, 163.

**ВАРЫ'КСА** *м.* Капрыз. *И бяры ты от яго плаксы и крыксы, и варыксы.* Рам., БС, V, 33; Нядойка Раг.

**ВАРЭ'ЕЧКА** *ж. Памянш. да* в а р э й к а. *Адна ж, дык варэечку з кулачок прыставіш — і мне хапае.* Саб., БАС, 169.

**ВАРЭ'ЙКА** *ж.* Гаршчок. *Дастаўшы чыгунок ці якую варэйку, ён адхоплівай гарачы кружок, заглядваў у пасудзіну і дабрадушна бубніў.* Рак., БВ, 94. *Як стаялі на запечку непрыбраныя варэйкі і міскі, так і асталіся стаяць нямытыя.* Лупс., ВТ, 254.

**ВАСІ'ЛЛЕ** *н. Абрад.* Свята напярэдадні Новага года. *Першае свята — святое ражство. А другое свята — святое васілле, Трэцяе свята — да Иван-кресціцель. Ражство прышло — нам радасць прынясло, Васілле прышло — Новы год прынясло.* ЗП, 204; Гом.

**ВАСКАЗА'ЧЫНА** *ж.* Вашчына. *Хлебны квас сапраўды быў добры: з васказачынай, халодны, рэзкі, здавалася, мацнейшы за тую гарэлку, якой толькі што частаваў гаспадар.* Саб., ЗПД, 45.

**ВАСНУ'ЦЬ** (воснуць) *зак.* Заснуць. *Пришов к ей сам Сус Христос: чаго ж ты, мамка прачистая, воснула?* Рам., БС, V, 65; Антонаўка Гом.

**ВАСПРЫЕ'МНІК** (воспріемник) *м.* Пераемнік, прадаўжальнік, спадчыннік. *Дай-жа, Боэ, штоб наш унук велик рос! И положил копейку в рюмку, налил ее водкой и передал воспріемнику.* Шэйн, III, 385; Ельск.

**ВАСТА'ВІЦЬ** (воставіць) *зак.* Пакінуць. *Господи, говора, не востави мяне, я покоруся табе!* Рам., БС, IV, 17; Вылеў Гом.

**ВАСТРАСЦІ'Л** (вастрастил) *м.* Военачальнік, галоўны ваявода. *Тогды Михаилу говора Бог: «вастрастил» будь, а яго трэба спихнуць.* Рам., БС, IV, 1; Вылеў Гом.

**ВАСТРАШЧА'ЦЬ** (востращать) *незак.* Страшыць, палохаць. *Востру шабельку вынимаеть, Красну девочку востращаить.* Рам., БС, VII, 6; Гом.

**ВАСЬМІКЛІ'НКА** *ж.* Кепка васьміграннaя. *На ім шэры, з абвіслымі штрыфелямі летнік, сіняя кепка-васьміклінка з кароценькім брылём сплюснулася ад меха і сям-там прабіта дажджом.* Рак., БВ, 37. *Адзін — у маленькай чорнай кепцы-васьміклінцы.* Рак., В, 289.

**ВАЎКАРЭ'ЗІНА** *аг.* Ваўкадаў. *«У-у, ваўкарэзіна! Утомы на цябе няма»* Сач., Д, 6. *«Пайду праганю, ваўкарэзіну,— сказаў ён.— Спаць цяпер не дае».* Дан., ЗА, 82.

**ВАЧАНІ'ЦА** *ж.* Вачніца. *Вочы яе некалі былі блакітныя і светлыя, праваліліся глыбока ў вачаніцы, а твар зморшчыўся, спалатнеў.* Сач., БРВ, 171.

**ВАШАБО'ЙКА** *ж.* Дэзінфекцыйная камера. *Прыходзілі і тыл, што лаяліся з ёй, калі яна забірала хворых ці прымушала несці ўсе набыткі ў «вашабойку».* Шам., II, 95.

**ВАЮВА'ЦЦА, ВАЯВА'ЦЦА** (воюватца, ваяваціся) *незак.* Біцца (біць адзін аднаго). *Вот и стали воюватца. Воювались, воювались, Иван и ўморився.* Рам., БС, III, 12; Гом. *Што ў Кіеў хадзіць — богу маліцца, А ў Чарнігаў — ваяваціся. Ой, а ў Лоеў — таргаваціся.* ЗП, 225; Дзяражычы Лоеўск.

**ВАЯВО'Д** (воевод) *м. Гіст.* Ваявода. *Отож карагод, отож воевод.* Шэйн, III, 183.

**ВБО'ЛЬШКІ** *прысл.* Большы. *Тольки хотев домов ити, аж бачу за поповым гумном сидить птица, с сенную копу вбольшки.* Рам., БС, III, 434; Гом.

**ВЕКАВУ'ХА** *ж.* Старая дзеўка. *Антанюк добра ведаў і разумеў жанчын — сялян-матак, дарослых дачок, іх старасвецкі клопат: каб, крый божа, не стала доня векавухай.* Шам., V, 112.

**ВЕЛІЧЭ'Й** (величей) *прым. пар. ст.* вялікі (высокі). *А каб дожди поливали, Была б трава величей.* Дэмб., ООМГ, I, 530; Гом.

**ВЕ'НЧЫК** *м. Ласк.* Вяночак. *Не заносе майго венчыка, Бо мой венчык патрэбчык.* ВП, 393; Тонеж Лельч.

**ВЕРАДО'ВЫ** *прым.* Навярэджаны, натруджаны. *Поможитя мне выговорить уси скулы и ўси болячки... тридевять верадовых.* Рам., БС, V, 79; Баршчоўка Гом.

**ВЕРАЎЧЫ'НЫ** *прым.* Вераўчаны. *Жанчыны па агародах капаюць бульбу. Чарнявы падлетак вядзе на вераўчыным повадзе гнядога коніка.* Нав., СТ, 329.

**ВЕ'РБІНА** *ж.* Вярбіна. *Не стой, вербіна, над вадою.* Б, II, 136; Гом. і Раг.

**ВЕ'РХІ** *прысл.* Верхам, вярхом. *А собаки тыя верхи на яго, да як узяли шкуматать.* Рам., БС, III, 77; Перарост Гом. *Ён сеў на яго верхі.* ЧК, I, 247; Раг. *Хацелася паказаць фашыстам, што людзі, на якіх яны селі верхі, не такія ўжо рахманыя, што яны могуць убрыкнуць гэтак, што аж зубоў не пазбіраеш.* Саб., I, 247.

**ВЕРЧ** *м.* Скрутак чаго-н. *Ігнаціха... размотвала лазовы верч — мерылася кроіць дзядкі на другую пару лапцей.* Кап., СЖЛ, 24.

**ВЕ'РЧЫКАМ** *прысл.* Паднята, узнята ўгару. *Тузік, трымаючы хвост верчыкам, час ад часу, каб паказаць, што і ён не абы-што, а вартаўнік дома, рабіў некалькі крокаў наперад.* Крауч., НХП, 3.

**ВЕРЫДАВА'ЦЬ** *незак.* Арудаваць, распараджацца. *Гэта ж Лёўка злёгся з Усцінам і верыдуе ўсім у калгасе, як сам хоча, хоць ён і не калгаснік.* Саб., II, 114.

**ВЕ'СТАНЬКА** *ж.* Вестачка. *Леци, леци да соколику Да на мою да сторононьку, Кажи, кажи да вестоньку, Що везомо да невестоньку.* Шэйн, III, 438; Дзякавічы Маз.

**ВЕ'СЬКІ** *прым.* Вясковы. *Ведамо, паны, што ены не вырабляюць з веськими дзеўками з самага маленства.* Серж., СРБП, 144; Лучыцы Маз.

**ВЕ'ХТАВЫ** *прым.* Убываючы месяц, апошняя квадра (фаза) месяца. *Приступитя и поможитя рабу божаму Альлю выговорить ляк уси тни и ўси перапалохи, и молодиковыя, и вехтавыя.* Рам., БС, V; Красная Буда Гом.

**ВЕ'ЦЦІЙКА** (ветьтійко) *н. зборн., памянш.* вецце. *Да я ж тябе хоть ня высеку, Дак зломлю, Да я ж твое ветьтійко поломлю!* Рам., БС, VII, 35; Гом.

**ВЕЦЯРЫ'СЦЕЙ** (ветеристей) *прысл. пар. ст.* ветрана (мацней — пра вецер). *Повей ветер по рози, По широкой дорози. Да повей ветеристей, де жито ядренистей, Да колос колосистей.* Радч., ГНП, 62; Гом.

**ВЕЧАРНІ'ЦЫ** *толькі мн.* Вячоркі. *И твоя еда, и твоя хода, Пересуджены будуть, А вжеж твои вечерницы, У свекрухи на поли-*

*цы.* Радч., ГНП, 107; Гом. *Ой, не хадзі Грыцу, да й на вечарніцу.* Б, II, 630; Косетаў Калінк.

**ВЕЧАРНІ'ЧКІ** *толькі мн. Ласк.* да вечарніцы. *Звали мене на вечарнічкі — негде мне сести.* Рам., БС, I—II; Буда Раг.

**ВЕЧАРЫ'НА** *ж.* Вечарынка. *Аднойчы ўпоцемку на вечарыне прытулілася была да яго.* Дуд., М, 4.

**ВЕ'ЧКА** *н.* Вейка. *Пазіраючы некуды ў столь, ён пачаў гойдаць вечкам і гаварыць.* Гам., ША, 50.

**ВЗА'ПЕР** *прысл.* Узапар, запар. *В запер три дни добре поедав.* Радч., ГНП, 11; Гом.

**ВЗВЕЛІЧА'ЦЬ** *незак.* Узвялічваць. *Что тебе, летейко, взвеличають, Мене, зимочку, проклинають?* Радч., ГНП, 7; Гом.

**ВЗВЕСЕЛІ'ЦЬ** *зак.* Развесяліць. *Ой я, летечко, да веселое, Луги, горы измочило, Луги, горы взвеселило.* Радч., ГНП, 1; Гом.

**ВЗМАГЦІ'СЯ** (взмогцисе) *зак.* Натужыцца. *Так Андрушка бачыць, што погано з ім будзе, так взмогсе, да проломаў веко і хочэ выскочыць.* БКЭ, № 31; Юравічы Рэч.

**ВІД** *м.* Твар. *Вид у яго обруз, вочи позаплывали, позакоравили,— можа месяц не мывся.* Рам., БС, III, 26; Буда Раг. *Коли уроки большія, дак треба узять жменьку соли у руку и водить рукой ниц по виду и казать етую молитву.* Рам., БС, V; Раг.

**ВІДАВО'К** *м.* Від (поле зроку). *Зрэзаўшы ўсе тыя, што раслі на відавоку, ён пачаў шукаць баравічкоў пад леташнім прэлым лісцем.* Саб., ЖЗ, 174.

**ВІДНЕ'НЕЧКА** *безасаб. у знач. вык. памянш.* відна. *У каморцы аконачка, У аконечцы відненечка.* ВП, 224; Заполле Петр.

**ВІ'ДНЕНЬКА** (видненько) *безасаб. у знач. вык. памянш.* відна. *А моя дзеўка пирасватана, Нидалечка, близенька. В окенца видненька.* Шэйн, I, 85; Калкі Рэч. *Месечик взойдзе,— то видненько будзе.* Шэйн, III; Дзякавічы Маз. Параўн. відненечка.

**ВІЖАВА'ННЕ** *н.* Сачэнне, назіранне. *Палавіна партызанскага жыцця — такое вось віжаванне.* Нав., СТ, 163.

**ВІЛЁ'НКА**. Гл. пасцілка-вілёнка.

**ВІЛЮ'ЖНЫ** *прым.* Звілісты. *А далей туды, на той бок вілюжнай, выгінастай срэбнай палоскі ракі, як сягнуць вокам, росна зелянеў луг.* Саб., I, 140. *Наша часць на світанні асядлала невялічкую вілюжную шашу.* Саб., ЗПД, 110.

**ВІНАВА'ЕЦ** (виноваец) *м.* Віноўнік. *Ён сказуя: вот, батюшка: ето виноваец мой — вяду к пану на жалобу!* Рам., БС, 11; Нісімкавічы Раг.

**ВІНАГРА'ДДЗЕ** (виноградзье) *н. Зборн.* Вінаграднік (участак). *На его дворе сей дом золезны, Позатыльяко — се виноградзье.* Д-З, ПП, 143; Красная Воля Маз.

**ВІ'ННІЦА** *ж.* Вінны склеп. *А у купца була винница.* Рам., БС, III, 337; Азяраны Раг.

**ВІСКО'ВЫ** *прым.* Скроневы. *Так у раба божага зубищаем ня бывати, ни темяньнику, ни висковым.* Рам., БС, V, 84; Перарост Гом.

**ВІТУ'ХА** *ж.* Мазанка. *І не дзіва, калі кінецца ў вочы лазовая вітуха, абмазаная глінай да вапнай пабеленая,— якраз такая, як бялеюць за ракой, дзе ўжо Украіна.* Рак., СЛС, 6.

**ВІХУ'РЧЫК** *м. памянш.* віхар, віхор (невялікі слуп попелу). *Абапал шляху стаялі абгарэлыя каміны, ды на вогнішчах вецер закручваў віхурчыкі попелу.* Саб., ЗПД, 49.

**ВІША'Р** (вишер) *м.* Асака. *Да по вишеру галочки летали, Ены свои перья сбивали.* Радч., ГНП, 81; Гом.

**ВЛАДЖА'ЦЬ** *незак.* Уладжваць, уладкоўваць куды-н. *Той мех дзержыць, а той усе грошы сыпле. Насыпаў пяць мехоў.— Ну*

*владжайце!* БКЭ, № 27; Камаровічы Маз.

**ВЛО′ВЫ** *толькі мн.* Паляванне. *Вставайте, братцы, Кони седлайте; Поедем на вловы, Зялёныя дубровы.* Дэмб., ООМГ, I, 526; Гом.

**ВІ′ШАНЬКА-ЗЯЛЕ′ПУХА** *ж.* Вішня зялёная, недаспелая. *Яшчэ нядаўна на вішняку, у засені якога мы з Анастассяй Паўлаўнай сядзелі цэлымі днямі, віднеліся вішанькі-зялепухі.* Саб., II, 79.

**ВО′БМЕЛЬГАМ** *прысл.* Імгненна. *Аднак, калі іх не было ў хаце, я хуценька скідаў світку і вобмельгам кідаўся на печ.* Саб., II, 14. *Вобмельгам накінуў на плечы ватоўку, дастаў з-пад падушкі шапку і праз лаз выпаўз за хлеў, у поле.* Сач., БРВ, 298. Параўн. в о п р а м е ц ц ю.

**ВО′БЧАСТВА** *н.* Грамадства. *Ня молитеся етым богам — так вобчаствы делали сабе боги — етыя боги поганыя, проклятыя.* Рам., БС, IV, 4; Вылеў Гом.

**ВО′ДСТУП** *м.* Адлегласць. *Аўгуст Эрнеставіч не размаўляе. Яму не таму крыўдна, што найбліжэйшыя людзі, якія дзялілі з ім уладу, у водступ не едуць.* Нав., СТ, 358.

**ВО′ІНСТВА** *н.* Вайна. *Быў на воінстве — трэбавалі. Многа сіл пабіта, а ўвесь быў паранят.* ЧК, I, 249; Мяркулавічы Раг.

**ВО′ЛГЛЫ** *прым.* Вогкі, волкі. *Ноччу, калі халодныя зоркі глядзелі на заснежаную мёртвую зямлю, раптам падзьмуў волглы вецер.* Дан., Ж, 12. Параўн. в о л к і.

**ВО′ЛІК** *м. памянш.* вол. *I стаяў там, у хляве волік.* ЧК, II, 158; Перарост Гом.

**ВО′ЛКІ** *прым.* Тое, што в о л г л ы. *Плацце адразу ж намокла, зрабілася знобка — волкі халадок браў за плечы.* Сач., ПНР, 218. *Вечарам Ласка вярталася з пашы. Часам яна забывалася і прыносіла ў зубах маленькі пучок волкай травы.* Дан., НД, 92. *Днём яшчэ цёпла, а ночы волкія, важкія, і ранкам на бульбоўніку, на траве белыя махры інею.* Мел., VI, 199.

**ВОН** *займ.* Ён. *Вон не любіць кідаць словы на вецер.* Палт., КС, 54.

**ВО′ПРАМЕЦЦЮ** *прысл.* Тое, што в о б м е л ь г а м. *Ён і цяпер, здаецца, адчувае, як у яго тады па целе забегалі мурашкі, і ён вопрамеццю кінуўся на крык адчаю.* Саб., БАС, 71. *Так і не агледзеўшы як след свайго селішча, не пахадзіўшы па ім, вопрамеццю кінуўся на вуліцу.* Сач., АП, 372.

**ВО′РВАНЬ** *ж.* Тлушч з марскіх жывёл або рыб. *У афіцыні было змрочна, чадзіла свечка, пахла кіслай капустай і ворванню.* Лупс., П, 54.

**ВУЖО′ЎКА** *ж.* Вужоўнік. *Здаралася іншы раз, што з лесу цётка прыносіла як не палавіну каробкі вужовак і, плююючы, выкідала іх на сметнік.* Сач., БРВ, 40.

**ВУ′ЗЛІК** *м. памянш.* вузел. *Глядзи ж, панначка, гэтый вузлик выкинь на крыжовых дарогах.* Шэйн, III, 385; Ельск.

**ВУЗЛЯ′КА** *ж. павел.* вузел, клунак. *Знайшлася нейкая немка, паспачувала бацьку — цэлую вузляку навязала трантаў.* Сач., П, 48.

**ВУ′ЛКА** *ж.* Вуліца, завулак. *Вышов на вулку, начав судити: Моя невестухна сонливая, На работу ленивая.* Дэмб., ООМГ, I, 587; Гом.

**ВУ′ЛЯ** *ж.* Качка. *Люлі-люлі, Паляцелі вулі.* ДФ, 162; Салтанаў Рэч. Параўн. в у ц і ц а.

**ВУ′РЗНУЦЬ** *зак.* Стукнуць (нанесці ўдар). *Як вурзнуў яму па пераносіцы, ажно юшка пацякла.* ЧК, I, 232; Петр.

**ВУСЦІ′ШНА** *прысл.* Зацішна. *Трохі вусцішна ноччу ў лесе.* Нав., ВС, 34; *У лесе было вусцішна, але хараша.* Дан., Ж, 60. // Спакойна. *Без ніякай дамовы напрыходзіла іх, па адной, баб семвосем, і кожная, перад тым, як вусцішна-ўрачыста сесці ў радок на лаве, падавала гаспадыні ву-*

*зельчык або пакрытую хусцінкай кашолку.* Рак., СЛС, 128.

**ВУ'ЦІЦА** *ж.* Тое, што в у л я. *Що ляти, ляти каменая стряла, Що уби, уби стряла ясна сокола на вылити, Добра молодца на выеде. Серу вутицу во крутом биригу.* Шэйн, III, 183; Гом.

**ВУЦЕ'ЦЬ** *зак.* Стукнуць, ударыць. *Як вуцеў козыньку, Дай поскакала, Дай поцешила, Дай развеселила.* Шэйн, I, 95; Мялешкавічы Маз.

**ВУ'ЧАЦЬ** *ж.* Доля, лёс. *Пропей песню, пропей нову, Вучаць горкую мою.* Радч., ГНП, 210; Гом.

**ВУЧЫ'ЦЕЛЬКА** *ж.* Настаўніца. *«Вучыцелька?» — здзівіўся Юрка.* Лупс., УВН, 220.

**ВЫ'БАХАЦЦА** *зак.* Вырасці, выцягнуцца. *А які ты вырас, як выбахаўся.* Саб., II, 116.

**ВЫБО'ІНА** *аг.* Неслух. *От жа гад печаны, і ў каго ён удаўся, гэтакі выбоіна.* Саб., II, 69.

**ВЫ'БРАНЫ** (вубраный) *дзеепрым.* Убраны, прыбраны. *Ой да за вубраный столик ён сажав, во да й чаю-кофію стакан налівав.* Рам., БС, I—II, 129; Мільча Гом.

**ВЫ'БРЫКІ** *толькі мн.* Учынкі нечаканыя. *Я ў школу прыйду і перад класам раскажу пра тваe выбрыкі.* Шам., VI, 101.

**ВЫВЕ'ДКА** *ж.* Выведванне, разведка. *Пяцёра ў канаве ляжаць, а я на выведку пайшоў.* Лупс., ВТ, 73.

**ВЫВІЖО'ЎВАЦЬ** *незак.* Выведваць (тайна). *Яны* [птушкі] *прывычна трапяталі на адным месцы крыллямі — нешта вывіжоўвалі зоркімі вачыма каля стагоў саломы, ля палявых дарог.* Дан., Ж, 124.

**ВЫГО'ДЛІВЫ** (выгодливый) *прым.* Дагодлівы, угодлівы. *Во якую мене мамка родила счастливую, талантливую, смешливую, выгодливую.* Радч., ГНП, 239; Гом.

**ВЫ'ДАРЫЦЦА** *зак.* Выдацца, выпасці (пра час). *Лета выдарылася не вельмі ласкавае.* Саб., I, 185.

**ВЫДУКАВА'ЦЦА** *зак.* Адукавацца, выхавацца, навучыцца. *От так і вырас ён у двары, выдукаваўся лепш паніча.* Серж., СРБП, 32; Лучыцы Маз.

**ВЫДЫБА'ЦЬ** *незак.* Хадзіць, крочыць (размерна і важна або нязграбна). *Батура накінуў на плечы шынель, надзеў шапку будзёнаўку, стаў нетаропка выдыбаць па хаце.* Нав., СТ, 70. *Бургамістр узбуджаны — ні на каго не пазіраючы, сагнуўшыся, выдыбае з кута ў кут.* Нав., СТ, 125. *Хлопцы выдыбаюць па пакоі, паціраюць ад задавальнення рукі.* Нав., СТ, 137. *Калі местачковыя госці праціснуліся за стол, тыя, што частаваліся з раніцы, хістаючыся, паволі выдыбалі за дзверы.* Нав., ВС, 264. Параўн. в ы д ы г а ц ь у 2 знач.

**ВЫДЫГА'ЦЬ** *незак.* **1**. Дагаджаць, выказваць адданасць. *Відаць, Плашчынскаму непрыемна, што тут, у асяроддзі хлопцаў-філолагаў, якія выдагаюць перад дзяўчатамі наперабой, ён адышоў на задні план.* Нав., Б, 112. **2**. Тое, што в ы д ы б а ц ь. *Ва ўнутр патрулі заглядваць, відаць, саромеліся, з нахмураным выглядам выдыгалі па двары.* Нав., СД, 380.

**ВЫ'ЖАР** *м.* Выжарына. *Залезуць ены ў выжар па самае балота,— тагды ено засмеетца, зарагочэ, бы жарабец и зникне.* Серж., СРБП, 46; Лучыцы Маз.

**ВЫЖЫ'ЛЬВАЦЦА** *незак.* Працаваць старанна. *Апаноўвалі ўспаміны як год за годам, можна сказаць, усё жыццё гнуўся, выжыльваўся дзеля сваёй зямлі.* Мел., V, 321. *Яна выжыльвалася, старалася як смачней згатаваць, а яны сядуць за стол і насы паадварочваюць.* Саб., ЗПД, 64.

**ВЫ'ЗВАЛІЦЬ** (вызволить) *зак.* Выручыць (дапамагчы грашыма). *Ну, тогды став позычать суседям и протчим по бедности*

*іх; кому кольки, отъ ён и вызволя.* Рам., БС, IV, 82; Карма Гом.

**ВЫ'ЗВАЦЦА** *зак.* Азвацца. *Яна стала вызываць, хто ўкраў яе вешчы. Ён вызваўся.* ЧК, I, 254; Мяркулавічы Раг.

**ВЫЗЫВА'ЦЬ** *незак.* Выклікаць. *Яна стала вызываць, хто ўкраў яе вешчы. Ён вызваўся.* ЧК, 254; Мяркулавічы Раг.

**ВЫЗНА'ЦЦА** *зак.* Прызнацца. *От яны ўзяли, да ў том слови и повинилися,— вызналися обчаству.* Рам., БС, IV; Карма Гом.

**ВЫ'КАЗАЦЬ** *незак.* Знайсці, адшукаць. *Було, говора, у нашого цара три дочки, и их покрадзено на ноч. Цяперича наш цар прося: «Хто б то найшовсь выказаць моих дочок,— половина яму царства отказую».* Рам., БС, III, 156; Навасёлкі Раг.

**ВЫ'КАРАСКАЦЦА** *зак.* Выкарабкацца (вызваліцца з цяжкага становішча). *Ледзь выкараскайся ад смерці.* Шам., V, 434.

**ВЫКАТА'ЦЦА** (выкататца) *незак.* Узыходзіць (пра сонца). *С-под лесу, лесу зара занимаетца, зара занимаетца, сонца выкатаетца.* Рам., I—II, 159; Беліца.

**ВЫ'ЛАДЗІЦЬ** *зак.* Сабраць куды-н. *Але ось перад дзисятухаю выладзила Матруна свайго Семка ў балото рабиць сено.* Серж., СРБП, 76; Белае Балота.

**ВЫ'ЛАЖЫЦЬ** *незак.* Вылазіць, выбірацца. *Ён вылажуе з-пад моста.* ЧК, I, 68; Рудня Чач.

**ВЫМЕ'РШЧЫК** *м.* Мерка. *А бедны конь, вымершчык сілы гэтай.* Дуб., I, 363.

**ВЫ'МЕСЦІСЯ** *зак. Груб.* Выйсці, выбрацца прэч. *Толік, зладзейкавата зыркнуўшы на старога Дзяніса, адпаласаваў з буханкі, што ляжала на стале, ладны акраец і вымеўся на вуліцу.* Дан., ЗА, 80. *Яго далікатна просяць вымесціся з кабінета.* Шам., V, 221.

**ВЫ'МЧАЦЬ** *зак.* Выгнаць (сілаю, хутка). *Тут падарожны ўхапіў за каўнер старца да й вымчаў его з хаты.* Серж., СРБП, 129; Млынок Маз. Параўн. в ы п е р ц і.

**ВЫ'ПАРАЦЬ** *зак.* Адшукаць, знайсці. *Калі захварэла старэйшая дзяўчынка, усю станцыю аббегала, а ўрача знайшла. Выпарала сярод палонных сербаў, якія рэзалі немцам шпалы.* Нав., СТ, 271.

**ВЫ'ПЕРЦІ** *зак.* Тое, што в ы м ч а ц ь. *Не з выгоды выпер дацямна сваіх Зайчык!* Мел., V, 194. ◆ **дух выперці** — памерці. *Але бачыць, аж з Ничыпара й дух выперло.* Серж., СРБП, 54; Лучыцы Маз.

**ВЫПІВА'КА** *аг.* Любіцель выпіць, п'яніца. *Гарманіст і выпівака Вальдэмар Луста.* Лупс., ВТ, 11. *Былы ляснічы, выпівака і нячысты на руку, залічыўшы яе ў штат лясніцтва, зрабіў хатняй гаспадыняй.* Шам., ВТБ, 199.

**ВЫ'ПІНКА** *ж. Ласк.* Выпуклінка. *Воч бы не зводзіў з яе мілага твару з прыгожымі смуглявымі выпінкамі шчок.* Мел., VI, 44.

**ВЫПЛІ'ШЧВАЦЦА** *незак.* Паказвацца (праціснуўшыся адкуль-н.). *Глушакі збіраліся з двара ехаць, калі сонца толькі пачало выплішчвацца з-за цёмнага лесу.* Мел., VI, 8.

**ВЫ'ПЛЫНУЦЬ** *зак.* Выплысці. *Ана выплыне, дась грудзі дзіцяці, накорміць, і зноў до вады пойдзе.* БКЭ, № 40; Ужынец Рэч.

**ВЫПРА'ТАЦЬ** *зак.* Расчысціць. *Возьми ты яго, ето пшанцо, няси к пану, отдай пану и скажи пану, нехай ён за ноч лядо выпратая, тогды выпаля, тогды успаша.* Рам., БС, III, 392.

**ВЫ'ПРУЦІЦЦА** *зак. Груб.* Здохнуць. *Але ось чуць свет улазиць у хату хурман да й кажэ, што кони выпруцилиса.* Серж., СРБП, 43; Лучыцы Маз.

**ВЫ'ПРУЦІЦЬ** ◆ **ногі выпруціць** — памерці. *Каб ён здох... каб ён ногі выпруціў.* Кап., СЖЛ, 59.

**ВЫРАБЛЯ'ЦЦА** *незак.* Выбірацца (з цяжкага становішча). *Па пісаным і Піліпчык не надта разу-*

*мее, але ўдвух з дзедам з бяды сяк-так выраблююцца.* Нав., ТСЗ, 7.

**ВЫ'РАЧЫЦЦА** *зак.* Вытарашчыцца, уставіцца (злосна). *А той вырачыўся, проста свідруе вачамі, хоча заглянуць у душу.* Шам., V, 50.

**ВЫРО'СТ** *м.* Рост. *Весна, весна! Што ты нам прынесла? Девкам выросту, а хлопцам каросту.* Рам., БС, I—II; Беліца.

**ВЫСО'ЗНЫ** *прым. Пар. ст.* Высачэзны. *Паставілі пры такіх шырозных ды высозных дзвярах, што як бы ні падскокваў, да ўзгалоўня рукою не дастанеш.* Саб., БАС, 37. *Гаспадыня як бы крадком паставіла высозную, нейкую старажытную бутэльку.* Саб., ЖЗ, 237.

**ВЫ'СІЛАК** *м.* Намаганне. *Апанаска з высілкам павярнуў да Дзяніса галаву, стомлена прыкрыў павекамі вочы.* Дан., ЗА, 81.

**ВЫСКАРА'СКАЦЦА** *зак.* Выкараскацца, выкарабкацца. *Ледзьве выскараскаўся.* Саб., I, 152.

**ВЫ'СКАЦЬ** *ж.* Выварацень. *Узбиўса на выскаць, чуць галавы не скруціў.* Серж., СРБП, 94; Лучыцы Маз.

**ВЫСЛАБАНІ'ЦЦА** (выслабаниттца) *зак.* Вызваліцца. *Качаетца Кавалиха бы клубок да выслабанитца не можэ!* Серж., СРБП, 112; Лучыцы Маз.

**ВЫСЛУХА'Ч** *м.* Той, хто падслухоўвае. *Ты проста гуляка на вячорках ды выслухач добры.* Лупс., ВТ, 19.

**ВЫСПЕ'ЎВАЦЬ** *незак.* Спяваць старанна. *Бывала, з гармонікам праз усю вёску ідзе і выспеўвае нейкія нетутэйшыя песні.* Саб., I, 21.

**ВЫСТАЧА'ЦЬ** I *незак.* Хапаць. *Нам не вельмі-то і часу выстачае хадзіць па хатах.* Саб., I, 237. *Цяпер пры калгаснай жытцы, калі ў чалавека і грошай выстачае, і хата такая, што можна ўсё паставіць на памаляваную падлогу, Халімон доўга шукаў сабе гнутых крэслаў.* Саб., ЗПД, 20. Параўн. в ы с т а р ч а ц ь.

**ВЫСТАЧАЦЬ** II *незак.* Патыкаць. *З маленства чалавек прывык, каб за ім бегалі, выстачалі яму.* Саб., ЗПД, 65.

**ВЫСТАРЧА'ЦЬ** *незак.* Тое, што в ы с т а ч а ц ь I. *Ды праўду казаць, дык цяпер яму і часу не вельмі выстарчае.* Саб., ЗПД, 96. *Ён ужо і касу браў і, хоць сілы тае і не выстарчала, усё роўна гнаў пракос, хоць трошкі і вузейшы за бацькавы.* Саб., ЗПД, 55.

**ВЫ'СТАРЧЫЦЬ** I *зак.* да в ы с т а р ч а ц ь. *І Анісім нават радаваўся, што Раманава хата не ў саміх Лысках, а на водшыбе, на выселках, і на выпадак чаго можна апраўдацца, сказаць брату, што не выстарчыла часу, таму і не зайшоў да яго.* Сач., Д, 71.

**ВЫ'СТАРЧЫЦЬ** II *зак.* Выгадаць, выкраіць. *Трэба ж ім і адзенне справіць лепшае, ды на кіно капейку выстарчыць.* Саб., ЖЗ, 215.

**ВЫ'СТРАЧКА** (выстрочка) *ж.* Прашыванне ў строчку. *Що брат продавав за строчки, за выстрочки, за червонныя монисточки.* Рам., БС, I—II; Гом.

**ВЫ'СТУПКІ** *толькі мн.* Тапачкі (хатнія). *Па лесвіцы спускаўся чалавек у мяккіх хатніх выступках, у паласатай піжаме і ў накінутым наапашку зімовым паліто.* Саб., I, 361.

**ВЫСЦІНА'ННЕ** (выстянаньне) *н.* Стагнанне, енчанне. *Вот там будя вужу мука и трескатаньня, лопаньня и великое выстянаньне.* Рам., БС, V, 46; Карм.

**ВЫ'ТРЫМКІ** *прым.* Вытрыманы. *«А я вытрымкая»,— сказала Ганна.* Лупс., ВТ, 26.

**ВЫТЫРКА'ЦЦА** *незак.* Паказвацца. *Галоўнае, амаль не трэба было вытыркацца на людзі ўдзень у звычайным выглядзе.* Шам., ВТБ, 67.

**ВЫ'ХАПІЦЬ** *зак.* Паспець зжаць, скасіць. *Ападзе раса — трэба вы-*

*хапіць гэты ячмень.* Шам., ВТБ, 54.

**ВЫХУДЗЕ'ЦЬ** *зак.* Схуднець. *Я ніколі не думаў, што чалавек гэтак можа выхудзець.* Саб., I, 66.

**ВЫ'ЦЕПАНЫ** *дзеепрым.* Абтрапаны, абрынданы. *Ніякавата было за свой картовы, выцвілы пінжачок, за выцепаныя ў калошынах суконныя штаны-галіфэ.* Кап., СЖЛ, 7.

**ВЫ'ЦЯГНУЦЦА** ◆ **выцягнуцца ў нітку** — пастарацца. *Я ў нітку выцягнуся, дзень і ноч буду працаваць.* Губ., НКП, 222.

**ВЫ'ЦЯГНУЦЬ** (вытягнуть) *зак. Перан.* Выцяць, ударыць. *Выразав ладный дубец, да поткрався, да як вытягня яе дубцом па голаму телу!* Рам., БС, IV; Гом.

**ВЫ'ЧАРНЕЦЬ** *зак.* Счарнець, схуднець. *Хваробу я буду гнуць на вас спіну, выхвараеце да вычарнееце вы ад майго хлеба.* Саб., А, 9.

**ВЫЧЭ'ПВАЦЬ** *незак.* Вытанцоўваць. *Добра вычэпваем, аж пяткі свярбяць.* Саб., II, 128.

**ВЫШУГА'ЦЬ** *зак.* Вырасці, узбуйніцца. *Аднак жа за гэтыя гады Навасёлкі вунь як вышугалі: на шляху вырасла зусім новая вуліца.* Саб., ЗПД, 60.

**ВЫ'ШУКІ** *толькі мн.* Доследы. *Свой вольны час я планаваў досыць сурова, адводзячы пэўную колькасць гадзін на падрыхтоўку урокаў, зрэшты на свае навуковыя вышукі.* Нав., ТЮ, 6.

**ВЯДРЫ'ШЧА** *н. павел.* вядро. *Як угледзела гэта, дык аж вядрышча выпусціла з рук.* Саб., БАС, 43.

**ВЯЛІ'ЗАЗНЫ** (велизазны) *прым.* Велізарны. *А лоб у его велизазны, й галава голая, хоць боб малаци.* Серж., СРБП; Лучыцы Маз.

**ВЯРНІГО'Р** *м.* Асілак. *А Вярнигор павярнув гору.* Рам., БС, III, 77; Перарост Гом.

**ВЯРО'ЎЧЫНА** *ж.* Кусок вяроўкі. *Цыганяты ў атопках, падвязаных вяроўчынай або лыкам, ціснуцца бліжэй да агню.* Лупс., П, 86. *Беручыся ручкамі за вяроўчыны, на якіх вісіць калыска, ён, крэкчучы, чырванеючы, сам падымаецца і садзіцца.* Саб., II, 42

**ВЯРТУ'Н** *м.* Вяртлявы чалавек. *І па характары — вяртун, непаседа, свавольны насмешнік, нястрыманы і нястомны на выдумкі.* Шам., V, 121.

**ВЯРЦЯ'КА** (вяртяка) *м.* Вяртлявы. *Дедька-лябедька, унимай свайго собаку-кусаку, крутяку і вяртяку.* Рам., БС, V, 104; Стаўбун Раг.

**ВЯРША'ЛЬНІК** (вершальнік) *м. Зборн.* Сухія галіны з верхавіны дрэва. *Насцегаў Иванчык сухого елового вершальніку, пакрыў его вениками.* Серж., СРБП, 57; Лучыцы Маз.

**ВЯСЕ'ЛЬЦА** (вяселцо) *н. памянш.* вясло. *От, Иванка и кажа батьку: тат, зделай мне золотой човник, сярэбраное вяселцо: я пуеду рыбки ловить!* Рам., III, 269; Жлобін.

**ВЯСЕ'НАЧКА** (вясеначка, вясёначка) *ж. ласк.* вясна. *Ой, вясна, вясеначка Развесяліла ўсе горачкі.* ВП, 140; Тульгавічы Хойн. *Ой, вясна, вясеначка, Вясеначка, Дзе твая дочка Тацяначка?* ВП, 138; Старое Сяло Раг. *Ой, вясна, ой, вясна, ой, вясёначка, Вясёначка, Дзе твая дачка Алёначка?* ВП, 137; Курганне Раг.

**ВЯСЁЛА** *прысл.* Весела. *Паслухай, як вецер вясёла заводзіць!* Дуд., С, 5.

**ВЯЧЭ'РКА** *ж. ласк.* вячэра. *Я табе вячэрку звару.* ЧК, I, 252; Мяркулавічы Раг.

# Г

**ГАВАРУ'ННЯ** *ж.* Жанчына гаваркая. *Я сам здзіўляюся, чаму гэта ты маўчыш, такая гаварунням.* Шам., I, 407.

**ГАВЭ'НДА** *ж.* Гісторыя (пра прыгоды, здарэнні). *Аднойчы зусім малады паніч Андрэй Полаз, наслухаўшыся ад гасцей гавэнды пра розныя паляванні, узяў крадком ад бацькі рагач і ўцёк з дому.* Сач., Д, 125.

**ГАДАВА'ЙНЕНЬКА** (годовайненько) *н.* Гадаванне. *Уклоняйса молода Гапко ўсему роду — И старому и малому, А маці ў белы ногі За ея за годовайненько.* Шэйн, III, 414; Дзякавічы Маз.

**ГАДЗЕ'ННЕ** (годзенне) *н.* Прыстойнасць, парадак. *Куццю постав на сене, да и закрывай хлебом, так дзеле годзення.* Шэйн, I, 46; Кочышчы Маз.

**ГАДЗІ'ЦЦА** (годзицца) **:як гадзіцца** — як трэба. *Квас добрый з грибами, а то и з рыбою, млинцы з маком и з медом, горох з сытою, да узвар добрый, як на родзины, и куццю, як годзицца.* Шэйн, I, 47; Кочышчы Маз.

**ГАДЫ'** ◆ **гады ў рады** — вельмі рэдка. *Герасім, дык хоць той гады ў рады прышле які ліст, а Міхалка, пасля таго, як ажаніўся, колькі разоў браўся з маткаю за чубкі.* Саб., ЗПД, 58.

**ГАЗЕ'ЦІНА** *ж.* Газета (экземпляр, газетны ліст). *З-пад газеціны... выглядалі дзве буханкі чорнага хлеба.* Рак., В, 109. *Дзядзька Пракоп палез рукой за пазуху і дастаў з-за зрэбнай сарочкі згорнутую газеціну.* Саб., II, 18.

**ГАЗЫ'Р** *м. Перан.* Вострая вярхушка чаго-н. *Укалолі газыры пацямнелых снапкоў яго Мікіты задубянелую скуру на твары.* Дан., Ж, 153.

**ГАЙДА'К** *м.* Народны танец. *Як заскачам жа мы: Мой муж — казака, Я молода — гайдака.* Дэмб., ООМГ, I, 536; Гом.

**ГАЙНЯ'** *ж.* **1.** Зграя (звяроў). *Ваўкі падпільнавалі яго ля броду і накінуліся цэлай гайнёй.* Сач., ЧН, 191. *Паліцэйскія, хай іх немач, у мой двор, як гайня,— больш упэўнена загудзеў Забела.* Нав., ВС, 231. **2.** *перан.* Банда, шайка. *Іншы раз гамонка ў гэты вечар спадала да ледзь чутнага нават блізкім шэпту: пераказвалі напэўна чутку пра тое, нібы Маслакова гайня, нарэшце, далазілася.* Мел., V, 144.

**ГАЛАВАСЕ'Ч** (головосеч) *м.* Назва мяча (від зброі). *Пріедя к вам Спас Спаситель, с конъём, из ружжом, из головосечам.* Рам., БС, V, 122.

**ГАЛАДАВА'ЦЬ** *незак.* Пасціць. *І на другі дзень да прычасця трэба было галадаваць.* Саб., II, 46.

**ГАЛАДНЕ'ЧА** *ж.* Голад. *Падохніце, выпруціцеся з галаднечы!* Мел., VI, 120.

**ГАЛАДРА'НЕЦ** *м. Пагард.* Бядняк, абадранец. *А вось адкуль яна, страсць да анучак, у дачок такога галадранца, які́м усё жыццё быў ваш бацька.* Шам., VI, 104.

**ГАЛАДУ'ХА** *ж.* Голад, галодны час. *Цяпер жа ў акупацыі, такі гандаль ад галадухі.* Шам., V, 104.

**ГАЛАШЧО'К** *м.* Галалёд. *Уперадзе тарабанілі калясамі на галашчоку вазы з сенам.* Кап., СЖЛ, 16.

**ГАЛГА'Н** *м. Пагард.* Нягоднік. *«Што ты,— каа,— паможэш! Мне трээ пакпіць над тым галганам ксендзом».* Серж., СРБП, 52.

**ГАЛЁКНУЦЬ** *зак.* Крыкнуць гучна. *Ён узмахнуў рукамі, быццам жадаючы паляцець, прагна ўдыхнуў рачную прахалоду і ад захаплення галёкнуў.* Шам., IV, 22.

**ГАЛІ'НКА** (голинка) *ж. Памянш.* Сцяблінка. *На тобе три голинки цыбули, коли выщегнеш, тагды твоя матка будзе ў раю.* Кар., II, 8; Тураў.

**ГАЛО'ВАНЬКА** (головонька) *ж. памянш.* галава. *Уже ж бо мне косник тошниць, Уже ж бо мне чепца хочетса, На мою головоньку, На любую размовоньку.* Шэйн, III, 435; Дзякавічы Маз.

**ГАЛУБЕНЯ'ТКА** (голубенятка) *н. памянш.-ласк.* галубяня. *На тых дубенятках сидять три голубенятки.* Рам., БС, V, 85; Гом.

**ГАЛУ'БНІЧАК** (голубничек) *м.* Драўляная прыбудова да печы. *Штоб я не зачула, Як моя матка плаче, у голубничку стоя, К голубничку прилегаючи, свое дзиця угождаючи.* Шэйн, III, 420; Дзякавічы Маз.

**ГАЛУ'БУЛЬКА** *ж.* Галубка (ласкавы зварот да жанчыны). *Наша бабулька-галубулька Да й не пышная была.* РП, 286; Салтанаў Рэч.

**ГАЛУ'ЗА** *ж.* Галавешка. *Учарнелы, прыбіты дажджом попел, які панурымі пісягамі спаласаваў вытаўчаную ботамі зямлю. Абвугленыя недагарэлыя апошнія галузы.* Мел., II, 475. *Асталіся стаяць толькі чорныя, абсмаленыя слупы ды дзе-нідзе папрыбіваныя да слупоў цвікамі-маставікамі галузы жэрдак.* Сач., АП, 307.

**ГАЛЮ'КА** *ж.* Галіна (дрэва). *Хоць тапола ўнізе была таўшчэзная, узлез ды яшчэ хістаў галюку.* Мел., IV, 98.

**ГАЛЮ'ТАНЬКІ** *прым. ласк.* голы. *А сінячок хоць не памёр, сядзіць галютанькі, без пёр.* Дуб., I, 401.

**ГАЛЯ'ЧКА** *ж.* Галышка (бедная жанчына). *Не пойдзе! Пусці толькі адну галячку, дак адразу наляціць цэлая гайня.* Мел., V, 261.

**ГАМАЗЕ'Я** *ж.* Склад. *Пошов он к цару и спрашуя: де ж жито сыпать? Цар сказав: у гамазею, а ня ўлезя у гамазею, дак коло гамазеи сып!* Рам., БС, III, 332.

**ГАМАНА'** *ж.* Размова (гучная), пагалоска, чутка. *Гамана між людзей пайшла — недзе паблізу таго месца няйнакш закапаны залатыя грошы.* Сач., П, 13.

**ГАНАРЫ'ЦЬ** *незак.* Расхвальваць, узносіць. *Пасадзіў ён ды сваю бабульку Дай на самым куце, Ой, частуе, ганаруе Не для людзей,— сам для сябе.* РП, 286; Салтанаў Рэч.

**ГА'НІ** (ганки) *толькі мн.* Ганак. *Вышла пані на новыя гани, зеленеется дуброва!* Радч., ГНП, 6; Гом. *От, ик крикнув богатырским голосом да молодецким посвистом — конь и тут: подыйшов под ганки; и став.* Рам., БС, III; Гом.

**ГАНІ'ЦЬ** (гоніць) *незак.* Гнаць. *Як сталі гоніць, ана і полецела, а ценято разгорнулі дай стулілі.* БКЭ, № 28; Камаровічы Маз.

**ГАНЧА'К** (гончак) *м.* Барка (невялікая). *По речци побегли гончаки — малыя барки.* Радч., ГНП, II; Гом.

**ГА'РА** *ж.* Гарэлка. *А ты думаеш — ад гэтай гары лягчэй стане?* Губ., НКП, 217.

**ГАРАДАВІ'К** *м.* Гарадавы. *Найбольшы з гэтых падшывальцаў толькі з кнігі чуў пра гарадавіка.* Дуд., С, 11.

**ГАРАДЖО'НЫ** (гаражоны) *дзеепрым.* Абгароджаны, загароджаны. *У нашага пана двор гараджоны, Двор гараджоны, явар саджоны.* ЗП, 220; Маз. *У нашага пана Івана двор гаражоны, Двор гаражоны жалезным тынам.* ЗП, 220; Маладушша Рэч. Параўн. г а р о ж а н ы.

**ГАРАДЗІ'ЦЬ** *незак.* Гаварыць бяссэнсіцу, выдумляць. *Гародзіш ты, Валодзя, немаведама што.* Шам., IV, 541.

**ГА'РАЦ** *м.* Гарнец. *А он вельмі быў скупый, не даў нікому ані гарца.* БКЭ, № 2; Камаровічы Маз. *Вылез оттуля ксёндз, усё ровно як чорт уделався у сажу — ведомо, гарцов дватцаць яе там было!* Рам., БС, III, 412; Шарахоўскія Буды Раг.

**ГАРАЦЕ'ШНЫ** *прым.* Гаротны (вельмі). *Адна пакута ў розных частках свету была для продкаў гарацешных нашых.* Дуб., I, 304.

**ГАРБА'ЦЕЦЬ** *незак.* Станавіцца

шурпатым. *Выгнаў у ночы, у глыбокую восень, перад самым зазімкам, калі на вуліцы гарбацела храпа і падаў крупяністы, вельмі халодны, стылы снег.* Сач., АП, 412.

**ГАРБЯЧО'К** *м. памянш.* узгорак. *Гарбячок жа, пад якім хавалася туша дзіка, быў зусім як на далоні.* Сач., Д, 101.

**ГАРГА'РА** *ж. Перан.* Тахта (старая). *Яна не рыпіць, як наша старая гаргара,— нібы паскардзілася на сваю тахту Куля.* Саб., I, 134

**ГАРДАВА'ННЕ** *н.* Гордасць, фанабэрыстасць, пагарда. *Будзе тваё гардаванне Усё перада мною.* ПНСА, 70; Сяўкі Лоеўск.

**ГАРДАВА'ЦЬ** (гордовать) *незак.* Пагарджаць, грэбаваць. *Як зачув, почув мой свекорка: гордая моя невехночка гордуе мною и моим сыном.* Радч., ГНП, 32. *Гардуеш ты мною.* ПНСА, 70; Сяўкі Лоеўск. *Намі тут гардуюць, Нас тут не частуюць.* ЛБВ, 521; Хільчыцы Жытк.

**ГАРЛАДЗЁР** *м. Груб.* Гарлапан, крыкун. *Што такое дзіцятка можа зрабіць з нашымі насмешнікамі і гарладзёрамі.* Шам., II, 38.

**ГАРЛЯ'К** *м.* **1**. Гарлач. *Няхай бы яны пасінелі, але ж і гарляк не вытрымаў бы, ён хруснуў бы пад імі.* Саб., I, 270. **2**. Горла. *А ён паласне ўжо яго нажом па гарляку.* Дан., Ж, 155.

**ГАРЛЯЧО'К** (горлечек) *м. заал. ласк.* голуб (дзікі). *Ик по мору, мору синему, широкому, там плавали два горлечки.* Рам., I—II, 30; Перарост Гом.

**ГАРНАДЗЕ'РЫК** (гарнадерик) *м.* Грэнадзёр. *Гарнадерика-то я любила, золото ему дарила.* Рам., БС, I—II, 203; Гом.

**ГАРНО'** *н.* Горан (кавальская печ). *Дык бяры, хлопча, гарно распальвай.* Саб., 54.

**ГА'РНЫ** (гарный) *прым.* Добры, прыгожы. *Казачинька гарный, не ходи до Ганны.* Рам., БС, I—II, 247; Перарост Гом. *Ты прыгледзься — хлопец гарны.* Нав., ВС, 191.

**ГАРО'ДЧЫК** *м.* Агародчык, кветнік. *Мы жылі без радзімы, без сваё зямлі і мовы, і я ведаю, якая гэта шчымлівая, пякучая і беспрасветная туга па родным гародчыку, па красках на поплаве.* Сач., ЗМП, 191. *Чаромха расцвіла ў гародчыках і садках, стаяла ў паліраваных гладышках ледзь не на кожным акне.* Нав., Б, 20.

**ГАРО'ЖАНЫ** (горожаный) *дзеепрым.* Тое, што г а р а д ж о н ы. *У пана Степана дом горожаный.* Рам., БС, I—II, 447; Перарост Гом.

**ГА'РУСКА**. Гл. х у с т к а-г а р у с к а.

**ГАРУСО'ЎКА** *ж.* Хустка гарусавая. *Люба ўсхліпнула, прыкрыўшы рот гарусоўкай.* Дан., ЗА, 81. Параўн. х у с т к а-г а р у с к а.

**ГАРУ'ШЧЫ** *прым.* Спрытны (да ўсякай працы), працавіты. *Вось гарушчы чалавек!* Рак., В, 212. *Маці твая была гарушчая, ды не даў бог ёй пажыць, пакрасаваца.* Саб., БАС, 24.

**ГАРЧЭ'Й** *прысл. Пар. ст.* Горай, горш. *А мне, малодзе, гарчэй цябе, Гарчэй цябе.* ВП, 352; Пятровічы Карм. Параўн. г а р э й.

**ГАРЭ'Й** *прысл. Пар. ст.* Тое, што г а р ч э й. *Самаю гарэйшаю прыкмінетаю бывае, калі ўпадзе з рук веньчальная жуковіна, бо тагды не хібіць хто-небудзь памерці.* Серж., ПЗБП, 180; Лучыцы Маз.

**ГАРЭ'НІЦЬ** *незак.* Мець гаркаваты прысмак. *Хлеб нічога, трошачкі хіба гарэніў, ды гэта не бяда.* Шам., ВТБ, 84.

**ГАРЭ'ТНЫ** (горетный) *прым.* Гаротны. *Была наша мамка Горетная, Ина нас маленьких Годовала, Ина нашу долю Проклинала.* Рам., БС, VII, 23; Гом.

**ГАСІ'ЦЬ** *незак.* З размаху біць, удараць. *Я гасіў і гасіў з-за пляча цяжкім молатам і нават не глядзеў, па чым гасіў.* Саб., II,

57. Параўн. г а х а ц ь, г у п а ц ь у 2 знач., г у х к а ц ь.

**ГАСПО'ДКА** (господка) *ж. памянш.* гаспода (дом і жыллё гаспадара). *Ой просиць нашей головки Да до нашей господки.* Шэйн, III, 412; Дзякавічы Маз.

**ГАСПО'ДУХНАЧАК** (господухночок) *м. ласк.* уладыка. *Кіявскія, пячерскія, уси правяднички праподобныя, станьтя ж вы, господухночки, на помоч рабе божай.* Рам., БС, V, 53; Перарост Гом.

**ГАСЦІ'НА** *ж.* Госці. *А хоть жа й пойду в гостину, Навяжу блинов хустину.* Дэмб., ООМГ, I, 587; Рагінь Гом.

**ГАСЦІ'НЧЫК** (госцинчик) *м. памянш.* ласунак. *Ци не едзе мой бацюхна, Ци не везе госцинчика, Чирвоного да васильчика?* Шэйн, III, 441; Дзякавічы Маз.

**ГА'ХАЦЬ** *незак.* Тое, што г а с і ц ь. *У ёй жылісты і сухі, як яловы корч, Апанас Шведзік так гахаў молатам, што здавалася, сцены не вытрымаюць.* Дан., Н, 4. Параўн. г у п а ц ь у 2 знач., г у х к а ц ь.

**ГВАЗДЗЁ** (гвоздё) *н. Зборн.* Гвоздзі. *Справиўся ён и став по стянах гвоздё забіваць.* Рам., БС, III, 426.

**ГЕ'НБА** *ж.* Рот. *А патом зрабілі веселье, і я там быў, мёд-віно піў, по барадзе цекло, а ў генбе не было.* БКЭ, № 34; Юравічы Рэч.

**ГЕШЭ'ФТ** *м.* Адносіны з выгаднымі спекуляцыйнымі здзелкамі. *Некаторыя з салдат не мінаюць Шастапалішынай хаты, Але тая з самім д'яблам завядзе гешэфты.* Нав., СТ, 272.

**ГІДАЎНІ'К** (гидовник) *м.* Агіднік. *Ходив Господ Бог по синяму мору, сварився й грозився на гада и на гадину и на гидовника.* Рам., БС, V, 121; Нядойка Раг.

**ГІДЛІ'ВЫ** *прым.* Гадлівы. *Начштаба наш, Будыка, чалавек гідлівы, пагнаў хлопца з зямлянкі: «Пайшоў прэч! І не паказвайся мне на вочы!»* Шам., V, 122.

**ГІЛЯ'РА** *ж.* Галера. *От, ён казаў гіляру выстроіць, сеў і паехаў побачыць, аткуль рэка взялася.* БКЭ, № 38; Ужынец Рэч. *Да яны пішуць до отца, штобы он сеў на гіляру і прыехаў до іх на бал.* БКЭ, № 38; Ужынец Рэч.

**ГІРЫ'ЧЫЦЦА** *незак.* Валтузіцца. *Па ўсім было відаць, што ён ужо гірычыцца тут нямала.* Рак., В, 279. *Ото ж ён гірычыўся тагды з тым возам сена.* Рак., В, 288.

**ГІ'ЧКА** *ж.* Верхняя частка завязанага мяшка. *Ігнаціха трымалася рукамі за гічку мяшка.* Кап., СЖЛ, 28.

**ГЛА'ДКІ** (гладкій) *прым.* **1.** Сыты, адкормлены. *От гэты конь гладкій, вазьмімо его, покацім жэ ежмо.* БКЭ, № 11; Камаровічы Маз. *От, то маго суседа кабан гладкій, вазьмімо, задавім.* БКЭ, № 11; Камаровічы Маз. **2.** Роўны, гладкі (пра паверхню). *Переехали гладкое балото, подъезджаюць к лесу.* Серж., СРБП, 20; Лучыцы Маз.

**ГЛАДУ'Н** *м.* Таўстун, здаравяк. *«Кумка-галубка, падвязі мяне!» — «О, гладун, штоб сані паламаў».* ЧК, I, 171; Гом.

**ГЛАДЫ'ШКА** *ж.* Гладыш. Радч., ГНП, 14; Гом. *Чаромха расцвіла ў гародчыках і садках, стаяла ў паліраваных гладышках ледзь не на кожным акне.* Нав., Б, 20.

**ГЛАМАЗДАВА'ТЫ** *прым. Пагард.* Насуплены, няўхлюдны. *Хата была не вельмі каб сказаць панская, хоць гаспадар, рыжы гламаздаваты мужчына, сустрэў мяне запрашэннем.* Саб., I, 55. *Таўставаты, немаладога веку ўжо мужчына з глыбокімі пралысінамі, з нейкім гламаздаватым тварам, ён здаўся мне занадта суровым і няўмольным.* Саб., II, 136.

**ГЛА'СНЕНЬКА** (гласненько) *прысл. памянш.* голасна (моцна, гучна). *Як у том же судне красна девочка сидить, Красна девица сидить, ена гласненько кри-*

*чить: Кто мене перейметь, за себе замуж возьметь?* Радч., ГНП, 44, Гом.

**ГЛЕЎКАВА'ТЫ** *прым.* Таўставаты, гладкаваты. *Сын — выпешчаны, глеўкаваты — сядзіць у бялюткай сетачцы на зэдліку ля плота, праглядае толькі што пададзеную паштаром газету.* Рак., СЛС, 90.

**ГЛІ'СТА** *ж. Перан.* Паразіт. *Тады я раскумекала, што да чаго і што гэта за гліста такая ў нас завялася.* Шам., IV, 253.

**ГЛУСЕ'Ц** *м. Заал.* Глушэц. *Забрали глусца й зайца да й пашли да гасподы.* Серж., СРБП; Лучыцы Маз.

**ГЛУХАМА'НЬ** *ж.* Глуш, глухмень. *Янук радаваўся за самога сябе — гэта добра, што ўспомніў ён Караеды, што і з княжыцкіх харомаў пацягнула яго ў глухамань.* Лупс., П, 66. *Тут была сапраўдная глухамань. Векавыя дрэвы стаялі густа, раскідзіста.* Гам., ША, 95. Параўн. г л у ш э ч а.

**ГЛУШЭ'ЧА** *ж.* Тое, што г л у х а м а н ь. *Луг далёкі, глушэча, сталага вартаўніка знайсці цяжка.* Лупс., ВТ, 207.

**ГЛЫБАЧЫНА'** (глыбачина) *ж.* Глыбіня. *Тут такая глыбачына, утапіцца можна.* Радч., ГНП, 7; Гом.

**ГЛЫБІ'НКА** *ж.* Месца, аддаленае ад горада. *«Што, зноў куды-небудзь у глыбінку?» — запытаўся цікаўны хлапец.* Краўч., НХП, 351.

**ГЛЮГМА'ТЫ** *прым.* Глюгасты. *Антон Антонавіч Струк, нізенькі, чорны чалавек з глюгматым, як у турка, носам.* Нав., В, 21.

**ГНАЯВІ'ЦА** (гноявица) *ж.* Назва хваробы, якая суправаджаецца гнаеннем. *Синяя синявица, гноявая гноявица, ня тут табе ходить, ня тут табе гулять.* Рам., V, 92; Кашалёва Раг.

**ГНЁТКІ** *прым.* Ліхаманкавы, прыгнятальны. *Па востраму, гнёткаму свісту, што прарываўся і грукацеў, Юрый здагадаўся, што б'юць аднекуль нямецкія гарматы.* Мел., II, 10.

**ГНІ'ЛКА** *ж.* Гнілушка (груша). *Алесь прынясе гнілак, і ён можа сказаць яшчэ раз яму, што ножык у яго добры, не горшы за Піліпкаў.* Нав., В, 76. *Мы з Косцікам залезлі ў вільчык, а Грышка хадзіў па ржышчы і шукаў гнілак.* Сач., Д, 361.

**ГНУЗДА'** *ж.* Вуздэчка. *Бяры гнузду і йдзі вот на тую дарогу.* ЧК, II, 414; Маркавічы Гом.

**ГО'ЙКАЦЬ** *незак.* Крычаць «гого». *Да выйдим мы, да послухаим, Ти ня едуть, ти ня гойкають, На коников ти ня нокають?* Рам., БС, VII, 36; Гом.

**ГО'ЙСАЦЬ** *незак.* 1. Рухацца, хадзіць, бегаць (у розных напрамках, хутка, мітусліва). *Я пакідаў яго — ляжаць мне не хацелася — і адзін гойсаў па лесе.* Нав., В, 83. *У райкоме я з «козліка» свайго не злазіў, гойсаў па раёне.* Губ., НКП, 368. *Ты ж не гойсай па вуліцы, а вучыся добра ды глядзі Насцечку.* Саб., II, 13. *Наверсе гойсае суседскі сын — так, што звоніць посуд у серванце.* Шам., V, 33. 2. Завываць, утвараць гукі (пра з'явы прыроды). *Гойсала, свістала завіруха, снег церушыў, і цёмна-цёмна было вакол.* Лупс., ВТ, 75.

**ГО'МЦІЦЬ** *незак.* Накапляць, накопліваць. *Багацця не гомцілі, жылі як людзі. Проста гудзела Лазавіца ад песень.* Нав., СТ, 218.

**ГОН** *м.* Гоні (вялікая доўгая ніва). *Камбайны па той бок канала стаялі ў рад на краі гона.* Нам., ВТБ, 65.

**ГО'НІЦЬ** *незак.* Гнаць. *Як сталі гоніць, ана і полецела, а аны ценято разгорнулі дай стулілі.* БКЭ, № 28; Камаровічы Маз.

**ГО'НЯ** *ж.* Шлях у 1 вярсту. *Тяпер, яны проехали трохи, можа гоню, ти можа ступнёв на десяток, ён уздумав и гувора на парубка: ажа, кажа, бяжи,— я там забывся, кажа, книжки на столе.* Рам., БС, IV, 138; Целяшы Гом.

**ГО'ПНУЦЬ** *зак.* Падскочыць, скочыць (шумна). *Нарэшце яна саскочыла на падлогу, гопнула, аж забрынчалі шыбы.* Шам., IV, 48.

**ГО'РАНЬКА** (горонька) *ж. паманш.* святліца. *Да пазволь-ка ты мне доль по гороньцы пройти.* Рам., БС, I—II, 18; Беліца.

**ГО'РНАСЦЬ** *ж.* Горыч. *Стала чагосьці жалліва, чагосьці стала браць горнасць.* Мел., VI, 55. *Чарнушка стрымаў горнасць.* Мел., VI, 341.

**ГО'РШЧЫК** (горщик) *м.* Гаршчок. *Да коли хочаш усе наши мужицкіе порадкі робиць, то скажи зварыць горщик каши.* Шэйн, III, 384; Ельск.

**ГРАБАНУ'ЦЬ** *зак. Перан.* Пабіць. *Настрой у Ключніка панылы. Цяпер усе бачаць, што старога з мястэчка ён грабануў дарэмна.* Нав., СТ, 73.

**ГРА'БЫ** *толькі мн.* Драбіны (воз). *«Которого, бабка, Которого любка, Ты вола Прыдаси?» — «Ёсць у мяне рабый, Што робить грабы,— Я того не прыдам».* Рам., БС, VII, 38.

**ГРАЗКАВА'ТЫ** *прым.* Крыху гразкі. *Адчуванне, што ён улез у невялікае, але гразкаватае балотца, з'явілася спакваля, месяцы за тры сямейнага шчасця.* Шам., ВТБ, 322.

**ГРАЗЛІ'ЎКА** (гразливка) *ж.* Месца гразкае. *Ехав, ехав пріяжжаа к гразливцы.* Рам., БС, IV, 58; Калбоўка Раг.

**ГРАЙ** *м.* Крык, шчэбет, спеў (птушыны). *Можа каму і зусім не ў галаве быў птушыны вясновы грай.* Саб., БАС, 63. *Сарачыным граем трашчаць машынкі і арыфмометры.* Рак., СЛС, 28.

**ГРАМАЦЕ'Й** *м. Жарт.* Чалавек граматны. *Нават з навакольных вёсак мала хто яе ведаў — старыя дзяды, паляўнічыя ды такія «грамацеі», як Ціхан Жменька.* Шам., I, 39.

**ГРА'ЦЦА** *незак.* Гуляць. *Дети гралися.* Радч., ГНП, 6; Гом.

**ГРАШАВІ'ТАСЦЬ** *ж.* Багацце, заможнасць, уменне мець даход. *Яўна выстаўляе сваю грашавітасць, плюе ўсім у твар.* Шам., ВТБ, 109.

**ГРАШО'ЎНЫ** (грошовный) *прым.* Даходны, прыбытковы. *У нас поле грошовное, и речачки медовыя.* Рам., БС, I—II; Гом.

**ГРАШЫ'ЦЦА** *незак.* Грашыць (віном, водкай). *Я, братка, не грашуся ёю, але калі такі госць трапіўся, дык нельга ж не выпіць.* Саб., ЖЗ, 99. // Карміцца (уволю). *Дзякуй, хоць дзіця будзе малаком грашыцца.* Саб., II, 45.

**ГРУ'БАЯ** *прым.* Цяжарная. *Яўхімко! Я... Я — грубая.* Мел., V, 241.

**ГРУВА'СІСТЫ** *прым.* Вельмі важкі, груваскі. *Яна ўбачыла грувасісты, нібы высечаны з шэрага каменю стол.* Саб., ЖЗ, 18.

**ГРУ'НУЦЬ** *зак.* Грымнуць. *Калі грунула вайна, ён разам з бацькам пайшоў у ваенкамат, каб забралі на фронт і яго.* Сач., Д, 183.

**ГРУ'ШЫЦА** *ж. Бат.* Грушаўка (сорт ранняй грушы). *Да яблынька садовая, Грушыца мядовая.* ПК, 187; Дзеражычы Лоеўск.

**ГРЫБ-БЯЛУ'Н** *м. Бат.* Баравік. *Але якія гэта грыбы-белуны, ваўнянкі, печэрыцы.* Сач., ЧН, 207. Параўн. дабрак II.

**ГРЫБАВІ'К** *м.* Грыбнік. *Я, вядома, кідаў цень на яе славу, але грыбавік грыбавіка паважае.* Нав., В, 92. Параўн. грыбовік.

**ГРЫБІ'НА** *ж.* Рабіна. *Трэба йти ў темный лес, знайти грыбіну бэрэговатую, зрубить, порубать на щепки й укласти их у новій горщик.* Рам., БС, V, 10; Гом.

**ГРЫБО'ВІК** *м.* Тое, што грыбавік. *«Ну-ну, паглядзім, што грыбовік выхадзіў! — сказаў ён бойка і з цікаўнасцю.— Ці многа там цяпер грыбнога смеху, дзе пралятаў ён з ножыкам».* Рак., СЛС, 67.

**ГРЫБО'ВІЦА** *жан.* да грыбовік. *Аляксандру Ганчарову лічылі грыбовіцай-чарадзейкай.* Нав., В, 91.

**ГРЫБО'ВІШЧА** *н.* Месца, дзе гры-

бы вырастаюць сем'ямі. *Трапляеш на адно грыбовішча, на другое, і бачыш усюды карэнні.* Сач., БРВ, 33. *Падросшы, пашырыўшы абсягі грыбовішчаў, я захацеў прылучыць да грыбоў і двух сваіх дружбакоў.* Нав., В, 86. *Ні разу сёлета не блукаў па грыбовішчах.* Нав., ВС, 264.

**ГРЫ'ВЕНКА** (гривянька) *ж. ласк.* грыўня (дзесяцікапеечная манета). *Сколько ж, бабушка, грошай треба?» — «А, озьми с гривяньку — поцаловать куму».* Шэйн, III, 384; Ельск.

**ГРЫ'ЗНЫ** *прым.* Балючы. *Помогитя мне выговорить уси скулы и ўси болячки... тридевъять грызных.* Рам., БС, V, 79; Баршчоўка Гом.

**ГРЫ'ЗЦІ** ◆ **грызці за душу** — дапякаць. *Не вас жа людзі вінавацяць, што хлеб згніў,— сябе за душу грызуць!* Губ., НКП, 230.

**ГРЫМАНУ'ЦЦА** *зак.* Грымнуцца (з грукатам упасці). *От ён падсек ее да раптам и грымануўса далоў разам з галинаю.* Серж., СРБП, 184; Лучыцы Маз.

**ГРЭ'ЧЫШЧА** *н.* Грэчкавае поле. *Дзед самазадаволена зірнуў уніз на грэчышча і... настрой яго адразу змяніўся.* Крауч., НХП, 38.

**ГУБАЧО'К** *м. бат. памянш.* губа, чага. *І адразу ж убачыла дупло: яно было кругленькае і такое маленькае, што каб і хацеў не прасадзіш рукі. Пад губачком.* Сач., Д, 215.

**ГУ'ГАЦЬ** *незак.* Буркаваць. *Трашчалі сарокі, гугалі галубы.* Сач., ЧН, 134.

**ГУ'ГЕЛЬ** *м. Кул.* Булачка. *Накорміш яго гугелямі, та ён не будзе мужыком.* Серж., СРБП, 59; Лучыцы Маз.

**ГУ'ГЛЯ** *ж.* Вузел. *Яна як поралася ля печы, так і пабегла на вуліцу ў адной доўгай палатнянай сарочцы, раскасмачаная, забыўшыся нават закруціць у гуглю свае доўгія рудыя валасы.* Сач., ЗМП, 104.

**ГУЗА'К** *м.* Нараст (на дрэве). *Кара на іх патрэскалася, паміж шурпатых гузакоў лёгка можа ўмясціцца дзіцячы кулак.* Дан., ЗА, 120. *А дуплаў тых, праўду кажучы, усё болей прыбаўлялася ў тоўстым, з гузакамі ствале бярозы.* Дан., Н, 36.

**ГУЗЯ'КА** *м.* Гуз (пукатасць на целе чалавека). *А на лбе сядзеў гузяка.* Саб., II, 43.

**ГУКА'ЦЬ** (гукать) *незак.* Размаўляць. *Другій сядить на долу, Поглидаить на ўдову. Дунай, Дунай, Дунаёчик! Тиной рыбу гоняить, Из удовкой гукаить: Дунай, Дунай, Дунаёчик.* Рам., БС, VII, 32; Гом.

**ГУ'ЛІ** *толькі мн. Заал.* Галубы. *Люли, люли, люли! Прилятели гули, Сели на варотях У чырвоных ботях.* Рам., БС, VII, 37.

**ГУ'ЛІШЧА** (гулище) *н.* Гульбішча (гулянка, гулянне). *Ето ж во, де дявоцкія гулища е!* Рам., БС, IV, 9; Гом.

**ГУМЕ'ННІК** *м.* Сторож пры гумне. *Тут ужо былі брыгадзіры дзвюх паляводчых брыгад, гуменнік, механік рухавіка, маладны энергічны хлопец Лявон Шчарбіна.* Крауч., НХП, 354.

**ГУМО'ВІКІ** *толькі мн.* Боты гумавыя. *Апрануты ён быў не намнога лепш за нас, нявольнікаў, праўда, на свой нямецкі лад — гумовікі, чорныя з леямі.* Сач., П, 39.

**ГУМНІ'ШЧА** *н.* Прыгуменне. *А зямлі ўжо ў яго было ўтрая больш; на гумнішчы, пад крыкі падлеткаў, хадзілі коні ў прывадзе ўласнай малатарні, а на вуліцы ля хаты амаль такі ж быў завоз, што і на гары, ля млына.* Рак., БВ, 155.

**ГУ'ПАЦЬ** *незак.* **1**. Стукаць (глуха). *Я ляжаў тады, помню, на каленях у маці, глядзеў на неба, чуў, як гучна гупае капытамі па торнай палявой дарозе, цвёрдай, як ток, конь.* Сач., Д, 425. *Коні... гупалі па мёрзлай зямлі-храпе капытамі, брылі выпражаныя.* Кап., СЖЛ, 19. *Гупаючы па сходцах нагамі, Даніла цяжка падымаўся на свой восьмы*

*паверх.* Саб., I, 102. **2**. Тое, што гасіць. *Таму, як у калгасе далі бацьку пенсію, адзін ужо каторы год гупае ў кузні молатам Апанас Шведзік.* Дан., Н, 6. Параўн. гахаць, гухкаць.

**ГУ'ПНУЦЬ** *зак. да* гупаць у 1 знач. *У сенцах гупнуў на падлогу начоўкамі, што трапіліся пад руку.* Мел., VI, 120.

**ГУРБАЧО'К** *м. памянш.* гурба. *Сасновыя пагоркі сухія, па бярэзніках — азярынкі вады, і толькі ў балоцістай гушчэчы сям-там мільгне абледзянелы гурбачок.* Нав., СТ, 117.

**ГУСЦЕ'ННЫ** (густенный) *прым. Пар. ст.* Вельмі густы. *И трэба им ехать через густенный лес.* Рам., БС, III, 430; Гом.

**ГУСЦІ'ЦЦА** *незак.* Расці, разрастацца густа. *Там, на мяжы, гусціўся маліннік, буяла дрымучая крапіва, у якой аблюбавала несціся адна курыца Лугавых.* Дан., ЗА, 61.

**ГУСЦЯ'Ж** *м.* Гушчар. *З гусцяжу сляды вывелі на чыстую роўную прасеку — чалавек, відаць, абрадаваны, што выбіўся нарэшце з зараснікаў, папраставаў па ёй.* Сач., Д, 74. *Дарога, што вілася, бегла спачатку па полі, потым па гусцяжы — ажынніку, алешніку, маладым асінніку,— пакуль, нарэшце, не ўпаўзла ў лес.* Сач., ЧН, 185. Параўн. гушчэча ў 1 знач.

**ГУТАТА'ХАЦЦА** *незак.* Гушкацца. *А тады на бярэзину ускочила и давай гутатахацца: гутата-гуляля!* Рам., БС, IV, 139; Прыбар Гом.

**ГУ'ХКАЦЬ** *незак.* Тое, што гасіць. *У кузнях гухкаў аб кавадла молат і цяжка соп кавальскі мех.* Сач., БРВ, 65. Параўн. гахаць, гупаць у 2 знач.

**ГУШЧЭ'ЧА** (гущэча) *ж.* **1**. Тое, што гусцяж. *А тут гушчэча вочы выдзирае.* Серж., СРБП, 94; Лучыцы Маз. *Тут няма гарызонту, у лясной гушчэчы сядзіш, нібы ў нейкім вялізным склепе ці ў яме, адрэзаны ад усяго жывога свету.* Сач., ЗМП, 239. *Ведзе их у гущэчу да ў тхлань.* Серж., СРБП, 46; Лучыцы Маз. *Хлапчукі-падшывальцы, чапляючыся рукамі за парэпіны кары, залазілі ў самую гушчэчу і абабіралі цвет, каб у выпадку якой прастуды іх маці маглі заварыць яго.* Саб., I, 22. **2**. Гушча (месца найбольшага скопішча каго-н.). *Пахадзіў між лавак у людской гушчэчы.* Саб., I, 101.

**ГЫ'РКАЦЬ** *незак. Груб.* Пакрыкваць, злосна адказваць. *Я ні на каго не гыркаў.* Шам., ВТБ, 292. Параўн. гырчэць.

**ГЫРЧЭ'ЦЬ** *незак.* Тое, што гыркаць. *Адна на пошце гырчэла, другі слова чалавечага не сказаў.* Шам., V, 100.

**ГЭ'ЙКНУЦЬ** *зак.* Крыкнуць (дружна). *Гэйкнем-гэйкнем, жыта аж палягае, і ні ў каго голас той не псуўся.* Губ., НКП, 247.

**ГЭ'ПНУЦЦА** *зак.* Шлёпнуцца, пляснуцца. *Андрэйка ўсміхнуўся, спрытным рухам кінуў мяч, і ён гэпнуўся аб падлогу.* Гам., ША, 35.

**ГЭ'ПНУЦЬ** *зак.* Стукнуць, ударыць. *Да як усхапіў яго за грудкі ды гэпнуў аб зямлю, ажно змей па пояс у той ток урэзаўся.* ЧК, I, 232; Петр.

**ГЭ'СТЫ** *займ.* Гэты. *Сумно стало чалавеку ў гэстуй нетры.* Серж., СРБП, 94; Лучыцы Маз.

**ГЭТАКСА'МА** *прысл.* Таксама. *Ён апрануты гэтаксама, як і ўночы, калі быў у Гарывадаў.* Сач., АП, 257.

## Д

**ДАБРА'К** I *м.* Добры чалавек. *Калі знаёмыя салдаты, з якімі ён, дабрак, амаль пасябраваў, прыйшлі і выгналі яго з паравоза.* Шам., I, 237.

**ДАБРА'К** II *м.* Тое, што грыб-

бялун. *Столькі «дабракоў» — так ласкава ў нашых мясцінах называюць белыя грыбы — у лесніковых кашах зрабілі падзею.* Шам., I, 22.

**ДАБРА′НЕЦ** (добранец) *н.* Развітанне. *На добранец, да широкое поле, жито ядреное.* Радч., ГНП, 55; Гом.

**ДАБРАХО′ЧЫ** (доброхочы) *прым.* Добразычлівы. *А то матка моя видела лясуна, доброхочаго.* Рам., БС, IV, 93; Балсуны Раг.

**ДАБРА′ЧЫ** (добрачый) *прым.* Вельмі добры, выдатны. *И уродзилося тое проса добрачаа.* Рам., БС, IV, 59; Калбоўка Раг. Параўн. дабрэнны ў 1 знач.

**ДАБРО′** *н.* Дастатак. *Жыла-была девочка у добре, и с того добра попалася ў гора.* Рам., БС, I—II, 117; Перарост Гом.

**ДАБРЭ′ННЫ** *прым.* **1**. Тое, што дабрачы. *Ну, а ўвосень мы капалі на тым полі картоплі і ўсе дзіваваліся: якія дабрэнныя параслі.* Палт., КС, 55: **2**. Дабрадушны, лагодны. *Пайду. Чаму не пайсці. Такі дабрэнны кавалер.* Нав., СТ, 43. **3**. Добры. *Каня купіць у Юравічах дабрэнного можно.* Мел., V, 237.

**ДАБРЭ′СЕНЬКА** (добресенько) *прысл. памянш.-ласк.* добра. *Дай же Боэ, моёй ўнучцы: Легесенько, добресенько, скоресенько.* Шэйн, III, 388; Ельск.

**ДАБРЭ′СЕНЬКІ** *прым. ласк.* добры. *А мой свёкар дабрэсенькі.* РП, 386; Ельск.

**ДАВО′ЛАН** *прым.* Здаволены. *Дагадаўся мудры цар, што тагды чалавек будзе даволан, як ему песком прысыплюць вочы.* Серж., СРБП, 16; Лучыцы Маз.

**ДАВЯРА′ЛЬНА** *прысл.* Даверліва. *Алена ўсміхаецца і давяральна кажа: «А я танцор дрэнны».* Лупс., ВТ, 123.

**ДАЖО′Н** *м.* Абрад. Дажынкі. *У нас сёння дажон, дажон, Вып'юць бабкі ражон.* ПНСА, 278; Халочча Чач.

**ДАЖДЖАВІ′ЦА** (дождзевица) *ж* Шэрань, намаразь. *У гордого цесця Стоиць зяць за воротами, Що на зяця мьяцець мьяцелица И дробная дождзевица.* Шэйн, III, 433; Дзякавічы Маз.

**ДАК** *часц.* Дык. *Дак он казаў зарэзаць сорок пар волов и двесьце пудов хлеба и сто бочэк віна — на тых восьмеро.* БКЭ, № 34; Юравічы Рэч. // У знач. злучніка. *Вазьмі мяне дамоў, дак я знадаблюся табе калінебудзь.* ЧК, I, 246; Мяркулавічы Раг.

**ДАКАНА′ЦЦА** (даканатца) *зак.* Даведацца, дазнацца. *Як даканатца, чыя праўда?* Серж., СРБП, 17; Лучыцы Маз.

**ДАКЛЫ′ПАЦЬ** *зак.* Дайсці павольна, з цяжкасцю. *Заспявала ў сасонніку, і туды пацягнуліся іншыя партызаны, нават раненыя даклыпалі.* Шам., IV, 468.

**ДАКУЛЬГІ′КАЦЬ** *зак.* Дакульгаць. *У добрага пайдня я ўсё ж дакульгікаў да той павароткі.* Сач., Д, 356.

**ДАКУМЕ′КАЦЬ** *зак.* Зразумець, разабрацца ў чым-н. *Для чаго тыя лыжы, Варка дакумекала сваім бабскім розумам, як спыняліся аднойчы ў яе хаце трое нашых разведчыкаў у белых халатах.* Дан., Ж, 11.

**ДАКУ′ШНЫ** (докушный) *прым.* Дакучны, дакучлівы. *Сказать табе докушную басню?* Рам., БС, III; Беліца.

**ДАЛДО′НІЦЬ** *незак.* Пустасловіць. *Закрые Змітра далонямі вушы, сядзе каля акна і далдоніць сам сабе.* Дан., Ж, 18.

**ДАЛЕ′ЧА** I *ж.* Даль, далечыня. *Аднак гэта прыйшло раней. Прыйшло не хваляй, якая павольна і доўга кацілася з далечы, а з'явілася адразу, падхапіла і ўздыбіла штормам усё моражыццё.* Рак., БВ, 160.

**ДАЛЕ′ЧА** II *прысл.* Далёка. *Моя милая далече, Отдалилась от мене.* Дэмб., ООМГ, I, 531; Гом. Параўн. далячо.

**ДАЛЕ′ЧАНЬКА** (далечанько) *прысл. нар. ст. да* далеча II. *Живеть милый далечанько,*

*письма-граматы не шле.* Рам., БС, I—II, 145; Гом.

**ДА'ЛІ** *прысл.* Далей. *Иде ён далі.* Рам., БС, IV, 10; Ветка. Параўн. д а л я й.

**ДАЛІКАТНАВА'ТЫ** *прым.* Далікатны не зусім, фізічна не моцны. *На Рыгору і адзенне не рыбацкае, і твар бялявы, і бровы выцвілыя, і рукі далікатнаватыя.* Лупс., ВТ, 165.

**ДАЛО'ЎКА** *ж.* Паверхня зямлі, дол. *Вестка аб набліжэнні Савецкай Арміі дакацілася да шыбаеўцаў у канцы лістапада, калі пушча стаяла ўжо бязлітаснай, пачарнелай, і толькі жоўты апалы ліст, якім густа ўслана лясная далоўка, нагадваў аб прайшоўшым леце.* Крауч., НХП, 290. // Падлога. *Я ўпаў ніцма на далоўку і чакаў сваёй апошняй хвіліны.* Саб., I, 61. *Палеглі проста на далоўцы, на саломе, польтамі накрыліся.* Нав., СТ, 370.

**ДАЛЯГА'ЦЬ** *незак.* Адольваць, нудзіць. *Выратавалі. Але і цяпер нешта яму далягае.* Гам., ША, 101.

**ДА'ЛЯЙ** *прысл.* Тое, што д а л і. *У водным мести знайшли лапотки и розочки три; пошли даляй — у другим мести поясочак и розочки три; ще даляй пошли — знайшли сорочку и розочки три.* Рам., БС, IV, 94; Балсуны Раг.

**ДАЛЯЧО'** *прысл.* Тое, што д а л е ч а II. *Нарядилась, привобралась, проводила далячо.* Рам., БС, I—II, 160; Гом.

**ДАМЕ'ЙКА** (домейко) *м. ласк.* дом. *В моем домейку нездоровейко: Отец-батюшка померши лежить, Родна мамонька вже кончается.* Радч., ГНП, 181; Гом.

**ДАМО'ВАЧКІ** (домовочки) *прысл. ласк.* дадому. *А вже солнейко низко; Нам домовочки близко.* Радч., ГНП, 64; Гом. Параўн. д а м о ў к і.

**ДАМО'СКА** *ж.* Дамоўка, гаспадарка. *Сыны гэтыя былі такія рабацяшчыя хлопцы, што, нават парабіўшы ўсю работу ў дамосцы, хадзілі парабкаваць і ў другое царства.* ЧК, I, 228; Петр.

**ДАМО'ЎКІ** *прысл.* Тое, што д а м о в а ч к і. *А Маруся плача, дамоўкі хоча.* Б, II, 135; Дзятлавічы Гом.

**ДАПА'ДНЫ** *прым.* Дападкі, пранырлівы. *Загадчыца фермы Альбіна Адасюк і тая не такая дападная, настырная.* Саб., БАС, 88.

**ДАПЕ'РЦІ** *зак.* **1**. Хутка даставіць куды-н. *Сарваў з месца і гоніць, гоніць на захад... Мусіць, у Нямеччыну хацеў даперці.* Мел., II, 227. **2**. Дабрацца, дайсці хутка. *Бач ты — да самага сакратара абкома дапёр, пісьмо напісаў на зяця.* Мак., ЛА, 55.

**ДАПЕ'ТРЫЦЬ** *зак.* Дабраць розуму, разабрацца. *Усякае лезе ў начальство. А таго не дапетрыць, што ў мяне свой закон, свая ўласць.* Мел., V, 338. Параўн. д а п я ц ь у 3 знач., д а ў м е ц ь.

**ДАПЯКЛІ'ВЫ** *прым.* Які дапякае, выводзіць з раўнавагі. *А там ёсць і сарамлівыя дапяклівыя маладухі.* Лупс., ВТ, 31.

**ДАПЯ'ЦЦА** *зак.* Дацягнуцца з цяжкасцю. *Затонула таа, знатца, дяревня, а столик той плаваа, знатца, с книжкою по воде. Той парубок якся-тыкі допявся, да туу книжку, знатца, и ўзяв ис столика.* Рам., БС, IV, 138; Целяшы Гом.

**ДАПЯ'ЦЬ** *зак.* **1**. Дайсці, дабрацца куды-н. *Я з-пад Камарына, і туды, кажуць, ужо дапяў гад.* Сач., БРВ, 241. *Колькі Агата ні дабівалася, куды яна толькі не ездзіла, аж да самай Варшавы дапяла, усюды адно казалі: не знаем і не ведаем.* Саб., I, 227. **2**. Дадумацца. *Табе з тваёй галавой да гэтага не дапяць.* Губ., НКП, 363. Параўн. д а ў м е ц ц а. **3**. Тое, што д а п е т р ы ц ь. *Толькі маці не дапяла, ёй здалося, што Лада, як заўсёды, хоча пажартаваць.* Шам., V, 257. Параўн. д а ў м е ц ь.

**ДАРАЗУМЕ'ННЕ** (даразуменіе) *н.*

Непаразуменне. *Мати-Марея ни ў даразуменіи ответ давала янгалу: потому, як ето й можа быть, я сабе й мужа ня мею?* Рам., БС, IV, 4; Вылеў Гом.

**ДАРМАЕ́Д** *м.* Той, хто не працуе, а жыве на чужыя сродкі. *Я думаю, што камунізм — гэта найвышэйшая форма барацьбы... супраць дурняў, бюракратаў, дармаедаў.* Шам., IV, 171.

**ДАСІГНУ́ЦЬ** *зак.* Даскочыць. *Бацька хацеў саскочыць з воза на лёд, але не дасігнуў і трапіў таксама ў палонку.* Саб., II, 31.

**ДАСХО́ЧУ** *прысл.* Удосталь, уволю. *І так набыўся тут больш, чым трэба, дасхочу.* Сач., А, 22. *Праўда, яда была нішчымная, без солі, але я рад быў, што яе было дасхочу і ўсюды, куды б ні пайшоў, куды б ні памкнуўся.* Сач., Д, 350.

**ДАТУ́ЛЯ** (дотуля) *прысл.* Датуль. *А ти знаеш ты, чаловеча, дорогу дотуля?* Рам., БС, IV, 10; Ветка Гом.

**ДАЎЖЭ́ЗНЫ** *прым. пар. ст.* доўгі. *А тут штодня сачыняў даўжэзныя пасланкі.* Шам., IV, 419.

**ДАЎЖЭ́НЬ** (доўжэнь) *м.* Дошчачка, якой закладваюць паз у вуллі. *Выняли ены з улья снед и доўжэнь.* Серж., СРБП, 58; Лучыцы Маз.

**ДАЎМЕ́ЦЦА** *зак.* Тое, што д а п я ц ь у 2 знач. *Сам ён не мог даўмецца, як гэта здарылася.* Саб., I, 41. *Такую махіну даўмеўся заваліць.* Рак., В, 279. *Не даўмеўся, за каго выскачыць замуж.* Саб., I, 119.

**ДАЎМЕ́ЦЬ** *зак.* Тое, што д а п е т р ы ц ь. *Любіць, дурная. За што толькі, даўмець не магу?* Мел., V, 99. *Гаварылі то гаварылі, ды мы нешта не даўмелі.* Мел., VI, 81. Параўн. д а п я ц ь у 3 знач.

**ДАЎНІ́НА** *ж.* Старадаўнасць. *Уся даўніна вылезла — у адзенні, у паводзінах, у твары.* Шам., IV, 523.

**ДАХАДЗЯ́ГА** *аг.* Чалавек абяссілены, змучаны. *Змітро тым часам не быў у санітарным бараку. Там — дахадзягі.* Нав., СТ, 287.

**ДАЦІНА́ЦЬ** *незак.* Даймаць, дапякаць. *Ён часта дацінаў жонку за тое, што яму амаль заўсёды даводзіцца есці халоднае снеданне.* Саб., ЖЗ, 215. *Яго дацінаў не фізічны боль,— балела душа.* Саб., ЖЗ, 126. *А хто прыдумаў самалёт? — даціналі мы Хведзьку.* Нав., ТЮ, 131.

**ДАЦЬ** ◆ **даць жару** — моцна напалохаць каго-н. *Былі ў старога залатыя рукі, ён рамантаваў зброю, паправіў партызанскую гармату, якая пасля дала добрага жару.* Дан., МН, 62. ◆ **даць загуды**—даць падставу для асуджальных, ганьбавальных размоў. *Хорошая яворинка ув лесе була, Увсим яворочкам загуды дала, Ой одного явора, ой полюбила. Ой близко собе посадила.* Радч., ГНП, 70; Гом. ◆ **даць ляшча** — стукнуць, ударыць моцна. *Тады ён, стаўшы на дыбачкі, сцягнуў яе з плота і даў добрага ляшча пад зад.* Саб., I, 175. ◆ **даць нырца** — унадзіцца піць гарэлку. *Чаго ў паўлітроўку нырца даў?* Губ., НКП, 217. ◆ **даць пад дыхала** — стукнуць у сонечнае спляценне. *Нягледзячы, што «свінячаму хвасту» далі пад дыхала за абразу маёй маткі, не паверыў я ў шчырасць і ласкавасць да мяне тых двух, Шышкі і Лапая.* Шам., ВТБ, 82. ◆ **даць плескача** — гучна ўдарыць па твары. *Другая на яе месцы, пэўне, адспавядала б яго, а то яшчэ і плескача дала б па мордзе.* Саб., I, 156. ◆ **даць прачуханца** — адчытаць, прабраць. *Каб я яго знайшоў, сучага сына, даў бы я яму добрага прачуханца.* Саб., I, 321. ◆ **дыбка даць** — стаць, падняцца на заднія ногі. *А пусцілі — тут і пачалося. Такога дыбка конь даў!* Пал., КЗС, 18.

**ДАЧУ́ШКА-АДЗІНІ́ЦА.** Гл. а д з і н і ц а. *Ой, дачушку-адзініцу на смерць нарадзілі.* Б, II, 483; Пухавічы Жытк.

**ДАЧУ'ХНА** *ж. Ласк.* Дочухна. *Хіба мне, старому чалавеку, жаніцца. Што надзей, тое і добра. Ты глядзі ўжо, дачухна, сябе.* Саб., ЗПД, 25. *На бо пачытай, дачухна, што сястра твая піша.* Саб., I, 128.

**ДВО'ЙКА** (двойко) *ліч.* Двое. *У той хатцы дед и бабка — унучка, сучка — двойко овец и бык половец.* Рам., БС, III, 18; Перарост Гом.

**ДВО'ЙКІ** *ліч.* Два разы. *За двойкі ўбіў мядзьведзь ее.* БКЭ, № 13; Камаровічы Маз.

**ДВО'РЫШЧА** *н.* Дварышча. *Так яно і засталося незабудаваным, тое іх дворышча.* Шам., ВТБ, 224.

**ДЖВЭ'ГАЦЬ** *незак.* Звінець. *У карчах ужо джвэгаў касою.* Кап., СЖЛ, 36.

**ДЖО'ГАЦЬ** *незак.* Лятаць (хутка). *У напоеным мядовым водарам паветры джогалі пчолы.* Дан., МН, 52.

**ДЖЫГА'ЦЬ** *незак.* **1.** Шчыпаць. *Калі я павольней буду ісці, дык замерзну, вунь як за вушы джыгае.* Саб., II, 181. **2.** *перан.* Даць, націснуць балюча. *Хоць і за аброць яго назад не цягне, але і шпорамі не джыгае, каб хутчэй бег.* Пал., КЗС, 49.

**ДЖЭ'НДЖАРУХА** (дженджаруха) *ж.* Франціха. *Пытаютца ў дженджарухи: ти жива-здорова?* Рам., БС, I—II, 241.

**ДЗБАН** *м.* Збан. *Ідзе он ідзе, да жабу несе ў дзбане, да клубочэк коціцца.* БКЭ, № 40; Ужынец Рэч.

**ДЗВЕ'РЫЧКІ** (дзверички) *толькі мн. памянш.-ласк.* дзверы. *Што не буде так свёкорка, як родный татка, Што не буде на вулицу пускати, Хуть и пусте, дак прискаже — не барися, У сеничках, на дзверичках хуть вернися.* Дэмб., ООМГ, I, 570; Рагінь Раг.

**ДЗЕ'ВАНЧЫН** (дзеваньчын) *прым.* дзяўчынін. *Да дзеваньчын бацюхна гасцей спадзяваецца, Сабалямі двор сцеле. А золатам да пасыпае, серабром да палівае.* ЛБВ, 166; Хільчыцы Жытк.

**ДЗЕ'ВЕРКА** (деверка) *м.* Ласк. форма звароту да дзевера. *Деверка, братка, отборони мене! Дзверка братка не отбороняе, ще нагаечку подкидае.* Радч., ГНП, 17; Гом.

**ДЗЕ'ВУХНА** *ж.* Ласк. форма звароту да незамужняй дзяўчыны. *Ой, не, зусім не сапсавалі твае душы, дзевухна!* Лупс., ВТ, 31.

**ДЗЕВЯР'Ё** (**девяръё**) *н. Зборн.* Дзевер і яго жонка. *А девяръё говорать: нам нетках вязуть!* Рам., БС, I—II, 18; Беліца.

**ДЗЕЛ** (дел) *м.* Дзяльба. *Якій там дел быв — дав большаму етый меньшій одного волика, а то ўсё сабе забрав.* Рам., БС, III, 396; Нісімкавічы Раг.

**ДЗЕЛЯЧЭ'** (делячэ) *прысл.* Далёка. *Ці шчэ делячэ? От, кажэ, гэто село нашэ.* БКЭ, № 27; Камаровічы Маз.

**ДЗЕ'НЦА** *н. памянш.* дошчачка, на якую садзіцца папрадуха, утыкаючы ў яе грэбень або кудзелю. *Вечарамі сядзелі яны са Сцяпанам на калодзе ля двара і выводзілі ў два галасы пра сасновае дзенца і дубовую клёпку.* Дан., Ж, 19.

**ДЗЕРАВІ'НКА** (дзерэвінка) *ж. памянш.* дрэва, бервяно. *Бацюхно ты мой, пайдзі ў лес, вырубай дзерэвінку, чоўночэк зрабі, так я поеду рыбку ловіць.* БКЭ, № 1; Тураў.

**ДЗЕРЖАНО'К** *м.* Дзяржанне. *Трахцяць драбінкі, дзержанок вілак падскаквае і глуха стукае аб падсцілку.* Дуд., СС, 7. *Вось яна дайшла да клумбы, спынілася ля таго жалезняка, які была выпусціла з рук цётка Пайліна, узялася за дзержанок.* Сач., Д, 385.

**ДЗЕРКА'ЧЫШЧА** *м. павел.* дзяркач (змецены венік). *А дзеркачышча хату прыбярэ.* ЗП, 233; Тонеж Лельч.

**ДЗЕСЬ** (десь) *прысл.* Тут. *Не ломай ветер сосны ўгоре, моя со-*

*сонка десь при месту.* Рам., БС, I—II, 133; Гом.

**ДЗЕСЯЦІДВО'РКА** *ж.* **1.** Дзесяць двароў. *Проста, калі сяло дзялілі на дзесяцідворкі, яго хата аказалася дзесятай.* Палт., КС, 65. **2.** Жыхарка з дзесяці двароў. *Просім вас, цётачкі, стаць дзесяцідворкамі.* Губ., НКП, 213.

**ДЗЕ'ЎКА** (девка)-**РАСКРАСА'ЎКА.** Гл. раскрасаўка.

**ДЗЕ'ЎЧА** *ж.* Дзеўчаня. *Усмешка скацілася з вуса, І вырас прад дзеўкай Чырвоны, І рушыць пачаў забабоны.* Грам., В, 48.

**ДЗІ'ВА** *ж.* Нешта незвычайнае, цуд. *Видав диву дивную, чуду чудную.* Рам., БС, I—II, 29; Гом.

**ДЗІВАВА'ННЕ** (дзивованьне) *н.* Здзіўленне. *Там сонейко да купалосо, А Ганка да дзивоваласа. Што з етаго дзивованьня Дай сама упала.* Шэйн, III, 414; Дзякавічы Маз.

**ДЗІВАВА'ЦЦА**- (дзивовацца) *незак.* Здзіўляцца. *Там сонейко да купалосо, А Ганка да дзивоваласа.* Шэйн, III, 414; Дзякавічы Маз.

**ДЗІВА'ДЛА.** Гл. дзівак-дзівадла.

**ДЗІВА'К-ДЗІВА'ДЛА** *м.* Вялікі дзівак. *Я, ведаеце, стары дзівак-дзівадла, але ўмею бачыць глыбей, чым другія.* Шам., II, 417.

**ДЗІ'ЛЬНЫ** (дильный) *прым.* Споднi. *Еде же, еде же, милый, на торжочек, Да купи, милый, да дильную сорочку.* Радч., ГНП, 156; Гом.

**ДЗІЦЯ'ТУШКА** (дитятушка) *м. ласк.* дзіцяня, дзіцянё. *Прощай-прощай, отец-матушка,— десь я у вас не дитятушка.* Рам., БС, I—II, 71; Гом.

**ДЗЯВІ'ЧКІ** (девички) *толькі мн.* Вячоркі. *Приде Иваночка в неделю, Пріеде Иван на девички, Принесе Агапе черевички.* Радч., ГНП, 88; Гом.

**ДЗЯ'ДЗІНКА** (дядинка) *ж.* Дзядзіна. *А дядинку тую яго привязали к конскому хвосту и пустили у чистое поля.* Рам., БС, III, 289; Гом. Параўн. дзядна.

**ДЗЯ'ДНА** (дядна) *ж.* Тое, што дзядзінка. *Покуль волики напасаются, Усе нивочки засеваются; И туды рожок и сюды рожок, А нам, дядна, вынесь пирожок.* Радч., ГНП, 122; Гом.

**ДЗЯ'ДЫШЧА** (дядыща) *м.* Дамавы. *У мойго дядыща хвост з помялища: ик вылезя, дык и тябе заволоча.* Рам, БС, III, 34; Гом.

**ДЗЯ'ЖКА** *ж. Памянш.* Лычка. *Ігнаціха размотвала лазовы верч — мерылася кроіць дзяжкі на другую пару лапцей.* Кап., СЖЛ, 24.

**ДЗЯ'КЛА** *н.* Аброк натурай. *Як і некалькі стагоддзяў назад, плацілі войту ці дзесяцкаму дзякла, мезлева, грашовую дань.* Сач., Д. 143.

**ДЗЯЛЕ'НЬКАЦЬ** *незак. гукаперайм.* пра спеў жаўранка. *Высока ў небе дзяленькаў жаўранак.* Саб., I, 223.

**ДЗЯННЫ'** (дянный) *прым.* Дзённы. *И ён у доми верный слуга, и ў дворе дянный и ношный сторож.* Рам, БС, IV, 112; Васільеўка Гом. *Будем с тобой сватацца, братацца, отбяром у раба божаго криксы и плаксы, и дянныя, полудянныя.* Рам., БС, V, 32; Стаўбун Раг.

**ДЗЯТВА'** *ж. Зборн.* Дзетвара, дзеці. *Разбягаецца дзятва са школ па хатах.* Дуд., С, 11. *Будынак, бадай, самы прыгожы ў сяле. І ўсё ж малаваты для вясковай дзятвы.* Нав., Б, 132. *То з крэктам вылаецца, калі не патрапіць шастом у крыгу і той байтане ў бяздонную глыб, то азірнецца і крыкне на дзятву.* Рак., В, 230. *Вітаўся з імі, дзятвой, за руку, плёў страшэнныя небыліцы.* Нав., ВС, 34.

**ДЗЯ'ТЛІНЫ** *прым.* Дзятлаў. *Бача, стаіць дуб; на тым дубе дзятлінае гняздо.* ЧК, I, 43; Гом.

**ДЗЯ'ЎКАЦЬ** *незак.* Балбатаць. *«Дурная, дык дурное і дзяўкаеш»,— аж як бы ўзлаваўся Мікодым.* Саб., I, 238. *«Ды не дзяўкай ты»,— заклапочана буркнуў Мікодым.* Саб., I, 224.

**ДЗЯЎЧО'** *н.* Дзяўчына-падлетак. *Гэтае няшчаснае дзяўчо баялася аднолькава і Лойке і нас.* Шам., IV, 68.

**ДЗЯЎЧО'ШКА** (дявчошка) *ж. ласк.* дзяўчынка. *Дак ён придя к богатому, да й работаа за кусочак хлеба, абы б дав подъести, а ў двор — то и нема ничого, а ў дворе и баба ёсть и дявчошка малаа ёсть.* Рам., БС, III, 390; Нісімкавічы Раг.

**ДЗЯЎЧЫ'НІН** *прым.* Дзявочы. *Вось цяпер безнадзейна шукаю сінія вочы дзяўчыніны.* Дуд., СС, 49.

**ДЗЯЦІ'НА** *ж.* Дзіця (пра дачку). *«Здрастуй, здрастуй, мая цесцюхна».— «Здрастуй, здрастуй, да мой зяцюхна. Ты ссушыў маю дзяціну».* ВП, 237; Гом.

**ДЗЯЦІ'НІЦЦА** *незак.* Паводзіць сябе несур'ёзна, па-дзіцячаму. *Глядзі ты, дзяцініцца пачаў Антон на старасці.* Дан., Ж, 157.

**ДЗЯЧУЧО'К** (дячучок) *м.* Дзячок. *Сам молодый дячучок, росту так сярэдьняго.* Рам., БС, IV, 93; Балсуны Раг.

**ДЛЕ** *прыназ.* Для *А которы горки, Кидай дле моеей жонки.* Шэйн, III, 389; Ельск. *Есь у мене мамочка дле того, Ена мене хорошо нарядзиць.* Шэйн, III, 416; Дзякавічы Маз.

**ДЛЯ'ЦЦА** *незак.* Бавіцца, марудзіць. *Иди, доня, не дляйся, Да на мамку не надься.* Радч., ГНП, 153; Гом. *Едзь, едзь, Никипорко, не дляйса, Бо уге мой бацюхна прибрайса.* Шэйн, III, 401; Дзякавічы Маз.

**ДО** *безасаб. у знач. вык.* Досыць. *Распісацца ўмее, і до.* Сач., Д, 182.

**ДО'ЛЮХНА** *ж. Паэт.* Доля, лёс. *Тольки ўчула невехна, рано по водицу йдучи, свою долюхну клянучи.* Рам., БС, I—II, 43; Гом.

**ДО'НЕЧКА** *ж. Памянш.-ласк.* да д о н ь к а. *У мяне сыночка ніводнага, толькі донечка Ганнусенька.* Б, II, 137; Гом. *Дзесь на даліне мне пярыны сваёй донечцы Кацярыне.* ВП, 136; Дуянаўка Гом.

**ДО'НШЧЫК** (донщик) *м.* Данскі казак. *«Молодая вдова, чи не пойдешь за мене?» — А я донщика люблю, я за донщика пойду».* Радч., ГНП, 143; Гом.

**ДО'НЬКА** *ж.* Дачка. *Нічога, донька. Я — хуценька. Не забудзься накарміць Саўку з Нюркай.* Дан., Ж, 6. Параўн. д о н е ч к а.

**ДО'СІ** *прысл.* Па сённяшні дзень. *Але можа і праўда ўжо нечага за іх баяцца, можа ў іх там і немцаў досі няма, а нашы даўно прыйшлі, савецкія.* Сач., А, 29.

**ДО'ЎБІЦЬ** *незак.* Стукаць. *Пашлі аны за таго медзьведзя, дай доўбяць у хату.* БКЭ, № 30; Камаровічы Маз.

**ДО'ЧА** *ж. памянш.-ласк.* дачка. *Кажэ мачыха до своей дочы: «Відзіш як тая зрабіла — і ты так зрабі».* БКЭ, № 44; Вадовічы Рэч. Параўн. д о ч а р.

**ДО'ЧАР** *ж. ласк.* дачка. *Утапіў ты первую маю дочар.* Б., II, 440; Алешын Раг.

**ДРАБІ'НЦЫ** *толькі мн.* Драбінкі. *Калёсы моцна падкідала на карэннях, і я трымаўся абедзвюма рукамі за драбінцы, каб не выскачыць дзе-небудзь на звароце.* Сач., БРВ, 156.

**ДРАБЧА'СТЫ** (дробчастый). *прым.* Раскошна аздоблены. *Скатерти мои дробчастыя, Ти мне горы вами устилати, Негде мне вас подевати.* Радч., ГНП, 20; Гом. Параўн. д р а п ч а с т ы.

**ДРАВІ'ШЧА** (дровища) *толькі мн.* Дровы. *Наши братики дружны пошли у лясища да назбирали дровища.* Рам., БС, III, 429; Беліца.

**ДРАВЯ'ЧЫНА** (дровячина) *ж.* Дрэва. *Ну, приходя к сосне, закинув плеть, щоб уже лезти, да так яму случилось, що ён от тыя дровячины отвярнувся на минуту.* Рам., БС, IV, 48; Гом. *Найшла хмара, ён под дровячину и став.* Рам., БС, IV, 6; Гом.

**ДРАГО'ЛЬ** *м.* Чалавек, дрыжачы ад старасці. *Вот значитца, так*

*то було здавну, спачатку, у старину: што як выйдя чаловеку восемдесят годов, или семдесят, и ён уже значитца станя драголь, работать ня здолея — дак што з яго — дак яго треба ўже у лоповицину.* Рам., БС, IV, 180; Карма Гом.

**ДРАМУ'ШЧЫ** *прым.* Дрымучы. *Заехала наша братьтя на ношлег у пущу, да ў драмущу — где хрен да капуста!* Рам., БС, III, 429; Беліца.

**ДРАПА'Ч** *м.* Драпка. *А калі паны чай п'юць, то й кураць. Дзярэ, падла, нібы драпачамі.* Пал., КЗС, 16.

**ДРАПЧА'СТЫ** (драпчастый) *прым.* Тое, што драбчасты. *Пороги еловые А столики тесовые; Скатерти драпчастые,— А усе гости не частые.* Дэмб., ООМГ, I, 531; Гом.

**ДРА'ЧА** *ж.* Бойка. *Споравалі, споравалі і сучынілі між сабой драчу.* ЧК, 245; Мяркулавічы Раг.

**ДРОЗД-БЕЛАБРО'ВІК** *м. Заал.* Від дразда. *Проста з-пад маіх ног з трэскам сарвайся дрозд-белабровік.* Дан., ЗА, 243.

**ДРУЖЫ'НА** *м.* Муж. *Не лежала, моя мати, ни день, ни годину, Изсушила мене, мамочка, неверна дружина.* Радч., ГНП, 147; Гом.

**ДРЫГАТА'ЦЬ** *незак.* Рабіць рэзкія рухі. *Малый воробейко по двору ходить, птичек ловить; Курочки не хочуть, лапками дригочуть.* Радч., ГНП, 149; Гом.

**ДРЫНЧА'ЦЬ** *незак.* Адзывацца перарывістым дрыжачым гукам. *Рая «крыўлялася», голас яе дрынчаў, ламаўся.* Шам., II, 45.

**ДРЭ'БЫ** *толькі мн.* Кроквіны. *Будойля асунулася, сцены пакрывіліся, стрэхі пагнілі або вецер паздзіраў, толькі дрэбы тырчаць, бы косці з дохлага каня.* Серж., КАБП, 35; Лучыцы Маз.

**ДРЭ'МА** (дрема) *ж.* Соня. *Дрема дремле под куделей, Дрема дремле под шовковой; Устань, дрема, свёкор еде.* Дэмб., ООМГ, I, 531; Гом.

**ДРЭ'НЬКАЦЬ** *незак.* Званіць. *Нарэшце, вартаўніца дрэнькала ў стары вышчарблены званок, і стрыжаныя шасцікласнікі гаманлівай талакой зрываліся з месца.* Нав., В, 156.

**ДУ'БА** *прысл.* Дыбка. *Взялі его раздзеваць — як поцяглі за штаны, так прыгнуў хвост, так і стаў дуба.* БКЭ, № 21; Камаровічы Маз.

**ДУБ'Ё** *н. Зборн.* Дубовы лес. *На тым вострови правогромный лес, дубъё.* Рам. БС, III, 356; Буда Раг.

**ДУБІ'ШЧА** (дубища) *н. павел.* дубец. *Ня высек жа лутища, да высек доброе дубища.* Рам., БС, III, 429; Беліца. *И ссылаю вас дубищи у гнилыя дуплищи.* Рам., БС, V, 84; Карма Гом.

**ДУБЛЯВА'ТЫ** (дублеватый) *прым.* Дуплаваты. *Чому дуба не рубати, що дуб дублеватый.* Радч., ГНП, 14; Гом.

**ДУБЯНЯ'ТКА** (дубенятко) *н. памянш.-ласк.* дуб. *На мори на лукоморъи стоять три дубенятки.* Рам., БС, V, 85; Гом.

**ДУ'ЙКА** *ж.* Завея, замець, завіруха. *Дуйка была такая, што не відаць было нічога за дваццаць-трыццаць крокаў.* Сач., ЧН, 272. *Яно і не дзіва — дзе ж яшчэ ёсць такі прастор ветру і дуйцы.* Сач., Д, 165.

**ДУ'МАЛКА** *ж.* Галава (розум). *Думалка твая не туды павернута.* Губ., НКП, 234.

**ДУ'МНА** *прысл.* Задуменна, заклапочана. *І на душы ў мяне было трывожна-трывожна. І думна-думна.* Сач., А, 12.

**ДУ'МНЫ** *прым.* Загадкавы. *Соснився мне, мой сын, сон дивный, прадивный, думный, прадумный.* Рам., БС, III, 385; Нісімкавічы Раг.

**ДУНДУ'К** *м.* Дурань, цурбак. *Я гавару пра звычайных немцаў. Яны дундукі парадачныя. Нашыя іх вакол пальца абводзяць.* Нав., СТ, 113.

**ДУПЛІ'ШЧА** (дуплище) *н. павел.* дупло. *И ссылаю вас дубищи у гнилыя дуплищи.* Рам., БС, V, 84; Гом.

**ДУРАВА'ТЫ** (дуроваты) *прым.* Дурнаваты (разумова абмежаваны, тупы). *Була ў бацькі дочка, да вельмі дуровата і сьлепая трохі.* БКЭ, № 26; Камаровічы Маз.

**ДУРАТА'** *ж.* Дурасць, глупства. *Якую дурату ты ўбіла сабе ў галаву!* Шам., ВТБ, 365.

**ДУРНІ'ЦА** *аг.* Жанчына безразважная, неразумная. *Маладыя, практычныя асуджалі яе: дурніца, магла леснічыхай стаць, жыла б што пані, а яна выбрала трактарыста мурзатага.* Шам., ВТБ, 21.

**ДУРНІ'ЧКА: на дурнічку**—дарма, не працуючы. *Увесь час і цаляе, каб на дурнічку, нічога не робячы, пражыць.* Крауч., НХП, 561.

**ДУРНУ'ЛЯ** *ж. Ласк. да* д у р н і ц а. *«Дурнуля, я ж магу па вушы ў яго закахацца»,— сароме-ючыся сама сябе, думала Ларыса.* Дан., МН, 72.

**ДУ'РЫКІ** *толькі мн.* Свавольства, гарэзнасць. *«Хлопцы! Прэмія блізка»,— перапыніў Шчэрбавы дурыкі Качанок.* Шам., ВТБ, 16.

**ДУХАВІ'ТЫ** *прым.* Духмяны, пахучы. *Гарачае майскае сонца прыпякала амаль зусім па-летняму, і ад драўляных сцен школы ішоў духавіты пах свежай смалы.* Крауч. НХП, 545.

**ДУХМЯ'НІСТЫ** *прым.* Вельмі духмяны. *А праз вокны заглядвае ў хату духмяністая зорная ноч.* Лупс., ВТ, 82.

**ДУШО'К** *м. толькі адз.* Гарачы чалавек, ад якога павявае цяплом, жарам. *На што мне кожушок, у мене Елена душок: Сама упоцее, и мене нагрэе.* Шэйн, I, 77; Горволя Рэч.

**ДЫБКА'** *прысл.* Дыбам. *Валасы дыбка падняліся.* Лупс., ВТ, 240. *У мяне аж валасы дыбка сталі.* Саб., ЖЗ, 10.

**ДЫ'ЛДА** *аг. Пагард.* Чалавек высокі, нязграбны. *І Жарыку прыемна, што ён вырас. Можа скора дагоніць і таго дылду Яшку, які ў двары ўсімі камандуе.* Дан., ЗА, 229.

**ДЫМНУ'ЦЬ** *зак.* Закурыць (зацягнуцца дымам). *Дык як — дымнуць есць?* Мел., II, 160.

**ДЫ'ХАЛА.** Гл. д а ц ь.

**ДЫ'ХЛІ** ◆ **дыхлі выцягнуць** — сканаць. *«Гэй ты, сухарэбрыца! — крычала Румба праз паркан.— Ці хутка з цябе дыхлі выцягне?»* Нав., ТЮ, 133.

**ДЭПЕ'Ш** (депеш) *м.* Дэпеша. *И сичас депеш послать к Кейсару, што Христа поховали.* Рам., БС, IV, 5; Вылеў Гом.

**ДЭФЕНЗІ'ЎШЧЫК** *м.* Супрацоўнік дэфензівы. *Дэфензіўшчыкі ўсю вашу хату перавярнулі, кніжкі нейкія знайшлі.* Саб., ЖЗ, 97.

## Е

**ЕКУРА'Т** *прысл.* Акурат. *Бачыць, адкуль ни вазмиса бежиць лось и екурат кале зайца.* Серж., СРБП, 24; Лучыцы Маз.

**ЕЛЕ'Ц** *м. Абрад.* Дрэўца з кветкамі і каласамі ў караваі (на вяселлі). *Звали нас елец вить, казали мёд, вино пить.* Радч., ГНП, 89; Гом.

**Е'ЛЕЧКА** *ж. памянш.-ласк.* упрыгожанне на вясельным караваі. *Коли тоя ягода поспее, И к нашим елечкам приспее.* Радч. ГНП, 89; Гом.

**ЕПАНЧА'** (епаньча) *ж.* Апанча. *Я зниму епаньчу, твое ножки ўворочу.* Рам., БС, I—II, 99; Гом.

**ЕРАПЕ'НІЦЦА** *незак.* Упірацца, гарачыцца. *Ты, Раман, не ерапенься. Гэта табе не пры Самсею.* Мак., КЛЖ, 87.

**Е'СЕКА** *цяп. ч. да* быць. Ёсць. *Выйду, бывала, з касою. Эх! Бач, і плывунок есека.* Кап., СЖЛ, 61.

Параўн. е с ц е к а, ё, ё с ц е к а.

**Е'СТАЧКІ** (есточкі) *незак.* Есці (яда, ежа) (у спалучэнні з дзеясл.). *Мархва Грыца спалюбіла Ды естачкі паднасіла.* ЖП, 99; Балотня Раг. *А вечернички, мое соколы, чаго рано прилетели, а ти есточки захотели?* Рам., БС, I—II, 340; Гом. Параўн. е с т к і.

**Е'СТАЛЬКІ** (естольки) *прысл.* Столькі. *Ще похваля пан, що на мести естольки було вовков забито.* Рам., БС, IV, 110; Васільеўка Гом.

**Е'СТКІ.** Тое, што е с т а ч к і. Радч., ГНП, 12; Гом.

**Е'СТЫ** (естый) *займ.* Гэты. *Ева говора: «Спробуй естаго яблока з естаго древа!»* Рам., IV, 2; Вылеў Гом. Параўн. е т ы.

**Е'СЦЕКА.** Тое, што е с е к а. Радч., ГНП, 6; Гом. *Не. Такога ворага не ведаю. Такога ворага не было. Есцека, як бачыш, злы чалавек. Страшны.* Шам., V, 243. Параўн. ё, ё с ц е к а.

**Е'ТА** (ето) *часц.* Гэта. *А ето унадився туды змей.* Рам., БС, III, 76; Перарост Гом.

**Е'ТКІ** (еткий) *займ.* Гэтакі. *Мы ще з роду ня бачили етких песяльников нійде і николи!* Рам., БС, IV, 115; Доўск Раг.

**Е'ТЫ** (етый) *займ.* Тое, што е с т ы. *Господь етыя дела увознав, повялев етому древу гольлё поднять повышай, штоб ня могли достать.* Рам., БС, IV, 2; Вылеў Гом. *Повенчай Гапочку в недзелю, Не ў ету, то в тую.* Шэйн, III, 399; Дзякавічы Маз.

**Ё.** Тое, што е с е к а. *О, не, кажаць сваты: ё ў нас такие два стралцы, што скрозь их ни вужака не проповзе, ни муха не пролятить.* Рам., БС, III, 74; Перарост Гом. Параўн. е с ц е к а, ё с ц е к а.

**ЁСЦЕКА.** Тое, што е с е к а. *Караблі ў нас ёсцека, а народу нямашака.* ЧК, II, 33; Шчароўскія Буды Раг. *Чаго, гэта, Акімавіч, брадамі ходзіце? Ёсцека ж дарога праз сенажаць.* Сач., Д, 13. Параўн. е с ц е к а, ё.

## Ж

**ЖАБУРЫ'ННЕ** *н. Зборн.* Жабіна ікра. *Па вёсцы, як жабурынне па вадзе, папаўзлі слізкія, агідныя плёткі.* Шам., II, 279.

**ЖАГНА'ННЕ** *н.* **1.** Учыненне жэста рукой, падобнага да крыжа. *Жагнаннем сваім ты мяне не загітуеш. Не хрышчоным сябе лічу.* Пал., КЗС, 45. **2.** Благаславенне. *Не ціхлі, не адчэпліваліся матчыны жагнанні.* Мел., ПН, 445.

**ЖАГНА'ЦЦА** *незак.* Хрысціцца. *Прыехалі... Пакладіся спаць... Бацька ўсё жагнаецца, ніяк супакоіцца не можа.* Мел., V, 75. *Дамеціха, што жагналася кожны раз, калі бачыла няшчасную, жахлівую пустэчу, зірнуўшы на сохі вечарам, сумелася.* Мел., VI, 181.

**ЖАГНА'ЦЬ** *незак.* Благаслаўляць. *Праз зімовую сінюю здань Ясна прырода малога жагнае, У яснай, адвечнай купелі купае.* Грам., В, 41.

**ЖАДО'МЫ** *прым.* Жаданы. *Цяпер жа — ніякіх прыкмет блізкай і такой жадомай вільгаці.* Сач., Д, 165.

**ЖАКЕ'ЦІНА** *ж.* Жакет. *Ён бачыў перад сабой Наталю, звычайную вясковую жанчыну ў простай, свайго шыцця, жакеціне.* Рак., В, 221.

**ЖАЛАВА'ЦЬ** *незак.* Шкадаваць. *Да калі ты мене так жалуеш, то людзі мне раілі, што есь за Сінявскою горою Огнянна гора.* БКЭ, № 31; Юравічы Рэч. Параўн. ж а л к а в а ц ь.

**ЖАЛКАВА'ННЕ** *н. толькі адз.* Жаль. *Караблік пабліскаваў «аснасткай», плыў і плыў сабе*

*далей, а мы з жалкаваннем сачылі за ім.* Дан., ЗА, 239.

**ЖАЛКАВА'ЦЬ** *незак.* Тое, што жалаваць. *«Лепей бы мы іх спажылі»,— жалкавала Куліна.* Дан., ЗА, 80.

**ЖАЛЛІ'ВА** *прысл.* Жаласна. *Ён заўважыў, як у маці жалліва смыкнуліся куточкі губ, і падумаў, што яна вось-вось заплача.* Мел., V, 110.

**ЖАЛЯЗНЯ'К** *м.* Рыдлёўка. *І, узяўшы ў рукі жалязняк, ён пачаў прысыпаць шула зямлёю.* Сач., Д, 311.

**ЖАЛЯЗЯ'ЧЧА** *н. Зборн.* Жалеззе. *Торба з сухарамі, якую несла назад Агата, здалася гэтакай цяжкай, нібы напакавана была не сухарамі, а жалязяччам.* Саб., І, 222.

**ЖАНЕ'Ц** *м.* Жнец. *Старыя людзі расказваюць, што раз калісь касары і жанцы як сталі свістаць, дзетвара запішчала ў дудкі, дык і вецер прыляцеў.* ЧК, І, 290; Рэч. *Найму жанцоў — семсот малайцоў, Настаўлю копак, як на небе ж зорак.* ЗП, 216; Галубіцы Маз.

**ЖАНІ'ДЗЬБАЧКА** (женидьбочка) *ж. памянш.* жаніцьба. *Да два браточки сидело, и сидели говорили про женидьбочку свою.* Рам., БС, І—ІІ, 43; Алешня Раг.

**ЖАНІХА'ННЕ** (жаниханьне) *н. толькі адз.* Заляцанне. *Протерала красная девочка долю черлз свою волю, череаз тое череаз погуляньне, череаз жаниханьне.* Рам., БС, І—ІІ, 149; Перарост Гом.

**ЖАНІХА'ЦЦА** *незак.* Заляцацца. *Хіба мне, старому чалавеку, жаніхацца. Што надзеў, тое і добра.* Саб., ЗПД, 25. *А тыя бацькі з дзецьмі жывуць па-старому, толькі хлопцы не жаніхаюцца да Палагеі.* ЧК, І, 233; Петр.

**ЖАНІ'ХНА** (жаніхно) *м. Дакор.* Жаніх. *Маладзенькі жаніхно, падбяры сваю шубку.* ЛБВ, 151; Хільчыцы Жытк.

**ЖАРАБО'ЧАК** *м. Памянш.-ласк.* Жарэбчык. *И подарив татарин свойму хресьнику жарабочка на каши.* Рам., БС, ІІІ, 148; Гарадзец Раг.

**ЖА'РАНКА** *ж. Кул.* Бульба (смажаная). *Згатавала на вячэру «жаранку» — так тут называюць бульбу з салам, смажаную не на газавай пліце, а ў грубцы, «у духу».* Шам., ВТБ, 232.

**ЖАРНІ'ЦА** *ж.* Жароўня. *Прышлі до хаты — взяў чэлавек жарніцу, зачэпіў воўку на шыю, дай кажэ: «Ото мой розум — несі».* БКЭ, № 39; Ужынец Рэч.

**ЖАРЫ'НКА** *ж.* Вугельчык, вугольчык. *А то ще коли жарынка отскоча с печи, дак яе растерть да дать выпить.* Рам., БС, V, 54; Чарацянка Гом.

**ЖАЎТАБРУ'ШКА** *ж. Заал.* Пліска. *На радасць, між іншым, жаўтабрушкам ды чэкайкам, што ў змроку густых кустоў кожнае лета ўюць свае гнёзды.* Лупс., ВТ, 224.

**ЖАЎТАПЁС** *м. Геал.* Пясчанік жоўты. *У сасняках, насаджаных па пустых бясплодных жаўтапёсах, трапляюцца голыя палянкі.* Нав., СТ, 335.

**ЖАЎТО'ВІЦА** *ж.* Назва хваробы па колеру хворага месца. *А скула ж ты скуляница и синяя муравица, жовтая жавтовица и белая бяловица.* Рам., БС, V, 90; Карма Гом.

**ЖАЎТУ'ШКА** *ж. Заал.* Птушка жаўтаватага колеру. *Калі жаўтушкі пакідаюць гнёзды.* Лупс. НБД, 90.

**ЖАЧО'К** *м.* Сачок, сак, падхватнік. *Саху замяніла тут сетка, Ды нерат, ды хітры жачок.* Грам., В, 97.

**ЖДА'ЦЦА** *незак.* Чакаць. *Ждайся, ждайся, да не дождайся.* ЧК, І, 255; Мяркулавічы Раг.

**ЖМІ'НДА** *аг. Пагард.* Скнара, скупы чалавек. *Параска тая праўда — жмінда: усё адкладвала на чорны дзень.* Дан., Ж, 163. Параўн. жміндзіла.

**ЖМІ'НДЗІЛА** *аг.* Тое, што жмінда. *Думае ён і пра свайго*

*дзядзьку. Каб сказаў, што ён жміндзіла, скнара, дык не.* Сач., БРВ, 26.

**ЖНІЎЁ** *н.* Іржышча. *Ад камбайна, выкіроўваючы на дарогу, проста па жніўю ехала параконная брастарка, даверху насыпаная збожжам.* Крауч., НХП, 359.

**ЖО'ГАМ** (жогом) *прысл.* Упоперак. *Змей лопату узяв: ну, Иванька, садися! От ён што сядя, дак ня так — то боком, то жогом.* Рам., БС, 265; Перарост Гом.

**ЖО'ДНЫ** (жуодный) *займ.* Ніводны, ні адзіны. *Жаніх не павінен паднімаць жуоднай рэчы, якую часамі ўпусціць невіеста пры венчаньні.* Серж., ПЗБП, 180; Лучыцы Маз.

**ЖРА'ННЕ** (жраньня) **:на жранне** — на з'ядзенне. *Аж присылая нячистая сила з мора, той самый змей, што хотев яго сратить, каб везти царевну большую яму на жраньня.* Рам., БС, III, Гарадзец Раг.

**ЖРЭ'БЧЫК** *м. памянш.-ласк.* жарабя. *А ў тое кобылы есь жрэбчык, то той можэ цебе возіць.* БКЭ, № 31; Юравічы Рэч.

**ЖУДА'** *ж. Муз.* Гудок (смычковы музычны інструмент). *Як зайграем жа мы. Мой муж — ў дуду, Я молода — ў жуду, Детки — ў жулейки.* Дэмб., ООМГ, I, 536; Гом.

**ЖУКО'ВІНА** *ж.* Пярсцёнак. *Самаю гарэйшаю прыеміетаю бывае, калі ўпадзе з рук веньчальная жуковіна, бо тагды не хібіць хто-небудзь памерці.* Серж., ПЗБП, 180; Лучыцы Маз.

**ЖУЛЕ'ЙКА** *м. Муз.* Жалейка. *Як зайграем жа мы: Мой муж — ў дуду, Я молода — ў жуду, Детки — ў жулейки.* Дэмб., ООМГ, I, 536; Гом.

**ЖУПАНІ'НА** *ж.* Жупан. *Постель мне постеле жовта бурковина. А под головочку — синя жупанина.* Радч., ГНП, 150; Гом.

**ЖУРА'ВАЧКА** (журавочка) *ж. памянш.-ласк.* маладзенькая самка журауля. *А журавочка кряче, полудновать хоче, А маленькій журавок полудновать приволок.* Радч., ГНП, 58; Гом.

**ЖУРАВО'К** *м. памянш.-ласк.* маладзенькі журавель. *А журавочка кряче, полудновать хоче, А маленькій журавок полудновать приволок.* Радч., ГНП, 58; Гом.

**ЖУРБО'ВЫ** (журбовый) *прым.* Журботны. *Поможитя мне выговорить уси скулы и ўси болячки, тридевять журбовых.* Рам., БС, V, 79; Баршчоўка Гом.

**ЖУ'РЫК** *м.* Кісель журавінны. Радч., ГНП, 13; Гом.

**ЖЫГАНУ'ЦЬ** (жигануть) *незак.* Пальнуць (стрэліць). *Мы крычали, мы свистали; нам з дорожки зворочай! Нам з дорожки не звернули, с пистолетов жиганули.* Радч, ГНП, 169; Гом.

**ЖЫ'ДКА** *ж.* Жыццё. *Просто жыдки нема Кузьме: жонка слова не дась пыгаварыць.* Серж., СРБП, 19; Лучыцы Маз. *Так пражыли ены ўсю жыдку й дажыли да старасци.* Серж., СРБП, 67; Лучыцы Маз. Параўн. ж ы з н я, ж ы з ь, ж ы с ц ь, ж ы т к а.

**ЖЫ'ЖА** *ж. Дзіц.* Агонь. Радч., ГНП, 12; Гом.

**ЖЫ'ЗНЯ** *ж.* Тое, што ж ы д к а. *У кожнага свая жызня, сваe болькі.* Шам., V, 244. Параўн. ж ы з ь, ж ы с ц ь, ж ы т к а.

**ЖЫЗЬ** *ж.* Тое, што ж ы д к а. *Кожны чалавек жызь па-свойму панімае.* Палт., КС, 39. Параўн. ж ы з н я, ж ы с ц ь, ж ы т к а.

**ЖЫ'ЛІЦЦА** *незак.* Натужвацца, пнуцца з усіх сіл. *Не дарэмно стары Лясун жыліўся так: було чаго шкадаваць!* Мел., VI, 357. *Навошта ж яму тады жыліцца так на зборцы?* Шам., IV, 224.

**ЖЫРЫ'** *прым.* Сыты, тлусты. *Радзі, божа, жыта, пшаніцу, А нам, дзядзя, паляніцу. Хоць сырую, то жырую, Абы, дзядзя, не малую.* ЗП, 188; Глушкавічы Лельч.

**ЖЫСЦЬ** *ж.* Тое, што ж ы д к а. *Кончана наша жысць, не пападзём і дамоў!* ЧК, I, 248; Мярку-

лавічы Раг. *Жысць, кажу, у нас з табой немаведама якая.* Губ., БК, 4. Параўн. жызня, жызь, жытка.

**ЖЫ'ТКА** *ж.* Тое, што жыдка. *«Жытка мая була нялёгкая»,— сумна ўздыхае яна.* Палт., КС, 92. *Жытка то жытка, ды і самі вінаватыя.* Мел., V, 225. *Ён наш, без яго і мы, і жытка наша — не жытка.* Сач., Д, 147. *Жалитца адна маладзица, што ёй ат гаспадара жытки нема.* Серж., СРБП, 44; Лучыцы Маз. Параўн. жызня, жызь, жысць.

**ЖЫТЛО'** *н.* Жыллё (месца, дзе жывуць людзі). *Відаць, ужо моцна падступіла хвароба... і мяне пацягнула да бліжэйшага чалавечага жытла.* Шам., ВТБ, 98. *Зляцеліся да жытла вароны.* Шам., V, 17.

**ЖЫТНЁЎКА** *ж.* Зерне жытняе. *Пасаромлены камендант мусіў выдаць два цяжкія кулі залацістай жытнёўкі.* Шам., V, 17.

**ЖЫ'ТНІК** *м.* **1.** Хлеб з жытняй мукі. *У тую раніцу маці спякла жытнікі.* Кап., СЖЛ, 56. **2.** Гатунак яблыкаў. *Іншы, скажам, надумаў сабе садок завесці — бегае, шукае перш за ўсё жытнікаў, пуціначак ці там крымак якіх.* Рак., СЛС, 161.

**ЖЫ'ХАЦЬ** *незак.* Пралятаць з шыпеннем, свістам (пра кулю). *Міця памятае разлютаваны крык, вогненныя пісягі трасіруючых куль, якія жыхалі каля самых вушэй.* Нав., СТ, 344.

# З

**ЗААСЯНЕ'ЦЬ** *зак.* Павярнуць на восень. *Дый паспрабуй прывыкнуць — лета як лета, а ледзь заасянее, пачынаюцца туманы.* Сач., ЧН, 177.

**ЗАБАЖА'ЦЬ** (забожаць) *зак.* Захацець (смерць як захацець, моцна). *Аж мой милый з Москвы йдеть; пришовши в бел постель лег, забожав милый ключавой воды.* Рам., БС, I—II, 42; Юркавічы Гом.

**ЗАБАРЫ'ЦЦА** *зак.* Забавіцца, затрымацца. *Як поехав мой миленькій, да й там забарився.* Рам., БС, I—II, 428; Гом. *Пусти, мати, погуляти, Я не забаруся, Я с хлопцами подражнюся Дай назад вернуся.* Радч., ГНП, 33; Гом.

**ЗАБА'ЎКА** *ж.* Забава (пацеха). *Добрая забаўка для дзяцей і пенсіянераў!* Шам., V, 229.

**ЗАБА'ЧЫЦЬ** *зак.* Убачыць. *А в клеть идучи, забачу, а с клети идучи, заплачу.* Радч., ГНП, 84; Гом.

**ЗАБІ'ДЗЕЦЬ** (забидеть) *зак.* Пакрыўдзіць. *Ободва жили яны умести, а тоды подялилися, и большій забидев меньшаго.* Рам., БС, III, 390; Нісімкавічы Раг.

**ЗАБРА'ЦЦА** (зобрацца) *зак.* Сабрацца. *Назаўтра зобралісе людзе ховаць етых хлопцов, ажно аны ішчэ по гарцу імперъялов достали.* БКЭ, № 32; Юравічы Рэч.

**ЗАБУ'МКАЦЬ** *незак.* Пачаць гучна мармытаць, як у бубен. *Потым крадком глянуў на старую і забумкаў.* Кап., СЖЛ, 24.

**ЗАБУЯ'НІЦЬ** *зак.* Забушаваць, раздацца. *Забуяніла ў полі рэхам: «За мужыцкую праўду — у бой!»* Дуд., СС, 9.

**ЗАБЫ'ЎЛІВЫ** *прым.* Забыўчывы. *«А вы сталі забыўлівым, Пётр Васільевіч»,— жартам прамовіў Пісарэнка.* Гам., ША, 116.

**ЗАВАДА'ТАРКА** *ж.* Зачыншчыца. *Праз усе гады, калі Валя вучылася ў старэйшых класах школы, яна была завадатаркай.* Саб., ЖЗ, 15. *Камароўскія гандляркі хутка прызналі маладую Лявоніхыху за сваю завадатарку.* Шам., V, 387.

**ЗАВАДЗЯ'ГА** *аг.* Чалавек, які гарачыцца, спорыць. *Ім ёсць пра*

*што пагаварыць, і пагаварыць ёй хочацца хутчэй, а так прыйшлося б чакаць, пакуль завадзягі гэтыя разыдуцца.* Шам., ВТБ, 257.

**ЗАВАЛО'КА** *ж.* Заслона. *Седзячы ў бульбоўніку, ён цераз заваloку слёз зверавата пазіраў, як яна ішла да воза, як села і паехала, грозна глянуўшы на яго.* Мел., V, 12.

**ЗАВАРУ'ШКА** *ж.* Заваруха, сумятня, хваляванне. *Прыгналі нас, як пачалася заварушка, з фронту ў Петраград.* Саб., БАС, 31.

**ЗАВЕ'ДАЦЬ** (заведать, заведатать) *незак.* Наглядаць, быць адказным за што-н. *Юрій, на сивым конику,— заведал над звярами, над скотом.* Рам., БС, IV, 6; Гом. *Яны заведатали над чимнибудь одным.* Рам., БС, IV, 6; Гом.

**ЗА'ВЕРТНЯ** *ж.* Заверацень, заверцень. *Калі закручваў аглоблі, завертні так трашчалі, што здавалася — вось-вось лопнуць.* Мел., V, 130.

**ЗАВЕ'СІЦЬ** (завесити) *зак.* Павесіць (пакараць смерцю цераз павешанне). *Ставляять стовпы високие, вешаять сильля пеньковыя — Хочать молойца завесити.* Рам., БС, I—II, 37; Перарост Гом.

**ЗАВІВА'ННЕ** (завиванье) *н.* Бялізна. *Чего мати у клеть пошла? На днище, у кублище, по шовковое чепище, По белое завиванье, по вечное покрыванье.* Радч., ГНП, 92; Гом.

**ЗАВІВА'ЦЬ** (завиваци) *незак.* Убіраць (заплятаць касу). *Да дай нам огню Свечек зажигаци, Молодую завиваци.* Шэйн, III, 415; Дзякавічы Маз.

**ЗАВІДКІ** ◆ **завідкі бяруць** — апаноўвае зайздрасць. *Яшчэ тады... бацьку завідкі бралі на тыя дзве валокі зямлі.* Саб., ЖЗ, 89.

**ЗАВІНУ'ЦЦА** I *зак.* Захутацца. *На лапінах дрэў, за карчамі Грамадка малойцаў ляжыць... Хто ў зоры ўперся вачамі, А хто завінуўся і спіць.* Грам., В, 114.

**ЗАВІНУ'ЦЦА** II *зак.* Спешна і старанна пачаць рабіць што-н. *Завінуліся тут са сталамі і забыліся.* Губ., ДП, 263.

**ЗАВІ'ЦА** (зовіца) *ж.* Залоўка. *У нядзелю пад панядзелак звала нявехна зовіцу нанач.* Б, II, 62; Перарост Гом.

**ЗАВІ'ЧКА** (зовичка) *ж. Памянш. да* з а в і ц а. *Звала нявехна завіцу нанач: «Хадзі, завічка, хадзі, сястрычка».* Б, II, 62; Перарост Гом.

**ЗАВУРКАТА'ЦЬ** *зак.* Загрымець глуха. *Яшчэ доўга да вечара захмарыла ўсё, пацямнела навокал, завуркатаў наводдаль гром.* Мел., VI, 27.

**ЗАВУШЭ'ННЕ** (завушеніе) *н.* Павешанне. *И отдав яго на завушенія, завязавши вочи.* Рам., БС, IV, 4; Вылеў Гом.

**ЗАВЯДЗЁНКА** *ж.* Звычай, традыцыя. *Даўняя Астаповічава завядзёнка: калі канчаліся работы ў полі, знаходзіў людзям іншы занятак.* Шам., ВТБ, 332. *Завядзёнка вайсковая: пароль — адказ.* Нав., ВС, 79. *Спрадвечная завядзёнка адзначаць новую ўдачу за сталом не абмінула і сяброў-прадпрыемцаў.* Рак., БВ, 146. *На заводзе ў яго і завядзёнкі тае не было, каб каго зваць на «вы».* Саб., ЗПД, 135.

**ЗАГАРО'ДДЗЕ** *н. Зборн.* Месца за агародамі. *Ён адзін будзе ісці па загароддзі, паўз сасняк фермы і праз алешнік ля раўчака.* Шам., ВТБ, 369.

**ЗАГА'РЫВАЦЦА** (загарывацьса) *незак.* Загарацца. *Ужэ стала крыша загарывацьса, а аны не стараюцса, штоб потушыць, а шчэ подворочываюць.* БКЭ, № 35; Юравічы Рэч.

**ЗАГАРЭ'ЦЬ** *зак.* Згарэць. *Да ўсё гумно загарэло.* БКЭ, № 35; Юравічы Рэч.

**ЗАГЛУ'Ш** *ж. толькі адз.* Глуш (густа зарослы ўчастак лесу). *Каб схавацца ад людскіх вачэй, даводзілася выбіраць самыя*

*кружныя дарогі, а на дзень залазіць у заглуш ці стагі сена.* Сач., БРВ, 299. *Вылезе дзе-небудзь на дубняк, наесца жалудоў ці парахні і шыецца ў непралазную заглуш.* Сач., Д, 77.

**ЗАГНЕ'Т** *м.* Пук лучын, які запальваюць у печы, калі пасадзяць хлеб, каб ён лепш падрумяніўся. *Сосонка моя и к бору, Рубайте ее до долу. И везите ее до дому, Да й колите на загнет: Загнетуйте коровай.* Радч., ГНП, 103; Гом.

**ЗАГНЕ'ТАВАЦЬ** (загнетувать) *незак.* Падрумяніць. *Сосонка моя и к бору, Рубайте ее до долу, И везите ее до дому, Да й колите на загнет: Загнетуйте коровай.* Радч., ГНП, 103; Гом.

**ЗАГО'НКА** *ж.* Загон (паласа, участак ворнай зямлі, поля). *У мінулым годзе Юрка ўпершыню самастойна сеў за штурвал камбайна, прагнаў першую загонку і адчуў усю сілу цудоўнай жняі.* Крауч., НХП, 374.

**ЗАГРАБА'СТАЦЬ** *зак. Неадабр.* Загрэбці (сілай захапіць і адправіць куды-н.). *Немцы хацелі мяне ў Германію заграбастаць, таму я пайшоў на чыгунку.* Шам., IV, 506.

**ЗАГУБІ'ЦЕЛЬ** *м.* Згубіцель. *Яе той жа загубитель под вокошком стоить.* Рам., БС, I—II, 156; Журавічы Раг.

**ЗАГУМЕ'ЧА** *н.* Загуменне. *Дагледзела Матруна гаспадарку, села кале акна, пазирае на загумечэ, як там дзеўки з хлопцами жартуюць, смеютца.* Серж., СРБП, 76; Белае Балота Маз. *Тольки на загумечи трохи ачухайса чорт.* Серж., СРБП, 68; Лучыцы Маз.

**ЗАДЗІВЕ'ННЕ** *н.* Здзіўленне. *З задзівеньнем глядзелі продкі з залатых рам.* Дуд., М, 59.

**ЗАДЗІЛІ'НЬКАЦЬ** *зак.* Задзынкаць, зазваніць. *Узнялася гамана, і тады тоненька-тоненька, як бы баючыся парушыць спакой, задзілінькаў званок у руках дзеда Сопата.* Саб., БАС, 35.

**ЗАДРЫМУ'ЧАНЫ** *дзеепрым.* Зарослы вельмі. *Задрымучаны крушнікам і арэшнікам Грыцаў расцяроб.* Сач., П, 6.

**ЗАДУБЕ'ННЕ** *н.* Калянасць, цвёрдасць. *Твар яго быў абветраны да задубення скуры, як у рыбака.* Шам., IV, 392.

**ЗАДУ'МНЫ** *прым.* Задуменны, задумлівы. *Але Альбіна ішла задумная, маўклівая.* Саб., БАС, 95.

**ЗАДЫ'РКАЦЬ** *зак.* Затрашчаць. *У наступны міг блізка і злосна задыркаў нямецкі кулямёт.* Мел., II, 230. Параўн. з а к л е к а т а ц ь, з а с т у г н я ц е ц ь.

**ЗАЖО'Н** *м.* Зажынкі (пачатак жніва). *Девушки идуть туда в зажон — ідуць у заработкі.* Радч., ГНП, 9; Гом.

**ЗАЖЫ'ТАК** *м.* Набытак. *Зажытак на сталe небагаты.* Нав., СТ, 122.

**ЗАІРЧА'ЦЬ** *зак.* Пачаць ярка свяціць. *Раптам успыхнула і заірчала на ўсходзе жывая залатая кропка, першы праменьчык сонца на самым небасхіле.* Лупс., ВТ, 192.

**ЗАЙЗЯ'ЦЬ** *зак.* Заззяць. *Шапку зняў, да хата вся і зайзяла.* БКЭ, № 15; Камаровічы Маз.

**ЗАЙЦІ'** :**зайці замуж** — выйсці замуж. *Ня жаль жа мне, што замуж зашла, Али жаль мне, што за суседа. И што за суседа у моем вокне. Сно,* ВБП, 21; Гом.

**ЗАКАБА'ЙЧЫК** *м.* Участак невялікі, мясціна. *Сям-там разбегліся па ім закабайчыкі хвойніку, стаяць на прасторы адзінокія дзічкі, а сама гара зелянее лубінам.* Рак., СЛС, 5.

**ЗАКАЛО'ДЗІЦЬ** *зак.* Застопарыць. *Каго ж там сёлета прышле Баброў у Азёры і калі прышле, што там у іх закалодзіла?* Крауч., НХП, 440.

**ЗАКАНУ'РАК** *м.* Цеснае памяшканне, цёмны куток. *Эльвіра з нечакана злоснай рашучасцю заявіла, што ў сабачы заканурак, які ен знайшоў, яна больш не*

*пойдзе, што ў яе ёсць свой дом.* Шам., ВТБ, 329.

**ЗАКАТУ'РХАЦЦА** *зак.* Заварушыцца (прыходзячы ў сябе). *Хлопчык закатурхаўся і падаў голас.* Саб., БАС, 125.

**ЗАКЛЕКАТА'ЦЬ** *зак.* Тое, што з а д ы р к а ц ь. *Можа, заклякочуць вось зараз гэтыя аўтаматы, і мы, як падкошаныя, ляжам у чужую зямлю.* Саб., І, 59. Параўн. з а с т у г н я ц е ц ь.

**ЗАКЛЯ'КЛЫ** *прым.* Адубелы, скарчанелы. *Закляклыя ад начной хады... мае ногі, рукі, плечы.* Сач., АП, 37.

**ЗАКЛЯ'МЧАЦЦА** *зак.* Парадніцца, пасябравацць. *Дак тая под им стала камяням и ён став камяням, а ета, которая у яго ў руках була, тая бярозкай стала,— на камяни бярозка выросла. Ну с тым яны и заклямчались!* Рам., БС, IV, 114; Васільеўка Гом.

**ЗАКМЕ'ЦЬ** *зак.* Заўважыць, убачыць. *Як закмеў тэе чорт, дак и кинуўса к бабе з кулаками.* Серж., СРБП, 70; Лучыцы Маз. *Седзиць там, дрыжыць,— баитца, каб непрыяцель не закмеў его ў печоры.* Серж., СРБП, 79; Лучыцы Маз.

**ЗАКО'Т** *м.* **1.** Плаціна, запруда. *Мялела рака, і Міканор Іванавіч шчыра жалкаваў аб гэтым, раіў, дзе будаваць закоты, куды пасылаць землечарпалкі.* Дан., Мн, 132. **2.** Прылада рыбалоўная. Эр., ОБП, 126; Брагін.

**ЗАКРЫ'СЦЯ** *н.* Пакой, падобны да рэквізітнага. *Закрысця — нешта накшталт рэквізітнага пакою, у якім знаходзіцца аблачэнне ксяндза і касцёльных служак.* Пал., КЗС, 34.

**ЗАКУ'РЫЦЦА** (закуриться) *зак.* Замарасіць. *Закуривсь силен дробен дождик По чистому полю.* Радч., ГНП, 66; Гом.

**ЗА'КУС** (закусь) *м.* Закуска. *Калі б мая баба расчадрылася ды зрабіла сапраўдны закус.* Лупс., П, 50. *Закусь Галі здавалася такой смачнай, што нельга было адарвацца.* Саб., БАС, 52. *А яна падавала ім закусь, бо зусім не ведала, чаму ён раптам стаў такі задумлівы.* Лупс., ВТ, 183.

**ЗАКХЕ'КАЦЬ** *зак.* Абазвацца, кашляючы. *«Ведаеш ты яго»,— закхекаў ён, хітра паглядаючы на Віктара.* Дан., МН, 51.

**ЗАЛАТАВУ'Х** Гл. м я д з ь в е д з ь - з а л а т а в у х.

**ЗАЛЁТЫ** *толькі мн.* Заляцанне. *Тым часам жаніхі ўсё ездзяць у залёты к гэтай паненцы, але нічога не парадзяць.* Серж., КАБСП, 34; Лучыцы Маз.

**ЗАЛО'ЗУХА** *ж.* Залоза (пухліна). *Поможитя мне выговорить уси скулы и уси болячки... тридевять залозух.* Рам., БС, V, 79; Баршчоўка Гом.

**ЗАЛЫ'ГАЦЬ** *зак.* **1.** Прыдбаць, забраць сабе. *Калі трэба — і сабе якога парсючка залыгай.* Пал., КЗС, 48. **2.** *Перан.* Схапіць, пазбавіць свабоды. *А цяпер, каб не пераехаў разам з Вочапам у мястэчка, залыгалі б абавязкова.* Нав., ВС, 217.

**ЗАМАГА'ЦЬ** *незак.* Выбівацца з сіл. *Біліся, біліся, чуствуе Іван-Дараган, што замагае, зноў ён крычыць.* ЧК, І, 69; Рудня Чач.

**ЗАМАЗУ'ЧАНЫ** *прым.* Запэцканы ў мазут. *Валянцін зірнуў на сваю зашмальцаваную ватоўку, на замазучаныя рукі, і яму захацелася схаваць іх куды-небудзь.* Саб., ЖЗ, 52.

**ЗАМАНУ'ЦЦА** *зак.* Захацецца, прыйсці ў галаву. *Як ездзілі з брыгадай на экскурсію ў Кіеў, заманулася ёй купіць тую арэлю.* Дан., Ж, 64.

**ЗАМАСКАВА'НЫ** *прым.* Замаскіраваны. *Можа, то ў іх не трактары, а замаскаваныя танкі.* Саб., І, 187.

**ЗАМАСКАВА'ЦЬ** *зак.* Замаскіраваць. *Шнур тым часам замаскаваць нялёгка.* Нав., СТ, 277.

**ЗАМГНУ'ЦЬ** *зак.* Сплюшчыць, заплюшчыць (засынаючы, вочы, павекі). *Цяпер праз гэтулькі год, вочы, бывае, замгнеш — блюзніцца тое, што пераэкылося.* Сач., П, 44.

**ЗАМІ'Ж** *прыназ.* Замест. *Дак набяри три возы товару и едь на ярмалок, да только штоб товар продав и гроши узяв, и штоб замиж трох, шесть возов товару домов привёз!* Рам., БС, IV, 143; Беліца.

**ЗАМРЫЯ'НЫ** *прым.* Мутны. *Неба на ўсходзе з няпэўнага, замрыянага, туманна-белага стала барвова-чырвонае, яснае.* Сач., ЗМП, 101.

**ЗАМСЦІ'ЦЦА** (замсцитца) *зак.* Адпомсціць (адплаціць злом на зло). *Дагадаўса Семко, як поп накпіў над его жонкаю й давай ён думаць, як-бы замсцитца папу.* Серж., СРБП, 77; Белае Балота Маз.

**ЗАМУ'ЖАЙКА** (замужьейко) *н. ласк.* замужжа. *Спутало ножки заружьейко, А выбило вочки замужьейко. Что не верное подружьейко.* Радч., ГНП, 205; Гом.

**ЗАМУ'СТВА** *н.* Замужжа. *А як жа пра замуства тое гаварыць, калі ў сяле немцы.* Сач., НН, 212.

**ЗА'МЧЫСТЫ** *прым.* Вялікі, раскошны. *А дом быў вельмі замчысты, мурованы.* БКЭ, № 7; Камаровічы Маз.

**ЗАНАПРА'СНА** (занапрасно) *прысл.* Дарэмна. *Як був Мартын богатый, а тяперака ня будя! Няхай свое доли ня бъе занапрасно!* Рам., БС, IV, 48; Гом.

**ЗАНАЧЛЕ'ЖЫЦЦА** (заночлежитца) *зак.* Заначаваць. *Ишла яна дзень и нуч, на другую нуч усхудицьтак; пудыйшла то ж само пуд бярузку, заночлежилась.* Рам., БС, III, 329; Азяраны Раг.

**ЗАНЕМАГЧЫ'** *зак.* Занядужыць. *Яшчэ перад вайной сяды-тады пракідалася слабасць, а цяпер саўсім занямог.* Нав., СТ, 22.

**ЗА'НІЗЬ** *ж. Перан.* Пацеркі. *Бяроза была дужая, з чорным, у моцных жылах камлём, занізі клейкіх, з дробненькімі зубчыкамі лісточкаў ледзь-ледзь трапяталі на тонкіх галінках.* Мел., II, 260.

**ЗАНІМА'ЦЬ** *незак.* Займацца (на зару). *Вечер вечерее, моя душа веселее, На зарю занимае, моя душа зауныввае.* Радч., ГНП, 56; Гом.

**ЗАНУ'ДЗІСТЫ** *прым.* Занудлівы. *І занудзісты трохі.* Шам., V, 250.

**ЗАНЯСЦІ'** *зак.* Распачаць. *И одумались: што нам зра дратца? Хай нас волость разбярути! От, яны занясли суд.* Рам., БС, IV, 107; Васільеўка Гом.

**ЗАНЯ'ЦЦА** I *зак.* Пачацца. *Начали зъежжатца к цару госци с прочих зямель. Ён их принимая, частить,— гульбища занялося.* Рам., БС, III, 351; Шарахоўскія Буды Раг.

**ЗАНЯ'ЦЦА** II *зак.* Зацяжараць. *І даў Господ, заняласе ана і родзіла сына.* БКЭ, № 15; Камаровічы Маз. Параўн. з а ч а р а в а ц е ц ь.

**ЗАНЯ'ЦЦА** III *зак.* Загарэцца. *Так аны бачуць, што погано — началі тушыць і крычаць — ажно і хлеў заняўсе.* БКЭ, № 35; Юравічы Рэч.

**ЗА'ПАГАДЗЬ** *прысл.* Загадзя, задоўга да непагадзі. *Не сена, а чай кітайскі, запагадзь да апошняй травінкі прыбралі.* Краўч., НХП, 51.

**ЗА'ПАНЬ** *ж.* Завадзь, заліў (рачны). *Ён сышоў з кручы да самай вады і так па беразе пайшоў да запані, дзе ўдалечыні чарнеў буксір.* Краўч., НХП, 538.

**ЗАПАРВА'ЦЬ** *зак.* **1.** Уварваць, украсці. *Ведамо, цыган валочытца па свеце, свайго хаджайства не мае, а тое ўжывае, што гдзе запарве або выдурыць.* Серж., СРБП, 97; Лучыцы Маз. **2.** Злавіць. *Аб маёй бабе — не твой клопат! Ты от пастарайся другі раз у лесе не пападацца, бо як запарву на шкодзе, упяку штрапу!* Мел., V, 312.

**ЗАПА'СЦІ** ◆ **ноч запала** — сцямнела. *Ехаў он раз з пісьмом, аж тут ужэ позно зрабілосе, ноч запала.* БКЭ, № 36; Юравічы Рэч.

**ЗАПЕ'КЛЫ** *прым.* Запечаны (пра кроў). *Яна поўнымі слёз вачыма дакорліва глядзела на дзядзьку, бачыла акурат на самай мяжы лужынку запеклай, ужо чарнава-*

*тай бацькавай крыві.* Саб., I, 169.

**ЗАПЕ'ТАВАЦЬ** (запетовать) *зак.* Закалаціць, затрэсці. *Я в тебе, мой татка, залетовала, Чтоб тебе хиньтя запетовала.* Радч., ГНП, 86; Гом.

**ЗАПІ'СВАЦЦА** *незак.* Афармляць дакументы аб уступленні ў шлюб. *Іван Батрак і Таіса Міхайлаўна... пайшлі ў сельсавет запісвацца.* Шам., ВТБ, 20.

**ЗАПІ'ТЫ** *дзеепрым.* Заручаны. *Пойдзем ў дорогу побитую По Гапочку запитую.* Шэйн, III, 401; Дзякавічы Маз.

**ЗАПІ'ЦЦА** *зак.* Піць працяглы час. *Ци на меду запилиса, Што меня забулиса?* Шэйн, III, 404; Дзякавічы Маз.

**ЗАПІ'ЦЬ** *зак.* Заручыць. *«Зачем ву сюда идзеце?» — «К вам, братцы: мы тут дзевку запили».* Шэйн, III, 407; Дзякавічы Маз.

**ЗАПРАСЦІ'ЦЬ** (запрастить) ◆ **запрасціць дарогу** — перашкодзіць каму-н. *А етой книгой ён да запрастив яму дорогу.* Рам., БС, III, 74; Перарост Гом.

**ЗАПРЫСЯГНУ'ЦЦА** (запрысягнуцсе) *зак.* Пакляўшыся, запэўніць у чым-н. *Хацелі его селом наказываць; да он запрысягсе, што ўжэ не будзе так рабіць.* БКЭ, № 11; Камаровічы Маз.

**ЗАПРЫЎНЫ'ЦЦА** *зак.* Зажурыцца, засумаваць. *Уси пташачки аны запріўнылися.* Рам. БС, I—II, 81; Гом.

**ЗАПЯВА'ЛЬНІЦА** *ж.* Запявала, спявачка (у харавых песнях). *Хораша спяваюць дзяўчаты, і найбольш вылучаецца задумліва-журботны голас запявальніцы.* Лупс., ВТ, 230.

**ЗА'ПЯЧАК** *м.* Запечак. *Вот, каа, чаловек добрый, ты утомивсь идзи, каа, у запячак, там отдыхай.* Рам., БС, III, 162; Навасёлкі Раг. *От сычась той гость пошов лёг на лавцы, а хозяин на запячку, зваять — на ляжанцы.* Рам., БС, IV, 83; Карма Гом.

**ЗАРАГАЦЕ'ЦЬ** (зарогоцець) *зак.* Заіржаць. *Свекрову кони як зарогоцели, Из двора полецели.* Шэйн, III, 420; Дзякавічы Маз.

**ЗАРУЖЭ'ЙКА** (заружьейко) *н. ласк.* заручыны. *Спутало ножки заружьейко, А выбило вочки замужьейко, Что не верное подружьейко.* Радч., ГНП, 205; Гом.

**ЗАРУЧО'НЫ** *прым.* Заручаны. *Учора з вичора з Марьичкой гуляў, А сегодня рано Марьички нема. Ужо заручона, замуж идзець.* Сно, ВБП, 21; Гом.

**ЗАРЫЎНЫ'** (зарывный) *прым.* Ахвочы. *И один быв зарывный на песни, а другій — на сказки.* Рам., БС, IV, 107; Васільеўка Гом.

**ЗАСІГА'ЦЬ** *зак.* Пайсці хутка. *Іван раптам як сарваўся з месца, засігаў па сцежцы... шырокімі крокамі.* Шам., ВТБ, 258.

**ЗАСІ'ЛІЦЬ** *зак.* Павесіць. *Цару і ўсім яго паслугачам гэтак насаліў, што яны жыўцом мяне з'елі б або на горкай асіне засілілі б.* Саб., I, 30.

**ЗАСІ'НАЧКА** (засиночка) *ж. ласк.* наведванне каго-н. з мэтай прабавіць вольны час. *А на Раздтво рожа разцвілася, Нема часу, на засиночки, Пріехав брат с Краиночки.* Рам., БС, III, 114; Гом.

**ЗАСЛА'ТЫ** *дзеепрым.* Засланы. *Цесовыя столики заслатыя, Што Гапочкою наткатыя.* Шэйн, III, 401; Дзякавічы Маз.

**ЗАСМАЛІ'ЦЬ** (засмолить) *зак.* Падгарэць, падсмаліць. *Ой дайце ж мне меч, меч! Порублю я печ; Недобре вчинили Коровай засмолили.* Шэйн, III, 430; Дзякавічы Маз.

**ЗАСМУТНЕ'ЦЬ** *зак.* Засмуціцца. *Гад засмутнев и матюка загнув.* Рам., БС, IV, 5; Вылеў Гом.

**ЗАСПЕ'ЎВАЦЬ** *незак.* Запяваць, пачынаць песню. *Яна заўсёды заспеўвае, а Міронычыкава Зося бярэ на падгалосак.* Саб., II, 50.

**ЗАСТА'ВІЦЬ** *зак.* Аддаць у парабкі. *От коли б хто мне поставив гарнець горелки, я б яму заставив свайго сына Иваньку.* Рам., БС, III, 73; Перарост Гом.

**ЗАСТУГАНЕ'ЦЬ** *зак.* Загрукацець

(пра стук бярвенняў). *Рыбакоў, амаль не збаўляючы хуткасці, з лёту ўзвёў машыну на драўляны насціл, бярвенні якога адразу затрэсліся і застуганелі.* Мел., II, 216.

**ЗАСТУГНЯЦЕ′ЦЬ** *зак.* Тое, што з а д ы р к а ц ь. *З фурманкі адразу застугняцеў кулямёт і збіў дзяцей і жонку з ног.* Лупс., ВТ, 91. Параўн. з а к л е к а т а ц ь.

**ЗАСТУ′ПІЛНА** *н.* Дзяржанне (рыдлёўкі). *Жив сабе старик,— топорищам бороду бреяв, заступилном потперазувався.* Рам., БС, III, 420; Перарост Гом.

**ЗАСТУ′ПНІШЧА** *н. павел.* заступілна. *Кавалішча, кавалішча, іскуй мне заступнішча!* ЧК, II, 159; Перарост Гом.

**ЗАСТУ′ПКА** *ж.* Заступніцтва. *З Чарнушкамі пабліжэй, падабрэй трэба — трудзяшчыя свякі, заступка, якая ні ёсць!* Мел., VI, 117. *І заступку знойдзе, насуперак усякім законам.* Мел., VI, 439.

**ЗАСТУ′ПШЧЫК** *м.* Заступнік. *Пападзешся — я тады не заступшчык.* Лупс., ВТ, 106.

**ЗАСТЫ′ГЛА** *прысл.* Нерухома, анямела. *«Топай, старча, сюды»,— кіўнуў ён пальцам Аляксею і, адвярнуўшы ўбок галаву, некуды застыгла і безуважна стаў глядзець, быццам яму было ўсё адно.* Кап., СЖЛ, 90.

**ЗАСТЫ′ГНУЦЬ** *зак.* Застынуць. *Яна моцна застыгла, і, калі Васіль зноў прытуліў яе пад світу, перастала дрыжаць не адразу.* Мел., V, 43.

**ЗАТА′ХКАЦЬ** (затохкаць) *зак.* Забіцца моцна і часта (пра сэрца). *У грудзях моцна-моцна затахкала сэрца.* Гам., ША, 65. *Сэрца ў старой Антолі затохкала.* Кап., ССА, 13.

**ЗАТРАВЕ′ЛЫ** *прым.* Зарослы травой. *Якавенка выскачыў з машыны, прайшоў уперавалку наперад, мацаючы ботамі падатлівы затравелы грунт.* Мел., II, 137. *Па затравелай, падатнай глебе, па куп'і, хлюпаючы ў вадзе, а часта і грузнучы па пояс, зноў пайшлі наперад.* Мел., II, 15.

**ЗАТРЫ′МКАЦЬ** *зак.* Забрынкаць, забрынчаць (пра струны). *Затрымкала гітара, а неўзабаве загарэўся і касцёр.* Саб., ЗПД, 183.

**ЗАТУ′РКАНЫ** *дзеепрым.* Заштурханы. *Загнаныя, затурканыя векавым прыгнётам паноў — чужакоў, яны былі насцярожаныя і да гэтага панка.* Сач., ЧН, 230.

**ЗАТУ′РКАЦЬ** *зак.* Заштурхаць. *Затуркали мене совсим.* Радч., ГНП, 10; Гом.

**ЗАТУ′ХКАЦЬ** *зак.* Затахкаць, запрацаваць. *Затухкаў лакамабіль на электрастанцыі, засвяціліся лямпачкі ў дамах.* Дан., МН, 63.

**ЗАТЫ′НІЦЦА** *зак.* Загарадзіцца. *И золотыя тыны затынитяся и золотыя ключи замкнитяся.* Рам., V, 53; Перарост Гом.

**ЗАЎГО′ДНА** (заўгодно) *прысл.* Пажадана. *И будуць яны табе даваць усяго, што заўгодно: и золото, и серабро, и медзь.* Рам., БС, III, 105; Мяркулавічы Раг.

**ЗАЎДАВА′ЦЬ** ◆ **заўдаваць жалю** — наводзіць тугу, нуду. *Соловейку маленькій, Твой голосок тоненькій, Не щебечы на заре, Не заўдавай жалю мне.* Рам., БС, VII, 31; Гом.

**ЗАЎЗЯ′ЦЦА** (заўзетса) *зак.* Намерыцца (сварыцца). *Учуў гаспадар, што его баба заўзела сварытца.* Серж., СРБП, 127; Млынок Маз.

**ЗАЎНЫВА′ЦЬ** *незак.* Пачынаць журыцца, тужыць. *Вечер вечерее, моя душа веселее, На зарю занимае, моя душа заунывае.* Радч., ГНП, 56; Гом.

**ЗАЎРАЖО′НЫ** (заврежоный) *дзеепрым.* Развярэджаны (пра сэрца). *Моё сердце заврежоное: завредив серце роден батюшка.* Рам., БС, I—II; Беліца.

**ЗАХАДЗІ′ЦЦА** *зак.* Разлютавацца, раз'юшыцца, разгневацца. *А тож захадзілася, дык хоць ты вушы затыкай ды ўцякай немаведама куды.* Саб., ЖЗ, 78.

**ЗАХАЛАДНЕ'ЦЬ** *зак.* Захалануць (пра кроў, ад моцнага пачуцця). *І празьвінела ў яе голасе нешта такое, ад чаго ў мяне кроў захаладнела.* Дуд., М, 34.

**ЗАХАПІ'ЦЬ** *зак.* Застаць, заспець. *Мужчын — шафёраў, трактарыстаў — Таіса Міхайлаўна захапіла ў майстэрні.* Шам., ВТБ, 253. *Праўда, захапіў ён іх ужо старымі.* Лупс., ВТ, 260.

**ЗАХАЎРУ'САВАЦЬ** *зак.* Зблізіцца. *Недалюблівау і Федзя, які ў апошні час нешта захаўрусаваў з яго Васілём.* Дан., ЗА, 60.

**ЗАХЛЕ'ЎЕ** *н.* Месца за хлявом. *А толькі прымеркнецца, агародамі, па захлеўю, нібы злодзей, зноў крадзецца ў каноплі.* Сач., БРВ, 45.

**ЗАХЛЮ'НДРАНЫ** *прым.* Запэцканы, захлюпаны. *Брындае Шастапаліха ў дзіравых, захлюндраных спадніцах.* Нав., СТ, 271.

**ЗАХО'ДЛІВЫ** *прым.* Клапотны (пра дзень). *Тэкля рашыла, што трэба нагнаць самагонкі цяпер, каб тады, перад самым тым заходлівым днём, мець хоць крыху вальнейшага часу.* Саб., ЖЗ, 28.

**ЗАХРА'ПАЦЬ** *зак.* Захрапці. *Заежае он до тое хаткі, да конь его захрапаў.* БКЭ, № 101; Юравічы Рэч.

**ЗАХРА'СНУЦЬ** *зак.* Засесці, завязнуць. *Гэтыя яе словы так балюча ўразілі Алёшу, што ён анямеў ад крыўды, у горле захрас салёны камяк, а вочы напоўніліся слязамі.* Шам., II, 62.

**ЗАХРЫБЕ'ТНІК** *м.* Дармаед. *Эх, каліна-маліна, як вымелі тут захрыбетнікі.* Мел., II, 207.

**ЗАЦА'ХЛІЦЬ** *зак.* **1.** Загрукацець. *А вось зацахліла, залескатала — далёка па чыгунцы поезд ідзе.* Лупс., НБД, 38. **2.** Забрахаць (пра сабаку). *Ганчак, што стомлена ляжаў пад дубам, смешна падскочыў, зацахліў і пачаў бегаць па крузе.* Шам., V, 15.

**ЗАЦУРКАТА'ЦЬ** *зак.* Зацурчаць. *Абшыванку панесла да берага, зацуркатала вада, сплываючы з паднятых вёслаў.* Лупс., ВТ, 220.

**ЗАЧАРАВА'ЦЕЦЬ** *зак.* Тое, што заняцца II. *Ды Каця хоча хадзіць да іх, а мама не пускае. Кажа, зачаравацееш, пуза нагуляеш.* Сач., Д, 399.

**ЗАЧА'ЦЬ** *зак.* Пачаць. *Он зачаў разказываць ёй, што матка хвора, да прыраілі людзі, штоб із таго саду достаць яблычко, то можэ ана ачунее.* БКЭ, № 31; Юравічы Рэч. *Ана ж разпытавала, да зачэла его паіць, трактоваць — он напіўсе і заснуў.* БКЭ, № 38; Ужынец Рэч. *Змей як зачаў есці, ажно іскры з рота пасыпаліся, а той небарака ўзяў адну бабіну да чуць быў зубы сабе не паламаў.* ЧК, I, 230; Петр.

**ЗАЧУ'ЦЬ** *зак.* Пачуць. *Штоб я не зачула, Як моя мамка плаче.* Шэйн, III, 420; Дзякавічы Маз.

**ЗАЧЫ'М** (зачим) *прысл.* Чаму. *Зачим у цябе, Никифорка, Кожуха нема?* Шэйн, I, 77; Гарволя Рэч.

**ЗАЧЫНЯ'ЛКА** *ж.* Зашчапка (для запірання дзвярэй). *Шыковіч разгледзеў усё гэта, пакуль, прасадзіўшы руку ў шчыліну, шукаў адмысловую «зачынялку», каб адчыніць весніцы.* Шам., IV, 240.

**ЗАЧЭ'ПКА** *ж.* Прычына, падстава. *У любы іншы час Іван, напэўна, падражніў бы Хведзьку, той сам даваў зачэпку.* Шам., ВТБ, 285.

**ЗАШЛЮ'БІЦЬ** *зак.* Абкруціць, жаніць на сабе. *Одная любила, Друга зашлюбила. Одная любила — Сестра разлучыла.* Рам., БС, VII, 31; Гом.

**ЗАШТО'КАЦЬ** *зак.* Шмат пытацца (ад пытальнага слова «што»). *«Заштокаў! — хмыкнуў Салавейчык.— Даносіць я на цябе не стану».* Лупс., ВТ, 105.

**ЗАШЧЫ'ПАНЫ** (защипанный) *дзеепрым. Перан.* Замучаны. *За старым жить, норовистой быть, За малым жить, защипанной быть, За ровным жить красоту носить.* Радч., ГНП, 46; Гом.

**ЗАШЫБНУ'ЦЬ** *зак.* Зашпурнуць, закінуць. *Быццам сам госпад бог узлаваўся на гэты невялічкі*

*гарадок і гэтак яго зашыбнуў ад вялікіх гарадоў, чыгунак і бітых дарог.* Саб., ЗПД, 138.

**ЗАШЫ'ЕК** *м.* **1.** Прамежак паміж комінам і сцяной. *Той, што ў цывільным, строіўся загадваць Рыгору збірацца ў дарогу, але паліцыянт, які калаціў Ліпаччыну пасцель, стаўшы на дыбачкі, палез рукамі ў зашыек печы.* Саб., I, 204. **2.** *геагр.* Перашыек. *Інша га выйсця камандзір не бачыў, як па вузкаму зашыйку перабрацца на адносна вялікі Сымонаў груд сярод балота.* Саб., I, 260.

**ЗАШЭ'РХЛЫ** *прым.* Заледзянелы, зацвярдзелы. *Лёнька, уткнуўшы нос у зашэрхлую шыбіну, прыпаў да яго вокам.* Кап., СЖЛ, 20.

**ЗАЯДА'ЦЦА** *незак. Перан.* Спрачацца, счапляцца ў сварцы. *Не трэба табе заядацца з людзьмі, Ваня.* Шам., ВТБ, 237.

**ЗБЛАЖЭ'ЦЬ** *зак.* Схуднець, змарнець. *Ты што зблажэў? І вочы патухлі. Нездаровіцца.* Шам., ВТБ, 297. *Зблажэў за апошнія дні чалавек.* Дан., Ж, 7.

**ЗБОЧ** *прысл.* Збоку. *Трымаючыся за яловую галіну-лапку і выглядваючы збоч яе, як з-за аховы, дзяўчына пасмялела.* Мел., БД, 6.

**ЗБРО'ЯЦІ** *зак.* Збрыць. *Да хочуць мэнэ ўзяци, ў солдаты оддаци. Ой, да хочуць зброяци жоўтыя кудрушки.* Д-З, ПП, 146; Красная Воля Маз.

**ЗБЫТ** *м. толькі адз.* Спакой. *Ды гэтак узяўся, што збыту нікому не даваў.* Дан., Ж, 6.

**ЗБЫ'ЧЫЦЦА** *зак.* Насупіцца. *Сенька, як убачыў, што не ўдасца ўцячы, спыніўся, збычыўся.* Крауч., НХП, 565.

**ЗБЭ'РСАНЫ** *дзеепрым.* Стаптаны, вытаптаны, вытаўчаны. *Ад мноства ног, якія прайшлі па дарозе... трава збэрсана ўшчэнт, парудзела, высахла.* Нав., СТ, 314. *Жыта ўсюды пры дарозе было змятае, збэрсанае.* Мел., II, 407. *Васіль убачыў нечыя ногі, абутыя ў лапці з прасохлай гразёю, убачыў край світы, умятую, збэрсаную салому.* Мел., V, 105.

**ЗБЭ'РСАЦЬ** *зак.* Стаптаць, вытаптаць, вытаўчы. *Калі проста пабяжыш за Коўбай, не дагоніш век, яна толькі ўсю траву збэрсае.* Нав., В, 72.

**ЗБЭ'СЦІЦЬ** *зак.* Аблаяць. *А неразумнаму Славіку, відаць, здалося, што ён і напраўду ўтаптаў свайго саперніка ў гразь — спалохаў, зняважыў, збэсціў.* Шам., IV, 299.

**ЗВА'БЛІВА** *прысл.* Прывабна, спакусліва. *Ён зваблів мігаў, выкідваў у чорную цемру жмені залацістых іскраў.* Сач., АП, 19.

**ЗВА'БЛІВЫ** *прым.* Прывабны, спакуслівы. *Крыклівыя, галасістыя, уступалі мы пад зваблівыя шаты.* Нав., В, 109.

**ЗВАДЫЯ'Ш** *м.* Гарэзнік, падбухторшчык. *Мікітка Змітракоў — быў у нас звадыяш — чагосьці падлез пад парты і знячэўку паказытаў мяне за падэшву босай нагі.* Саб., II, 27.

**ЗВЕ'РЫЦЬ** (зверить) *зак.* Зваліць (віну). *Хозяин яго зверив усе на собаку свойго.* Рам., БС, IV, 109; Васільеўка Гом.

**ЗВЕСЦЬ** *ж.* Вестка. *Сакатушкі-свашкі песні пяюць. А мне, маладой, звесць падаюць.* ЛБВ, 189; Волча Рэч.

**ЗВІЎ** *м.* Звіванне, спляценне. *Пыл садзіцца на лісце яблынь, на густы вішаннік, на лапушыстыя звівы гарбузніку, што чапляюцца за платы і парканы.* Нав, ВС, 7. *Над ручаём пахіліліся лозы, вольхі, на звівах выступаюць скручаныя аголеныя карані.* Нав., СТ, 263.

**ЗВЯЗДЗІ'ЦА** (звездица) *ж.* Зорка. *Выдавав мене ясный месяц, Суражала мене темная ночка, Проводжали мене ясныя звездицы.* Радч., ГНП, 24; Гом.

**ЗВЯРНУ'ЦЬ** *зак. Перан.* Пералажыць, зваліць віну, адказнасць на каго-н. *Поехав ен знов, жонка зарезала уже сокола, и звярну-*

*ла знов на сястру.* Рам., БС, III, 288; Гом.

**ЗВЯСЦІ'ЦЬ** *зак.* Паведаміць, расказаць, сказаць. *Звясцілі яму, што там усякага страення і дабра, што ў змея і трэцяй часці такога няма.* ЧК, I, 250; Мяркулавічы Раг.

**ЗГАДЗІ'ЦЬ** *зак.* Пачакаць. *Сожди мальчикъ годиночку, згоди мальчикъ другую.* Рам., БС, I—II, 140; Беліца.

**ЗГАЛАСІ'ЦЦА** (зголосицсе) *зак.* Згадзіцца. *Но ана его прасіла дай прасіла, так он і зголосіўсе.* БКЭ, № 10; Камаровічы Маз.

**ЗГАРО'ДКА** (згородка) *ж.* Плот. *А я ж табе, веробью, Колом ноги перабъю. Под згородку подкину, Черапочком накрыю.* Рам., БС, VII, 39; Гом.

**ЗГІН** *м.* Згіб. *Шабета заступіў яму дарогу, згінам пальцаў цвёрда пастукаў па аконнай раме.* Мел., V, 63.

**ЗГАЛО'ВЕЙЦА** (зголовейцо) *н.* Падушка. *Питерская вумница, Постели постелюшку, Постели пуховую, Московская вумница, Положи зголовейцо.* Радч., ГНП, 52; Гом.

**ЗГЛО'ШЫЦЦА** (зглошыцса) *зак.* Пагадзіцца, дамовіцца. *Тые браты зглошылісе самі з сабой: што мы з нім зрабім?* БКЭ, № 12; Камаровічы Маз.

**ЗГЛЯДЗЕ'ЦЬ** *зак.* Згледзець. *Будыка зглядзеў яго здалёк, здзівіўся, спытаў быццам бы і не надта прыхільна.* Шам., V, 10.

**ЗГО'МЦІЦЬ** *зак.* Сагнаць, згрудзіць абы-як. *Згомцілі людзей у кучу, запраглі лодыра з гаспадаром у адзін воз.* Нав., СТ, 156.

**ЗГРА'ДНЫ** *прым.* Прыстойны. *Вязуть мене на чужую сторону ды не ў зградную семъю.* Рам., БС, I—II, 18; Гом.

**ЗГРАЙ** *м.* Шумны крык птушак. *І пасля птушыны зграй і згэлк ужо не аціхаў ні на хвіліну цалюсенькі дзень.* Сач., Д, 325.

**ЗГУ'КАВАЦЬ** *незак.* Склікаць, ззываць. *Красная дявица Василиса, згукавай своихъ слугъ.* Рам., БС, V, 122; Насовічы Гом.

**ЗГУРАВА'ЦЬ** *зак.* Загараваць. *Як падрос Ничыпар, дак скоро бацька згураваў.* Серж., СРБП, 54; Лучыцы Маз.

**ЗГЭЛК** *м. толькі адз.* Гвалт. *У хвіліну змяшалася ўсё: канваіры, жанчыны, мы, палонныя. Мітусня, згэлк.* Сач., П, 37.

**ЗДА'ЛЕКА** *прысл.* Здалёк, здалёку. *От ен ще здалека махая хустой.* Рам., БС, III, 76; Перарост Гом. Параўн. з д а л я.

**ЗДАЛЯ'** *прысл.* Тое, што з д а л е к а. *Да Ганны яго голас дайшоў як бы здаля.* Мел., VI, 27. *Яна хуценька пайшла зусім у другі бок, далей ад бяды, і ўжо здаля назіркам не спускала вока з дзядзькі.* Саб., I, 249.

**ЗДАРАВЕ'Ц** *м.* Здаравяк, здаравіла. *«Такі здаравец, не мог дзіцяці ўтрымаць»,— гнеўна наступала на мяне Вара.* Саб., II, 43. Параўн. з д а р а в я к.

**ЗДАРАВЯ'К** *м.* Тое, што з д а р а в е ц. *Я добра такі іграў прыдуркаватага здаравяка, які мог выпіць дзве шклянкі чыстага спірту і з'есці пяць шпітальных абедаў.* Шам., IV, 66.

**ЗДАРО'ЎЕЧКА** *н. Ласк.* Здаровейка. *Як здароўечка дарагога пана, як ваша здароўечка?* Лупс., ВТ, 243.

**ЗДА'ЦЦА** *зак.* Прыкінуцца, прытварыцца. *Дакъ ты здайся, нибытцам заснула, и, проснувшися, исказуй им сон.* Рам., БС, III, 150; Гарадзец Раг.

**ЗДЗЕ'ЯЦЦА** *зак.* Адбыцца, здарыцца. *Толькі калі вярнуўся ў кабінет, стаў сярод пакоя, ужо не тоячыся, у важкім роздуме: што там здзеялася?* Мел., VI, 232.

**ЗДРАСАВА'НЫ** (здратаваны) *дзеепрым.* Патаптаны, вытаптаны. *Ай-ай, колькі жыта здрасавана? Колькі дабра на глум пушчана!* Мел., II, 126. *Глянуў навокал — поле ўсё здратавана, жыта павалена.* Крауч., НХП, 103.

**ЗЕЛЯНІ'ВА** *н.* Зяленіва (зялёны колер чаго-н.). *За акном пачы-*

*нала зелянець неба, на яго зеляніве ўжо добра акрэслівалася нязвычнае, жорсткае перакрыжаванне крат.* Мел., V, 106.

**ЗЕ'МЯЦ** *м.* Пчаляр. *Дак раз один земяц, Мартын — богатый, пошов у лес пчол своих проведать.* Рам., БС, III, 48; Гом.

**ЗЕ'ЎРА** *ж.* Прорва, адтуліна. *Яна як бы ажыла, у момант нібы пры бляску маланкі, убачыла пясок, гліну, цёмную зеўру ямы, убачыла, даўмела нанова, жахнулася.* Мел., VI, 37. *Тады на заводзе былі ўсяго дзве печы. Рабочыя саматугам вазілі ў іх ненасытныя зеўры на тачках торф.* Дан., НД, 121.

**ЗЖУРЫ'ЦЬ** *зак.* Змаркоціцца. *Казак чернобровый, што тебе зжурило?* Рам., БС, I—II, 5; Пераpocт Гом.

**ЗЖУ'ХНУЦЬ** *зак.* Высахнуць. *Травы няма: тая, што сям-там узрасла — пажарац, лапавусік, мучка,— зжухла і зжоўкла.* Сач., БРВ, 18.

**ЗЗЯ'БІЦЬ** *зак.* Замарозіць. *Ён ня борджы на хаду, Ззябив жонку на ляду.* Шпіл., ППБК, 41; Маз.

**З'ІНА'ЧЫЦЦА** *зак.* Перайначыцца, стаць інакшым. *Першым жаданнем, якое ўладна адчуў у сабе, было кінуцца ў кусты, схавацца, з'іначыцца.* Нав., ВС, 116. *За гэтыя пятнаццаць год, якія Мітрафан не быў у родных краях, усё з'іначылася.* Саб., ЗПД, 58.

**ЗІ'РКАЦЬ** *незак.* Паглядаць, кідаць позірк. *Біятокі гэтай нянавісці, мабыць, адразу ж дайшлі да той, і яны зіркалі адна на адну ваўчыцамі.* Шам., ВТБ, 329.

**ЗІХА'ЦЬ** *незак.* Бліскаць каротка, імгненна. *Маланка цяпер зіхала амаль бесперапынна.* Дан., МН, 133.

**ЗІХНУ'ЦЬ** *зак.* Бліснуць каротка, імгненна. *І раптам зіхнула думка: Іра, яе Іра закахана ў Тараса.* Шам., IV, 157.

**ЗІЯ'ЦЬ** *незак.* Ззяць (ад радасці, шчасця). *Молодый хлопчичекъ На конику еде, Як сокол летае, Як совнышко зіяе.* Дэмб., ООМГ, I, 556; Рагінь Раг.

**ЗЛАБІ'ЦЬ** (злобить) *незак.* Злаваць. *А теперь вы мне не кажите, Мойго серца не злобите.* Дэмб., ООМГ, I, 570; Рагінь Раг.

**ЗЛА'ГАДА** *ж.* Згода. *І калі хочаш з мужыкамі жыць у злагадзе, асцерагайся ўзяць лішняе.* Сач., Д, 143.

**ЗЛАДАВА'ЦЬ** *зак.* Злажыць, спакаваць. *На раніцу, калі трэ было ісці на лекцыі, Заранка зладавала ў чамадан, у клунак усё сваё, што было ў інтэрнаце, і пачала развітвацца з дзяўчатамі.* Саб., БАС, 138.

**ЗЛАДЗЕЯВА'ТА** *прысл.* Жулікавата. *Мінуўшы некалькі хат, нікога не сустрэўшы, Ключнік азіраецца і заўважае, як дзед, зладзеявата азіраючыся, выбіраецца з-за хлява.* Нав., СТ, 72. Параўн. з л а д з е й к а в а т а.

**ЗЛАДЗЕЙКАВА'ТА** *прысл.* Тое, што з л а д з е я в а т а. *Толік, зладзейкавата зыркнуўшы на старога Дзяніса, адпаласаваў з буханкі, што ляжала на стале, ладны акраец і вымеўся на вуліцу.* Дан., ЗА, 80.

**ЗЛАДЗЮГМА'Н** *м.* Чалавек зладзейскіх намераў, злоснік, вораг. *Не які-небудзь ваўчок-смарчок, а сапраўдны лясны зладзюгман, драпежнік.* Сач., ЧН, 191. *Бач, на гарэлку як накінуліся, зладзюгманы.* Шам., V, 463. *Не раз чуў яшчэ да жаніцьбы, што людзі пра іх, зладзюгманаў, казалі.* Сач., Д, 9.

**ЗЛАДЗЮГМА'НІЦЬ** *незак.* Ліхадзейнічаць. *Мароз зладзюгманіць. Завея.* Наўр., ГС, 12.

**ЗЛАЖЫ'ЦЦА** *зак.* Паспадзявацца, даверыцца. *Ён тады злажыўся на яго другі раз.* ЧК, I, 246; Мяркулавічы Раг.

**ЗЛАЖЭ'ННЕ** (зложеніе) *н.* Род (сям'я). *Были яны дужэ з бедного зложенія: а покуль етых сыноў порасців, бедзяк моцно став.* Рам., БС, III, 228; Нісімкавічы Раг.

**ЗЛІ'ТАСЦЬ** *ж.* Злітнасць, цэлас-

насць. *Тады становіцца асабліва зразумелым адзінства і непарыўная злітнасць зямной прыроды.* Гам., ША, 269.

**ЗЛІ'ЧНЕНЬКІ** (зличненький) *прым. Памянш.* Прыгожанькі (вельмі). *У сени вошла серенькой уточкой, у хату вошла сизенькой павочкой, За стол села зличненькой панночкой.* Радч., ГНП, 88; Гом.

**ЗЛО'ТА** *н.* Золата. *Не бери, братко, при злоце, Да бери, братко, при цноце.* Шэйн, III, 405; Дзякавічы Маз.

**ЗЛУ'ЧАЙ** *м.* Выпадак. *Потом був такій злучай, що яны увыйшли, етыя молодыя, удвоих у хату.* Рам., БС, IV, 108; Васільеўка Гом.

**ЗЛЫБЯДА'** *аг.* Ліхадзей. *Тут табе не пярыны. Маўчы, злыбяда.* Дан., Ж, 21.

**ЗЛЮБІ'ЦЬ** *зак.* Палюбіць, пакахаць. *Девчоночка гусара злюбила.* Рам., БС, I—II; Алешня Раг.

**ЗЛЯКА'НЫ** (зляканный) *прым.* Спужаны (раптоўна і моцна). *Треба тогды узять жменю кужалю и часать яго, аткрывши комин, а почасавши, разостлать на столе и поставить посярод зляканнаго дятёнка и запалить.* Рам., БС, IV, 36; Папоўка Гом.

**ЗЛЯКА'ЦЦА** (злекацца) *зак.* Спужацца (раптоўна і моцна). *Мой милый злекався и в жупань вобрався.* Радч., ГНП, 133; Гом. *Я не адразу сцяміў, адкуль, нашто такі агонь, і зноў злякаўся.* Шам., ВТБ, 144.

**ЗМАРШЧЫ'НКА** *ж. Памянш.* Маршчынка. *Раптам твар яе становіцца строгім, на лбе рэзка выступаюць змаршчынкі.* Краўч., НХП, 607.

**ЗМАРЫГУ'ЛІЦЬ** *зак.* Арганізаваць. *Бывала, падояць дзяўчаты кароў,— і проста на траве, пад дубам, змарыгуляць танцы.* Сач., БРВ, 48.

**ЗМАЎЛЯ'ЦЬ** (змовлять) *незак.* Схіляць. *Батюшка тябе будя змовлять, будя змущать.* Рам., БС, III, 150; Гарадзец Раг.

**ЗМЕ'РАК** *м.* Змярканне, змрок. *У цагляных акопах ад золку да змерку байцы здабываюць паверх за паверхам.* Дуд., С, 6.

**ЗМІКІ'ЦІЦЬ** *зак.* Зразумець, здагадацца. *Але дзед адразу змікіціў, што па пераносе можа мець выгаду.* Шам., ВТБ, 346.

**ЗМО'РШЧЫК** *м.* Маршчына. *За колькі дзён у яе з'явіліся сівыя валасы на скронях, а на твары, пад ласкавымі карымі вачамі — зморшчакі.* Шам., II, 120. *Юрка Маргун, калі чытаў нарыс перад здачай у набор, праўда, нечага збіраў у гармонік на лбе зморшчкі, але правіць не правіў.* Саб., II, 169. *Твар яе быў спаласаваны зморшчкамі...* Саб., I, 40.

**ЗМРУ'ЖЫЦЬ** *зак.* Самкнуць, заплюшчыць (вочы). *А яна не спала, яна ніяк не магла змружыць вачэй.* Саб., БАС, 20.

**ЗМУ'РКІ** *толькі мн. Абрад.* Змыванне, абліванне дзіцяці (пасля хрышчэння). *Коли робиць змурки, бо завтра кума-паненка не придзе к нам, ей конча трэба промыць вочи.* Шэйн, III, 387; Ельск Маз.

**ЗМУСАВА'ЦЬ** *зак.* Набіць, адлупцаваць і такім чынам прымусіць рабіць што-н. *Грыша прымушаў слабейшага пасвіць свайго рабога кабана. А калі той адмовіцца, дагоніць і змусуе.* Кап., СЖЛ, 45.

**ЗМУШЧА'ЦЬ** (змушчать) *незак.* Вымушаць, прымушаць. *Батюшка тябе будя змовлять, будя змушчать.* Рам., БС, III, 150; Гарадзец Раг.

**ЗМЯЙЁ** *ж. Лаянк.* Шкоднікі. *Зляцяцца ўночы пад гэтага дуба рознае змяйё.* ЧК, II, 441; Азяраны Раг.

**ЗМЯНЦЕ'ШЫЦЬ** *зак. Перан.* Нагаварыць многа і без толку, бязглуздзіцы. *Ну, а я змянцешыў гэтаму балабону — Парасцы — вось яна і разнесла, як сарока.* Лупс., ВТ, 16.

**ЗМЯРКА'НАК** *м.* Змярканне. *І кожны дзень на змярканку, паднядзеляны, спяшаўся ў клуб.* Сач., БРВ, 252.

**ЗНА'ДАБІЦЦА** *зак.* Спатрэбіцца. *Не бі мяне, а вазьмі мяне дамоў, дак я знадаблюся табе калі-небудзь.* ЧК, I, 246; Мяркулавічы Рог.

**ЗНА'ЙКА** *аг.* Чалавек, які імкнецца паказаць, што много ведае. *Што ты знала? Знайка.* Мак., ВКЛ, 132.

**ЗНАЙСЦІ'СЯ** *зак. Перан.* Нарадзіцца. *У мяне, калі Нінка знайшлася, такі масціт надарыўся, што ўсё малако згарэла за два дні.* Шам., I, 207.

**ЗНАКАМІ'СТЫ** (знакомистый) *прым.* Знакаміты. *Наши коники воронистые, знакомистые.* Радч., ГНП, 41; Гом.

**ЗНЕЛЮДЗЕ'ЦЬ** (знелюдзінець) *зак.* Здзічэць, стаць нелюдзімым. *Так ты зусім знелюдзееш.* Лупс., ВТ, 229. *Так і знелюдзінець можна.* Лупс., ВТ, 167. Параўн. з н я л ю д з е ц ь.

**ЗНІШТАЖА'ЦЬ** *незак.* Знішчаць. *Але быў... адзін сведка, калі сям'ю нашу зніштажалі.* Шам., ВТБ, 225.

**ЗНІШТО'ЖЫЦЬ** *зак.* да *з н і ш т а ж а ц ь. Калодзежны, канечне, чуў, чые сем'і ўвосень зніштожылі ў нас.* Шам., ВТБ, 225.

**ЗНІЯ'КАВАЦЬ** *зак. Перан.* Засароміцца, адчуць няёмкасць. *Тося... адразу сцялася, зніякавела, быццам зрабіла ці сказала нешта непрыстойнае.* Шам., ВТБ, 354.

**ЗНІЯКАВЁЛЫ** *прым.* Збянтэжаны ад пачуцця сораму, ніякаватасці. *Зніякавёлая Клаўка спынілася каля тратуара, з выклікам зірнула на Чалага.* Дан., Ж, 181.

**ЗНО'БКА** *прысл.* Халадна (з азнобам, дрыжыкамі). *Плацце адразу ж намокла, зрабілася знобка — волкі халадок браў за плечы.* Сач., Д, 218.

**ЗНУШЧА'ЦЦА** *незак.* Здзекавацца. *Праўда, знушчаўся ён вельмі з мяне, кісельварыў.* Сач., А, 88.

**ЗНЯЛЮ'ДЗЕЦЬ** *зак.* Тое, што з н е л ю д з е ц ь. *Бо тут, у лесе, знялюдзееце.* Сач., Д, 79. *Знялюдзеў адзін у лесе, ад дому адбіўся.* Сач., ЧН, 8.

**ЗНЯПРА'ЎДЗІЦЬ** *зак.* Схлусіць. *«Заўтра заняты буду. Да экзамена трэба рыхтавацца. Сесія ў нас»,— зняпраўдзіў.* Кап., СЖЛ, 71.

**ЗНЯЦЬ** *зак.* Атрымаць, узяць. *Аткуль аны, што аны будуць рабіць, калі рашчоту не ўмелі зняць.* БКЭ, № 16; Камаровічы Маз. *Павёў он іх на рашчот, што ў лесе е, штобы рашчот знялі.* БКЭ, № 16; Камаровічы Маз.

**ЗО'БАЛАКА** *н.* Воблака. *Тэй і падняўся ўгору пад зобалакі.* ЧК, I, 247; Мяркулавічы Рог.

**ЗО'БЕНЬКА** *ж. Памянш.* Каробачка для мёду. Эр., ОБП, 118; Брагін.

**ЗРАДЛІ'ВЫ** *прым.* Ураджайны. *Песня сьпета проціў лета, Проціў лета зродливага, Да й проціў году счасьливага.* Д-З, ПП, 143; Красная Воля Маз.

**ЗРА'ННЯ** *прысл.* Зранку. *У мяне сягонні зрання нос свярбіць.* Шам., ВТБ, 15.

**ЗРО'ДНІК** *м.* Родзіч, сваяк. *Мати Марея кинулася ик своим зродникам, похвалилася етымы поступкамы.* Рам., БС, IV, 4; Вылеў Гом.

**ЗУ'БЕЛЬ** *м.* Кавалак дымчатай сасны. Эр., ОБП, 118; Брагін.

**ЗУ'БЛЕНКА** *ж. Памянш.* да з у б е л ь. *Спалохалиса дзецюки й давай у их кидаць галавешками да махаць зубленками.* Серж., СРБП, 40; Лучыцы Маз.

**ЗЫНА'ЧАНЫ** *дзеепрым.* Перайначаны, пераменены. *Стоячы поруч, яны дзівіліся харастве навакольнага свету, зыначанага ў дымчатым блакітным святле.* Мел., I, 288.

**ЗЫНА'ЧЫЦЬ** *зак.* Перайначыць, перамяніць. *А рабочыя, сяляне ўсё зыначылі дазвання.* Дуб., I, 344.

**ЗЫ'РКАЦЬ** *незак.* Глядзець, паглядваць, шукаючы вачамі. *А з-за плятня ўжо зыркалі цікаўныя вочы суседкі.* Шам., IV, 241.

**ЗЫ'РЫЦЬ** ◆ **зырыць вока** — глядзець (кідаць позірк вялікіх ва-

чэй). *Месяц не пакідаў мяне ні на хвіліну, усё плыў і плыў за мною, усё зырыў і зырыў сваё вока, асвятляў і асвятляў папялішчы.* Сач., Д, 267.

**ЗЮ'ЗЯ** *ж. Дзіц.* Холад. Радч., ГНП, 12; Гом.

**ЗЯ'ПА** *ж. Груб.* Рот чалавека. *А пан вельмі ж спрытна, проста з размаху, выплюхнуў паўконаўкі смярдзючай чары ў зяпу.* Шам., V, 411.

**ЗЯЎЗЮ'ЛЯ** *ж.* Зязюля. *А калі ж? Як зяўзюля закукуе.* БКЭ, № 20; Камаровічы Маз. *От, паночку, кажэ, я зяўзюлю ўбіў на грушы.* БКЭ, № 20; Камаровічы Маз.

**ЗЯЎЛА'СТЫ** *прым.* Гарласты. *Такое малое, а такое зяўластае.* Мел., V, 313.

## I

**ІБО'РА** *ж.* Тое, што а б о р. *«Жоно моя верна, дзе дзяцину дзела?» — «Пошла дзяцина, пошла до иборы обираци зоры».* Д-З, ПП, 145; Красная Воля Маз.

**ІГРА'ЙКА** *ж. Муз.* Гармонік, гармонь. *Гарманіст, фарсісты падхлапец, сядзеў, закапыліўшы губу, на покуце і разводзіў мех на сваёй іграйцы.* Кап., Ж, 93.

**ІЗДАЎНЕ'Й** (издавней) *прысл.* Даўней, калісьці. *Издавней было такое ўремяно, што не сваталі, як тяпер, а высылаетца потрет.* Рам., БС, III, 152; Гарадзец Раг.

**ІЗМАЎЛЯ'ЦЦА** (измовлятца) *незак.* Дамаўляцца. *Там люди стрельцы-Миколаевцы измовляютца козоньку біть.* Дэмб., ООМГ, I, 527; Гом.

**ІЗРУ'ГА** *ж.* Здзек, насмешка. *Вот узяў, аддзяліў яго, даў яму лавачку худую — на изругу.* ЧК, II, 409.

**ІКО'ТКА** *ж.* Ікаўка. *У мяне ад шампанскага ікотка.* Шам., VI, 168.

**ІМГЛІ'СТАСЦЬ** *ж. толькі адз. Перан.* Імгла. *Скрозь тугу, імглістасць і туман усё прайшло без крыўд.* Дуд., ЗС., 5.

**ІМЖА'КА** *ж. толькі адз.* Імгла, імжа. *Ноч была доўгая-доўгая. За сценамі барака яна хлюпала асенняй імжакай.* Саб., I, 39.

**ІНАГДЫ'** *прысл.* Часам, іншы раз. *«У мястэчку бываеш?» — «Хаджу інагды».* Нав., СТ, 299. Параўн. і н о д ы.

**ІНА'ЧА** *прысл.* Інакш, іначай. *Варожка князю так сказала, що ён був собаком, а тяперака став пташкой, и вы яго йнача ня попадетя, як треба вам устроить птишню.* Рам., БС, IV, 113; Васільеўка Гом.

**ІНБА'Р** *м.* Свіран, клець. *Бяры ключ на сцяне, ідзі ў інбар, адмыкай, там маіх сыноў ружжы, ты бяры сабе любое.* ЧК, I, 76; Рудня Чач.

**ІНО'ДЫ** *прысл.* Тое, што і н а г д ы. *Вельмі ж нацярпеўся я за гэтыя гады, сабою ўжо іноды не валодаю.* Сач., ЧН, 170.

**ІСПРА'ВІЦЬ** *зак.* Справіць, прыдбаць. *Не жени мене, мамочка, Не жени мене, родная, Исправь мене, мамочка, Три трубы золотыя.* Радч., ГНП, 200; Гом.

**ІСТРЫ'ЦЬ** (истрить) *незак.* Вастрыць. *Ушов Иванька ў хату, а батька нож истрить.* Рам., БС, III, 144; Гом.

**ІСХВАЛІ'ЦЦА** *зак.* Хваліцца. *Чым ісхваліўся свецел месяцу.* ЗП, 203; Тонеж Лельч.

**І'СЦІК** *м.* Жалезны прут для смажання мяса. *«Вы наніжыце скваркі на ісцік ды на агонь»,— параіў хлопчык.* Сач., БРВ, 289.

**ІЦІ'ЦЬ** *незак.* Ісці. *Куды ж нам ициць?* Рам., БС, III, 157; Навасёлкі Раг. *Іціць сярэдняму брату.* ЧК, I, 67; Рудня Чач. *Трэба іціць к дванаццаціглаваму змею!* ЧК, I, 252; Мяркулавічы Раг.

**ІША'ЧЫЦЬ** *незак.* Выконваць цяжкую работу. *А хто на вас ішачыць будзе? Дзе такога жылаватага знойдзеце?* Нав., СД, 318.

**КАБАНЕ'Ц** *м. павел.* кабан. *Кабанец разагнаўся — і той туды паляцеў. Вот ідуць учацвярых. Бяжыць кабанец.* ЧК, I, 42; Гом.

**КАБЫЗІ'ЦЦА** *незак.* Праціўіцца. *«Ты, дзеванька— нашэптвала Агата далей,— калі ён горнецца да цябе, не ўздумай кабызіцца».* Дан., Ж, 99.

**КАВАЛЁЎСТВА** *н. толькі адз.* Кавальства. *Непрыемна скончылася маё кавалёўства.* Саб., II, 58.

**КАВАЛІ'ШКА** (ковалишко) *м. памянш.-ласк.* каваль. *Узяв я тое зялезцо и понёс к ковалишку.* Рам., БС, III, 434; Гом.

**КАВАЛІ'ШЧА** *м. павел.* каваль. *Кавалішча, кавалішча, іскуй мне заступішча.* ЧК, II, 159; Перарост Гом.

**КАВЕ'НЬКА** *ж. Памянш.* да к а в я н я. *«Ты вось паглядзі туды»,— паказвае настаўнік кавенькаю ў кут агароджы.* Сач., БРВ, 96. *Белы хвост яго выгінаўся кавенькай.* Рак., В, 47. *Нярэдка трапляліся стройныя тонкія крушыны, з якіх добра было рабіць кавенькі.* Мел., IV, 382.

**КАВЕ'ШНІК** *м.* Качарэжнік. *Яна з крэктам злезла з прымурка на падлогу, патупала ў кавешніку, выграбла качаргою з печы на камінак учарашняе вуголле і доўга дзьмухала на яго.* Кап., СЖЛ, 53. Параўн. к а м е ш н і к.

**КАВЯНЯ'** (кавеня) *ж.* Кій, палка для апоры пры хадзьбе. *Он ухапіў за кавеню, дай погнаўсе сьвіню біць.* БКЭ, № 9; Камаровічы Маз.

**КАГО'Р** (когор) *м.* Лясун (?). *Пугач пива наварив, когор гостей запросив.* Рам., БС, I—II, 214; Гом.

**КАДЭ'ЛЬНІЦА** *ж. Царк.* Кадзіла. *Кали б я ў етым дели царом быв, то б я з воску церкву зделав: сами б попы пели, сами б книжки читали, кадэльницы сами б бовтались.* Рам., БС, III, 332; Перарост Гом.

**КАЖУШЫ'НА** (кожушина) *ж.* Кажух (верхняя вопратка). *Загину, девочка, загину, Подай в окно кожушину.* Радч., ГНП, 185; Гом.

**КАЗА'** *ж. Абрад.* Прадстаўленне на каляды. Шэйн, I, 89; Калкі Рэч.

**КАЗАЧЫ'НА** *ж.* Кафтан святочны. Радч., ГНП, 2; Гом.

**КАЗЫТЛІ'ВАСЦЬ** *ж. толькі адз.* Казытанне. *Зазвінела ад пчол грэчка, духмяная да казытлівасці ў грудзях.* Кап., СЖЛ, 35.

**КАЗЮ'РКА** *ж.* Казяўка, кузурка. *Па сцяблінцы паўзе казюрка.* Нав., СТ, 220.

**КАЙСТРА'** (койстра) *ж.* Кастрыца. *Ты возьми ў жменьку койстры, да скажи: богослови Господи!* Рам., БС, IV, 34; Доўск Раг.

**КАЙСТРЫ'ЧКА** (койстричка) *ж. Памянш.* да к а й с т р а. *Зви вяровку з койстрички и выцягни яе!* Рам., БС, IV; Доўск Раг.

**КА'ЙСЦЕРКА** (кайстерка) *ж. Памянш.* Торбачка. *От, Иванька дав собацы кайстерку, и послав яго к цару.* Рам., БС, III, 77; Перарост Гом.

**КАЛАВУ'РКА** *ж.* Каравулка. *Неўзабаве мяне змянілі, і начальнік калавура ўжо ў калавурцы давай мяне прабіраць самымі апошнімі словамі.* Саб., БАС, 40.

**КАЛАСАВІ'К** *м. Бат.* Баравік, які расце ў час каласавання жыта. *Жаўтагаловыя каласавікі — грыбы нядоўгія.* Нав., В, 83.

**КАЛАСЁН** (колосён) *прым.* Каласісты. *Да зародзи Божэ Да нашаму королю Жито колосистэ, Да едрынистэ, Ечмень колосён.* Шэйн, I, 96; Мелішковічы Маз.

**КАЛАТНЕ'ЧА** *ж.* **1.** *перан.* Калатня, вайна, бойка (што выклікаюць неспакой, трывогу, неразбярыху). *На свеце гэтакая калатнеча, а вы з любошчамі.* Саб., ЗПД, 121. *Гэтак і мне хочацца зірнуць хоць адным вокам, чым скончыцца гэтая сусветная калатнеча.* Саб., I, 58. *На свеце ўсхадзілася гэтакая калатнеча, завіруха.* Саб., I, 23. *Грыбы ра-*

*стуць нягледзячы на тое, што вайна, што на зямлі калатнеча.* Нав., ВС, 154. Параўн. к а л а т э ч а. **2.** Грызня, сварка, калатня. *Іх хаты стаялі якраз насупраць, цераз вуліцу, і сварка паміж жанкамі, надакучлівая калатнеча, не спынялася ад ранку да вечара.* Нав., ТЮ, 69. *А будзе ж час, што і самой сорамна за гэтую калатнечу зробіцца.* Пал., КЗС, 6. **3.** Мітусня, беганіна, сумятня (святочная, прыўзнятая). *На нас з Насцечкай у час гэтай вясельнай калатнечы забылі зусім.* Саб., II, 26.

**КАЛАТЭ'ЧА** *ж.* Тое, што к а л а т н е ч а ў 1 знач. *Гэта ж і жыцця таго толькі і было, што да вайны. А як усчалася калатэча, то і пайшло, пайшло.* Сач., П, 45.

**КАЛАЧАВА'ТЫ** *прым.* Крываваты. *Гэтак жа па-качынаму тупаў вакол санак, перавальвайся, як качар, на сваіх калачаватых нагах.* Кап., СЖЛ, 61.

**КАЛАШМА'Й-ВЕ'ЦЕР** *м.* Моцны вецер. *Нават не дыша ніадкуль калашмай-вецер.* Сач., АВН, 10.

**КАЛГА'НКА** *ж.* Гарэлка (настоеная на травах). *Ко мне свёкорка — з нагайкай, А я к свёкорку — з калганкай.* Дэмб., ООМГ, I, 587; Гом.

**КАЛДУ'НКА** (колдунка) *ж.* Вядзьмарка. *А яна была колдунка.* Рам., БС, IV, 27; Перарост Гом.

**КАЛДЫБА'ХА** *ж.* Сажань (для вымярэння плошчы). *Перакінуў Кастусь праз плячо калдыбаху і пайшоў на сваю дзялянку.* Гаўр., ПД, 173.

**КАЛЕ'** *прыназ.* Каля. *Идзе раз цар кале мора.* Серж., СРБП, 15; Лучыцы Маз.

**КАЛЕ'КІ** *прым.* Знявечаны. *Собралися по обед, и дужа ён участив увесь мір христіянскій, дажа подаровав, усих чисто сляпых, нявидящих и калеких грошами доволи.* Рам., БС, IV, 82; Карма Гом.

**КАЛЕ'НДЫ** *толькі мн. Абрад.* Каляды. Эр., ОБП, 10; Брагін.

**КАЛКАВІ'ЦА** (колковица) *ж.* Хвароба, якая суправаджаецца адчуваннем паколвання. *Скула, скуловица, жовта жовтовница, красна красновица, колка колковица.* Рам., БС, V, 91; Целяшы Гом.

**КАЛУБЕ'НЬ** *ж.* Калыска (дзіцячы ложак). *Было позна ўжо, Танька і Віця пасопвалі мерна насамі ў сваіх пасцелях: Танька ў плеценай з лазы калысцы — «калубені».* Сач., ЧН, 139.

**КАЛЮ'ЖА** *ж.* Калюга, калюжына. *...І шырока, хутка пакрочыў, ва ўзбуджэнні ў адзін мах пераскокваючы рэдкія вясеннія калюжы на вуліцы.* Краўч., НХП, 57.

**КАЛЯ'НЫ** (коляный) *прым.* **1.** Лубяны, нягнуткі. *Я апранаю каляны фартух і бяру востры малаток.* Дан., МП, 57. **2.** Загартаваны. *Що ляти, ляти коляная стряла. Ен по судёнышку похадживая, коляну стрялу потягивая.* Шэйн, III, 183; Гом.

**КАМАРУ'СЕНЬКА** (комарусенько) *м. ласк.* камар. *Ой комару, комарусеньку, Ведзи меня по малюсеньку.* Шэйн, III, 422; Дзякавічы Маз.

**КАМАРЭ'ЧА** *ж.* Камары. *Камарэча, авады и усяляки гнюс вочы им павыедали.* Серж., СРБП, 59; Лучыцы Маз.

**КАМЕ'НДАВАЦЬ** *незак.* Камандаваць. *А Илья ездзить сабе па небу да камендуе.* Серж., СРБП, 16; Лучыцы Маз.

**КАМЕ'ШНІК** *м.* Тое, што к а в е ш н і к. *Позірк яе прайшоўся па хаце — затрымаўся пад лаўкай, потым ля камешніку і раптам спыніўся ў праёме дзвярэй.* Рак., В, 227.

**КАМЛЮ'ШКА** *ж. Памянш.* Карэньчык (расліны). *Няхай табе, дзед, будуць ужо камлюшкі, а мне вярхушкі.* ЧК, 163; Азяраны Раг.

**КАМЯНЕ'Ц** *м.* Камінак. *Да тыя стружачкі спалить ти на запячку, ти на камянцу.* Рам., БС, V, 54; Чарацянка Гом.

**КАНАПЛЯ'НАЧКА** *ж. памянш.* каноплі. *А стаяла, буяла ў агародзе канапляначка.* АБВ, 288; Рудня Светл.

**КАНАПЛЯ'НІК** *м. Заал.* Варабей. *Дзетвара ў пошуках лепшых пазіцый заняла нават усе падаконнікі — неўгамонныя жэўжыкі круціліся там, быццам канаплянікі на плоце.* Крауч., НХП.

**КАНАПЛЯ'НКА** *ж.* Тое, што х у с т к а-к а н а п л я н к а. *Ён аж паморшчыўся ад болю і са злосцю кінуў дзядзькаву канаплянку.* Саб., ЖЗ, 105.

**КАНА'РЫК** *м. Зневаж.* Паліцэйскі, паліцай, паліцыянт. *Няхай бы самі канарыкі лезлі.* Саб., ЖЗ, 95.

**КАНАРЭ'ЗНЫ** (конорезный) *прым. Груб.* Бязлітасны, жорсткі. *Ня йграй, конорэзная душа, ня йграй; Мое раны не ўразь.* Рам., III, 263; Гом.

**КАНІ'ШАНЬКА** (конишанька) *м. памянш.* конь. *Ночуй, ночуй мой міленькій, у темном леси при долини, Привязавши конишаньку къ чарвонай калини.* Рам., БС, I—II, 144; Папоўка Гом. Параўн. к а н ю с е н ь к а.

**КАНО'ЗІЦЦА** *незак.* Капрызіць, наравіцца. *Хлопчык, якога Маня гушкае на руках, мабыць захварэў. Два дні не падавай голасу, а цяпер канозіцца.* Нав., СТ, 317.

**КАНЦЫЛЯ'РШЧЫК** *м.* Работнік канцылярыі. *Можа, памылка якая ў канцыляршчыкаў выйшла.* Мел., I, 238.

**КАНЧА'К** *м.* **1.** Верх. *Відаць былі толькі канчакі камінoў ды самыя высокія вільчыкі стрэх.* Сач., Д, 214. **2.** Кавалак. *А калі надыходзіў змрок — крамзоліў канчаком алоўка ў кніжачку, што насіў за пазухай.* Сач., ЧН, 238.

**КАНЮ'СЕНЬКА** (конюсенько) *м.* Тое, што к а н і ш а н ь к а. *Казак коника седлая, с конюсеньком размовляя.* Рам., БС, I—II, 99; Беліца.

**КАПАНІ'ЧЫЦЬ** *незак.* Матычыць. *Заняўся сабе мыш з вераб'ём ляда капанічыць.* ЧК, I, 245; Мяркулавічы Раг.

**КА'ПАСЦЬ** (капосьць) *ж. толькі адз.* Паскудства. *Дзевчата повинны прибраць свое кудзели, штоб каледа не зробила им капосьци у кудзели.* Шэйн, I, 45; Кочышчы Маз.

**КАПЕ'ЙЧЫНА** *ж. Зборн.* Грашовыя сродкі. *Таксама нейкую капейчыну прывязе.* Губ., ДП, 268. *Ды і я якую капейчыну табе на яго перакіну.* Дан., ЗА, 75.

**КАПНІ'К** *м.* Капа (сена). *Увечары я ляжаў на капніку сена ў Яўменавым двары і глядзеў на неба.* Сач., Д, 424.

**КАПТУ'Р** *м. Перан.* Покрыва. *Чарнеюць прыземістыя хаткі, акрытыя каптурамі снежных дахаў.* Нав., СТ, 53. **:з каптуром** — з верхам. *Сабастыян паклаў поўную, нават з каптуром, глыбокую талерку грыбоў.* Саб., ЖЗ, 177.

**КАПТУ'РЫК** *м. памянш.* капялюш (грыба). *З чорна-жоўтым каптурыкам, на тоўстай ножцы сядзіць баравічок.* Нав., В, 85. *Нават адсюль, з дарогі, можна ўбачыць слізкія каптурыкі маслюкоў.* Нав., ВС, 264. *Рана паказваюцца падбярозавікі, або як завуць іх у нас, ababкі — добрыя, калі браць іх маладзенькімі, з цвёрдымі каптурыкамі.* Нав., В, 90.

**КАПУ'ЦІК** (копуцик) *м. памянш.* капыт. *Да пошоў наш козёл Да на руожечках, Да на нуожечках, Да на копуциках.* Шэйн, I, 96; Мялішковічы Маз.

**КАПЦІ'ЛЬНЯ** *ж.* Вяндлярня. *Не двор, а харомы — дом з васьмі ці дзесяці пакояў, капцільня, лазня, мноства ўсялякіх гаспадарчых прыбудоў.* Нав., ВС, 122.

**КАПЫ'ЛЛЕ** (копыльле) ◆ **і з капылля вон** — паваліцца. *Ето такая хвароба, што вяликому кости тре, ломая, а малому — кричить дужо, и с копыльля вон.* Рам., БС, V, 20; Кашалёва Раг.

**КАРАБЕ'Ц** (коробец) *м.* Кораб (пасудзіна). *Была у их куркарабушка; нанясла яец повян ко-*

*робец*. Рам., БС, III, 1; Перарост Гом.

**КАРАВА'ЙНІЦА** *ж. Абрад.* Жанчына, якая прымае ўдзел у выпечцы і дзяльбе каравая на вяселлі. *Каравайніцы з места, каравайніцы з места, ды пакралі ўсё цеста.* АБВ, 105; Малешаў Жытк.

**КАРА'ВАЧНІК** *м.* Анучнік. *Трошкі пазней Лейка ўладзіўся ў Верамеевічах на нейкую казённую работу і ездзіў каравачнікам па вёсках.* Саб., II, 111.

**КАРА'КА** *ж.* Ануча заскарузлая. *Дзімка сеў на падлогу, нашарыў пад ложкам лапці, спакваля, бы стары, размяў, расцёр у руках каракі і пачаў абувацца.* Кап., СЖЛ, 54.

**КАРАЛЕ'СЕНЬКА** (королесенько) *м. памянш.-ласк.* кароль (тытуланая асоба). *Учив мене королесенько, Щоб не ехав ранесенько.* Шэйн, I, 432; Дзякавічы Маз.

**КАРАПА'ШАЧКА** *ж. памянш.* збудаванне. *Пайшоў ён у горад, заказаў слесару зрабіць такую карапашачку, дзверы штоб раздвіжныя, каб не было відна, каб я сядзеў і не відзен быў.* ЧК, I, 75; Рудня Чач.

**КАРАСІ'НА** *ж. толькі адз.* Газа. *Чаго там было зачыняць — пляшка якая карасіны, тры пачкі запалак ды жменя солі!* Мел., VI, 115.

**КАРО'ВАНЬКА** (коровонька) *ж. памянш.-ласк.* карова. *Тобе, мамко, вся худобонька, А мне бодня и коровонька.* Шэйн, III, 437; Дзякавічы Маз.

**КАРО'ВАШНІК** (коровошник) *м.* Кароўнік. *Параказать дванатцять разов у хлеви ти ў коровошнику, где домовый портя скотину.* Рам., БС, V, 1; Красная Буда Гом.

**КАРПУНЕ'Ц** *м.* Грыб маленькі. *Грыбы сядзелі, тапырылі лісце і там, і тут, на кожным кроку, па адным, па два, а то і па некалькі разам — вялікія, дзябёлыя і зусім маленькія — толькі што з зямлі — карпунцы.* Сач., ЧН, 190. *Усё дзнішча ўжо пакрыта грыбамі — белакурымі, паджарымі, з чорнымі тоўстымі шапкамі і зусім малюсенькімі карпунцамі.* Сач., БРВ, 34.

**КАРТАПЛЯ'НІК** *м.* Дранік. *Напяку я табе тады картаплянікаў, пастаўлю на стол цэлую міску смятаны, а ты возьмеш у пальцы блінец — жоўценькі, аж свеціцца.* Кап., СЖЛ, 34.

**КАРТО'ПЛЯ** *ж.* Бульба. *Нясмачная, можа, картопля?* Мел., БД, 25. *Урадзіла ў вас картопля.* Кап., А.

**КАРШЭ'НЬ** *м.* Карак. *Дзякуй маці, выратавала — кінулася да старога, учапілася ў каршэнь, затузала, закляла — і стары пусціў хлопца.* Мел., V, 364. *Хадзі сабе па шпалах, як Фогель ці Адамчук, убачыш, што Кардаш слаба ўкалвае, у каршэнь яму, у хрыбет.* Нав., СД, 288.

**КАРЫ'НКА** (коринка) *ж.* Кусок кары. *Тоды сёстры ягоды ў яго отобрали, ножиком яго зарезали, под колодочку подкатили, коринкой вочи накрыли.* Рам., БС, III, 262; Гом.

**КАРЫ'СНЫ** (корыстный) *прым.* Багаты, ураджайны. *Сам Бог стукуняе з теплую мокрую весною, з горачим небурливым летом, с сухою и корыстною осенью.* Шэйн, I, 46; Кочышчы Маз.

**КАРЭ'БЧЫК** (корэбчик) *м. Памянш. да* к а р а б е ц. *У корэбчику уложыла На чист Дунай пусьтила.* Рам., БС, VII, 32; Гом.

**КАРЭ'ННІК** *м.* Караннік. *На вуліцы ён адразу ўпрогся карэннікам у Андрэйкаву тройку і гэтак са свежымі сіламі рвануў, што адно пяткі паблісквалі.* Саб., ЗПД, 52.

**КАСАВІ'ЛЬНА** *н.* Касільна, кассё. *Падумаў, што спяшаецца касіць, і прымусіў сябе ісці за касою памалей, мацней націскаючы на касавільна.* Кап., СЖЛ, 37.

**КАСАВІ'НА** *ж. толькі адз.* Крывізна. *А на той вунь дуб, сухі, аблуплены і скручаны ад касавіны, што верчык, дзед, калі яшчэ*

*быў дужэйшы і не так кашляў, цягаў калодачны вулей.* Сач., Д, 361.

**КАСАГО'Н** *м. Тэхн.* Дэталь у касілцы. *А цяпер вось ніяк касілкі не адрамантуем. Тут вал у касагоне трэба перамяніць.* Дан., МП, 10.

**КАСА'СЦЕНЬКІ** (косастенькій) *прым. ласк.* з доўгімі пер'ямі на галаве. *Удоль по речачцы селезень плыветь, косастенькій, волохастенькій.* Рам., БС, I—II, 42; Юравічы Гом.

**КАСІ'СТАЯ :касістая ластаўка** — ластаўка з двума доўгімі пер'ямі на хвасце. *А ты, ластаўка, ты касістая, вох і вой, лёлі, ты касістая.* ВП, 227; Рудня Ветк.

**КАСМО'ТНІШЧЫ** (космотнищи) *толькі мн.* Касмацці. *Тогды мужик згроб цыгана за космотнищи.* Рам., БС, III, 428; Гом.

**КАСТАМА'ХА** *ж.* Косць. *Мяса было ведама якое, адны кастамахі.* Сач., ЧН, 170.

**КАСТРАМІ'ЧКА** *ж.* Карова кастрамской пароды. *Дзядзька адчыняе рыпучыя вароты і праходзіць каля станкоў кастрамічак.* Дан., МП, 18.

**КАСЦЯРУ'ШКА** *ж. Бат.* Мятліца. *Яна несла з поля, прытрымліваючы рукой, каб не падала, поўны, укоптур, кашэль касцярушкі, малачаю і лебяды.* Сач., Д, 189. *І мы зноў ішлі бясконца доўга — спускаліся ў вузкія, пазарастаныя макрыцай і касцярушкай разоры, у якіх нават удзень не ападала раса.* Сач., Д, 55.

**КАТЛАМЫ'Й** *м.* Рабочы, што мые посуд на кухні. *«Трэба папрасіць, каб цябе на кухню на пастаянна назначылі,— кпіў Быстроў над таварышам,— памочнікам повара ці катламыем».* Мел., II, 61.

**КАТО'К** *м.* Кола (калёс). *Чалавек ехаў у дровы на валу і катком нагу мне адцёр.* ЧК, II, 30; Шарахаўская Буда Раг.

**КАТО'К-ВАРКАТО'К** *м. Памянш.* да к о т - в а р к а т. *Ой, каток-варкаток. Упаў коцік із варот, Забіў спінку і жывот.* ДФ, 179; Гом.

**КАТО'ЧАК** *м. Памянш.* да к а т о к. *Цёплае лета ў каточку, халодная зіма ў палазочку.* ВП, 95; Глыбочыца Чач.

**КАЎГА'НКА** (ковганка) *ж.* Памяло. *Девочки мовчанки у них языки як ковганки.* Радч., ГНП, 90; Гом.

**КАЎТЛЯ'ШКА** *ж. памянш.* камяк. *Пальцы намацалі гніль і дробныя каўтляшкі пчалінага памёту.* Сач., ЗМП, 99.

**КАЎЦЮШО'К** (кавтюшок) *м. памянш.* камяк. *Покачу я кавтюшок, Сто девкам пирожок.* Шэйн, I, 121; Гом. Параўн. к а ў т л я ш к а.

**КАЦАВЭ'ЛЬКА** *ж.* Кацавейка. *Гарошак, доўга не думаючы, узяў сваю кацавэльку ды і пайшоў проста к змею.* ЧК, I, 231; Петр.

**КАЧУ'ЛКА** *ж.* Качалка (круглая палка для разгладжвання бялізны качаннем). *А потым прадаўжала раскатваць качулкай бялізну.* Дан., Ж, 9.

**КАШЛЮКАВА'ТЫ** *прым.* Трохі кашлаты, калматы. *Хмары плылі па небе кашлюкаватыя, валунамі.* Лупс., МД, 23.

**КАШЛЮ'Н** *м.* Пярхун. *Зноў ты за сваё, кашлюн стары!* Шам., I, 305.

**КАЯТА'** *ж. толькі адз.* Бяда, гора. *І за што, божа, наслаў нам такую каяту, чым мы правініліся перад табой.* Сач., БРВ, 281.

**КВА'СЕНЬ** *м. толькі адз.* Квас. *Пілі ўсе разам квасень перагрэты.* Грам., В, 40.

**КВАСО'ЎКА** *ж. толькі адз.* Квас грушавы. *Грушы на ёй раслі буйныя, пахучыя, а што да смаку, дык яны былі добрыя і на галлі і калі ўлежваліся, і асабліва — калі траплялі ў міску квасоўкі.* Рак., БВ, 151.

**КВАТЫ'РАЧКА** (кватырочка) *ж. памянш.* кварта. *Куплю табе кварту меду, кватырочку піва.* Рам., БС, I—II, 234; Насовічы Гом.

**КЕ'ЙСАР** *м.* Кесар. *Кейсар етых разговор ня ўзлюбів, приставив*

*яго на суд.* Рам., БС, IV, 4; Вылеў Гом.

**КЕ′ЛЕ** *прыназ.* Каля. *Нашему дружку молодому Пасци качки келе дому.* Шэйн, III, 417; Дзякавічы Маз.

**КЕ′ЛЕНЬКА** (келянка) *ж. памянш.* пакой. *Монах того испужався, во келеньку заховався,— расу надевав.* Рам., БС, I—II, 186; Гом. *У нас чанцов справжда богато було у келянках жили по Дунай-раце.* Рам., БС, IV, 138; Целяшы Гом.

**КЕП** *м.* Дурань. *Калі ты такій кеп, што грошы згубіў, так цепер маеш толькі два рублі.* БКЭ, № 14; Рэч.

**КЕ′РКАЦЬ** *незак.* Крактаць. *Ад злосці керкае.* Дуб., I, 403.

**КЕ′ЎЛЯЦЬ** *незак.* Дыхаць (дажываць век). *Пляцецца, як бы ледзьве кеўляе.* Мел., V, 88.

**КІ′ДАЦЦА** *незак.* Перавярнуцца ў каго-н. *А ён такій быў змышлёный, што кідаўсе ў воўколака.* БКЭ, № 11; Камаровічы Маз.

**КІДЗЕ′ЛЬ** (кидель) *выкл.* Бух, шлёп, плясь. *Собаки побегли, а яна кота кидель!* Рам., БС, III, 329; Нісімкавічы Раг.

**КІ′ЛЬКА** *займ.* Некалькі. *Так і кілька домов і хлевов спалілосе.* БКЭ, № 35; Юравічы Рэч.

**КІНАЎШЧЫ′К** *м.* Кінамеханік. *Што за кінаўшчык такі! Адно нервы псуе.* Рак., СЛС, 78. Параўн. к і н ш ч ы к.

**КІНДЗЮ′Х** (киндюх) *м.* Капыт. *Прошу я вас, птицы-янгали, повымятать, повышкрабаць вяху з рыжаго вола, з буйныя головы, с киндюхов.* Рам., БС, V, 134; Гом.

**КІ′НШЧЫК** *м.* Тое, што к і н а ў ш ч ы к. *Тут нейкія кіншчыкі прыязджалі, два дні таўкліся.* Саб., II, 183.

**КІРЗА′Ч** *м.* Бот кірзавы. *А ён націскаў кірзачамі на педалі і адчуваў: за апошнія дні ўсё цясней робіцца ў грудзях, нешта падпірае пад дыхавіцу.* Дан., ЗЛ, 56.

**КІ′РКНУЦЬ** *зак.* Згінуць. *Як дзвінуў яшчэ раз, дак той змей і саўсем кіркнуў.* ЧК, I, 232; Петр.

**КІРПЕ′ЛІК** *м.* Ножык з кароткім, абламаным лязом. *У салдацкіх штанах, ён сядзеў на прасохлай раллі і выразаў кірпелікам на жалезнай скрынцы нейкую з кардону пракладку.* Рак., СЛС, 8.

**КІТА′ІНЬКА** *ж. тэкст. ласк.* кітайка (тканіна). *Спородила два сына, У китаиньку сповила.* Рам., БС, VII, 32; Гом.

**КІ′ЧКА** I *ж.* Галаўны жаночы ўбор з высокім перадком. *Бабка на печи, злезь покрасуйся, у лапоткі обуйся го-го-го! Надевай кичку, бери паленичку го-го-го!* Рам., БС, I—II, 188; Перарост Гом.

**КІ′ЧКА** II *ж.* Пень, корч (на дровы). *Пашоў, добру кічку выкопаў, дубоваю.* БКЭ, № 39; Ужынец Рэч.

**КІЯ′ШНІК** *м. Зборн.* Сцёблы кукурузы з лісцем. *У высахлых бадылінах кіяшніку шастае зімовы халодны вецер.* Нав., ВС, 313.

**КІЯ′ШНЫ** *прым.* Кукурузны. *І я тры дні зімою, у маразы, хаваўся ў непрыбраных кіяшных палях.* Крауч., НХП, 227.

**КЛА′ЦАЦЬ** *незак.* Шчоўкаць, ляскаць, кляцаць. *Лубан, азірнуўшыся на вокны, адну за другой хапае вінтоўкі, клацаючы затворамі, выкідвае пахапкам з магазінаў патроны.* Нав., СТ, 25.

**КЛА′ЦНУЦЬ** *зак.* Шчоўкнуць, ляскнуць, кляцнуць. *З-пад сцяны хаты вынырнула цёмная постаць, клацнула затворам, маладым ломкім голасам спытала пароль.* Нав., ВС, 47.

**КЛЕ′КАЦЬ** *незак.* Клекатаць (ствараць клёкат). *А той бусел ей ждаў, ждаў — прылетае і он, да і он седзіць коле дзяцей, да клекае.* БКЭ, № 28; Камаровічы Маз. *Бусел взлецеў на хату, дай клекае.* БКЭ, № 28; Камаровічы Маз.

**КЛЕ′ПАЦЬ** *незак.* Лыпаць, маргаць. *Яна не дагаворвала, голас ае зрывайся, яна часта-часта*

*пачынала клепаць вейкамі і подбегам даганяла мяне.* Сач., ЗМП, 68. *Міколка плаксіва шморгае носам і клепае бялёсымі вейкамі.* Сач., Д, 6.

**КЛО'МЛЯ** *ж.* Рыбацкая снасць, сак. *З кломляй трэба было ісці ўдваіх, утраіх.* Мел., V, 38. Параўн. к о м л я.

**КЛО'ПАТНАСЦЬ** *ж. толькі адз.* Клопат (трывожны стан, непакой). *Тут у высокі лад думак увайшла зямная клопатнасць: згадалася нядаўняя справаздача ў акружкоме.* Мел., VI, 102.

**КО'ВАРАТ** *м.* Весніцы (вароты). *Два дні гахаў сякерай, але ўсё ж вычасаў шулу для коварата.* Нав., ВС, 263. *Вінтоўку Міця з Лобікам хаваюць у дзедавым бульбоўніку, ледзь чутна рыпнуўшы коваратам, заходзяць у двор.* Нав., СТ, 330.

**КО'КАТ** (кокот) *м.* Сук. *Калі ўжо Мікодым далез да сярэдзіны коката, Рыгор убачыў, што ён дастане сцяг, і злосць на брата ажно распірала грудзі.* Саб., I, 199. *Раскатилася береза на четыре кокоты.* Радч., ГНП, 235; Гом. *Пришли к синяму мору; ля синяго мора стоить дуб на двенатцать кокотов.* Рам., БС, V, 20; Буда Раг.

**КО'ЛЕСЬ** *прысл.* Колісь, калісьці. *Мне колесь разказваў старэнькі дзед, а ён кажэ ащэ блазнам чуў ат свайго прадзеда.* Серж., СРБП, 56; Лучыцы Маз.

**КО'ЛЯНЫ** *дзеепрым.* Колаты. *Там яны гуляять и столы застилаять и усих лишаев дожидаять: и красных и белых, и лупляных и коляных.* Рам., БС, V, 95; Кругавец Гом.

**КО'МАЗА** *ж.* Каламажка. *Ехала царица на комази.* Рам., БС, V, 120; Ларышча Гом.

**КО'МЛАТА** *ж.* Пакой. *Узяў яго, зачапіў у комлатах за шыю бічоўкай і пачаў лупіць друком.* ЧК, I, 249; Мяркулавічы Раг.

**КО'МЛЯ** *ж.* Тое, што к л о м л я. *Нагаварыўшыся, ён ужо маўчаў, паглядваў з-пад комлі на бліжэйшыя гумны. Падхапіў комлю — дзве зялёныя жабкі сядзяць, вочкамі на мяне лыпаюць.* Рак., СЛС, 44. *Захопленыя марай шчаслівых рыбаловаў, яны нясуць на плячах комлі.* Рак., СЛС, 60.

**КО'НЧА** (конче) *прысл.* Абавязкова. *Трэба было конча ісці нам да Гуртавенкі.* Сач., Д, 280. *А калі і трэба было разам з мужам ісці куды, дык усё роўна ніколі поплеч з ім не хадзілі — ён паперадy, а яна конча ззаду.* Сач., Д, 212; *Завтра кума-паненка не придзе к нам, ей конче треба промыць вочы.* Шэйн, III, 387; Ельск.

**КО'ПАНІЦА** *ж.* Капаніца, матыка. *А табе, Адам, вот табе копаницу, и ступай на зямлю из раю; ступай, говора, и копай землю!* Рам., БС, IV, 3; Вылеў Гом.

**КО'ПАНЬ** *ж.* Копанка, сажалка. *Яна, аказваецца, на копані была, бялізну паласкала.* Сач., П, 36. *Валодзька доўга сядзеў каля копані. Валодзькава мама казала, што копань тут не сама па сабе, а яе выкапалі.* Мел., IV, 383. *За платамі тут і там сады; у канцы гародаў некалькі копаняў, акружаных купчастым вербалозам.* Сач., П, 5.

**КО'ПАЦЬ** *ж.* Сажа, куродым. *Слуп чорнага дыму падымаўся над лесам і слаўся на балоце густой копаццю.* Шам., I, 460.

**КО'РАШ** *м.* Сябра. *З барыгамі не вяжыся. Я ўсё-такі франтавы кораш.* Нав., ТЮ, 114.

**КО'РЧЫК** *м. памянш.* карэц. Радч., ГНП, 14; Гом.

**КО'САК** *м.* Кусок, кавалак. *Штоб подарили Решето овса, На верх ковбаса, Три коски сала, Каб коза встала.* Шэйн, I, 96; Раг.

**КО'СЬКАЦЬ** *незак.* Падзываць воклікамі «кось-кось» каня. *Пашоў ён у лес. Идзе, коськае.* Серж., СРБП, 94; Лучыцы Маз.

**КОТ-ВАРКА'Т** *м.* Кот-буркатун. *У ката-варката Была мачаха ліха.* ДФ, 325; Гом.

**КО'ТКІ** *прым.* (які хутка зрасходу

ецца). *Капейка — коткая, паралічыць яе не паспееш, а яна глядзі і падзелася.* Сач., ЧН, 164.

**КО'ЧА** *ж.* Фаэтон. *Заехалі аны к атцу на двуор, так ана выскочыла із кочы.* БКЭ, № 13; Камаровічы Маз. *Села ана ў кочы, ідзе яблонь за ею, ідзе стол, ідуць крыслы за ею.* БКЭ, № 13; Камаровічы Маз.

**КО'ШКАЦЦА** *незак.* Кешкацца, корпацца. *З раніцы яны з бацькам кошкаюцца на дзедавай сядзібе.* Нав., СД, 189. *Драбок насупіўся, маўклівы, задуменны ўвесь дзень кошкаўся пад паветкай.* Нав., ТЮ, 208. *Юрый папрасіў піць, Франя схадзіла ў хату, залішне доўга там кошкалася.* Нав., СД, 351.

**КРАКО'СІЦЦА** *незак.* Красавацца, цвісці. *Ай у гародзе крокосіцца, забраў чорт хлопцаў ды й носіцца.* ВП, 132; Беліца Гом.

**КРА'ЛІ** *толькі мн.* Каралі. *А ты, гарный Семене, Ходи сядь коло мене, И крали у мене е, Сватай мене, Семене!* Дэмб., ООМГ, I, 588; Свяцілавічы Раг.

**КРАМ** *м.* Крамніца. *Купіў каробку як коробейнік, набраў краму і пашоў до маткі.* БКЭ, № 15; Камаровічы Маз. *Там твой Иван и з крамом стоить; А з якім крамом — с красным шолком.* Радч., ГНП, 4; Гом. *Краму дастаць — таксама грабіся, калі не запасся зімой ці летам.* Мел., V, 155.

**КРА'МНІЦА** *ж.* Прадаўшчыца. *Як увіхалася ў гэты вечар ля Сашы крамніца Раіса!* Нав., Б, 103. *Давай, пакліч крамніцу.* Лупс., ВТ, 35.

**КРАПАЧО'К** *м. ласк.* тытунь моцны. *Можа майго самасаду пакаштуеце? Не благі. Калі крапачок да густу — тады якраз.* Пал., КЗС, 12.

**КРАСАТО'СЦЬ** (красотость) *ж. толькі адз.* Прыгажосць. *Ой зятю, мой зятю, Не глумись з мойго дитяти, Не суши ее молодости, Не губи ее красототи.* Радч., ГНП, 164; Гом.

**КРА'СЕН** *прым.* Прыгожы. *Штобы наш коровой красен був, Штобы наш Никипорко щастлив був.* Шэйн, III, 403; Дзякавічы Маз.

**КРАСНЕ'ЦЬ** *незак.* Прыгажэць. *Наша Оксенька краснее.* Шэйн, III, 437; Дзякавічы Маз.

**КРАТАВІ'ННЕ** *н. толькі адз. Зборн.* Кучкі зямлі, наточаныя кратамі. *Дол быў няроўны, паклычаны кратавіннем.* Сач., БРВ, 272.

**КРАЦЬ** (крать) *ж.* Столка. *А чарадник узяв, пугу парагнув у кольки кратей, и ўдарив мяне дванатцать разов.* Рам., БС, IV, 103; Маркавічы Гом.

**КРА'ШШАЙ** *прым. Пар. ст.* Прыгажэй. *А думаю так, що песня луччай и крашшай!* Рам., БС, IV, 107; Васільеўка Гом.

**КРО'МКА** *ж.* Крамка. *Паперу, аркуш хлопцы купили ў местэчку ў кромцэ.* Серж., СРБП, 81; Лучыцы Маз.

**КРУГАВЕ'РЦЬ** *ж. толькі адз.* Галавакружэнне. *Перад ім, як жывая, устала яркая, уся ў сцягах, у маляўнічым святочным убранні фестывальная Масква, стракатыя да кругаверці ў галаве натоўпы шумлівай моладзі.* Крауч., НХП, 542.

**КРУГЕ'ЛЬЧЫК** *м.* Жэтон у форме кружка. *У праходной Наташа вешае на цвічок табельнай дошкі бляшаны кругельчык са сваім рабочым нумарам.* Крауч., НХП, 609.

**КРУГЛЯ'Ш** *м.* Кругляк. *Іван Пятровіч думаў, што ён як след не ведаў свайго Віктара, што для тых, якія павезлі кругляшы, гэта — звычайныя дровы.* Дан., ЗА, 119.

**КРУЖКА'** *прысл.* **1.** Кругом, навокал. *Ён гэта азірнуўся кружка, хто гэта атвяшчае — няма нікога.* ЧК, I, 246; Мяркулавічы Раг. **2.** Кружком. *Танчуть, каа, кружка за руки побравши.* Рам., БС, IV, 140; Балсуны Раг.

**КРУ'ЖКІ** *толькі мн.* Карункі. *А ти я ня девка, Ти я ни паненка: Сподница у кружки, Чатыры подушки!* Рам., БС, VII, 40; Гом.

**КРУЖО'ЛАЧКА** (кружолочка) *ж. памянш.* кудзеля. *А я молодая ўсю ночку не спала, да кружолочку прала,— миленькаго ждала.* Рам., БС, I—II, 32; Перарост Гом.

**КРУ'МКАЦЬ** *незак.* Квакаць, крактаць (пра жаб). *Ужо не крумкаюць, як нядаўна, жабы.* Лупс., ВТ, 4. Параўн. к у м к а ц ь.

**КРУМЧА'К** *м.* Крумкач, груган. *На таполях крумчакі.* Грам., В, 30.

**КРУПІЧА'СТЫ** *прым.* Крупчасты (прыгатаваны з крупчаткі). *Эх, на закусочку бел да крупичастый мягкій пирожок.* Рам., БС, I—II, 131; Гом.

**КРУ'ТКА** *прысл.* Крута. *Ён кальцом падымаўся стагоддзямі круткa.* Грам., В, 141.

**КРУЦЯЛЬНЯ'** *ж. толькі адз.* Крутня (падман, махлярства). *Пагаварыць пагаворацьі — перастануць! Ці мо думаеш — круцяльня тут якая-небудзь?* Мел., VI, 339. *Тут усё фактычно. Без круцяльні.* Мел., V, 63.

**КРУ'ЧЫК** (кручик) *м. памянш.* крук (цвік з загнутым тупым канцом). *Его ружжико на кручику висить, Его ботики под столиком стоять.* Дэмб., ООМГ, I, 586; Гом.

**КРЫ'ВА** (криво) *прысл.* Крыўдна. *Дык ен сястру жалея, а жонцы стало криво.* Рам., БС, III ,286; Гом.

**КРЫВАЖЭ'РАЦ** *м. Пагард.* Крывапівец, крывасмок. *«От крывасжэрцы, от каты»,— паўтарыў ён, расказваючы.* Саб., I, 176.

**КРЫВАЛЯ'ЧЧА** (крыволячча) *н.* Страшыдла. *Ня еж мяне, вовча крыволячча.* Рам., БС, III, 74; Перарост Гом.

**КРЫВАНДЖА'** *аг.* Чалавек крываногі. *Макар, зірні, той крыванджа ў ваш двор паклыпаў.* Саб., II, 6.

**КРЫВІЧА'НЕ**. *Зборн. гіст.* Крывічы. *У нас, крывічанаў, Халодная кроў, Пакуль не захопіць Да краю любоў.* Грам., В ,54.

**КРЫВІ'НКА** *ж.* Родны па крыві. *Можа б, і сапраўды было лепш, каб Алімпа не бачыла, як колюць яе родную крывінку, але пакінуць адно дзіця яна не магла.* Саб., I, 288.

**КРЫВО'ТА** *ж. толькі адз.* Крывадушнасць, несправядлівасць. *Ето з людской крывоты здаецца, што мне лепшая папалася.* Мел., V, 316.

**КРЫВО'ТЛІВЫ** *прым.* Крывадушны, несправядлівы. *Дык дзе там, людзі крывотлівыя, зайздросныя, падвялі.* Саб., II, 117.

**КРЫВО'ТНІК** *м.* Крывадушнік. *А там што плявузгаюць на нас — гэта крывотнікі.* Рак., БВ, 145.

**КРЫВУ'ЛІНА** *ж.* Выгіб, крывізна. *Старыца — даўнішняе, выгнутае крутой крывулінай рэчышча Прыпяці.* Краўч., НХП, 555.

**КРЫЖА'К** *м. Заал.* Крыжанка. *Хапай на мушку крыжака!* Рак., В, 88. *Адзін з крыжакоў на момант спыніўся, аддзяліўся ад сваіх і цяжка шлёпнуўся непадалёку ў чарот.* Рак., В, 89. Параўн. к р ы ж а н ь.

**КРЫ'ЖАНЬ**. Тое, што к р ы ж а к. *Буйны крыжань, ледзь падняўшыся над азёрцам, плёхнуўся ў прыбярэжную асаку. Узяўшы на прыцэл крыжняў, якія збіліся ў кучку каля травы, Мікола стрэліў.* Краўч., НХП, 145.

**КРЫЛА'ЦІК** *м. ласк.* птушка. *Маці часта выпускала маіх крылатых сяброў з хаты на мароз, але ніколі не дамагалася свайго: толькі я выйду на двор, мае прыручаныя крылацікі прыляталі і садзіліся мне на рукі.* Кап., СЖЛ, 44.

**КРЫ'СЛА** *н.* Крэсла. *За ею пашла і яблонь, і стол, і крысла.* БКЭ, № 13; Камаровічы Маз. *І стала яблонь ле кочы, і стол і крысла.* БКЭ, № 13; Камаровічы Маз.

**КРЫХО'ТКА** *ж. у знач. прысл.* Трошкі, нямнога. *Дадуць калі крыхотку дык патом забяруць пудам!* Мел., VI, 20. **:ні крыхоткі** — нікольні, нічога; пуста. *Звер разняў цвёрдыя пальцы з*

*доўгімі пазногцямі і пачаў прагна абшукваць кішэні. У іх не было ні крыхоткі.* Мел., II, 436.

**КРЫ'ЦЦА** *незак.* Рыхтавацца да вяселля. *Да вжеж я крывса: Куны мои позмокали, А соболи позвисали, А свашечки поосипали.* Шэйн, III, 433; Дзякавічы Маз. *Крыйся, зяцю, крыйся, И конями и бобрами, Червоными соболями, Золотыми пудковами.* Шэйн, III, 409; Дзякавічы Маз.

**КРЭ'КАЦЬ** *незак.* Кракаць. *І не крэкаюць таксама, жыруючы, дзікія качкі.* Лупс., ВТ, 4.

**КРЭ'КНУЦЬ** *зак.* Крактануць. *Сасноўскі гучна крэкнуў.* Шам., VI, 68.

**КСЦІ'НЫ** *толькі мн. Абрад.* Хрэсьбіны. *Як учора да бабусюхна да на ксцінах была. А сягодні На пахмелле прыйшла.* РП, 28; Гом.

**КУБЕ'ЛЬЦА** *н.* **1.** *Памянш.* да к у б л о. *Тата, а каменьчыкі, а кубельца вераб'інае ты паклаў?* Рак., В, 248. *І асірацела хата, апусцела хата, апусцела, як тое ўтульнае і яшчэ цэленькае птушынае кубельца.* Рак., СЛС, 98. **2.** Сям'я. *От у якое кубельца Лукер'я папала.* Рак., В, 235.

**КУ'БЛІЦЦА** *незак.* Гняздзіцца. *Кубліцца, як курыца.* Рак., СЛС, 179.

**КУБЛІ'ШЧА** (кублище) *н. павел.* да кубел. *Чего мати у клеть пошла? На днище, у кублище, по шовковое чепчище.* Радч., ГНП, 92; Гом.

**КУБЛО'** *н.* Гняздо (птушынае). *Вось чаму я і глядзець цяпер не магу на іх спакойна, гэта ўсе з аднаго кубла гадзюкі.* Краўч., НХП, 96.

**КУДЗЕ'РУШКІ** *толькі мн.* Кудзеркі. *Русыя кудзерушки ена попутляла.* Рам., БС, I—II, 439; Беліца.

**КУДЗЁРЫ** *прым.* Кучаравы. *Поле маё каласіста-кудзёрае, Сінія ў золаце ў ім васількі!* Грам., В, 91.

**КУДО'Й** (кудою) *прысл.* Куды. *Кудой жа ж мне йци к табе, я ня ведаю дороги?* Рам., БС, IV, 33; Доўск Раг. *І ідзе ён, ідзе па той дарозе, што саломаю пацярушана, да й не прымеціў, што гэта не та дарога, кудою яны ішлі.* ЧК, I, 229; Петр.

**КУДРА'ВЫ** *прым.* Пеністы. *У першым кубачку — віно зеляное, У другім кубачку — піва кудрава.* ЗП, 181; Салтанаў Рэч.

**КУЁЎДЗІЦЦА** (куёвдиться) *незак.* Вярцецца. Радч., ГНП, 11; Гом.

**КУЗЕ'НЬКА** *ж.* Кошык. *Хведарава Каця паўнюткую кузеньку з Шапчынскага бору несла.* Сач., Д, 7. *Я спыняю белагаловую дзяўчыну, што некуды бяжыць подскакам, з парожняй берасцяной кузенькай.* Сач., Д, 414.

**КУКАЛЬВА'Н** (кукольван) *м. Бат.* Семя куколя (пустазелля). *Прилятев, где панськія скирты с хлебом, и там понасыпано кукольвану нащот птиц, щоб хлеба ня 'бъядали.* Рам., БС, IV, 113; Васільеўка Гом.

**КУ'КАЎКА** *ж. Заал.* Зязюля. *А перад домком стаіць явор, а на тым яворэ седзіць кукаўка, а як кукне, так солдата з ружьём выкукне да і становіцьса.* БКЭ, № 38; Ужынец Рэч. Параўн. к у к у л я.

**КУ'КАЦЬ** *незак.* Кукаваць. *Ён бачыць — той дурный — што баба ўлезла да будзе кукаць.* БКЭ, № 20; Камаровічы Маз.

**КУ'КЕЛЬ** *м. Бат.* Куколь (пустазелле). *Бодай жа ты, мальчишачка, тогды ажанився, Як у млыни на камени Кукель уродився!* Рам., БС, VII, 27; Гом.

**КУКО'БІЦЬ** *незак.* Гадаваць, песціць. *Кольки год ты кормив, кукобив нас, а тяпер покидаят!* Рам., БС, IV, 47; Краснабудск Гом.

**КУКУ'ЛЯ** *ж.* Тое, што к у к а ў к а. *Положмене у вишнёвеньким садочку: Там будя кукуля кувать.* Рам., БС, I—II, 6; Гом.

**КУЛА'ГА** *ж. Кул.* Страва з аржаной мукі. Радч., ГНП, 13; Гом.

**КУЛАЧУ'ГА** *м. Пагард.* Кулак (багаты ўласнік, эксплуататар). *З выгляду свой, вылезе на трыбуну, Марксам і сацыялізмам хрысціцца, а ў душы — кулачуга.* Нав., СД, 157.

**КУЛІ'ДАЧКА** *ж. памянш.* баханка. *Куды горш было з харчамі. Кулідачка хлеба, брусочак маргарыну, некалькі лыжак павідла.* Сач., П, 47.

**КУМАЎЁ** (кумовъё) *н. Зборн.* Кум і кума. *И нихто к яму у кумовъё не хоча йти, никога ён не запрося.* Рам., БС, III, 148; Гарадзец Раг.

**КУМІ'ЛЬГАМ** (кумільгом) *прысл.* Кулём, стрымгалоў. *Крыкнуў я Трахіму, каб ён хлапчука затрымаў, а сам — кумільгам у кусты.* Краўч., НХП, 565. *У хаце хлопец хуценька пераапрануўся ў сухое і кумільгом на печ.* Саб., БАС, 73.

**КУ'МКАЦЬ** *незак.* Тое, што к р у м к а ц ь. *Толькі недзе ледзь чутна булькоча вада на млыне ды кумкаюць, стараюцца перакрычаць адна адну жабы.* Сач., Д, 10. *Востра, п'яна пахне чарнагалоў, лянiва кумкаюць жабы, як бы прабуючы моц голасу.* Нав., СТ, 149.

**КУМУ'СЮХНА** *ж. ласк.* кума. *А маёй куме ўсё тулаўца. Кумусюхна люба Да галубачка й сіза.* РП, 393.

**КУ'НЯ** *ж.* Куніца (выкуп за нявесту). *Да вжеж я крывса: Куны мои позмокали, А соболи позвисали, А свашечки поосипали.* Шэйн, III, 433; Дзякавічы Маз. *Крыйса, зяцю, крыйса! И кунями и бобрами И чорными соболями.* Шэйн, III, 433; Дзякавічы Маз.

**КУПАВА'НЫ** (купованый) *дзеепрым.* Куплены. *Не би мойго горшка, бо ён жа у мяне не простый, а сребный с золотыми бережками, да й не тут купованый.* Шэйн, III, 386; Ельск.

**КУПАВА'ЦЬ** (куповаць) *незак.* Купляць. *Купи ж ты мне черевички у Кіеви на Йвана. У Кіеви куповав, В Чарнигове подковав.* Дэмб., ООМГ, I, 526; Рагінь Раг. *Да нема попа дома, Да поехав в объезд, Да поехав да льяна — Ключи куповаци.* Шэйн, III, 399; Дзякавічы Маз. *Да поехав Никипорко купцоваць — Да путавса бацюхно, што куповаць.* Шэйн, III, 413; Дзякавічы Маз.

**КУПІ'ННЕ** *н. Зборн.* Куп'ё. *Трэба пашукаць сухога купіння, падабрацца да глыбіні.* Мел., V, 385.

**КУПЦАВА'ЦЬ** (купцоваць) *незак.* Гандляваць. *Да поехав Никипорко купцоваць, Да путавса бацюхно, што куповаць.* Шэйн, III, 413.

**КУПЧА'К** *м.* Купец малады. *Подо мною тры купчаки ночовали.* Рам., БС, VII, 23; Гом.

**КУПЧА'СЦЕЦЬ** *незак.* Купчасціцца. *У тое гаротнае, валацужнае лета я палюбіў яшчэ і сядзець між камлёў карыстых беластвольных бяроз, што купчасцелі ў глыбіні Шапчынскага бору.* Сач., Д, 346.

**КУ'РКА-САКАТУ'РКА** *ж.* Курадодка, кватуха. *Мая курка-сакатурка Па двару ходзіць Куранятак выводзіць.* ЖП, 60; Азершчына Рэч. Параўн. к у р к а-с а к а ц е р ы к а.

**КУ'РКА-САКАЦЕ'РЫКА** (сокотерика) *ж.* Тое, што к у р к а-с а к а т у р к а. *Курки-сокотерики, вам усю ноч сокотаць, а рабу божаму усю ноч спать.* Рам., БС, V, 32; Гом.

**КУ'РЦІК** *м.* Пінжак кароткі, цесны. *На рослым не было ўжо доўгага, з чорнымі абшлагамі на рукавах шыняля, а быў на ім нямецкага крою, з вялікімі кішэнямі на грудзях і з бакоў нейкі руды, тытунёвага колеру курцік.* Сач., ЧН, 142.

**КУРЧА'** (курчо) *н.* Кураня. *Тут усе згалелі — нічога ні ў кога не асталося. Ні хаты, ні каровы, ні свінні, ні нават курчаці.* Сач., II, 19. *Гэта ж не тое, што з вёскі: хіба навозішся таго гною за свет, а тут ці свінчо, ці курчо якое выйдзе ўвосень на загон, дык яно не толькі травінку сашчыкне,*

*а і зямельку ўгноіць.* Саб., I, 167.

**КУСА′КА** *аг.* Куслівы сабака. *Дедзька лябедька, унимай свойго собаку кусаку, крутяку и вяртяку.* Рам., БС, V, 104; Стаўбун Раг.

**КУСТО′ЎЕ** *н. Зборн.* Кусты. *У адным месцы сцяна хвой разрываецца, і нават адсюль відаць лапік цёмнага кустоўя, хмызоў.* Нав., СТ, 41. *Міця наважыў выбрацца на дарогу, якая вядзе з Кавенек у мястэчка. З поля збочыў у кустоўе.* Нав., СТ, 184. *На ўсе галасы перагукваюцца... пташкі ў кустоўі.* Нав., ТСЗ, 8.

**КУСУ′ЧЫ** *прым.* Куслівы. *Там ёсць змеі. Яны вельмі кусучыя.* Нав., В, 23.

**КУСЦІ′СТЫ** *прым. Перан.* Густы. *Архіп Каляда ссунуў на пераноссі кусцістыя бровы.* Гам., ША, 18.

**КУСЮ′ЛЬКА** *ж. ласк.* жарабя. *Мой сын, некому кусюльки доглядать: ты ў школи, я еду ў хуру.* Рам., БС, III, 142; Гом.

**КУ′ТАЦЬ** *незак.* Гарадзіць. *Прымераў рукою вышыню плетня і, сагнуўшыся, пачаў не спяшаючыся кутаць.* Сач., ЗМП, 81. *Кутаў з альховых, пачырванелых ужо штакецін плот.* Сач., БРВ, 245.

**КУХАВА′РУШКА** (куховарушко) *м. ласк.* кухар. *А восьмы водонос, а дивяты куховарушко.* Шэйн, III, 183.

## Л

**ЛАБАВІ′НА** *ж.* Вяршыня ўзгорка. *Трымціць на лабавіне ўзгорка смуга, у спякотнай млявасці застылі прысады вёскі Лазавіца.* Нав., ВС, 97.

**ЛАБА′ЦІНА** *ж.* Лоб. *Любіў рускія песні... Не пяеш — з левай рукі гумай па лабаціне.* Нав., ВС, 8.

**ЛАВЕ′Ц** *м.* Стрыжань для смажання сала. *...Запрашалі Шугачова з дзецьмі, ехалі ў лес, смажылі на лаўцах сала, шашлыкі, пяклі бульбу і наядаліся так...* Шам., VI, 146.

**ЛА′ВІЧА** *ж.* Лаўка (прыстасаванне для сядзення). *А мышка з ключамі бегае по-под лавічы.* БКЭ, № 22; Камаровічы Маз.

**ЛАДАВА′ЦЬ** *незак.* **1.** Збіраць, рыхтаваць, укладваць. *Пакуль Ганна ладавала на коўдры гаршчок з маслам, нізкі грыбоў, сушаныя ўюны, мачыха вярнулася расчараваная.* Мел., V, 285. *Яна прамаўчала, знарок стала корпацца ў возе, быццам ладавала пасцель.* Мел., VI, 72; **2.** Прыводзіць у парадак, падпраўляць. *Васіль стаў ладаваць світу на другі бок вогнішча.* Мел., V, 26.

**ЛАДАВА′ЦЦА** *незак.* Збірацца, рыхтавацца. *Марцін, як толькі ўбачыў яе статную постаць, адразу пачаў ладавацца ў дарогу.* Мел., I, 258. *Хадзем у хату. Акурат прыйшоў — абедаць ладуемся!* Мел., IV, 400.

**ЛАДКО′М** *прысл.* Ладам. *З тае пары жывуць маладзіца з гаспадаром ладком и николи не сварацца.* Серж., СРБП, 45; Лучыцы Маз.

**ЛА′ДНАГА** (ладного) *прысл.* Добра, няблага, досыць далёка. *Я ладного бачу.* Радч., ГНП, 12; Гом.

**ЛА′ДНЕНЬКА** *прысл. памянш.* ладна (няблага, някепска). *Колькі ён пражыў у тым мяшчанскім гняздзе, а пальцам не паварушыў, каб разграміць той ладненька скалочаны дабрабыт, ускалыхнуць застаялую ціну.* Дан., МН, 56.

**ЛА′ДНЫ** *прым.* Даволі вялікі. *Ладная плошча травы тут выкашана. Здаравенная лапіна аж да ўрочышча.* Дан., Н, 70.

**ЛАДУ′НАК** *м.* Рыхтаванне, зборы. *Мачыха павярнулася к Хведзьку, які хмурна сачыў з ганка за ладункам к дарозе,— яго не хацелі браць.* Мел., V, 280.

**ЛАЗАВІ′К** (лозовик) *м. Міф.* Істо-

та, якая жыве ў лазе. *До Хращеньня ён сядить у воде; а як пойдя стрел па Ирдани, воду посветять, ён лезя на ловы — Лозовиком зовуть.* Рам., БС, IV, 6; Гом.

**ЛАЗНЯ'ЧЧА** *н. Зборн.* Галлё лазовых кустоў. *«Зірніце во сюды»,— мужчына распрастаў лазнячча.* Саб., БАС, 13.

**ЛАЗО'РЛІВЫ** (лазорливый) *прым.* Лазурковы. *Каменица-малиница, лазорливый цвет.* Рам., БС, I—II, 115; Беліца.

**ЛАЙДА'К** *м. Неадабр.* Чалавек бяздзейны, варты пагарды, гультай. *У Качанка пахаладзела ўсярэдку: разаб'е, лайдак.* Шам., ВТБ, 6. *Абавязкова перадай. І на вуха... і на вуха шапні яму, лайдаку... Астаповіч, маўляў, хоча памяняцца з табой пасадамі.* Шам., ВТБ, 349.

**ЛАМЯЙКО'** *н.* Трэскі. *Урэшце Анісім раззлаваўся, паламаў карабок, ад яго запаліў бярösту, ламяйко, а ўжо ад іх і кучу ламачча.* Сач., ЗМП, 37. *Ад вугалькоў я запаліў сухую, жухлую траву, што нарваў там жа, на паляне, бярösту, ламяйко, а ўжо ад іх загарэўся і сам дуб.* Сач., АП, 333.

**ЛАН** *м.* Поле вялікае, памешчыцкае; вялікі кусок поля. *Пошов батька из сохою, А сын из косою, Пошла мати на лан жати, А дочка до гною.* Рам., БС, VII, 31; Гом. *За каналам заставаўся яшчэ добры лан, гектары на тры, а Іван ганяў камбайн так, быццам трэба было зжаць апошні лапік перад дажджом...* Шам., ВТБ, 65.

**ЛАНДА'Р** *м.* Ляндар. *Пасылае ландар Янка ў суседнее село к ландару ж з картаю.* Серж., СРБП, 55; Лучыцы Маз.

**ЛАНО'** *н.* Прыпол. *Ён устаў, абтрос з лана хлебныя крошкі, абцягнуў на каленях штаны.* Сач., ЧН, 209; *Я б тваё пастолікі ў вадзе паласкала, Я б тваю галовачку на лане ласкала, Мой ты касец.* Нав., ВС, 98.

**ЛАПАТА'ЦЬ** *незак.* Невыразна, паспешліва гаварыць. *Малы бясконца лапоча над вухам — просіць тлумачыць, што там адбываецца, на экране.* Шам., V, 229.

**ЛАПО'ТКІ** *мн. памянш.* лапці. *У водным мести знайшли лапотки и розочки три.* Рам., БС, IV, 94; Балсуны Раг. Параўн. л а п ц і ш к і.

**ЛАПЦІ'ШКІ** *мн. памянш.* лапці. *Стопчуць, хлопчыкі цябе, стопчуць лутовымі лапцішкамі.* ВП, 333; Азяраны Раг.

**ЛАСКАВІЧО'К** *м. памянш.* клінок, трохвугольная торбачка для прыгатавання сыру. *Прынесла дзесятак яек завязаных у хусцінку, кавалачак — толькі з ласкавічка — сыру.* Дан., Ж, 14.

**ЛАСТАВЕ'ЙКА** (ластовейка) *ж. ласк.* ластаўка. *Четвертая отказала: я ж да не ластовейка по небу качати: Горе горевати у чужіе мати!* Радч., ГНП, 19; Гом.

**ЛА'ТАР-КАМЕНЬ** *м.* Камень-велікан. *На синям мори, акіяни ляжить латар-камень.* Рам., БС, V, 120; Целяшы Гом.

**ЛАТАШЫ'ЦЦА** *незак.* Мітусіцца. *Селіверстаў успомніў, як учора, калі ён сказаў фізруку, што некаму другому прыйдзецца латашыцца ля новага школьнага будынка, Павел неяк адчуджана на яго паглядзеў.* Дан., НД, 48.

**ЛАТАШЫ'ЦЬ** *незак.* Ірваць без разбору. *А яны са Сцяпанам пачалі латашыць арэхі.* Дан., Ж, 36.

**ЛАТА'ЦЦА** *незак.* Бадзяцца. *Год назад, калі партызаны грамілі воласць, у чым стаіць драпануў Вайс з Лужынца, у мястэчку латаўся каля «заготжывёлы».* Нав., СТ, 349.

**ЛАТВЕ'Й** *прысл.* Лепш, зручней. *З таварышам заўсёды весялей і латвей.* Саб., I, 113. Параўн. л а ц в е й.

**ЛАТРУ'ГА** *аг. Лаянк.* Гультай, абібок. *Дык чаго ж ты час марнуеш з гэтымі латругамі?!* Губ., НКП, 212.

**ЛАТУ'Н** *м.* **1.** Адзежына латаная.

*Лёнька разаслаў на печы латун, каб не вельмі пякло ў спіну.* Кап., СЖЛ, 22. *Дзімка, раскінуўшы рукі, смачна спаў пад латунамі.* Кап., СЖЛ, 53. **2.** Абадранец, бядняк. *Так той латун пытае ў бацька паненкі.* БКЭ, № 18; Камаровічы Маз.; *Ты негуодный! Да латуне ты! Куды ты лезеш! Ана, тая паненка, уберана, хароша, а ты ў латах.* БКЭ, № 18; Камаровічы Маз. Параўн. латышнік.

**ЛАТУ'НЧЫК** *м. Памянш.* да латуну 1 знач. *Цяпер ён не мёрз у падраным сваім латунчыку, не туліўся, калоцячыся ад холаду ўначы, да маткі.* Кап., СЖЛ, 29.

**ЛАТЫ'ШНІК** *м.* Тое, што латун у 2 знач. *Богатый говора: що ты за дурак такій, латышнік, ты попав брахню и брешаш.* Рам., БС, IV, 105; Маркавічы Гом.

**ЛАХТУ'Н** *м. Пагард. перан.* Гніль (пра састарэлае, непрыгоднае, нездаровае). *На паліцэйскіх Алена глядзіць зняважліва: «Лахтуны. Не рабіўшы, хацелі соладка піць і есці».* Нав., СТ, 153.

**ЛАЦВЕ'Й** *прысл.* Тое, што латвей. *Выбірала месца, дзе лацвей сесці.* Сач., АП, 3.

**ЛАША'** (лоша) *н.* Жарабя. *А суседка кажа: «Ё у вас такое лоша! Яму яно ўсё говора!»* Рам., БС, III, 144; Гом.

**ЛАШТАВА'ЦЬ** *незак.* Майстраваць. *Лаштаваў з пяску абутак.* Дуб., I, 390.

**ЛЕ** *прыназ.* Каля. *I стала яблонь ле кочы.* БКЭ, № 22, 14; Камаровічы Маз. *I дзержыць ана тые хлопцы ле себе.* БКЭ, № 22, 72; Камаровічы Маз.

**ЛЕГКАВІЧО'К** *м. памянш.* аўтамабіль легкавы. *Калі лес раптам расступіўся і яны выбіліся на поле, здратаванае акопамі і бліндажамі, Варка ўбачыла каля легкавічка, што ніяк не заводзіўся, камандзіра ў акулярах.* Дан., Ж, 39.

**ЛЕГЯНЁК** (легенёк) *прым. пар. ст.* лёгкі. *Да не мушу, бацюхно, не мушу, Полюбила Иванька, як душу; Положила на рученцы — легенёк, — Пригорнула до серденька — миленек.* Шэйн, III, 443; Дзякавічы Маз. Параўн. лягеняк.

**ЛЕДАВІ'К** *м.* Вецер халодны, як лёд. *А то як хочаш, то яшчэ і ледавік дуне, дак ось табе тады і жанцы падзякуюць.* КЖЧК, 290; Рэч.

**ЛЕДАЎНІ'ЦА** *ж.* Лёд. *Прала дзевачка на лёду хусткі. На лёду, на лёду-лёду. На ледаўніцы ў крыніцы.* ЗП, 479; Азершчына Рэч.

**ЛЕ'ДВА** (ледво) *прысл.* Ледзь, ледзьве, чуць. *Беглі, беглі аж до села, убеглі ў село, ледво жэ оддыхнулі.* БКЭ, № 25; Камаровічы Маз.

**ЛЕЖАБО'К** *м.* Лежань, лодыр. *Што я — труцень, лежабок, спекулянт, злодзей?* Шам., IV, 19.

**ЛЕ'ЖАНКА** *ж.* Груша вылежалая. *Сваім, дык яна* [мачыха] *і малака спарыць і хрушчыка спячэ, і яблык які ці грушу-лежанку, дык усё ім ды ім.* Саб., ЗПД, 55.

**ЛЕ'ЖЫВА** *н.* Месца для спання. *Каб не кусалі камары, Ігнат накрыўся посцілкай і спаў у сваім лежыве.* Кап., СЖЛ, 29. Параўн. логвішча.

**ЛЕ'ЗІВА** (лезиво) *н.* Лесвіца вяровачная. Серж., ОБ; Лучыцы Маз. Эр., ОБП, 118; Брагін.

**ЛЕ'МЕТ** *м.* Ліміт. *Куды ні паглядзі — лемет і лемет на лес, каб яго халера* Сач., ЗМП, 229.

**ЛЕМЕХАВА'ТЫ** (лемеховатый) *прым.* Трохі непаваротлівы. *«Иди ты, мядведь!» — «Не, я лемеховат!»* Рам., БС, III, 34; Гом.

**ЛЕ'СІК** *м. Памянш.-ласк.* Лясок. *Да й з-пад лесіку, да й з-пад цёмнага, Ой лі, ой люлі, да й з-пад цёмнага.* ВП, 251; Чэрнін, Светл.

**ЛЕСКАТНЯ'** *ж.* Ляскатанне. *Сярод ночы, глушачы лескатню тракаў, наперадзе раптам гухнуў недалёкі гарматны стрэл.* Мел., II, 61.

**ЛЕСНІКАВА'ЦЬ** *незак.* Служыць

леснiком. *Перад вайной i я ў ёй трохi леснiкаваў.* Рак., В, 236.

**ЛЕСНIЧО'ЎКА** *ж.* Хата леснiка i яго сям'i. *Ну, леснiчоўку тую i ты не раз бачыў.* Рак., В, 236. *Аж на другi дзень Мiкодым знайшоў у Амелькавай леснiчоўцы каралiнцаў.* Саб., I, 263. *Ён забраўся ў самыя нетры, начаваў у леснiчоўках, у буданах.* Рак., В, 101.

**ЛЕ'СЦIЦЬ** *незак.* Дагаджаць, хвалiць, лашчыць. *Слова яму баiцца сказаць насуперак. Усё ўлагоджвае яго, усё лесцiць.* Нав., В, 75.

**ЛЕ'ТАШАК** *м.* Жывёлiна аднагадовая. *А егер параiў смалiць. Дзiк малады, леташак.* Шам., V, 14.

**ЛЕ'ТНIК** I *м.* Пiнжак лёгкi, летнi. *На iм шэры, з абвiслымi штрыфелямi летнiк; сiняя кепка-васьмiклiнка з кароценькiм брылём сплюснулася ад меха i сям-там прыбiта дажджом.* Рак., БВ, 37. *Худзенькi, дробненькi, у пацёртым летнiку i зiмняй шапцы-вушанцы, ён ехаў моўчкi, трымаў памiж каленяў старэнькую стрэльбу i нiчым не выдаваў сваёй прысутнасцi.* Рак., БВ, 122.

**ЛЕ'ТНIК** II *м.* Дарога для карыстання толькi летам. *Адна дарога, прагтораная, вяла полем у вёску, а другая, ледзь прыкметны, зарослы травою летнiк, бегла на Андрэеў хутар.* Краўч., НХП, 52.

**ЛЕ'ЦЕНЬ** *м.* Летняе памяшканне. *Отчинице лецень, Нехай вее вецер.* Шэйн, III, 425; Дзякавiчы Маз.

**ЛЕ'ЦIШЧА** *н.* Кашара. *Ён паехаў у Сяўцы, на лецiшча малочнатаварнай фермы.* Рак., В, 3.

**ЛЁЛЯ** *ж.* Сарочка. *На што ж мне сподница, Коли сама — поскудница, Хоць возьму в одной лёли, Абы ж была по любови.* Дэмб., ООМГ, I, 587; Сваццiлавiчы Раг. Радч., ГНП, 12; Гом.

**ЛIСА'ВЫ** *прым.* Лiслiвы. Радч., ГНП, 11; Гом.

**ЛIСТАВЕ'РЦЬ** *ж.* Пара лiстападу. *Я валюся пад яблыняй, пасаджаный мною ў асеннюю лiставерць.* Наўр., НУМ, 49.

**ЛIСЦВЯ'НIК** *м.* Лес лiсцяны. *Скончыўся малады лiсцвянiк — алешнiк ды асiннiк, i пачаўся стары бор — рэдкiя сосны адна ў адну, аблiтыя сонцам.* Шам., II, 403.

**ЛIСЦЬ** *зборн.* Лiсце. *З лiпы асыпаўся лiсць.* Грам., В, 71.

**ЛIТА'ННЕ** *н.* Галашэнне. *У той дзень на станцыi было многа плачу, слёз, жаночых лiтанняў.* Нав., ВС, 5. *Але лiтанняў Тацццяне хапала ненадоўга, праз хвiлiну яе апаноўваў гнеў.* Нав., ТЮ, 147.

**ЛIХАМО'ЛЕЦ** (лихомолец) *м.* Багамолец. *Ой старец мой, лихомолец мой, ен у кельни сидить, Богу молитца.* Рам., БС, I—II, 442; Белiца.

**ЛО'ГВIШЧА** *н.* Тое, што л е ж ы в а. *Шура з Мядзведзевым падхапiлiся з логвiшча.* Нав., ВС, 67. *Новага месца Шура не шукаў, прысеў на начное логвiшча.* Нав., ВС, 40.

**ЛО'НЕЧКА** *н. Памянш. да* л а н о. *Выходьте люди дивитися, як еде Иван женитися: Сам еде на коничку, Держить Мар'ю на лонечку.* Радч., ГНП, 27; Гом.

**ЛО'ЎШЫ** (ловшiй) *м.* Лоўчы (хто ведаў паляваннем). *Покуль охвотник спустив хортов, я побег за зайцом и поймав яго, и приношу ловшаму. Ловшiй погладив мяне и отдав мне хлеб и говядину, што с собой брав.* Рам., БС, IV, 118; Доўск Раг.

**ЛУБЕ'Ц** *м.* Залубянелая аўчына. *Крые коника нагайкою, крые девочку китайкою; Бье коника дубцом, Крые девочку лубцом.* Радч., ГНП, 27; Гом.

**ЛУНУ'ЦЬ** *зак.* Лiнуць. *Побег, дроў набраў, да ў печы запалiў, вады нагрэў, лунуў под печу воды.* БКЭ, 33; Камаровiчы Маз.

**ЛУПI'ЦЬ** *незак. Неадабр.* Моцна бiць, лупцаваць каго-н. *Што бiць будуць — не баяўся, па-дзiцячы верыў, што — як бы мяне нi лупiлi — нiкому не выдам тай-*

*ны, якую даверылі мне, як вялікаму, роўнаму сабе, бацька і матка.* Шам., ВТБ, 117.

**ЛУСГА′** *ж. Рыб.* Луска. *Мокрымі рукамі, аблепленымі лусгой, чысціў рыбу.* Мел., ЛБ, 116.

**ЛУ′ТКА** *ж.* Стаяк (асады дзвярэй і акон). *А сами, вот, пришли к вокну, да вокно выняли, да обапал вокна две свячи запалили, а сами стали за лутками, и мех держуть.* Рам., БС, III, 412; Шарахоўскія Буды Раг.

**ЛУХТА′** *ж.* Бязглуздзіца, бяссэнсіца, недарэчнасць, глупства. *Больш я не чапаю твaіх аўтаматаў, а то ты нагародзіш лухты перад міністрам.* Шам., V, 22. *Як яна недарэчна трымала сябе — засмяялася, сказала несусветную лухту!* Шам., IV, 309.

**ЛУЧ** *прысл.* Лепш. *Да я табе луч сам покажу.* Рам., БС, IV, 10; Ветка Гом. *Ну, коли знаеш луч мяне, дык иди сабе шукай другого хозяина!* Рам., БС, III, 74; Перарост Гом.

**ЛУ′ЧЧЫ** *прым.* Лепшы. *Ну, зъеж, кажа, по самой луччай скотине усякага скоту.* Рам., БС, III, 74; Перарост Гом.

**ЛУЧЫ′НІЦА** (лучиница) *ж.* Лучыніна, лучына (адна шчэпка лучыны). *Як мене, лучиницы, ярко гореть — лихая свякруха водой залила.* Рам., БС, I—II, 164; Яроміна Гом.

**ЛЫГА′ЦЬ** *незак.* Глытаць. *Той журавель лыгаў-лыгаў — ну ніяк не наеўся.* КЖЧК, 60; Баравое Лельч.

**ЛЫ′ЗІЦЦА** *незак. Асудж.* Усміхацца, ухмыляцца. *Я азірнуўся і крычу: «Злазь, дурніца!» А ты лызішся, зубы скаліш, як заўсёды.* Мак., К, 10.

**ЛЫЧА′К** *м.* Лыкавая вяроўка з пятлёю на канцы. *И давай лычаком грэць цыгана па азадку.* Серж., СРБП, 184; Лучыцы Маз.

**ЛЭ′ПАЦЬ** *незак.* Лапаць, мацаць. *И лэпае по камни — за пазухой отдулось: суди, каа, пане, по правди: будя и табе, будя и мне!* Рам., БС, III, 399; Нісімкавічы Раг.

**ЛЮБАВА′ЦЦА** (любовацьса) *незак.* Мець уцеху. *Хімка, беры сколькі хочэш грошы сабе, да мы з табой будом любовацьса.* БКЭ, № 16; Камаровічы Маз.

**ЛЮ′БКА** (любко) *ж.* Ласк. зварот да жанчыны. *Матко моя, любко! Да ворочайся хутко.* Шэйн, III, 399; Дзякавічы Маз.

**ЛЮБО′ВЕНЬКІ** *прым. Ласк.* Дарагі, па сэрцу. *Ох вы, госцікі мае, Вы любовенькія, Ох, чаго вы сядзіце Нечастовенькія.* РП, 438.

**ЛЮБО′ВЫ** *прым.* Тое, што даспадобы. *Цвірчыць на патэльні каўбаса і сала — выбрала самае лепшае, любовае, такое, якое ён любіць.* Лупс., ВТ, 129.

**ЛЮБО′ЎСТВА** *н.* Каханне. *І пашла на ўвесь сьвет, оказья із таго, штоб гэто болей не було, штоб велікаго любоўства не було.* БКЭ, № 5; Камаровічы Маз.

**ЛЮБЧЫ′НА** *ж.* Мілая, дарагая (пры звароце). *Выйди, девчина, выйди, любчина: поговорим мы с тобою.* Рам., БС, I—II, 98; Беліца.

**ЛЮДАЕ′ДЗІЦА** *ж. Перан.* Людаедка (нападкі на маладую). *Свекорь каже: медведицу везут; Свекруха каже: людоедицу везут, деверья говорят: нам неткаху ведут; золовки говорят: нам непряху ведут.* Радч., ГНП, 131; Гом.

**ЛЮЦЕ′Й** *прысл. пар. ст.* вельмі моцна, сіберна. *Вецер яшчэ люцей б'ецца ў шыбы і яшчэ гучней завывае ў коміне.* Дуд., М, 20.

**ЛЮЦЬ** *ж.* Лютасць. *У бойцы з люццю кулацкай ды з нянавісцю панавай Слуцак памаладзеў.* Дуд., С, 53.

**ЛЯГА′** *ж.* Жаба. *«То ж ня рак, а ляга».— «Ну, ляга, не ляга — засталася одна нога!»* Рам., БС, III, 432; Беліца.

**ЛЯГА′ЦЬ** *незак.* Класціся (*процілуставаць*). *А што? Помалийшыся Богу, дай лягаць спаць.*

Шэйн, I, 46; Кочышча Маз.

**ЛЯГЕ'НЯК** *прым.* Тое, што л е г я н ё к. *Як мой душок тихеняк, лягеняк, так штоб табе було тихенько, лягенько.* Рам., БС, V, 57; Івольск Гом.

**ЛЯГЕ'СЕНЬКА** (легесенько) *прысл. памянш.-ласк.* лёгка (вельмі). *Да и снег иде, да мятель мяте, Да дорожка кладется, Ох и десь мойму да миленькому Легесенько икнется.* Радч., ГНП, 209; Гом. *Дай жа, божа, маёй унучцы лягесенька, дабрэсенька, скарэсенька.* РП, 152; Ельск.

**ЛЯГУ'ША** *ж.* Конь, які брыкаецца. *Цыган-рыган! Продав душу за лягушу.* Рам., БС, I—II; Беліца Гом.

**ЛЯДА'ЧЫ** (ледачий) *прым.* Благі, няшчасны. *Увсе девки раней встали, И лучшую долю разобрали, Я ж молода спознилася,— Горкая доля мне судилася: А не так горка, як ледачая.* Радч., ГНП, 222; Гом. *Чумаче, чумаче, житье твое ледаче, Чом не пашешь не ореш, Да ты с Крыму рано йдешь, Чом чумаков не ведешь?* Радч., ГНП, 167; Гом.

**ЛЯЖНЕЎКА** *ж.* **1.** Пясчаны насып, пад якім што-н. схавана. *Да чыгуначнай станцыі... праз лес ад далёкай рачулкі ідзе прамая як страла ляжнёўка — пясчаны насып, пад якім схавана жалезная труба.* Нав., Б, 91. **2.** Дарога, вымашчаная бярвеннем. *Аказваецца, той помніў, што аднойчы яны перабіраліся праз адну з азёрных заток па пасланых некім кругляках — своеасаблівай падводнай ляжнёўцы.* Дан., ЗА, 117.

**ЛЯЖА'ЧКА** *ж. Рыб.* Вуда з грузілам. Дэмб., ООМГ, II, 587; Гом.

**ЛЯК** *м.* Спалох. *Выкачую ляк кошаччій и мышаччій, и вярабяччій, и котиный, лосиный.* Рам., БС, V, 35; Жгунь Гом.

**ЛЯКА'ЦЦА** *незак.* Палохацца. *Да не лякайсе — я буду твой.* БКЭ, № 40; Ужынец Рэч.

**ЛЯКА'ЦЬ** *незак.* Палохаць. *Надзежду Пятроўну не хацеў лякаць.* Шам., V, 373.

**ЛЯКО'БА** (лекоба) *ж.* Лячэнне. *Убачыли тое людзи да як пачали лупцаваць цыгана за такую лекобу.* Серж., СРБП, 184; Лучыцы Маз.

**ЛЯЛЁТАЧКА** (лелёточка) *ж. Памянш.-ласк.* да л я л я. *Да свайго дитяти поглядети, Ти хороше да наряджена, На посаде ти посоджена, Наряджена як лелёточка, Посоджена як сироточка.* Радч., ГНП, 78; Гом.

**ЛЯ'ЛЯ** *ж. Дзіц.* Лялька. Радч., ГНП, 12; Гом.

**ЛЯНТА'Р** *м.* Упрыгожанне з янтару. *На головочцы шовковенькій платок, на плячцы ў девки буйны лянтари.* Рам., БС, I—II, 28; Гом.

**ЛЯПО'РТ** *м.* Рапарт. *Сяйчас жа написав ляпорт и отправив, нарадив слугу ик тому ўправляющаму, у котораго находився етый собака.* Рам., БС, IV, 112; Васільеўка Гом.

**ЛЯСІ'ШЧА** *н. павел.* лес (вялікі, густы). *Наши братики дружны пошли у лясища, да назбирали дровища.* Рам., БС, III, 429; Беліца.

**ЛЯСУНІ'ХА** *м. Міф.* Лясны дух. *Тяпер яна, лясуниха, з им стрелася.* Рам., БС, IV, 93; Балсуны Раг.

**ЛЯТВО'** *н.* Ляток, адтуліна ў вуллі. *Куды ж яны палятуць тады? У звычайнае лятво не ўлезуць. Будзе буйная пчала, дык і лятво прадзяўбем.* Пал., КЗС, 10.

**ЛЯТУ'НАК** *м.* Мара, летуценне. *Ператварыў на сад балота, зрабіў сапраўднасцю лятунак.* Дуб., I, 318; *Начамі ёй сніўся Нежыхаў, а ўдзень яна ўжо вярталася да яго ў лятунках, тым больш, што дзяўчына наважылася ніколі не вяртацца на бацькаў панадворак — там яе пакрыўдзілі, зняважылі.* Саб., БАС.

**МАГАЛЕ'ЙКА** *ж.* **1.** Капшук. *Дастаў гэто ён з магалейкі крамене ц да губку і хацеў выкрасаць агню.* Серж., СРБП, 94; Лучыцы Маз. **2.** Кашалёк. *Пачали й мужыки развязваць свае магалейки да даставаць аттуль медзяки.* Серж., СРБП, 122; Лучыцы Маз.

**МАДЗЕ'ЦЬ** *незак.* Жыць у цяжкіх умовах. *Иди, мая донька, и мадей.* Радч., ГНП, 96; Гом. *Так яны там і мадзелі, на тым алёсе.* Дан., Ж, 22.

**МАЖЖЫ'** (можжи) *толькі мн.* Мазгі. *Як у яблочку няма ничого, няхай у раба бажаго ня будя ничого: с костей, з можжей, и з жилочак, и с пожилочак, из жовтыя кости...* Рам., БС, V, 4; Карма Гом. Параўн. м я ж д ж ы.

**МАЗАНУ'ЦЬ** *зак. Перан.* Ударыць, стукнуць. *Таварыш камісар, гэта той, якога я па зубах мазануў!* Губ., БК, 62.

**МАЗГАЎНЯ'** *ж. Груб.* Галава. *Мне тваё косці хочацца паварушыць. Мазгайню тваю пустую праветрыць.* Шам., ВТБ, 155.

**МАЗУ'РЫК** *м. Пагард.* Махляр, ашуканец. *Гэты мазурык, які перад вайной трапіў у лагер за дробную кражу, хоча выставіць сябе яго выратавальнікам.* Нав., СД, 355.

**МА'КАВАЧКА** *ж. ласк.* макаўка, макавіна. *Пакацілась галоўка, да й як макавачка.* Б., II, 334; Маз.

**МАКО'ТКА** *ж.* Макацёр. *Не, кажэ, я макотку сабе ззаду прывязаў, да за сьвіню погнаўсе.* БКЭ, № 9; Камаровічы Маз. Параўн. м а к о т р а.

**МАКО'ТРА** *ж.* Тое, што м а к о т к а. *Он за ней, да макотра оборваласе, дай масло разлілосе!* БКЭ, № 9; Камаровічы Маз. Радч., ГНП, 14; Гом.

**МАКУ'ЛІНКА** *ж. Перан.* Макавае зярнятка (крупінка, драбніца). *Лепш хай тваё прападзе, чым возьмеш макулінку іхняга.* Сач., Д, 143. ◆ **у роце ў мяне не было ні макулінкі** — нічога не еў, не піў. *У роце ў мяне не было ні макулінкі.* Сач., АП, 328.

**МА'ЛА** *прысл.* Амаль. *Усе мы ведалі, што Поля ў вайну, зусім яшчэ дзяўчынкаю, трапіла ў Нямеччыну і была там мала не тры гады.* Сач., БРВ, 127; Параўн. м а л ь н е.

**МАЛАДАВА'ТЫ** *прым.* Даволі малады. *Нейкі маладаваты пан смяецца, нешта расказваючы ёй.* Лупс. П, 62.

**МАЛАДУ'ХА** *ж.* Маладзіца. *Пліска ажно заружавелася, як маладуха.* Шам., ВТБ, 116. *А стары засмяяўся весела, як маладуха, пажадаў: «Ах, каб вам добра было!»* Шам., V, 562.

**МАЛАДЗВІ'Т** (молодвит) *м.* Малацьбіт. *Молодвитов было троя: два старых, а один молодый.* Рам., БС, IV, 115; Доўск Раг.

**МАЛАДЗЁНКА** *ж.* Маладая дзяўчына, жанчына. *Яна ж не маладзёнка якая.* Саб., I, 10. *Сама, здаецца, яшчэ от нядаўна маладзёнкай была, а цяпер як зірне на сябе ў люстэрка, дык палохаецца.* Саб., ЖЗ, 137.

**МАЛАДЗЕ'СЕНЬКІ** (молодесенький) *прым. ласк.* надта малады. *Ён з мяне молодесенькой наругивався, Ен кресав огонёк из красных моих губ.* Радч., ГНП, 161; Гом. Параўн. м а л а д з ё ш а н ь к і, м а л а д з ю ш а н ь к і.

**МАЛАДЗЁНАК** *м.* Малады хлопец, мужчына. *Выходзіла — далёка не маладзёнак ён.* Дан., Ж, 34; *Жывёла вунь рыкае няпоеная, а ён, як маладзёнак, паплёўся ў той клуб.* Дан., Ж, 156.

**МАЛАДЗЁШАНЬКІ** (молодёшанький) *прым.* Тое, што м а л а д з е с е н ь к і. *В хати сметьтя по колены, на столе рогожи, а мне молоде — молодёшаньцы глядеть непригожа.* Рам., БС, I—II, 5; Гом. Параўн. м а л а д з ю ш а н ь к і.

**МАЛАДЗІКАВЫ'** (молодикавый) *прым.* Маладзіковы. *Приступитя*

*и поможитя рабу божаму Альлю выговорить ляк уси тни и ўси параполохи, и молодикавыя и вехтавыя.* Рам., БС, V, 36; Красная Буда Гом.

**МАЛАДЗЮ'ШАНЬКІ** (молодзюшанький) *прым.* Тое, што маладзесенькі. *Як пойду я молодзюшанька ў чистое поле.* Рам., БС, I—II, 146; Гом. Параўн. маладзёшанькі.

**МАЛАННЯ'** (молоньня) *ж.* Маланка. *Пойду Господу Богу жалитца, дак вас Господ Бог громом побъе и молоньнёй попаля.* Рам., БС, V, 111; Кузьмічы Гом.

**МАЛАЧА'ІСТЫ** *прым.* Вельмі белы і густы, як сок малачаю. *Густыя малачаістыя туманы, як суцэльная сцяна, стаялі над рэчкай.* Саб., ЖЗ, 72.

**МАЛАШЭ'БНІЦА** *ж.* Чараўніца. *А баба була така малашэбніца: познала, што ето не воўк.* БКЭ, № 11; Камаровічы Маз.

**МА'ЛЕЦ-ВЫ'РАСТАЧАК** (выросточак) *м.* Падлетак. *Ак ишов я по дзяревни, дак малцы-выросточки зараджали холостуу пушку гноам.* Рам., БС, III, 232; Нісімкавічы Раг.

**МАЛЕ'ЦЦЕ** *н.* Маленства. *Калі ў малецці шукалі мы, дзеці, А дзе той канец для дарогі на свеце?* Дуб., I, 300.

**МАЛЕ'ШАНЬКІ** *прым.* Невялічкі, дробны. *Я малешанькій у маменьки ўродився.* Рам., БС, I—II, 434; Беліца. Параўн. малёшанькі.

**МАЛЁШАНЬКІ** (малёшенькій) *прым.* Тое, што малешанькі. *Я малёшенькій В маменьки ўродився.* Рам., БС, VII, 25; Гом.

**МАЛІ'НІЦА** *ж.* Маліна. *Мне по табе, лес дубровка, Не летати, сладких ягод, малиницы не клювати.* Рам., БС, I—II, 63; Перарост Гом.

**МА'ЛНАСЦЬ** (малность) *прысл.* Нямнога. *Славу Богу, тяпер народу размножилося, а тогды малность було.* Рам., БС, IV, 140; Балсуны Раг.

**МАЛО'ДАЧКА** *ж. ласк.* малодка, маладзіца, маладуха. *Надаела, надаскучыла малойчыку прыгладжуючы, На чужых жа на малодачак заглядуючысь.* Б, II, 439; Алешын Раг.

**МАЛО'ЧЛІВЫ** *прым.* Малочны, удойны. *А дай жа, божа, Да хазяіну Да каровачку Не ўрочлівую, Малочлівую.* ЗП, 417; Жгунь Гом.

**МА'ЛЬНЕ** *прысл.* Тое, што мала. *А ты ж, кажуць, мальне не ўсё лета жыў тут?* Сач., АП, 417.

**МАЛЮ'ШАЧКА** *ж. ласк.* малютка. *Жана твая, жана Машанька сына родила; спородивши малюшачку, сама померла.* Рам., БС, I—II, 3; Беліца.

**МА'МАНЬКА** (мамонька) *ж. ласк.* мама. *А ци тобе, мамонька, жаль не жаль, Ци твого сердечка не крое, Що твоя Оксенька не йграе?* Шэйн, III, 436; Дзякавічы Маз.

**МАМУ'ЛЬКА** *ж. ласк.* мамуля. *Пашла мамулька дачкі шукаці.* Б., II, 63; Перарост Гом.

**МАНДРАВА'ЦЬ** *незак.* Вандраваць (пешшу). *Ой хочешь, живи, хочешь прогоруешь, Або, серденько, вслед помандруешь. Мандрую я поле, мандрую я и другое, А на третье поле, там пшеница увсходить.* Радч., ГНП, 154; Гом.

**МА'НІЦЦА** *незак.* Мецца (аб тым, што павінна быць). *Манилися ў мяне Госьтики быть, Госьтики быть.* Рам., БС, VII, 38; Гом.

**МАНТЫ'ЧЫЦЬ** *незак.* Транжырыць, марнатраціць. *Каб я сказаў табе, дзе ляжаць мае грошы... каб я сядзеў на печы, казкі тваім дзецям расказваў ды глядзеў, як ты са сваёй жоначкай усё, што я збіраў гадамі, мантычыш?* Сач., ЗМП, 75.

**МАНЬКУ'Т** *м.* Чучала. Эр., ОБП, 123; Брагін.

**МАНЮ'КА** *аг.* Хлус. *Мацвей хоць і не вельмі гаваркі, але, як усе вандроўнікі, манюка...* Шам., ВТБ, 187.

**МАРАЗЯ'КА** *м.* Мароз (моцны).

*На дварэ трашчыць маразяка, і ў сенцах вельмі ж холадна.* Саб., I, 356. *«Моцны маразяка»,— адказаў я ў тон цётчынаму запытанню.* Саб., II, 182. *Дзед Дарахвей, які паліў у печах і вартаваў школу, ужо ведаў Галіны дробненькія тупатлівыя крокі і, як толькі чуў іх пад дзвярыма, асабліва зімою, у маразяку, кідайся адшчэпліваць зашчапку.* Саб., БАС, 24.

**МА'РАЦ** *м.* Сакавік. *Позніцца сёлета вясна... Марац канчаецца, а снег яшчэ з поля не сагнала.* Мак., К, 4.

**МАРГЕ'ЛКА** *ж.* Лямцоўка. Дэмб., ООМГ, I, 476; Гом.

**МАРТАПЛЯ'СЫ** *толькі мн.* Выкрунтасы. *Іншы раз на сябра нападала празмерная ўзбуджанасць, і ён тады насіўся па класе, як віхор, вырабляў розныя мартаплясы.* Нав., В, 52.

**МАСЛАКАВА'ТЫ** *прым.* Касцісты. *У яго былі худыя маслакаватыя ногі, якія, здавалася, чапляліся адна за другую.* Мел., II, 124.

**МАСТАВІ'К** *м.* Гл. ц в і к-м а с т а в і к.

**МАТАНУ'ЦЬ** (мотануть) *зак.* **1.** Махнуць. *Злез хлопчык, мотанув хусткой — став мосточак.* Рам., БС, III, 64; Балотня Раг. **2.** *Перан.* Выбегчы. *Хлопчык стрымгалоў матануў з хаты.* Саб., I, 56.

**МАТЛЯНУ'ЦЦА** *зак.* Матнуцца (памкнуцца да каго-н. з пачуццямі, паспяшацца куды-н.). *Вакуленка са спрытам матлянуўся да гаспадыні, абняў за плечы, прыхінуў да сябе.* Нав., СТ, 43. *Ён папрасіў цыбулі і часнаку, жанчына з неўласцівай для яе раздабрэлай фігуры ўвішнасцю матлянулася ў агарод, нарвала поўны прыпол.* Нав., СД, 94. *Малання стол заслала настольнікам, дастала з паліцы акрайчык хлеба, матлянулася ў сенечкі, прынесла міску кіслай капусты.* Нав., СТ, 55.

**МАТНЯ'** *ж.* Месца ў штанах, дзе сыходзяцца калашыны. *Калі ішоў, матня шэрых картовых штаноў як не цягнулася па зямлі, а шапка ляжала на адтапыраных вушах — не ўдаўся ростам Даніла.* Кап., СЖЛ, 3.

**МАТО'НЬКА** *ж. ласк.* маці. *Зеленая руценька, Алентый цвет! Чему мои матоньки Ко мне нет?* Шэйн, III, 424; Дзякавічы Маз.

**МАТРАСНЯ'** *ж. Зборн.* Матросы. *А там людзей-людзей — матрасня, салдаты.* Саб., БАС, 33.

**МАТУ'ЛЬКА** *ж. ласк.* матуля. *Хадзем, бабулька, бяседы вадзіці, ты не бабулька — мая матулька.* Б, II, 63; Перарост Гом.

**МАЎЧА'НКА** *ж.* Маўчанне. *Маўчанку парушыла Ганна.* Дуд., М, 31.

**МА'ХА** *ж.* Крыло ветрака. *Алеся, ты кажаш, маха гакнула.* Рак., БВ, 168. *Алеся забіла-а! Махай забіла-а!* Рак., БВ, 135. *Вецер, бывала, ледзь павее, амаль зусім яго няма, а махі ўсё роўна варушацца: ходзяць ці стаяць — і не разбярэш адразу.* Рак., БВ, 142. *Ён выйшаў з млына паглядзець, але прытуманеная хмелем галава не адразу зварыла, што махі ходзяць перад самымі дзвярыма!* Рак., БВ, 146. *Яна подбегам уцякала далей ад млына, а ззаду неадступна з трэскам шугалі махі, ляскаталі люлькі каўшоў, грукаталі камяні.* Рак., БВ, 155.

**МАЦА'К** *м.* Здаровы, моцны чалавек. *Вы, паляўнічыя, мацакі.* Шам., V, 216.

**МАЦЮ'К** *м. Лаянк.* Мат, брыдкая лаянка. *Ад сярэдзіны сяла наляталі злыя воклічы, крыкі болю, мацюкі, якія часам счапляліся ў дзікі, люты рэў.* Мел., V, 197. *І пачне гнуць, як дугі, мацюкі.* Сач., БРВ, 47.

**МАЦЮКА'ЦЬ** *незак.* Лаяць матам. *...Стары мацюкаў паліцаяў і немцаў на чым свет стаіць...* Шам., ВТБ, 73.

**МАЧ** *м. Рыб.* Восці. *Даніла з мачом на плячы ішоў ззаду мужчын, соўгаў па лёдзе валёнкамі.* Кап., СЖЛ, 16.

**МЕДАЕ'Д** *м.* Мядзведзь. Эр., ОБП, 117.

**МЕ'ЗЛЕВА** *н.* Аброк натурай. *Як і некалькі стагоддзяў назад, плацілі войту ці дзесяцкаму дзякла, мезлева, грашовую дань і ўсё.* Сач, Д, 143.

**МЕ'ЛІНА** *ж.* Мель. *І плытнік стары, як належыць, Наваліцца прысам на пуп, Слаўцом па-над рэчкай урэжа,— І сунецца з меліны дуб.* Грам., В, 96.

**МЕН** *м.* Мена, абмен. *Ідзе, значыць, на мен.* Лупс., П, 51. Параўн. м і н я н н е.

**МЕ'НТАМ** *прысл.* Вокамгненна, у момант. *Ідзі ў зямлянку, пасядзі, я хуценька, ментам.* Сач., АП, 376.

**МЕ'СКІ** *прым.* Здобны, пышны. *Не магу я стаяти, колоса держати; Да мой колосок, як мескій пирожок, Да мое зернятко, як проскурнятко.* Радч., ГНП, 32; Гом.

**МЕ'СЯКА** (месяко) *м.* Месяц. *Ой что ж это за месяко, В ночи светить, а в день не!* Радч., ГНП, 127; Гом.

**МЕ'ТКА** *ж.* Пруток. Эр., ОБП, 130; Брагін.

**МЕЦЯЛЮ'ЖНЫ** *прым.* Завейны, завірушны. *Лютая мецялюжная зіма.* Сач., АП, 10.

**МЕЧ** *ж.* Меч. *Дык вам, мая слуга наперад прынясе, за вас скарэй, то мая меч, вам галаву з плеч.* ЧК, І, 73; Рудня Чач.

**МІГУ'НЬ** *м.* Імгла. *Мигунь ущук.* Радч., ГНП, 11; Гом. Параўн. м р о е в а.

**МІ'ЖДА** *прыназ.* Між, паміж. *Узяў ахотнік бічоўку, зачапіў арла за шыю і б'е друком міжда плеч.* ЧК, І, 247; Мяркулавічы Раг.

**МІЛО'К** *м. ласк.* любы, дарагі. *«Хвілінку, Сярожка. Перадыхнуць трэба, мілок, мне»,— аж стогне дзед.* Дан., ЗА, 231.

**МІЛЮ'СЕНЬКІ** *прым. ласк.* чалавек, блізкі сэрцу, любімы, дарагі. *Простояла з милюсеньким часочак.* Рам., БС, І—ІІ, 29; Гом.

**МІЛЯНЁК** (миленёк) *прым. у знач. вык.* Па сэрцу, любы. *Да не мушу, бацюхно, не мушу, Полюбила Иванька, як душу; Положила на рученцы — легенёк, Пригорнула до сердзенька — миленёк.* Шэйн, III, 443; Дзякавічы Маз.

**МІ'НІМА** *ж.* Норма, не больш чым патрэбна. *Я сваю мініму выпрацавала.* Губ., НКП, 191.

**МІНЯ'ННЕ** *н.* Тое, што м е н. *Мне потрэбны: Перлов веньчик До виньчаньня, Сребный кусок на витаньня, Злотый персьтинь На миняньня!* Рам., БС, VII, 24; Гом.

**МІРГЛІ'ВЫ** *прым.* Які часта міргае (пра вочы). *Паненка — бледная, з мірглівымі вялікімі вачыма, у якіх былі слёзы, стаяла поплеч з ім.* Лупс., П, 53.

**МІРО'НЧЫК** *м. заал. памянш.* мірон, вусач (рыба сямейства карпавых). *Хваліў рыбакоў за іх велікадушнасць, а сам аднаго мірончыка зграбастаў-такі!* Рак., В, 133.

**МЛІНЕ'Ц** *м.* Блінец, блін. *Квас добрый з грибами, а то и з рыбою, млинцы з маком и з медом, горох з сытою, да ўзвар добрый.* Шэйн, І, 46; Қошычы Маз. Параўн. м л ы н е ц.

**МЛЫНАВА'ЦЬ** *незак.* Малоць (зерне). *Прыходзіў яго час млынаваць — моўчкі забіраў у Платона ключы і гэтак жа моўчкі яму аддаваў, калі канчаўся яго тыдзень.* Рак., БВ, 146.

**МЛЫНАРЫ'ШЧА** *н.* Месца, дзе стаяў млын. *І ўсёй нянавісцю яна ненавідзела гэтае месца — старое млынарышча.* Рак., БВ, 166. *Агледзеў млынарышча — дарма, што пясочак ды забалаць, затое пры дарозе, пры канаве і ў людзей на вачах.* Рак., СЛС, 14. *Жыве Мітрафан адразу за мастом, на старым млынарышчы.* Рак., СЛС, 13.

**МЛЫНЕ'Ц** *м.* Тое, што м л і н е ц. *А ўранні я навару бульбы, млынцоў напяку.* Сач., БРВ, 293.

**МЛЯ'ЎКАСЦЬ** *ж.* Млявасць. *Галава мая трошачкі кружыцца, трошачкі шуміць, у нагах кволая мляўкасць.* Саб., II, 141.

**МЛЯ'ЎКІ** *прым.* Вельмі млявы.

*Яна прытуліла дзіцянё да грудзей, і ёй так стала добра, усярэдзіне нібы разлілася мляўкая цеплыня, і сэрца мацней забілася, затрапятала ад радасці.* Саб., I, 281. *Даніла ўжо немаладзён, і яму патрабуецца тая адмысловая пяшчота, якая быццам улівае ў цела мляўкую дужасць.* Саб., I, 98.

**МО'КУЦЬ** *ж.* Месца забалочанае. *А так от — «мокуць» і «мокуць», мокрае, гіблае месца.* Мел., V, 19.

**МО'Р'ЮШКА** *н. ласк.* мора. *Мое гнездюшко серод моръюшка, серод моръюшка, да на вострове.* Рам., БС, I—II, 105; Гом.

**МО'СНЫ** *прым.* Моцны, здаровы. *У нас жа ё жарабок жирный, мосный, дак дужо шибко бегаа — быстрей яго никого ў свети нема.* Рам., БС, I, 391; Нісімкавічы Раг.

**МРО'ЕВА** *н.* Тое, што мігунь. *Смела і крута ён набраў вышыню, разразаючы лёгкае мроева туману.* Крауч., НХП, 20.

**МРО'ЙНА** *прысл.* Летуценна. *Калі там наступае цішыня, я кожны раз чую, як Наташа задуменна і мройна напявае.* Рак., В, 55.

**МРУ'ЖЫЦЦА** *незак.* Жмурыцца (пра вочы). *Марынчыны вочы мружыліся.* Саб., БАС, 10. *Рабы, пляскаты твар моршчыўся, вочы мружыліся — пэўна ж не ад газнічнага святла.* Мел., VI, 122.

**МРУ'ЖЫЦЬ** *незак.* Жмурыць (пра вочы). *Артыст гэты вельмі мне падабаўся. Асабліва калі ён мружыў вока і загадкава ўсміхаўся.* Сач., ЧН, 211.

**МРУ'КАЦЬ** *незак.* Мармытаць. *«Яно то так», — мрукае зноў ён сабе пад нос.* Сач., ЧН, 181.

**МУЖЫ'ЦКАСЦЬ** *ж. Зборн.* Мужычча, мужыкі (сяляне). *Значыць, не на жарт паны ўзяліся выпустошваць мужыцкасць.* Саб., I, 182.

**МУЛЯВА'ННЕ** (муляваньня) *н.* Амуніцыя. *Паехаў бацька ў поля-палявання, Да забыўся ўзяци свайго муляваньня.* Д-З, ПП, 145; Красная Воля. Параўн. муніца.

**МУНІ'ЦА** *ж.* Тое, што муляванне. *На одным повесив шинелю, на другим мундер, на третьтям раняц, даляй шапку, муницу.* Рам., БС, III, 426; Гом.

**МУРА'ШНІК** *м.* Дзік. *Неяк пашанцавала яму забіць ладнага мурашніка.* Лупс., П, 31.

**МУРА'Ш** *м.* Мурашка. *Цягавітыя мурашы, варушачы вусікамі, узбіраліся па ствалу, — відаць, і ім хацелася пакаштаваць бярозавіку.* Дан., Н, 46.

**МУ'РЫН** *м.* Негр. *А прыдзе да гасподы — чорны, як мурын; хочэ жонку пацалаваць.* Серж., СРБП, 109; Лучыцы Маз.

**МУС** *м.* Выган. *У прамежку — зарослы муравой выган, які называецца мусам.* Нав., ВС, 5.

**МУ'ТАРНА** (муторно) *прысл.* Моташна. *Розум дапытлівы шукаў нечага новага, але душа пакуль яго не знаходзіла, і мне было мутарна.* Саб., ЗПД, 98. *Муторно приходитца гостям тым, да ня ўмеять унять.* Рам., БС, III, 280; Гом.

**МУШЧЫ'ЗНА** *м.* Мужчына. *Так тые бутэлькі достаць і з чырвоной помазаць мушчызну, а з белой жэншчыну, то аны повстаюць.* БКЭ, № 36; Юравічы Рэч.

**МЫ'ЛІЦЦА** *незак.* Адчуваючы сумненне, нерашучасць, цягнуць з рашэннем якой-н. справы. *Цар мыливсь, мыливсь, да й отдав* [детей]. Рам., БС, III; Балатня Раг.

**МЫСЛЯВА'ЦЬ** *незак.* Разважаць. *Падышоў ён пад драбины, прыцис к нябу палец и стаіць, мыслюе.* Серж., СРБП, 78; Лучыцы Маз.

**МЫ'ЧКА** I *ж.* Жменя льну (абчасаная і скручаная). *От дедова дочка попрала уси мычки да й кажа: «Кать, ходем домов!»* Рам., БС, III, 368; Гом.

**МЫ'ЧКА** II *ж. Бат.* Сівец (трава). *Трава тут была, як валасы на*

*цемені дзіцяці: рэдкая, мяккая мычка ляжала паклычаная на зямлі — тут быў выган.* Нап., СЖЛ, 38.

**МЫША'К** *м.* Мыш. *А ўночы мышакі, каб іх немач... Спаць не даюць.* Сач., ЧН, 171.

**МЭМЭ'КАЦЬ** *незак.* Абзывацца падобна «ме-ме». *Мэмэкалі авечкі ў аўчарніку.* Лупс., ВТ, 247.

**МЯЖДЖЫ'** *толькі мн.* Тое, што м а ж ж ы. *Выходиця с косцей, з мяжджэй, с сустав, с полусустав.* Рам., БС, V, 19.

**МЯДЗВЕ'ДЗІХА** *ж.* Мядзведзіца. *Ідзі прынясі мне із мядзведзіхі малака. Іванька пайшоў у лес. А вот і бягіць мядзведзіха лесам.* ЧК, II, 160; Перарост Гом.

**МЯДЗВЕ'ДЗЬ-ЗАЛАТАВУ'Х** *м.* Мядзведзь з «залатымі» вушамі (казачны). *Здрастуй, Няшчасны Егар! Што я табе скажу: там-то і там-то, у такім-то царстве есць мядзведзь-залатавух.* ЧК, II, 27; Шарахоўскія Буды Раг.

**МЯДЗВЕДЗЯВА'ТЫ** *прым.* Даволі нязграбны, няспрытны. *Вакуленка, са спрытам трохі незвычайным для яго мядзведзяватай фігуры, матлянуўся да гаспадыні.* Нав., СТ, 43.

**МЯККУ'СЕНЬКА** *прысл. ласк.* мякка. *Мяккусенька пасцель ваша, сынку.* Б, II, 472.

**МЯ'КІШ** *м. Перан.* Чалавек уразлівы, слабавольны. *Я не думаў, што ты такі мякіш. Каб ведаў, не гаварыў бы нічога.* Нав., Б, 38.

**МЯНТА'ШЫЦЬ** *незак.* Гаварыць бязглуздзіцу; трапацца. *Качанок не любіў, калі яго, блазнюка, называлі Яшкам, ды і ўвогуле палічыў, што языкатага дзеда гэтага лепш не чапаць, няхай ён спрахне з яго грушамі, а то пойдзе мянташыць па ўсім сяле.* Шам., ВТБ, 347.

**МЯРЗО'ТНІК** *м.* Нягоднік, паганец. *Хопішся ты заўтра, як я на гэтага твайго мярзотніка ды шчыпака выцягну.* Лупс., ВТ, 166.

**МЯСІ'ЦЦА** *незак. Перан.* Біцца, дубасіць адзін аднаго. *І зноў пачалі мясіцца.* ЧК, II, 69; Рудня Чач.

**МЯТРО'ЎКА** *ж.* Дровы мятровыя. *Тут, на просецы, двое сталых рабочых лясніцтва пілавалі іх на мятроўкі і складалі ў шуркі — для замеру.* Шам., ВТБ, 337.

**МЯЦЕ'ЖЫЦЬ** *незак.* Трывожыць, прыводзіць у замяшанне. *Песні, песні! Даволі мяцежыць — успамінаць учарашнюю быль.* Дуд., СС, 3.

# Н

**НА'БА** (набо) *злуч.* Затое, але. *Толькі я люблю Черную Гапочку: Хоць ена маленька, Набо ена черненька.* Шэйн, III, 412; Дзякавічы Маз.

**НА'БАДРЫ** *мн.* Медныя бляхі для збруі. *А казак усё тупаў ля каня, і, патрывожаныя яго рукою, звінелі акаваныя набадры.* Лупс., П, 131.

**НА'БАЛЯ** *прысл.* Больш за ўсё. *Добрые молотцы николи ня миратца, а наболя бьютца!* Рам., БС, I, 146. Параўн. н а б о л і.

**НАБО'ЖНІК** *ж.* Ручнік на іконе. Дэмб., ООМГ, I, 474; Гом. Радч., ГНП, 14; Гом.

**НАБО'ЛІ** *прысл.* Тое, што н а б а л я. *Наболи любя попом скидатца у брыльку.* Рам., БС, IV, 8; Гом.

**НАБРО'ДНЫ** *дзеепрым.* Прыблудны. *И з раба божжага уроки сымала и вымала: и подуманыя, и погаданыя, и приговорныя и набродныя.* Рам., БС, V, 17; Карма Гом.

**НАБРУ'ЧНІК** *м.* Папруга, рэмень. *Солдат одевся и побег. Огледив-*

*ся — прозабыв солдат набручника.* Рам., БС, III, 427.

**НА'БРЫДЗЬ** *ж. Пагард.* Зброд. *Я выступлю ў нашай газеце, папярэджу «Беларускі очаг», усіх знаёмых і незнаёмых беларусаў, каб асцерагаліся рознай набрыдзі.* Губ., ДП, 315.

**НАБРЫ'ДЛЫ** *прым.* Надакучлівы, апрыкры. *Нават калі, змогшыся, заснуў, нейкі недарэчны набрыдлы сон не даў спакою.* Саб., I, 99.

**НАБЫ'ЧЫЦЦА** *зак.* Насупіцца і глядзець з-пад ілба. *Ледзь калёсы рушылі па вуліцы, ён, набычыўшыся, маўкліва падаўся ўслед.* Мел., V, 11.

**НА'ВАЛАЧ** *ж.* Бяда, няшчасце. *І што мы такого зрабілі з Пілiпам, што нас насцігла такая навалач.* Лупс., ВТ, 89.

**НА'ВАЛАЧЧА** *н.* Шмат непрыемнага, што абрушваецца на чалавека. *За часам, за наваламчу турбот радзей і радзей успамінаў ужо Ганну.* Мел., VI, 286.

**НАВАЛО'КА** *м. Груб.* **1.** Не тутэйшы. *Гаспадара ўжо даўно няма на свеце, а хату яго і цяпер завуць Пятровай, хоць колішняя Пятрова жонка прыняла сабе за прымака нейкага навалоку Міканора.* Саб., II, 129. **2.** *Пагард.* Варожыя людзі. *Можа, і праўда ў чалавека прачнулася пачуццё любві да радзімы, бо чаму ж ён не хоча выслужыцца перад гэтымі навалокамі-чужынцамі?* Саб., I, 241.

**НАВАЛЬНІ'ЧЫЦЬ** *незак.* Цешыцца сваёй сілай, заліваючы берагавую пойму. *Бачу, як навальнічыць вышаў з берагоў крутарогіх Сож.* Дуд., ЗС, 16.

**НАВАРАЧА'ЦЬ** (наворочать) *незак.* Паварочваць (даць іншы напрамак чаму-н.; прызвычайваць, прывучаць жыць па-іншаму). *Свекорка татка не отбороняе, Ще нагаечку подкидае: Бій мой сыночек, бій научай, Под свой обычай наворочай.* Радч., ГНП, 16.

**НАВЕ'РХ** *прысл.* Звыш, у прыдачу. *Узялі браты каня, тысячу рублей наверх і паехалі дамоў.* ЧК, II, 35; Гацкае Чач.

**НАВЕ'СЦІ** ◆ **навесці на пуць** — навучыць чаму-н., дапамагчы ўладкавацца ў жыцці. *Ну, я тябе навяду на путь!* Рам., БС, III, 76; Перарост Гом.

**НАВІ'ЛЬНІК** *м.* Дзяржанне. *І Карней Пятровіч рабіў то на пасецы, то перад касавіцай майстраваў граблі і доўгія навільнікі, то вяршыў стагі.* Дан., МН, 59.

**НАВЫ'ШНІ** *прым.* Усявышні. *Миколай, угодничак Божжія, заступнік ты наш навышній, ослобони!* Рам., БС, IV, 15; Гом.

**НАВЯРНУ'ЦЦА** (навернуться) *зак.* Накрыцца. *Да тая мышка взяла од ей ключэ, од дзеўкі, а ее ўсказала корыто большое ў хатцэ, і сказала, штобы ане под корыто подлезла і навернуласе корытом.* БКЭ, № 13; Камаровічы Маз. *Ана і легла і навернуласе.* БКЭ, № 13; Камаровічы Маз.

**НАВЯЧЭ'РАЦЦА** *зак.* Павячэраць многа, уволю. *Ну, я навячэраўся.* Палт., КС, 28.

**НАГАРО'ДА** (нагорода) *ж.* Узнагарода. *Вынесьце мене, будзе вам нагорода веліка од майго бацькі.* БКЭ, № 7; Камаровічы Маз.

**НА'ГІНКАМ** *прысл.* Сагнуўшыся. *Ля сваіх варот прыпыніў каня, узваліў на плечы пень і нагінкам панёс яго ў двор.* Кап., СЖЛ, 15.

**НА'ГЛЕ** *прысл.* Вельмі, надта. *А брат у яго быў нагле багатый.* БКЭ, № 24; Камаровічы Маз.

**НАДЗЁЖА** *ж.* Надзея. *Ты едь, мая надёжа, не загуливайся.* Рам., БС, I—II, 42; Беліца.

**НАДКРА'ШАЙ** *прысл.* Прыгажэй. *Няма надкрашай, як наша Зоська.* ЗП, 254; Другая Слабодка Петр.

**НАДРЫ'ХНУЦЦА** *зак. Зневаж.* Адаспацца. *І не спаць. Днём можна надрыхнуцца!* Мел., I, 141.

**НА'ДСЫР** *прым.* Сыраваты. *Елі*

*нават трошачкі надсыр.* Саб., I, 55.

**НАДУРНЯКА'** *прысл.* Лёгка, без цяжкасці. *Палезлі, думалі, надурняка Расію схопяць, а яно вылазіць бокам.* Нав., ВС, 150.

**НА'ДЫСЬ** *прысл.* Надоечы, зусім нядаўна, днямі. *Развялося напасці етай! Надысь ноччу ўстала, падпаліла лучынку, дак яны па падпрыпеку — шась, як войска якое!* Мел., V, 83. *«Арэшынкі нагледзеў надысь... На абручы акурат...» — Яўхім чуў, як маці ўранку прасіла старога набіць новыя абручы на бочку.* Мел., V, 239.

**НАЕ'ДАК** *м.* Ежа. *Варка ведала: як вернуцца дадому, дык ці знойдуць які наедак.* Дан., Ж, 23.

**НАЖЛУ'КЦІЦЦА** *зак.* Напіцца звыш меры. *Вольга адчула гэта, разумела і ні ў якой шайцы-лейцы быць не жадала і ненавідзела п'яныя морды, пагарджала імі, бо лічыла іх бандзюгамі, якім абы гарэлкі нажлукціцца.* Шам., V, 393.

**НАЗА'ДУ** *прысл.* Ззаду. *Ён сыпнуў, і здзелалася назаду пясчанае мора.* ЧК, I, 256; Мяркулавічы Раг.

**НАЗА'ЎТРАГА** (назаўтраго) *прысл.* Назаўтра. *Ён пришов назаўтраго и кажа: тат, не жани мяне!* Рам., БС, IV, 27; Перарост Гом. *А назаўтраго изнов иде, заводя свою песню.* Рам., БС, III, 18; Перарост Гом.

**НАЗГАТО'ЎКУ** **:назгатоўку ўзяць** — узяць напагатоў. *А мы — хоць бы назгатоўку вінтоўку ўзяў каторы.* Саб., БАС, 33.

**НАЗАРА'ЦЬ** (назорaць) *незак.* Назіраць, сачыць, наглядаць. *Повелі его ў лес, і назорылі, штобы он перэд усімі позабіваў тые кліны.* БКЭ, № 21; Камаровічы Маз.

**НАЙПА'ЧА** *прысл.* Найбольш, асабліва. *А найпача яны любють с пъяными вожжатца.* Рам., БС, IV, 9; Гом.

**НАКАВА'ЦЬ** (наковаць) **:накаваць язык** — зрабіцца вострым на язык. *Ковалі, ковалі, накуйце мне язык, як у Іванковой маці.* БКЭ, № 1; з-пад Турава Маз. *Наковалі ей язык, і ана прыходзіць зноў.* БКЭ, № 1; з-пад Турава Маз.

**НАКАРА'СКАЦЦА** *зак.* Трапіцца, выпадкова сустрэцца. *Тады накараскаўся той заатэхнік-малдаванін, каб яму нялёгка было.* Дан., Ж, 71.

**НАКВЭ'ЦВАЦЬ** *незак.* Намазваць. *Перш-наперш я наквэцваў дзёгцем боты, ды так, што, калі зайшоў у хату, Цыля схапілася за нос.* Сач., БРВ, 207.

**НАКУПАВА'ЦЬ** (накуповаць) *зак.* Накупляць. *Накуповалі ўсего, едуць додому.* БКЭ, № 16; Камаровічы Маз.

**НАЛАДАВА'ЦЬ** *зак.* Напакаваць. *На другі дзень надвячоркам Мікодым наладаваў добрую торбу сухароў, узяў ладны кавалак прасоленага сала і, развітаўшыся з Праксэдай і сынам, выйшаў з хаты.* Саб., I, 262. Параўн. н а л а д к а в а ц ь, н а п а т ы к а ц ь.

**НАЛАДКАВА'ЦЬ** *зак.* Тое, што н а л а д а в а ц ь. *Мама, мабыць жа, наладкавала поўны чамадан, бо ён вельмі ж цяжкі.* Саб., I, 135. Параўн. н а п а т ы к а ц ь.

**НАЛАМА'ЦЬ** *зак.* *да* н а л о м в а ц ь. *У Лаўрэна былі тры сыны. Ён таксама хацеў іх наламаць на краўцоўства, але яны ні блізка.* Саб., I, 21.

**НАЛЕ'ЦЕЙКА** (налетейко) *н. ласк.* на наступны год. *Песенка моя хорошая, Сховаю тебе налетейко.* Радч., ГНП, 34; Гом.

**НАЛО'МВАЦЬ** *незак.* Схіляць, угаворваць займацца чым-н. *І меншых сваіх сыноў Казіка і Андрэйку Лаўрэн пачаў наломваць на краўцоўства.* Саб., I, 23.

**НАЛУЧЫ'ЦЬ** *зак.* Сустрэць, трапіцца. *...Матка перад тым налучыла мясціну і набрала поўны кош такіх наглядных чырвонагаловых, што Анька вішчала ад захаплення, цалавала кожны грыбок...* Шам., ВТБ, 86.

**НАМЕ'ТКА** *ж.* **1.** Кужэльнае па-

латно. *Ето наметку, што на грудзях, значитца, покрываюць.* Рам., БС, IV, 136; Целяшы Гом. **2.** Намітка (даўні галаўны ўбор замужняй жанчыны). Радч., ГНП, 2; Гом. Параўн. н а м ё т к а.

**НАМЕ'ТАЧКА** *ж. Памянш. да* н а м е т к а ў 1 знач. *Дам жа табе, бабусенька, Сіню наметачку, Ды прылажы ж сваё ручкі Қ майму жываточку.* РП, 177; Гом.

**НАМЁТКА** *ж.* Тое, што н а м е т к а ў 2 знач. *На греной недели на кривой берези Русалки сидели, на девок глядели: Девочки-сестрички, дайте нам споднички, Молодички-лебёдки, дайте нам Намётки.* Радч., ГНП, 54; Гом. Дэмб., ООМГ, I, 476.

**НАМУ'СТ** *м.* Прымус. *Я ж быў упэўнены, што Змітрок толькі з яе намусту гаварыў тут пра скасаванне!* Губ., ҚНП, 355.

**НА'НАЧКІ** (наночки) *мн.* Вячоркі. *Як вздумаю про наночки, Так не жаль мине и мамочки.* Радч., ГНП, 91; Гом.

**НАПАВА'ЦІ** (наповати) *незак.* Напойваць. *Вже паробочков не видати, Пошли коней наповати, И до домоньку вечеряти.* Радч., ГНП, 2; Гом. *Коло тихаго Дунаю Я коника наповаю.* Дэмб., ООМГ, I, 589; Гом.

**НАПАГА'НІЦЬ** (напоганить) *зак.* Апаганіць (учынкам, словам зрабіць непрыемнасць). *Ты мной ня поядаяш, тольки душу напоганиш.* Рам., БС, I, 331; Перарост Гом.

**НА'ПАЛ** *прысл.* Напалам (на дзве прыблізна роўныя палавіны), папалам, напалавіну, надвае. *Потым яна неяк, як мне падалося, аж надта борзда і неахайна разламала акрайчык напал: адзін кавалачак дала мне, а другі палажыла на стол, пад абрус.* Сач., Д, 41. *Верабей кажа на мыш: «Ты дзялі напал».* ЧҚ, I, 245; Мяркулавічы Раг.

**НАПАСТЫЛЯ'ЦЦА** *незак. Неадабр.* Псаваць адносіны, ведучы сябе агідна, нясцерпна. *А вам навошта напастыляцца з людзьмі?* Губ., ҚНП, 349.

**НАПАТЫКА'ЦЬ** (напотыкать) *зак.* Тое, што н а л а д а в а ц ь. *Зэбраў сваё імпэрьялы і помешаў з маслэм і напотыкаў два гарцы імперъялов — зараз памёр.* БҚЭ, № 32; Юравічы Рэч.

**НАПАЧА'ТКУ** *прысл.* Спачатку. *Вячэраюць напачатку сумнавата. Лянiва хрумстаюць агуркамі, падоўгу варочаюць у пальцах кожную бульбіну.* Нав., СТ, 43. *У доме таксама напачатку панавала старожкая цішыня, якая звычайна бывае ў музеі.* Дан., ЗА, 120.

**НАПА'ШКІ** *прысл.* Наапашкі. *А потым, з шынялём, у нехалодныя дні накінутым напашкі, ездзіў сам на сельсавецкай каняцы ў воласць.* Мел., VI, 184. *«Можна було б тую, у якой рабіў,— прамовіў Васіль, надзяваючы світу напашкі.— Не ў сваты, кеб у новай».* Мел., V, 65.

**НАПЕРАКО'С** *прысл.* Наўскасяк. *З далёкага прыгорка, быццам спалохаўшыся сонца, раптам падхапіўся заяц і памчаўся наперакос поля, спыніўся, павадзіў вушамі і зноў заскакаў усё ў адным кірунку — быццам ён ведае, куды і чаго імчыцца.* Лупс., ВТ, 102.

**НАПО'ЎНІЦУ** *прысл.* На поўную моц. *Іншы раз, калі пякло, смаліла напоўніцу сонца і ад духаты недзе было дзецца, я не злазіў з дубка.* Сач., АП, 346. // На поўны рот. *Маўчаць, нічога ані мне не гавораць. Толькі закусваюць напоўніцу, ратамі чаўкаюць.* Сач., А, 6.

**НАПРАГЧЫ'** *зак.* Напячы. *Рада жонка: напрагла ена яечни, дастала гарелки,— частуе гаспадара, як госця.* Серж., СРБП, 23; Лучыцы Маз.

**НАПРАСЦЯ'К** *прысл.* Напрасткі. *Таіса Міхайлаўна пабегла напрасцяк, праз гарод...* Шам., ВТБ, 183.

**НАПРА'ТКА** *ж.* Вопратка. *У атрадзе ламалі галовы: дзе Валодзя*

*мог раздабыць такую напратку?* Шам., IV, 462. *Каб меў сваю напратку і на дварэ не была ноч, калі далёка не пойдзеш без начнога аўсвайса, ён тут жа пакінуў бы гэты дом.* Шам., V, 459.

**НАПЯРЭ'СЦІКІ** *прыназ.* Напераэз. *Ён адразу ж кінуў мех і паімчаўся напярэсцікі коням.* Лупс., П, 52.

**НАРАВО'К** *м. Неадабр.* Наравісты, натурысты, капрызны чалавек. *Ці мой хлебушак пушок, Ці мой мілы наравок?* РП, 438; Граб'е Акц. *Ох, чаго вы сядзіце Нечастовенькія? Калі мілы наравок, То я выведаю.* РП, 438; Граб'е Акц. Параўн. н а р а ў л і в ы.

**НАРАКЦІ'** *зак.* Назваць (даць імя). *То жа не простый чаловек будя, наракуть яму ймя Исус Христос.* Рам., БС, IV, 4; Вылеў Гом.

**НАРА'ННЕЙ** *прысл.* Раным-рана. *А шчэ наранней Сымонка ўстаў, Сымонка ўстаў, па сеньках хадзіў.* ЗП, 328; Ляскавічы Петр.

**НАРА'ННЯ** *прысл.* Заўтра раніцай. *З вечара сухно положь, а нараньня й готово.* Рам., БС, IV, 18; Гом.

**НАРАЎЛІ'ВЫ** *прым. Неадабр.* Тое, што н а р а в о к. *Другая беда — твой муж норовливый.* Рам., БС, I—II, 25; Перарост Гом.

**НАРО'ДЗІНЫ** *толькі мн.* Роды. *Маці, якая пасля народзін стала паўнець, запэўнівала недаверлівага Васіля, што яно кажа: «тата».* Мел., БН, 15.

**НАРУГА'ЦЦА** *незак.* Кпіць, падсмейвацца. *Стоить ў воротах красная девка Ему наругаетца: «Было не ходити белому молойцу Па чужих сторонушках».* ДЭМБ., ООМГ, I, 586; Гом.

**НАСАВІЧО'К** *м. памянш.* насоўка. *Памаліўшыся, яна выняла з кішэні насавічок, развязала яго, дастала адтуль нам з Насцечкай па драбку цукру.* Саб., II, 16.

**НАСАДЗІ'ЦЬ** *зак.* Размясціць, пакласці, паставіць. *Пашлі аны ў гумно — той сабе насадзіў пяць коп, той сабе насадзіў, да той сабе — і малоцяць аны, і малоцяць.* БКЭ, № 18; Камаровічы Маз. **:насадзіць на багацце** — надзяліць багаццем. *Ты ж быў багат, я цебе насадзіла на багацтва.* БКЭ, № 24; Камаровічы Маз.

**НАСТАБУ'РЧЫЦЬ** *зак.* Натапырыць (падняцца тарчма). *Кот настабурчыў поўсць — недзе бадзяўся, бяздомнік, усю ноч і цяпер цёрся паўз Любіны ногі — чакаў, каб упусцілі пагрэцца.* Дан., ЗА, 85.

**НАСТАБУ'РЧАНЫ** *дзеепрым.* Узлахмачаны, ускудлачаны. *Доўга ўглядалася яна ў праніклівыя вочы — відно было і на фота,— у застыглую добразычлівую ўсмешку, як не гладзіла трошкі настабурчаныя, з кучарамі, зачасаныя ўгару валасы.* Саб., БАС, 28.

**НАСТЫ'РНА** *прысл.* Настойліва, упарта. *Мельнік лез настырна — гэта ўсім кінулася ў вочы.* Гам., ША, 63.

**НАСТЫРНЯ'ЦЦА** *незак.* Настырацца (сварыцца, уступаць у спрэчкі). *Яна* [Галя] *хацела запратэставаць супраць такога погляду на жыццё, але ў яе не знайшлося ні сілы, ні ахвоты настырняцца з гэтай нахабнай жанчынай.* Саб., ЗПД, 77.

**НАСУПРО'ТКІ** *прысл.* Насустрач. *Едуць, сычас бачуть, едя насупротки чорт.* Рам., БС, I, 356; Шарахоўскія Буды Раг. Параўн. н а с у с т р э к.

**НАСУСТРЭ'К** *прысл.* Тое, што н а с у п р о т к і. *Едзе мужык, а насустрэк идуць маскали.* Серж., СРБП, 60; Лучыцы Маз. *А тым часам насустрэк идуць або едуць людзи.* Серж., СРБП, 144; Лучыцы Маз. *Чуць плищыць мужык рыбу, а насустрэк бежыць Хаим.* Серж., СРБП, 71; Лучыцы Маз.

**НАСЦА'К** *м.* Насок абутку. *Нібы ведае шэльма: лепей быць далей ад гэтага панурага, злоснага чалавека — нізавошта можа агрэць насцаком.* Сач., Д, 20. *Падбег потым сабачка, дык ён яго так*

*варсануў насцаком, што яно, беднае, аж звілося.* Наўр., ГС, 18.

**НАЎПРАСТКІ′** (наупростки) *прысл.* Наўпрост, нацянькі, напрасткі. *Треба итти наупростки.* Радч., ГНП, 11; Гом.

**НАЎРО′ЧЫЦЬ** (наврочить) *зак.* Сурочыць. Эр., ОБП, 220; Брагін.

**НАЎСКО′ЛЕНКІ** *прысл.* На калені. *Марына гатавала вячэру, паліла ў печы, такой нізкай, што для таго, каб паставіць ці выняць віламі чыгунок, станавілася наўсколенкі.* Шам., ВТБ, 203.

**НА′ЎХРАСТ** *прысл.* Накрыж (біць, наносячы ўдары крыж-накрыж). *Ага, а кали б ён тут быв, да ето чув, да затясав кол пяреворотень, з другого конца, да с пярелетка с чорнаго барана с-под правыя пахи вовны настриг, да забив наўхраст.* Рам., БС, III, 324; Гом.

**НАЎЧЫ′ЦЕЛЬ** *м.* Настаўнік. *Заходзьце, заходзьце, пан наўчыцель.* Кап., Ж, 94.

**НАХА′БА** *м.* Нахабнік. *Бацька, абураны тым, што пабачыў, і не першы раз тым, як трымаецца з ім гэты нахаба, не зразу знайшоў, што адказаць.* Мел., VI, 74.

**НА′ХЛАШЧ** *прысл.* Насцеж. *«Направа»,— камандуе паліцай, і Юля зварочвае ў нахлашч расчыненыя вароты, дзівячыся, якая яна стала чужая сабе і слухмяная.* Сач., Д, 203. *І я доўга зыраўся на пастраляны, зрашочаны кулямі капот, пагнутую, пакарабачаную кабіну, у якой былі паадчыняны нахлашч дзверы і выбіта да груздачкі шкло.* Сач., АП, 357. *«Ідзі сюды, сюды»,— і ён таўкае, піхае мяне, што ёсць сілы, у нейкія адчыненыя нахлашч дзверы, у цемру.* Сач., ЧН, 173.

**НАХО′ДЗІЦЦА** *незак.* Ёсць жаніхі. *Пожила меньшая дочка годы три,— находзятца людзи к етой.* Рам., БС, III, 155; Навасёлкі Раг.

**НАХРА′ПІСТАСЦЬ** *ж.* Нахабнасць, бесцырымоннасць. *Калі не крывіць душой, дык мне сам Сяргей дужа не спадабаўся сваёй нейкай самаўпэўненай нахрапістасцю.* Саб., II, 137.

**НАЦЯМКУ′** *прысл.* Прыцемкам, досвіткам, на світанні. *Дзеля гэтага ён і загадаў яшчэ нацямку падняць... Коўціка.* Сач., Д, 163.

**НАЦЯ′ТА** *прысл.* Напружана (крайняя ступень адчування). *Гэта было даўкае, бязлітаснае адчуванне, якое нацята лавіла кожны новы свіст, адзначала кожны выбух.* Мел., II, 10.

**НА′ЧА** (начэ) *часц.* Быццам, як. *Калі ты будзеш гэтак мяшацца ў мае справы, то я цябе спяку начэ картоплю!* ЧК, II, 290; Рэч.

**НАЧАВА′ННЕ** (ночеваньне) *н.* Правядзенне дзе-н. ночы. *Протерала красная девочка долю череаз свою волю, череаз тое череаз погуляньне, череаз жаниханьне, череаз ночеваньне.* Рам., БС, I—II, 149; Перарост Гом.

**НАЧАРНА′** *прысл.* Па-чорнаму (без каміноў). *Дзе-нідзе з расчыненых дзвярэй цягнуўся дым — палілі начарна, без каміноў.* Лупс., П, 41.

**НАШНІ′ЦА** (ношница) *ж.* Бяссонніца. *Нехай твой молоденяц возьмя у мое дявицы крыксы и плаксы и ношницы.* Рам., БС, V, 32; Карма Гом.

**НЕАХА′ЙНІК** *м.* Чалавек неахайны. *То маю вас папярэдзіць — калі адважыцеся выбраць мяне за старшыню, неахайнікам, гультаям, абібокам у «Авангардзе» жыцця не будзе.* Краўч., НХП, 356.

**НЕБАГА′ТКА** *прысл.* *памянш.* крышку, трошкі. *Я ў слезах дружка просила: хоть немножко погостюй, Хоть немножко, небогатко.* Рам., БС, I—II, 155; Балотня Раг.

**НЕБЕСПРАМЕ′ННА** (небезпраменно) *прысл.* Абавязкова. *Посли того небезпраменно хто-небудзь утопитца.* Рам. БС, IV, 7; Гом.

**НЕБЯСІ′ШЧА** (небясища) *н.* *павел.* неба. *Як наклали огнища —*

*под самое небясища, да ще трошачки й вышай.* Рам., БС, III, 429; Беліца.

**НЕВІДУ'ШЧЫ** *прым. у знач. наз. Перан.* Адсталы, непісьменны. *Хай то мы з табою невідушчыя асталіся, а ім трэба далёка бачыць.* Саб., БАС, 23.

**НЕВЫЛІВА'ЙКА** *ж.* Чарніліца (спецыяльнай формы для зручнага карыстання дзецьмі). *Ваkуленка ў добрым настроі, расхрыстаўшы гімнасцёрку, сядзіць за сталом, штосьці піша, махаючы ручкай у школьную невылівайку.* Нав., СТ, 119.

**НЕГАДЗІ'ВЫ** *прым.* Нягодны. *Ах, ты, змею негадзівы, такі да сякі, то ж ты маіх братоў павешаў.* ЧК, II, 232; Петр.

**НЕДАБІ'РАК** *м.* Рэшткі, астаткі. *Яўтушык паспеў на суседавым кані прывезці з альшэўніку вазок дроў, перакінуць з блізкага балота ў двор недабірак стажка рудой асакі.* Нав., СТ, 66.

**НЕДАВЕ'РАК** *м.* Чалавек маловерны. *Але поп напужаў іх, што не дась прычасця да пажалитца станавому, каб ены як недаверки, пагнили ў вастрозе.* Серж., СРБП, 121; Лучыцы Маз.

**НЕДАВЯ'РАК** *м. Зневаж.* Чалавек недаверлівы; які не верыць у што-н. *Ён сказаў такім тонам, быццам быў тут нехта такі, што не верыў, і ён выгаварваў гэтаму недаврку.* Мел., II, 132. *Пайдзі пакуль за намі, а мы аднясём гэтага недаврка і прыйдзем па цябе.* Саб., ЗПД, 115. *Хай ты гары, накасайся на маю галаву гад печаны. Бач, што ён хацеў з мяне зрабіць, недаврак.* Саб., ЗПД, 46.

**НЕДАПРА'ДКІ** (недопрадки) *мн.* Астаткі пражы. *И послала усих девок збирать угарки, што с обоих концов паляны, и недопрадки, што з двух концов прадяны, и кинуты.* Рам., БС, IV, 117; Доўск Раг.

**НЕДАРЭ'КА** *аг.* **1.** Чалавек някемлівы, няўмелы. *Вахлак! Недарэка! Паглядзі, як патрэскалася і ўзялася пузырамі.* Шам., V, 18. *Неаднойчы ўжо яна выстаўляла яго перад людзьмі недарэкам.* Шам., VI, 73. **2.** Няўклюда. *Фу, якая недарэка! Дзе былі яго вочы? Як ён мог звязацца з такой?* Шам., IV, 380.

**НЕ'ЕДЗЬ** *ж.* Недаяданне, голад. *Ад нeeдзі не гаварыў, а ледзь-ледзь шаптаў.* Рак., БВ, 61.

**НЕЗАПО'МНЫ** *прым.* Незапамятны, спрадвечны. *Стары дупляnaты ясакар як бы самой прыродай яшчэ з незапомных часоў упісаны ў каралінскі пейзаж.* Саб., I, 194.

**НЕЗАЎВА'ЖНА** *прысл.* Непрыкметна, неўзаметку. *Незаўважна ён падліў у ... шклянку каньяку.* Саб., I, 158.

**НЕЗВІНЯ'ЦЬ** *незак.* Выбачаць. Радч., ГНП, 10.

**НЕЗДАЛЯ'КА** *аг.* Чалавек слабасільны, хваравіты. *Упершыню тады Ласка адчула, якім балючым можа быць удар бізуна ў гэтага нездалякі Цераха.* Дан., НД, 90. *Адкуль і сіла ў нездалякі старога знайшлася, каб трохі, сагнуў бы Васіля.* Мел., V, 364. *«Ліха бо ведае гэтага нездаляку»,— падзівіўся сам сабе Ахвіцэрык.* Дан., ЗА, 65. *Гэй вы, нездалякі! Цэлыя дні тут топчацеся, а работы не відаць.* Мел., I, 321.

**НЕЗДАЛЯ'ШЧЫ** *прым.* Слабасільны, хваравіты. *Так я чалавек нездаляшчы ўжо, то вельмі прашу наша праўленне паставіць мяне на лёгкую работу, хоць бы да пчол.* Саб., ЖЗ, 36. *Калі яны — стары і малы — падымаюцца ўгору, дзе ўецца вулачка паўз старую забытую царкву,— адразу відаць, які нездаляшчы дзед. Спатыкаешся, як нездаляшчы конь у баразне.* Краўч., НХП, 59. *«Куды яго, такога нездаляшчага!» — наўмысна запярэчыла Алена.* Мел., I, 274.

**НЕЗМАГА'** ◆ **да незмага** — не пад сілу. *І хацеў узяць любую сабе штуку: там ці аленя, ці рысь, ці што, да незмага: не па-*

*нясе, не пацягне.* ЧК, I, 245; Мяркулавічы Раг.

**НЕЛЬГА′** *прысл.* Нельга. Радч., ГНП, 9; Гом.

**НЕМАГАТА′** *ж.* Пара гарачая, няўпраўка. *Добрых касцоў не ставала, а тут такая немагата — кожны чалавек патрэбны.* Мел., I, 321.

**НЕМУДРА′ШЧЫ** *прым.* Немудрагелісты, самы звычайны, просты. *Яны тады здорава адсталі ад падводы, на якой ляжаў немудрашчы скарб тых, каго праводзілі на вайну.* Дан., Ж, 125.

**НЕНАГЛЯ′ДАЧКА** *ж. ласк.* ненаглядная. *То не ветачка, Вінаградачка, Яго Анечка Ненаглядачка.* ЗП, 322; Шкураты Браг.

**НЕНАЖЭ′РА** *аг.* Пражэрлівы, заўсёды галодны. *Да таго нахабніца абнаглела, што хапала ўсё з-пад саменькага носа ў курэй — цягнула ўласным ненажэрам.* Дан., Ж, 65.

**НЕПАТРЭ′БШЧЫНА** *ж.* Рэч непатрэбная, хлам. *Маці жахнулася б, каб даведалася, што яна столькі плаціць за такую непатрэбшчыну.* Шам., IV, 279.

**НЕПУТНЫ′** *прым.* Шалапутны, лайдак. *Ожанився, утопився, узяв жонку непутную.* Рам., БС, I—II, 16; Перарост Гом.

**НЕРАЗУМЕ′КА** *аг.* Чалавек няспрытны, някемлівы. *«Чорт яго пабяры, і шанцуе ж мне,— думаў ён.— Той раз неразумеку далі».* Лупс., МД, 65.

**НЕСПАДЗЯВА′НКА** *ж.* Неспадзяванасць, нечаканае здарэнне, выпадак. *Няхай будзе дома неспадзяванка.* Нав., ТСЗ, 157. *«Скажы ты, усё ж не прапаў, выжыў»,— доўга яшчэ не мог прыйсці ў сябе, супакоіцца бацька пасля неспадзяванкі на базары.* Сач., ЧН, 209. *Кірылу здзівіла такая неспадзяванка.* Шам., IV, 132. *Вялікай неспадзяванкі ў гэтым не было.* Шам., V, 249.

**НЕСПЯШЛІ′ВАСЦЬ** *ж.* Павольнасць. *Па іхняй самавітай неспяшлівасці, па тым, з якой гаспадарскай увагай падсоўвалі тыя коням кайстры з аўсом, можна было здагадацца: салдаты не так даўно апранулі шынялі.* Дан., Ж, 4.

**НЕЎДАЛЮ′ГА** *аг.* Няўдаліца. *За што ето мне Бог дав,— неўдалюгу жонку ўзяв.* Рам., БС, I—II; Гом. *Але лёс яе быў цяжкі: муж — неўдалюга, сухарукі з маленства, алкаголікам зрабіўся і, п'яны, трапіў пад машыну...* Шам., ВТБ, 114.

**НЕЎДАЦЯ′М** *прысл.* Няўцям. *Адкуль набраўся такога спрыту — неўдацям нам.* Лупс., НБД, 159.

**НЕЎПРЫКМЕ′Т** *прысл.* Непрыкметна (няўлоўна). *Яна падышла да незнаёмага, зазірнула ў твар, і Ігналю здалося, што яна неўпрыкмет схамянулася і пабляднела.* Лупс., ВТ, 95. *Спагадаю, замілаванасцю свяціліся яго вочы, калі яна пачырванела, неўпрыкмет ад другіх сцірала з рукі сажу і ўдзячна пазірала на яго.* Лупс., ВТ, 7. *Я адчуў, як неўпрыкмет затрапяталі пальцы яе рук, а ў зеленаватых жывых вачах успыхнулі прыязныя агеньчыкі.* Лупс., П, 99.

**НЕЦІКА′ВЫ** *прым.* Непрыгожы. *Дзяўчына яна была нецікавая — худзенькая, мізэрненькая, да таго ж рудая...* Шам., ВТБ, 67.

**НІ′ГАДКІ** (негадки) *прысл.* Нядрэнна, даволі добра. *Теперь я сабе и негадки — мне хорошо.* Радч., ГНП, 11. *Нагледелись красны девки — на ўвесь год нигадки.* Рам., БС, I—II, 202; Раг.

**НІЯКАВА′ТА** *прысл.* Няёмка, не зусім па сабе, сарамліва. *Вопытны журналіст, ён, можа, упершыню адчуў сябе ніякавата, знаёмячыся з чалавекам.* Шам., IV, 241. *Але сярод розных адценняў гэтага рогату Іван Васільевіч злавіў збянтэжанасць: усё-такі ніякавата хлопцу кожны раз прыходзіць на цесцеву чарку.* Шам., V, 36.

**НЯБО′ГА** *аг.* Той, хто выклікае спагаду, жаль. *На спіне ў аднаго на белай ад снегу гімнасцёрцы —*

*нічога больш цёплага на нябогу не было — пунсавела свежая кроў.* Шам., V, 419.

**НЯВЕ′ХНА** *ж.* Нявестка. *Ты не жур, свекорка, невехны молодой, Сжурить её дитятко малое, да муж ревнивый.* Радч., ГНП, 3; Гом. *Одчыняй, свекратко, ворота, Едзе к тобе невехна из далека!* Шэйн, III, 420; Дзякавічы Маз.

**НЯВЫ′НАСАК** *м.* Неданосак. *Цыганяты па-ранейшаму цiснуцца да агню, са страхам паглядаючы на прыхадняў, цыганкі, падумаўшы, зноў пачынаюць карміць грудзьмі нявынаскаў.* Лупс., II, 90.

**НЯГЕ′ГА** *аг.* Чалавек няўклюдны, непрыгожы, нязграбны. *Варка моўчкі глядзела на пабіты аспінамі Полін твар і ў думках шкадавала, што пацягнулася гэтая нягега з імі ў далёкую дарогу.* Дан., Ж, 4.

**НЯМА′ШАКА** *безас. у знач. вык.* Няма. *«Ну што ж,— гавора,— караблі ў нас ёсцека, а народу нямашака».* ЧК, II, 33; Шарахоўскія Буды Раг.

**НЯСПЕ′ШЛІВА** *прысл.* Павольна, спакойна. *Фогт мала піў, але на дзіва многа еў, бесперапынна жаваў, няспешліва, але старанна.* Шам., IV, 552.

**НЯЎДА′ШАЧКА** *ж. ласк.* няўдачніца. *Пушчэй мае няўдашачкі ва ўсім свеце нет.* Б, II, 439; Алешын Раг.

**НЯЎЗНО′СНЫ** **:няўзносная пагода.** Нязноснае надвор'е. *Ишов солдат ис походу во невзносную погоду — чуть ён не умер.* Рам., БС, I—II, 186; Гом.

**НЯЎКЛЮ′ДА** *аг.* Той, хто мае нязграбную паставу, пазбаўлены зграбнасці, спрыту. *Няўклюда Параска так і не здагадалася выцерці кожнае мокрай анучкай.* Дан., Ж, 165.

**НЯЎМЕ′КА** *аг.* Чалавек няўмелы, нядатны да работы. *Госць нахмурыўся, зразумеўшы, што гэты нізкі і рухавы чалавек, востры на слова, здзекліва забаўляўся з ім, як з няўмекам.* Шам., V, 24. *Не трэба было перадаваць нейкаму маладому няўмеку машыну, каб сесці за камбайн.* Шам., ВТБ, 8.

**НЯЎЦЯ′МНА** *прысл.* Не разумеючы, збянтэжана. *Калаштан няўцямна глядзеў на задымленыя плашкі над сабой, мыляў губамі: здавалася, нешта сам сабе вылічваў.* Дан., Ж, 8.

# П

**ПААСІПА′ЦЬ** (поосипать) *зак.* Пасіпнуць. *Да вжеж я крывса: Куны мои позмокали, А соболи позвисали, А свашечки поосипали.* Шэйн, III, 434; Дзякавічы Маз.

**ПАБІ′ТЫ** (побитый) *дзеепрым.* Благі, дрэнны, у калдобінах (пра дарогу). *Пойдзем у дорогу побитую По Гапочку запитую.* Шэйн, III, 401; Дзякавічы Маз.

**ПАБЛІКАВА′ЦЬ** (побликовать) *незак.* Паведамляць, абвяшчаць, абнародаваць. *А штоб ён ня так сярчав, вяли побликовать, што ето город Ивана, цара Копицкаго.* Рам., БС, III, 224; Гом.

**ПАБО′ЛІ** (поболи) *прысл.* Больш. *Яна ще боли стала яго полюбляць, и стала почащай к яму заходжувать, стала поболи ў яго распрашувать.* Рам., БС, III, 152; Гарадзец Раг.

**ПАБО′Р** (побор) *м.* Набор у царскую армію, у рэкруты. *Схоронися, беленькій молойчик — заўтра побор будя.* Рам., БС, I—II, 88; Балотня Раг.

**ПАБРО′ХАЦЬ** *зак.* Пабоўтацца. *Хай пабарахтаецца ў сваім балоце, хай паброхае ў гэтай ціне.* Мак., К, 58.

**ПАБУЖА′ЦЬ** *незак.* Будзіць. *Просекай воконце да против сонца,*

*Чтоб было куда соловью летать, Мене молодую побужать.* Радч., ГНП, 5; Гом.

**ПАБУРГА'ЦЬ** *зак.* Ускласці на некаторы час і зрабіць пышным, расправіць кветкі (пра вянок). *Хай мая Верачка тут пагуляе, на галоўцы вяночак тут пабургае.* ВП, 262; Маханавічы Рэч.

**ПАВАЛО'ЧАНЫ** (поволочены) *дзеепрым.* Якi валачэцца па зямлі (пра косы). *У моем зелененьком саду Там трава потолоченая Русы косы поволоченыя.* Дэмб. ООМГ, I, 586.

**ПАВАЛЫ'НІЦЬ** *зак.* Запаволіць, зацягнуць справу на нейкі час. *Можна будзе яшчэ трохі павалыніць, потым, калі вельмі прыстануць, запішыся на станцыю вагоны грузіць.* Сач., А, 18.

**ПАВАЛЮ'ХАЦЦА** *зак.* Пайсці, пераральваючыся з боку на бок. *І паволі павалюхаўся з хаты.* Сач., АП, 46.

**ПАВІЛЯ'СТЫ** *прым.* Пакручасты, звілісты. *Прыходзілася ісці туды, куды кіравала павілястая сцежка.* Мел., II, 151.

**ПАВО'ЗНІЧАК** (повозничак) *м. памянш.* возчык, рамізнік. *Послала ж вона да чатыре кони, Чатыре кони, а пятый воз, А 6-го повозничка, щоб привьез.* Шэйн, III, 440; Дзякавічы Маз. *Кучаравуй да повозничку! Би ж коня да погоняй Из бацькова двора!* Шэйн, III, 520; Дзякавічы Маз.

**ПАВО'ЙЧЫК** *м. памянш.* палатно, навітае на навой. *Тебе, мати, павойчики, а мне, мати, сувойчики...* Радч., ГНП, 85; Гом.

**ПАВЫПУДЖА'ЦЬ** (повыпуджать) *зак.* Павыганяць, нечакана напужаўшы. *И кур из конопли повыпуджаю, А бел кужель, я в прало посаджу.* Радч., ГНП, 229; Гом.

**ПАВЯДЗЁНКА** (повядёнка) *ж.* Традыцыя, звычай, завядзёнка. *Повянчавши, як у мужуков повядёнка, привязли яе у свой дом, щоб яна була за ходяйку.* Рам., БС, IV; Васільеўка Гом. *Да голасу навасёлкаўцаў сапраўды людзі прыслухоўваюцца. Гэта ўжо здаўна. Павядзёнка такая.* Пал., КЗС, 12.

**ПАГАВО'Р** (поговор) *м.* Абгавор. *«Ой, девка, девица, пусти мине на ночь».— «Не пушчу, козаче, боюсь поговору».* Радч., ГНП, Гом. *Бо я, маладзенька, баюсь пагавору.* РП, 577; Тонеж Лельч.

**ПАГА'ДАНЫ** (погаданы) *дзеепрым.* Што наваражылі (пра хваробу). *Цур табе молоденяц от трыдевъять дятинцев от мужицких и от жаноцких... от погаданых.* Рам., БС, V, 10; Дзякавічы Гом.

**ПАГБА'НЫ** *дзеепрым.* Пагнуты. *Каля кустоў ляжыць рудая каска. Прабітая. Пагбаная.* Дуб., I, 357.

**ПАГЛЯ'ДНЕЙ** *прысл. Пар. ст.* Прыгажэй, прыемней на выгляд. *Колькі дачка яму* [Халімону] *ні чаўпла, каб ён усё-такі паглядней апранаўся, хоць тады, калі на рабоце.* Саб., ЗПД, 25.

**ПАГЛЯДНЕ'ЙШЫ** *прым. пар. ст.* п а г л я д н ы. *З выгляду ён хлопец прыгожы, можа пагляднейшы за Станіслава.* Саб., БАС, 107.

**ПАГЛЯ'ДНЫ** *прым.* Прыгожы, прыемны з выгляду. *Не зважаючы на ладныя гады, Галя была пагляднaя: твар яе быў загарэлы і прыгожы, постаць стройная...* Саб., БАС, 13. *А вуліца сапраўды была пагляднaя: шырокая, у зялёнай мураве, паабапал новыя хаты адна ў адну, пад гонтаю і чарапіцаю.* Саб., I, 49. *Ганна ж не магла вішнёвых воч сваіх адарваць ад люстра, ашчасліўленая, замілаваная: ці яна гэта, такая незнаёмая, такая пагляднaя.* Мел., V, 299.

**ПАГО'НЬ** *м.* Пагоня. *Кінуў вяселле і пагнаўся ў пагонь.* ЧК, I, 256; Мяркулавічы Раг.

**ПАГУЛЯ'ННЕ** (погулянньне) *н.* Гулянне (праўдзенне часу з каханым). *Протерала красная девочка долю череаз свою волю, Череаз тое череаз погулянньне.* Рам., БС, I—II; Перарост Гом.

**ПАГУЛЯ'ХА** *аг.* Гуляка (якая лю-

біць не працаваць, а мае ахвоту да гуляння — забаў, вясёлага правядзення часу). *Одна ня ткаха, ня праха, а другаа погуляха.* Рам., БС, V, 74; Чабатовічы Гом.

**ПАГУЛЯ'ЦЬ** (погуляць) *зак.* Заняцца чым-н., чакаючы, калі паклічуць. *Погуляйце тутока трошки.* Радч., ГНП, 90; Гом.

**ПАДАКЛЯРАВА'ЦЬ** *зак.* Паабяцаць. *І калі воран падаклярavaў, ён яго і пусціў.* ЧК, I, 232; Петр.

**ПА'ДАЛКА** *ж.* Апад. *Дарогі ўсюды былі абсаджаны яблынямі, грушамі і чаго-чаго, а падалак хапала...* Сач., ЧН, 209. Параўн. п а д а ў к а.

**ПА'ДАЎКА** *ж.* Тое, што п а д а л к а. *Каля калодзежа аб сухую зямлю быццам груқнула падаўка.* Рак., В, 17.

**ПАДБІВА'НЫ** (подбиваны) *дзеепрым.* Пабіты (вока), з настаўленымі сінякамі. *А ў девочки вочи карыя, вочи карыя подбиваныя, Подбив парань молодый девцы глазушки.* Рам., БС, I—II, 128; Жгунь Гом.

**ПАДВАКО'ННЕ** *н.* Падвоканне. *Я хадзіў па падваконню і з парожнім вярнуўся.* Саб., I, 148. Параўн. п а д о к а н н е.

**ПАДВАЛО'ЧАК** (подволочек) *м.* Прылада рыбалоўная. Дэмб., ООМГ, II, 574; Гом.

**ПАДВАРО'ЦІЙКІ** (подворотийки) *мн.* Падваротніца. *Ик у мойго батюшки золоты вороты, Золоты вороты, серебряни подворотійки.* Шэйн, III, 183; Гом.

**ПАДВО'Р'Е** (подворье) *н.* Двор каля хаты, дома. *То хоця на подворы пазвольце мне коня поставіць.* БКЭ, № 33; Юравічы Рэч.

**ПАДВО'Р'ЕЙКА** (подворьейка) *н.* *Памянш да* п а д в о р ' е. *Ой я тыя две речечки пешки перейду, Мамкинаго раздольейка не найду, Свойго тетки подворьейка не найду.* Радч., ГНП, 71; Гом.

**ПАДГІ'НДЗІЦЦА** *зак.* Схуднець, змарнець. *А цераз недзель пяць ены падгиндзилиса як харты!* Серж., СРБП, 64; Лучыцы Маз.

**ПАДДРЫ'ПАЦЦА** (поддрипатца) *зак.* Пайсці (плаўна ступаючы) часта і дробна. *Ой то мне кума, что поддрипалася, И подтыкалася, и подпорезалася, И мне сподобалася.* Радч., ГНП, 242; Гом.

**ПАДЗІ'Ў** (подив) *м.* Насланнё ад нечаканага здзіўлення. *Золотый золотар, с чаго ты поднявся,— пучив, мучив: ти с подиву, ти с уроку, ти с улёку?* Рам., БС, V, 56; Целяшы Гом.

**ПАДЗІ'ЎНЫ** (подивны) *дзеепрым.* Насланы. *Поможитя мне выговорить уси скулы и уси болячки... тридевъть подивных.* Рам., БС, V, 79; Баршчоўка Гом.

**ПАДКАСА'ЦЦА** (поткасатца) *зак. Перан.* Прычапіцца. *А нячистая сила поткасалася и говора: «Ня надо мне твайго половина царстьвія, а тольки отдай мне тое, што ў доми ня ведаеш!»* Рам., БС, III; Балотня Раг.

**ПАДКАТА'ЦЦА** *зак.* Праехацца. *Падкатацца хлопец захацеў.* Саб., Бас, 188.

**ПАДКРЫВУ'ЛІЦЬ** *зак. Іран.* Падысці. *Як садзілася ў вагон... падкрывуліў Пэпік да мяне.* Сач., А, 40.

**ПАДКУ'СЛІВА** *прысл.* З'едліва. *«Што, нагулялася?» — падкусліва, злесліва сказала яна да дачкі, калі тая распранулася і схавалася пад посцілку.* Сач., АП, 402.

**ПАДЛО'ЖНІЦА** (подложница) *ж.* Наложніца, палюбоўніца. *Ой батюшка, ой батюшка! то не наша матушка, то твоя подложница, а наша разлучніца!* Рам., БС, I—II, 20; Гом.

**ПАДЛУ'ЧЧА** (подлучье). *Зборн.* Нягоднікі, падлюгі. *Чэму не побіў етаго подлучья.* БКЭ, № 29; Камаровічы Маз.

**ПАДМАЎЛЯ'ЦЬ** (подмовлять) *незак.* Падгаворваць. *Яны к сабе красную девку гулять подмовляли.* Рам., БС, I—II; Перарост Гом.

**ПАДМЕ'ЦЦА** *зак.* Мецца выка-

наць абяцанае. *Ды і Варка, чула, падмелася аднаму з горада* [бульбу прадаць]. Карш., ПБ, 27.

**ПАДМО'СЦЕ** *н.* Падполле. *Хвошч забраўся ў падмосце.* Лупс., ВТ, 259.

**ПАДНА'ЧВАЦЬ** *незак.* Паддражніваць, падахвочваць. *Мужчыны, хлопцы, усе ў хаце глядзелі на зайчыка, смяяліся, падначвалі яго і Сароку.* Мел., V, 147.

**ПАДНЕ'БНЫ** *прым.* Паднябесны. *Звонкія, срэбныя ніці птушыных спеваў апальваюць паднебны прастор.* Нав., СТ, 149.

**ПАДНІМА'ЦЦА** (подниматца) *незак.* Браць на сябе абавязкі. *Ён и объявился: я не могу сад садзить! Донесли ето цару, што такій и такій парань поднимаетца за садовника.* Рам., БС, III, 184; Гарадзец Раг.

**ПАДНЯДЗЕ'ЛЕНЫ** *дзеепрым.* Прыбраны, святочны. *І кожны дзень на змярканку, паднядзелены, спяшаўся ў клуб.* Сач., БРВ, 252.

**ПАДО'КАННЕ** (падоканье) *н.* Тое, што п а д в а к о н н е. *Але только ось пришла ноч, глядзяць, аж ён устаў з дамавіны да и ходзиць па падоканью.* Серж., СРБП, 54; Лучыцы Маз.

**ПАДО'ЛЬШ** (подольш) *прысл.* Далей. *Год, то наверно будзем, каа, нуждатца, а што подольш — Господзь ведая. Яще ун будзем и сами живы.* Рам., БС, I, 157; Навасёлкі Раг.

**ПАДО'САК** *м.* Падасінавік. *Цяпер чакай казлякоў, падоскаў, ваўнянак.* Дан., Ж, 146.

**ПАДПЕ'РЦІ** *зак.* Падставіць. *Пры першым жа зручным выпадку падапрэ пад кулі. А то і смаляне ў спіну.* Нав., СД, 346.

**ПАДПЯРА'ЗАНКА** *ж.* Падпяразка, тое, чым падпяразваюцца. *Я выпрасіў у мачыхі яшчэ і акрайку, вытканую на ўзор слуцкага пояса, прырабіў да яе кутасікі, і выйшла добрая падпяразанка.* Саб., ЗПД, 180.

**ПАДРУ'ЖЖА** (подружже) *н.* Сяброўства. *Бог табе дав горкую долю, худое замужжэ, не любое подружже.* Дэмб., ООМГ, I, 536: Гом.

**ПАДРУ'ЖЖАЙКА** (подружьейко) *н.* *Памянш.* да п а д р у ж ж а. *Спутало ножки заружьейко, А выбило вочки замужьейко, Что не верное подружьейко.* Радч., ГНП, 205; Гом.

**ПАДСЕ'ЛЬЦА** (подсельце) *н.* Невялікае паселішча паблізу сяла. *Мы с того с подсельца, где монахов растригають, на холеру высылають.* Рам., БС, I—II, 186; Гом.

**ПАДСМАКАВА'ЦЬ** (подсмакувать) *зак.* Смакаваць. *На тым мосту ляжав вол пячоный и ли яго часнок товчоный и ножточоный: и еж и рэж, и подсмакувай.* Рам., БС, III, 432; Перарост, Гом.

**ПАДСМІ'ХВАЦЦА** *незак.* Падсмейвацца, кпіць. *Няхай бацька і падсміхваецца з яе, няхай што хоча гаворыць.* Крауч., НХП, 402.

**ПАДСО'БНІК** *м.* Рабочы падсобны. *Юрка моўчкі падаў знак памочніку і падсобнікам заняць месцы на агрэгаце.* Крауч., НХП, 369.

**ПАДСТЫ'РЧЫЦЬ** *зак.* *Перан.* Падштурхнуць. *Не, не спадабаліся Кастусю Тужыкі. Ліха ж яго падстырчыла тады даць згоду ў абласным аддзеле народнай асветы сюды ехаць.* Дан., НД, 43.

**ПАДСУДО'БІЦЬ** *зак.* *Перан.* Падстроіць, учыніць (звычайна непрыемнае). *Трэба думаць, якую выкрутку шукаць, што ж ён такое падсудобіць, каб ведала, як свінню падкладаць.* Губ., КНП, 355.

**ПАДТА'КВАЦЬ** *незак.* Выказваць згоду з чыёй-н. думкай, разважаннем, звычайна паўтараючы слова «так». *«Дзе ты іх бачыў?» — хацела спытаць, але падумала, што лепш не выказваць сумненняў, што маці некалі вучыла: дурню лепш падтакваць.* Шам., V, 512.

**ПАДТА'НЕЧНЫ** (подтанечной)

*прым.* Танцавальна-песельны. Радч., ГНП, 235; Гом.

**ПАДТЫ′КАНЫ** **:падтыканая баба** — у якой падаткнута, падабрана спадніца. *Ажно бежыць за мужыком з качаргою падтыканая баба й дубасіць его па патылицы й па чом папало.* Серж., СРБП, 68; Лучыцы Маз.

**ПАДХВА′ТНА** *прысл.* Зручна. *І так, каб ніхто нават з сям'і не бачыў, палавіну адсыпаў у Міхадаву жменю, а другую палавіну Міход сказаў высыпаць у правую кішэню пінжака, каб там, у каменданта, падхватна было дастаць іх і высыпаць на стол.* Саб., БАС, 183.

**ПАДХЛО′ПЕЦ** *м.* Юны хлопец. *Гарманіст, фарсісты падхлопец, сядзеў закапыліўшы губу, на покуце.* Кап., Ж, 93.

**ПАДЦЕ′ЧЫНА** *жь* Падцёк (прыпухласць пасля ўдару). *Крывая падцечына ўзбегла на вока.* Саб., II, 57.

**ПАДЦІКАВА′ЦЬ** *зак.* Падпільнаваць (дачакацца зручнага моманту). *Надвячоркам я знарок, падцікаваўшы, калі Яўхімка вярнуўся са школы, пайшоў да яго.* Саб., II, 28.

**ПАДЦІКО′ЎВАЦЬ** *незак.* Падсцерагаць. *Ёй здавалася, што за кожным дрэвам яе падцікоўвае небяспека: ці то воўк, ці які яшчэ лясны звер.* Саб., БАС, 163.

**ПАДЧАРО′ВАК** *м.* Падчарэўе. *Толькі гэта стары перавярнуў кабанчыка дагары нагамі, каб добра падсмаліць падчаровак, аж бачыць — Стась бяжыць.* Саб., БАС, 26.

**ПАДШО′ПНІК** *м.* Назва лугавой птушкі. *Паволі... над кветкамі кружылі стракозкі, матылі, пырхалі, час ад часу імкліва падаючы ў траву, маленькія і шустрыя лугавыя птушачкі — падшопнікі.* Сач., ЗМП, 54.

**ПАДШЫВА′ЛЕЦ** *м.* Хлапчук-падлетак. *Скажа, бывала, які падшывалец... пайдня будзе ганяцца, пакуль злосць сваю кулакамі на яго спіне ўтаймуе.* Сач., БРВ, 92. *Мой падшывалец Пеця яшчэ ўчора з самага ранку назбіраў букет.* Дан., МН, 87. *Цішыня панавала толькі да таго моманту, пакуль не прачыналіся дзеці. Але вось у двор выбягалі з футболам падшывальцы.* Дан., НД, 100. *Была акурат тая пара, калі пчолы бралі рукамі за парэпіны кары, залазілі ў самую гушчэчу і абабіралі цвет, каб у выпадку якой прастуды іх маці маглі заварыць яго ў гарнушку і лячыць ад кашлю грудзі.* Саб., I, 22. *Самі ведаеце, якая радасць ад такіх падшывальцаў.* Лупс., ВТ, 156. *І найбольшы з гэтых падшывальцаў толькі з кнігі чуў пра гарадавіка.* Дуд., С, 11. Параўн. п а д ш ы в а н е ц.

**ПАДШЫВА′НЕЦ** *м.* Тое, што п а д ш ы в а л е ц. *Тут, ведаеце, некаторыя з падшыванцаў рукі грэюць.* Шам., V, 656.

**ПАД'ЯЛДЫ′КНУЦЬ** *зак.* *Груб.* Сказаць у падтрымку што-н. падбухторшчыцкае супраць каго-н. *Хто вас прасіў? Хто вам пад'ялдыкнуў?* Мак., К, 46.

**ПАЖА′БІЦЦА** (пожабицса) *зак.* Зморшчыцца. *Ена вся пожабилась.* Радч., ГНП, 10; Гом.

**ПАЖАЛКАВА′ЦЬ** *зак.* Пашкадаваць аб чым-н. *Ірына закруціла тугім вузлом касу, не забыўшыся пажалкаваць, што за апошнія гады каса прыкметна патанела.* Дан., МН, 19.

**ПАЖЫ′ЛЫ** *толькі мн.* Сухажыллі (каленныя). *Ня вынеш ты етаго жала такога зельля табе дам — з живыя с тябе порву жилы и пажылы.* Рам., БС, V, 121; Раг.

**ПАЗАДА′ЧЫЦЦА** *зак.* Пашчаслівіцца, пашчасціць, удацца. *Няўжо не пазадачылася?* Губ., ДП, 270.

**ПАЗАМУ′ЗДАВАЦЬ** (позамуздовать) *зак.* Зацугляць, закілзаць. *Яны коній позамуздовали етых. и стали класць етый свой струмэн, седлы.* Рам., БС, III, 158; Чавасёлкі Раг.

**ПАЗАЎСЕ́ДНАМУ** *прысл.* Як заўсёды. *І толькі пазаўсёднаму ў цішы садоў глуха покалі ў грады пераспелыя антонаўкі ды рвалі на сабе сарочкі тугія, галавастыя качаны.* Сач., БРВ, 283.

**ПАЗАХЛЕ́ЎЮ** *прысл.* За хлявамі. *Разоў колькі, тулячыся пазахлеўю, хадзіў па грачанку і ён.* Сач., Д, 8.

**ПАЗДАРАЎЛЯ́ЦЦА** (поздороўляцца) *зак.* Павітацца. *Аны прышлі, поздороўлялісе, он іх началстоваў — дай поехалі ў тое царство, дзе ацец царствоваў.* БКЭ, № 38; Ужынец Рэч. Параўн. п а з д р а с т а в а ц ц а.

**ПАЗДРА́СТАВАЦЦА** (поздрастоватца) *зак.* Тое, што п а з д а р а ў л я ц ц а. *Ён увышов у горницу, поздрастовався и сев пировать.* Рам., БС, III, 182; Гарадзец Раг.

**ПАЗДРО́ЧЫЦЦА** *зак.* Здурэць, нарабіць глупстваў, занаравіцца. *А другі, думаеце, разумнейшы? Вучыўся ў тэхнікуме і ні з таго ні з сяго паздрочыўся — кінуў.* Кап., А, 18.

**ПАЗІРА́ЛКІ** *мн. Пагард.* Вочы. *Так і вывешваюць на продаж свае пазіралкі.* Лупс., НБЛ, 130.

**ПАЗМІРА́ЦЬ** *зак.* Павыміраць. *Колісь не было света, толькі была патопа, што ўсе позміралі.* БКЭ, № 4; Камаровічы Маз.

**ПАЗНЕ́СЕНЬКА** *прысл. памянш.* позна. *Ой, кладуць мяне пазнесенька, а будзяць ранесенька.* ВП, 377; Тонеж Лельч.

**ПАЗЫ́КА** (позыка) **:у пазыкі** — пазычаць. *На другій день приходя сусед бытцам у позыки.* Рам., БС, IV, 27; Перарост Гом.

**ПАЗЫРЧЭ́ЦЬ** *зак.* Стаць зыркім (асляпляльна-яркім). *Сонца адышло ад зямлі, пазырчэла, і настылая за ноч зямля дыхнула ў твар цёплым духам.* Кап., СЖЛ, 35.

**ПАЗЫ́Ў** (позыв) *м.* Патрабаванне к судовай справе, просьба, скарга. *Ув один суд пришли и показали, об чом позыв у их ё.* Рам., БС, IV, 105; Маркавічы Гом.

**ПАКАЛДЫБА́ЦЬ** *зак.* Пайсці кульгаючы. *Я сёння баяўся, каб лейцы не пахадзілі па мне, таму пільна цікаваў з-за плота, куды пакалдыбае на сваёй дзеравяшцы дзядзька Пракоп.* Саб., II, 6.

**ПАКАЛЯ́ДЗЕЦЬ** (поколядзець) *зак.* Пасвяткаваць калядны вечар. *Я в цябе, дзядзюхно, поколядзею светы вечар!* Шэйн, I, 83; Колькі Рэч.

**ПАКАЛЯ́КАЦЬ** *зак.* Пагаварыць як прыяцелі, пабалтаць. *Прышоў Каваль, пакалякаў з маладзицаю да й падкациўса к ёй.* Серж., СРБП; Лучыцы Маз.

**ПАКАНА́ЦЬ** (поконать) *зак.* Разараць, даводзіць да галечы. *Приходзя к дураку, дурак и гувора: «Благодару табе, оцец, што ты мяне не поконав!».* Рам., БС, III, 228; Нісімкавічы Раг.

**ПАКАЎТА́ЦЬ** *зак.* Паглытаць (праглынуць усё або многа). *Ну, мае дочкі, калі не перавядзеце, дык я даганю і цалкам іх пакаўтаю.* ЧК, I, 70; Рудня Чач.

**ПАКІ́НУЦЬ** **:пакінуць на бумлазара** — без нічога. *Як ніколі, хацелася вылаяць брыгадзіра, панурага і ваўкаватага Пракопа Смарчка, што той не разлічыў з кармамі і пакінуў на бумлазара ўвесь статак.* Сач., БРВ, 80.

**ПА́КЛЫ** *мн.* Дзясны. *Будя мать прачистая замыкать зубы, губы, иклы, паклы, язык слабкій.* Рам., БС, V, 45; Ухаў Раг.

**ПАКЛЯВА́НЫ** *дзеепрым. Перан.* Васпаваты. *Нядобрая ўсмешка ўсё не сыходзіла з плоскага, пакляванага Міканоравага твару.* Мел., VI, 427.

**ПАКРУЦІ́ЦЬ** (покрутить) *зак.* Наняць (на сплаў лесу). *На нашай, на вуліцы Не тынь воротили; Увсех наших хлопчиков На низ покрутили.* Радч., ГНП, 33; Гом.

**ПАКРЫВА́ННЕ** (покрываньe) *н.* Пакрывала на нябожчыку. *Чего мати да у клеть пошла? На днище, у кублище по шовковое чепчище, По белое завиванье, по*

*вечное покрыванье.* Радч., ГНП, 12; Гом.

**ПАКРЫ'ШНІ** *мн.* Крошкі (маленькія кусочкі, дробныя часцінкі). *Галя дастала з тумбачкі пакрышні булкі і сыпанула на акно.* Саб., ЗПД, 79.

**ПАКУДЛА'ЧЫЦЬ** *зак.* Узлахмаціць, зрабіць кудлатым. *Карней збянтэжана патаптаўся, пакудлачыў валасы перад люстрам, даў сабе пстрычку па носе...* Шам., ВТБ, 246.

**ПАКУ'ЛЯ** (покуля) *прысл.* Пакуль. Радч., ГНП; Гом.

**ПАЛ** *м.* Гарачнасць, парыў, запал. *Васіль гарэў перажытым палам бойкі, словы выходзілі важка.* Мел., V, 45.

**ПАЛАВЕ'Ц** *м.* Бледна-жоўты (бык). *Жыў сабе дзед да баба. І была ў іх унучка, сучка, сямёрка авец і бык палавец.* ЧК, I, 193; Перарост Гом.

**ПАЛАВІ'НКА** *ж. Анат.* Ягадзіца. *Маці моцна і гучна пляскала яго па голых паружавелых палавінках.* Мел., V, 12.

**ПАЛАЖО'ЧАК** *м. памянш.* полаг. *У мяне караватка цясовая, у мяне пярыны пуховыя, у мяне падушкі цвятовыя, у мяне палажочкі бярчастыя.* Б, II, 63; Перарост Гом.

**ПАЛАЖЭ'ННЕ** (положэніе) *н.* Умова. *Пастух бача, що дело будя плохо, ён согласився на яго положэнія.* Рам., БС, IV; Васільеўка Гом.

**ПАЛАНЦАВА'ЦЬ** (поланцоваць) *зак.* Закаваць у ланцугі. *Каб мужыка, то бы поланцовалі.* БКЭ, № 27; Камаровічы Маз.

**ПАЛА'ПАЦЬ** (полапать) *зак.* Лапаючы, пакінуць брудны след. *Апанас, Апанас, не ўваліся ў квас, не полапай нас.* Шэйн, I, 114; Мелішковічы Маз.

**ПАЛАТНЯ'НІКІ** *толькі мн.* Штаны палатняныя. *Як ляжаў ён на печы ў палатняніках, так і выскачыў.* Сач., АП, 13.

**ПАЛЕ'ННІЦА** *ж.* Складзеныя штабелі дроў. *Напілавай з Юрасём, цётчыным старэйшым, дроў, склаў пад паветкай дзве акуратныя паленніцы.* Нав., ВС, 266.

**ПАЛЕНТАВА'ЦЬ** *незак.* Лямантаваць. *А суседка палентуе на ўсе село да так вычварае, што аж сорам казаць.* Серж., СРБП, 128; Млынок Маз.

**ПАЛІ'КА** *ж.* Сарочка, вышытая толькі на рукавах. Радч., ГНП, 2; Гом.

**ПАЛІ'ЙКА** (полійка) *ж.* Жанчына, якая поле, ачышчае ад пустазелля. *Да полите, полійки, Чи не дасть пан горелки, Да и пива барило, Чтоб поле говорило.* Радч., ГНП, 63; Гом.

**ПАЛІТО'НЧЫК** *м., памянш.* паліто, палітон. *На Сюзане знаёмы рудаваты палітончык, белая вязаная шапачка.* Нав., СТ, 103.

**ПАЛКО'ЎНІЧЫХА** *ж.* Жонка палкоўніка. *Валодзя, ці не да палкоўнічыхі ты кліны падбіў?* Шам., IV, 462.

**ПАЛУДЗЯННЫ'** (полудянной) *прым.* Паўдзённы (які бывае ў поўдзень). *Будем с тобой свататца, брататца, отбяром у раба божага криксы и плаксы, и дянныя, палудянныя.* Рам., БС, V, 32; Сталбун Раг.

**ПАЛУНО'ШНЫ** (полуношный) *прым.* Паўночны (які бывае ў поўнач). *Будзем с тобой сватат-ца, брататца, отбяром у раба божаго криксы и плаксы, и дянныя, палудянныя, и ношныя, и полуношныя.* Рам., БС, V, 32; Сталбун Раг.

**ПАЛЫКНУ'ЦЬ** *зак.* Глытнуць (ес-ці, піць з прагнасцю, вялікімі глыткамі). *Багдановіч палыкнуў няўдала: папярхнуўся, пацякло па барадзе. Партызаны глядзяць на яго непрыхільна.* Нав., СТ, 129.

**ПАЛЯДЗЕ'ЦЬ** (полядеть) *зак.* Паглядзець (убачыць, разгледзець). *Як нам яе мужука полядеть?* Рам., БС, III, 34; Гом.

**ПАЛЯНІ'ЦА** *ж.* Булка, хлеб з пшанічнай мукі. *А ў той торбе Хлеб, паляніца.* ДФ, 417; Велянцін Хойн. Радч., ГНП, 13; Гом.

**ПАЛЯРУ'Ш** *м.* Паралюш, параліч. *Дужа пагода паганая была... дождж і дождж, каб на яго паляруш.* Сач., А, 42.

**ПАЛЯТУ'Н** (полятун) *м.* Лятун (той, хто лятае). *Соловейко полятун, расхорошій щабятун, На заре рано ўстае, голосно песни пяе.* Рам., БС, I—II, 213; Перарост Гом.

**ПАЛЯТУ'НЧЫК** (полетунчик) *м. Памянш. да* п а л я т у н. *Соловейко мой, щебетунчик мой, полетунчик мой, Ты ж не щебечи, в гору летучи.* Радч., ГНП, 166; Гом.

**ПАМА'ЛЕЙ** *прысл.* Паволі. *Падумаў, што спяшаецца касіць, і прымусіў сябе ісці за касою памалей.* Кап., СЖЛ, 37.

**ПАМАЛЕ'НЕЧКУ** (помаленячку) *прысл. памянш.* памаленьку, не спяшаючыся. *Помаленячку играй, Мое косточки бразчать Мяне сястра зарезала.* Рам., БС, III, 263; Перарост Гом. Параўн. п а м а л ю с е н ь к у.

**ПАМАЛЮ'СЕНЬКУ** *прысл.* Тое, што п а м а л е н е ч к у. *Ой комару, комарусеньку, Ведзи меня помалюсеньку.* Шэйн, III, 422; Дзякавічы Маз.

**ПАМАНДРАВА'ЦЬ** (помандровать) *зак.* Пусціцца ў дарогу. *Ой хочешь, живи, хочешь, прогоруешь, Або, серденько, вслед помандруешь.* Радч., ГНП, 154; Гом.

**ПАМАРА'КА** *ж.* Слупняк, аслупяненне. *«Добра яшчэ, што памараку на каня не нагнаў»,— зноў загаварыў «знаўца».* Мел., V, 74. *У грудзях Цімоха нешта торгнулася, апякло, бы памарака схапіла: ён стаяў як не на сваіх нагах і не ведаў, што казаць — мову адняло, і ўсяго яго сціснула ўнутры нешта шчымлівае.* Кап., СЖЛ, 38.

**ПАМАРАКАВА'ЦЬ** *зак.* Маракаваць, абдумваць некаторы час. *Трэба таксама, па-мойму, добра памаракаваць пра тое, як абеРагчы левы фланг фронту.* Мел., II, 244.

**ПАМА'ЎЗЛІВА** *прысл.* Прагна, сквапна. *Тоўсты, як кот, абышоў вакол стала, агледзеў прысмакі, памаўзліва аблізнуўся, але тут жа зморшчыўся і пакруціў галавой.* Шам., V, 424.

**ПАМЕ'ЖАК** *м.* Мяжа, узмежак. *А па вёсках — прасторы: ні памежкаў, ні пана.* Дуб., I, 317.

**ПАМЕ'НЕЦЬ** (поменеть) *зак.* Паменшаць. *Замуж выйшла красная, ще й погорело, Ще и заботы поболело, ще и силушки поменело.* Радч., ГНП, 136; Гом.

**ПАМІ'ЖДА** (помижда) *прыназ.* Паміж. *Сыны мое возлюблянныя! ти ня можно помижда вас кого-небудзь знайти, штоб на зямлю сыйти и принять плоть чалавечацкую?* Рам., БС, IV, 4; Вылеў Гом.

**ПАМО'ГА** (помога) *ж.* Дапамога. *Став шукать ён сабе хлопчика ли помоги.* Рам., БС, IV, 143; Беліца.

**ПАМО'РАК** *м.* Мор. *Быў вялікі паморак на людзей и на гаўядо.* Серж., СРБП, 33; Лучыцы Маз.

**ПАМЯЛІ'ШЧА** *н. павел.* памяло. *А памялішча то печ замяце.* ЗП, 233; Тонеж Лельч.

**ПАНАЖО'ЎШЧЫК** *м.* Хто ў бойцы карыстаецца нажом. *Паведамілі, што пракурор патрабуе тэрміновага суда над браканьерам і панажоўшчыкам і хоча зрабіць гэты суд паказальным на ўвесь раён.* Краўч., НХП, 566.

**ПАНАСТРО'ІЦЦА** (понастроіцца) *зак.* Настроіцца, падрыхтавацца для чаго-н. *Бачуць медзьведзі, што беда — понастроілісь хвузьей біць.* БКЭ, № 25; Камаровічы Маз.

**ПАНЕВЯРА'ЦЦА** *незак.* Трываць, жыць у няшчасці. *Можа таму, што Харціна звыкла за ўсё сваё жыццё паневярацца, яна магла змоўчаць.* Саб., ЖЗ, 217. *Лепш на горкай асіне павісну, чым усё жыццё паневярацца з гадам печаным.* Саб., ЖЗ, 89. *Сапраўды, старшыня вярнуўся на хутар. Без сям'і, што без цяпла. На*

*старасці год паневяраціца па чужых хатах?* Пал., КЗС, 30.

**ПАНЕ′НЯ** *ж.* Паненка. *Знати, знати, хто нежанатый: личанько бело, як у паненяты.* Рам., БС, I—II, 183; Балотня Рэч.

**ПАНІДЗЯ′ДЗЬКА** *м.* Панібрацкі зварот да каго-н. *Патом чорт гаворыць: «Ну, панидзядзька, я табе служив год верно и дарма, послужи ты мне одну ночь!»* Рам., БС, IV, 59; Калбоўка Раг.

**ПАНКАВА′ТЫ** *прым.* Панаваты. *Чалавек быў з выгляду панкаваты, апрануты ў шэры гарнітур, пад гальштукам і ў капелюшы.* Саб., ЗПД, 35.

**ПАНУ′КА** *ж.* Спешка, гонка. *За днём клапатлівай надзеі, Трывожных чаканняў, панук Ноч ціха спыніла ўсе дзеі, Але не пазбавіла мук.* Грам., В, 121.

**ПАНШЧЫНО′НЬКА** *ж. ласк.* пані. *А ў недилю пораненько Соныко выходить, Уже наша панщинонька Из двора выходить.* Рам., БС, VII, 32; Гом.

**ПАНЯДЗЕ′ЛКАВАЦЬ** (понеделковать) *незак.* Не працаваць у панядзелак, святкаваць. *Як я ў девках была — понеделковала.* Рам., БС, I—II, 237; Гом. Эр., ОБП, 207; Брагін.

**ПАНЯ′ЦЦА** (понятца) *зак.* Зразумець. *Ну, што, Иван, п'янишнин сын, ти понявся ты чаго-небудзь?* Рам., БС, III, 73; Пераpост Гом.

**ПА′ПА** *м. Дзіц.* Хлеб. Радч., ГНП, 12; Гом.

**ПАПАВАЖДА′ЦЦА** *шматкр.* Важдацца неаднаразова. *Колькі з ім папаваждаліся, каб падняць зноў.* Мел., V, 14.

**ПАПАСА′ЦЬ** (попасать) *незак.* Пасвіць. *За Кубаньню, за ракой, там козак молодой, ен не пив, не гуляв, усе коника попасав.* Рам., БС, I—II, 84; Беліца.

**ПАПЕ′Р** *м.* Папера (матэрыял з раслінных валокнаў). *А вы, приданочки, тонкіе, сарпаночки, Тонкіе беленькіе, с паперам ровненькіе.* Шэйн, III, 442; Дзякавічы Маз.

**ПАПЕ′РАДУ** (попераду) *прысл.* Папeрaдзе. *Што некому попераду вити, Песенку запети, Таночка завести.* Шэйн, I, 175; Гом. *Пойду к мамци в гости в середу, Мой нелюбый да й попереду.* Радч., ГНП, 40; Гом. *Збўсе весь народ, да як побег медзьведзь, так і з дзесяць мушчын бегуць за ім — медзьведзь поперэду, а аны за ім бегуць.* БКЭ, № 25; Камаровічы Маз.

**ПАПІРА′ЦЬ** (попирать) *незак.* Папіхаць (штурхаючы, прымусіць ісці куды-н.). *Пасци качки келе дому: Которое нейдзе, то ведзе, Которое здыхае, то попирае.* Шэйн, III, 417; Дзякавічы Маз.

**ПАПЛЕ′ЦІНА** *ж.* Жэрдка. *Сам высах увесь, як тая паплеціна.* Дан, Ж, 67.

**ПАПЛЫ′НУЦЬ** (поплынуть) *зак.* Паплыць. *Аны поплынулі.* БКЭ, № 38; Ужынец Рэч.

**ПАПРАГЧЫ′СЯ** *зак. Перан.* Спячыся на сонцы. *Дайно яго* [дажджу] *ўжо не было. Картопля аж папраглася на маіх сотках, вушы паапускала.* Кап., СЖЛ, 9.

**ПАПРАСТАВА′ЦЬ** *зак.* Пайсці напрасткі. *Да грушы-дзічкі папрастую, усядуся ў густой траве.* Наўр., ГС, 35. *Галя зірнула ёй услед і папраставала лесам да таго балота, дзе надоечы мужчыны пачалі церабіць хмызняччa.* Саб., БАС, 11. *Агата нацянькі па мяккім свежым снезе папраставала на Мікодымаў хутар.* Саб., I, 306. *З гусцяжу сляды вялі на чыстую і ройную прасеку — чалавек, відаць, абрадаваны, што выбіўся нарэшце з зараснікаў, папраставаў па ёй.* Сач., ЗМП, 10.

**ПАПРА′ЎДЗЕ** *прысл.* Сапраўды. *Ужо і папраўдзе ці не адумаліся, грахаводнікі, пад вадою?* Лупс., П, 85.

**ПАПРЫКО′РЧЫВАЦЬ** (попрыкорчывать) *зак.* Скурчыць. *Тым часэм, так даў Господ, што попрыкорчывало ногі і праву руку.* БКЭ, № 1; Тураў.

**ПАП′Я′Н** (попъян) *прым.* П'яны. *Ты, куме, поп'ян, то и не бачиш!* Шэйн, III, 386; Ельск.

**ПАПЯНЯ'ЦЦА** (попянятца) *зак.* Дакараць, папікаць, папракаць: чуць у адказ тое самае. *Попянявся, кажа, я, посварився с сусидкой.* Рам., БС, IV, 102; Маркавічы Гом.

**ПАРАВА'НЧЫК** *м. памянш.* шырма, посцілка. *«Урокі рабі ў залі, а спі тут»,— яна адкінула квятасты крамны параванчык у бакоўку.* Сач., БРВ, 191.

**ПАРА'ДАЧКА** (порадочка) *ж. памянш.* парада. *Порадь же мне, мамочка, все порадочки, Кому ширина, кому хустина, Моей мамочки тонок серпанок.* Радч., ГНП, 118; Гом.

**ПАРА'ДНІЦА** (порадница) *ж.* Дарадчыца. *Ох ты, мати, порадница ў хати: порай же мне, Мати, як людям казати.* Рам., БС, I—II, 124; Перарост Гом.

**ПАРАДЗІ'ЦЬ** *зак.* Пасеяць. *«Дзе ж ты быў, Ілля, Дзе паходжываў?» — «Я па полю пахадзіў, Жыта парадзіў. Жыта пшаніцу, Усякую пашніцу».* ЗП, 170; Жлобін.

**ПАРАЗВАЛАКЧЫ'СЯ** (поразволоктись) *зак.* Паразыходзіцца, раз'ехацца. *А тяпер и сяліба таа пустая, и ўнуки и праўнуки горюють,— поразволоклись куды который.* Рам., БС, IV, 94; Балсуны Раг.

**ПАРАЛО'Г** *м.* Параліч. *Отвящаа Господь Бог Сус Христос: одна чамярница, другая западница, третьтяя паралоги.* Рам., БС, V, 128; Гом.

**ПАРА'НА** (порану) *прысл.* Раніцай, з усходам сонца. *У недзелю ў порану Гукнув Никипорко на пораду: Порада моя, суседзе!* Шэйн, III, 403; Дзякавічы Маз.

**ПАРА'НЕНЬКУ** (пораненьку) *прысл. Памянш.* п а р а н а. *У недельку пораненьку чумак по двору ходя, свое белы ручки ломя.* Рам., БС, I—II, 58; Беліца. *У нядзельку рана-параненьку Усе званы званілі, Усе жоначки маладзенькія К ютрані хадзілі.* РП, 110; Гом.

**ПАРАСКАШАВА'ЦЦА** *зак.* Раскашавацца, жыць у раскошы некаторы час. *І ты б параскашавалася пры ёй.* Саб., БАС, 24.

**ПАРАСО'ЛІК** *м. памянш.* парасон. *Едзе пани голая, у чом маци радзила, тольки парасоликам закрываетца.* Серж., СРБП, 144; Лучыцы Маз.

**ПАРАХНО'** *н.* Парахня. *Мы ўзлезлі на граб, глянулі ў гняздзечка. Унутры яно было акуратна і гладка вытынкавана драздамі белым парахном.* Кап., СЖЛ, 50.

**ПАРАШЧУ'КНУЦЬ** *зак.* Сціхнуць, суняцца. *После ў трапычачку помочиш, да на зубы покладзеш, дак и паращукня.* Рам., БС, V, 83; Целяшы Гом.

**ПАРУ'ШАЧКА** *ж. памянш.* пароша. *Не во времечко снег — бела порушачка яна выпадала.* Рам., БС, I—II, 134; Ціценкі Гом.

**ПАРЦАЛЯ'НАВЫ** *прым.* Фарфоравы. *Я ледзь не забыў: яшчэ ж ляжыць дагары белы парцалянавы палумісак.* Саб., II, 40.

**ПАРЫНА'ЦЬ** *незак.* Імкнуцца (у думках). *«Маці дзяцей сваіх родных не пазнавала»,— парынаючы думкай у далёкае мінулае, гаварыў Хведар Саладыш.* Саб., I, 29.

**ПАРЭ'ПАНЫ** *прым.* Патрэсканы, шурпаты. *Стары старанна працёр парэпанымі пальцамі намуленыя павязкаю вочы і, разгледзеўшы лясніцкага, радасна прывітаўся.* Шам., I, 476.

**ПАРЭ'ПІНЫ** *мн.* Цыпкі. *Зірнула на свае парэпаныя шурпатыя рукі, і ёй захацелася, каб сышлі хоць гэтыя парэпіны.* Саб., ЖЗ, 64.

**ПАСА'ГА** (посага) *ж.* Пасаг. *Ти я твойму роду давно не казала, Что в мене посаги нема, возьмуть мене люди и так.* Радч., ГНП, 212; Гом. *Ацец мой дорогій, штоб мне было посагі сто рублёў, мо маей маці веліка посага асталасе.* БКЭ, № 13; Камаровічы Маз.

**ПА'САЧКА** *ж. Памянш.* д а п а с к а II. *І тут тая ж касая пасачка ва-*

*ласой над ілбом, тыя ж вусікі, тыя ж калючыя злосныя вочы.* Сярк., МСТВ, 57.

**ПАСВЕ'Т** (посвет) *м.* Прылада рыбалоўная. Эр., ОБП, III; Брагін.

**ПАСІДЗЕ'НКІ** (посиденки) *мн.* Вячоркі (зімой). *От яны пойдуць на супрадки, на посиденки, дак дедова дочка праде да праде, а бабина скача да пляша.* Рам., БС, III, 367; Гом.

**ПА'СКА** I *ж.* Куліч велікодны. Дэмб., ООМГ, I, 512.

**ПА'СКА** II *ж.* Паласа. *На галаве высокая, з аўчыны кучомка, з шырокай чырвонай паскай, з-пад расхрыстанага скуранога паліто відаць камандзірская гімнасцёрка.* Нав., СТ, 85.

**ПАСКАРА'БАЦЦА** (поскарабатца) *зак.* Паскрэбціся. *Приди под вокошко: не стучи, не гручи — поскарабайся.* Рам., БС, I—II, 236; Перарост Гом.

**ПАСКУ'БЦІСЯ** *зак. Перан.* Пацягаць адзін аднаго за чуб. *Алена і Насця паскубліся з-за жняяркі сягоння.* Мел., I, 242.

**ПАСЛЕ'ДКІ** *мн.* Рэшткі, астаткі (пра памёт птушыны). *Як ты не кажы, і малака больш у хату, і, галоўнае, жывёла настаіць гною, каб поле не вераб'інымі паследкамі ўгнойваць, а сапраўдным гноем.* Саб., ЗПД, 18.

**ПАСЛЯДО'ВЕЦ** *м.* Паслядоўнік. *За імі пройдуць паслядоўцы.* Дуб., I, 330.

**ПАСЛЕ'ДСТВА** (последство) *н.* Нагляд. *И пан спугався; сказуя яму: а що ты гуляеш, а стадо твоё бяз последства!* Рам., БС, IV, 110; Васільеўка Гом.

**ПАСМЕ'ШНЫ** (посмешны) *прым.* Кплівы (калі насміхаюцца). *Цур табе молоденяц от трыдевять дятинцав, от мужицких и от жаноцких... от посмешных.* Рам., БС, V, 10; Дзікалаўка Гом.

**ПАСПАСІ'БКАВАЦЬ** (поспасибковать) *зак.* Падзякаваць. *Дед поспасибковав и пошов домов.* Рам., БС, III, 276; Гом. *Узяў ён гэты вешчы, паспасібкаваў і пайшоў у пуць-дарогу.* ЧК, I, 254; Мяркулавічы Раг.

**ПАСПІ'НІНГАВАЦЬ** *зак.* Парыбачыць са спінінгам. *Аляксею нікуды не хацелася адыходзіць, але хлапчукі пацягнулі яго «паспінінгаваць» і павучыць іх — «табе ж шанцуе».* Шам., II, 125.

**ПАСПІРА'ЦЦА** (поспиратца) *зак.* Спрачацца (калі кожны адстойвае свой погляд). *Ой пили яны поспивалися, А Илля з Пятром поспиралися.* Шэйн, I, 78; Гарволя Рэч.

**ПАСПЯШНЕ'Й** (поспяшней) *прысл.* Хутчэй (спяшаючыся). *Мачиха звялела мне на другую ночь зделать труну и ўмотать яе трома варовками, и так щитно, каб ня можно иголки подсадить, и везть як ни можно поспяшней хувать.* Рам., БС, IV, 117; Доўск Раг.

**ПАССУВА'ЦЬ** (поссуваць) *зак.* Зняць (персцень). *Тым часам ана взяла поссувала тые персьні з пальца, дай у рот.* БКЭ, № 7; Камаровічы Маз.

**ПАСТАРУНКО'ВЕЦ** *м.* Паліцэйскі ў Заходняй Беларусі (да 1939 г.). *Пастарункоўцы былі вёрткія, у момант прымчалі конна, а сам начальнік — на старой машыне, якая вельмі чхала бензінавым перагарам.* Саб., I, 196.

**ПАСТАРУНКО'ВЫ** *прым. да* п а с т а р у н к о в е ц. *А малым, дык тым нібы не ў галаве было, што крычыць пастарунковы начальнік.* Саб., I, 196.

**ПАСТА'ЎНЫ** *прым.* Млынавы. *На месцы яго, як падняцца на гару, толькі і відаць цяпер пара пасівелых, нізка ўкапаных штандарын ды яшчэ стары шчарбаты пастаўны камень.* Рак., БВ, 165.

**ПАСТА'ЦЬ** (постать) *зак.* **1.** Спыніцца. *Едзе купец, постаў он, пытае: «Куды ідзеце?»* БКЭ, № 17; Камаровічы Маз. **2.** Стаць у пэўным месцы, захоўваючы вызначаны парадак. *Пашлі яны до шлюбу, посталі на шлюб, стаў веньчыкі ксёндз класьці — аж не па-*

*ніч, да мядзьведзь.* БКЭ, № 19; Камаровічы Маз.

**ПАСТАЯ'ЛКА** *ж.* Кватаранка. *Хіма дзівілася, як Галя можа рабіць усю сялянскую работу, і радавалася, што трапілася такая пастаялка.* Саб., БАС, 179.

**ПАСТАЯ'ЛАЧКА** (постоялочка) *ж. памянш.* малако, якое пастаяла. *Накопала красная девка да злого корнейка; Перемыла красная девка да на быстрой речечцы, Натопила красная девка да на постоялочци...* Радч., ГНП, 224; Гом.

**ПАСТУПІ'ЦЬ** (поступить) *зак.* Ступіць, шагнуць. *Куды ты ето поступій?* БКЭ, № 11; Камаровічы Маз.

**ПА'СТЫР-АНГЕ'ЛЕЦ** *м.* Пастух. *Пастыр-ангелец так моцна біў бояў бамбукавым стэкам.* Дуд., ШШ, 10.

**ПАСТЫРЧА'К** *м.* Патарчака. *Разлегліся яны на ламу, а пастырчакі як заколюць им у бок.* Серж., СРБП, 57; Лучыцы Маз.

**ПАСЦІ'** *незак.* Пасвіць. *Нашему дружку молодому Пасци качки келе дому.* Шэйн, III, 417; Дзякавічы Маз.

**ПАСЦІ'ЛКА-ВІЛЁНКА** *ж.* Посцілка баваўняная. *Маці на чыстай палавіне сядзіць на посцілцы-вілёнцы, рассцеленай на падлозе, і лучыць фасолю.* Рак., СЛС, 63.

**ПАСЯЛЯНІ'Н** (поселянин) *м.* Пасяленец, жыхар. *Побег у чужую сторону, у стяны, иде поселян мало було.* Рам., БС, IV, 108; Васільеўка Гом.

**ПАСЯРО'ДКІ** (посяродки) *прысл.* Пасярод, пасяродку, пасярэдзіне. *Ишов, ишов, приходя к одному чаловеку, а той чаловек хоча гумно строить, и не зная як: которое дераво довжей, дак ён збивая с концов довбнёй, а которое корочей, дак ён запрягая пару коній по концах, а посяродки довбнёй бъе — растягать яго — и нияк не состроя!* Рам., БС, I, 421; Перарост Гом.

**ПАТАБУ'НІЦЦА** *зак.* На некаторы час сабрацца ў чараду. *Збярупца, патабуняцца, паклубяцца над лесам, а пад раніцу зноў разыдуцца.* Сач., Д, 165.

**ПАТАЙКО'М** *прысл.* Потайкам, тайком. *Пасля ўсяго гэтага не лёгка і не проста было думаць пра тую, з якой бачыўся патайком.* Мел., IV, 76.

**ПАТАЙНЫ'** (потайный) *прым.* Запаветны, патаемны; з кім дзеляцца сакрэтамі. *Буду говорить своей подружки потайной: «Ти ведаешь, что за горе, за беда. С усего свету пали напасти на мене».* Радч., ГНП, 187; Гом.

**ПАТАЛО'ЧАНЫ** (потолочены) *дзеепрым.* Вытаптаны, патаптаны. *В бору травка потолочена, Ох и ой леле, потолочена. Кто тую травку потолочив?* Радч., ГНП, 53. *У моем зелененьком саду Там трава потолоченая, Русы косы поволоченыя.* Дэмб., ООМГ, I, 586; Гом.

**ПАТАЛО'ЧЫЦЬ** (потолочить) *зак.* Вытаптаць, патаптаць. *В бору травка потолочена, Ох и ой леле, потолочена. Кто тую травку потолочив?* Радч., ГНП, 53; Гом.

**ПАТАПА'ЦІ** (потопати) *незак.* Танцуць. *Стала мила воду брати, стали коній наповати,— Стала вода прибывати,— чарноморец потопати.* Рам., БС, I—II, 12; Беліца.

**ПА'ТЛАТЫ** *прым.* Кудлаты, з доўгімі нерасчасанымі валасамі. *З-пад коўдры выткнулася патлая, у завітках рыжая галава.* Саб., ЖЗ, 171.

**ПАТО'ПА** *ж. Бібл.* Патоп. *Калісь не было сьвета, толькі была патопа, што ўсе позьміралі.* БКЭ, № 4; Камаровічы Маз.

**ПАТРАКТАВА'ЦЬ** (потрактовать) *зак.* Пачаставаць. *От, тут лось лежыць — раздзеры его, будзе келбаса, шчэ і мне потрактуеш.* БКЭ, № 39; Ужынец Рэч. Параўн. п а т р а х т а в а ц ь.

**ПАТРАХТАВА'ЦЬ** (потрахтовать) *зак.* Тое, што п а т р а к т а в а ц ь. *Ана его напоіла, потрахтовала, дай он заснуў.* БКЭ, № 38; Ужынец Рэч.

**ПАТРУСІ'ЦЬ** *зак.* Пабегчы трушком. *Сабака падцісную хвост і патрусіў у бульбоўнік.* Дан., ЗА, 83.

**ПАТРУХАВА'ЦЬ** (потруховать) *незак.* Патрэсваць. *Ён правай нагой потупавая, шовковой бородой потрухавая.* Рам., БС, I—II, 197; Гом.

**ПАТРЭ'ПАНЫ** *дзеепрым.* Парэпаны. *Маці падабрала даматканую сваю спадніцу і звычна села на калёсы, спусціўшы з драбінак патрэпаныя ногі.* Мел., V, 11.

**ПАТРЭ'ПКІ** *мн.* Атрэп'е (адыходы пры трапанні). *Але аднойчы ўвечары, калі на комінку гарэла лучына і маці, нагнуўшыся над грэбнем, дзёрла лён, ён павярнуўся да яе тварам, доўга глядзеў, як хутка і спрытна аддзяляе яна кужаль ад патрэпак.* Сач., Д, 66.

**ПАТУ'ЛЯ** (потуля) *прысл.* Патуль, да таго часу. *Потуля ты стояла, и колола, и порола, тело сушилапушила, покуля я тябе не знала.* Рам., БС, V, 17; Маркавічы Гом. *Потуля молився, покудова пошла из вочей кров.* Рам., БС, IV, 3; Вылеў Гом.

**ПАЎ** *м.* Паўлін. *Па той траве пава йшла, пава йшла, А за ёю паў ляцеў, паў ляцеў.* ПНСА, 129.

**ПАЎГО'Н** *м.* Адлегласць у 40 м. *Чуе, аж чорт атляцеў с паўганоў, узбиўся на алешыну да так жаласливо плачэ, аж заливаецца.* Серж., СРБП, 94; Лучыцы Маз.

**ПАЎЗЛЕ'ССЕ** (повзлесье) *н.* Узлессе, узлесак (край леса). *Туман, туман по повзлесью дорожка лежала.* Рам., БС, I—II, 73; Гом.

**ПАЎКВАТЭ'РКІ** (полкватэркі) *ж. памянш.* палавіна кварты чаго-н. *Талімон, взяў бы і ты якое полкватэркі, погаварыў бы, выпіў бы седзючы.* БКЭ, № 16; Камаровічы Маз.

**ПАЎНЮ'ТКІ** *прым.* Вельмі поўны. *Паўнюткі куфэрак.* Лупс., ВТ, 255.

**ПАЎРО'ЗА** *ж.* Матуз, шнур. *Убачыла раптам на падаконніку забытую паўрозу, якой спавівала Верачку апошнімі днямі.* Мел., VI, 49.

**ПАЎСТАВА'ЦЬ** (повставать) *зак.* Устаць. *Повставалі аны. Ідзе чоловек, Аны просяцса зноў.* БКЭ, № 6; Камаровічы Маз.

**ПАХА'ПЛІВА** *прысл.* Паспешліва, прагна. *Другія тым часам капаліся пахапліва ў кошыку.* Мел., II, 268. *Юрый, паглядаючы час ад часу ў бок немцаў, адплёўваючы ваду, што аплывала з пілоткі, са лба, цякла ў рот, пахапліва курыў.* Мел., II, 19.

**ПАХВА'ТНЫ** I *прым.* Зухаваты, маладзецкі, які трымае сябе хватам. *Да таго ж быў аднакласнік, хлопец відны; пахватны на выгляд, і любая дзяўчына палічыла б за гонар прайсціся поплеч з ім.* Сач., БРВ, 259.

**ПАХВА'ТНЫ** II *прым.* Пра адзенне, якое сядзіць спрытна, франтавата. *Толькі Марылька, якая ўвесь час працавала побач са Сцяпанам Фамічом, не ўцярпела, збегала ў домік і, захапіўшы кароткі, пахватны кажушок, накінула яго на плечы Пятру.* Крауч., НХП, 405.

**ПАХЛІ'СТАВАЦЬ** (похлиставать) *незак.* Хлястаць час ад часу. *Жана мужа да й на суд повяла: Вяде, вяде, вяде, да посвистувая, По потылицы похлистувая.* Рам., БС, I, 246; Перарост Гом.

**ПАХМУ'РА** *прысл.* Змрочна, нявесела. *«Ты прыйшоў?» — пахмура спытаў Бабёр.* Крауч., НХП, 468.

**ПАХО'ПКАМ** *прысл.* Таропка. *Міша астаецца за вартавога. Капітан пахопкам прабягае вачамі прынесеныя паперкі, хмурнее.* Нав., СТ, 224. *«Трэба ехаць»,— падхопліваецца Гадун. Выпіваюць астатнюю гарэлку, пахопкам закусваюць.* Нав, СТ, 23.

**ПАЦО'ПАЦЬ** *зак.* Некаторы час спешна хватаць сябе за што-н. *Ён запыніўся, паляпаў, пацопаў сябе па кішэнях дый кажа: «Пропуск дома забыўся».* Саб., БАС, 37.

**ПАЧАКА́ЛЬНЯ** *ж.* Зала чакання (на вакзале). *Наступны ішоў толькі пад раніцу, а ў пачакальні вакзала і без нас было поўна людзей.* Сач., БРВ, 222.

**ПАЧАСЦІ́ЦЬ** *зак.* Пашчасціць, пашчасливіць. *Чаму гэтак здарылася — пятроўцы ведаюць: не пачасціла ёй у асабістым жыцці.* Рак., СЛС, 107.

**ПАЧО́ПАЧКА** (почёпочка) *ж. памянш.* вочапка. *Да станьте вы ведры каменем, А коромысел явором, А почёпочки травою, А я, молода, вербою.* Радч., ГНП, 7; Гом.

**ПАЧО́ЎГАЦЬ** *зак.* Пакрочыць, пайсці па чым-н. гразкім. *З косамі цераз пляча ўдваіх пачоўгалі па мокрай траве, цераз пакошу.* Мел., VI, 104.

**ПАЧЫ́НКА** (починка) *ж.* Пачынак. *Ци ж я табе не напрала За год три починки?* Шэйн, III, 212; Навасёлкі Гом.

**ПАЧЭ́РЫЦА** *ж.* Падчарыца, падчарка. *Вышоў ацец на двуор і скінуў шапку, і вышла жонка его, тая што прогнала сваю пачэрыцу.* БКЭ, № 13; Камаровічы Маз.

**ПАШАЛЫГА́ЦЬ** *зак.* Пакрочыць шырокімі шагамі. *Адам, пакінуўшы вогнішча, моўчкі пашалыгаў па цаліку на дарогу.* Рак., СЖЛ, 140. *На вуліцы надвячоркам выйдзеш, па вёсцы пашалыгаеш. То з тым, то з гэтым спаткаешся.* Сач., П, 9. *А як дзе спадніцу ўбачыць, то і пашалыгаў услед.* Сач., ЧН, 241. *Скончылася тым, што Марынчук накінуў на плечы старога свой новенькі цёмна-сіні плашч, і той пашалыгаў пайз дарогу, бульбоўнікам, высока падабраўшы крыссе адзежыны.* Рак., БВ, 35.

**ПАШКАЛЯ́ЦЬ** *зак.* Адчытаць, прабраць, вылаяць, зрабіць вымову за што-н. *Тэкля добра пашкаляла Дарафея, што ён у свой час не запрасіў старшыню на бяседу.* Саб., ЖЗ, 32.

**ПАШКАНДЫБА́ЦЬ** *зак.* Пайсці кульгаючы. *І Амелька спрытна пашкандыбаў па вуліцы далей.* Крауч., НХП, 11. *Пека падхапіўся і, угнуўшы галаву ў плечы, паціху пашкандыбаў у двор.* Нав., В, 35.

**ПАШКУМАТА́НЫ** *дзеепрым.* Парваны на шматкі. *Пашкуматаныя ветрам, халодныя да свінцовага бляску хмары імкліва ляцелі над горадам.* Шам., VI, 7.

**ПАШМАТАВА́ЦЬ** *зак.* Парваць на шматкі, пашкуматаць. *Галя пашматавала пісьмо... і кінула.* Саб., БАС, 10.

**ПА́ШНІЦА** *ж.* Збожжа, збажына. *«Дзе ж ты быў, Ілля, Дзе пахаджываў?» — «Я па полю пахадзіў, Жыта парадзіў, Жыта пшаніцу, Усякую пашніцу».* ЗП, 170; *«Як пайду ў чацвер на ўвесь дзень, Да ўзрадуюцца жыта, пшаніца І ў полі ўсякая пашніца, І хазяін у доме».* ЗП, 201; Гом. Параўн. п а ш н я.

**ПА́ШНЯ** *ж.* Тое, што п а ш н і ц а. *Да огледзеў, што ў гумне, а там поўнае бочкі пшэніцы, жыта, усякай пашні.* БКЭ, № 20; Камаровічы Маз. *«Что ж, бабушка, в этом узелке?» — «Усякая пашня».* Шэйн, III, 385; Ельск.

**ПАШТАВІ́К** *м.* Паштальён, паштар. *І міжвольна прыгадваецца жаласная песня пра паштавіка.* Лупс., ВТ, 50.

**ПАШТА́РКА** *жан.* да паштар. *Паштарка Анюта ўчора лоўка падкаціла на веласіпедзе да ганка Аграфены Кандратаўны і крыкнула...* Дан., ЗА, 108.

**ПАШЫБА́ЦЬ** *зак.* Пашыбаваць. *З гэтаю заяваю Дуга, не зважаючы на сваю вагу і адышку, шпарка пашыбаў у сельскі Савет, дзе было праўленне.* Лупс., ВТ, 18.

**ПАШЭ́НЦІЦЬ** *зак.* Пашанцаваць. *Гэта акружэнцы, бежанцы і палонныя, якім пашэнціла вырвацца з лагераў.* Нав., СПД, 112. *Нялёгка, брат, цяпер выжыць. Але калі пашэнціла, дзяржы хвост абаранкам.* Нав., СТ, 219.

**ПЕКНАТА́** *ж.* Прыгажосць. *Пушча там не мае краю, пекната ж*

*у ёй такая...* Дуб., I, 380.

**ПЕ'КНЫ** *прым.* Прыгожы. *Назайтра дзень, сталі перэд ёй стол у хаце, такій мулёваный, пекный.* БКЭ, № 13; Камаровічы Маз. *Стало сьветло. А тут пакое пекные, веліке — от як у пана Вітоля.* БКЭ, № 40; Ужынец Рэч. *«Да як табе не стыд,— каралеўна кажэ,— пекные сукні досталі, а таго паскудства не досталі».* БКЭ, № 42; Рэч. *Адчыніла твой яшчык, што матка дала — аж тут заехала карэта і коні, такіе пекные, што ў іх!* БКЭ, № 42; Рэч.

**ПЕ'КАЛЬНІК** (пекольник) *м. Рэл.* Хто адпраўляе ў пекла. *Ангали здали яго на руки пекольникам.* Рам., БС, III, 462; Гом.

**ПЕ'ЛЯ** *ж.* Лужына, лужа. *Вада з яго схлынула, і толькі дзе-нідзе ў канавах ды ў пелях яна яшчэ адлюстроўвала праменні шчодрага вясновага сонца.* Саб., II, 18.

**ПЕЛЯПА'ЦЦА** (пелепатца) *незак.* Целяпацца, матляцца, боўтацца. *Але й неба не дастаў да так и пелепаетца памиж небам и зямлёю.* Серж., СРБП, 138; Камаровічы Маз.

**ПЕРАБО'Р** *м.* Нарада. *Да збирайтеся да девчаточки да й на перабор.* Рам., БС, I—II, 10; Гом.

**ПЕРАБО'РШЧЫК** *м.* Чалавек пераборлівы. *Малады Сцяпанка — пераборшчык, У табуне коней перабірае.* ЗП, 346; Беліца.

**ПЕРАВЯ'З** *м.* Нізкі, перавязаныя (звязаныя) у адзін пук. *Грыбоў вялікі перавяз, Капуста квашаная ў цэбры.* Дуд., С, 73.

**ПЕРАГО'РАЦЬ** *зак.* Агорацъ, справіцца з чым-н. *Горкую і балючую праўду, бадай, лягчэй перагорацъ...* Мел., I, 127.

**ПЕРАДАВІ'ЧКА** *жан. да* перадавік. *Чаго ж я паеду, я ж не перадавічка.* Саб., ЖЗ, 188.

**ПЕРАЗО'Ў** (перезов) *м.* Узаемнае наведванне ў час вясельных святкаванняў, асабліва пасля вяселля. *Розсунь, свату, хату, Бо великій перезов маю.* Шэйн, III, 442; Дзякавічы Маз. Параўн. п е р а п о й.

**ПЕРАКА'ВЫ** (пераковы) *прым.* Пярэдні. *Я ўсё знаю и зубища заговараваю темянныя, боковыя, пераковыя.* Рам., БС, V, 85; Гом.

**ПЕРАКУМІ'ЦЦА** *зак. Жарт.* Стаць кумамі, парадніцца. *Ну, вядома, перакуміўся з усімі, дом сабе збудаваў — другога такога няма ў сельсавеце, сад, пчол вулляў дваццаць...* Шам., II, 20.

**ПЕРАЛО'МА** (перелома) *ж.* Перамена парадкаў насільная, гвалтоўная (?). *Уси вораги спати полегли,— пойду погуляю, На чужую перелому — не пойду до дому, На свою пересаду — на всю ночку сяду.* Радч., ГНП, 8; Гом.

**ПЕРАЛО'Г** *м.* Аблог. *І кулі наўкол загулялі, Як градам пайшлі па лістох, Жандары ізноў палявалі, Пужалі ізноў перапог.* Грам., В, 130.

**ПЕРАЛЯ'К :з пераляку** — з перапуду. *З пераляку ці, можа, нядобры сон прысніўся?* Мак., К, 10. *Не помню, ці то я з пераляку не закрыўся, ці неакуратна закрыўся.* Шам., ВТБ, 143.

**ПЕРАЛЯКА'ЦЦА** *зак.* Перапудзіцца. *Бацька так пералякаўся, ажно, зубамі ляскаючы, сабе кусок языка адкусіў.* ЧК, I, 231; Петр.

**ПЕРАМА'НАЧКА** (переманочка) *ж. ласк.* хто ўмее пераманіць, спакусіць, прывабіць да сябе. *Переманочка голубка, переманила сокола Из мойго саду да и в свой; Пераманочка Марочка, переманила Иваночку З чужой сторонки в свою.* Радч., ГНП, 84; Гом.

**ПЕРАМЕ'НАЧКА** (переменочка) *ж. памянш.* перамена, замена (рукам). *Через юлочку суседочка, То твоя, мамка, невехночка, Твоим ручечкам переменочка, Твоим ножечкам переходочка.* Радч., ГНП, 26; Гом.

**ПЕРАМО'ВЫ** *мн.* Перагаворы. *Два месяцы вяліся перамовы. Мадзяры самі напрасіліся на дружбу.* Нав., СТ, 272.

**ПЕРАПЕ'ЧА** *ж.* Перапечка. *Калі так, дак я зраблю ось як: хто*

*першы ўкусіць з гэтае нівы перапеч, та падавитца.* Серж., СРБП, 17; Лучыцы Маз. *От намалацію ён грэчкі, намалоў, и напекла баба свежых перапеч поўну печ.* Серж., СРБП, 17; Лучыцы Маз.

**ПЕРАПІ'ЦЬ** (перепить) *зак.* Запіць (калі спраўляюць заручыны). *Да перепита Гапочка, Да перейдзи сени бацькову.* Шэйн, III, 399; Дзякавічы Маз.

**ПЕРАПО'Й** (перепой) *м.* Абрад вясельны. Эр., ОБП, 16; Брагін. Параўн. п е р а з о ў.

**ПЕРАПО'ЙНІК** (перепойник) *м.* Удзельнік вясельнага абраду (які ўручае маладым падарунак). *Скупый перепойнику! Перепіў большую дружку Чарочкой ореховою, Да и тэю да не поўною.* Шэйн, III, 411; Дзякавічы Маз.

**ПЕРАПЯЛІ'ЦА** *ж. Заал.* Перапёлка. *А перапяліца хату падмятае.* ДФ, 268; Лазараўка Рэч.

**ПЕРАСА'ДА** (пересада) *ж.* Вяртанне да існаваўшых парадкаў (якія насільна былі пераменяны) (?). *Увсе вороги спать полегли, Ой пойду погуляю, Ой на нашу перасаду покину досаду.* Радч., ГНП, 226; Гом. *Уси вороги спати полегли, пойду погуляю, На чужую перелому — не пойду до дому. На свою пересаду — на всю ночку сяду.* Радч., ГНП, 8; Гом.

**ПЕРАСТА'РАК** *м.* Хлопец, які доўгі час не жэніцца, ходзіць у халасцяках. *Перастарак, праўда.* Шам., V, 250.

**ПЕРАСТА'РКА** *ж.* Дзяўчына, якая заседзелася ў дзеўках. *Старэйшая яго дачка, перастарка Феня, выграбала з грубкі попел.* Дан., Ж, 7. *Жаніўся з ёй, калі тая была перастаркай: каму такая насатая нягегла трэба?* Дан., Ж, 161.

**ПЕРАТЫ'НАК** *м.* Пляцень. *Коли б мене не тыны да не ператынки, Ходив ба я до девочки, як до свое жинки.* Рам., БС, I—II, 237; Гом.

**ПЕРАХЛЯ'БІСТЫ** *прым.* Тонкі ў поясе. *Перахлябісты, трохі ссутулены аграном сапраўды нагадвае жвавага вясковага хлопца.* Нав., ВС, 24. // З выгнутай шыяй. *З боку ад дарогі паміж кустоў носіцца Тарзан — перахлябісты, з жоўтымі плямамі над вачыма, выжла.* Дан., Ж, 141.

**ПЕРАХО'ДАЧКА** (переходочка) *ж. памянш.* замена (нагам). *Через юлочку суседочка,— То твоя, мамка, невехночка, Твоим ручечкам переменочка, Твоим ножечкам переходочка.* Радч., ГНП, 26; Гом.

**ПЕРАХРЭ'СЦЕ** *н.* Скрыжаванне (вуліц). *У пятроўцы дакладна ўгадваюць, што спяваюць там, на «перахрэсці»,— на скрыжаванні вуліц.* Рак., СЛС, 149.

**ПЕРАШЧУКА'ЦЬ** *незак.* Сціхаць. *Дождж між тым перашчукае, і толькі з дрэў усё яшчэ сыплецца раса.* Сач., БРВ, 50.

**ПЕ'РСІ** *мн.* Грудзі (у каня). *Сцяпан аброццю прыціснуў галаву каня да персяў, налёг локцем на хамут.* Мел., VI, 117.

**ПЕ'РЫНКА** *ж.* Пярынка. *Па перынцы яму дадзім.* Дуб., I, 401.

**ПЕ'СЕЛЬНІК** *м.* Песеннік (выканаўца песень, аматар спяваць). *Хадзілі па свету песельнік і казачнік. Сышліcь яны ў места і сталі ўкучы хадзіць.* ЧК, II, 217; Раг.

**ПЕ'ТВАЦЦА** *незак.* Мардавацца (выбівацца з сіл). *Петваўся б, як той чорны вол, на гэтай нашай рабоце, а так чалавекам стаў, на інжынера выйшаў.* Саб., ЗПД, 56.

**ПЕ'ТРЫЦЬ** *незак.* Разумець (спасцігаць сэнс чаго-н.). *Давай прасцей, па-рабочаму, без загадак, а то не петрым мы...* Шам., ВТБ, 53.

**ПЕХЦЯРО'К** *м. памянш.* пяхцер (кашэль, торба). *Яна пехцярок узяла, а я ў вожачкі навязаў.* Шам., V, 374.

**ПЕ'ЧАНІЦЫ** *мн. Анат.* Печань, пячонка. *Чуць печаніцы не атсадзіў цыган.* Серж., СРБП, 184; Лучыцы Маз.

**ПЕЧАРЫ'ЦА** *ж. Бат.* Шампіньён. *Але якія гэта грыбы — белуны, ваўчанкі, печарыцы. У нас такіх грыбоў нават ніхто з лесу не няce.* Сач., ЧН, 207.

**ПЕШАКА'** *прысл.* Пехатой, пешкі, пешкам. *А хопіць у цябе сілы ісці з намі пешака?* Крауч., НХП, 475.

**ПЁССІ** *прым.* Сабачы. *«А ну-ка, дзяржысь, пёссе мяса»,— кажа Іван.* ЧК, I, 69; Рудня Чач.

**ПІ'ПКА** *ж.* Люлька для курэння. *Як пачалося набажэнства і выпаў час адпачыць, ён прысеў на невялікі ўслон, што раней змайстраваў тут жа, на званіцы, выцягнуў капшук, набіў піпку, выбіў красалам агонь і закурыў.* Лупс., П, 74. *Пан Друцкі быў у вышытай золатам камізэльцы, з доўгай піпкаю ў зубах, з шабляю на баку.* Лупс., П, 40.

**ПІ'САРСТВА** *н.* Пісанне, пісаніна. *Я табе пакажу пісарства! А ці не хочаш ты, васпане, касой ці граблямі папісаць?* Саб., ЗПД, 163.

**ПІ'САРЫК** (писарик) *м.* Пісарчук. *Сидить молодый писарик.* Рам., БС, I—II, 66; Беліца.

**ПІСУ'ЛЯ** *ж. Пагард.* Ананімка. *Надрапалі пісулю і на яго.* Нав., СТ, 14.

**ПІСЯ'ГА** *ж.* Пісага, драпіна. **1.** Брудная паласа, след ад чаго-н. *А на руцэ ад кісці і як не да локця тлустая чорная пісяга — гэта, калі яна круцілася перад люстэркам з падкасанымі рукавамі, дык незнарок чыркanулася ў чалесніку аб качаргу і вымазалася ў сажу.* Лупс., ВТ, 6. **2.** Пісага (рубец, шрам). *Можа, з месяц сінія пісягі на целе насіў, але якая, брат, павага з боку равеснікаў была.* Рак., БВ, 60.

**ПІ'ТКІ.** *Дзіц.* Піць. Радч., ГНП, 12; Гом.

**ПІУ'НЬ** *м.* Певень. *Да толькі он так сказаў і хацеў шчэ таго піва піць, аж тут піунь «кукарэку».* БКЭ, № 36; Юравічы Рэч. *Так піунь ідзе і спевае — так ім здаецса, што далёко шчэ.* БКЭ, № 23; Камаровічы Маз. *Прасіў он ее разоў тры вечэраць, кідаў он кідаў, зачэм піуны запелі, даў Бог дзень, пашоў он ізноў у лес.* БКЭ, № 14; Камаровічы Маз.

**ПІЦЯННЕ'** (питяньне, піценне) *н.* Пітво (напітак). *Дала яму питяньня, ядяньня, разнаго кушаньня.* Рам., БС, III, 75. *Сычас стол адкрыўся такі, што чаго ўгодна — і піцення і ядзення.* ЧК, II, 31; Шарахоўскія Буды Раг.

**ПІШЧ** (пищь) *ж.* Ежа. *Цар выстроив яму святличку и приставив к яму дзевицу, каб яму служила, пищь готовила, подносила кушаньня.* Рам., БС, III, 185; Гарадзец Раг.

**ПІЯ'ЦІ** *незак.* Піць. *Добра гарэлка, Будам піяці Да панядзелка.* РП, 454; Сабалі Браг.

**ПЛАСКУ'ШКА** *ж. Бат.* Трава (разнавіднасць пырніку). *Дзе яшчэ тая касавіца, а ў яго ўжо кос з паўтузіна вісіць — накляпаных, наведзеных: адна — асаку разануць, другая — пласкушку, а трэцяя — выйсці і размахнуцца на поплаве.* Рак., СЛС, 72.

**ПЛАСТАВА'ЦЬ** *незак.* Паўзці папластунску. *Перад вачыма толькі было поле, ускапанае вайной, была расквашаная асенняй слатой зямля, і ён пластаваў па ёй.* Саб., I, 32.

**ПЛА'ХТА** *ж.* Плаха. *Як етому чаловеку ня загибать, и к зялёной плахти гадынину голову прикладать.* Рам., БС, V, 120; Макаўе Гом.

**ПЛА'ЦЦЕ** *н.* Бялізна. *Як пайшла на раку паласкаць плацце, дак адтуль і не вярнулася.* Серж., КАБП, 33; Лучыцы Маз.

**ПЛА'ШЫЦЬ** *незак.* Пляскаць (стукаць далонню аб далонь). *Ідуць у хату, скачуць, в лапкі плашуць.* БКЭ, № 30; Камаровічы Маз.

**ПЛЕ'МЯ** *н.* **:на племя** — для атрымання патомства. *Праўда, такога, як твой, у нас няма, дык я от і хачу купіць на племя.* Саб., I, 291.

**ПЛЕСКАТА'ЦЬ** *незак.* Цурчаць.

*Блізка нікога не было, адно плескатаў ручай.* Лупс., ВТ, 9.

**ПЛЕ'ТНЯ** *ж.* Пятля. *От, стань коле хвоі, дай обнімі ё, а я цебе плетню завяжу.* БКЭ, № 39; Ужынец Рэч.

**ПЛЕ'ЦІВА** *н.* Спляценне. *Напарадзе ўзнік, мацнеючы, уедлівы знаёмы свіст, разложыста грымнуў вельмі блізкі выбух, усплёснуў над плецівам кустоў агонь.* Мел., II, 160. *Некалькі з іх пазнала ў гэтым нізенькім і шчуплым чалавеку з густым плецівам чорных валасоў, з цыганскімі вачыма былога сакратара суседняга райкома.* Мел., II, 430.

**ПЛІСІ'ЦА** *ж. Заал.* Сітаўка, пліска. *Весялей зацокалі салаўі, над лугам закалыхаліся плісіцы.* Кап., СЖЛ, 41.

**ПЛОДЗЬ** *ж.* Дзіця. *А ты, Ева, будеш приносить плоди от мужа, воли яго и чижало табе будя!* Рам., БС, IV, 3; Вылеў Гом.

**ПЛО'СКАНІ** *толькі мн. Бат.* Каноплі. *А тые девки пойтякли, да ў лазьню, а одна девка у плоскани сховалася.* Рам., БС, IV, 129; Перарост Гом. Параўн. п о с к а н і.

**ПЛУГА'Р** *м.* Хто працуе на ворыве з плугам. *Во ўжо і трактар выйшаў, і плугары выехалі.* Краўч., НХП, 312. *Барадаты, прысадзісты, з аўтаматам цераз плячо, ён запомніўся Хліменку сваёй нязгаснай нянавісцю да ворага, сваімі неразлучнымі марамі аб днях, калі «ўсюды на зямлі ўсталюецца мір і шчасце», «калі плугар возьмецца за плуг, а цясляр за сякеру».* Краўч., НХП, 349.

**ПЛУ'СТАЦЬ** *незак.* Бадзяцца (марна, невядома дзе). *Браты гавораць: «Годзи табе плустаць по свету!»* Рам., БС, III, 186; Гарадзец Раг.

**ПЛУ'ТНІ** *мн.* Махлярства, ашуканства. *А ты думаў што? Даруюць? Па галоўцы пагладзяць за плутні.* Мак., К, 186.

**ПЛЫ'ГНУЦЬ** *зак.* Скокнуць. *Вутенятко плыгне, сеточки порве, со мною у плын пойдзе.* Радч., ГНП, 74; Гом.

**ПЛЫН** *м.* Скокі. *Вутенятко плыгне, сеточки порве, со мною у плын пойдзе.* Радч., ГНП, 74; Гом.

**ПЛЮ'НДРЫ** *мн. Іран.* Штаны. *Усхапіўся ён, схваціў свае плюндры да наўцекача, толькі пантопли митусяцца.* Серж., СРБП, 72; Лучыцы Маз.

**ПЛЮ'СКАЦЬ** *незак.* Лыпаць, моргаць (вачамі). *«Я ведаў: Зоя — малайчына,— гаварыў ён.— Такая дачка — рыхцік я. І ўжо вочкамі плюскае».* Дан., НД, 39.

**ПЛЯ'ЖЫЦЬ** *незак.* Працаваць многа, напружана. *А ты бачыў, як нашы дзеткі з капаніцамі ды лапатамі ўсё лета пляжылі на сваіх агародах?* Губ., КНП, 338.

**ПЛЯ'МКАЦЬ** *незак.* Чмякаць (гучна, уголас). *Чаго ты плямкаеш ротам, як тая свіння? Есці хоць навучыся акуратна.* Нав., В, 76. // Цмокаць губамі. *Салдат з белым чубком, без пілоткі і без мундзіра, у заплямленай граззю майцы штосьці плямкаў губамі і шаптаў.* Мел., МН, 16.

**ПЛЯ'СКАЦЬ** *незак. Зневаж.* Гаварыць многа і абы-што. *Пра што вы плешчаце?* Шам., V, 411.

**ПЛЯСКУ'Н** *м.* Гарэза. *Трэба Любе сказаць, каб тая ўгаманіла свайго шчарбатага плескуна.* Шам., ВТБ, 17.

**ПЛЯ'СНУЦЬ** *зак.* Сказаць нечакана што-н., тое, што не трэба гаварыць. *Сустрэнецца добры чалавек, але плясне ўголас сапраўднае прозвішча, стары адрас ці яшчэ што, і гатова, правал.* Шам., IV, 67.

**ПЛЯСУ'ХА** *ж.* Танцорка. *Пыталися у совки, ти будим женитися, Ти я не скакуха, ти я не плясуха.* Радч., ГНП, 149; Гом.

**ПЛЯЧЭ'ЦЬ** *незак.* Раздавацца ў плячах. *Ішлі гады, рос, плячэў Юрка.* Сач., Д, 11.

**ПО'ДАЛЕКУ** (подаляку) *прысл.* Далёка. *И якся пошли уводин бок овечки уси, отыйшли пода-*

*ляку.* Рам., БС, IV, 109; Васільеўка Гом.

**ПО'ДПАЛ** *м.* Падполле. *Тады дзед адчыніў подпал, патушыў святло і схаваўся з бабай на печ.* КЖЧК, 185; Гом.

**ПО'ДПЛЕТАК** *м.* Подплетка (шыла для падплятання лапцей). *Ён корпаўся з выслізганым вастрадзюбым подплеткам і лазоваю дзяжкаю — плёў лапаць.* Мел., V, 87.

**ПО'ЖНІШЧА** *н. павел.* пожня. *За акном змянялі адзін аднаго малюнкі позняй восені, бадай, самай прывабнай пары года — вось павольна праплыло шырокае пачарнелае пожнішча.* Крауч., НХП, 91.

**ПО'КАЦЦА** *незак.* Лопацца, рвацца. *Я вязу, а вяроўкі покаюцца.* ЧК, II, 220; Раг.

**ПО'ЛАМА** *н.* Полымя. *Бача, што агнянае полама наслана на яго.* ЧК, I, 254; Мяркулавічы Раг. *Як жа мне астанавіць полама ў горадзе, у твайго бацькі?* ЧК, I, 253; Мяркулавічы Раг.

**ПО'ЛЕНЬКА** (поленько) *н. памянш.-ласк.* поле. *Вусы мое вусы, развалисты вусы, яны поленьком ишли, разговаривали — тишай!* Рам., БС, I—II, 206; Гом.

**ПО'МАСТ** (помост) *м.* Падлога, памост. *Посыпалісе по хаце, так і помосту не знаць.* БКЭ, № 30; Камаровічы Маз.

**ПО'МНЫ** *прым.* Памятны (незабыўны). *Аня стала апавядаць пра дзевяць дзён, што аддзялялі яе ад той помнай раніцы, калі яна развіталася з Арынай.* Мел., I, 158. *...І ў гэтае лета людзі чулі не такі далёкі подых той помнай восені і зімы.* Мел., VI, 7.

**ПО'МСТЛІВАСЦЬ** *ж.* Помслівасць. *Дадайце да гэтага жаночую помстлівасць.* Гам., ША, 217.

**ПО'ПРЫЧ** *прысл.* Потым. *Ну, той полез, узяв зямли у руки и попрычь у рот.* Рам., БС, IV, 1; Вылеў Гом.

**ПО'ПРАДКІ** *мн.* Вячоркі. Радч., ГНП, 21; Гом.

**ПО'РАЦЦА** *незак.* Корпацца, капацца. *Галя доўга жыла ў бабулі Арыны — матчынай маці, а калі вярнулася дадому, застала ў хаце незнаёмую жанчыну, якая поралася пры печы і адразу ж падала на стол ёй, Галі, полудзень, сказаўшы: «Еш, дачушка, еш!»* Саб., БАС, 21. // Рабіць што-н. марудна. *Паслухаў Микола мужика, засучивъ свитку и полез у гразь; поравсь, поравсь и вытяг воз мужицкій.* Рам., БС, IV, 15; Гом. Параўн. п о р к а ц ц а.

**ПО'РКАЦЦА** *незак.* Тое, што п о р а ц ц а. *Яго жонка, гарбатая Настуля, поркалася ля печы.* Дан., Ж, 9.

**ПО'РСТКА** *прысл.* Хутка, жвава. *Ніхто, безумоўна, не адгукнуўся порстка на заклік Будыкі знаёміцца, толькі лена павярнулі галовы.* Шам., V, 11. *Маладыя — што маладыя коні: бяруць з месца порстка, шпарка, шчыра, але хутка выдыхаюцца і часам спатыкаюцца.* Шам., ВТБ, 148.

**ПО'РУЧКІ** *прысл.* Поруч. *Идзе кале лесу: бачыць, аж месяц идзе поручки з им.* Серж., СРБП; Лучыцы Маз.

**ПО'СКАНІ** (поскони) *м.* Тое, што п л о с к а н і. *Пріехали черти наши поскони терти: потерли, помяли и девочку отобрали.* Рам., БС, I—II, 340; Гом.

**ПО'СЛУХ** *м.* Чутка. *Можа таму і пусцілі па вёсцы нядобразычлівыя языкі послух, што ж, вядома ж Дарадзей — нейкі бязладны.* Дан., МН, 21.

**ПО'ХАПКАМ** *прысл.* Спехам, вельмі хутка, спяшаючыся. *Сярод шалёнага гону Ганна похапкам адбегла ад іншых.* Мел., ПН, 27. *На расцярэбленай лініі Лугавы рабіў усё подбегам, похапкам.* Дан., ЗА, 57.

**ПО'ХМАРКА** *ж.* Хмарка. *Хмара, што ўчора абцягнула сяло, парвалася на похмаркі, яны збягалі за лес.* Кап., СЖЛ, 12.

**ПО'ШАПАК** *м.* Шэпт. *Але мяне слухалі, і тая насцярожаная цішыня, у якой толькі зрэдку чуў-*

*ся пошапак, неяк бадзёрыла мяне.* Саб., ЗПД, 109. *Ціхі пошапак і пошум стаялі да таго часу, пакуль за чырвоным сталом не паявіўся дырэктар і памаленьку не пазваніў у той самы званок, які столькі год склікаў на ўрокі і абвяшчаў перапынкі.* Саб., БАС, 46. Параўн. п о ш а п т.

**ПО′ШАПКАМ** *прысл.* Шэптам *Яны з бацькам нешта доўга гаварылі пошапкам.* Саб., І, 171. Параўн. п о ш а п к і.

**ПО′ШАПКІ** *прысл.* Тое, што п о ш а п к а м. *Мы шапталіся пасля сустрэчы з бацькам, кожны вечар, калі Анька засынала ўжо, я пытаўся што-небудзь такое пошапкі.* Шам., ВТБ, 129. *Хоць пошапкі, але не тоячы ад мяне, сказала Паліводу, што свіран той з хлебам спалілі браты Казарскія.* Шам., ВТБ, 137.

**ПО′ШАПТ** *м.* Тое, што п о ш а п а к. *Малыя, учуўшы такі пошапт, надзьмуліся, некаторыя зараўлі, а Сайка раптам заміргаў і ледзь даеў буракі, бо не мог трываць дзіцячага плачу.* Лупс., П, 81.

**ПО′ШТАВАЦЬ** (поштувать) *незак.* Частаваць. *Павяла яна яго у хату, почала поштувать.* Рам., БС, III, 276; Гом.

**ПО′ШУМ** *м.* Ціхі шум. *Ён адналькава любіў гудкі імклівых цягнікоў, якія рэдка спыняліся на іхняй станцыі, і бясконцы, таямніча-ўрачысты пошум лесу.* Нав., Б, 19. *Чуцён быў нават пошум травы пад нагамі.* Саб., БАС, 18.

**ПРАБАЙДА′ЧЫЦЬ** *зак.* Пралайдачыць (правесці марна час). *Табе бедаваць не трэба. Ты не прабайдачыў дарэмна.* Мел., VI, 214.

**ПРАБАСАНО′ЖАНЫ** *дзеепрым.* Калі не маюць абутку і ходзяць, бегаюць басанож. *І бесклапотнае вясёлае маленства, прабасаножанае тут, на ўлонні прыроды, і школа, сябры, настаўнікі.* Сач., Д, 14.

**ПРАБО′ЙНЫ** *прым.* Біты, уезджаны, людны, бойкі. *Полож мене мой миленькій на пробойном на шляху.* Рам., БС, І—ІІ, 139; Зябраўка Гом. *Узяли и пошли, и пройшли обапол усёй пробойной вулицы, и понадписували на ўсих воротах, што козлиное мясо купляно.* Рам., БС, III, 411; Шарахоўскія Буды Раг.

**ПРАВАЛО′ДЗІЦЦА** *зак.* Затраціць многа часу на што-н. *...Сам праверыць дарогу і машыну з двайным грузам, арганізуе на таку разгрузку прычэпа; Карней пры сваёй рахманасці можа правалодзіцца.* Шам., ВТБ, 60.

**ПРАВЕ′ДКІ** *мн.* Адведзіны. *Адзін дзень Люська пабыла ў Сабіны. На трэці дзень яна з'явілася зноў, і ўжо — не ў госці, не проста на праведкі, а як да самага блізкага і дарагога чалавека.* Рак., БВ, 6. Параўн. п р о в е д ы.

**ПРАВЕ′ДЧЫК** *м.* Візіцёр. *Кароль выйшаў павутру ўранні і бача шатры. І пасылае ад сябе праведчыка...* ЧК, II, 410; Маркавічы Гом.

**ПРАГЛУ′ЗДАЦЦА** (проглуздатца) *зак.* Апомніцца, апамятацца. *Ён проспався, проглуздався, поглядзев — няма торбочки, тольки рушничок!* Рам., БС, III, 183; Гарадзец Раг.

**ПРАГУЛЯ′ННЕ** (прогуляньне) *н.* Пагулянка. *Пріяжжаа баба-яга из прогуляньня на кобылицы-сивицы.* Рам., БС, III, 292; Нісімкавічы Раг.

**ПРАГУНДО′СІЦЬ** *зак.* *Зневаж.* Прагугнявіць (сказаць, гундосячы, у нос). *«Ды маўчы ты...» — злёгку прыпалоханы маім нечаканым з'яўленнем, прагундосіў у нос Назар.* Сач., Д, 46.

**ПРАГЧЫ′СЯ** *незак.* Прагнуць. *Тым часам паненка пражэцца замуж за паніча, як жывое вады.* Серж., КАБП, 34; Лучыцы Маз. ◆ **з шкуры прагчыся** — старацца з усіх сіл. *Аж з шкуры пражэтца баба, хочэ паглядзець у гаршчочак, але чалавек упёрса й не пазваляе.* Серж., СРБП, 22; Лучыцы Маз.

**ПРАДА′ННЕ** (прадане) *н.* Про-

даж. *Нема ў его ничога на прадане.* Серж., СРБП, 98; Лучыцы Маз.

**ПРАДУ′МНЫ** *дзеепрым.* Які патрабуе многа думаць аб чым-н. *Соснився мне, мой сын, сон дивный, прадивный, думный, прадумный.* Рам., БС, III, 358; Нісімкавічы Раг.

**ПРАЖЭ′РНУЦЬ** (прожернути) *зак.* Прагна з′есці. *Проклятый цмок из мора выплывая, хоча царэвну прожернути.* Рам., БС, I—II, 370; Перарост Гом.

**ПРАЗВАДЗІ′ЦЕЛКА** (прозводителка) *ж.* Спакусніца. *Девчоночка прозводителка была — молойчика у солдаты отдала.* Рам., БС, I—II, 78; Перарост Гом.

**ПРАЗНУСЦІ′ЦЬ** (празнустить) *зак.* Збянтэжыць, спакусіць. *Тогды став клопотать етый самый лукавый, шчоб як убратца туды к им и прознустить их.* Рам., БС, IV, 2; Вылеў Гом.

**ПРАЗНУШЧА′ЦЬ** (прознущать) *незак.* Падбухторваць, падгаворваць. *Мене батька прознущав, щоб ету девку ўзяв.* Рам., БС, I—II, 40; Гом.

**ПРАЗО′РНЫ** (прозорный) *прым.* Падзорны. *Цар той вышов на двор, глянув у прозорную трубу и спужався, шчо нема яму силы, нема ў яго стольки войськи.* Рам., БС, III, 183; Гарадзец Раг.

**ПРАКАВЕ′ТАШНЫ** *прым.* Векавечны. *І прызнацца — здзівіўся: вакол — густы, пракаветашны бор, на дварэ — чорная, як сажа, ноч і сярод усяго гэтага аднаадзінюсенькая дзяўчынка, амаль дзіця, з клуначкам за плячыма.* Сач., БРВ, 51. Параўн. п р а к а в е т н ы ў 1 знач.

**ПРАКАВЕ′ТНЫ** *прым.* **1.** Тое, што п р а к а в е т а ш н ы. *Вялікі страх смерці канчаткова заглушыў у ёй маленькі, выдуманы яшчэ з дзяцінства лясны страх, і яны, перайшоўшы шашу, апынуліся ў густым пракаветным бары.* Саб., БАС, 164. **2.** *перан.* Старадаўні. *Ён шамаціць паперамі і раз-пораз акідвае наведвальнікаў хуткім позіркам з-пад пракаветных, перавязаных ніткамі акуляраў.* Нав., ТЮ, 185.

**ПРАКАРА′СКАЦЦА** *зак.* Пранікнуць, прабрацца. *Калі ставілі яе* [хату], *сам Халімон не злазіў з рыштаванняў — гэтак прыпускаў вуглы і пазы, гэтак імшыў, што ў самую лютую зіму ніякі холад не пракараскаецца.* Саб., ЗПД, 19.

**ПРАКУРО′РША** *ж.* Жонка пракурора. *Сярожа, а мае вучні не будуць мяне баяцца, калі я выйду за цябе замуж? Я ж тады стану пракуроршай.* Мак., К, 162.

**ПРА′ЛА** (прало) *н.* Прасніца. *И кур из конопли повыпуджаю, А бел кужель, я в прало посаджу.* Радч., ГНП, 229; Гом.

**ПРАЛЕ′ХНАЧКА** (пролехначко) *ж. ласк.* пралеска. *Ганначка, пралехначко, пропи хоть одну чарочку, гэто ж салодкая.* Шэйн, III, 387; Ельск.

**ПРАЛІВА′НЕЙКА** (проливаньика) *н. памянш.-ласк.* плач, праліццё слёз. *Змутусилися вочиньки От слезного проливаньика.* Эр., СНО, 21; Гом.

**ПРАЛІЗНУ′ЦЬ** *зак.* Праткнуць наскрозь языком. *Мы баімся кузні адчыніць, а ты вазьмі трое дзвярэй пралізні, у цябе язык большы, дык мы табе яго на язык пасадзім і цягні сабе.* ЧК, I, 71; Рудня Чач.

**ПРА′ЛУШКА** *ж. памянш.* прасніца. *Дак пралушку под лавушку, вератенцо на лавушку.* Рам., БС, I—II, 198; Гом.

**ПРА′ЛЬЕЙКА** *ж. ласк.* папрадуха. *Узрынь, узрынь, тонка пральейка, Тонка пральейка, густа тканьейка, Што тоненька прала, гусценька ткала.* ЗП, 145; Дзякавічы Маз.

**ПРАМАВА′ЦЬ** *незак.* Ісці напрамкі, напраскі. *Ой і старшыня нечага да нас прамуе.* Мак., К, 13. Параўн. п р а с т а в а ц ь.

**ПРАМАДЗЕ′ЦЬ** *зак.* Мадзець (жыць у цяжкіх умовах) пэўны час. *Яшчэ год які прамадзеем, а там і нашы вернуцца.* Сач., Д,

227. *«Што ты, Міхаська, хіба ж гэтак усё жыццё ўдаўцом і прамадзееш?» — пытала яна.* Саб., I, 323.

**ПРАМАНТА'ЧЫЦЬ** *зак. Груб.* Прагуляць, патраціць усё. *Пакуль не прамантачыў усяго Хвашчоўскага скарбу.* Лупс., ВТ, 260. *Маёнтак, лічы, пан даўно прамантачыў, а гэта — рэшткі.* Лупс., ВТ, 247.

**ПРАМО'Л** *м.* Памол, млiва. *Пайшоў Іванька, знайшоў вятрак, атабіў — дванаццаць дзвярэй — і ўзяў пад каменем прамолу.* ЧК, II, 161; Перарост Гом.

**ПРА'НHE** *н.* Мыццё. *Хвалілася каравайніца, да што ў яе сем сарочак: «Адна на мне, дзве ў пранне, а чатыры ў кудзелі».* ЛБВ, 105; Хільчыцы Жытк.

**ПРАНТ** *м.* Прут (металічны стрыжань). *Лезу ў дзірку, якую нехта зрабіў у агароджы, пазгінаўшы сталёвыя пранты так, што можна між імі праціснуцца.* Сач., ЧН, 170. *А тады падагналі вагоны, цёмныя, з вельмі маленечкімі вокнамі пад самай століллю, да таго ж на іх, гэтых вокнах, былі краты, зробленыя з тоўстых жалезных прантоў,— загадалі пагрузіцца і павезлі.* Сач., ЧН, 160.

**ПРА'НУЦЬ** *зак.* Апрануць. *Прышоў чалавек да гасподы й пачаў збиратца ў дарогу: узлажыў чыстую, белую сарочку, абуў новые лапци и прануў чорную свиту.* Серж., СРБП, 22; Лучыцы Маз.

**ПРАНЫ'РА** *аг. Пагард.* Прахвост. *Фашыст добра ведаў хітрага праныру, бо бачыў у ім шмат якія рысы свайго ўласнага характару.* Шам., I, 444.

**ПРАСЕ'ЧКА** *ж.* Палонка. *Я всадзіла хвост у прасечку і сказала: ловісе рыбка веліка і мала!* БКЭ, № 23; Камаровічы Маз. Параўн. п р о л у б к а.

**ПРАСКУРНЯ'ТКА** (проскурнятко) *н. царк, памянш.* просвіра, просвірка. *Не могу я стояти, колоса держати: Да мой колосок, як мескій пирожок, Да мое зернятко, як проскурнятко.* Радч., ГНП, 32; Гом. Параўн. п р о с к у р к а.

**ПРАСЛА'ЦЬ** (прослать) *зак.* Паслаць. *Прослала ана ему на лаве, а сабе на полцэ.* БКЭ, № 14; Камаровічы Маз.

**ПРАСТАВА'ЦЬ** *незак.* Тое, што п р а м а в а ц ь. *Пайшоў папера-дзе ўсыпанай гравіем дарожкай, што праставала між гонкіх соснаў.* Саб., I, 132. *Міходзя ківая галавой, узараў: «Давай прастуй цяпер у Баравы лясок!»* Рак., СЛС, 8. *Высокі і тонкі, трошкі скрыўлены набок — не так ад цяжару, як ад аб'ёмістай ношы,— ён прастуе па сцежцы і ўсё неяк падвіхвае на левай назе, быццам яна ў яго значна даўжэйшая.* Рак., СЛС, 42. *Платон упоцемку прастуе да ложка.* Сач., АП, 226.

**ПРАСТАРЭ'КАВАЦЬ** *незак.* Гаварыць многа, пустое, несур'ёзнае. *Годзе ўжо пра гэта, пайшлі кутoк які знойдзем. А то сталі на калідоры, на праходзе, прастарэкуем, быццам рабіць нам няма чаго.* Сач., А, 83.

**ПРАСТЫГНУ'ЦЦА** (простыгнутца) *зак.* Працягнуцца, прадоўжыцца. *Масляная счасливая! Простыгнися до Вялика дня. А хто сиру не дае, Нехай тому нагніе.* Шэйн, I, 121; Гом.

**ПРАСЦЯЧО'К** *м. памянш.* прасцяк. *Макаед не падумаў, што такі прасцячок, зацюканы дзецьмі, як Шугачоў, можа быць не менш хітры і праніклівы.* Шам., VI, 78.

**ПРАТВАРЫ'ЦЬ** (протворыть) *зак.* **1.** Прыадкрыць. *Да хвурью настроіў, да акно протворыў, да як пальнуў, так бусла забіў.* БКЭ, № 30; Камаровічы Маз. **2.** Расплюшчыць трохі. *Так он протворыў очы і гаворыць...* БКЭ, № 31; Юравічы Рэч.

**ПРАТУРЫ'ЦЬ** *зак.* Прагнаць, выгнаць. *Але разумны сакратар райкома абодвух пратурыў.* Шам., V, 189.

**ПРАЎЦО'М** *прысл.* Калі цела выцягнута на ўсю даўжыню; ва ўвесь рост. *Воўк сутарліва падняў галаву і тут жа апусціў*

*яе — выцягнуў ногі і болей не варушыўся — выпрастаўся праўцом.* Сач., Д, 105. *Сама праўцом стаяла на прыступцы сеялкі — правярала, кажа, нормы высеву.* Саб., ЖЗ, 52.

**ПРАХА'ЦЬ** (прохаць) *незак.* Прасіць. *Кумочек, голубочек, соловейко, прохаю цябе, не би майго горшка, бо ён жа у мяне не простый.* Шэйн, III, 386; Ельск. // Запрашаць. *Трэба братку жаніць, а сястру замуж аддаці, а сястру замуж аддаць да на вяселейка прахаць.* ВП, 393; Тонеж Лельч.

**ПРАХО'Н** *м.* Праход, адтуліна, праём. *Затым у прахоне паказалася аксамітная расквечаная хустка жоўтага колеру.* Лупс., П, 74.

**ПРАХУ'КАНЫ** *дзеепрым.* Адталы ад хукання. *У прахуканую шыбу акна Валя ўбачыла вялізны гмах Дома ўрада, дзве стройныя вежы прывакзальных высотных будынкаў.* Саб., ЖЗ, 22.

**ПРАЧУМАКАВА'ЦЦА** (прочумаковатца) *зак.* Прагуляць (правесці час у п'янстве, гулянках). *А уже ж чумак прочумаковався: згубив штаны, учкур оборвався.* Рам., БС, I, 205; Пераросг Гом.

**ПРАЧУХА'НЕЦ** ◆ **прачуханца даць** — прабраць за што-н. *Як толькі паклічаш на бюро райкома, каб прачуханца даць за камунальную гаспадарку,— адразу хапаецца за паясніцу і цэлы тыдзень войкае.* Губ., КНП, 381. *Прачуханца мо добрага дала?* Саб., ЖЗ, 56.

**ПРАШАЛЮХА'ЦЦА** *зак. Зневаж.* Прашлындаць, прашвэндаць. *Прыедуць у вёску, прашалюхаюцца сюды-туды і паехалі.* Сач., Д, 198.

**ПРАШАЛАПУ'ЦІЦЬ** *зак. Зневаж.* Прабадзяцца. *Прашалапуціў год дома — і от сюды.* Саб., БАС, 103.

**ПРАШКАНДЫБА'ЦЬ** *зак.* Прачыкільгаць, прайсці кульгаючы. *У першы ж дзень ён даволі спрытна прашкандыбаў па ўсёй вёсцы, не мінуў ніводнай знаёмай хаты.* Краўч., НХП, 11.

**ПРАШЛЭ'МАЦЬ** *зак.* Прашлёпаць. *Моўчкі прашлэмала ў раскошных, не аб назе бацькавых апорках міма мяне ў сенцы, моўчкі адчыніла хату, моўчкі паставіла на стол даёнку.* Сач., АП, 244.

**ПРАШЫВА'ЦЦА** *незак. Перан.* Праходзіць, прабірацца з цяжкасцямі куды-н. *Балахоўшчыкі ці не, а от жа, грэц яго, і цераз граніцу прашываюцца.* Мел., V, 143.

**ПРО'ВЕДЫ** *мн.* Тое, што п р а в е д к і. *Вечарам прыйшоў у проведы млынар Забела, і хворы загадаў яго пусціць да сябе.* Нав., БС, 334.

**ПРО'ЗВІСКА** *ж.* Прозвішча. *Быў сабе адзин дваранин, па прозвиску Петроўськи.* Серж, СРБП, 138; Камаровічы Маз.

**ПРО'ЛУБКА** *ж.* Тое, што п р а с е ч к а. *Ти к полыньне подвяде, альбо к пролубцы.* Рам., БС, IV, 9; Гом.

**ПРО'СЕКА** *ж.* Прасека. *Я крочу і крочу прамой просекай, якая цягнецца далёка-далёка, аж у суседняе Суткоўскае лясніцтва.* Дан., МП, 45.

**ПРО'СКУРКА** *ж.* Просвіра, просвірка. *И сено тэе, што цераз усе гэтае коляды стояла куцця, оддаць па крошцы ўсякай скоцины, бо гэтае сено не равнюючи для скоцины так, як ле нас проскурка.* Шэйн, I, 48; Кочышчы Маз. *Поповна плаче — проскурки хоче.* Радч., ГНП, 42; Гом. Параўн. п р а с к у р н я т к а.

**ПРО'СТРАНЬ** *ж.* Прастора, абшар, *З далёкага тылу паступова падыходзілі войскі розных родаў — артылерысты, танкісты, пехацінцы, сапёры — расцякаліся па нізкай, багатай балотамі і лясамі просторані.* Мел., II, 135. *А яе цёмна-сінюю пространь паласнула ўжо першая нясмелая маланка.* Дан., ЗА, 20.

**ПРО́СЬЛЁ** *прыназ.* Пасля. *Матка просьле таго жыла дзесяць лет, а на адзінаццатом померла.* БКЭ, № 15; Камаровічы Маз.

**ПРУДЧЭ́Й** (прутчэй) *прысл.* Хутчэй. *Мы накінулі на галаву плашч, я прудчэй нацягнуў лейцы, і коні, ак ашалелыя, панеслі нас.* Сач., БРВ, 254. *Але не спыняешся, а імчыш яшчэ прутчэй.* Сач., БРВ, 32.

**ПРЫБО́Р** (прибор) *м.* Убор (адзенне, форма). *Быть молодцу ў неволи, У некрутском у наборі, У солдатском у приборе.* Шэйн, I, 453; Н.-Дзятлавічы Гом.

**ПРЫБУДО́ВІНА** *ж.* Прыбудова (прыбудаваны будынак). *Хіба цесна вам было ў доме, што такую прыбудовіну яшчэ развялі?* Дан., МН, 71.

**ПРЫБЯДНЯ́ЦЦА** *зак.* Прыкінуцца бедным. *Увогуле, часцей жыў па старой сялянскай філасофіі: лепш прыбядніцца трохі, чым выхваляцца, выстаўляць свае здабыткі і навуявядзенні.* Шам., ВТБ, 147.

**ПРЫВАКРЫ́ЦЬ** (привокрить) *зак.* Крыху пакрыць, засыпаць (снегам). *Белы снежки лапушисты привокрыли ўси поля.* Рам., БС, I—II, 145; Гом.

**ПРЫВЯЗЕ́НКА** *ж.* Чужая, прывезеная з чужых краёў. *Генерал немец ходя, за собою девку водя, водя девку иноземку; молодую привязенку.* Рам., БС, I—II, 12; Беліца.

**ПРЫВАРО́Т** *м.* Што можа прывабіць, выклікаць любоў да каго-н. *Можа, каб прыварот намовіць?* Саб., ЖЗ, 153.

**ПРЫВУКРА́СНЫ** *прым.* Прыгожы. *Такі горад прывукрасны, што і ў цара такога не было.* ЧК, I, 251; Мяркулавічы Раг.

**ПРЫГАВО́РНЫ** (приговорный) *прым.* Хвароба, якую прыгаварваюць. *На сіяньской горе стояв лес, а ў том леси ходив дед, и низянькій и малянькій, сивобородяньскій, лес ломив и ўродимяц заговорив, и притешный, и присмешный, и примовный и приговорный.* Рам., БС, V, 9; Папоўка Гом.

**ПРЫГО́Д** (пригод) *м.* Хваравіты стан, перапуд у выніку нечаканага здарэння, выпадку. *Выговаруетца рабу божаму от пригоду, от пригоду, от приказу.* Рам., БС, V, 23; Дзятлавічы Гом.

**ПРЫГО́ДА** *ж.* Патрэба. *Ляжи моя сорочанька до новаго году, тогды я тебе надену ў великую пригоду.* Рам., БС, I—II, 130; Яроміна Гом. ◆ **быць у прыгодзі** — спатрэбіцца. *Вы чумачаньки небози при битой дорози, вы отдайте чаяняток, буду вам у великой пригоди.* Рам., БС, I—II, 62; Перарост Гом. *Пусти мяне, я табе буду у вяликой пригоди!* Рам., БС, III, 331; Перарост Гом.

**ПРЫГО́ДЛІВЫ** *прым.* Статны, прыгожы. *Ён дауно ўжо квапіўся пасадзіць на Васілёва месца свайго брата, такога ж прыгодліваго, як і сам.* Саб., II, 110.

**ПРЫГРАБЦІ́** *зак.* Прывеславаць. *А як к куму кума У рэшаце прыплыла, Грабянцом прыграбла.* РП, 329; Раг.

**ПРЫГРАБЧЫ́СЯ** *зак.* Прыйсці, прыцягнуцца. *А заўтра, яно, праведаю — прыграбуся адно.* Дан., ЗА, 81.

**ПРЫГРЭ́БАК** *м.* Прыгрэбнік (прыбудова перад уваходам у пограб, склеп). *У прыгрэбку Варка трымала квас у дубовай бочцы.* Дан., Ж, 32.

**ПРЫДА́НЫ** *мн.* Госці вясельныя. *Стенулиса сени, Як приданы посели. Ще лепшей стенулиса, Як горелки напилиса.* Шэйн, III, 424; Дзякавічы Маз. Параўн. п р ы д а н к і.

**ПРЫДА́НКІ** *мн.* Тое, што п р ы д а н ы. *Отчинице лецень, Нехай вее вецер Пуд цесовыя лавки, Бо цверёзеньки приданки.* Шэйн, III, 425; Дзякавічы Маз. *Сарокі-прыданкі Скачуць паверх лайкі.* ДФ, 268; Лазараўка Рэч.

**ПРЫ́ДУМКА** *ж.* Выдумка, задума. *Але такая мая прыдумка, і цяпер яна што зарок, клятва.* Шам., IV, 455.

**ПРЫ'ДУМНЫ** *дзеепрым.* Прыдуманы, насланы ў думках (пра хваробу). *Выговараваю крыксыплаксы, дянныя, полудянныя, придумныя, пригадныя.* Рам., БС, V, 34; Ветк.

**ПРЫЖМО'** *н.* Каласкі жыта, падсмажаныя на агні. *Ці то ўспомнілася яму, як некалі вадзіў коней на начлег, пёк бульбу і рабіў прыжмо, ці то дзяўчына так уразіла — толькі Кандрат Сідаравіч расчуліўся.* Лупс., ВТ, 231.

**ПРЫЗАСНУ'ЦЬ** *зак.* Заснуць не надоўга. *А з таго віна сцежка топтана. Хто яе таптаў? — Панна Надзюхна. Яна таптала да й прызаснула.* ЗП, 246; Тонеж Лельч.

**ПРЫЗАСТА'ЦЦА** *зак.* Застацца на кароткі час. *А дзе ж ен да призастався?* Рам., БС, I—II, 74; Гом.

**ПРЫЗАСТАВА'ЦЦА** *незак.* да п р ы з а с т а ц ц а. *Ой, да угэ два полки ў пахуот пошли, А трэйци полк прызастаецца, Цебэ молода паджидаяцца.* Д-З, ПП, 147; Красная Воля Маз.

**ПРЫЗЛІ'ШНА** (призлишно) *прысл.* Вельмі свабодна. *Зделав дом огромный. У том доми було призлишно жить.* Рам., БС, IV, 3; Вылеў Гом.

**ПРЫКА'ЙШЧЫК** (прикайщик) *м.* Прыказчык. *Був ў етаго пана хвольверик, и помёр у яго там прикайщик.* Рам., БС, III, 396; Нісімкавічы Раг.

**ПРЫКАСА'ЦЦА** *зак.* Прычапіцца, прыставаць (пра пачуццё). *Прикасався к ёй нячистая сила — змей трохгаловый, уподобав ету дзевчину и став к ёй лётаць.* Рам., БС, III, 155; Навасёлкі Раг.

**ПРЫКІ'НУЦЦА** *зак.* Прыстаць (пра хваробу). *Змалку прыкінуўся ў ім дыятэз.* Дан., Ж, 130.

**ПРЫКЛЁП** **:для прыклёпу** — для выгляду, для прыліку. *Думалася: «От так, для прыклёпу, папалохаюць і пусцяць».* Саб., I, 270. *Пуга гэта так, для прыклёпу.* Саб., ЖЗ, 105.

**ПРЫКУ'ТАЦЬ** *зак.* Зачыніць (засланку). *Толькі змей сев, а Алёнка и Иванька узяли змея да ў печь, да заслонкай и прикутали!* Рам., БС, III, 266; Перарост Гом.

**ПРЫЛА'ДДЗЕ** *н. Зборн.* **Прылады.** *Аляксей Сцяпанавіч, цішэй, калі ласка, а то пагубляю прыладдзе.* Шам., II, 127.

**ПРЫЛЕ'СЕЙКА** (прилесейка) *ж. памянш.* прылессе. *Ци ты любиш лесы, Ци прилесейки?* Шэйн, III, 412; Дзякавічы Маз.

**ПРЫМО'ЎНЫ** (примовный) *дзеепрым.* Хвароба, якая лечыцца замовамі, прымаўленнем. *На сіяньской горе стояв лес, а ў том леси ходив дед, и низянькій и малянькій, сівобородянькій, лес ломив и ўродимяц заговорив, и притешный и присмешный, и примовный и приговорный.* Рам., БС, V, 9; Папоўка Гом.

**ПРЫМУ'СІНЫ** *мн.* Прымус, прымушэнне. *Не пужайся, беларусін, Мы не грозныя паны: Едуць ў вёску без прымусін Гарадскія летуны.* Грам., В, 27.

**ПРЫМЫ'ЛЬНІК** *м.* Прылазнік. *Я злез с коня: приходжу у прымыльник...* Рам., БС, IV, 116; Доўск Раг.

**ПРЫНАПО'ЎНЯТЫ** (принаповняты) *дзеепрым.* Напоўнены. *Усе лужжки возерушки принаповняты стоять.* Рам., БС, I—II, 76; Раг.

**ПРЫНАЗЕ'МІЦЦА** *зак.* Прызямліцца. *Як прыназемілася птушачак грамадка.* Дуб., I, 371.

**ПРЫНАПУ'ТРАНЫ** *прым.* Расфранчаны, адзеты па-святочнаму. *Уси наши рабятушки принапутраны стоять.* Рам., БС, I—II, 76; Раг. Параўн. п р ы н я д з е л е н ы, п р ы ф р а н ч а н ы.

**ПРЫ'НДЗІЦЦА** *незак.* Капрызіць. *Ці ў яго* [дзіцяці] *што балела, ці яно так прындзілася, хто яго ведае, дзіця ж не скажа.* Саб., ЗПД, 51.

**ПРЫНІ'ШКНУЦЬ** *зак.* Прынікнуць, прыціхнуць, страціць бадзёрасць. *П'янаватае застолле прынішкла, слухаючы Лорын спеў.* Саб., I, 158.

**ПРЫНЯДЗЕ'ЛЕНЫ** *прым.* Тое, што прынапутраны. *Пасля снедання прынядзелены Даніла ў новых картовых штанах, белай сорочцы навыпуск падайся на сяло.* Кап., СЖЛ, 8. Параўн. прыфранчаны.

**ПРЫПА'ДАК** *м.* Выпадак. *Дак от яки прыпадак быў з тым чалавекам.* Серж., СРБП, 99; Лучыцы Маз.

**ПРЫПЛА'КАЦЦА** *зак.* Induced Induced Induced Induced Induced Induced Induced Induced Induced Induced

**ПРЫПЛО'ДАК :на прыплодак** — на развод. *Дак ось, чорт нахапаў гдзесь цэлых дванаццаць и прывалок их у наш край на прыплодак.* Серж., СРБП; Лучыцы Маз.

**ПРЫПЛО'ДЗЯЙКА** (прыплуодзяйка) *н. памянш.* прыплод, патомства (жывёл). *Да й у семейку здоровьяком, А ў худуопку с прыплуодзяйком, А й у сыры буор и с прысадзяйком, А й у чыстэ поля и з рожаньяйком!* Д-З, ПП, 144; Красная Воля Маз.

**ПРЫПО'ЛЛЕ** *н.* Прыпол. *Шла девочка з застолля, Сыпала руту с приполля.* Дэмб., ООМГ, I, 570; Рагінь Раг.

**ПРЫПО'РАЦЦА** *зак.* Справіцца, скончыць гаспадарыць. *Дайтя, я припораюсь, дак я з им порадок найду.* Рам., БС, IV, 106; Маркавічы Гом.

**ПРЫРАДНІ'ЦЦА** *зак.* Прырасці, прывыкнуць, адчуць роднасць. *Так і не заўважыла, як сэрцам прыраднілася да яго.* Губ., НКП, 235.

**ПРЫРА'ІЦЬ** *зак.* Параіць, парадзіць, даць параду. *От, кажэ, беда! Матка мая памірае, та прыраілі, штобы достаць вады із Сінявской горы.* БКЭ, № 31; Юравічы Рэч.

**ПРЫСІ'ЛІЦЬ** *зак.* Прывязаць, зрабіўшы зашмаргу (па тыпу сіла́). *Потом, дождав ходяин вечара, загнав своих овец у кошару — дело сяе було на стяне — замкнув их у кошары, присилив ключ к повясу, што потпаразав був, и сев вячерать.* Рам., БС, IV, 109; Васільеўка Гом.

**ПРЫСМЕ'ШНЫ** *прым.* Хвароба дзіцячая, якая лячылася ласкай, жартам, смехам. *На сіяньской горе стояв лес, а ў том леси ходив дед, и нізянькій и малянькій, сивобородянькій, лес ломив и ўродимяц заговорив, и притешный, и присмешный.* Рам., БС, V, 9; Папоўка Гом.

**ПРЫСО'ЎГАЦЦА** *зак.* Прысунуцца, прыйсці, прывалачыся кудын. *Прысоўгайся, прывалокся ў Бацькавічы сам нямецкі камендант Гардзеевіч пан Штрыпке.* Саб., БАС, 198.

**ПРЫСТА'ВІЦЦА** (приставитца) *зак.* Паказацца, з'явіцца. *Мы як клинком, дак нам приставитца рубаха, Лиш бы сами живы были.* Рам., БС, III, 149; Гарадзец Раг.

**ПРЫСТА'ВІЦЬ** *зак.* Даць дадаткова. *Етый отец, чаго ня хоцев, узяв и поставив дом ёй, и шовку краснаго приставив.* Рам., БС, I, 155; Навасёлкі Раг.

**ПРЫСТРО'МЛЕНЫ** *дзеепрым.* Прыладжаны да чаго-н. *Да паркана яшчэ, мусіць, старым Лаўрэнам прыстромлена абшмыленая да бляску лавачка.* Саб., I, 20.

**ПРЫСТРО'МІЦЦА** *зак.* Прыладзіцца, уладкавацца, прыстасавацца. *І ты тут прыстромішся.* Саб., I, 121.

**ПРЫСТРЭ'К** *м.* Сурокі, насланнё ад злых намераў, думак. *Выговарую я и ўроки и пристреки и подумныя и погаданыя.* Рам., БС, V, 19; Недайка Раг.

**ПРЫСТРЭ'ШНЫ** *прым.* Які здарыўся ад суроку. *Цур табе молоденяц от трыдевъять дятинцав, от мужицких и от жаноцкіх... от пристрешных...* Рам., БС, IV, 10; Дзікалаўка Гом.

**ПРЫСЦІ'ЛЬ** *м.* Від пасеву. Дэмб., ООМГ, I, 478; Гом.

**ПРЫТЭ'ПАЦЬ** *зак.* Прыйсці. *З вуліцы прытэпала Ленка.* Дан., ЗА, 81.

**ПРЫФРА'НЧАНЫ** *прым.* Тое, што прынапутраны. *Дачакаўшыся, калі прыфранчаныя сёстры рушаць на вячоркі, Васіль лезе ў падполле і выцягвае адтуль заматаную ў чорную фуфайку чорную каробку радыёпрыёмніка.* Нав., СТ, 4. Параўн. прынядзелены.

**ПРЫ'ХАДЗЕНЬ** *м.* Прышэлец, прыблуда. *Марына глядзіць на гэтага прыхадня, як на забытага знаёмага.* Лупс., ВТ, 95. *Прыхадзень моршчыўся, скрыгатаў ад болю зубамі.* Лупс., ВТ, 95. *Прыхадні, не звяртаючы на іх увагі, падыходзяць да агню.* Лупс., П, 89.

**ПРЫХУХО'ЛІЦЦА** *зак.* Прыхарашыцца, прыбрацца, прыадзецца. *Ще ня позаснули, аж ось, уходя на ток женщина, прибравшись, прихухолившись, и нясе у руках ореховый куст и свечачку с огнём.* Рам., БС, IV; Балсуны Раг.

**ПРЫЦЕ'ШНЫ** *прым.* Хвароба дзіцячая, якая лячылася ласкай, дзіця цешылі. *На сіяньской горе стояв лес, а ў том леси ходив дед, и низянкій и маляинькій, сивобородяинькій, лес ломив и ўродимяц заговорив, и притешный, и присмешный.* Рам., БС, V, 9; Папоўка Гом.

**ПРЫЦЁНУЦЬ** *зак.* Прыцягнуць да сябе, захапіць. *Мядзведзь прышоў у музыце, лапамі взяў дай прыцёнуў.* БКЭ, № 25; Камаровічы Маз.

**ПРЫЦІ'СНУЦЬ** *зак.* Прыцягнуць, прынесці што-н. цяжкае. *Палецеў чорт удругае, набраў тольки золата, што чуць прыцис.* Серж., СРБП, 111; Лучыцы Маз.

**ПРЫЦКАВА'ЦЬ** *зак.* Цкаваць некаторы час. *Іванька прыцкаваў яе сабакамі — яна ўцякаць.* ЧК, II, 160; Перарост Гом.

**ПРЫЧА'ХКАЦЬ** *зак.* Рухацца, ствараючы гук «чах-чах». *Зірнуў на гадзіннік і аж падскочыў: вось-вось павінен прычахкаць цягнік.* Саб., I, 100.

**ПРЫЧЭ'ПА** *аг.* Прыдзіра, хто чапляецца, прыдзіраецца. *Міканор нібы пабачыў гарэзную Іванаву ўсмешку — і тут, прычэпа, не ўтрываў, каб не пакпіць з любімага слоўца.* Мел., V, 205.

**ПРЫЧЫ'НА** *ж.* Выпадак. *Коли я быв молод, дак случилась и мне причина.* Рам., БС, IV, 116; Доўск Раг.

**ПРЫШКАНДЫБА'ЦЬ** *зак.* Прыйсці кульгаючы, з цяжкасцю. *Пакрэктваючы, зноў прышкандыбаў Дзяніс.* Дан., ЗА, 87.

**ПРЫШПУЛЯ'ЦЬ** *незак.* Прышпільваць. *Ото дурны які, з шпулькі, што паны сабе прышпуляюць кветкі альбо ўстонжкі, хоча зрабіць даўбешку ў сем пудоў.* ЧК, I, 231; Петр.

**ПРЫШЫБА'ЦЬ** *зак.* Дабрацца хутка. *Во так аднойчы прышыбаў я ў чоўне туды за поўдзень.* Лупс., ВТ, 155.

**ПУЖА'ЙЛА** (пужайло) *н.* Пужала, пудзіла (чучала). *Ну, узяла и разсыпалась просом, а ён здзелав с онучки пужайло и ходзя кругом, пужая верабъёв.* Рам., БС, III, 170; Мяркулавічы Раг.

**ПУЖА'ННЕ** (пужаньня) *н.* Спалох, перапуд. *Мора сколыхнетца, пужаньня минетца.* Рам., БС, 38; Кашалёва Раг.

**ПУК** *м.* Самая высокая, аддаленая частка, кропка чаго-н. *Сонца стаяла ўжо высока, ледзь не ў самым пуку неба, і пякло гэтак, як і ўчора.* Сач., АП, 314.

**ПУ'КАЎКА** *ж. Іран.* Пра лёгкую зброю. *Ат!.. Усё адно карысці мала з гэтай пукаўкі. Рыхтуйце гранаты.* Шам., I, 488.

**ПУЛЯ'ЦЬ** *незак.* Страляць. *Пры паляках снарады цераз мясцечка пулялі, і калі Стракапытаў у Гомелі ўзбунтаваўся, было тое самае.* Нав., СТ, 347.

**ПУПАЎЗКО'М** (пуповзком) *прысл.* Паўзком. *Правда пуповзком, пуповзком ды й войшла ў лис.* Рам., БС, III, 322; Азяраны Раг.

**ПУСТАБРЭ'Х** *м. Зневаж.* Пустамеля, пустамалот, балбатун. *Ну і пустабрэхі!* Шам., IV, 329. Параўн. п у с т а м о л.

**ПУСТАДО'МКА** *ж.* Гаспадыня нядбайная. *«Пустадомка ты,— заекатала Параска,— і карову падаіць не можаш!»* Саб., БАС, 43. *Ожанився, разорився, ай-а-я-яй! а ўзяв жонку пустадомку.* Рам., БС, I—II, 5; Балотня Раг.

**ПУСТАМО'Л** *м.* Тое, што п у с т а б р э х. *Так ёй і трэба гэтаму пустамолу.* Лупс., НБД, 17. *Пустамол ты стары! Чаму ты вучыш малых?* Шам., ВТБ, 74.

**ПУХО'ВАНЫ** *прым.* Пульхны. *У мяне ёсць амбарык бачонкаў віна, ёсць і амбарык хлеба печанага, пухованага, дык вось каб вы папілі гэта ўсё, гэта за раз, і паелі.* ЧК, II, 73; Рудня Чач.

**ПУЦ** *м. Спец.* Цяслярскі інструмент. *Міця навучыўся часаць бярвенне; умее абыходзіцца са склюдам, пуцам, фуганкам, доламам.* Нав., СД, 172.

**ПЦІ'ШНЯ** *ж.* Птушнік. *Варожка князю так сказала, що ён був собаком, а тяперака став пташкой, и вы яго йнача ня попадетя, як треба вам устроить птишню, и скуплюйтя птиц, якія б ня були.* Рам., БС, IV, 113; Васільеўка Гом.

**ПШО'НЦА** (пшонцэ) *н. памянш.* пшано. *Дробнэ пшонцэ, дробнэ! Но все воно здобнэ: Курки гребуць, гуски щиплють, На столе коровай гиблюць.* Шэйн, III, 429; Дзякавічы Маз.

**ПЫЛЕ'ЧА** *ж.* Вялікі пыл. *І ён у гэтай пылечы вінт падкручвае.* Рак., БВ, 23; Параўн. п ы л ю к а.

**ПЫЛЬНУ'ЦЬ** *зак.* Кінуцца, пабегчы хутка. *Потым, згледзеўшы, што бацька бярэцца рукою за папругу, каб, мусіць, яе расшпіліць, пыльнуў у алёс.* Сач., АП, 407.

**ПЫЛЮ'КА** *ж.* Тое, што п ы л е ч а. *Пылюка ж гэтакая, дык каб не садзілася на вас.* Саб., II, 229.

**ПЫЛЯ'ЦЬ** *незак.* Піліць. *Ён пыляе дошкі.* Радч. ГНП, 11; Гом.

**ПЫНІ'ЦЦА** *незак.* Упраўляцца (па гаспадарцы). *Вечарам, пасля таго як заканчвалі пыніцца па гаспадарцы, яны выходзілі са Сцяпанам на вуліцу.* Дан., Ж, 15.

**ПЫРХ** *выкл. у знач. дзеясл.* пырхнуць (лёгка ўзляцець). *Ён развязаў, месячка пырх — паляцела.* ЧК, II, 69; Рудня Чач.

**ПЯВА'ХА** *ж.* Спявачка. Радч. ГНП, 10; Гом.

**ПЯВУ'Н** *м.* Аматар спяваць, пяюн. *Мой бацька быў такі — танцор, пявун, балалайка ў яго руках як не гаварыла чалавечым голасам.* Шам., ВТБ, 128.

**ПЯЛЁХКАЦЬ** *незак.* Плюхацца ў вадзе, утвараючы характэрны гук. *Асабліва перавернутае ў азёрнай роўнядзі зорнае неба, манатоннае, цягучае кумканне жаб і ўсплеск рыбы — рыба, як я заўважыла, заўсёды пялёхкае, гуляе ўвечары ў чаратовых завадзях.* Сач., А, 51.

**П'Я'НІШНІН** *прым.* Сын п'яніцы. *Ну, што, Иван, пъянишнин сын, ти понявся ты чаго-небудь?* Рам., БС, III; Перарост Гом.

**ПЯНЯ'ЦЦА** (пенятца) *незак.* Папікаць, дакараць, выгаварваць. *Не пеняйся, моя мила, не пеняйся на мене, пеняйся на вострый меч.* Рам., БС, I—II, 27; Перарост Гом.

**ПЯРСЦІ'НКА** (перстинка) *ж.* Пярсцёнак. *Да вдарили девочки Крепко, громко в ладошки, В золоти перстинки.* Шэйн, I, 174; Гом.

**ПЯРЭ'НДЗІНА** *ж.* Поручні. *Узяв, узлез на пярендину, да й скаканув у воду.* Рам., БС, III, 399; Нісімкавічы Раг.

**ПЯРЧА'СТЫ** *прым.* Тое, што б я р ч а с т ы. *На столе пярчастая скатэрть.* Рам., БС, V, 81; Гарадня Гом.

**ПЯРШЫ'НКА** *ж.* Першы раз. *Начлег такі нам быў не пяршынка.* Сач., А, 102. *Ездзіць на бярвеннях мне было не пяршынка: наездзіўся за тыя гады, як вярнуліся з Нямеччыны.* Сач., ЧН, 197.

**ПЯРЭ'ДАЙКА** *ж.* Карова ялавая пасля ацёлу. *Калі мая пярэдайка не запусціцца, то будзеце браць малако ў мяне.* Нав., ТЮ, 66. *Карова пярэдайка, вот-вот зноў падымецца.* Нав., СТ, 219.

**ПЯРЭ'ДЫХ** *м.* Перадышка, **перадых.** *Туды маці па нядзелях насіць малако, яйкі, а адтуль — гасцінцы, абаранкі, морс у тоўстай рабрыстай бутэльцы, які, здаецца, піў бы і піў без пярэдыху.* Сярк., МСТВ, 16.

**ПЯРЭ'ЗВА.** Гл. б я с е д а-п я р э з в а.

**ПЯТНАСТО'ЎКА** *ж. Штогод перад вялікаднем, у панскім двары наладжваецца масавая лупцоўка дзяўчат, якім споўнілася па пятнаццаць год, ці як завуць тут, пятнастовак.* Сач., АП, 127.

**ПЯЧО'НІК** *м.* Бульбіна печаная. *Адбіўся хіба ад сваіх, заблудзіўся і згаладаўся так, што рад пячоніку?* Сач., АП, 336. *А бульбаю пахне... Як пячонікі хто пячэ.* Сач., БРВ, 21. *Здаецца, яны з Алешкам, братам, пяклі на паляне пячонікі, а маці стаяла збоку.* Сач., А, 27. *Смешныя ў яго выходзілі пячонікі: зверху вуголле, а ўсярэдзіне цвёрдыя як камень,— ні ўкусіць, ні ўгрызці.* Рак., БВ, 196.

**ПЯЧУ'РА** *ж.* Дупло ў затанулай калодзе. *Тольки став, а там у пячуры, у борти, два лины.* Рам., БС, IV, 8; Гом.

# Р

**РА'БЕЙ** *м.* Рабін. *Идзе рабей и ног не падыме, тольки шмыгае пантоплями. Яны пацмокали, пакивали галавами да й павели пад руки вельми навучнаго рабея ў хату.* Серж., СКБП; Лучыцы Маз.

**РАБЁШАЧАК** *м.* Дзіця (нованароджанае). *Старая змяя послала за рабёшачком, што три дни, як родився, Принясли такого рабёшачка.* Рам., БС, IV, 116; Доўск Раг.

**РАБІ'НІЦА** *ж. Бат.* Рабіна. *Положь мене, братец, мой верный товарищ, у зеленом саду, У зеленом садочку на жовтом песочку под рабиницай!* Рам., БС, I—II, 55; Гом.

**РАГАЗА'** *ж. Бат.* Рагоз. *Спачатку па крапіве, якая вельмі пякуча стрыкалася і кусала за голыя лыткі, пасля па зараслях асакі, чароту і рагазы — рагаза акурат выкінула галькі, яны былі яшчэ не тоўстыя і не чорныя.* Сач., Д, 217.

**РАГАТУ'ХА** *ж.* Жанчына смяшлівая. *Маўкліва стрыманая спачатку, нязлосна-іранічная недзе ў сярэдзіне абеду, пад канец дзяўчына ператварылася ў вясёлую рагатуху.* Шам., V, 186.

**РАГА'Ч** *м.* Вілкі, якімі ставяць (або вымаюць) у печ гаршкі, чыгуны. *За абедам спрытна вылазіў з-за стала, тупаў у шкарпэтках да печы і, ухапіўшы рагач, смела ім лез у яе цёмнае чэрава.* Рак., БВ, 94.

**РАГУ'ЛЯ** *ж. ласк.* карова. *Відаць, мала хто здагадваўся раней, што рагулі валодаюць такімі шырокімі талентамі.* Нав., ВС, 6.

**РА'ДАНІЦА** (радоница) *ж. толькі адз. Рэл.* Радаўніца. *На радоницу до обеда пашуць, по обеде плачуць, а у вечери скачуць.* Дэмб., ООМГ, I, 513.

**РАДЖО'НЫ** (роджóный) *прым.* Родны (які знаходзіцца ў kроўнай роднасці). *Жаль двору вясёлаго, татульки роджонаго.* Рам., БС, VII, 30; Гом. *Там двое дзеточки спали: Одно дзиця да роджоное, А другое суджоное.* Шэйн, III, 425; Дзякавічы Маз. Параўн. р а ж о н ы.

**РАДЗЕ'НАЧАК** (радзеночек) **:радрадзёначак** — вельмі рад. *Ой рад-радзеночек Никипорка, што*

*на белым рушнічку стояв.* Шэйн, III, 400; Дзякавічы Маз.

**РАДЗЕ'НЦА** (раденце) *н. ласк.* радно. *Ой девочка, мое серце, сховай мене под раденце.* Шэйн, I, 453; Н.-Дзятлавічы Гом.

**РАДЗІ'НА** (родзина) *ж. толькі адз.* Радня, родзічы, сваякі. *С субботы на недзелю ў годзину Собрав Никипорко свою родзину: Нехай моя родзина сберецца.* Шэйн, III, 402; Дзякавічы Маз. Параўн. с в о й с т в а.

**РАДЗІ'НАНЬКА** *ж. Ласк. да* р а д з і н а. *Молодзенька Оксенька, Выйдзи из каморонькі, Вынеси калиноньку, Привитай всю родзиноньку, Близкую, далёкую, богатую и убогую.* Шэйн, III, 441; Дзякавічы Маз. Параўн. р а д з і н к а.

**РАДЗІ'НАЧКА** (родиночка) *ж. бат. ласк.* назва расліны, з дапамогай якой прыварожваюць каго-н. *Пойду в поле гуляти Родиночки шукати; Не найшла я родинки, Знайшла в поли былинку.* Радч., ГНП, 153; Гом.

**РАДЗІ'НКА** *ж. толькі адз.* Тое, што р а д з і н а н ь к а. *Ты, сырая маць-зямелька, Ты ж мяне асіраціла: Узяла татку, узяла мамку, Узяла маю ўсю радзінку.* ПНСА, 230.

**РАДЗІ'ЦЬ :радзіць каравай** — убіраць каравай, турбавацца пра яго прыгажосць (на вяселлі). *Ой, як мы свой каравай радзілі — У зелёны бор па кветкі хадзілі.* ЛБВ, 105; Малешаў Жытк.

**РАДЗЮ'ЖНЫ** *прым.* Дзяружны (зроблены з дзяругі, радзюжкі). *Ён сплёў сабе лыкавыя лапці і перакінуў цераз плячо радзюжную торбу.* Крауч., НХП, 9.

**РАДО'НАК** (родонок) *м.* Сваяк. *Слава Богу, што мой род богатый; ик пойду я к родоньку у гости.* Рам., БС, I—II, 25; Перарост Гом.

**РАДЫ' :ад радоў** — ад нараджэння. *Мне ад радоў да пяць гадоў.* КЖЧК, 42; Гом.

**РАЖА'НЯЙКА** (рожаньяйко) *н. ласк.* кароткія вілы для перадачы снапоў. *А й ў сыры буор и с прысадзяйком, А й ў чыстэ поля и з рожаньяйком.* Д-З, ПП, 144; Красная Воля Маз.

**РАЖО'Н** *м.* Кол, шост, палка. *Пашоў Каваль к рацэ, узяў доўги ражон да й тыкае ў воду, выбирае, гдзе глыбей.* Серж., СРБП, 110; Лучыцы Маз.

**РАЖО'НЫ** (рожоный) *прым.* Тое, што р а д ж о н ы. *Дак ана плачэ: да як жэ мне за рожонаго бацька замуж ісці.* БКЭ, № 42; Рэч.

**РАЖЫ'НА** *ж.* Кветка ружы. *Ішоў Колечка беражынаю, знайшоў ветачку пад ражынаю.* ПНСА, 25.

**РАЖЭ'НЦА** *н. Памянш. да* р а ж о н. *«Вясна, вясна, Што вынесла?» — «Дзеўкам красенцы, А хлопцам ражэнцы».* ВП, 131; Прыбыткі Гом.

**РАЗАПЯ'ЦЬ** *зак.* Распяць (нацягнуць). *Сабралісе дзеці, ценято настроілі, разапялі перэд озеродом, сталі гоніць.* БКЭ, № 28; Камаровічы Маз.

**РАЗАРВА'НАСЦЬ** *ж. Перан.* Адсутнасць душэўнага спакою. *Стаміўся я. Ад маны гэтай, ад гэтай разарванасці.* Мел., IV, 86.

**РАЗБІЯ'КА** *аг.* Забіяка, задзіра. *Холостый парань-бурлак, горкій разбіяка.* Рам., БС, I—II, 149; Перарост Гом.

**РАЗБУРА'ЦЦА** *незак.* Раджаць. *Анюта, Люба не разбуралася яшчэ?* Шам., V, 206.

**РАЗВА'ЖКІ** *прым.* Разважны, разважлівы. *Як у мене молодаю дай разважка голова; Что разважка голова,— разважати буду.* Радч., ГНП, 235; Гом.

**РАЗВА'ЛІСТЫ** *прым.* Пышны. *Вусы мае, вусы, развалісты вусы.* ЖП, 40; Карм.

**РАЗВО'ДНІЦА** *ж.* Жанчына пасля разводу, скасавання шлюбу. *Трэба гэтай разводніцы Раісе паказаць інтэлігентнасць і вытрымку.* Нав., Б, 71. Параўн. р а з в я д з ё н к а.

**РАЗВО'ХАЦЦА** *зак.* Развохкацца. *Ну раскохалася, ну развохалася, свайму другу разжалилася.* Рам., БС, I—II, 201; Раг.

**РАЗВЯДЗЁН** *м.* Мужчына разводны. *Хіба які ўдавец ці развядзён, дык цяпер іх не вельмі стае — удаўцы ўсе на тым свеце, адны ўдовы асталіся.* Саб., I, 301.

**РАЗВЯДЗЁНКА** *ж.* Тое, што р а з в о д н і ц а. *Адно хіба яна яшчэ з цікавасцю чакала — будучага ўнука ці ўнучку, Вользіну: Казіміравага сына ад развядзёнкі не любіла, чамусьці чужым унук здаваўся ёй.* Шам., V, 387.

**РАЗГАВЕ'ЦЦА** (разговеться) *зак. Рэл.* Паесці пасля пасту скаромнай ежы. *Ходзем, дзедзенька, ко мне в вотцов дом и ў нас разговеемсь!* Рам., БС, IV, 33; Доўск Раг.

**РАЗГА'ЛКА** *ж.* Месца перакрыжавання дарог, ростань. *Ранкам ужо адкрылася, што навальніца кінула маланку і на крыж за сялом, на разгалку дарог.* Мел., V, 6. Параўн. р а с т а н ц ы, р о с т а н ь к і.

**РАЗГА'РЫВАЦЦА** (разгарывацься) *незак.* Разгарацца. *А агонь стаў разгарывацься, і зрабілосе горачо ў гумне.* БКЭ, № 35; Юравічы Рэч.

**РАЗДО'ЛЕЙКА** (роздольейко) *н. толькі адз. перан. ласк.* раздолле (свабода, адсутнасць абмежаванняў, добрыя ўмовы для каго-н.). *Ой я тыя дзве речечки пешки перейду, Мамкинаго раздольейка не найду.* Радч., ГНП, 71; Гом.

**РАЗДУ'ШАНЬКА** *ж. ласк. пры звароце* мілая, любая. *Выйди, выйди, раздушанька, на ново крылечко.* Рам., БС, I—II, 137; Балотня Раг.

**РАЗДЫГА'ЦЦА** *зак.* Расхістацца (стаць хісткім). *А здаецца ж, прыбіваў маставікамі, навечна. Глядзі, раздыгалася.* Сач., А, 226.

**РАЗЖА'ЛАСЦІЦЬ** *зак.* Разжаліць. *Яго пытанне яшчэ больш разжаласціла.* Шам., IV, 556.

**РАЗЖАНІ'ЦЬБА** *ж. толькі адз.* Скасаванне шлюбу. *Жаніцьба ёсць, а разжаніцьбы няма, жонка не лапаць, з нагі не скінеш.* Сач., Д, 79.

**РАЗЛІ'ЧНІЦА** *ж.* Разлучніца (хто разлучае блізкіх адзін аднаму людзей). *Ад'язджае мой міленькі да разлічніцы ліхой.* Дуб., I, 374.

**РАЗЛІ'ШНЫ** *прым.* Вельмі прыгожы. *Есть у свети ў мене на примете разлишная краля.* Рам., БС, I—II, 108; Беліца.

**РАЗЛЯГА'ЦЦА** (разлегацца) *незак.* Раскідацца (размясціцца на вялікай прасторы, далёка адзін ад другога). *Разлегайся, зелена дуброва, штобы широка нам була дорога.* Шэйн, III, 397; Дзякавічы Маз.

**РАЗМАІ'ТЫ** *прым.* Разнастайны. *Добра пасядзець тут летнім вячэрнім часам, калі паціху згасаюць размаітыя фарбы дня.* Нав., В, 141. *Прыпарвала, і бор аж млеў ад размаітых пахаў хвоі, ягадніку, травы.* Сач., ЗМП, 13.

**РАЗМАЎЛЕ'ННЕ** (размовленьне) *н. толькі адз.* Размова. *Поеду к цесцьку к обеду, к обеду да на погуляньне, к своей Гапке на размовленьне.* Шэйн, III, 409; Дзякавічы Маз.

**РАЗМО'ВАНЬКА** (размовонька) *ж. ласк.* размова. *Уже ж бо мне косник тошниць, уже ж бо мне чепца хочется, на мою головоньку, на любую размовоньку.* Шэйн, III, 435; Дзякавічы Маз.

**РАЗМУНДЗЕ'РЫЦЬ** (размундерыть) *зак. Перан.* Адкрыць так, каб быў доступ да чаго-н. *Тогды ўзяць мазницу размундерыть и стень дятенка показать на дёхти и сказать: «Оставайтесь ношницы ў мазницы!»* Рам., БС, V, 33; Сяроўка Гом.

**РАЗМЯНЦІ'ЦЦА** *зак. Перан.* Разгаварыцца, пачаць гаварыць многа, без толку. *І хлопец не то да мяне, не то да сябе сказаў: «А я, дурны, размянціўся языком».* Саб., ЗПД, 95.

**РАЗНО'ШЧЫЦА** (разнощица) *ж.*

*Перан.* Хто адносіцца да сямейнага дабра як да чужога, не беражэ яго. *Нашим гостём не приветница, нашаму добру разнощица.* Рам., БС, I—II, 35; Гом.

**РАЗНЯГО'ДЗІЦЦА** *зак.* Выражаць крайнюю ступень абурэння, гневу. *Але ж калі ён разыдзецца, разнягодзіцца, то сарвецца пагулянка.* Сач., Д, 75.

**РАЗО'НТ :у разонт прымаць** — улічваць, прымаць пад увагу. *Той цар знов с тыа з большіа радосци став пиць и гуляць и бяседоваць з братами. А дурака яны и ў разонт ня принимаюць.* Рам., БС, III, 229; Нісімкавічы Раг.

**РАЗО'РЫНКА** *ж. памянш.* разора. *Ён ішоў узмежкамі, разорынкамі, паўз глухі хмызняк.* Лупс., ВТ, 259.

**РАЗУМО'К** *м. ласк.* разумнік (разумны чалавек). *Вышла да выбегла да Христечка, разумненькій мой разумок, просекай воконце да против солнца, чтоб було куда соловью летать, мене молодую побуждать.* Радч., ГНП, 4; Гом.

**РА'ЛЦА** *н.* Рагаціна, рагуліна. *Давай я ралцы зраблю.* Мел., V, 24.

**РАМЯНЕ'Ц** (ременец) *м. Памянш.* раменчык. *За чужое лычко ременцом плотють.* Радч., ГНП, 247; Гом.

**РА'НА-ПАРА'НЕНЬКУ.** Гл. п а р а н е н ь к у.

**РАНЕ'СЕНЬКА** (ранесенько) *прысл. ласк.* рана. *У нядзелю ранесенька бяжыць Іван к сваёй бабусеньке.* РП, 152; Ельск. *Учив мене королесенько, шоб не ехав ранесенько, хоць пріедом позно, то свое возьмем.* Шэйн, III, 432; Дзякавічы Маз.

**РА'НЯТЫ** *прым.* Паранены. *Найшоў ранятага арла, ускарміў яго, адвёў дамоў.* ЧК, I, 250; Мяркулавічы Раг.

**РАСКАЛАШМА'ЦІЦЬ** *зак.* Разграміць, разбіць (у баі). *Вось што значыць заціснуць у клешчы адну армію. Паўлюса раскалашмацілі, і фронту — хана.* Нав., СТ, 7.

**РАСКАШАВА'ЦЦА** *незак.* Расці (парасці) буйна. *Дзе і што прыхапіў агонь і яно звяла, а дзе, нягледзячы ні на што, раскашавалася, парасло.* Сач., Д, 350.

**РАСКІДА'КА** *аг.* Хто не даражыць чым-н. *Бацька наш не раскідака, беражэ іх вельмі, не абувае абы-куды без пільнай на тое патрэбы.* Сач., ЧН, 178.

**РАСКІ'ДЛІВЫ** *прым.* Пра таго, хто не кладзе рэчы на месца, а раскідвае. *Яму прыйшлося нямала прыкласці сілы, каб прывучыць да камфорту Ніну, жанчыну энергічную, прыдатную да любога жыцця, але па-сялянску стыхійную, неэканомную... раскідлівую — ніводная рэч раней не клалася, не ставілася ёю на месца.* Шам., VI, 26.

**РАСКІДУ'ХА** *ж.* Хто кладзе рэчы ў беспарадку, не на месца. *Пры ўсім жаданні бліснуць перад людзьмі, пры ўменні трымаць чысціню ў доме, была яна, як называла цётка, раскідухай.* Шам., ВТБ, 30.

**РАСКО'ХАЦЦА** *зак. Перан.* Раскрычацца. *Ну раскохалася, ну развохалася, свайму другу разжалилася.* Рам., БС, I—II, 201; Раг.

**РАСКО'ШАВАЦЦА** (раскошаватца) *незак.* Раскашоўвацца. *Там им быть, там им жить, там и раскошаватца.* Рам., БС, V, 21; Дзякавічы Гом.

**РАСКРАСА'ЎКА** (раскрасавка) *ж.* Красуня, прыгажуня. *Не плачь, девка раскрасавка, не плачь, ты, дурная.* Рам., БС, I—II, 138; Перарост Гом.

**РАСКУМЕ'КАЦЬ** *зак.* Разгадаць, уразумець. *Тады я раскумекала, што да чаго і што гэта за гліста такая ў нас завялася.* Шам., IV, 253. Параўн. с ц я м і ц ь, у ц я м і ц ь.

**РАСО'ЛАК** (росолок) *м. толькі адз. Кул.* Расольнік. *Бацюшка, встаньце, от росолку я зварыла.* БКЭ, № 14; Камаровічы Маз.

**РАСПАЛАНІ'ЦЬ** (располонить) ◆ **бадай тебе располонило** — каб цябе разарвала. *Бодай тебе, мушечка, располонило, як ты молодых жнеечек з голоду поморила.* Радч., ГНП, 59; Гом.

**РАСПА'ТЛАНЫ** *прым.* Раскудлачаны, растрапаны. *Валасы яе распатланыя.* Саб., I, 147.

**РАСПЕ'ТРЫЦЬ** *зак.* **1.** Не зберагчы, раскідаць (пра дабро). *Распетрыць можна ўмент, а нажыць — папапяцца, жылы надарваць трэба!* Мел., VI, 356. **2.** Разбіць ушчэнт, размесці. *Распетрылі ў пух, каго пабілі, каго арыштавалі, адзін Маслак, здаецца, і выкруціўся.* Мел., V, 144.

**РАСПІСА'ННЕ** (росписаніе) *н. толькі адз.* Дамоўленасць пісьмовая. *И написав записку убогому: иди ты у яго дом, живи, у яго имушаство, по вашам росписанію, як вы росписались.* Рам., БС, IV, 107; Маркавічы Гом.

**РАСПУПЫ'ШЫЦЬ** *зак.* Распусціць пупышкі. *Лаза ўжо распупышыла сваe калматыя коцікі, зазелянела першым, яшчэ не густым, кволым лісцем.* Сач., А, 36.

**РАСПЯКА'ЦЬ** *незак.* Моцна ўзбуджаць. *Злосць, непакой усё больш распякалі яго.* Лупс., ВТ, 70.

**РАССЛУ'ХВАЦЦА** (разслухаватца) *незак.* Старацца расслухаць, разабраць на слых, добра пачуць. *Став распытаватца, разслухаватца: ци ня чули дзе, ци не бачили.* Рам., БС, III, 155; Навасёлкі Раг.

**РАССУСО'ЛЬВАЦЬ** *незак.* Гаварыць шмат, з усімі падрабязнасцямі. *Я, канешне, рассусольваць не люблю, але з людзьмі невінаватымі я гавару вытрымана і ветліва.* Мел., IV, 321. *У іх калі што не так, то доўга не рассусольваюць.* Нав., СД, 317.

**РАСТАНЦЫ'** *толькі мн.* Тое, што р а з г а л к а. *Але ось на растанцох зноў пахилиўса воз дзецюка.* Серж., СРБП, 20; Лучыцы Маз. Параўн. р о с т а н ь к і.

**РАСТАРЭ'КВАЦЬ** *незак.* Разглагольстваваць. *Няма тут калі растарэкваць попусту.* Мел., VI, 31. *Ён як бы лічыць, і сам ён, і ўсё, што з ім звязана,— усё гэта самае звычайнае. Ёсць тут пра што растарэкваць.* Мел., I, 56.

**РАСТРЫБУШЫ'ЦЦА** *зак.* Раскідацца, разваліцца. *Тарас Пятровіч з цяжкасцю нагнуўся і апусціў на ваду кветкі. Хваля падхапіла іх, закружыла і панесла паўз бераг. Пучок растрыбушыўся.* Дан., Ж, 150.

**РАСТРЫВА'ЦЦА** (растрываться) *незак.* Расставацца. *Пришла тая пора — времечко с дружком растрываться.* Радч., ГНП, 231; Гом.

**РАСТУРБАВА'ЦЬ** *зак.* Устурбаваць. *Толькі растурбуеш людзей.* Лупс., ВТ, 122.

**РАСЦВЯЛІ'ЦЬ** *зак. Перан.* Раздражніць. *Ён не пад'еў, а толькі расцвяліў жывот, падняўся з-за стала.* Кап., СЖЛ, 54.

**РАСЦЯ'ЦЬ** (разцяць) I *зак.* Рассячы, разбіць. *Наша стена костена, дружку голову разцела.* Шэйн, III, 417; Дзякавічы Маз.

**РАСЦЯ'ЦЬ** II *зак.* Разняць. *Андрэй Данілавіч скрывіўся ў з'едліва-кплівай усмешцы, расцяў кулакі і забарабаніў па спінцы канапкі пальцамі.* Рак., БВ, 105.

**РАСЧА'ЦЬ** *зак.* Пачаць (рабіць што-н.). *И начав говорить сам сабе: напрасно й расчав полудновать!* Рам., БС, IV, 109; Васільеўка Гом.

**РАСЧВЯ'КЛЫ** *прым.* Па чым шмат чвякалі. *У расчвяклай, стаптанай-паратаптанай людскімі нагамі гразі ляжалі трупы.* Сач., П, 38.

**РАСЧЫНІ'ЦЬ** (разчыніць) I *зак.* Запаліць святло; развесці, раскласці агонь. *Да разчыньмо агонь, то я табе покажу свае дабро, што е ў мене.* БКЭ, № 36; Юравічы Рэч.

**РАСЧЫНІ'ЦЬ** (разчыніць) II *зак.* Рашчыніць. *Взяў хлеб раз-*

*чыніў.* БКЭ, № 9; Камаровічы Маз.

**РАЎНА'ННЕ** *н. толькі адз.* Параўнанне. *Раўнанняў тут колькі і дум для паэта на восеньскім гэтым сухім рубяжы!* Грам., В, 72.

**РАХАВА'ЦЦА** (раховацца, роховацца) *незак.* Раіцца, радзіцца. *Собиралися, раховалися: да куды ж, братцы, мы похилимся?* Рам., БС, I—II, 450; Раг. *Да й роховайса муш из жоною, Да й роховайса — госьцей надзяйса.* Д-З, ПП, 142; Красная Воля Маз.

**РАЦЭ'Я** ◆ **рацэі разводзіць** — весці павучальную размову. *Няма калі мне з табой тут рацэі разводзіць.* Губ., НКП, 384.

**РАЧАНЕ'Ц** *м. ласк.* рак. *Да ты рыбочка, ти вокунец, выдяржи ж ты, покуля выйдя твой рачанец.* Рам., БС, V, 53; Карма Гом.

**РАЧКАВА'ЦЬ** *незак.* Працаваць цяжка, сагнуўшыся. *Так я хачу — п'ю-гуляю, хачу сплю, хачу дзень-ноч рачкую — маё дзела.* Сач., ЧН, 130. *Маці разам з іншымі жанчынамі ад цямна да цямна рачкавала з капаніцай у гародзе.* Сач., П, 31.

**РАЧКА'ТЫ** *прым.* Вірлавокі, лупаты. *Сталі прыглядацца, каб пазнаць, хто такі: густая, пальцы не ўваб'еш, чупрына, тугі мардаты твар, рыжая барада і вочы, рачкатыя, чорныя.* Кап., ССА, 10.

**РВУ'ТКІ** *прым.* Які хутка рвецца (зношваецца), дрэннай якасці. *Але ж і палатно, і шарачок, якія яны ні былі моцныя, не рвуткія,— таксама не вечныя.* Сач., П, 33.

**РО'ЖА** *ж. Бат.* Ружа. *Стороною, дождик, стороною, На мою руту зелёную, На мою рожу червоную, Чтоб моя рута зеленела, Чтоб моя рожа червонела.* Радч., ГНП, 2; Гом.

**РО'ЗКА** *ж.* Розга. *Ишов, ишов, приходя ў другое сяло, ажно там молодица курицу розками сяче.* Рам., БС, III, 420; Перарост Гом.

**РОК** *м.* Год. *Едуць аны морэм тым караблём цэлы рок.* БКЭ, № 15; Камаровічы Маз.

**РО'НДЗІЦЬ** *незак.* Правіць, наводзіць парадкі. *І пачаў паніч сам рондзіць, пачаў такое рабіць, што людзям жыцця няма.* Серж., КАБП, 33; Лучыцы Маз.

**РО'СКВАСЬ** *ж. толькі адз.* Слота, хлюпота. *Вясна, росквась, ручайкі гамоняць, а іх вядуць па хлюпкім снезе босымі і раздзетымі.* Рак., В, 237.

**РО'СПІСКА** *ж.* Распіска (дакумент). *«Ваша цярское вяличаство, отдайця мою роспиcку!» — «Нема ў мяне росписки».* Рам., БС, III, 170; Мяркулавічы Раг.

**РО'СТАНЬКІ** *толькі мн. памянш.* ростань. *Тольки у повночь ти ў повдня иди на ростаньки.* Рам., БС, IV, 8; Гом. *Калі глядзець адсюль, з ростанек, з-пад ясакара, на Каралін, дык ён увесь як на далоні.* Саб., I, 194. Параўн. р а з г а л к а, р а с т а н ц ы.

**РО'СХРЫСТ** *м. толькі адз.* Месца, дзе адзенне расшпілена і расхінута. *Батура страляе з нагана тры разы. Ва ўпор, у росхрыст паркалёвай сарочкі на грудзях.* Нав., ВС, 98.

**РУБАНЕ'Ц** *м.* Палена. *Дацюкаў да канца галіну, паклаў новую і, папляваўшы ў далоні, пачаў яе палавініць на кароткія рубанцы.* Рак., СЛС, 92.

**РУКАВА'ННЕ** *н. толькі адз.* Вітанне за руку. *Горка наша ваяванне, Горка наша ваяванне, Ручкі, ножкі рукаванне, Ручкі, ножкі рукаванне.* ВП, 179; Маканавічы Рэч.

**РУКАВЕ'Ц** *м.* Рукаў. *Доехала Гапочка до венца, Сипнула золото з рукавца.* Шэйн, III, 397; Дзякавічы Маз.

**РУ'МНУЦЬ** *зак.* **1.** Увайсці куды-н. гуртам, з шумам, адразу запоўніць сабой. *Міколка на світанні пайшоў у сваю дарогу, а ўдзень і паліцыянты румнулі ў хату.* Саб., I, 308. **2.** *перан.* Хутка, адразу наступіць, запоўніць сабой. *Сіняватая асенняя смуга неяк*

*адразу пафарбавала наваколле ў цемнаваты колер, і вечар, хоць людзі яго і не прасілі, румнуў у сялянскія хаты.* Саб., II, 44.

**РУ'ЦЕНЬКА** *ж. бат. ласк.* рута. *Зеленая руценька, алентый цвет!* Шэйн, III, 424; Дзякавічы Маз.

**РУ'ЧАНЬКА** *ж. ласк.* рука. *А як улез у сені — шапку зняў I з правае ручанькі персня даў.* ЛБВ, 43; Марохарава Жытк.

**РУЧНЫ'** *прым.* Спрытны, умелы, майстэрскі. *Узела собе невехночку И ручную, рабочую, На дзело охвочую.* Шэйн, III, 421; Дзякавічы Маз.

**РЫБАЛО'ВЕЦ** *м.* Рыбалоў. *А наши хлопцы рыбаловцы Поймали жабу на болоти.* Радч., ГНП, 18; Гом.

**РЫ'БАНЬКА** *ж. зборн. ласк.* рыба. *Да пайшлі хлопцы да рыбалоўцы рыбаньку лавіці.* Б., II, 185; Бярэжцы Жытк.

**РЫЖАВІ'ЦА** *ж.* Назва хваробы па колеру хворага месца. *Скула скулица, белая белявица, рыжая рыжавица... с чаго ты узнялася.* Рам., БС, V, 91; Баршчоўка Гом.

**РЫЖО'ЦЦЕ** *аг.* Чалавек вельмі рыжы. *Глядзі, якое рыжоцце пайшло!* Шам., IV, 267.

**РЫ'НАЧАК** (рыночек) *м. памянш.* плошча. *А в коморы я воконце отчиняю И на рыночку поглядаю, По рыночку пылок гонить, Мой нелюбый танок водить.* Радч., ГНП, 3; Гом.

**РЫ'НКА** *ж.* Міска гліняная. *Дужы хлопец сядзіць за сталом у адной майцы перад рынкаю і старанна абгрызае масол.* Лупс., ВТ, 212.

**РЫ'НУЦЬ** *зак.* Кінуцца, рынуцца імкліва. *Паліцэйскія, забраўшы соль, некуды рынулі — шукаць, мабыць, самагонкі.* Нав., СТ, 349. ◆ **як у ваду рынуць** — знікнуць. *Аднак чалавек як у ваду рынуў.* Саб., I, 227.

**РЭ'ЗРУХ** *м. толькі адз.* **1.** Разруха. *У горадзе цяпер не пражывеш: там рэзрух, галадуха.* Нав., СД, 333. *У той засталіся пасля страшэннага рэзруху цалюткімі хата, хлеў, двор.* Дан., Ж, 144. **2.** Беспарадак. *У хаце Анісіма Папка быў рэзрух.* Саб., I, 272.

**РЭ'КАТ** *м. толькі адз.* Кваканне, якое злілося ў бесперапыннае гучанне. *Днём жабы кумкаюць ляніва, затое вечарам, калі ляжа на балота хісткая завеса туману, іх несціханы рэкат аж глушыць.* Нав., СТ, 149.

**РЭ'ПЯШНЫ** (репяшный) *прым.* Парэпаны. *Положитя мне выговорить уси скулы и ўси болячки... тридевъять репяшных.* Рам., БС, V, 79; Баршчоўка Гом.

**РЭЧАВІ'СТАСЦЬ** *ж. толькі адз.* Рэчаіснасць. *Яе словы вярнулі мяне да рэчавістасці.* Дуд., М, 31.

# С

**САБАЧА'РНЯ** *ж.* Сабакарня. *Тады ж быў, кажуць, драйляны дом, прасторны, увесь абкружаны кветкамі, сабачарнямі ды фермамі.* Лупс., П, 50.

**САГЛА'СНЫ** (согласный) *прым.* Дружны (калі жывуць у любві і згодзе — пра сям'ю). *Головка моя бедная — ў мене мамочка не родная, семеячка не согласная, Сами посядуть вечерати, мене молоду пошлють по воду.* Рам., БС, I, 9; Гом.

**САГРЭ'Ў** *м. толькі адз.* Саграванне. *...Вінаваты пасля доўга, нават для сагрэву ў мароз, баяўся ўжыць «паганае зелле».* Шам., IV, 469.

**САЕ'Т** *м.* Сукенка з тонкага сукна. *Праз ноч адну на цэлы свет цудоўны шые ёй сает.* Дуб., I, 324.

**САЖ** *м.* Сажалка. *Хозяин рыбной дачи или закота приезжает с неводом, половит разной рыбы в большом количестве и пускает ее в озерко, поблизости притока,*

*называемое сажем.* Эр., ОБП, 127; Брагін.

**САЖДА'ЦЬ** (сождаць) *зак.* Пачакаць. *Сожди мальчик годиночку, згоди мальчик другую.* Рам., БС, I—II, 140; Беліца.

**САЗНА'ЦЬ** (сознаць) *зак.* Пазнаць (прызнаць, распазнаць). *Тоды сяредній кажа: не, кажа, ня можа их сознаць нихто.* Рам., БС, III, 156; Навасёлкі Раг. Параўн. с п а з н а ц ь.

**САКАЛЕ'ЦЬ** *зак.* Акалець, здохнуць. *От с недзелю каняка ничого не ела, а потом сакалела.* Серж., СРБП, 98; Лучыцы Маз.

**САКАЛО'НАК** (соколоник) *м. заал. ласк.* сокал. *Леци да соколоньку Да на мою сторононьку.* Шэйн, III, 438; Дзякавічы Маз.

**САКАТУ'РКА.** Гл. к у р к а-с а к а т у р к а.

**САКАЦЕ'РЫКА** (сокотерика). Гл. к у р к а-с а к а ц е р ы к а.

**САКЛЮЧЫ'ЦЦА** (соключицца) *зак.* Здарыцца, стацца. *У Сопронаго купца соключилася беда.* Рам., БС, I—II, 155; Журавічы Раг.

**САКО'Л** *м. Заал.* Сокал. *Ён бярэ харла і сакала, садзіцца на харла, сакол асвяшчае, а харол чуе.* ЧК, I; Рудня Чач.

**САКО'ЛКА** *ж.* Майка (сарочка). *Апрануты ў сінюю палінялую саколку, на высокім металічным крэсле сядзеў юнак.* Краўч., НХП, 361. *Сашка прайшоў да будана і праз хвіліну выйшаў назад, нацягваючы на сябе чырвоную саколку.* Рак., В, 5.

**САКРАТА'РЫХА** *ж.* Жанчына-сакратар. *Сакратарысе, відаць, стала няёмка, што патурбавала такой недарэчнай просьбай заслужаную настаўніцу, і яна хуценька развіталася.* Шам., II, 381.

**САЛАДО'К** *прым.* Салодкі. *У первам кубачку — зеляно віно, У другом кубачку — кудрава піва, У трэцім кубачку — мядок саладок.* ЗП, 182; Казелуж'е Хойн.

**САЛАДО'ТА** *ж. толькі адз.* Саладосць. *Братка ты мой, яй-богу ж сняцца. Ого, такія! Саладота якая!* Шам., ВТБ, 15.

**САЛАПА'ХА** (солопаха) *ж. Абразл.* Салапяка. *Ты царица, а другая хрипуха, а третьтяя солопаха, сунимай своих слуг.* Рам., БС, V, 120; Ларышча Гом.

**СА'ЛЛЕЧКА** *н. толькі адз. ласк.* сала. *Дай пан хожаин Великий пируох, А хожаечка — Кусочек саллечка.* Шэйн, I, 95; Мелішкавічы Маз.

**САЛУЧЫ'ЦЦА** (солучицца) *зак. Перан.* Злучыцца (аказацца звязанымі адносінамі, пачуццямі). *Да ўся наша вармія ни здивилася, чія ето парочка солучилася.* Рам., БС, I—II; Алешня Раг.

**САМА'** *займ.* Адна, без дапамогі. *Яна сама осталась.* Рам., БС, IV, 108; Васільеўка Гом.

**САМАПА'С** *м. толькі адз. Перан.* Безнагляднасць, свабода. *Мужчыну пусці толькі на самапас, дык толку з яго ніякага не будзе.* Саб., I, 133.

**САМАСІ'ЛАМ** *прысл.* Саматугам. *Спытай, дзе яе чалавек, чаму гэта яна ўзяла на сябе такі цяжкі клопат — самасілам вазіць з лесу дровы.* Краўч., НХП, 414.

**САМАТУ'ЖАЧКІ** *толькі мн. памянш.* саматугам. *Дрой мы трохі на саматужачкі з лесу з Шурай прыцягнулі.* Дан., Ж, 51.

**САМАТУ'ЖКІ** *толькі мн.* Санкі саматужныя. *Саматужкі, павіскваючы палазамі, аж самі беглі, хоць на іх ляжала ладная вязка сена.* Кап., СЖЛ, 55. Параўн. с а н к і-с а м а ц я ж к і.

**САМАЦЯ'ЖКІ.** Гл. с а н к і-с а м а ц я ж к і.

**САМАХО'ЦЬ** *прысл.* Добраахвотна, па сваёй ахвоце. *Хіба немцы дурні, каб паверыць, што ён не самахоць пайшоў у лес?* Нав., ВС, 270.

**САМЕ'СЕНЬКІ** *займ. ласк.* самы. *Толькі пад самесенькую раніцу пачуўся слабенькі дзіцячы крык.* Саб., I, 281.

**САМО'ХАЦЬ** *прысл.* Міжвольна, мімаволі, самі па сабе. *А калі няма сну, думкі самохаць лезуць у галаву.* Саб., I, 146.

**СА'НКІ-САМАЦЯ'ЖКІ** *толькі мн.* Тое, што саматужкі. *Колькі бярвення — якое там бярвенне — жэрдачкі асінавыя! — прывезлі чырвонаармейцы, а рэшту Хвядора дзве зімы вазіла з лесу сама на санках-самацяжках.* Шам., ВТБ, 22.

**САНО'Т** *м.* Сенат. *Толькі цару трэба было якісь бумагі із саноту.* ЧК, II, 25; Шарахоўскія Буды Раг.

**САПЛІ'ЎЧЫК** *м. ласк.* дзіця, якое ходзіць не ўціраючы нос. *Першы ён у мяне, унучак. Першанькі! Думала, не дачакаюся ўжо — гады ж ідуць! Ды вось бог даў, дачакалася гэтага сапліўчыка.* Карш., С, 44.

**САРАКО'ЎКА** *ж.* Лік, калі за яго аснову бярэцца лічба сорак. *Колькі табе... пад дзве саракоўкі ўжо ёсць?* Рак., В, 231.

**САРАМАТАВА'ЦЦА** (соромотовацьса) *незак.* Саромецца. *Даў Бог ёй сына такого, і соромотовалосе ана годоваць пры сабе, што будуць людзі сьмеяцьса, дак пусьціла на морэ.* БКЭ, № 15; Камаровічы Маз.

**САРАЧЫ'НЫ** *прым.* Сарочын. *У вяршалінах асталіся леташнія сарачыныя гнёзды.* Лупс., ВТ, 102.

**САРО'МЛІВА** *прысл.* Сарамліва. *Янук асцярожненька прысеў на бліжнім пяньку і саромліва ўтупіўся ў зямлю.* Дуд., М., 73.

**САРПА'НАЧКА** (сарпаночка) *ж. Памянш.* да сарпанка. *А вы, приданочки, тонкіе сарпаночки, Тонкіе, беленькіе, с паперем ровненькіе.* Шэйн, III, 442; Дзякавічы Маз.

**САРПА'НКА** *ж. Ткац.* Палатно тонкае. Эр., ОБП, 113; Брагін. Параўн. серпанок.

**САСІ'ЛІЦЬ** (сосилить) *зак.* Асіліць, адолець. *Я едва яе сосилав утопить!* Рам., III, 384; Гом.

**САСМЯ'ГЧЫ** *зак.* Сасмагнуць. *Меншыя нашы — Грышка і Косцік — зусім сасмяглі, аж румзалі ўжо.* Сач., А, 91.

**САСНАВА'ННЕ** (сосованіе) *н.* Двор, сяліба. *Золотник золотый, стань на своем месте, на золотом кресли, на батьковым соснованій.* Рам., БС, V, 55; Васільеўка Гом.

**САСТРО'ІЦЬ** *зак.* Збудаваць. *Ад чаго ты састроіў на маёй зямлі горад?* ЧК, I, 250; Мяркулавічы Раг.

**САТО'НКА** *ж.* Маленькі сатана. *Тольки хоцев етыя перщаточки знять — откуль бывши, сычас сатонки дзвери позачиняли, пріўкрапили дом.* Рам., БС, III, 162; Навасёлкі Раг.

**САЦЬМЕ'ЦЬ** *зак.* Дагарэць без полымя, тлеючы. *Агонь, забыты людзьмі, хутка апаў, сацьмеў.* Мел., VI, 98.

**САЧА'К** *м. Памянш.* Сачок (адзенне жаночае). *Велікаваты, па ўсім відаць, матчын сачак сядзеў на плячах мешкавата, нехлямяжа.* Сач., Д, 164.

**САЧЫ'СТЫ** *прым. Перан.* Вільготны (пра зямлю). *Зямля сачыстая, вясковая!* Грам., В, 86.

**СВАРАЧА'ЦЬ** (сворочать) *незак. Перан.* Спакушаць. *Я калину ломала, На дорожку бросала, Дружка сворочала.* Дэмб., ООМГ, I, 587; Свяцілавічы Раг.

**СВА'ТКА** *м. ласк.* сват (той, хто сватае каго-н. каму-н.). *Сватка-соловейко щабеча раненько, а зязюля свахной и ўсе хорошенько.* Рам., БС, I—II, 214; Гом.

**СВА'ХНА** *ж.* Свацця (хто сватае каго-н. каму-н.). *Сватка-соловейко щабеча раненько, а зязюля свахной и ўсе хорошенько.* Рам., БС, I—II, 214; Гом. Параўн. свацюхна.

**СВА'ЦЮХНА** *ж.* Тое, што свахна. *А гэта будзе мая свацюхна...* ВП, 325; Чамярысы Браг.

**СВА'ШАЧКА** (свашечка) *ж. ласк.* свацця. *Да вжеж я крывса: Куны мои позмокали, А соболи позвисали, А свашечки поосипали.*

Шэйн, III, 434; Дзякавічы Маз.

**СВЕ'ТАМ** (светом) *прысл.* Вечарам, завідна. *Мы пріехали светом.* Радч., ГНП, 10; Гом.

**СВЕ'ТЛАНЬКА** (светлинка, святланка) *ж. памянш.* святліца. *Пасярод мосту светланька стаіць. А ў той светланьцы Галечка сядзіць.* ЗП, 240; Тонеж Лельч. *Повев коника до стаеньки, а Ганнусю до светлинки.* Рам., БС, I—II, 33; Раг. *А ў лесе Стаяла святланка арэхавая.* ЗП, 276; Дуброўка Гом.

**СВЁКАРКА** *м. ласк.* свёкар. *Стану я і паслухаю, што людзі гавораць, як майго свёкарка судзяць.* ЛБВ, 509; Малешаў Жытк. Параўн. с в я к р а т к а.

**СВІ'НТУХ** *м.* Хто паводзіць сябе па-свінску. *А ён, свінтух, папракае, што я ліберал, беспрынцыповы, добранькім з усімі хачу быць...* Шам., ВТБ, 118.

**СВІНЧО'** *н. толькі адз.* Парася. *Гэта ж не тое, што з вёскі: хіба навозішся таго гною за свет, а тут ці свінчо, ці курчо якое выйдзе ўвосень на загон, дык яно не толькі травінку сашчыкне, а і зямельку трошачкі ўгноіць.* Саб., I, 167. Параўн. с в і н ю ч о к.

**СВІНЮЧО'К** *м.* Тое, што с в і н ч о. *Хлеб, бульба е. Свінючка гадуем.* Нав., ВС, 321.

**СВІРО'НАК** *м.* Свіран. *Сядзіць цяпер у свіронку, пад вартай.* Сач., Д, 190. *Зайшлі мы ў адзін, у тры, у дзесяць двароў. Свіронкі поўныя збожжам.* Пал., КЗС, 9.

**СВІЦІ'НА** (свитина) *ж.* Світка. *Хоць повенчаемся, да не поровняемся: Ты в жупане, я в свитине.* Радч., ГНП, 128; Гом.

**СВО'ЙСТВА** *н. толькі адз.* Тое, што р а д з і н а. *А я і не ведаў, што ў вас якое свойства ёсць, апроч вашых хлопцаў.* Саб. БАС, 174.

**СВЯКРА'ТКА** (свекратко) *м.* Тое, што с в ё к а р к а. *Одчиняй, свекратко, ворота, едзе к тобе невехна из далека!* Шэйн, III, 420; Дзякавічы Маз.

**СВЯКРО'ЎКА** *ж.* Свякруха. *У мяне ёсць свякроўка — Будзе рана ўставаці, будзе рана абуджаці.* ЛБВ, 279; Скарына Жлоб. Параўн. с в я к р у х н а, с в я к р у ш к а.

**СВЯКРУ'ХНА** (свекрухна) *ж.* Тое, што с в я к р о ў к а. *Свекрухна каже, свекрухна каже, я с тобою, Рано з молодою.* Радч., ГНП, 38; Гом. Параўн. с в я к р у ш к а.

**СВЯКРУ'ХНАЧКА** *ж. Ласк.* да с в я к р у х н а. *А свякрухначку задушылі, задушылі, задушылі, Мяне, маладую, на волю пусцілі.* ВП, 376; Маканавічы Рэч.

**СВЯКРУ'ШКА** *ж.* Тое, што с в я к р о ў к а. *Задумала думачак больш усіх: Як мне з церама ступіць, як мне свёкарка назваць, як мне свякрушку назваць?* ЛБВ, 280; Бялёўка Чач. Параўн. с в я к р у х н а.

**СВЯЦІ'ЛІЦА** (светилица) *ж. Абрад.* Дзяўчына, якая трымае запаленую свечку, калі ўбіраюць нявесту. *Наша светилица при стене, На ей рубаха не ее, На ей рубаха сестрина.* Радч., ГНП, 106; Гом.

**СЕ'ДАЛА** *н.* **1.** Седала. *Здымі курыцы з седала.* Лупс., ВТ, 96. *У дварах пад стрэхамі, у хлявах і ў пуньках мосцяцца на седалы куры.* Лупс., ВТ, 211. **2.** *перан.* Сядзіба. *Чакаючы поезда, прыйшоў пабачыць, як ён сказаў, сваё роднае седала.* Рак., В, 164. *Адных прысылаюць, а другія самі вяртаюцца на свае старыя седалы.* Рак., В, 205.

**СЕ'ДНЕМ** :**седнем сядзець** — знаходзіцца дзе-н. пастаянна, не выходзячы, поседам сядзець. *У прарыве быў цэх шасі, чаго толькі не рабіў там дырэктар; седнем сядзеў, а работа ніяк не ладзілася.* Саб., ЗПД, 129.

**СЕ'ЙВА** *н. толькі адз.* Россып. *Калі ж падняліся на пагорак, перад вачыма разлілося цэлае сейва агнёў.* Сач., БРВ, 290.

**СЕКАНУ́ЦЬ** *зак. Перан.* Сцебануць (словам). *...Самага Астаповіча неяк секанула на сходзе, што, маўляў, занадта ён добранькі, а таму распусціў такіх п'янюг, як яе зяць.* Шам., ВТБ, 286. Параўн. сцёбнуць.

**СЕЛЯЗЕ́НЕЧКА** *м. заал. ласк.* качар. *Селязенечка — то Іванічка, Шэра вутачка — то Ганначка.* РП, 108; Раг. Параўн. селязенька.

**СЕЛЯЗЕ́НЬКА** (селезенько) *м.* Тое, што селязенечка. *Вынесла пани трех селезеньков. Первый селезенько — молодой Иван, Другой селезенько — молодой Василёк, Третій селезенько — молодой Михалю.* Радч., ГНП, 6; Гом.

**СЕМІЛЯ́НКА** *ж. толькі адз.* Семя льняное. Радч., ГНП, 13; Гом.

**СЕ́ПАЦЬ** *незак.* Тузаць, намагацца. *Воз быў цяжкі, і колькі ні сепалі яны з бацькам, каб адкінуць яго, не далі рады.* Саб., ЗПД, 59.

**СЕРАДО́ЛЬНІ** (середольні) *прым.* Сярэдні (па ўзросту). *Што в том жите перепелица вывела детей, Старшія, большія, прочь полетели, Середольнія — засиротели.* Дэмб., ООМГ, I, 527; Гом.

**СЕРПАНО́К** *м.* Тое, што сарпанка. *Нехай моя девочка дары гатуе, соколе, Мамци тонок серпанок, соколе.* Радч., ГНП, 111; Гом.

**СІВЕ́Ц** *м.* Сіўка (пра каня сівай масці). *Запрегайце сивца! Час ехаць до венца.* Шэйн, III, 397; Дзякавічы Маз.

**СІГАНУ́ЦЬ** *зак.* Скокнуць. *Не бачачы на ганку людзей, што віталіся з ім, сігануў праз пяць усходцаў на другі паверх.* Шам., ВТБ, 154. ◆ **сігануць вокам** — хутка глянуць, кінуць вокам. *Агледзеўся навокал, і толькі калі сігануў вокам на ясакар — успомніў, які сёння дзень.* Саб., I, 196. Параўн. сілікнуць.

**СІГА́СТА** *прысл.* Робячы вялікія скачкі. *Сігаста вырабляючы на снягу самыя мудрагелістыя петлі, некуды, мусіць яшчэ апоўначы, праскакаў заяц.* Сач., Д, 73.

**СІ́ДЗЕНЬ** (сидень) *м.* Чалавек без ног, паралічны. *Дай Бог нашому сидьню семеро ног.* Рам., БС, I—II, 294; Гом.

**СІЛЕ́ННА** (силенно) *прысл.* Вельмі моцна. *Ходжу, броджу, да силенно плачу, кого люблю, не побачу.* Радч., ГНП, 140; Гом.

**СІЛІ́КНУЦЬ** (силикнуть) *зак.* Тое, што сігануць. *Вол, як силикне — две вярсты! Як силикне — две вярсты!* Рам., БС, III, 63; Балотня Раг.

**СІНЕ́ЧА** *ж. толькі адз.* Сінь. *Ласкава ўсміхаўся ім, падміргваў, і густая сінеча яго журботных вачэй паступова пакарыла іх.* Рак., БВ, 157. *Белагрудыя ластаўкі кулямі выляталі з-пад кручы і, дакрануўшыся грудкамі вады, гэтак жа імкліва ўзляталі вышэй лесу, аж да самай сінечы неба.* Саб., I, 140.

**СІНЮГА́** *ж. толькі адз. Мед.* Сінюха. *Твар яе быў спаласаваны зморшчкамі, вочы ўваліліся, пад імі сінюга.* Саб., I, 40. *Бачыць увесь у маршчынках твар, вочы з мяшкамі сінюгі навокал.* Саб., ЖЗ, 112.

**СІНЯВІ́ЦА** *ж.* Назва хваробы па колеру хворага месца. *Синяя синявица, гноявая гноявица, ня тут табе ходить, ня тут табе гулять.* Рам., БС, V, 92; Кашалёва Раг.

**СІПУ́ХА** *ж.* Жанчына сіпатая. *Ты царица сипуха, а другая хрипуха, а третьтяя салопаха, сунимай своих слуг.* Рам., БС, V, 120; Ларышча Гом.

**СІРО́ТАЦЬ** *незак.* Жыць сіратой. *И скажите мойму роду, что я сиротаю, Сиротаю удовою на чужой сторонцы.* Радч., ГНП, 175; Гом.

**СІЧА́С** (сичас) *прысл.* Зараз. *Не разгартувай книги, а то я там сичас буду, и зъєм тябе!* Рам., БС, III, 74; Перарост Гом.

**СКАКУНО́К** *м. Перан.* Чалавек, які часта мяняе месца работы. *Двух загадчыкаў Тужыкаўскай школы настаўніца перажыла. Пе-*

*ражыве як-небудзь і гэтага — скакунка Селіверстава.* Дан., НД, 47.

**СКАМНІ'ЦА** *ж.* Лаўка, услон, тапчан. *У той святліцы скамніца, А на скамніцы скацерка.* ЛБВ, 403; Малая Слабодка Маз.

**СКАПЫ'ЦІЦЦА** *зак. Перан.* Ап'янець так, што ісці і спатыкацца. *Хіба я зломак які — ад аднае шклянкі скапыціцца.* Саб., І, 138.

**СКАРЭ'СЕНЬКА** (скоресенько) *прысл., ласк.* скора (хутка). *Бяжыць яна скарэсенька, Просіць бога шчырэсенька.* РП, 152. *Бежиць яна скоресенько, Просиць Бога щиресенько.* Шэйн, III, 388; Ельск Маз.

**СКАСАВУ'РЫЦЦА** *зак.* Паглядзець скоса, скасіцца. *І хоць конь скасавурыўся на такога нязвыклага конніка і рвануўся, каб не даць яму сесці, Пілiпок са спрытам вавёркі апынуўся ў сядле.* Шам., І, 55.

**СКАЧАНЕ'ЦЬ** *зак.* Адубець, скарчанець. *Але, можа, яна мяне ратавала, без яе я напэўна скачанеў бы ў першую ж ноч.* Шам., ВТБ, 98.

**СКВІЛ** *м. толькі адз.* Скогат. *Узняўся тут страшэнны сквіл.* Дуб., І, 403.

**СКЕ'ПКА** *ж.* Трэска. *То ана ўхопіць яку скепку, ды мышку бье.* БКЭ, № 13; Камаровічы Маз.

**СКІДА'ЦЦА** *незак.* да с к і н у ц ц а. *Ах, міла мая, не ўважай на гэто, што я так скідаюсе.* БКЭ, № 19; Камаровічы Маз.

**СКІ'НУЦЦА** *зак.* Ператварыцца (у што), пераварочвацца (у каго). *Пойдем, сестра, у темный лес, да скинемся травою, Што братынька с сестрою!* Дэмб., ООМГ, І, 538; Гом. *Яны як прыляцяць, адвяжуць крылля, скінуцца дзявіцамі і стануць купацца.* ЧК, І, 252; Мяркулавічы Раг. *А он, як гэтые купцы паехалі, скінуўсе галубцом і палецеў за імі.* БКЭ, № 38; Ужынец Рэч.

**СКІПЕ'ЦЬ** *зак. Перан.* Памерці, загінуць ад нажавой раны, вакол якой кроў спяклася. *Разбойник кричить: «Не кажи, а то скипиш на ножи».* Рам., БС, І—ІІ, 28; Яроміна Гом.

**СКЛАД** *м.* Выдумка. *Дак я кажу, што песні правда, а сказки склады, а ён говора, што сказки правда, а песни склады.* Рам., БС, IV, 115; Доўск Раг.

**СКЛІ'ЗЕНЬ** *м. Перан. пагард.* Слізняк (пра чалавека бязвольнага, нікчэмнага). *«Склізні!» — пагардліва скрывіўся Хрол.* Мел., VI, 133.

**СКЛІЗО'ТА** *ж. толькі адз.* Макрата, калі ўсё пакрываецца слізззю. *І гніла ў склізоце бульба, захлыналіся аўсы.* Дуд., С, 77.

**СКМЕ'ЦІЦЬ** *зак.* **1.** Заўважыць, убачыць, прыкмеціць. *Яна адразу скмеціла на Алесевым ілбе гузяку і закрычала.* Саб., II, 43. **2.** Скеміць. *«Я не маю чаго расказваць»,— скмеціў Рыгор, куды хіліць следчы.* Саб., І, 214.

**СКНА'РЫ** *прым.* Скнарлівы, скнарны, скупы. *Няхай і кажуць на вёсцы, што яна і скнарая, і сварлівая.* Лупс., ВТ, 89.

**СКО'КАЦЬ** *незак.* Скакаць, танцаваць. *Я ж маладзенька, Плешчу, скочу, Толькі свае грушкі Хочу.* ДФ, 451; Тонеж Лельч.

**СКРУХЛІ'ВЫ** *прым.* Тужлівы, журботны, поўны скрухі. *Недзе з таго, другога канца, таксама чуліся такія ж скрухлівыя ўздыхі гармоніка.* Сач., Д, 425.

**СКРУ'ЧАЦЬ** *незак.* Адкручваць (круцячы адломваць). *Ну, Міша, дык скручай вярхушкі.* КЖЧК, 163; Азяраны Раг.

**СКРУШЫ'ЦЬ** *зак.* Засмуціць, замаркоціць. *Здраствуй, здраствуй, да мой зяцюхна. Ты ссушыў, скрушыў маю дзяціну.* ВП, 237; Гом.

**СКРЫ'ГАЛЬ** *м.* Скрыль. *Адкалупнуўшы відэльцам са дна чыгунка і паклаўшы на талерку свой ласунак — добра падсмажаныя, пратлушчаныя бульбяныя скрыгалі, Іван сказаў: «Яшку Качанка пракацілі на вараных».* Шам., ВТБ, 237.

**СКРЫГІТА'ЦЬ** *незак.* Пішчаць.

*Скрыгічуць свине ў свинюшнику, аж дзверы грызуць.* Серж., СРБП, 52; Лучыцы Маз.

**СКРЫПЕ'ЛЬ** *м. Перан.* Пра чалавека старога, які не жыве, а скрыпіць, драхлее, становіцца лядашчым. *«Дабегайся, стары скрыпель»,— насмешліва паспеў падумаць Апанаска.* Дан., ЗА, 59.

**СКУГІТА'ЦЬ** *незак.* Кугакаць, крычаць (пра саву). *Сова скугиче, дед бабу кличе.* Радч., ГНП, 114; Гом.

**СКУЛЯНІ'ЦА** *ж. Мед.* Скула. *А скула ж ты скуляница и синяя муравица, жовтая жавтовица и белая бяловица.* Рам., БС, V, 90; Карма Гом.

**СКУПЯРДЗЯ'Й** *м. Груб.* Чалавек скупы, скнарлівы. *Жандар усміхаецца, ляпае Гвазда па плячы, але грошай, скупярдзяй, адвальвае не густа.* Нав., СТ, 32. *Скупярдзяі нямецкія, за такую галаву — такія грашы.* Шам., IV, 467.

**СКУ'ЧНЕНЬКА** (скучненько) *прысл. ласк.* сумна, маркотна. *Прилецев соловейко, Сев на дому: «Ой скучненько мне самому».* Шэйн, III, 434; Дзякавічы Маз.

**СЛА'БІНКА** *ж. толькі адз.* Слабасць, недахоп, слабая струнка. *Зубаскал Хведзька знайшоў слабінку, праходу не дае.* Шам., ВТБ, 17.

**СЛА'ВАНЬКА** (славонька) *ж. толькі адз. ласк.* слава. *Да вже той добраноч на ввесь век, А славонька пошла на ввесь свет.* Шэйн, III, 437; Дзякавічы Маз.

**СЛАВЕ'ЧНА** (словечно) *прысл.* Вусна. *Сталі аны словечно спрашываць.* БКЭ, № 28; Камаровічы Маз.

**СЛЕМАЗА'РНЫ** *прым. Перан.* Убогі, варты жалю, слёз. *От, раз засыпае бедны ў кадушку жыто, якое слемазарнае Бог даў.* Серж., СРБП, 38; Лучыцы Маз.

**СЛЕ'ПЕТ** *м.* Дзікія пчолы. *Хадзілі на паляванне, лавілі рыбу, дралі слепет — дзікіх пчол, якіх было тады ў лесе не менш за аваднёў.* Сач., П, 12

**СЛЁЗНАСЦЬ** *ж. толькі адз.* Слязлівасць. *І толькі дома, за сталом, калі выпіў другую чарку і стаў да слёзнасці добрым — чуллівасць да сына ўжо не ўмясцілася ў ім.* Кап., СЖЛ, 8.

**СЛІ'ЧНЫ** *прым.* Прыгожы, прывабны. *Там ходила слична панна Марусичка.* Рам., БС, VII, 24; Гом.

**СЛО'ВЕЧКА** *н. Ласк.* Славечка. *Ох и брат брата седла просить; За седло, братка, я ни словечка, ни полсловечка.* Радч., ГНП, 47; Гом.

**СЛО'НЦА** *н. толькі адз.* Сонца. *Отчини, матулька, воконца, Вязём табе нявестку, як слонца!* Рам., БС, VII, 36; Гом.

**СЛУЖБА'К** *м. Пагард.* Паслугач. *Калодзежны на судзе быў, калі іх судзілі, фашысцкіх службакоў...* Шам., ВТБ, 225.

**СЛУХМЯ'НЕНЬКІ** *прым. ласк.* слухмяны. *Яна беленька, румяненька, румяненька, На работачку слухмяненька, слухмяненька.* ВП, 148; Клятна Карм.

**СЛУХНЯ'ВЫ** *прым.* Слухмяны. *А я молодая слухнявая, свойго свекорку послухала.* Радч., ГНП, 8; Гом.

**СЛЫ'ШКА** *ж.* Чутка. *Пришла слышка из Аршавы, што милаго ўбито.* Рам., БС, I—II, 30; Гом. *Нам слышки идуть, што коли б хто вылячив, то б король приняв яго к сабе упримы!* Рам., БС, III, 324; Гом.

**СЛЯПУ'ЮЧЫ** *дзеепрысл.* Усляпую. *Ён повзав, повзав по востирову, и сляпуючи забивса под дуб у кореньня.* Рам., БС, III, 324; Гом.

**СМАКАТА'** *ж. толькі адз.* Пра што-н. вельмі смачнае. *«Ох і мацунак, ох і смаката!» — захапляўся цешчыным напіткам Гаўрош.* Саб., I, 137. *І ўсё было такое смачнае, што за вушы, здаецца б, не адцягнуў ад такой смакаты.* Саб., I, 106. Параўн. с м а к о ц ц е, с м а ч н а т а.

**СМАКО'ТНЫ** *прым.* Смачны. *Яна разварылася так, што, здаецца, вось-вось рассыплецца на смакотныя кавалкі.* Палт., КС, 26.

**СМАКО'ЦЦЕ** *н. толькі адз.* Тое, што с м а к а т а. *От смакоцце будзе.* Кап., СЖЛ, 34. Параўн. с м а ч н а т а.

**СМАЛЯНУ'ЦЬ** I *зак.* Выстраліць. *Пры першым жа зручным выпадку падапрэ пад кулі. А то і смаляне ў спіну.* Нав., СД, 346.

**СМАЛЯНУ'ЦЬ** II *зак. Перан.* Пасняшацца. *Глядзіце. Пабіраха як смалянула.* Лупс., ВТ, 10.

**СМАРКА'Ч** *м.* **1.** *абразл.* Сапляк. *«Маўчы,— кажу,— смаркач, усю музыку мне сапсуеш».* Лупс., ВТ, 156. **2.** *заал. жарг.* Ёрш. *Рыгор першы злавіў невялікага «смаркача» — ярша.* Лупс., ВТ, 165.

**СМАЧНАТА'** *ж. толькі адз.* Тое, што с м а к а т а. *Боршч паравау, і Анісім на ўсе грудзі ўдыхаў хатнюю смачнату!* Саб., І, 326. Параўн. с м а к о ц ц е.

**СМЕРЦЯВО'З** *м.* Бамбардзіроўшчык. *Дзесьці крояць смерцявозы неба — слёзы мацярынскія ім трэба.* Смаг., К, 19.

**СМЕ'ТНІШЧА** (сметнище) *н. толькі адз.* Сметнік. *По сметницу ходили, теляжочки збирали, дружак даровали.* Рам., БС, І—ІІ, 342; Гом. *Алёнка замяшая Иваньку одного теста, да понясе бытто Иваньку, да на сметнищи выкиня.* Рам., БС, III, 265; Перарост Гом.

**СМЕХАТУ'РА** *ж. толькі адз.* Смяхоцце, смехата. *Глянь на Ваську. Смехатура!* Крауч., НХП, 527.

**СМЕ'ШАЧКІ** *толькі мн. ласк.* смешкі. *Добрыя смешачкі, Міцька.* Лупс., ВТ, 13.

**СМУРО'ДАВЫ** (смуродовый) *прым.* Парэчкавы. *И стоить на им три кусты: куст калиновый, куст смуродовый и куст супщиновый.* Рам., БС, III, 151; Гарадзец Раг.

**СМЯЛЯ'КА** *аг.* Смяльчак. *Маўляў, бачыце, які я смяляка?* Гам., ША, 110.

**СМЯРЦЕ'ННЫ** (смяртенный) *прым.* Балючы. *Суставы помазать на руках и на ногах, и темя и небо: смяртенный зуб и отойдя.* Рам., БС, V, 86; Целяшы Гом.

**СМЯЮ'Н** *м.* Рагатун, чалавек смяшлівы. *Гэта ўсё адно, што пажаніць нашу лапатуху Хадоссю са смеюном Нічыпарам.* Саб., ЖЗ, 9.

**СНЕД** *м. толькі адз.* Дошка альбо венік з саломы ці прутоў, якімі закрываюць на зіму паз, шчыліну (у вуллі). *Выняли ены з улья снед и доўжэнь,— аж шаршни як высыплюць з вулья да пачнуць их кусаць.* Серж., СРБП, 58; Лучыцы Маз.

**СО'БСКІ** *прым.* Свой. *А собскіх кароў дык ім і не карціць глядзець.* Саб., І, 107.

**СО'ВІСЛІВЫ** *прым.* Сумленны. *Ды яшчэ ж яна совіслівая вельмі, наша Ева.* Палт., КС, 43.

**СО'ЙСКАВАЦЬ** *зак.* Даведацца, дазнацца. *Ёсць такій чаловек, што пришов сойскаваць, зачим ты по чужих землях крадзеш дзевок.* Рам., БС, III, 159; Навасёлкі Раг.

**СО'ЎГАЦЦА** *незак.* Хадзіць узад і ўперад. *Я і то ўжо ўвесь твой верш вывучыла, хоць і соўгалася з хаты на двор.* Дан., Ж, 19.

**СПАВІВА'ЛА** (сповивало) *н.* Спавівач. *Да нехай идзе, да нехай несе сповивало дзицяци.* Шэйн, III, 435; Дзякавічы Маз. Параўн. с п а в і в а н к а.

**СПАВІВА'НКА** *ж.:* **вылузацца са спавіванкі — 1.** станавіцца больш самастойным (пра дзіця, якое ўжо не спавіваюць). *За зіму маленькі Максімка вылузаўся са спавіванкі і пачаў рачкі поўзаць па падлозе.* Саб., І, 282. **2.** *перан. неадабр.* пра з'яву (звычайна адмоўную), якая мінула ўнутраную стадыю развіцця. *Вылузаўся са спавіванкі фашызм і адразу ж ашчэрыў ікластыя зубы драпежніка.* Саб., ЗПД, 9.

**СПАГАДЗЯ'**: **трохі спагадзя**—трохі счакаўшы. *Трохі спагадзя адчыняюцца дзверы.* Сач., Д., 219.

**СПАДА́Р** *м.* Гаспадар. *Ва ўсіх у нас адзін цяпер плацельшчык, адзін спадар.* Пал., КЗС, 38. Параўн. хаджаін, хажаін.

**СПАДЗЕ́ЎКА** *ж.* Спадзяванне. *Спадзевак на якую палёгку ні ў кога не было.* Саб., I, 190. Параўн. спадзяванак, спадзяванка.

**СПАДЗЯВА́НАК** *м.* Тое, што спадзеўка. *І яна б тады мела хоць маленькае маральнае права на спадзяванак.* Саб., БАС, 114. Параўн. спадзяванка.

**СПАДЗЯВА́НКА** *ж.* Тое, што спадзеўка. *Але, як той казаў, чалавек спадзяецца, а спадзяванка ад яго ўцякае.* Саб., БАС, 147. Параўн. спадзяванак.

**СПАЗНА́ЦЬ** (спознаць) *зак.* Тое, што сазнаць. *Есть у его ясный дом, Выпустив 700 соколов; Угадай жа, спознай, Который твой.* Дэмб., ООМГ, I, 530; Гом.

**СПАЙМА́ЦЬ** (споймати) *зак.* Злавіць. *И быв у их кот, старый, што ня ўздолея и мыш споймати.* Рам., БС, III, 34; Гом.

**СПАЙША́ЦЬ** (спойшаць) *незак.* Пайсці. *Спойшала ана ў гору.* БКЭ, № 1; Маз.

**СПАКІДА́ЦЬ** (спокидаць) *незак. да* спакінуць. *Што один у мене дружок разлюбезный — да й той спокидае.* Рам., БС, I—II, 80; Гом.

**СПАКІ́НУЦЬ** (спокинуць) *зак.* Пакінуць. *Жаль, жаль мне тебе — спокинеш ты мене.* Рам., БС, I—II, 2; Беліца.

**СПАКУ́ЧАНЫ** *дзеепрым.* Змучаны, змардаваны, хто спакутаўся. *Стаялі спакучаныя людзі ў выдзеўбаных драўляных ступаках, з галодным бляскам у вачах.* Дан., ЗА, 30.

**СПАЛЯВА́ЦЬ** (сполёваць) *зак.* Упаляваць. *Якій ето жэрэбец! Гэто мой заяц, што я сам сполёваў.* БКЭ, № 8; Камаровічы Маз.

**СПАНТАЛЫ́ЖАНЫ** *дзеепрым.* Збіты з панталыку. *А я быў сапраўды спанталыжаны незвычайнасцю абставін, нейкай ціхай нахабнасцю дзяўчат.* Саб., II, 140.

**СПАНТАЛЫ́ЧЫЦЬ** *зак.* Збіць з панталыку. *Там ішла барацьба ціхая, зацятая, там трэба было хітраваць, каб ашукаць, спанталычыць ворага.* Саб., I, 243.

**СПАРАДЗІ́ЦЬ** (спородиць) *зак.* Нарадзіць. *Спородила мене мати рано у сыбботу, Да дала мине горку долю на мою сухоту.* Радч., ГНП, 226; Гом. Параўн. справзвесці.

**СПАСАБНЕ́Й** *прысл.* Зручней. *От так, хлопча, спасабней будзе.* Саб., II, 56.

**СПАСЦЯРО́ЖЛІВА** *прысл.* З асцярогай. *Антон спасцярожліва пакасіўся на буравога майстра.* Дан., ЗА, 201. *«Ён паправіцца?» — трывожна шапнуў Сяргей, спасцярожліва зірнуўшы на Аню.* Мел., I, 171.

**СПАСЦЯРО́ЖЛІВАСЦЬ** *ж. толькі адз.* Асцярога, апаска. *І ў Яўхіма якая любоў, калі ў той любові не столькі дабраты, колькі крыўды і спасцярожлівасці.* Мел., VI, 45.

**СПА́ТАЧКІ** (спаточки). Спаць. *Не умывшись, не чесавшись да и в поле пошла. Не доходячи до постати, спаточки легла.* Радч., ГНП, 57; Гом.

**СПАТО́ЛІЦЦА** *зак.* Прагнаць смагу. *Спатоўліўшыся, конь ускінуў галаву і фыркнуў.* Мел., II, 256.

**СПАТО́ЛЬВАЦЦА** *незак.* Здавольвацца, суцішыцца. *Б'ючы, ён не толькі не спатольваўся, а шалеў яшчэ больш.* Мел., VI, 270.

**СПА́ТРАШЫЦЬ** (спатрошиць) *зак.* Загубіць. *Вот и хотела яна брата спатрошиць.* Рам., III, 64; Балотня Раг. Параўн. страбіць, страціць у 1 знач., убэйдарыць.

**СПАТУХА́ЦЬ** (спотухаць) *незак.* Тушыць. *Было у месячки три братцы: один зоры спотухая.* Рам., БС, V, 16; Вылеў Гом.

**СПАХАПІ́ЦЦА** *зак.* Схамянуцца. *А потым спахапілася і прапанавала: «Праходзьце ў хату, праходзьце».* Саб., I, 24.

**СПАХАПЛІ'ВА** *прысл.* Паспешліва, хапатліва. *Паліцаі ж нешта вельмі заварушыліся былі, сяло наша пачалі спахапліва кідаць, уцякаць у мястэчка.* Сач., Д, 374.

**СПЕ'ЙКАЦЬ** *зак.* Спапяліць, знішчыць. *Вось немцы і спейкалі сяло.* Сач., Д, 418.

**СПЕ'ШЛІВА** *прысл.* Паспешліва. *Ішлі па вуліцы людзі, адны — павольна, другія — спешліва.* Шам., IV, 267.

**СПІРА'ЦЦА** (спірацьса) *незак.* Упірацца, натурыцца, упарціцца. *Хацелі тые хлопцы пабраць ізо рта, ана спіраласе, не давала.* БКЭ, № 7; Камаровічы Маз.

**СПЛА'КАНЫ** *дзеепрым.* Праплаканы. *З прыплюшчаных сплаканых вачэй яго каціліся слёзы.* Саб., БАС, 21.

**СПЛАЦІ'ЦЬ** *зак.* Заплаціць. *Сплацілі аны попу трыццаць карбованцоў.* БКЭ, № 5; Камаровічы Маз.

**СПО'ДНІКІ** *толькі мн.* Штаны сподния. *Сам даглядай, сам вары і сам сподні́кі сцірай.* Шам., I, 419.

**СПО'ЛАХ** *м. толькі адз.* Спалох. *«Косця, што гэта робіцца»,— шаптала яна ў сполаху.* Сач., БРВ, 255. *Ганна, збялелая ад сполаху ды трывогі, ня ведала, што рабіць.* Дуд., М, 35.

**СПО'РАВАЦЦА** (споровацца) *незак.* Спрачацца. *Споровались, споровались, и пошли к судьде на суд.* Рам., БС, IV, 115; Доўск Раг. Параўн. с п о р а в а ц ь.

**СПО'РАВАЦЬ** *незак.* Тое, што с п о р а в а ц ц а. *Споравалі, споравалі і сучынілі між сабой драчу.* ЧК, I, 245; Мяркулавічы Раг.

**СПО'РКА** *ж.* Спрэчка. *Зделав спорку до молодицы, што нема в ведре водицы.* Рам., БС, III, 435; Беліца Гом. *Зноў здзелалі між сабой спорку за трэцюю частачку зерня.* ЧК, I, 245; Мяркулавічы Раг.

**СПО'РНЕНЬКА** *прысл. ласк.* спорна. *І Дзімка рады быў — завязе спорненька вязку на кірмаш, не вельмі стоміцца і рана дамоў вернецца.* Кап., СЖЛ, 55.

**СПРАВУ'НАК** *м.* Тое, што спраўлена: куплена або інакш нажыта. *Старым, маўляў, ніякіх справункаў не трэба, няхай яны, маладыя, лепш пра сябе ды пра сваіх дзяцей дбаюць.* Саб., ЗПД, 4.

**СПРАДА'НЕ** *н. толькі адз.* Продаж. *Ены пытаюць, ци нема чаго да спраданя.* Серж., СРБП, 98; Лучыцы Маз.

**СПРАЗВЕ'СЦІ** (спрозвесци) *зак.* Тое, што с п а р а д з і ц ь. *Нас матушка спрозвела, щоб нас парочка була.* Рам., БС, I—II, 40; Гом.

**СПРАМО'ГА** (спромога) *ж. толькі адз.* Магчымасць. *«Сколько ж, бабушка, грошай треба?» — «А як твоя спромога».* Шэйн, III, 384; Ельск Маз.

**СПРАМО'ГЦІСЯ** (спромогцися) *зак.* Сабрацца з сілай. *Як пойду я да горелочки пити, Як замкнули да воротечки дети, Ой я ще спромогуся, через баркан да и перевалюся.* Радч., ГНП, 146; Гом.

**СПРАЦІЎЛЯ'ЦЦА** (спрацівляцьса) *незак.* Супраціўляцца. *Ана спрацівляецса, не хочэ, сподзеваецса попа.* БКЭ, № 16; Камаровічы Маз.

**СПРАЧА'ЛЬНІК** *м.* Хто ўступіў у спор, палеміст. *Усе ведалі, і сам ён ведаў гэта, адзін ён здольны разблытаць многія спрэчныя пытанні, толькі з яго думкай могуць згадзіцца непрымірымыя спрачальнікі.* Шам., II, 207.

**СПРЭ'ЖДА** (спрежда) *прысл.* Спярша. *Спрежда кожа на их была утэтакая, як нохти, а посьли того зделалась утэтакая, як и тяпер.* Рам., БС, VI, 3; Вылеў Гом.

**СПУСТАВА'ННЕ** *н. толькі адз.* Спусташэнне. *Сэрца крывёю аблілося, калі ён яшчэ ад ветракоў угледзеў спуставанне: абапал шляху стаялі абгарэлыя каміны, ды на вогнішчах вецер закручваў віхурчыкі попелу.* Саб., ЗПД, 48. Параўн. с п у с ц е л а с ц ь.

**СПУСТО'ЎВАЦЬ** *незак.* Спустошваць, спусташаць. *Хіба ўжо ў цябе і сілы нестае, хіба ты ўжо зломак які, каб даць спустоўваць усё сваё селішча.* Саб., II, 112.

**СПУСЦЕ'ЛАСЦЬ** *ж. толькі адз.* Тое, што с п у с т а в а н н е. *Жахлівая спусцеласць і руіны здаваліся не такімі страшнымі.* Мел., II, 432.

**СПЫН** *м. толькі адз.* Супынак. *Але на ўсё ёсць спын, і сёння час расплаты!* Грам., В, 146.

**СПЯВУ'Н** *м.* Спявак. *Старыя яшчэ і цяпер памятаюць, як ён часам улетку наязджаў у Гарнастаеўку. Спявун быў найлепшы.* Саб., I, 21.

**СПЯВУ'ХА** *жан. да* с п я в у н. *Яшчэ яго нябожчыца-маці была гэтакая спявуха, што, бывала, як заспявае ў полі, то немаведама каго слухаць — жаваранка ці яе.* Саб., I, 191.

**СПЯКО'ТЛІВЫ** *прым.* Спякотны вельмі. *Надвор'е было спякотлівае.* Саб., ЖЗ, 144.

**СПЯЛІ'ЦЬ** *незак.* Выспяваць, паспяваць, даспяваць. *Калі глядзіш з вышыні кручы, дык здаецца, што то і не людзі ляжаць, а нехта нараскладаў спяліць вялікія жаўтабокія гарбузы.* Саб., I, 149.

**СП'ЯНЕ'ЛЫ** *прым.* Ап'янелы; захмялелы. *Слова яе для ганарыстых, незалежных, сп'янелых маракоў — яе камандзірскі загад.* Шам., V, 256.

**ССІ'ЛЬНІЧАЦЬ** *зак.* Згвалціць. *Баіцца, каб немцу якому на вока не трапіць. Ссільнічаюць, а напаследак яшчэ і прыстрэляць.* Сач., Д, 212.

**СТАГАВА'ЦЬ** *незак.* Кідаць сена ў стог. *«Сена апошняе стагуем, хаця б управіцца»,— растлумачыў ён.* Дан., МП, 5.

**СТА'ДНІК** *м.* Бугай, бык. *Раз'юшаны стаднік, бугай, прыпёр хлопчыка да дуба.* Крауч., НХП, 10.

**СТА'ЕНЬКА** (стаинка) *ж. памянш.* стайня. *Ен на стаеньке стаяў, у глазы сена не відаў.* ДФ, 319; Чорная Рэч. *Ах, невесточка и лебёдочка наша, Его ж коничек на стаинцы.* Дэмб., ООМГ, I, 586; Гом.

**СТАЙЛАВА'ЦЬ** *незак.* Ставіць у стайню (пра коней). *Бог цябе заве, дар табе дае, Дар табе дае. коні стайлуе, Стайлуе коні на тры стайненькі.* ЗП, 221; Тонеж Лельч.

**СТАЛАВА'ЛЬНЯ** *ж.* Сталовая. *На вуліцы, у сталавальні і нават у аўдыторыі перад выкладчыкамі, мае рухі сталі паважныя.* Лупс., П, 96.

**СТАЛЕКТА'ЦЬ** *зак.* Стаптаць. *Перамяшае з зямлёю буракі, моркву і гуркі, так іх сталектае, так спустошыць, што і звання не астанецца.* Сач., Д, 352.

**СТАЛЕ'Ц** (столец) *м.* Столак, услон. *Упав гребенец под столец.* Радч., ГНП, 105; Гом. Параўн. с т а л о к, у с л о н е ц.

**СТАЛО'К** *м.* Тое, што с т а л е ц. *От яны і пайшлі, пасядалі на залезныя сталкі.* ЧК, I, 231; Маз. Параўн. у с л о н е ц.

**СТАЛО'ЎНІК** *м.* Сталаўнік, хто сталуецца ў каго-н. *У свайго сталоўніка гаспадыня толькі спытала, адкуль ён і колькі прабудзе на возеры.* Нав., ТЮ, 165.

**СТАЛЯНЫ'** (столяны) *прым.* Стальны. *Ён сапог об сапог обколачавае, сталяну стралу заражувае.* Рам., БС, I—II, 132; Беліца. *Да вдарили девочки Крепко, громко в ладошки, В золоти перстинки, В столяны подковки.* Шэйн, I, 175; Гом.

**СТАНАВІ'ЦЬ** (становиць) *незак.* Будаваць. *Тоды цар узяв дом становиць.* Рам., БС, III, 155; Навасёлкі Раг.

**СТАНІ'ЦА** *ж.* Стайня. *Да ци дома, дома яго сыночик? Да сами ж мы знаем, што ён дома, У новой станицы кони сядлае.* Шэйн, I, 79; Гарволя Рэч.

**СТАРАЖА'К** (сторожак) *м.* Сторaж. *Сторожак етый пытаетца у яе: чаго ты плачеш?* Рам., БС, III, 164; Навасёлкі Раг.

**СТАРО'ЖА** *ж.* Варта. *У майго таточкі тры старожачкі: Першая старожа — сам татка на куце,*

*Другая старожа — братка ў парозе, Трэцяя старожа — мамка ў каморы.* ПНСА, 24.

**СТАРО'ЖКІ** *прым.* Чуткі, насцярожаны. *І будзе сядзець каля яго цалютку ноч — пільнаваць старожкі салдацкі сон...* Дан., Ж, 180.

**СТАРО'ЖНЯ** *ж.* Прылада рыбалоўная. *Будзем там загараць і купацца, падарожнічаць на чоўне па ціхай Прыпяці, паляваць утраіх з адной стрэльбай на качак, ставіць старожні на шчупакоў.* Краўч., НХП, 554.

**СТАРО'НАНЬКА** (стороненька) *ж. ласк.* старана, край. *Леци, леци да соколоньку Да на мою сторононьку, Кажи, кажи да вестоньку, Що везомо да невестоньку.* Шэйн, III, 438; Дзякавічы Маз.

**СТА'РСЬКІ** *прым.* Старэчы. *Так жа и змый и отби з раба божаго уроки, приговоры и уси тыи и параполохи, и старськія и бабськія.* Рам., БС, V, 18; Красная Буда Гом.

**СТАРЦАВА'ЦЬ** *незак.* Жыць у галечы. *А сёлета давядзецца з самай восені старцаваць.* Саб., І, 185. // Жабраваць. *Убачыўшы, што далей цярпець няма як, бацька ў горад падайся — старцаваць... можа, хто дасць, што яму трэба.* Сач., П, 48.

**СТАРЧАКАВА'ТЫ** *прым.* Крыху старчаком. *Яна вывела Мітрафанку ў сенцы, абмыла над цэбрам твар, умурзаны ў вішні, прыгладзіла жорсткай далоняй старчакаваты віхор на галаве.* Саб., ЗПД, 50.

**СТАЎБУ'Н.** Гл. ш а п к а-с т а ў б у н.

**СТАЯ'ЦЦА** *незак.* Правесці час стоячы. *Ну, як табе тут стаялася?* Саб., І, 17.

**СТО'ГЕНЬКА** *ж. ласк.* стог. *За белым березником Никипор пойму косиць, Да ў стогеньку носиць.* Шэйн, III, 401; Дзякавічы Маз.

**СТО'ЙБІШЧА** *н.* **1.** Стойла. *Ты ж сам адвёў там месца для кароўяга стойбішча, неразумная лясная галава.* Нав., В, 148. **2.** Стаянка. *Штоночы адпраўляюцца групы да чыгункі. Іх бадай болей, чым тады, калі атрады не пакідалі стойбішчаў.* Нав., СТ, 46.

**СТО'ЛЬНІЦА** *ж. Буд.* Сталяніца. *Улез адзін на столь, узяў стольніцу і ўсунуў туды галаву.* ЧК, І, 255; Мяркулавічы Раг.

**СТРАБІ'ЦЬ** *зак.* тое, што с п а т р а ш ы ц ь. *Прибегла яна к змею и кажа: вот, едя сюды Гром, то я боюсь: коли б ён тябе ня страбив.* Рам., БС, III, 223; Гом. *Твоя сястрица, моя зовица страбила индыка!* Рам., БС, III, 286; Гом. Параўн. с т р а ц і ц ь у 1 знач., у б э й д а р ы ц ь.

**СТРАВІ'ЦЬ** *зак.* Атруціць. *Не довольно того, што дзяржав, дак двюх коров стравив на ём.* Рам., БС, III, 165; Мяркулавічы Раг.

**СТРАЖДА'ЦЬ** (стражджаць) *незак.* Пакутаваць, мучыцца. *Я кольки страждав, а слова не сказав.* Рам., БС, IV, 14; Чабатовічы Гом. *Хуць вик, гувора, буду стражджаць, а братуў своих буду шукаць.* Рам., БС, III, 329; Азяраны Раг.

**СТРАКА'НЫ** *дзеепрым.* Насланы ў час сустрэчы (пра хваробу). *Так жа и змый и отби з раба божаго уроки, приговоры и уси тыи и параполохи, и старськія и бабськія, и насыланыя и стракaныя.* Рам., БС, V, 18; Красная Буда Гом.

**СТРАЛЕ'Ц** *м.* Стралок. *Ой на туом сельцэ На Михайлоўцэ Все хлопцэ стрэльцэ, Меюцца козыньку Убиць, застрэлиць.* Шэйн, І, 95; Мелішковічы Маз.

**СТРАМІ'ЦЬ** *незак.* Сарамаціць. *Дам табе, Марина, коня вороного, Не страми, Марина, мене молодого.* Радч., ГНП, 152; Гом.

**СТРАМО'ВІНА** *ж.* Вывapачанае з корнем дрэва. *Ня параступай у леси чараз страмовину, выворот, што вихор поваляв.* Рам., БС, V, 3; Гом.

**СТРАХО'ТА** *ж. толькі адз.* Страх,

страхата. *Дак во страхоты там було.* Рам., БС, IV, 10; Гом.

**СТРАХО'ТНЫ** *прым.* Страшэнны, ад якога бярэ страх. *Якая кароткая ростань ноччу ў Мінску, у страхотным бляску пажараў!* Мел., I, 134.

**СТРАЦЕ'НЕ** *н.* Страта. *Да той ацец, по страценю жонкі і сыноў з ее сестрыцу, дай жывуць.* БКЭ, № 38; Ужынец Рэч.

**СТРА'ЦІЦЬ** *зак.* **1.** Тое, што с п а т р а ш ы ц ь. *А як жа мне не скучать: у твое мачихи сяньни большая бяседа; хоча яна тябе стратить.* Рам., БС, III, 143; Гом. Параўн. с т р а б і ц ь, у б э й д а р ы ц ь. **2.** *перан.* Застацца без каго-н. (калі памірае хто-н.). *А там жана мужа стратила, А стративши, у нову горницу внесла.* Дэмб., ООМГ, I, 586; Гом.

**СТРО'ІЦЦА** *незак.* Збірацца, намервацца. *Ён строіўся ўжо ўзяць мяне на плечы.* Саб., ЗПД, 115.

**СТРО'МЫ** *прым.* Стромкі, прамы і высокі. *Сасна, пад якой Шура з Багдановічам выбралі месца, стромая.* Нав., СТ, 132.

**СТРУ'ГВІНА** *ж. Бат.* Ягада накшталт марошкі. *Я мог лакомиться остатками черники, красной и черной смородины, брусникой, стругвиной.* Эр., ОБП, 107; Брагін.

**СТРУМЕ'НЦІНА** *ж.* Інструмент. *Чалавек, мусіць, прыкідваў, куды б яшчэ пайсці, дзе б яшчэ пашукаць тую немудрашчую струменціну.* Саб., ЗПД, 35.

**СТРУХНУ'ЦЦА** *зак.* Страсянуцца. *А ето вот якій барашка: барашка, стухнись! Ен струхнувсь — аж як посыпятца чарвонцы.* Рам., БС, III, 279; Гом.

**СТРЭЦЬ** (стрець) *зак.* Сустрэць. *Да ци лебедзя стрели, Ци на море белилися, Што к нам спознилися?* Шэйн, III, 407; Дзякавічы Маз.

**СТРЭ'ЧА** (стреча) *ж.* Сустрэча. *От дзеля того, штоб ни было лихой стречи* [чтобы что не приключилось от дурного глаза]. Шэйн, III, 385. Ельск Маз.

**СТУГНЕ'ЦЬ** *незак.* Біць (капытамі). *Гэта — стугніць у сотні ног, з храпам і пруськаннем, конскі табун.* Рак., СЛС, 112. // Адзывацца гукам ад біцця, удару капытам. *А восенню дол стугнеў, быццам бубен, ад капытоў троек — спраўлялі вяселлі.* Дан., НД, 130.

**СТУЗ** *м.* Бярвенні, сашчэпленыя, змацаваныя чым-н. *Бярвенні стузамі ляжаць, сваёй чаргі яны чакаюць.* Дуд., С, 63.

**СТУКАЦЕ'ЦЬ** *незак.* Стукатаць, стукаць (працаваць са стукам). *Гулі працавіта машыны, дробна стукацелі фурманкі.* Мел., II, 130.

**СТУКУНЯ'ЦЬ** *незак.* Стукаць (у дзверы, вакно, шыбу і да т. п.). *А женчина пытаецца з хаты: «Хто там стукае?» Господар скаже: «Сам Бог стукуняе!»* Шэйн, I, 46; Кочышчы Маз.

**СТУ'ЛАК** *м.* Стул. *Ён быў столяр добры: дзелаў розныя стулкі, сталы дарагія.* ЧК, II, 441; Азяраны Раг.

**СТУПАКІ'** *толькі мн.* Абутак без халяў. *Намацвае пад лавай ступакі, саджае ў іх ногі, апранае кажух.* Сач., Д, 24.

**СТУС** *м.* Кіпа, стос. *Рукі яе шпарка перагортвалі гісторыі хвароб, складзеныя ў акуратны стус.* Мел., I, 86.

**СТЫ'ГНУЦЬ** *незак.* Стыць. *Наталля паправіла хустачку на дачушцы тваёй, каб, значыцца, не стыгла.* Мел., II, 402.

**СТЫДА'ЦЦА** *незак.* Саромецца. *«Чаго гэта мне іх стыдацца?» — сказала ціха, але без шкадавання.* Сач., Д, 402.

**СТЫКА'ЦЦА** :**дома не стыкацца** — дома не затрымлівацца, мала бываць. *Мужчыны дома не стыкаліся — наймаліся рубіць хаты, ляпіць печы, капаць калодзежы, гарадзіць платы.* Сач., П, 20.

**СТЫРНЯ'** *ж. толькі адз.* Іржышча. *Шамацела стырня пад нагамі.* Лупс., НБД, 136.

**СТЫ'ТУР** *м.* Сварка. Радч., ГНП, 10; Гом.

**СУБО'Р** *м.* Палац. *Видзиш ты мой*

*субор?* Рам., БС, III, 168; Мяркулавічы Раг.

**СУБРУ'С** *м.* Абрус. *Ой наша Гапка субруса раскацила, шовком построчила.* Шэйн, III, 425; Дзякавічы Маз.

**СУ'ВАЛАКА** (суволока) *ж.* Вяроўка. *А то ще треба сороку убить на Рожаство до бедни да на суволоку повесить.* Рам., БС, V, 2; Вылеў Гом.

**СУ'ВАРАТ** *м.* Яма ад вывараченага з коранем дрэва. *Тольки ховалиса ў суварату, аж и бежыць заяц.* Серж., СРБП, 24; Лучыцы Маз.

**СУВЯРШЭ'ННЫ** *прым.* Паўналетні. *Дак жанив мянэ батька малолетнаго, а жонку за мянэ ўзяв у сувяршэнных лятах.* Рам., БС, IV, 105; Маркавічы Гом.

**СУДЖО'НЫ** *прым.* Суджаны, наканаваны лёсам. *Там двое дзеточки спали: Одно дзиця да роджоное, А другое да суджоное.* Шэйн, III, 425; Дзякавічы Маз.

**СУДЛІ'ВЫ** *прым.* Які любіць асуджаць, абгаворваць. *Ой нейди, нейди девчина Лизавета, в чужое село замуж, Чужое село невеселое; там люди судливые.* Радч., ГНП, 72; Гом.

**СУ'ДНІК** *м.* Шафа для пасуды. Радч., ГНП, 14; Гом.

**СУДО'Й** *прысл.* Сюдэю, у гэтым напрамку. *Бяги ты судой; там табе буде мора.* Рам., БС, III, 76; Перарост Гом.

**СУЗДРО'МНЫ** *прым.* Зроблены, пашыты з грубага палатна. Радч., ГНП, 11; Гом.

**СУКАЛЕ'НЦА** (суколенцо) *н.* Узвышэнне. *Откуль узялися освы, уплуталися дяку у косы, подняли под самое суколенцо, де состроено цэрковка с поленца.* Рам., БС, III, 434; Гом.

**СУКАШЫ'ЦЦА** *незак.* Варушыцца. *«Адам,— говора,— што ето сукашилося на табе?»* Рам., БС, IV, 3; Вылеў Гом.

**СУКРА'К** *м.* Цурка. *Павылазім уранні з ямак — ляжаць па ўсім лагеры, як сукракі, мёрзлыя, скамелыя трупы.* Сач., П, 37. *Калеюць яны, сукракамі бяруцца, проста падбірай на воз, як дровы.* Нав., СД, 214.

**СУКРАПІ'ЦЬ** (сукропиць) *зак.* Акрапіць. *Сукропила роса ўсю землю ще вечернею зарой.* Рам., БС, I—II, 81; Гом.

**СУКРА'СІЦЬ** *зак.* Упрыгожыць. *Ганнуся мамкі не паслухала, Паперад войска паехала, Усё поля сукрасіла.* Б., 137; Гом., Раг.

**СУКРУ'ХА** *ж. толькі адз.* Скруха, пакаянне. *Через тебе горелица Мучила сукруха.* Дэмб., ООМГ, I, 588; Свяцілавічы Раг.

**СУМЁТНЫ** *прым.* З сумётамі, гурбамі (снегу). *Як толькі наступіла зімовая ноч, сумётная, завірушная, ён ускідваў на плячо ружжо, станавіўся на шырокія паляўнічыя лыжы...* Шам., I, 212.

**СУМО'ТА** *ж. толькі адз.* Самота. *Сумота нараджае няўпэўненасць у свае сілы і нават, калі хочаце ведаць, баязлівасць.* Шам., I, 408.

**СУПАЧЫ'ЦЬ** *зак.* Адпачыць. *Цяжка было ісці — цяпер супачыць пара.* Дуд., ЗС, 28.

**СУПО'ЎНІЦЬ** I *зак.* Напоўніць. *А тым ты, кума, Не супоўніш двара І не накорміш дзяцей,— Толькі насмяшыш людзей.* РП, 329; Раг.

**СУПО'ЎНІЦЬ** (суповниць) II *зак.* Выканаць. *«Ци суповнив приказаніе?» — «Суповнив, ваша царское вяличавство!»* Рам., БС, III, 167; Мяркулавічы Раг.

**СУПРА'ДКІ** *толькі мн.* Попрадкі, вячоркі. *От яны пойдуць на супрадки, на посиденки, дак дедова дочка праде да праде, а бабина скача да пляша.* Рам., БС, III, 367; Гом.

**СУПШЧЫ'НАВЫ** (супщиновый) *прым.* Шыпшынавы. *И стоить на им три кусты: куст малиновый, куст смуродовый и куст супщиновый.* Рам., БС, III, 151; Гарадзец Раг.

**СУРАДЖА'ЦЬ** *незак.* Збіраць (у дарогу). *Ой не татка мене выправляе, не мамка мене сураджае.* Рам., БС, I—II, 49; Перарост Гом.

**СУСТАНА'ЎЛІВАЦЦА** (сустанавливацца) *незак.* Спыняцца. *Ой проци Машиных ворот сустанавливався, з Машей здрастувався.* Рам., БС, I—II, 93; Гом.

**СУСТРЭ'ЦІЦЬ** *зак.* Сустрэць. *Сустрэцілі яго, заплакалі.* ЧК, I, 257; Мяркулавічы Раг.

**СУТО'НЬВАЦЦА** *незак.* Змяркацца. *Сутоньвалася, і мы напрасцяк праз зарослы рудою атаваю лужок, без лішняй перасцярогі, накіраваліся да яе.* Сач., БРВ, 283.

**СУХАПУ'ЦЬ** (сухопуць) *ж. толькі адз.* Сухая дарога, шлях. *Будзя яна просиць, каб перевезци яе, дак ты скажи: выпи возяро, тоды перайдзеш по сухопуци!* Рам., БС, III, 171; Мяркулавічы Раг.

**СУХАТО'СЦЬ** *ж. толькі адз.* Сухата (смутак, туга). *Аддай дочачку, куды хочацца, Ой і ой люлі, куды хочацца, Ці за старага, ці за малага, Ой і ой люлі, ці за малага, Што й за старага — сухатосць мая, Ой і ой люлі, сухатосць мая.* ПК, 172; Рудня Сталбунская Ветк.

**СУ'ХМАРАК** *м.* Воблака. *А так сядзіць ён ціха пад разгалістай яблыняй у садзе і думае-варожыць: насунецца вось той беласнежны сухмарак на сонца ці праплыве бокам.* Сач., БРВ, 14. *Але не заўсёды гуляе сонца па чыстым ясным небе — находзяць на яго сухмаркі і хмары.* Рак., СДС, 100.

**СУЦЕ'ШЛІВА** *прысл.* Суцяшальна. *Яна доўга песціла малую і гаварыла суцешліва.* Мел., II, 166.

**СУЦІ'НКІ** *толькі мн.* Змрок, прыцемак. *Ранішняе святло цадзілася на зямлю спакваля, адганяючы далей на захад, за лес, цемру, начныя суцінкі.* Сач., Д, 36. *Вось і суцінкі, шэрасць агарнулі горад.* Сач., ЧН, 169.

**СУЦЯРПЛІ'ВЫ** (сутерпливый) *прым.* Цярплівы. *А я молода не сутерпливая была.* Рам., БС, I—II, 28; Яроміна Гом.

**СУЧЫНЯ'ЦЬ** *зак.* Учыняць. *Споравалі, споравалі і сучынілі між сабой драчу.* ЧК, I, 245; Мяркулавічы Раг.

**СУШНЯ'К** *м. толькі адз.* Сухастой. *Разам, упрогшыся ў санечкі, і па сушняк у бліжні лес ездзілі.* Дан., Ж, 11.

**СХАМЯНУ'ЦЦА** *зак.* Страпянуцца. *Шыповіч схамянуўся. Адказваючы шчырасцю на шчырасць сваіх слухачоў, ён выдаў тое, чаго, магчыма, гаварыць не варта было, тым больш, без згоды чалавека.* Шам., IV, 247.

**СХО'ВАЗНЯ** *ж. Перан.* Схованка (астрог). *Глядзіце, мужычччо, як толькі ўздумаеце бунтаваць, дык на вас ёсць надзейная сховазня!* Саб., ЗПД, 5.

**СХО'ВАНЬ** *ж.* Схоў, схованка, тайнік. *У мяне тут сховань ёсць у дубе.* Сач., БРВ, 289.

**СХО'ЎКА** *ж.* Схованка, схоў (дзе можна ўкрыцца). *Але ёй было няёмка туліцца ў схоўцы.* Мел., VI, 551.

**СХРУ'МСТАЦЬ** *зак.* З'есці з хрустам. *А ў думках: хоць бы гурок схрумстаў у цянёчку.* Наўр., ГС, 12.

**СЦАЛЕ'ННЕ** (сцаленьне) *н. толькі адз.* Збаўленне (ад хваробы). *Бог дав яму сцаленьня, и устав ён и пошов на своих ногах.* Рам., БС, IV, 17; Гом.

**СЦЕ'ЛЬНІК** *м.* Соты (мёду). *А медзьведзь за мёду сцельнік, як пусьціў на попа, так пабег у хату.* БКЭ, № 25; Камаровічы Маз.

**СЦЕН** *м. толькі адз.* Енк, стогн. *Змываю я сцен собаччій, кураччій, коциный и дзяциный.* Рам., БС, V, 34; Гарадзец Раг.

**СЦЕ'ПВАЦЦА** *незак.* Уздрыгваць. *Баранчык глядзеў з-за яго спіны сумнымі вачыма на Антона, і той аж сцепваўся ад нямога плачу.* Дан., Ж, 155.

**СЦЕ'ПНУЦЬ** *зак.* Упасці, шлёпнуць. *Камячок чорнай зямлі ціха сцепнуў, слаба варухнуўшы зялёную паверхню.* Мел., IV, 383.

**СЦЕРАЖЛІ'ВА** *прысл.* Не выпускаючы з-пад увагі ніводнай дро-

бязі. *Але яны* [вочы] *на дзіва жвавыя, увесь час у руху. То сочаць сцеражліва, то ўнізваюцца ў цікавае.* Мел., I, 57.

**СЦЕХАНУ'ЦЦА** *зак.* Здрыгануцца. *Пасля рэстарана мяне адразу ж абдало зябкім, я аж сцехануўся ўвесь.* Сач., ЧН, 216. *«Ой, што ты?» — дрогка сцеханулася, спалохалася Аксана.* Сач., А, 23.

**СЦЁБНУЦЬ** *зак.* Тое, што секануць. *Але сцёбнуць моцным словам гэтага смаўжа, як сцёбала такіх раней, пабаялася.* Шам., V, 406.

**СЦІ'ШНАСЦЬ** *ж. толькі адз.* Спакой, цішыня. *Была тая вячэрняя сцішнасць, калі ў чалавека, хоць і стомленага дзённай працай, робіцца гэтак жа хораша на душы.* Саб., ЖЗ, 60.

**СЦЬМЯНЕ'ЛЫ** *прым.* Зусім пацьмянелы. *Цяпер, калі б не адзіная, сцьмянелая ўжо ад часу фотакартка, наўрад ці здолела б дзяўчына і ўявіць воблік маці.* Саб., БАС, 21.

**СЦЯГНУ'ЦЦА** *зак.* Злезці. *Аўдуля сцягнулася з печы.* Саб., II, 147.

**СЦЯГНУ'ЦЬ** *зак.* Ударыць, аперазаць. *Як сцягнула его арабінай, стаў он чэлавекам.* БКЭ, № 11; Камаровічы Маз. Параўн. упярэжыць.

**СЦЯ'МІЦЬ** *зак.* Тое, што раскумекаць. *Іван, звыкнуўшыся з Шчэрбавым шаптаннем, заняты сваімі думкамі і адначасова стараючыся слухаць Астаповіча, не адразу сцяміў, пра каго гаворыць балбатун Хведзька.* Шам., ВТБ, 55. Параўн. уцяміць.

**СЦЯНУ'ЦЦА** (сценуцса) *зак.* Сціснуцца. *Он стаў коле хвоі, чэлавек обмотаў его добрэнько. Сценісе, ці повернешсе?* БКЭ, № 39; Ужынец Рэч.

**СЦЯРЭ'ГЦІ** (сцярэгць) *незак.* Сцерагчы. *Пераначавалі, перадднявалі — ісціць Івану-Дарагану сцярэгці.* ЧК, I, 68; Рудня Чач. *Баба ізноў пасылае яго ў куст сцярэгць.* ЧК, I, 253; Мяркулавічы Раг.

**СЧА'ЎРАЦЬ** *зак.* Счахнуць. *Не толькі снапок, а нізкі калгасны паклон нашай навуцы, каб яна ніколі не адрывалася ад зямлі-маці, бо хто ад яе адарвецца — змарнее, счаўрае.* Саб., ЖЗ, 13.

**СЧО'САВАЦЬ** *незак.* Здзёрці, садраць, саскрэбці пазногцямі (пра хваробу — струп, воспа, сып). *И вышептую яго и счосаваю и женьскій и музскій.* Рам., V, 36; Пятоўка Гом.

**СЧУ'БІЦЦА** *зак.* Перан. Уступіць у бойку, хватацца за чуб. *Гэтак яны счубіліся, што ў белага аж кроў выступіла з грэбеня.* Саб., ЖЗ, 149. *Здавалася, каб от толькі паднесці да іх якую-небудзь малюпасенькую іскрынку, дык зноў узгарэлася б сварка, яны зноў счубіліся б, як тыя дурныя пеўні-забіякі.* Саб., I, 171.

**СЧУТВЕРА'ЦЬ** *незак.* Бурчаць (у жываце). *Я белую рыбу ела, счутверала ў животе.* Рам., БС, I—II, 213; Перарост Гом.

**СЧЫНЯ'ЦЬ** *незак.* Змыкаць, сплюшчваць (вочы). *Усю ноч Ганна не счыняла вачэй над калыскай.* Мел., VI, 34.

**СЫНКАВА'ЦЬ** *незак.* Пасынкаваць. *Лета-лецейка хадзіў, тупаў, корпаўся дзед ля тытуню — то акопваў яго, то сынкаваў, то абложваў карэнні свіным гноем.* Сач., Д, 261.

**СЫ'ННЫ** *прым.* Сынаў, сыноўскі. *Одчиняй, свекратко, окенце, Едзе к тобе невехна и сынное сердце.* Шэйн, III, 421; Дзякавічы Маз.

**СЫ'НЧЫК** *м. ласк.* сын. *Але, пагладзіўшы рукой галоўку сына, прашаптала супакойліва: «Нічога, нічога, сынчык».* Мел., II, 187.

**СЫПАНУ'ЦЬ** *зак. Перан.* Пабегчы, кінуцца, рушыць (пра шмат людзей). *«На Камароўцы лаўкі грабяць!» — і пабеглі туды, на рынак, за імі сыпанулі дарослыя.* Шам., V, 390.

**СЫ'РНЫ** *прым.* Убогі (пра хату). *Ишли, ишли — пришли к сырной хатцы на куриной ножцы.* Рам., БС, III, 380; Перарост Гом.

**СЫРО'МЛЯ** *ж. толькі адз.* Сырасць. *Я паварочваюся ўправа і*

*цяпер бачу аблезлую ад сыромлі, дзе-нідзе паколатую ўжо ад старасці сцяну.* Сач., ЧН, 170.

**СЫРЫ'ЦА :сырыцу вымяць.** Дабіцца толку. *Я хацеў яго ўвесці ў новую п'есу... дык дубіна дубінай, ніякай сырыцы з яго не вымнеш.* ЗПД, 106.

**СЫ'ТКА** *ж. Заал.* Сітаўка. *Жаўрук не спявае ўжо, квола папіскваючы, бегаюць на ўзмежках маленькія птушачкі, якіх называюць сыткамі.* Нав., СД, 80.

**СЫЧЭ'ЦЬ** *незак.* Сыкаць. *Куды больш было радасці, хвалячыся адвагаю, прыціснуць гадзюку дручком, зашчаміць яе, што грозна сычыць, у распірку і вынесці на выган.* Мел., V, 36.

**СЯБЕЛЮ'БКА** *жан. да* сябелюб. *Дый не згодзіцца, бадай — вельмі ўжо сябелюбка.* Лупс., ВТ, 125.

**СЯБРУ'К** *м. Пагард.* Прыяцель. *Акцёрык з сябрукамі ішоў следам і сказаў непрыстойнасць.* Шам., ВТБ, 20.

**СЯВЯ'РКА** *ж. С.-г.* Сеялка. *«Ці ж гэта вам, Якаў Радзівонавіч, канешне ўсё самому трэба глядзець»,— казалі некаторыя, пазіраючы, як ён, выпэцкаўшы ў мазуту рукі, корпаўся каля сявярак і плугоў.* Крауч., НХП, 216.

**СЯГА'ННЕ** *н.* Імкненне. *Пара юнацтва супала з прыходам фашыстаў, а яны тапаром адсеклі высокія сяганні.* Нав., СТ, 23.

**СЯГА'ЦЬ** *незак.* **1.** Імкнуцца, дасягаць. *Шчэ мох, і той на барадзе расці, мабуць, не хоча, а яно вунь куды сягае!* Мел., V, 313. **2.** Імкнуцца (пра думкі). *Думкі сягалі то ў адзін, то ў другі бок.* Саб., I, 182.

**СЯГНУ'ЦЬ** (сігнуць) ◆ **як сягнуць вокам** — як вокам акінуць. *А далей туды, па той бок вілюжнай, выгінастай срэбнай палоскі ракі, як сігнуць вокам, росна зелянеў луг.* Саб., I, 140.

**СЯГО'ДНЯЧЫ** (сегодначы) *прысл.* Сёння. *Так глядзі ж, зраби сегодначы, та заўтра ещэ не так падзякуем.* Серж., СРБП, 69; Лучыцы Маз. Параўн. с я г о н н і.

**СЯГО'ННІ** *прысл.* Тое, што с я г о д н я ч ы. *У мяне сягонні зрання нос свярбіць.* Шам., ВТБ, 15.

**СЯНІ'НКА** (сенинка) *ж. памянш.* каліва, травінка (сена). *Дзеўки повинны выцягуваць сенинки з под обруса и мерадь: чія будзе доўжейшая, тае і лён будзе лепш.* Шэйн, I, 46; Кочышчы Маз. *Грабелькамі двор падграбае ды яшчэ сюды-туды і венічкам махне, каб нідзе не заваляласе ніводнай саломінкі, ні сянінкі.* Саб., ЗПД, 18.

**СЯНЦО'** *н. толькі адз. ласк.* сена. *Сянцо маё сохне.* Кап., СЖЛ, 9.

**СЯРМЯ'ЖНІК** *м.* Мужык, селянін. *Гарадскія мяшчане часам і кепікі строілі з нас, вясковых сярмяжнікаў, якія кінуліся ў навуку.* Саб., ЗПД, 160.

**СЯРО'ДАК** *м. толькі адз.* Нутро. *Цеплыня, як добрае віно, з рук палілася ў сяродак, даходзіла да ног.* Шам., VI, 245. Параўн. ш л у н н е.

**СЯРО'ДКА :у сяродцы** — унутры, усярэдзіне. *Язык адубеў, і ў сяродцы пахаладзела!* Губ., ГС, 109.

# Т

**ТАБА'ЧЫЦЬ** *незак.* Курыць. *Сядзеў ён, сагрэўшыся, на сваёй лаўцы і табачыў.* Кап., А.

**ТАВА'РАНКА** *ж. Бат.* Назва грыба. *Астатніх жа — сыраежак, абабкаў, маслюкоў, махавікоў, лісічак, таваранак — можа набраць кожны.* Нав., ТЮ, 86.

**ТАВА'РАЦ** *м. Зборн.* Жывёла рагатая. *Ой, кладуць мяне пазнесенька: «Уставай, нявехна, чужо дзіця, Бо таварац ужо пайганялі...»* ВП, 377; Тонеж Лельч.

**ТАВА'РЫНА** (товарина) *ж.* Жывёліна. *Оборотливый арендатор нарочно выпускаець в стодолу*

*свою товарину, чтоб она поживилась даровым сенцом и овсом.* Шпіл., ППБК, 238; Тураў.

**ТАВАРЫШКАВА'ЦЬ** *незак.* Таварышаваць. *Ды хоць бы яна пра Насцю спытала, яны ж-такі, здаецца, таварышкавалі, як разам у звяне былі.* Саб., ЖЗ, 52.

**ТАВАРЫШО'К** *м.* Пры неафіцыяльным звароце. *Што гэта вы, таварышок, робіце?* Саб., ЖЗ, 9. *Не хочуць, таварышок, у калгасе.* Шам., IV, 249.

**ТАГАНЕ'Ц** *м.* Трыножка. *Расклала шчэпкі на камінку, паставіла таганец.* Лупс., НБД, 128.

**ТА'ЙКА** *ж. ласк.* сяброўка, якой давяраюцца патаемныя думкі. *А тайкі ж мае! Галоўнае дык і забылася.* Сач., БРВ, 39.

**ТАКАВА'СТЫ** (таковасты) *прым.* Такі. *Вот там, за рекою, увидела вот таковаста большова, таковаста бородастова, вот с такимиста усами.* Рам., БС, I—II, 188; Гом. Параўн. такімісты, утэтакі.

**ТАКІ'МІСТЫ** *прым.* Тое, што такавасты. *Вот там, за рекою, увидела вот таковаста большова, таковаста бородастова, вот с такимиста усами.* Рам., БС, I—II, 188; Гом. Параўн. утэтакі.

**ТАЛА'Н** *м. толькі адз.* Шчасце, удача. *Не люби да, братка, да тые девчиночки, Тая девчиночка да без доли родилась, Что без доли, без талану.* Радч., ГНП, 150; Гом.

**ТАЛА'НЛІВЫ** *прым.* Удачлівы. *Во якую мене мамка родила Счастливую таланливую.* Радч., ГНП, 239; Гом.

**ТАНКАПРА'ЛЛЯ** (тонкопральля) *ж.* Мастачка прасці. *Доня наша, доня, доня тонкопральля!* Рам., БС, I—II, 182; Алешня Раг.

**ТАНО'К** :**танок вадзіць** — карагод вадзіць. *Ик на нашей вуліцы Девки танок водять.* Шэйн, I, 174; Гом. *Як у нашем у селе Широкая вулица, Девки танки водили, Песенки спевали.* Дэмб., ООМГ, I, 537; Рагінь Раг.

**ТА'НЧЫЦЬ** (таньчыць) *незак.* Танцаваць у кругу, у карагодзе. *Прывелі музыку — грае — а аны ўсё куляюцса: то аны скачуць, то аны таньчуць.* БКЭ, № 25; Камаровічы Маз.

**ТАПТУ'Х** (топтух) *м. Рыб.* Таптуха. Дэмб., ООМГ, II, 578.

**ТАРА'ЧЫЦЬ** *незак.* Цягнуць. *Мышку, лягушку тарача на юшку, комар на закуску.* Рам., БС, I—II, 201; Раг.

**ТАРГАВА'ЦЦА** (таргавацiся) *незак.* Гандляваць. *Што ў Кіеў хадзіць — богу маліцца, А ў Чарнігаў — ваяваціся, Ой, а ў Лоеў — таргаваціся.* ЗП, 225; Дзяражычы Лоеўск.

**ТАРЖО'ЧЫК** (торжочик) *м. памянш.* рынак, базар. *Повезу я горку долю рано на торжочик.* Радч., ГНП, 226; Гом.

**ТАРО'ПІЦЬ** *незак.* Утаропліваць (вочы). *Ганна не крычала, што не пойдзе, не гневалася, таропіла адно нязводныя, невідучыя вочы і маўчала, бы не чула нічога.* Мел., II, 40.

**ТАТАКА'ННЕ** *н. толькі адз.* Адзывацца гукам, які падобны да «та-та-та». *Поле заціхла, як перад навальніцаю, і ў насцярожанай цішыні татаканне кулямётаў здалося асабліва рэзкім і пагрозным.* Мел., II, 208.

**ТАЎСТУ'ХА** *ж.* Жанчына поўная, тоўстая. *Чарцёжніцу Маю, юрлівую таўстуху... ён нават абняў...* Шам., VI, 70.

**ТАЎСЦЮ'К** *м.* Мужчына поўны, тоўсты. *Гады, ранейшае службовае становішча Івана Васільевіча і яго тон на міг збянтэжылі нахабнага таўсцюка.* Шам., V, 18.

**ТАЎХАТНЯ'** *ж. толькі адз.* Таўкатня, таўханіна. *Крыўды ён не робіць нікому, калі не лічыць таўхатні і ляманту, што ўчыняе ва ўсіх местачковых крамах.* Нав., СД, 9.

**ТКА'НЕЙКА** (тканьейка) *ж. ласк.* ткалля, ткачыха. *Узрынь, узрынь, тонка пральейка, Тонка пральейка, густа тканьейка, Што тонень-*

*ка прала.* ЗП, 245; Дзякавічы Маз.

**ТЛУМ** *м. толькі адз.* Шум, гоман бязладны, ачмураючы. *Ды толькі п'яны тлум, бязладную гаману ў спакойным стане запомніць немагчыма.* Шам., IV, 555.

**ТО'ЛЕЧКІ** *прысл.* Толькі што. *Ужо трэба было званіць на ўрок, хоць вучні толечкі выбеглі з класаў.* Саб., БАС, 35.

**ТО'НБА** *ж.* Завала. *Заперты вороты чорною тонбою, закрыты вокошки белой простиною.* Рам., БС, I—II, 126; Парарост Гом.

**ТОП** *м. толькі адз.* Тупат. *Так у самага поўдня чуе ляск і конскі топ.* ЧК, II, 31; Шарахоўскія Буды Раг.

**ТО'РБАЧНІК** *м.* Жабрак (хто ходзіць з торбай — сімвал жабрацтва). *Гаротнік ты, брат. Адно слова — торбачнік.* Лупс., П, 84.

**ТРАКТАВА'ЦЬ** *незак.* Частаваць. *Ана ж разпытавала, да зачэла его поіць, трактоваць — он напіўсе і заснуў.* БКЭ, № 38; Ужынец Рэч.

**ТРА'НТЫ** *толькі мн. Пагард.* Анучы (жаночыя ўборы). *Тады яна збірала свае транты, галасіла на ўсю Пракопаўку і перабіралася да маці.* Дан., Ж, 163.

**ТРАСУ'ЧКА** I *ж. Рыб.* Вуда. Дэмб., ООМГ, II, 582.

**ТРАСУ'ЧКА** II *ж. толькі адз. Мед.* Эпілепсія. *Ужо ў акупацыю, калі часцяком па хатах паліцаі шнырылі, трасучка прыкінулася.* Дан., Ж, 16.

**ТРА'СЦА** :**трасца варыцца** — пуста. *Няхай у іх гаршках трасца варыцца, але калі чужы чалавек кіне вокам на белыя сцены хат, на кветкі ў гародчыках, ён, канешне, падумае, што ў людзей гэтак жа светла, урачыста і на душы.* Саб., I, 195.

**ТРАСЯНІ'НА** *ж. толькі адз. Перан.* Нягода, ліхая гадзіна. *Ёсць шалашык у лесе, можна там перахавацца. Да зімы трасяніна скончыцца.* Нав., СТ, 309.

**ТРАШЧО'ТКА** *ж. Перан. пагард.* Жанчына гаваркая, гаворка якой громкая і безупынная. *«Ды што вам гаварыць, трашчоткам»,— стары чамусьці раззлаваўся, махнуў рукой і лёг на печы.* Шам., I, 306.

**ТРАЯ'К** (трояк) *м. Уст.* Манета 1,5 кап. Эр., ОБП, 217; Брагін.

**ТРАЯЧО'К** (троечок) *м. Памянш.* да т р а я к. *Клади хлопчичек троечок; Коли жаль троечка, Не твоя шапочка.* Дэмб., ООМГ, I, 560; Гом.

**ТРО'ЙЗЕЛЛЕ** *н. Зборн., бат.* Трава лекавая. *Тады Маруся бальная ляжала, Тады яна тройзелля бажала.* Б., II, 167; Бярэжцы Жытк.

**ТРО'ЙКА** *прысл.* Тройчы. *Я прайду тройка на леці, Так зрадуецца ўся пашэнька, з зямелькі йдучы.* ЗП, 203; Дарашэвічы Петр. Параўн. т р о й ч а, т р э й к а, у т р э й ч ы.

**ТРО'ЙЧА** *прысл.* Тое, што т р о й к а. *А Пятро, вучаник яго, сядев ли тяпла и тройча отракнувся от Исуса Христа.* Рам., БС, IV, 4; Вылеў Гом. Параўн. т р э й к а, у т р э й ч ы.

**ТРОХСЦЕ'НКА** *ж.* Трысцень. *Гаўрык павярнуўся да мяне і кіўнуў на хату з прырубленай трохсценкай.* Дан., МП, 5. Параўн. т р ы с ц е н.

**ТРУ'БКА-ВЫЛІВА'НКА** *ж.* Трубка паліваная, глянцаваная, глазураваная. *Трубка моя выливанка, чубук золотенькій, Люби ж меня, Парасочка, что я молоденькій.* Радч., ГНП, 53; Гом.

**ТРУ'САЧКА** (трусочка) *ж. памянш.* хлам у лесе, буралом. *Да ходила да красная девочка по лужочку, Да сколола да белу ножечку на трусочку.* Радч., ГНП, 171; Гом.

**ТРУХКАТА'ЦЬ** *незак.* Грукатаць. *Па пясчанай дарозе трухкоча рэсорная таратайка, запрэжаная парай гладкіх конікаў.* Нав., СТ, 142.

**ТРУ'ХЛАСЦЬ** *ж. толькі адз.* Парахня. *Яны, здаецца, бачылі, як, варушачы лясную трухласць, увачавідкі лезлі з зямлі баравікі,*

*падасінавікі, падабабкі.* Саб., ЖЗ, 167. Параўн. т р у х л я.

**ТРУ'ХЛЯ** *ж. толькі адз.* Тое, што т р у х л а с ц ь. *Дзьмухне вецер — і, здаецца, паляціць, як пясчынка тая, рассыплецца, як бы трухля.* Мел., V, 89.

**ТРУХНУ'ЦЬ** *зак.* Страсянуць, скалануць. *Выехалі яны за вёску, ён свайго каня ўзяў за хвост і трухнуў яго, усё выскачыла, толькі кожа асталася ў руках.* ЧК, І, 66; Рудня Чач.

**ТРЫМКАТА'ЦЬ** *незак.* Тромкаць, найграваць. *А можа, то лірнік Трымкоча на ліры, Што час настае, Калі ўжо не будзе мо бойкі тае.* Грам., В, 52.

**ТРЫСЦЕ'Н** *м.* Тое, што т р о х с ц е н к а. *І хату гэту, і трысцен, лічы, сам зрабіў.* Дан., Ж., 12.

**ТРЭ'БА** *ж.* Клопат (справы). *Ды досыць ужо асалоды! Бяжыць апранацца хутчэй, Бо хатнія трэбы-турботы Таксама не ссунеш з вачэй.* Грам., В, 102.

**ТРЭ'ЙКА** (трэйко) *прысл.* Тое, што т р о й к а. *Трэйко подходзили к сваим гумнам, але неназнавали свае будоўли.* Серж., СРБП, 46; Лучыцы Маз. Параўн. т р о й ч а, у т р э й ч ы.

**ТУДО'ЙМА** *ж.* У той бок, той дарогай. *На тудойму ишла — Сыр знайшла, А з тудоймы ишла — Два знайшла.* Шэйн, III, 413; Дзякавічы Маз.

**ТУ'ЛАЎЦА** *н. памянш.* тулава. *А майму куму да ўсё тулаўца.* РП, 393; Раг.

**ТУ'МАР** *м.* Багач. *Бач, тумар які! На два двары жыве, у дзвюх цэрквах правіць.* Рак., СЛС, 108.

**ТУПТА'ЦЬ** *незак.* Тупаць (біць капытамі зямлю). *Бацькову кони тупчуць, рогочуць, Молодую везци не хочуць.* Шэйн, III, 420; Дзякавічы Маз.

**ТУРБА'ЦЫЯ** *ж.* Турбота, хваляванне. *К часу, калі скончылася ўся гэтая турбацыя, цягнік ужо выскачыў на шырокі палявы простор.* Крауч., НХП, 312.

**ТУРБО'ТЛІВЫ** *прым.* Вельмі турботны, клапатлівы. *Марыне хацелася расказаць яму, як выйшла яна вось сюды, кіламетраў за сорак ад свае вёскі, замуж, як яны пабудавалі хату, двор, які турботлівы Ігналь.* Лупс., ВТ, 99.

**ТУ'РКАННЕ** *н. толькі адз.* Бурканне. *Да рэдзенькага хмызу праляцела стайка дзікіх галубоў. І адразу адтуль данеслася турканне шызара.* Дан., НД, 48.

**ТУРКАТА'ЦЬ** *незак.* Буркаваць. *Чуючы блізкае цяпло, нават галубы прыляцелі: туркочуць на ўзлессі, на дубах.* Нав., СТ, 83.

**ТУ'ХКАЦЬ** *незак.* Глуха стукаць нагамі (гукапераймальнае). *За ім, цяжка дыхаючы, бег Сашаразанец, тухкалі мокрымі ботамі астатнія.* Нав., ТСЗ, 31.

**ТХАЦЬ** *незак.* Патыхаць (вылучаць пах). *Цёплыя кулідкі хлеба тхалі ў нос духмяным пахам.* Кап., СЖЛ, 65.

**ТХЛАНЬ** *ж. толькі адз.* Твань. *Пахла травамі, прэлаю карою, тхланню.* Сач., Д, 175. *Ведзе их у гущэчу да ў тхлань.* Серж., СРБП, 46; Лучыцы Маз.

**ТЫ'ЖДЗЕНЬ** *м.* Тыдзень. *Я табе, Мар'я, грабянец заказаў. На тым тыждні прынясу.* Нав., СТ, 220.

**ТЫ'РКАЦЬ** ◆**нос тыркаць** — заглядваць. *Ён заўсёды выбірае пад жытло такія вось закіданыя, непрывабныя з выгляду хаціны, куды начальства залішне нос не тыркае.* Нав., СТ, 193.

**ТЫРСА'** *ж. толькі адз.* Апілкі. *Былі яны абодва ў майках, зацярушаныя тырсою.* Кап., А.

**ТЫРЧКО'М** *прысл.* Тарчма. *На два бакі і тырчком мачаць будзеш картапляпікі ў смятану, толькі навучыся касіць.* Кап., СЖЛ, 34.

**ТЫ'ЦКАННЕ** *н. толькі адз. Перан.* Звяртаць увагу на што-н., зробленае дрэнна, як бы папікаючы. *Карней вырашыў ёй адпомсціць і за злога хлопчыка, і за гэтае маўклівае прыбіранне, якое было што тыцканне: якія, маўляў, вы неахайныя!* Шам., ВТБ, 242.

**ТЫ'ЦКАЦЬ** ◆ **тыцкаць у вочы** — часта гаварыць, упамінаць у гаворцы пра каго-н., як бы папракаючы ім. *Што ты тыцкаеш у вочы гэтым Кляпнёвым!* Шам., V, 42.

**ТЫ'ЦНУЦЦА** *зак. Перан.* Паткнуцца, сунуцца. *Валодзя тыцнуўся ў кабінет дырэктара, але там было поўна народу.* Нав., ТСЗ, 79.

**ТЭЖ** *прысл.* Таксама. *Змей ажно здзівіўся і даў яму другі столок, тэж залезны, але мацнейшы.* ЧК, I, 231; Петр.

# У

**УБЕ'РАНЫ** *прым.* Прыбраны, убраны. *Прыходзіць к ёй трох кавалеров: два уберaные, што толькі глядзець.* БКЭ, № 18; Камаровічы Маз.

**УБІВА'ННЕ** (убива́ньне) *н. толькі адз.* Збіванне. *И ты раба божая ня бойся ни ўбиваньня, ни валяньня, ни чижолаго подыманьня.* Рам., БС, V, 55; Красная Буда Гом.

**УБІРА'ЦЬ** *незак.* Губіць, знішчаць. *И была змяя колись. Дак яна убирала людей.* Рам., БС, IV, 17; Гом.

**УБО'ЖЧЫ** *прым.* Бедны, убогі. *Що як быває якаа бяседа, дак богатага садять на кут, а убожчаго ля печки садять.* Рам., БС, IV, 105; Маркавічы Гом.

**УБЭ'ЙДАРЫЦЬ** *зак.* Тое, што с п а т р а ш ы ц ь. *Я яго на дарозі убэйдарую, а с тобой повянчаюсь.* Рам., БС, III, 163; Навасёлкі Раг. Параўн. с т р а б і ц ь, с т р а ц і ц ь у 1 знач.

**УВАБРА'ЦЬ** *зак.* Прагна з'есці, уплясці. *Варэнікаў іхніх украінскіх з вішнямі я зараз бы цэлае вядро ўвабраў.* Дан., ЗА, 38. *Сам увабраў бы, калі б зварыла.* Кап., СЖЛ, 7. Параўн. у л а д а в а́ ц ь II.

**УВАЖА'ЦЬ** *незак.* Зважаць. *Людзей слухай, а свой розум май и ни на кого не ўважай.* Серж., СРБП, 99; Лучыцы Маз.

**УВАЗНА'ЦЬ** *зак.* Уведаць. *Арол кажа: «Выпусці-ка цяпер мяне сіл сваіх увазнаць».* ЧК, I, 246; Мяркулавічы Раг.

**УВАМЛЕ'ЦЬ** *зак.* Абамлець. *Калі праўду казаць, дык я і ўвамлеў, быццам мяне хто варам абліў.* Саб., БАС, 38.

**УВАРО'ТКІ** *прым.* Вёрткі, спрытны. *Что у тебе, жабка, ручки коротки? — Хоть коротки, да увороткi.* Радч., ГНП, 55; Гом.

**УВІ'ШНАСЦЬ** *ж. толькі адз.* Спрыт, уменне паспяваць рабіць. *«Ля малатарні ўвішнасць патрэбна!» — прамовіў Халімон строга.* Мел., V, 96.

**УВЯРЦЕ'ЦЬ** (увяртеть) *зак.* Перавязаць. *Зняла царевна з сябе шовковую хусту, порвала яе и ўвяртела яму раны.* Рам., БС, III, 77; Перарост Гом.

**УГАМО'Н** *м. толькі адз.* Спакой. *Во няма на цябе ўгамону.* Шам., ВТБ, 337.

**УГА'РАК** *м.* Тое, што згарэла не да канца, часткова. *И послала усих девок збирать угарки, што с обоих концов паляны.* Рам., БС, IV, 117; Доўск Раг.

**УГЛЕ'НУЦЬ** *зак.* Угледзець. *Як тые воўкі ўгленулі, дак побеглі ў лес.* БКЭ, № 11; Камаровічы Маз.

**УГНА'ЦЬ** *зак.* Выгнаць, прагнаць. *Тут седзяць злыдні под печью, трэба іх угнаць.* БКЭ, № 16; Камаровічы Маз.

**УГРЭ'Ў** *м.* Месца, нагрэтае (угрэтае) сонцам. *Каваль сядзеў на ўгрэве, паглядаў на чыстае, без ніводнага воблачка, неба і думаў.* Дан., Н, 5. *Ён прыходзіў на той узгорак ранняй вясной, калі толькі-толькі на ўгрэвах знікаў снег.* Дан., МН, 57.

**УГУ'КНУЦЬ** *зак. Гукаперайм.* Выказаць згоду (сказаць «угу»). *Валодзька ўгукнуў, і дзядзька*

*Сцяпан сказаў, што гэта вельмі добра, што ім памочнікі патрэбны.* Мел., IV, 389.

**УГЭ′** (уге) *прысл.* Ужо. *Да ўходзь, пани матко, з свечами, Уге твое дзицятко звенчана.* Шэйн, III, 400; Дзякавічы Маз. *Бо уге мой бацюхна прибраўса.* Шэйн, III, 401; Дзякавічы Маз.

**УДАВА′ЦЦА** (удавацса) *незак.* Заляцацца. *Як то можэ быць! До мене такіе кавалеры ўдаюцса!* БКЭ, № 29; Камаровічы Маз.

**УДАВІ′ЦА** *ж.* Удава. *У Кромані, гэтак звалася тая вёска, куды хваля жыцця прыбіла Валодзю Струка, знайшлася маладая ўдавіца Галя Пярчынская.* Саб., I, 253.

**УДА′РЫЦЬ** *зак. Перан.* Урадзіць. *Жыта тое налета як ударыла — тры зярны!* ЧК, I, 245; Мяркулавічы Раг.

**УДЗЕВЯЦЕ′РА** (удзевяцеро) *прысл.* Удзевяцярых. *Добрэ — сеў, дай палецелі ўжэ ўдзевяцеро.* БКЭ, № 34; Юравічы Рэч.

**УДЗЕ′РЭНЫ** *дзеепрым.* Украдзены (выдраны з вулея). *Вышоў поп на двуор, аж пчолы ўдзерэны.* БКЭ, № 25; Камаровічы Маз.

**УДНЕ′ЦЬ** *зак.* Развіднець. *Ужо добра ўднела, калі ён падыходзіў да моста.* Мел., I, 135. *Як толькі добра ўднела і пачалі хадзіць людзі, яна выбралася на дарогу.* Мел., II, 267.

**УДО′БІЦА** *ж. толькі адз.* Зямля прыдатная. *Няхай сабе зямля і не вельмі ўдобіца — падзол ды суглінак, але тым часам у тваіх руках зрабіць так, каб яна радзіла ўдубальт.* Саб., I, 167.

**УДО′ВІНІН** *прым.* Удовін. *Полюби, сын, удовинину дочку — удовинина дочка хозяечка.* Рам., БС, I—II, 122; Перарост Гом.

**УДО′ЎЖКІ** *прысл.* Удоўж. *Удоўжкі наша хата была, можа, якіх крокаў сем ці восем і ўшыркі крокаў пяць ці шэсць.* Саб., II, 39. *Усё вакол яго расце, разгортваецца ўшыркі, удоўжкі.* Дуд., С, 75.

**УДО′ЎКА** *ж., ласк.* удава. *Ой, пасярод сяла ды жыла ўдава, Я ў той удоўкі адна дачка.* Б., 135; Гом.

**УДРУ′ГАЕ** *прысл.* У другі раз. *Удругае пашла маладзица к старэнькаму дзедку просиць, каб даў ещэ зелья.* Серж., СРБП, 45; Лучыцы Маз.

**УДЫ′РЫЦЬ** *зак.* Ударыць, стукнуць. *Зараз удырылі в барабан.* БКЭ, № 15; Камаровічы Маз. *Як толькі прыдзеш да першаго дзерава, то ўдыр тры разы секірою ў дзерава, а потэм перэхрэсьцісе і ложысе спаць.* БКЭ, № 34; Юравічы Рэч.

**УЖЫ′ЦЬ** **:ужыць слодыч.** Пражыць у асалодзе. *Малады ж пан не глядзеў на хазяйства, а толькі думаў аб тым, каб ужыць слодыч.* Серж., КАБП, 33; Лучыцы Маз.

**УЗАПА′СІЦЬ** *зак.* Назапасіць. *Галя асцярожна паклала на край гняздзечка той набытак, які дарогаю ўзапасіла птушцы, адышла ўзбоч за лоўж і стаілася.* Саб., БАС, 18.

**УЗБО′ЛАТАК** *м.* Край балота. *За траншэямі блізка пачынаўся негусты, увесь пасечаны алешнік. Пачынаўся ўзболатак.* Мел., III, 10. *Бліжэй да станцыі, на ўзболатку, стаяў зялёны, засаджаны дзічкамі двор старога Язэпа, местачковага грамацея.* Нав., ВС, 320.

**УЗБЯРЭ′ЖНАЯ** *ж.* Набярэжня. *Завулкамі ён выбіўся на ўзбярэжную.* Лупс., П, 108.

**УЗВАРАЦІ′ЦЦА** *зак.* Вярнуцца. *Прыдумайце, гаспада саветнікі, куды б нам паслаць Няшчаснага Егара, штоб ён адтуль не ўзвараціўся.* ЧК, II, 26; Шарахоўскія Буды Раг.

**УЗГАЛО′ВЕНЬ** *м.* Вушак. *Паставілі пры такіх шырозных ды высозных дзвярах, што як бы ні падскоквай, да ўзгалоўня рукою не дастанеш.* Саб., БАС, 37.

**УЗГРЫ′ВАК** *м. Перан.* Узвышаная паласа мясцовасці. *Два стандартныя, афарбаваныя ў рудаваты колер дамкі-дачы стаялі ў*

*травяністай прагаліне на ўзгрыўку густога змешанага лесу.* Саб., ЖЗ, 167.

**УЗДА́ЦЬ** *зак.* Адлупцаваць, набіць. *А ето такая труба, што не кажи: два с трубы! А то выскоча двоя й уздадуть.* Рам., БС, III, 280; Гом.

**УЗДЫХА́НЕЙКА** (уздыханьика) *н. толькі адз. памянш.* уздыханне. *Склопоцылася головынька от цяжкаго уздыханьика.* Эр., СНО, 21; Гом.

**УЗЛАЖЫ́ЦЬ** *зак.* Надзець. *Прышоў чалавек да гасподы й пачаў збиратца ў дарогу: узлажыў чыстую, белую сарочку, абуў новые лапци й прануў чорную свиту.* Серж., СРБП, 22; Лучыцы Маз.

**УЗЛАКЦІ́ЦЦА** *зак.* Аблакаціцца. *Узышла на кафедру, узлакцілася, нібы збіралася гаварыць гнеўную прамову.* Саб., БАС, 134. *Сядзела, узлакоціўшыся на стол, і глядзела ў вочы...* Шам., V, 120.

**УЗЛО́БАК** *м.* Вяршыня. *Вятрак стаіць на самым узлобку пясчанага касагора, непадалёк ад школы.* Нав., СТ, 151. *Сонца тут, на ўзлобку, здорава смаліла.* Дан., Ж., 32.

**УЗНЕПАКО́ІЦЬ** *зак.* Пазбавіць спакою. *Узнепакоіў ён толькі яе, узварушыў ранейшае.* Лупс., ВТ, 123.

**УЗРЭ́ЗАЦЬ** *зак.* Парэзаць. *Дзед да за тую Беду — да біў, біў — да ўзрэзаў, і ўтоптаў, і калоду наложыў.* БКЭ, № 24; Камаровічы Маз.

**УЗУ́ТЫ** *дзеепрым.* Схаваны, пра тое, што ўлажылі куды-н. *Па тым беразе, ля самай ракі, хадзілі па двух, па трох амерыканскія вартавыя — у касках, абцягнутых маскіровачнымі сеткамі, у шырокіх, узутых у жоўтыя чаравікі, штанах.* Сач., А, 103.

**УЗШТУРХА́ЦЦА** *зак.* *Перан.* Прачнуцца і пачаць займацца справамі. *От дай Бог дзень — узштурхалиса людзи.* Серж., СРБП, 129; Млынок Маз. Параўн. у с п е́ р ц і с я.

**УЗЯ́ДЗЕНЫ** *дзеепрым.* Узяты. *А то во у Вугольщини, откуль матка моя нябощица була ўзядзена.* Рам., БС, IV, 139; Прыбор Гом.

**УЗЯ́ЦЬ** *зак.* Пачаць. *Яна як узяла отца просиць, узяла отца просиць, каб беспременно дом поставив.* Рам., БС, III, 155; Навасёлкі Раг.

**УКАСА́ЦЦА** *зак.* Унадзіцца. *А ўкасався проклятый змей ик яго матцы.* Рам., БС, III, 148; Гарадзец Раг.

**УКЛАНІ́ЦЦА** (уклониться) *зак.* Пакланіцца. *Уходя ён у хату к яму, помолився на богов и ўклонився.* Рам., БС, IV, 83; Карма Раг.

**УКЛЕ́ЙНЯ** *ж.* Сетка рыбалоўная. Дэмб., ООМГ, II, 576.

**УКО́ЦАЦЬ** *зак.* Забіць, пазбавіць жыцця. *...Самі ж ледзь не ўкоцалі яго, калі хацеў уберагчы ад абозу каня.* Мел., V, 322.

**УКРАСТО́ВАНЫ** (укрэстованый) *прым.* Прыбраны, убраны крыжамі. *Зрабіўсе паніч убраный у срэбро, у золото, укрэстованый, што ах!* БКЭ, № 18; Камаровічы Маз.

**УКУ́ЧЫ** *прысл.* Разам. *Хадзілі па свету песельнік і казачнік. Сышліс яны ў места і сталі ўкучы хадзіць.* ЧК, II, 217; Раг.

**УЛАДАВА́ЦЬ** I *зак.* Уладкаваць. *Прывітаўшыся з Ганнай Пятроўнай, Петрусёк падхапіў з яе рук чамаданчык, сам уладаваў яго ў задку воза, у салому.* Краўч., НХП, 458.

**УЛАДАВА́ЦЬ** (уладувать) II *зак.* Тое, што ў в а б р а ц ь. *Забрайса туды, гдзе гаспадыня пахавала пачостку да ўсе й ўладуваў.* Серж., СРБП, 129; Млынок Маз.

**УЛАДЖА́ЙНЕНЬКА** (уладжайненько) *н. толькі адз. ласк.* уладжванне. *Уклоняйса молода Гапко Усему своему роду — И старому и малому, И маци ў белы ноги За яе за годовайненько, За хорошее уладжайненько.* Шэйн, III, 414; Дзякавічы Маз.

**УЛЕ'ЗЦІ** *зак. Перан.* Усяліцца. *Вось я, напрыклад, толькі ўлез у новы дом.* Шам., IV, 246.

**УЛЕ'ШЧВАЦЬ** *незак.* Ліслівасцю, ласкай улагоджваць, угаворваць. *Улешчвае яго, гутарыць, як з малым дзіцем.* Сач., Д. 183.

**УЛІ'ЦЬ** *зак. Перан.* Адлупцаваць. *Улі, Васіль, вісусу гэтаму, а то ж расце распуста, на лес гледзячы.* Саб., II, 6.

**УЛО'МАК** *м.* Абломак. *Не жалей мяне, сячи зялезными прутами, уломки зялезныа за шкуру мне саджай!* Рам., БС, III, 230; Нісімкавічы Раг.

**УЛЯКНУ'ЦЦА** (улекнутца) *зак.* Спалохацца. *Иди, Гануся, ты не оглядуйся, Оглянешься — улекнешься.* Радч., ГНП, 213; Гом. *Коли дитенок уляктнетца, дак живот уздуя, ня йме ести.* Рам., БС, V, 37; Красная Буда Гом. Параўн. у п у г н у ц ц а, у п у ж а ц ц а.

**УМУДРАВА'ЦЬ** *зак.* Згатаваць, прыгатаваць. *Пачакайце, можа от баба ўстане ды снеданне сякое-такое ўмудруе.* Саб., II, 149.

**УМЭ'НТ** *прысл.* Мігам, умомант. *«Здурнела! — жахнулася мачыха.— Ды ён жа цябе з вінтоўкі ўмэнт!»* Мел., V, 52.

**УНІ'МАК** :**унімку не было** — пра адсутнасць спакою; калі не суняць, не суцішыць каго-н. *З тыдзень унімку не было, жыць не давала, поедам мяне ела.* Сач., А, 15.

**УНУ'РВАЦЦА** *незак.* Рабіцца панурым. *І тады ён уваходзіў у самога сябе, таксама ўнурваўся, рабіўся негаваркі.* Лупс., ВТ, 112.

**УПА'ДЫВАЦЦА** (упадуватца) *незак.* Завіхацца без стомы. *Пришов у комнату — матушка тая упадуетца коло яго: мой сынок, мой такій, мой сякій!* Рам., БС, III, 149; Гарадзец Раг.

**УПЕ'РВА** (уперво) *прысл.* Дагэтуль. *Зъеў ён тое сэрца, да зараз прыбыло ему сілы в два разы болей, як уперво було.* БКЭ, № 31; Юравічы Рэч.

**УПІ'Р** *м.* Вампір. Эр., ОБП, 218; Брагін.

**УПЛАЗАВА'ЦЬ** *зак.* Збіць. *Пакуль на крык пазбягаліся суседзі, дык Панюкі гэтак уплазавалі злодзея, што ў таго носам і ротам пайшла кроў.* Саб., II, 113.

**УПЛАТА'НЫ** *дзеепрым.* Пакрыты чым-н. *Е у чаловика скирта гречки, да уплатана сильлём дужо, от самого низу до верху.* Рам., БС, IV, 106; Маркавічы Гом.

**УПЛЁТ** (вплёт) *м.* Стужка (у касу). *Ой выплету вплёты з русых кос, Да й повешу вплёты при клети.* Радч., ГНП, 84; Гом.

**УПЛЫ'НЬ** *прысл.* Уплаў. *Ганнусенька ўплынь пашла.* Б., 137; Раг.

**УПЛЮ'НУЦЦА** *зак.* Развесціся, распладзіцца. *У млыне, ведамо, заўсюды чэрці жывуць, а ў гэтум их так много ўплюнуласо, што бывало ў глупась нихто не смеў и близко падысци к млыну.* Серж., СРБП, 54; Лучыцы Маз.

**УПО'ДБЕГ** *прысл.* Подбегам. *Убачыўшы старога, што стаяў і глядзеў на яе, здагадалася, напэўна, што запазнілася, адразу заспяшалася, пайшла ўподбег.* Мел., V, 91. *Галіна ўподбег спяшалася ў калгас.* Крауч., НХП, 48. Параўн. у п о д б е ж к і.

**УПО'ДБЕЖКІ** *прысл.* Тое, што ў п о д б е г. *Убачыўшы Тэклю, ён уподбежкі кінуўся да калодзежа з усмешкай бесклапотнага і вясёлага хлопца.* Крауч., НХП, 14. *Яна схапіла Рыгорку за руку і амаль уподбежкі пацягнула яго ў хату.* Крауч., НХП, 4.

**УПО'РАЦЦА** *зак.* Управіцца (па гаспадарцы). *Як упораюсь дык прійду.* Радч., ГНП, 10; Гом.

**УПО'РВАЦЦА** *незак. да* ў п о р а ц ц а. *На агародзе адна яна і ўпорвалася.* Саб., I, 332.

**УПО'ШАПКІ** *прысл.* Пошапкам, шэптам. *У спякотны чэрвеньскі дзень камароўцы не выходзілі з дамоў ці, ва ўсякім разе, са сваіх крэпасцей — двароў і гародаў, упошапкі перагаворваліся праз платы.* Шам., V, 402.

**УПРАВІ'ЦЕЛЬ** *м.* Кіраўнік. *А ўсё таму, што ўправіцеля не было.* Саб., ЖЗ, 103.

**УПРАПАСЦІ'ЦЦА** (упропасцитца) *зак.* Загубіць сябе. *Дак ён сабе думая: пойду, ци не найду дзе якую пропасць — упропасцитца.* Рам., БС, III; Гарадзец Раг.

**УПРАЎЛЯ'ЦЬ** *незак.* Выпраўляць (пасылаць куды-н., адпраўляць). *Мачыха сваю дочу ўпраўляе. «Зэрві пану яблочко».* БКЭ, № 44; Вадовічы Рэч.

**УПРО'ПЛАЧ** *прысл.* З плачам, праз плач. *Голас яе задрыжаў, зламаўся зусім, і яна праказала ўжо з слязьмі і ўпроплач: «Колькі іх, гаротніц, прайшло перад гэтым шклом!»* Рак., СЛС, 65.

**УПРУЦЯНЕ'ЦЬ** *зак.* Скарчанець. *Іrваў бы рукамі і зубамі, аж пакуль бы ён не перастаў бы дыхаць, пакуль не ўпруцянеў бы.* Сач., Д, 317.

**УПРЫКМЕ'Т** *прысл.* Прыкметна. *Мы ўпрыкмет худнеем.* Лупс., ВТ, 179.

**УПРЭ'ЖКА** *ж.* Вупраж, збруя. *Ходзіць конь вараны і з упрэжкаю.* РП, 297; Раг.

**УПУГНУ'ЦЦА** *зак.* Тое, што ў л я к н у ц ц а. *Князь упугнувся и ўзрадувався, и ўпустив з рук ружжо.* Рам., БС, IV, 113; Васільеўка Гом. Параўн. у п у ж а ц ц а.

**УПУЖА'ЦЦА** *зак.* Тое, што ў л я к н у ц ц а. *Ну яны ня ўпужались.* Рам., БС, IV, 6; Гом. Параўн. у п у г н у ц ц а.

**УПЯКЦІ'** (упекці) *зак.* Засмажыць. *А так як уміраў, то прыказаў нам, штобы ему каждое ночы ўпекці вола і печыво хлеба, дай прыходзіць і ўсе тое поедае до чыста.* БКЭ, № 37; Юравічы Рэч.

**УПЯРО'Д** (упероd) *прысл.* **1.** Раней. *Уперод не было ни гадзюк, ни жаб, ниякаго гэтаго плюгаўства.* Серж., СРБП, 22; Лучыцы Маз. **2.** Наперад, загадзя. *От так усе наровиць, каб заўсюды Янко ўперод забраў плату за службу.* Серж., СРБП, 55; Лучыцы Маз.

**УПЯРЭ'ЖЫЦЬ** *зак.* Тое, што с ц я г н у ц ь. *Ен падняўся з пасцелі, пашукаў вачыма паплiску ў сябе пад нагамі, каб упярэжыць ёю сабаку.* Кап., СЖЛ, 30.

**УПЯРЭ'КІДЫ** *прысл.* Навыперадкі. *Крактала, угіналася пад возам рака, коні ўпярэкіды імчаліся, секлі лёд падковамі.* Кап., СЖЛ, 17.

**УПЯРЭ'ЧЫНА** *ж.* Папярочка, перакладзіна. *Адразу адчуў, што перад гэтай вёрткай дзяўчынай ён нейкі няўклюдны, медзведзяваты, ногі саслізгаюць з тонкіх упярочын.* Дан., ЗА, 201.

**УПЯЧО'НЫ** (упечоны) *дзеепрым.* Засмажаны. *Да той чэлавек прэд сьмерцью прыказаў сваім сыном, штобы ему каждой ночы была ўпечона цэлая карова і две печывы хлеба.* БКЭ, № 37; Юравічы Рэч.

**УРА'ДЗІЦЬ** *зак.* Вырашыць, зрабіць. *Што ни рабиў завидны поп, ничого не ўрадзиць.* Серж., СРБП, 41; Лучыцы Маз.

**УРА'ЖЫ** (уражий) *прым.* Варожы. *У скрыпачку йграя, струна струне голос подавая, Що ня будзе доли ўражему сыну.* Д.-З., ПП, 146; Красная Воля Маз.

**УРА'ЗІЦЬ** *незак.* Трывожыць. *Ня йграй, купчык, ня йграй: Мое раны ня ўразь.* Рам., БС, III, 262; Гом.

**УРА'НHІ** *прысл.* Раніцай, ранкам, уранку, у ранішні час. *Глядзі ж, калі ты гэтае не здзелаеш, то мой меч — табе заўтра ўранні галава з плеч!* ЧК, II, 546; Перарост Гом. *Я падумаў, што пячы булкі яна будзе не ўранні, а ноччу, каб ніхто не бачыў.* Шам., ВТБ, 140. Параўн. у р а н ц ы.

**УРА'НЦЫ** *прысл.* Тое, што ў р а н н і. *Была ў мяне ўранцы.* РП, 571; Чамярысы Браг.

**УРАЧЫ'ЦЬ** *зак.* Сурочыць, урачы. *Хто якими уроками ураче, Хай яму кровъю вочи заволоче!* Рам., БС, V, 21; Дзятлавічы Гом.

**УРО'ІЦЦА** *зак.* Засесці, прыйсці, убіцца (у галаву). *Лихо яго ве-*

*дая, що яму уроилось у голову, тому мужику.* Рам., БС, IV, 48; Гом. Параўн. у ч а ў п ц і с я.

**УРУ′ПІЦЦА** *зак.* Паглыбіцца (у працу) і рупна працаваць. *Чалавек, што сядзеў над уліковымі карткамі, падняў вочы, уздыхнуў і зноў урупіўся ў сваю работу.* Палт., КС, 10.

**УРЭ′Д** *м.* (урэда *ж.*) *толькі адз.* Шкода. *Етый много урэду делав.* Рам., БС, IV, 93; Балсуны Раг. *Отступитяся, беси проклятыя, да ня делайтя ни ядыныя урэды.* Рам., БС, V, 1; Красная Буда Гом.

**УСЕ′НЬКА** *займ. ласк.* усё. *Раз прачытае і ўсенька запомніць.* Дан., Ж., 18.

**УСІЛІ′СКАЦЦА** *зак.* Абяссіліцца, знясіліцца (ад цяжкай, напружанай працы). *Мое ножки ускакались, Мое ручиньки усилискались.* Шэйн, I, 176; Гом.

**УСКАКА′ЦЦА** *зак.* Стаміцца да знямогі. *Мое ножки ускакались, Мое ручиньки усилискались.* Шэйн, I, 176; Гом.

**УСКАЛАМУ′ЦІЦЬ** *зак. перан.* Усхваляваць. *Сваім праніклівым позіркам, здавалася, ён зірнуў ёй у душу і там усё ўскаламуціў, узрушыў.* Саб., БАС, 61.

**УСКАЛО′ЧАК** (всколочек) *м. памянш.* кол. *Один воробей пошов скакать на всколочку, Наступив собе на ножечку.* Радч., ГНП, 149; Гом.

**УСКІ′НУЦЦА** **:ускінуцца ў скуку** — засумаваць. *Ен ускинувсь у скуку, што як жа можа быць — куды яна дзелась?* Рам., БС, III, 155; Навасёлкі Раг.

**УСКЛІ′К** *м. толькі адз.* Вокліч, воклік, выкрык. *Радасны ўсклік вырваўся з Жэнькіных грудзей.* Шам., I, 443.

**УСКО′РАСЦІ** *прысл.* Неўзабаве, у хуткім часе. *Жонка Міканора Іванавіча памерла неяк ускорасці пасля вайны.* Дан., МН, 131.

**УСКРУЦІ′ЦЦА** *зак.* Звар'яцець. *Сабралиса людзи да й кажуць, што мабыць суздром ускруцилаеса Кавалиха.* Серж., СРБП, 110; Лучыцы Маз.

**УСЛО′НЕЦ** *м.* Тое, што с т а л е ц. *Сядзиць на ўслонцы, личиць червонцы.* Шэйн, I; Гарволя Рэч. Параўн. с т а л о к.

**УСЛО′НЧЫК** *м. Памянш.* да ў с л о н е ц. *Сядайце. Вунь там, на ўслончыку.* Кап., А.

**УСО′КІ** *прым.* Высокі. *Там стояў явор тонки ўсоки.* Шэйн, I, 82; Калкі Рэч.

**УСПА′ДАЦЦА** *зак.* Замітусіцца, захваляваццa. *Тяпер к вечару собралися уже ўси — нема хлопчика. Успадались, шукать, бутцом, стали.* Рам., БС, IV, 94; Балсуны Гом.

**УСПАКАВА′ЦЬ** (успаковаць) *зак.* Спакаваць. *Выйшла ана із хаты, пашлі аны, з клеці выносілі на воз, успаковалі.* БКЭ, № 26.

**УСПА′РЫНА** *ж. толькі адз.* Выпарэнне, пара. *Лес увесь у расе, блішчыць. З імшарын падымаецца ўспарына, а туман сунецца ў гусцяжы.* Сач., БРВ, 33.

**УСПЕ′РЦІСЯ** *зак.* Тое, што у з ш т у р х а ц ц а. *Чаго ўсперся ні свет ні зара!* Мел., V, 9.

**УСПЫ′Х** *м.* Успышка. *Было гэта ў той час, як я хадзіў далёка ў полі, бяссэнсава пазіраючы на ўспыхі далёкіх зарніц.* Лупс., П, 103.

**УСТО′НЖКА** *ж.* Стужка. *Ото дурны які, з шпулькі, што паны сабе прышпуляюць кветкі альбо ўстонжкі, хоча зрабіць даўбешку ў сем пудоў.* ЧК, I, 231; Петр.

**УСТРА′НУЦЬ** *зак.* Уладкавацца. *У людзей так і робіцца: адно дзе ўстране на добрае, дык брата ці сястру за сабою цягне.* Саб., I, 128.

**УСТУ′РКВАЦЬ** *незак.* Раскатурхваць. *Але колькі хлопцы ні будзілі, колькі ні ўстурквалі Курта, не далі рады.* Саб., I, 46.

**УСУТЫ′К** *прысл.* Усутыч. *Частка вёсак уцалее, асабліва тыя, што ўсутык прылягаюць да нямецкіх гарнізонаў.* Нав., СТ, 195. *Тут усутык да агародаў падступае сасоннік.* Нав., ВС, 45.

**УСХВАЛЁВАНАСЦЬ** *ж. толькі адз.* Усхваляванасць. *Уся яго ўпэўненая пастава і ў малой меры не выдавала той яго вялікай унутранай усхвалёванасці, якую ён зараз перажываў.* Краўч., НХП, 389.

**УСХО'ДЦЫ** *толькі мн.* Усходкі. *Іван спыніўся на ўсходцах.* Шам., ВТБ, 46.

**УСЧАРЭ'ПІЦЦА** *зак. Іран.* Узлезці. *Анісім ледзьве ўсчарэпіўся на свайго Буланчыка.* Саб., I, 325.

**УСЧА'ЦЦА** *зак.* Узняцца, пачацца. *Усчаўся аднойчы пажар, і ўсё прахам пайшло.* Дан., Ж, 162.

**УСЫРЫ'ЧЫЦЬ** *зак.* Зрасходаваць. *Ды мо і грошы ўсе ўсырычыла за яе?* Саб., ПД, 24.

**УСЮ'ДАХ** *прысл.* Усюды. *Мы ж усюдах за тобой ходим.* Рам., БС, III, 317; Гом.

**УСЮ'СЕНЬКІ** *займ. ласк.* увесь. *Мучылиса ены ўсюсеньку ночку, только ось стало свитаць.* Серж., СРБП, 46; Лучыцы Маз.

**УСЯДЗЕ'ЦЬ** (уседзець) *зак.* Выседзець. *Купіў я морске яйко; як месяц на нім посідзіш, так жэрэбца ўседзіш.* БКЭ, № 8; Камаровічы Маз.

**УСЯНО'ЧНЯ** *ж. толькі адз. Царк.* Усяночная. *Відаць, паны збіраліся ехаць на ўсяночню.* Лупс., ВТ, 248.

**УТАЛО'ПІЦЬ** *зак.* Утаропіць (вочы). *Вялікія вільготныя вочы таварыш уталопіў у столь, цяжка, перарывіста дыхае.* Нав., СТ, 288.

**У'ТАЎКА** *ж. заал. ласк.* качка. *Ой, як жа мне селязёну, не лятаць хмурнаму, Да што маю ўтаўку да й на моры ўбілі.* ЗП, 341; Дзякавічы Маз.

**УТКА'ЦЬ** *зак.* Выткаць. *До сорока сороков Ена уткала рушничков.* Шэйн, III, 402; Дзякавічы Маз.

**УТРАПЕ'ЦЬ** *зак.* Атарапець. *Збеглі мы з узгорка да балоння, і тут я ўтрапеў: каталася Эма Пшанічная.* Лупс., ВТ, 139.

**УТРУПЯНІ'ЦЬ** *зак.* Знішчыць, забіць. *Няўжо ж гэта ўсё скончылася, няўжо ж свае людзі, сваякі — братавая і пляменніца, дадуць утрупяніць яго?* Саб., I, 269.

**УТРЭ'ЙКІ** *прысл.* Трэці раз. *От и ўтрэйки прыходзиць маладзица к дзедку па воду.* Серж., СРБП, 45; Лучыцы Маз.

**УТРЭ'ЙЧЫ** (утрейчи) *прысл.* Тое, што т р о й к а. *А господар трэба каб узяў куццю з горшком и абышоў ўтрейчи хату.* Шэйн, I, 46; Кочышчы Маз. Параўн. т р о й ч а, т р э й к а.

**УТУ'ХНУЦЬ** *зак.* Патухнуць. *Махнуў ён на (а)бодва бакі — полама і ўтухла.* ЧК, I, 254; Мяркулавічы Раг.

**УТЫРКНУ'ЦЬ** *зак.* Уткнуць, уваткнуць. *Мядзведзь табе скажа: утыркні тапор! Дык ты не торкай у бок, а сячы прама ў пуза.* КЖЧК, 163; Азяраны Раг.

**УТЭ'ТАКІ** *займ.* Тое, што т а к а в а с т ы. *Спрежда кожа на их была утэтакая, як нохти, а посьли того зделалась утэтакая, як и тяпер.* Рам., БС, IV, 3; Вылеў Гом. Параўн. т а к і м і с т ы.

**УХВА'ЛЬНА** *прысл.* З ухвалай. *«Я ў твае годы акалачваў грошы»,— бацька мяне ўпікне. А маці ўхвальна прамаўчыць.* Наўр., ГС, 48.

**УХМЫЛІ'ЦЬ** *зак.* Прыціснуць (вушы). *А заяц хоць бы што: сеў сабе перад стралцами да только вушы ўхмылиў.* Серж., СРБП, 24; Лучыцы Маз.

**УХО'ДЖВАЦЬ** (уходжуваць) *незак.* Уваходзіць. *Ідзе ён па дарозе, уходжуе ў лес.* ЧК, I, 252; Мяркулавічы Раг.

**УЦЁГЛЫ** *прым.* Цягавіты. *Працавітыя, рабацяшчыя яны ў яе, уцёглыя, удаліся ў Мікалая, мужа.* Сач., ЗМП, 134.

**УЦІ'РА** (утира) *ж. толькі адз.* Страта. *Зделалось утиры ў табуне дванатцать штук овец — вовки порезали.* Рам., БС, IV, 110; Васільеўка Гом.

**УЦІРА'НКА** *ж.* Ручнік, уціральнік. *Ён дастаў з куфры маю крамную белую ў ружовыя палосы святочную кашулю, даў у рукі неш-*

*та загорнутае ў чыстую вышываную ўціранку.* Саб., II, 16.

**УЦЯКЦІ′** (уцекці) *зак.* Уцячы. *Э, ты думаў уцекці, штоб я тут з голоду померла.* БКЭ, № 24; Камаровічы Маз.

**УЦЯЛЬМЯ′ШЫЦЬ** ◆ **уцяльмяшыць у галаву** — убіць у галаву. *Рыгор, што гэта ты ўцяльмяшыў сабе ў галаву?* Шам., ВТБ, 122.

**УЦЯ′МІЦЬ** *зак.* Тое, што раскумекаць. *Я ніяк не мог уцяміць тады іх узаемаадносін.* Шам., IV, 65. Параўн. сцяміць.

**УЧАРА′ЙШЫ** *прым.* Учарашні. *Песьні, песьні! З вас сілы чэрпаць, як паўстане ўчарайшая быль.* Дуд., СС, 3.

**УЧАЎПЦІ′СЯ** *зак.* Тое, што ўроіцца. *От немаведама, што ўчаўплося чалавеку ў галаву.* Саб., ЖЗ, 204. *І што табе ў галаву ўчаўплося?* Пал., КЗС, 5.

**УЧКУ′Р** *м.* Матуз. *А уже ж чумак прочумаковався: згубив штаны, учкур оборвався.* Рам., БС, I—II, 205; Перарост Гом.

**УЧУ′СТВАВАЦЬ** *зак.* Адчуць. *Што вы ўчуствавалі, харол і сакол, ніякага непрыятства не даўжно быць.* ЧК, I, 67; Рудня Чач.

**УШТЫРХНУ′ЦЬ** *зак.* Уштурхнуць. *Пекольники отчинили двери, да яго туды и ўштырхнули.* Рам., БС, III, 426; Гом.

**УШУ′ШКАЦЦА** *зак.* Ухутацца. *От ушушкалася. А як ногі, не замерзлі?* Саб., ЖЗ, 20.

**УШУ′ШКАНЫ** *дзеепрым.* Ухутаны. *Ушушканае цела яго, мабыць, аж разамлела.* Саб., II, 181.

**УШЧА′ЦЬ** *зак.* Распачаць. *Немцы з паліцэйскімі супакойваюць саміх сябе, таму ўшчалі такі вэрхал.* Нав., СТ, 250.

**УШЧУВА′ЦЬ** *незак.* **1.** Дакараць. *«Дык там сядзеў як вады ў рот набраўшы, а тут, за чаркай, дык і ты бравы ваяка»,— ушчуваў Анісіма нехта з яшчэ, відаць, цверазейшых старшынь калгаса.* Саб., I, 325. **2.** Супакойваць. *Галя нават не ведае, як завецца гэтая птушка, але ранішні спеў яе ліецца як гаючы водар, ушчувае боль.* Саб., БАС, 11.

**УШЧУ′ЦЦА** *зак.* Супакоіцца. *А цяпер душэўны боль неяк ушчуўся, і Хадора жыла ўжо так, як жывецца.* Саб., I, 24.

**УШЧЫНА′ЦЦА** *незак.* Пачынацца, узнікаць. *Бацька бавіўся са стойкай, і не адзін раз у хаце ўшчыналася сварка з-за яе.* Саб., II, 42.

**УЮ′ННІК** *м.* Рыбалоў, які любіць лавіць уюноў. *Галоўны ж і самы заядлы ўюннік — Лявон.* Сач., БРВ, 24.

## Ф

**ФАНАБЭ′РЛІВЫ** *прым.* Фанабэрысты. *Белабрысая такая, фанабэрлівая з выгляду, казала, што звеннявая.* Саб., ЖЗ, 56.

**ФА′СКА** *ж.* Пасудзіна для масла. Радч., ГНП, 14; Гом.

**ФАТЫ′ГА** *ж.* Выгада, карысць. *Мусіць, не так сабе выпраўляў у дарогу хітры Анан дачку — хацеў мець нейкую фатыгу.* Дан., Ж, 13.

## Х

**ХАДЖА′ІН** *м.* Тое, што спадар. *Частуе хаджаин маскаля, а той ужэ й так асалавеў.* Серж., СРБП, 51; Лучыцы Маз. Параўн. хажаін.

**ХАЖА′ІН** (хожаин) *м.* Тое, што

спадар. *Устань козынька, Да расходзися, Пану хожаину У ножки склонися.* Шэйн, I, 95; Мелішковічы Маз. Параўн. хаджаін.

**ХАЗЯ'ЮХНА** (хозяюхна) *ж.* Гаспадыня. *Жана моя не хозяюхна, дети мое не сироточки!* Рам., БС, I—II, 71; Гом.

**ХАЛАДА'ЦЦА** *незак.* Прахалоджвацца. *Пачакаўшы, калі дзяўчына будзе выходзіць халадацца, Анісім асцярожна ўзяў яе за руку, затрымаў у дзвярах.* Сач., Д, 75.

**ХАП :адным хапам** — хутка, адразу. *Але ж людзей так проста адным хапам не зраўняеш.* Нав., ТЮ, 144.

**ХАПА'ЦЦА** (хопацца) *незак.* Спяшацца. *Поперад войска не хопайсь, Позад войска не оставайсь.* Радч., ГНП, 22; Гом.

**ХАРАМО'К** *м. памянш.* хорам, палац. *Падабаўся яшчэ адзін аспект гэтай ідэі: падарыць Веце і Дашы казачны харамок.* Шам., VI, 43. Параўн. харомчык.

**ХАРО'Л** *м.* Арол. *Ён бярэ харла і сакала, садзіцца на харла, сакол асвяшчае, а харол чуе.* ЧК, I, 67; Рудня Чач.

**ХАРО'МІНА** *ж.* **1.** *павел.* хорам, палац. *Неяк у паўзе, адпачываючы ад праекта Палаца — вунь якая харомінa — ён намаляваў маленькі казачны харомчык.* Шам., VI, 43. **2.** *іран.* Дом для жылля. *От мая хароміна, заходзьце.* Саб., ЖЗ, 236. *Густ у старшыні райспажыўсаюза, які за казённыя грошы адгрукаў да вайны хароміну, быў някепскі.* Нав., СТ, 32.

**ХАРО'МЧЫК** *м.* Тое, што харамок. *Неяк у паўзе, адпачываючы ад праекта Палаца — вунь якая хароміна — ён намаляваў маленькі казачны харомчык.* Шам., VI, 43.

**ХАРЧЫ'ЦЦА** (харчитца) *незак.* Харчавацца. *Запрог ён свую коня... далі яму грошій на дорогу харчитца.* Рам., БС, III, 231; Насімкавічы Раг.

**ХА'ЎКАЦЬ** *незак.* Ледзь дыхаць, дыхаць з цяжкасцю, хапаць паветра. *Нядаўна ж ляжаў і ледзь хаўкаў.* Дан., ЗА, 65. *Ён чапляўся за жыццё, хаўкаў, як рыба, выкінутая на берег.* Краўч., НХП, 11.

**ХАЎПЦІ'** *незак.* Есці прагна. *Гоніш тавар паўз агароды, глядзіш, Коўба ўжо ў бураках, хаўпе на поўны рот бурачнік.* Нав., В, 73.

**ХАЎТУ'РЫ** *толькі мн.* Пахаванне. *Паехаў ён зноў адзін; заехаў у сяло, наняў папа пахаваць таго чалавека, адслужыў па ём абедню і пазваў на хаўтуры ўсё сяло.* ЧК, II, 540; Беліца Гом.

**ХВАБРЫ'ЦЦА** (хвабрытца) *незак.* Храбрыцца. *Пабачымо, як ты тагды будзеш хвабрытца.* Серж., СРБП, 110; Лучыцы Маз.

**ХВАІ'НКА** *ж. памянш.* хвоя. *З таго боку палатна тонкія чэзлыя хваінкі, бярэзінкі, якія знікаюць у хісткай шэрані.* Нав., ВС, 93.

**ХВІ'ЛА** *ж.* Бура. *Сверху конопельки клюють воробьи, С исподу конопельки вода подмыла, А в середине конопельки хвила зломила.* Радч., ГНП, 37; Гом.

**ХВІ'ЛЯ** *ж.* Хвіліна (міг, момант). *Тады гэта было зразумела: кожную хвілю мог абарвацца тоненькі валасок, на якім вісела жыццё кожнага салдата.* Саб., I, 42.

**ХВУЗЕ'Я** *ж.* Стрэльба. *А ў хаце хвузея стаяла.* БКЭ, № 20; Камаровічы Маз. Параўн. хвур'я.

**ХВУР'Я'** (хвурья) *ж.* Тое, што хвузея. *Да хвурью пастроіў, да акно протворыў, да як пальнуў, так бусла забіў.* БКЭ, № 29; Камаровічы Маз.

**ХІБЕ'ТНЫ** *прым.* Здатны, умелы. *«Ты ў мяне хібетная на ўсё»,— казала Хіма да Галі.* Саб., БАС, 179. *І прыгожая, і хібетная.* Рак., В, 213.

**ХІ'ЖЫ** *прым.* Драпежны, прагны. *Такім цыганістым не вельмі давярай: вока ў яго нейкае хіжае.* Дан., Ж, 78.

**ХІ'НДЗЯ** *ж. толькі адз.* Ліхаманка. *Мяне пачала трэсці нейкая*

*вельмі страшная палеская ліхаманка, па-тутэйшаму хіндзя.* Сач., Д, 156.

**ХІРЛЯ́К** *м.* Чалавек кволы, слабасільны. *Каб хоць мужчына, а то п'яніца, хірляк.* Нав., ВС, 188.

**ХІТА́ЦЦА** *незак.* Хістацца. *Праўда, побач з чужым, пазналі, спакойна хітаўся Міканор.* Мел., VI, 76.

**ХІТРА́Ч** *м.* Хітрун, хітрэц. *Чатыры гады праседзеў я з ім на адной парце, не раз рыхтаваў нават разам урокі і ведаю хітрача, ганарыстага Родзьку!* Дан., ЗА, 155.

**ХІТРУ́НЯ** *жан. да* хітрун. *Вунь як яны, хітруні, грацыёзна прытупваюць у чырвоных спадніčках.* Дан., МН, 137.

**ХІТРЭ́ННА** *прысл.* Хітравата. *Вочы ў старога так хітрэнна зажмурыліся, што камбайнеры зноў засмяяліся.* Шам., ВТБ, 55.

**ХЛА́МАЦЬ** *незак.* З характэрным гукам захопліваць у рот ежу (пра кароў). *Скубуць, хламаюць каровы траву.* Сач., А, 7.

**ХЛАПО́ЦКІ** (хлопоцкій, хлопяцкі) *прым.* Хлапечы. *Ци ты паньскій, ци цыганьскій, ци хлопоцкій, ци дзявоцкій,— эй ты урок, якій ты урок?* Рам., БС, V, 13; Гарадзец Раг. *Выговариваю крыксы-плаксы, дянныя, полудянныя, жаноцкія, дявоцкія, рабяцкія, хлопяцкія.* Рам., БС, V, 34; Ветк. Параўн. х л а п ц о ў с к і.

**ХЛАПЦО́ЎСКІ** *прым.* Тое, што х л а п о ц к і. *Варта было толькі глянуць на яе паходачку, калі яна шырокімі хлапцоўскімі крокамі ішла па вуліцы.* Крауч., НХП, 592.

**ХЛАПЧАНЯ́ТКА** *н. ласк.* хлапчанё. *Што я мог зрабіць, хлапчанятка няшчаснае?* Шам., ВТБ, 143.

**ХЛАПЧЫ́НА** *м.* Хлопец. *Яна, маці, лічыла б за шчасце, каб такі хлапчына, разумны, стрыманы, разважлівы, пакахаў яе дачку.* Шам., IV, 158.

**ХЛЕ́ВІШЧА** *н.* Месца, дзе быў хлеў. *Праз свае соткі я давалокся да хлевішча, на якім чарнелі абсмаленыя сохі.* Сач., Д, 314.

**ХЛЕПЯТА́ЦЬ** (хлепетать) *незак.* Шамацець, шалясцець, шапацець. *Уси листочки не хлепечать, ручаечки не тякуть.* Рам., БС, I—II, 81; Гом.

**ХЛІ́ПКІ** *прым.* Кволы, слабы. *«Валодзя, а мяне могуць узяць на экскаватар?» — «Наўрад, хліпкі ты».* Мел., IV, 345.

**ХЛУДЗІ́НА** *ж.* Дубец. *Ён тады выразаў ладны дубец да падкраўся ззадзі на цыпачках да й ну яе жарыць па спіне хлудзінай.* ЧК, II, 457; Гом.

**ХЛЮ́ПАННЕ** *н. толькі адз.* Чваканне, шлёпанне (па гразі). *Ля сенечных дзвярэй пачулася хлюпанне крокаў, зноў нешта бліснула.* Саб., I, 201. *Ён нічога не чуў, акрамя хлюпання пад нагамі асенняй густой гразі.* Саб., I, 35.

**ХЛЮПАТКІ́** *прым.* Хлюпотны, слотны. *Позняя хлюпаткая восень.* Сач., БРВ, 77.

**ХМАРНЕ́СЕНЬКІ** *прым. ласк.* хмарны. *Да у девочки сердце, як летнее солнце, Як ено и хмарнесенько, так усе теплесенько.* Радч., ГНП, 142; Гом.

**ХМУРНЕ́НЬКА** (хмурненько) *прысл. перан. ласк.* сумна, панура, хмурна. *Чаго ты, Кондратко, хмурненько ходзиш?* Шэйн, I, 86; Калкі Рэч.

**ХМЫЗНЯ́ЧЧА** *н. Зборн.* Хмызняк. *Галя зірнула ёй услед і папраставала лесам да таго балота, дзе надоечы мужчыны пачалі церабіць хмызняччa.* Саб., БАС, 11.

**ХО́ПКА** *ж. толькі адз.* Салата з растопленым тлушчам і цыбуляй. Радч., ГНП, 13; Гом.

**ХРА́ПА** I *ж.* Морда ў буйной жывёлы. *Будзеш ісці, конюх падгоніць да вадапою коней, выбірай лепшага, ударыш яму па храпе і пад нагу і садзіся.* ЧК, I, 35; Гацкае Чач.

**ХРА́ПА** II *ж. толькі адз.* Груда замёрзлай зямлі. *Няхай на іх застыла храпа, але вазок, у які запрэжаны быстры конь, коціцца*

*лёгка, імкліва, са звонкім грукатам.* Гам., ША, 67.

**ХРУПАСТКІ'** *прым.* Крохкі, ломкі. *Далёка чуваць крокі — трашчыць пад нагамі хрупасткі лядок.* Нав., СТ, 45.

**ХРЫПА'ТА** *прысл.* З хрыпатой. *Тыдзень носіцца на ўзмыленым чорным жарабцы Вакуленка па вёсках, не злазячы з каня, хрыпата крычыць.* Нав., СТ, 162.

**ХСЦІ'ВЫ** *прым. Неадабр.* Хціва, прагны. *Быў сабе адзин поп, да вельми хсцивы да маладзиц.* Серж., СРБП, 121; Лучыцы Маз.

**ХУДАЛЕ'ТАК** (худолеток) *м.* Дзіця слабае, кволае. *Да заўдала мне жалосьти чужая сторонка, да не родная мамка, худыя худолетки, дробныя детки.* Рам., БС, I—II, 3; Алешня Раг.

**ХУДАЛЕ'ЦЦЕ** (худолетьтя) *н. толькі адз.* Ліхалецце. *И такое, братяц ты мой, худолетьтя було, што ня ўродило жита а ни кустика.* Рам., БС, IV, 180; Карма Раг.

**ХУДО'БАНЬКА** (худобонька) *ж. зборн. ласк.* быдла. *Тобе, мамко, вся худобонька, А мне бодня и коровонька.* Шэйн, III, 437; Дзякавічы Маз. Параўн. х у д о б у ш к а.

**ХУДО'БІНА** *ж.* Карова. *«Ну пайшла, пайшла, разбойніца рагатая»,— ласкава падганяў Казімір худобіну.* Саб., БАС, 44.

**ХУДО'БІНКА** *ж. Ласк.* да х у д о б і н а. *Як жа мы, сынок, перазімуем? Здохне наша худобінка.* Кап., СЖЛ, 35.

**ХУДО'БУШКА** *ж.* Тое, што х у д о б а н ь к а. *Няхай уся худобушка при мне.* Рам., БС, I—II, 64; Перарост Гом.

**ХУДО'СЛІВЫ** *прым.* Слабы, кволы, худы. *Узяв жёночку худосливую, несчастливую.* Радч., ГНП, 155; Гом.

**ХУ'ЖАЙ** *прысл.* Горш, мацней. *То конь плакав, а то ще хужай плача.* Рам., БС, III; Гарадзец Раг.

**ХУ'КАЦЬ** *незак.* Дуць. *І па абедзвюх палавінах хаты хадзіў лёгкі прыемны скразнячок — дыхаў халадком, надзімаў фіранку, а часам так хукаў на яе, што яна вылятала за акно.* Рак., БВ, 93.

**ХУНТ** *м.* Фунт. *«Хунтаў на сто будзе»,— кажа дзед Мікалай.* Сярк., МСТВ, 36.

**ХУРА'** *ж. толькі адз.* Завіруха, мяцеліца. *А деду треба было ехать у хуру.* Рам., БС, III, 142; Гом.

**ХУ'СТКА-АБПІНЯ'НКА.** Хустка цёплая, вялікая. *Па доўгай чорнай спадніцы, хустцы-абпінянцы і па нагах, абкручаных анучамі, яе адразу пазнаў Лёнька.* Кап., СЖЛ, 28.

**ХУ'СТКА-КАНАПЛЯ'НКА** *ж.* Хустка ў дробныя крапіны, рабая. *Падымаецца з месца пажылая настаўніца з Прудка — змізарнелы, жоўты твар, на плячах сялянская хустка-канаплянка.* Нав., ВС, 136.

**ХУ'СТКА-ГА'РУСКА** *ж.* Тое, што г а р у с о ў к а. *З гэтымі словамі Шышка вярнуўся да сваёй жоўтай торбы, нахіліўся, дастаў адтуль хустку-гаруску, спрытным, умелым рухам кінуў яе на плечы Адарцы.* Шам., ВТБ, 116.

**ХУСЦІ'НА** (хустина) *ж.* Хустка. *А хоть жа й пойду в гостину, Навяжу блинов хустину.* Дэмб., ООМГ, I, 578; Рагінь Раг.

**ХУТАРЭ'Ц** *м. памянш.* хутар. *У старога Салвеся Галезніка была надзея зрабіць свой хутарэц невялічкім раем на зямлі.* Саб., I, 167.

**ХУЧШЭ'** *прысл. Пар. ст.* Хутчэй. *Хадзім мы ў гумно — хто пяць коп вымолоціць жыта хучшэ, таго будзе паненка.* БКЭ, № 18; Камаровічы Маз.

**ХЦІ'ЎНЫ** *прым.* Хціва, прагны (да ведаў, працы). *Хціўнае племя ў ясных палацах мае святло і прастор.* Дуд., С, 16.

**ХЫ'РКНУЦЬ** *зак.* Фыркнуць. *Тагды Чаволай зайшов скоту наперад ды як хыркня...* Рам., БС, III, 74; Перарост Гом.

# Ц

**ЦАГАЛО′** *н.* Капшук. *Мац за пояс — цагала нема. Початка целая й пецелька завязана, як была, а цагало чорт ухапіў.* Серж., СРБП, 94; Лучыцы Маз. Параўн. шабета ў 1 знач.

**ЦАЛАВА′НШЧЫК** (цалованьщик) *м.* Шынкар, карчмар. *Цалованьщика то я любила, у кабак частенько-то я ходила.* Рам., БС, I—II, 203; Гом.

**ЦАЛКО′** *аг. Іран.* Цалок. *Не папаў! Цалко!* Мел., IV, 383.

**ЦАЛЯ′** *ж. толькі адз.* Цалік, цаліна. *На цалю нават не паспее збочыць.* Дуб., I, 362.

**ЦАЛЯВА′ЦЬ** *незак.* **1.** Пралягаць (пра дарогу). *Гравійка цалюе наўпрасткі.* Саб., ЗПД, 59. **2.** Ісці напрасткі. *І от мы, прайшоўшы навабеліцкі мост, спускаемся з насыпу на луг і цалюем наўпрасткі да белых цыганскіх шатроў.* Саб., ЗПД, 182.

**ЦАНАВА′ЦЦА** *незак.* Прыцэньвацца, таргавацца. *Пасля яго ніхто не падыходзіў, не цанаваўся з Дзімкам за сена.* Кап., СЖЛ, 63.

**ЦАПЕ′ЛЬ** *у знач. вык.* Цап. *Яны тогды цапель! да за язык яе клящами.* Рам., БС, IV, 17; Гом.

**ЦАРЫ′К** (царик) *м. Зневаж.* Цар. *Есть у свети много цариков.* Рам., БС, V, 44; Свяцілавічы Раг.

**ЦАХЛЕ′ЦЬ** *незак.* Скавытаць. *Сабака сядзеў на клумбе. І ўжо не выў, а ціха-ціха цахлеў.* Сач., Д, 36.

**ЦАЦА′ЛКА.** Гл. абяцалка-цацалка.

**ЦВІК-МАСТАВІ′К** *м.* Цвік, што забіваецца ў падлогавую дошку. *Асталіся стаяць толькі чорныя, абсмаленыя слупы ды дзе-нідзе папрыбіваныя да слупоў цвікамі-маставікамі галузы жэрдак.* Сач., АП, 307.

**ЦВЫРКАТА′ЦЬ** *незак.* Струменіцца. *Чутно, як у змроку цвыркоча малако ў бляшаную даёнку.* Лупс., ВТ, 214.

**ЦВЯТЛІ′ВЫ** *прым.* Квяцісты, маляўнічы. *І лета цвятліваe з сонцам гарачым.* Дуб., I, 299.

**ЦЕ′ЛЕЧКА** *н. ласк.* цела. *Ды й ляжыць цела, як папер бела, ніхто к целечку не прыступіцца.* ВП, 228; Чамярысы Браг.

**ЦЕЛЬПУХАВА′ТАСЦЬ** *ж. толькі адз.* Непаваротлівасць, нязграбнасць (пра цельпукаватага чалавека). *Можа б яна і прыцярпелася, прызвычаілася да Болесевай цельпухаватасці, калі б не накасаўся гэты самы Валодзя Струк.* Саб., I, 251.

**ЦЕЛЬПУХАВА′ТЫ** *прым.* Цельпукаваты. *Ці я гэтакі цельпухаваты, ці што — цяжка неяк размінуцца з чалавекам, каб не пхнуць яго.* Саб., II, 84.

**ЦЕЛЯПА′ЦЦА** *незак.* **1.** Матляцца. *На баку цяляпалася мокрая торбачка, у якой было да палавіны ўюной.* Гам., ША, 110. **2.** *перан.* Плясціся, цягнуцца (следам). *А ён, як толькі выйду на вуліцу, і целяпаецца ўслед за мной, як хвост.* Сач., А, 40.

**ЦЕ′НЕНЬКА** *прысл. Ласк.* Тоненька. *Бомкалі чмялі, бзыкалі авадні, мухі, цененька-цененька звінелі камары, мошкі.* Сач., Д, 312.

**ЦЕ′НЬКІ** *прым.* Тонкі. *Ніці, якія іх звязваюць, нетрывалыя, ценькія, нацягні тужэй — парвуцца.* Нав., СТ, 344.

**ЦЕНЯ′ТА** (ценято) *н.* Сетка паляўнічая. *Кабы нам як зловіць ее. Разопнём ценято дай пагонім.* БКЭ, № 28; Камаровічы Маз.

**ЦЕПЕ′РСЯ** (теперься) *прысл.* Цяпер. *Теперься я тутока?!* Радч., ГНП, 10; Гом. Параўн. цяперыча.

**ЦЕ′ПКА** *ж.* Жэрдка. Дэмб., ООМГ, I, 475.

**ЦЕРАБІ′ЦЦА** *незак. Перан.* Прабіцца. *Церабіліся па твані марудна.* Мел., Н, 7.

**ЦЕСЦЮ′ХНА** *аг. ласк.* цесць. *Памагай бо, да мой цесцюхна, Ці жыў, ці здароў.* Б., 439; Алешын Раг. // Цешча. *Здраствуй, здра-*

*ствуй, мая цесцюхна...* ВП, 237; Гом. Параўн. ц е ш ч у х н а.

**ЦЕ'ШЧУХНА** (цёшчухна) *ж. ласк.* Цешча. *А гэта будзе мая цешчухна, А гэта будзе да мой шур'янка.* ВП, 325; Чамярысы Браг. *Ды яму ж цёшчухна — ані слоўца...* ЛБВ, 182; Драгунск Гом.

**ЦЁМНАЧЫ** *прысл.* У цемнаце. *Цёмначы Мікодым запрог у брычку каня.* Саб., I, 185. *А таму, што не выберамся адсюль цёмначы.* Сач., БРВ, 273.

**ЦЁПКАННЕ** *н. толькі адз.* Шлёпанне. *Раптам з Пекавай палавіны хаты данеслася нейкае раўнамернае цёпканне.* Нав., В, 49.

**ЦІВЯНЁ** *н.* Чалавек кволы. *Ты ў плячах шырокі, моцны. Арол! Але ты скажы, як гэтае цівянё з табою лётала?* Крауч., НХП, 36.

**ЦІЛІ'ЎКАЦЬ** *незак.* Ціўкаць. *У старых прысадах пры дарозе, якая вяла на сядзібу Завейнаўскай МТС, ціліўкала, шчабятала рознае птаства.* Саб., ЖЗ, 51. *На дрэве, якое даставала голлем трэцяга паверха, ціліўкала нейкая дробненькая з жоўтымі грудкамі птушачка.* Саб., ЗПД, 70.

**ЦІ'НЬКАННЕ** *н. толькі адз.* Ціўканне. *Услухоўваецца ў лёгкі і густы пошум асінніку, у якім недзе то замірае, то зноў чуецца тоненькае цінькание сініцы.* Рак., СЛС, 29.

**ЦІПЕ'Ц** *м. толькі адз. Бат.* Ціпчак. *Яўстрат сядзеў далёка ад вогнішча, на мяккіх грывах белага ціпцу.* Рак., СЛС, 66. *Стаіць сабе іншы раз, як той маладзец Ілья Мурамец, статны ды бравы, на такім вось ціпцы!* Рак., СЛС, 67.

**ЦІСЦЯТКО'ВЫ** *прым.* Цесцеў. *Штобу его уроки не взяли От цисцяткова витаньня, От чещухнового снеданьня.* Шэйн, II, 409; Дзякавічы Маз.

**ЦІ'ЎКАЦЬ** *незак. Перан.* Праляцаць з тонкім свістам (пра кулі). *Ворагі не шкадавалі ні куль, ні снарадаў — чорныя, раскідзістыя кусты вырасталі то тут, то там, рэзка бурчалі і вылі асколкі, ціўкалі кулі.* Сач., БРВ, 267.

**ЦМО'КНУЦЬ** *зак.* Пацалаваць. *«Татачка, колькі разоў цябе пацалаваць?» — падскочыла, абхапіла за шыю, цмокнула раз, два, тры...* Шам., ВТБ, 41.

**ЦМЫ'КАЦЬ** *незак.* Рваць, шморгаць. *Молодичка Хомина По болоту ходила, Траву цмыкала, Теляткам давала.* Рам., БС, I—II, 175; Беліца.

**ЦО'НГЛЕ** *прысл.* Заўсёды, пастаянна. *Только адзин мельник ничого не баяўся й цонгле жыў у млыне.* Серж., СРБП, 54; Лучыцы Маз.

**ЦО'ПНУТЫ** :**цопнуты мехам (мяшком)** — неразумны, дурны. *Сядзелі, як змаўжы, прыліпшы да акна. Адзін, па-мойму, мехам з-за вугла цопнуты.* Нав., СТ, 74. *Вядома, гэты Пауль крыху ненармальны, як гэта гаворыцца, цопнуты з-за вугла мяшком.* Сярк., МСТВ, 128.

**ЦО'ПНУЦЬ** *зак.* Убрыкнуць. *Пошов сын к коню, поклав руку на крыж — конь яго як цопнув заднім копытом у грудзи, дак ён у три кули и покатився от яго.* Рам., БС, III, 151; Гарадзец Раг.

**ЦО'ТАЦЬ** (цотаци) *незак.* Лускаць. *Да буду орешки цотати, Да буду девку Катярину сватати.* Радч., ГНП, 94; Гом.

**ЦУГО'ЛКА** *ж.* Што-н. падобнае да цуркі. *Праполвала, а позняй восенню выкапвала абсыпаныя зямлёй цуголкі — клубні ад вяргіні.* Дан., ЗА, 66.

**ЦУК** *у знач. вык.* Плюх. *Тольки узявся за крук, а карбованец у воду цук.* Рам., БС, III, 435; Беліца. Параўн. ш а б о ў с ь.

**ЦУ'ПАННЕ** *н. толькі адз.* Стукат з характэрным гукам (пра малацільны цэп). *Пачуў, як цупае за двума гумнамі цэп у Зайчыкавым гумне, пацягнуўся на гэтае цупанне.* Мел., V, 326.

**ЦУ'ПАЦЬ** *незак.* **1.** Стукаць з характэрным гукам (пра малацільны цэп). *Пачуў, як цупае за дву-*

*ма гумнамі цэп у Зайчыкавым гумне, пацягнуўся на гэтае цупанне.* Мел., V, 326. **2.** Тупаць. *Конік бадзёра цупае па дарозе, памахвае доўгім хвастом.* Нав., ВС, 260. Параўн. ц ю п а ц ь.

**ЦУПЕ'ЦЬ** *незак.* Цвярдзець, станавіцца цупкім. *Коса, з-пад ветру, пасыпаліся снежныя крупы, і зямля пад нагамі стала цупець і шэрхнуць.* Рак., В, 62.

**ЦУРБА'К** *м.* Цурбан. *Падымайся са свайго цурбака і Франц.* Дан., ЗА, 104. *Перад яго вісеў на цурбаках, а радыятар, поршні, шатуны — усё нутро машыны ляжала, параскіданае на ўтоўчанай каленямі раллі і на кавалках бруднай паперы.* Рак., СЛС, 9.

**ЦУ'РКА** *ж.* Дачка. *Ацец мой дорогій, я ж ваша цурка.* БКЭ, № 7; Камаровічы Маз. *Ему хотелось также жить по-пански, учить цурек хоть в мозырском или пинском пансионе.* Эр., ОБП, 215; Брагін.

**ЦУРКАТА'ЦЬ** *незак.* Цурчаць. *Толькі цуркоча вада ля вушэй і маскі.* Гам., ША, 35.

**ЦЫГЛА'ТЫ** *прым.* Цыбаты. *Зирнуць людзи, аж гэто якоесь страшыдло: высоки, худы, з доўгими кудлами да з велизазнаю барадою, цыглаты.* Серж., СРБП, 122; Лучыцы Маз.

**ЦЫ'КНУЦЬ** *зак.* Прыкрыкнуць. *Мог часам цыкнуць на дзяцей.* Шам., ВТБ, 328. *«Маўчы, няшчасная!» — цыкнула яна на дачку і выскачыла з-за стала, ужо расчырванелая, раз'юшаная.* Шам., IV, 401.

**ЦЫ'ПКІ :на цыпкі** — на кукішкі. *Алег таксама прысядаў на цыпкі і размінаў рукамі дзве сухія грудкі зямлі.* Гам., ША, 70.

**ЦЮ'КНУЦЬ** *зак. безасаб.* **1.** Прыйсці на думку. *Мне цюкнула ў галаву з'ездзіць у Рыгу і абавязкова знайсці кніжку.* Саб., ЖЗ, 203. *Сто чалавек пройдзе, сто зачэпіцца, а каб узяць камень ды цвік забіць — нікому і ў галаву не цюкне.* Сач., БРВ, 95. **2.** Параніць. *Восенню, ужо ва Усходняй Прусіі, мяне цюкнула яшчэ раз.* Нав., ТЮ, 6.

**ЦЮ'ПАЦЬ** *незак.* Тое, што ц у п а ц ь у 2 знач. *Цюпае ззаду і яшчэ здалёк мне ківае і маргае.* Саб., БАС, 38. *А конік сабе памалу цюпаў па добра ўезджанай дарозе.* Саб., ЖЗ, 14.

**ЦЭ'ЛЬНЫ** (цэлный) *прым.* Цэлы. *Прослужив ён там цэлный год, хозяин дае яму дватцать карбованцов.* Рам., БС, III, 222; Гом.

**ЦЭ'ЛЯ** *ж.* Шчыліна. *Жую тую скібку, што падае мне нехта нябачны ў цэлю, п'ю кіпень, ем брукваную баланду.* Сач., ЧН, 174.

**ЦЯГЛО'** *н. толькі адз.* Цяглавая сіла. *Бур'ян ведаў, што без цягла калгас не мог асіліць усю зямлю.* Дан, **МП, 33.**

**ЦЯЛЕ'СНІКІ** *толькі мн.* Чалеснікі. *Чырвонае іскрыстае полымя вырывалася з цялеснікаў, нібы яму там цесна было.* Саб., ЖЗ, 170.

**ЦЯЛЕ'ШЫК** *м. памянш.* цурбалак. *Ігнаціха сядзела на цялешыку ля агню і зашывала ў кафтане дзіркі.* Кап., СЖЛ, 26.

**ЦЯЛІ'ЦА** *ж.* Цёлка. *Зімою, сыночак мой, наша цяліца ацеліцца.* Кап., СЖЛ, 34. *А сакрэты былі такія, што ў Грыбка цяліцу нехта ўракнуў.* Мел., V, 146.

**ЦЯЛІ'ЧКА** *ж. Памянш. да* ц я л і ц а. *Ды цялічку прырэж, хай дзеці з'ядзяць.* Сач., Д, 28. *За сталом усё з бацькам ды з бацькам і на мяне тайком паглядае. Як на цялічку — ці добрай будзе на ўдачу.* Рак., БВ, 21.

**ЦЯЛЬПУ'Х** *м.* Цюхцяй, цяльпук. *А той, цяльпух, аж млеў ад асалоды.* Саб., I, 251. Параўн. ц я м ц я, ч у р б а к.

**ЦЯЛЬПУ'ХА** *жан. да* ц я л ь п у х. *Не тое, што не да душы,— злосць век бярэ на яе, маруду, цяльпуху!* Мел., VI, 286. Параўн. ч у л і н д а.

**ЦЯ'МЦЯ** *аг.* Тое, што ц я л ь п у х. *Хлопец, можа, і нічога, хоць, памойму, цямця.* Шам., VI, 214. Параўн. ч у р б а к.

**ЦЯЛЮ'Х** (целюх) *у знач. вык.*

Бух. *Мужики целюх пану ў ноги й падаюць прашэне.* Серж., СРБП, 81; Лучыцы Маз.

**ЦЯНЬКА'МІ** *прысл.* Нацянькі. *Жанчыны хуценька апрануліся, схапілі сёе-тое з адзежы, трохі яды і цянькамі выправіліся ў лес, каб мо там перабыць, перасядзець бяду-навалу.* Саб., I, 261.

**ЦЯПЕ'ЛЬЦА** *н. памянш.* вогнішча, касцёр. *Хвілін колькі назад было жаданне забрацца глыбей у пушчу, недзе на першабытнай палянцы паміж векавых сосен раскласці маленькае цяпельца...* Шам., V, 10.

**ЦЯПЕ'РЫЧА** *прысл.* Тое, што ц е п е р с я. *Цяперыча ён стаў зусім бедны.* ЧК, I, 249; Мяркулавічы Раг.

**ЦЯРО'М** (тяром) *м.* Церам. *Ишла-пошла млада Ганулька, На высок тяром косу часать.* Рам., БС, VII, 35; Гом.

**ЦЯРУ'ШАНКА** *ж. толькі адз.* Пацяруха (здробленая салома). *Ён убачыў, што веласіпед ляжыць ужо ў задку, дзе ў цярушанцы прымасціліся бітоны.* Дан., ЗА, 60.

**ЦЯСІ'ЦА** (тесица) *ж.* Дошка чэсаная. *Мне к маточки в гости идтить, По кладочци к мамочци, по брусочку и к браточку, По тесице и к сестрице.* Радч., ГНП, 30; Гом.

**ЦЯСНЕ'ЧА** *ж. толькі адз.* Цеснота. *Навошта яму гнацца за нечым вялікім ды век свой біцца ў цяснечы гарадской?* Рак., В, 286.

**ЦЯСО'ВЕНЬКІ** (цісовенькі) *прым. ласк.* зроблены з чэсаных дошак. *Ох вы, столікі ж да мае, Вы цісовенькія.* РП, 438; Граб'е Акц.

**ЦЯЦЕ'РАНЬКА** *ж. заал. ласк.* цяцера. *Як ляцела да цяцеранька — Не ўчора, а цяперака.* ЛБВ, 526; Жытк.

# Ч

**ЧАБО'Т** (чобат, чобот) *м.* Бот. *Люлі-люлі, Паляцелі вулі Да селі на вароцех У красных чабоцех.* ДФ, 162; Салтанаў Рэч. *Хваліцца чабатамі перад каралямі.— «Такіх чабатоў няма ў каралёў».* ЗП, 304; Прыбыткі Гом. *Бабусенька дагадалася, В одзин чобат обувалася.* Шэйн, III, 388; Ельск. *Подала ему чоботы, а он ё чоботом ударыў.* БКЭ, № 42; Рэч.

**ЧАБО'ЦІК** *м. Памянш. да* ч а б о т. *«Ой, што нашаму Іванку прынеслі?» — «Красныя чабоцікі Па самыя жывоцікі».* ДФ, 166; Гом.

**ЧАВАНУ'ЦЬ** *зак.* Здавіць. *Не чаванеш яму горла так, штоб храснуло, як у кураняці.* Мел., VI, 456.

**ЧАВІ'ЦЬ** *незак. да* ч а в а н у ц ь. *Душыць! Чавіць вас трэба!* Мел., VI, 133.

**ЧАКУДРЫ'К** *у знач вык.* Кулецъ. *Большы брат пайшоў, выйшаў на двор і чакурдык пад вугал, баіцца туды ісці.* ЧК, I, 67; Рудня Чач.

**ЧАЛЕ'СНІК** *м.* Качарэжнік. *Дык незнарок чыркнулася ў чалесніку аб качаргу і вымазалася ў сажу.* Лупс., ВТ, 6.

**ЧАЛЯ'ДАК** (челядок) *м.* Слуга. *З батракамі говора и с челядками говора.* Рам., БС, I—II, 4; Карма Раг.

**ЧАЛЯ'ДКА** *жан. да* ч а л я д а к. *Прыйшоў лось да калодзезя, папова чалядка воду бярэ.* КЖЧК, 248; Перарост Гом. *И чалядка ведры побила, коромисял поломала и заплакала.* Рам., БС, III, 1; Перарост Гом.

**ЧАМЯРВА'** *ж. Зборн.* Дзетвара. *Свая чамярва такая, што ўсіх ратоў не пазатыкаеш.* Саб., БАС, 166. *«От, чамярва»,— быццам жалячыся, ужо гаварыў стары мне.* Рак., В, 4.

**ЧАМЯРНІ'ЦА** *ж.* Назва хваробы, калі баліць галава, або жывот, або паленіца. *Отвящаа Господь Бог Сус Христос: одна чамярница, другая западница, третьтяя паралоги.* Рам., БС, V, 128; Раг.

**ЧАНЕ'Ц** *м.* Манах. *Ну, тяпер, заи-*

*хав к им чанец. У нас чанцов справжда богато було, у келянках жили по Дунай-раце.* Рам., БС, IV, 138; Целяшы Гом. *Скаканув у воду — а там под мостом под тым купалися чанцы.* Рам., БС, III, 399; Нісімкавічы Раг.

**ЧА′ПАЦЬ** *незак.* Чапляць. *Елень-золоторог явився перад ёй. Яна чапая там яго яким пояском, ти чим, и вяде у комнату.* Рам., БС, III, 352; Шарахоўскія Буды Раг.

**ЧАПКАВА′ЦЬ** *незак.* Частаваць (прапаноўваць чарку). *От прывезли ены таго писара, паставили ему кварту гарэлки й просяць, чапкуюць, каб ён ужэ добрэ написаў пану.* Серж., СРБП, 81; Лучыцы Маз.

**ЧАПЛЕЯ′** *ж.* Чапяла. *Терентея послала Тита по сито, Луку по муку, Хведора по чаплею, Тараску по подмазку.* Рам., БС, III, 434; Гом.

**ЧАПУРНЫ′** *прым.* Злы (які цапае, хватае — пра сабаку). *Да спасибо ёй за тоя, що зделала собаком да ня простым,— чапурным и хорошим собаком.* Рам., БС, IV, 105; Маркавічы Гом.

**ЧАПУРУ′ХА** *ж. Абрад.* Нявеста. *А мы сюды да не ведалі, Самі коні да заехалі. Дарогаю-таптанкаю — За сваёю каханкаю, Дарогаю-кастрыцаю — За сваёю сястрыцаю, Дарогаю-пацярухаю — За сваёю чапурухаю.* ЛБВ, 473; Хільчыцы Жытк.

**ЧАПЧЫ′ШЧА** (чепчище) *н. павел.* чапец. *Чего мати у клеть пошла? На днище, у кублище, по шовковое чепчище.* Радч., ГНП, 92; Гом.

**ЧАРАДЗЕ′ЙНІК** *м.* Чарадзей. *Усе ведалі, што ён чарадзейник, што ён замовиў сваю стрэлбу.* Серж., СРБП, 23; Лучыцы Маз.

**ЧАРАНО′** *н.* Чарэнь (верх печы). *Чарано было цёплае.* Дан., Ж, 170. Параўн. ч а р э н.

**ЧАРАПІ′ЦА** *ж.* Гаршчок. *Иди, малый, по водицу, Табе кашка на полицы, У маленькой чарапицы.* Рам., БС, I—II, 174; Беліца Гом.

**ЧАРАСЛО′** *н.* Пояс. *На той ели шавковая плеть, на той плети золотое чарасло, на том чарасле пресвятая матер Божая стояла.* Рам., БС, V, 2; Вылеў Гом.

**ЧАРВЯТОК′** *м. Зборн.* Садавіна (чарвівая). *Гарачыня, адзін чарвяток.* Рак., В, 11.

**ЧАРНАГАЛО′ВІНА** *ж.* Чараціна. *Навыперадкі пусціліся да балацявіны, вырвалі па чарнагалові-не і праз іх, сеўшы на ўколенкі, пілі гэты чысты, як сляза, сок вясны.* Сач., БРВ, 244.

**ЧАРНЕ′НЬКІ** *прым. Ласк.* Чорненькі. *Цыганская дзяціна чарненька.* РП, 571; Чамярысы Браг.

**ЧАРНУ′ШКА** *ж.* **:чорная чарнушка.** Манашка. *Бацюхна кажа — за князя аддаць, Мамачка кажа — ў чорныя чарнушкі.* ВП, 260; Новыя Дзятлавічы Гом.

**ЧАРТАПХА′ЙКА** *ж. Іран.* Аўтамашына. *А гэтак пад абед ужо бачым — чартапхайка аднекуль выкацілася на плошчу.* Саб., БАС, 32.

**ЧАРТО′ЎКА** (чартовка) *ж. зневаж.* у адносінах да жанчыны, злая жанчына. *И жонка такая ж, як ба й ен — чартовка, и чартьняты.* Рам., БС, IV, 8; Гом.

**ЧАРЦІ′ХА** (чартиха) *жан.* да чорт. *У чорта дак и борода е, козлиная, а ў чартихи няма.* Рам., БС, IV, 8; Гом. Параўн. ч а р ц і ц а.

**ЧАРЦІ′ЦА** (чартица) *ж.* Тое, што ч а р ц і х а. *На том дуби сядиць чартица.* Рам., БС, V, 126; Папоўка Гом.

**ЧАРЦЯ′КА** *аг. Перан.* Чарцяня (пра гарэзу, сваволькіка). *Ды толькі нешта нічога не піша, чарцяка.* Лупс., ВТ, 43.

**ЧАРЦЯНО′К** *м.* Чарцянё (дзіця чорта). *Там будзе стары чорт з чарцянком прасіць у цябе есць...* ЧК, II, 32; Шарахоўскія Буды Раг.

**ЧА′РЧЫНА** *ж.* Чарка. *Бацька казаў, што дзед каліcь здатны быў да чарчыны.* Саб., II, 45.

**ЧАРЭ′Н** *м.* Тое, што ч а р а н о. *Дак жа чарэн, мабуць, е? Ці заняты можа бацькам?* Мел., V, 191. *На*

*печы, на чаране, маці ўсё лета сушыла то ягады, то грушы, то яблыкі, то грыбы.* Сач., Д, 24.

**ЧАСЦІ'ЦЬ** *незак.* Частаваць. *Началі з'язджацца к цару госці з прочых зямель. Ён іх прынімае, часціць — гульбішча занялося.* ЧК, II, 25; Шарахоўскія Буды Раг.

**ЧАСЦЯКО'М** *прысл.* Нярэдка, досыць часта. *Ужо ў акупацыю, калі часцяком па хатах паліцаі шныпарылі, трасучка прыкінулася.* Дан., Ж, 16.

**ЧАЎНО'ЧАК** (чоўночэк) *м. памянш.* човен. *Бацюхно ты мой, пайдзі ў лес, вырубай дзерэвінку, чоўночэк зрабі, так я поеду рыбу ловіць.* БКЭ, № 1, Маз.

**ЧАЎПЦІ'СЯ** *незак. безасаб.* Здавацца, вярзціся (пра глупствы, недарэчнасць, неадвязныя думкі). *Чаўпецца, быццам з кожнага кутка партызаны цікуюць.* Мел., I, 142. *Celroзнае глупства чаўпецца.* Мел., II, 188. *Старая даўно ўжо не спала. Нешта думалася, чаўплося ў галаве.* Саб., I, 24.

**ЧВІР** *м. толькі адз.* Жвір. *Дзядзька Яўмен як утаропіўся ў свае вымурзаныя ў сівую гліну і чвір боты — вымурзаў ён іх, вядома, там, у той яме.* Сач., Д, 396.

**ЧМА'РЫ** *прым.* Цёмны. *Хмары чмарыя зьвіліся, вечар пеніўся тугой-атрутай.* Дуд., СС, 35.

**ЧО'ЎГАЦЬ** *незак.* Пры хадзьбе (у лапцях) рабіць шырокія крокі, адзываючыся характэрным гукам. *Неўзабаве Яўхім і Сцяпан з косамі цераз пляч о чоўгалі лапцямі к ражку, ад якога меліся пачынаць касіць.* Мел., VI, 16.

**ЧТЫ'РЫ** *ліч.* Чатыры. *Дам я чтыры тысячы, штобы мне такой сплела.* БКЭ, № 40; Ужынец Рэч.

**ЧУЛІ'НДА** *ж.* Тое, што ц я л ь п у х а. *За хорошим мужем И чулинда жена, А за поганым мужем И поповна ряба.* Радч., ГНП, 238; Гом.

**ЧУ'НІ** *толькі мн.* Пасталы. *Сярод абутку былі лапці, чуні, апоркі, розных відаў і фасонаў разбітыя чаравікі.* Нав., ТСЗ, 40.

**ЧУ'НІКІ** *толькі мн.* Памянш. да ч у н і. *На ёй кофта вышываная, чунікі са скуры-сырыцы, а на галаве хусцінка макаўкай.* Рак., В, 235.

**ЧУРБА'К** *м. Перан. груб.* Тое, што ц я л ь п у х. *Пагналася за дастаткам і таму пайшла замуж за гэтага чурбака.* Нав., В, 71. Параўн. ц я м ц я.

**ЧУТ** *м. толькі адз.* Чутка. *А можа, і сапраўды ён памёр, бо ніякага ж чуту і почуту аб ім і ад яго.* Саб., I, 280.

**ЧУ'ХКАЦЬ** *незак.* Абзывацца гукам, падобным да «чук-чук» (пра паравоз). *Выразна чуваць, як праз вуліцу, на станцыі, чухкае паравоз.* Нав., СТ, 365.

**ЧЫ** *часц.* Ці. *Так чы ж ты можэш достаць тое яблычко, калі там за пяць вёрст агонь із таго саду.* БКЭ, № 31; Юравічы Рэч. *А чы ж ты ізробіш?* БКЭ, № 34; Юравічы Рэч.

**ЧЫНІ'ЦЬ** *незак.* Начыняць. *От, я буду чыніць келбасы.* БКЭ, № 39; Ужынец Рэч.

**ЧЫ'РКА** *ж.* Сярністы бок карабка з-пад запалак. *Міця атрымлівае толавую шашку, кавалак бікфордава шнура. У дадатак пяць сярнічак і чырку.* Нав., СТ, 338.

**ЧЫРЛІ'КАЦЬ** *незак.* Цырыкаць. *Стала чуваць, як чырлікаюць нейтаймаваныя нават спёкаю птушкі.* Мел., II, 211.

**ЧЫРЫ'ЦЬ** *незак.* Вадзіць, чарціць. *Ён сядзеў на лавачцы і чырыў дубцом па зямлі.* Нав., В, 34.

**ЧЭ'КАЎКА** *ж. Заал.* Сарока. *На радасць, між іншым, жаўтабрушкам ды чэкаўкам, што ў змроку густых кустоў кожнае лета ўюць свае гнёзды.* Лупс., ВТ, 224.

**ЧЭ'КАЦЬ** *незак.* Стракатаць. *У густой лістоце слівін чэкала сарока.* Дан., Ж, 65.

**ЧЭ'РАВА** *н. Перан.* Днішча. *Ля старое, рассохлае лодкі, што ляжыць чэравам уверх пад нахіленай да вады вярбою, яны спыняюцца.* Сач., БРВ, 8.

**ЧЭРАЗЗЛО'ТНЫ** (череззлотны)

*прым.* Пазалочаны. *Исправ же мне одежечку дорогую: Шевковые сукенички до долу, Черезлотны поясочек на станочек.* Радч., ГНП, 69; Гом.

**ЧЭ'РАП** *у знач. вык.* Хап. *Той крывый стае — чэрап за ее!* БКЭ, № 30; Камаровічы Маз.

**ЧЭ'ШЧА** (чеща) *ж.* Цешча. *Пушна чеща, пушна, Процив зяця — не вушла.* Шэйн, III, 409; Дзякавічы Маз.

**ЧЭ'ШЧУХНАВЫ** (чещухновы) *прым.* Цешчын. *Штобу его уроки не взяли От цисцяткова витаньня, От чещухновага снеданьня.* Шэйн, III, 409; Дзякавічы Маз.

## Ш

**ШАБЕ'ЛЬКА** *ж. памянш.* шабля. *Добре мы воевали И шапок не знимали, И шабелек не выймали.* Шэйн, III, 438; Дзякавічы Маз.

**ШАБЕ'ТА** *ж.* **1.** Тое, што ц а г а л о. *Если шабета с кремнем, трутом и осьмаками, да красивый ножик небрежно болтаются у леваго его бока,— он делается предметом зависти всех дзецюков.* Эр., ОБП, 112; Брагін. **2.** Звязаны скрутак чаго-н. *З палка, прыбітага пад столію, Цімох дастае раменную шабету, туга напакаваную ўсялякімі паперкамі.* Нав., ТСЗ, 6.

**ШАБО'ЎСЬ** *у знач. вык.* Тое, што ц у к. *А мужыки не пападуць на купину, да ўсе шабоўсь у гразь.* Серж., СРБП, 59; Лучыцы Маз.

**ШАБУЛДЫ'ХНУЦЦА** (шабулдыхнутца) *зак.* Боўтнуцца (упасці, уваліцца ў ваду). *Только ены вылезли на бераг, ось два мужыки як шабулдыхнутца ў бабравіну, насилу их Иванчык выцягнуў.* Серж., СРБП, 57; Лучыцы Маз.

**ША'БУСЬ** *ж.* Шабас (суботні адпачынак, які прадпісваецца яўрэйскай рэлігіяй). *Пріедьтя за мною Вы у шабусь рано.* Рам., БС, VII, 33; Гом.

**ШАГ** *м. Уст.* Манета, паўкапейкі. *И за скольки ен у яго нанявся— за «дин шаг».* Рам., БС, III, 222; Гом. Параўн. ш э л е г.

**ШАГО'Ю** *прысл.* Шагам. *Ступай, мой коник, шагою, Вже моя Адарка зо мною.* Радч., ГНП, 99; Гом.

**ШАЛАПАВА'ТЫ** *прым.* Крыху шалапутны. *Пасмеялиса людзи з шалапаватаго чалавека й узялиса за сваe дзело.* Серж., СРБП, 99; Лучыцы Маз.

**ШАЛЁЎЧЫНА** *ж.* Шалёўка. *А вазок у яго добры: абабіты выгаблеванымі шалёўчынамі, з шырокай спінкай, на якой звонку намаляваны нейкі дракон.* Саб., I, 25.

**ША'ЛЬКІ** *толькі мн. памянш.* шалі. *Зблизиўса ён и бачыць, што дзеци штось усе важаць на шальках.* Серж., СРБП, 15; Лучыцы Маз.

**ШАМ** *у знач. вык.* Шась, шусь. *А яна на козле у комнату шам.* Рам., БС, III, 392; Нісімкавічы Раг.

**ШАПАРНУ'ЦЬ** (шапорнуць) *зак.* Шапнуць. *А дочце шапорнула: возьми, каа, тую кайстярку, а замест яе полож другую, свою!* Рам., БС, III, 276; Гом.

**ШАПАТА'ЦЦА** *незак.* Шаптацца. *Зоры пераміргваюцца і сапраўды як бы шапочуцца.* Лупс., ВТ, 41.

**ША'ПКА-АБЛАВУ'ШКА.** Гл. а б л а в у ш к а. *Шура з Баргдановічам напаткалі дзядка ў шапцы-аблавушцы, у разлезлых, падшытых рамянем валёнках.* Нав., ВС, 233.

**ША'ПКА-СТАЎБУ'Н** *ж.* Шапка-папаха. *Хоць з-пад каракулевай шапкі-стаўбуна вылазілі зусім сівыя на скронях валасы, бровы яго былі чорныя, як пафарбаваныя.* Шам., IV, 392.

**ШАРВА'РАК** *м. толькі адз.* Рамонт

дарог, мастоў. Эр., ОБП, 204; Брагін.

**ШАРО′Н** *м. толькі адз.* Шарпак. *Яна ішла па шаране, прыкрытым мяккім снегам, які нацерусіла дні два назад.* Шам., II, 346.

**ШАРХО′ТКІ** *прым.* Калючы. *Раніцай шархоткая шэрань сыпалася з нізкага неба.* Дан., Ж, 11.

**ША′СНУЦЬ** *зак.* Хутка схадзіць, збегаць куды-н. і вярнуцца назад. *Пакуль мы бункеры запоўнім, шасні ў лес па маліну.* Шам., ВТБ, 15.

**ШАСТА′К** (шестак, шестак) *м. Уст.* Манета, тры капейкі *Шесть дён молотила, Шестак заробила.— Сама сабе дивовала. Што так мало заробляла.* Рам., БС, VII, 39; Гом. *Озьми с гривяньку — поцаловать куму, да шестака бабе на кашу.* Шэйн, III, 384; Ельск. *Продав сестрицу за талер. А русую косоньку за шостак.* Шэйн, III, 435; Дзякавічы Маз.

**ША′СТАЦЬ** *незак.* **1.** Шамацець ад рухаў туды-сюды. *За акном церусіць снег, шастае цёмным голлем старая яблыня.* Нав., СТ, 4. *Калашыны штаноў прыліплі да кален і гучна шастаюць.* Сач., БРВ, 34. Параўн. ш а с ц е ц ь. **2.** Хадзіць куды-н. не адзін раз. *Выкручваецца Шастапаліха, гадуе дзяцей бабскай галавой. Штодня шастае па вёсках.* Нав., СТ, 271.

**ШАСТО′ЎКА** *ж.* Жэрдка. *Добра былі відаць хаты да краю сяла і нават дзве шастоўкі, што цягнуліся збоку вуліцы.* Мел., II, 169.

**ША′СЦЕЦЬ** *незак.* Шамацець. *Шасціць пад нагамі апалае лісце.* Нав., ВС, 263. *Белая сарочка прыемна шасцела пры кожным руху.* Нав., В, 40.

**ШАТРА′СТЫ** *прым.* Галінасты. *І праўда, каля фантана, пад шатрастай тапаляй, стаіць Жорыкаў бацька.* Дан., ЗА, 228.

**ШВАРГАНУ′ЦЬ** *зак.* Шмаргануць. *У бацькавых руках раптам апынуўся цвік, ён ім шварганў пару раз у шчыліне замка, і дзверы расчыніліся.* Нав., ТСЗ, 22.

**ШВА′РКА** *ж.* Безрукаўка доўгая, як кафтан. Радч., ГНП, 2; Гом.

**ШВО′РАЧКА** *ж. Памянш.* да ш в о р к а. *«Застаецца лавіць на шворачку»,— правёўшы вачыма цягнік, зазначыў Познышаў.* Крауч., НХП, 261.

**ШВО′РКА** *ж.* Вяроўка. *Без яго даўно б быў на шворцы.* Нав., ВС, 302. *З аўтаматамі перад сабою, з аўчаркамі-ваўкадавамі на шворках.* Сач., П, 15.

**ШВЫ′ДАК** *прым.* Паваротлівы, борзды, спрытны. *«Ну, иди ты, кабан!» — «Не, я ня швыдак!»* КЖЧК, 93; Гом.

**ШВЭ′НДАЦЦА** *зак. Пагард.* Блукаць, бадзяцца. *І ў цябе змарнее яшчэ адзін дзень, будзеш швэндацца без патрэбы і карысці.* Шам., VI, 121.

**ШВЭ′РКАЦЬ** *незак. Пагард.* Балбатаць абы-што. *Слухаць няма чаго: швэркае, швэркае.* Кап., СЖЛ, 25.

**ШКАДАВАТА** *прысл.* Шкада крыху. *«А дзяцей?» — на момант задумаўся Анісім, відаць, яму іх шкадавата было.* Саб., I, 277.

**ШКАДО′БА** *ж. толькі адз.* Літасць, шкадаванне. *І такі жаль, такая шкадоба агарнулі мяне — проста сказаць не магу.* Сач., ТСЗ, 46. *І Язэп, мусіць, не так кахаючы, як ад шкадобы, да кабеты хінуцца пачаў.* Сач., БРВ, 133.

**ШКАМО′ЦЦЕ** *н. Зборн.* Шматкі. *І вось трэба ж — прымроілася сёння, быццам жывога ўбачыў Мікіту, як ён узрываў страху на хляве, як кідаў уніз шкамоцце саломы.* Дан., Ж, 153.

**ШКАМУ′Т** *м.* Шматок. *Мундзір вісіць шкамутамі — відаць, доўга бадзяўся салдат па лесе.* Нав., СТ, 265. *Няпэўнага колеру шпалеры вісяць шкамутамі.* Нав., СД, 238.

**ШКАНДЫБА′ЦЬ** *незак.* Кульгаць, чыкільгаць. *Шкандыбаеш вечаркам з канюшні — гул вакол вёскі.* Рак., СЛС, 20. *Адстаўшы крокаў на дваццаць, услед шкандыбаў збавіцель.* Нав., ВС, 42. *З другога боку па вуліцы шкан-*

*дыбаў бязногі Амелька.* Крауч., НХП, 15.

**ШКАТУ'ЛА** *ж.* Шкатулка. Эр., ОБП, 213; Брагін.

**ШКО'ДАЧКА** (шкодочка) *ж. ласк.* шкода. *Не делайте шкодочки никому.* Рам., БС, I—II, 247; Перарост Гом.

**ШКРЫ'ГАЛІ** *толькі мн.* Боты зношаныя. *Просив батьковы шкрыгали, Просив, да не дали.* Радч., ГНП, 24; Гом.

**ШКРЭ'БАЦЬ** *незак.* **1.** Шаркаць, шоргаць. *На ганку нехта шкрэбае падошвамі: мусіць, выцірае ногі.* Палт., КА, 90. **2.** Скрэбці, шкрабаць. *Людка бярэ відэлец і старанна шкрэбае па талерцы.* Палт., КС, 27.

**ШКУРАПЕ'Я** (шкуропея) *ж.* Змяя вылінялая. *Под тым дубом липовый куст, у том кусти ляжить змяя шкуропея.* Рам., БС, V, 19; Стаўбун Раг.

**ШКУРА'Т** *м.* Акравак скуры. *Выпетраў чорт, бы шкурат.* Серж., СРБП, 67; *Лучыцы Маз.* Параўн. ш к у р а ц і н а. **:круціцца, як шкурат** — мітусіцца, быць у клопаце. *Тут са сваім няўпраўка. І без таго, як шкурат, круцішся.* Мел., V, 209.

**ШКУРАТО'К** *м. Памянш. да* ш к у р а т. *Алёнка пошла, да плакала, плакала ли Иваньки, да пошла, найшла на сметнищи шкураток, да ў борщ укинула, да зварила.* Рам., БС, III, 265; Перарост Гом.

**ШКУРА'ЦІНА** (шкуратина) *ж.* Тое, што ш к у р а т. *Пошов шукать меньшій брат мороза, и шкуратину узяв с собой.* Рам., БС, III, 406; Яроміна Гом.

**ШЛАКАТА'ЦЬ** *незак.* Казытаць. *Хлопчык, выкручваючыся, весела завішчэў: «Ой, пусці, не шлакачы!»* Мел., II, 212.

**ШЛАКО'ТКА** *ж. толькі адз.* Казытанне. *От любіць вішчаць. Шлакоткі страх як баіцца.* Мел., V, 32.

**ШЛЁГАЦЬ** *незак.* Апускаць касу няправільна, бы пугу і да т. п. *І вось ужо як не з-за вуха разганяў касу — пацягнуць не хапала сілы,— шлёгаў ёю па атаве, але каса адскоквала ад травы, не хацела яе браць.* Кап., СЖЛ, 35.

**ШЛЁПАНЦЫ :даць шлёпанцаў** — даць плескача. *Як ты не падхалімнічай, як ні дзьмухай на яго, ні сюсюкай, а дзіця ўсё адно цягнецца да мяне, хоць я часам і шлёпанцаў даю.* Шам., II, 386.

**ШЛУ'ННЕ** *н. толькі адз.* Тое, што с я р о д а к. *Век не думаў, што ты так адплоціш за тое, што я валок цябе на сваёй спіне, калі крываўка шлунне тваё вывірочвала ў Дудараўскім лесе.* Сач., ЧН, 215.

**ШЛЭ'МАЦЬ** *незак.* Шлёпаць, шлэпаць. *Па мяне прыйшоў бацька, я паволі шлэмаю бахіламі праз увесь клас у кут.* Сач., ЧН, 154. *Апіраючыся на сухі арэшкавы кій, стомлена, нібыта навобмацак, шлэмала вялікімі — не па назе — галёшамі да стала.* Сач., Д, 31.

**ШЛЮБАВА'ЦЬ** (шлюбиваци) **:шлюб шлюбаваць** — святкаваць уступленне ў шлюб. *Шлюбу шлюбиваци, Двое дзеток венчаци.* Шэйн, III, 400; Дзякавічы Маз.

**ШЛЮБО'НЬКА** *ж. Абрад. ласк.* Ручнічок вясельны. *Я з Марусяю на шлюбоньцы стану.* Б, 167; Вярэжцы Жытк.

**ШЛЯК** *м. Уст.* Бабка (10 снапоў). *Завязалі его ў ворку, завелі до рэкі, дай палажылі пры дарозе ў шляку.* БКЭ, № 12; Камаровічы Маз.

**ШЛЯХТУНЕ'Ц** *м. Уст. Пагард.* Шляхтун. *Жыве шляхтунец у двары, адукуецца разам з панскімі дзецьмі.* Серж., КАБП, 32; Лучыны Маз.

**ШЛЯХТУНО'ВЫ** *прым.* Шляхецкі. *Пашкадавала шляхтуновага хлапчука да й узяла яго карміць.* Серж., КАБП, 92; Лучыцы Маз.

**ШМАРАВА'ЦЬ** *незак.* Шнарыць (у пошуках чаго-н.). *Яна ўжо шмаруе па яго грыбовішчах — ві-*

*даць, прыехала ранішнім цягніком.* Нав., ТСЗ, 116.

**ШМАРГАНУ'ЦЬ** *зак.* Шмыгнуць (хутка і непрыкметна ўвайсці або выйсці). *А я глядзеў на яго і не ведаў, што мне рабіць: сядзець ці шмаргануць назад.* Саб., ЗПД, 164.

**ШМО'ЦЦЕ** *н. толькі адз. Зборн.* Адзенне, асабістыя рэчы. *Перавярнулі ўсё шмоцце на палацях.* Саб., І, 202. *А я шмоцця накупляла, трэба памяняць, а то няма ўжо чаго есці.* Шам., V, 583.

**ШМУРГО'ЛІЦЬ** *незак.* Шморгаць, тузаць. *Доўга шмурголіла ключом у дзвярах Харціна, але ключ не чапляўся язычком за зазубні замка.* Саб., ЖЗ, 225.

**ШМЯ'КНУЦЬ** *зак.* Кінуць са шлёпаючым гукам. *Міканор амаль без націску ўсадзіў у твань рыдлёўку, узняў на ёй бліскучую аладку, з якой весела цурчала вада, шмякнуў наводмаш.* Мел., V, 214.

**ШНУРАВА'ЦЬ** *незак. Перан.* Церціся каленямі аб што-н. пры карабканні. *А Амелька ўжо шнураваў каленямі па тоўстым камлі ясакара.* Саб., ЖЗ, 95.

**ШПІГАВА'ЦЬ** *незак.* Сачыць, шпіёніць. *Прыёмнік быў у мяне яшчэ ў вёсцы, але там як установіш. Шпігавалі* Нав., СД, 387.

**ШПІЛЯ'ЦЬ** *незак. Перан.* Засыпаць пытаннямі, падпускаючы шпількі. *Мы досыць доўга шпілялі адзін другога пытаннямі наконт прачытаных кніг.* Нав., В, 35.

**ШПО'КАЦЬ** *незак.* Падаць з характэрным гукам. *І жалуды, што ападалі з дубоў, часта шпокалі на дол.* Дан., ЗА, 69. *На нас шпокалі цвёрдыя грушы-камянічкі.* Дан., ЗА, 242.

**ШПО'НКА** *ж.* Запінка. *Ой як выйду на юліцу — разсыпаю шпонкі.* Рам., БС, І—ІІ, 229; Яроміна Гом.

**ШПО'ТЫК** *м.* Ражон, пожаг. *І вось ноч у лесе, вялікі касцёр з яловых лапак і голля, завостраныя шпотыкі, на якіх мы пражэм сала.* Нав., В, 31. *Проста пасярод вуліцы і ў дварах задымілі кухні, запалалі кастры, немцы смажылі на доўгіх шпотыках курэй і гусей.* Нав., СД, 88.

**ШПУ'ЛЬКА** *ж.* Шпілька. *Наце вам, бацькі, шпульку, ідзіце к кавалю, няхай ён выкуе з яе булаву ў сем пудоў.* ЧК, І, 231; Маз.

**ШТАНДА'РА** *ж.* Слуп (у фундаменце). *Штандары былі ўжо ўкапаны.* Рак., В, 203, *Ён распілаваў на штандары дуб.* Рак., В, 202. Параўн. ш т а н д а р ы н а.

**ШТАНДА'РКА** *ж. Памянш. да* ш т а н д а р а. *Цяпер там пуста, толькі штандаркі ў крапіве бялеюць.* Рак., В, 236.

**ШТАНДА'РЫНА** *ж.* Тое, што ш т а н д а р а. *І, каб не раздумаць, тут жа ўкапаў першую штандарыну.* Рак., СЛС, 14.

**ШТОВЕ'ЧАР** *прысл.* Кожны вечар. *Але гэта была яго, Іванава сцежка, ён штораніцы ішоў па ёй на працу, штовечар вяртаўся.* Шам., ВТБ, 183.

**ШТО'НІКІ** *толькі мн. памянш. іран.* штаны. *Кляпнёў не спозз, як раней, а саскочыў са стала, падцягнуў штонікі, якія ніяк не хацелі трымацца на яго слізкім жываце, пачырванеў.* Шам., V, 221.

**ШТОНО'Ч** *прысл.* Кожную ноч. *Цяпер я як не штоноч прачынаюся ад стуку ў нашы вокны ці дзверы.* Сач., Д, 43.

**ШТОРА'НІЦЫ** *прысл.* Кожную раніцу. *Замест таго, каб штораніцы чытаць зводкі, як ідуць работы па асушэнні Палесся, колькі пасеяна азімых, ён мусіць цікавіцца, ці «быў жывоцік» у Стасіка.* Шам., V, 38.

**ШТУР'МА** *ж. толькі адз.* Штурм. *Гэта ён дарэмна штурмай пайшоў.* Губ., ГС, 97.

**ШТУРХА'ЛЬ** *м.* Штурханец, кухталь. *Прачынаюся ад штурхаля ў бок.* Сач., БРВ, 277.

**ШТЫ'ГАЛЬ** *м.* Кавалак. *Я разаслаў паверх пасцілкі бацькаў кажух, дастаў з кубла штыгаль сала.* Сач., Д, 306.

**ШУБЯЛЁВЫ** *прым.* Сабаліны. *Ой, я знаю, што ён дома, На ім шуба шубялёва.* ЗП, 187; Тонеж Лельч.

**ШУГАНУ'ЦЬ** *зак.* **1.** Прамільгнуць. *Цікаўная вавёрка грыбнікоў не баіцца: спусціцца на ніжні сук, падзівіцца вокам-шрацінкай і шугане рыжай маланкай між зялёнай навісі.* Нав., В, 89. **2.** Вырасці (прыкметна прыбавіцца ў росце). *Колькі дзён узапар сеяў ціхі, цёплы дождзжык, і збажына прыкметна шуганула ўгору.* Дан., МН, 33. **3.** Прагнаць. *Дачакаліся, калі шуганулі з нашай зямлі навалач, зберагглі яе.* Дан., ЗА, 125. **4.** Разнесціся. *Аднак усё роўна громам і маланкай у халодны кастрычніцкі дзень шуганула па сяле вестка, што Іван Батрак і Таіса Міхайлаўна пайшлі ў сельсавет запісвацца.* Шам., ВТБ, 20.

**ШУЛЯ'К** *м. Буд.* Шула. *З год расцягвалі вяскоўцы Іванаў двор: хто дошку, а каму і шуляк спатрэбіўся, дык ноччу выкапаў.* Лупс., П, 37. *Шыя таўшчынёй як не з шуляк.* Лупс., П, 73. *У агародах, нават у двары дзе-небудзь пад шуляком на ўсе лады звоняць конікі.* Лупс., ВТ, 4.

**ШУ'МА** *ж. толькі адз.* Пена. *Струмень выносіць шуму ў берагі ўсю.* Дуб., I, 409.

**ШУМАВІ'ННЕ** *н. толькі адз.* Трава (сухая). *А качка дык гняздо сваё схавае ў шумавінне.* Саб., II, 19.

**ШУМӐРХА'ЦЬ** *незак.* Раскідаць, шкуматаць. *Прошу тябе, золотнік браточка, ня шумархай, кости ня ломи, живота ня зноби.* Рам., БС, V, 58; Кашалёва Раг.

**ШУР** *м.* Швагер. *Ты разбойницкій сын, що убив ты, загубив мойго брата роднаго свойго шурья большаго.* Рам., БС, I—II, 27; Перарост Гом.

**ШУ'Р'ЯНКА** *м. Ласк. да* ш у р. *А гэта будзе мая цешчухна. А гэта будзе да мой шур'янка.* ВП, 325; Чамярысы Браг.

**ШУ'СНУЦЬ** *зак.* **1.** Шмыгнуць (порстка, вельмі хутка куды-н. скрыцца). *Шуснуў у чысты пакой, апрануўся.* Нав., СТ, 48. *Хлопчык хуценька шуснуў пад коўдру, укрыўся з галавою.* Саб., I, 352. *Грачаніха атрымала свой гарох і шуснула з чаргі.* Нав., ТСЗ, 60. **2.** Паляцець, узвіцца. *Ракета гэтая, Сцяпан мой кажа, шусне ў неба, разарвецца там і разгоніць хмару.* Кап., СЖЛ, 10.

**ШЧА'ВА** *ж. толькі адз. Бат.* Шчаўе. *Ты не зважай, што яно кіслае, як шчава.* Саб., I, 138.

**ШЧАКАЎЗНУ'ЦЦА** (щакаўзнутца) *зак.* Паслізнуцца, саскаўзнуцца. *Што ступиць мужык на лазину, щакаўзнетца нага, а ён плясь у гразь.* Серж., СРБП, 59; Лучыцы Маз.

**ШЧАНЬ** *м.* Чан. *У каморы і цяпер стаялі вялізныя, пузатыя, аж пад столь, бочкі, шчані, кадаўбцы.* Сач., Д, 259.

**ШЧАПО'ЦЬ** *ж.* Дробка. *Той, хто займеў хоць шчапоць сапраўднай солі, насіў яе загорнутай у насовачку, як самую каштоўную рэч.* Нав., ТЮ, 6. Параўн. ш ч о п а ц ь.

**ШЧАЦІ'НІЦЦА** *незак.* Тапырыцца, як шчаціннe. *Вакол шчацініўся густы хвойнік.* Сач., БРВ, 308.

**ШЧО'ПАЦЬ** *ж.* Тое, што ш ч а п о ц ь. *Ён нарэшце знайшоў невялікі вузельчык і высыпаў на стол шчопаць солі.* Дан., Ж, 6.

**ШЧУ'РАЧКА** (щурачка) *ж. памянш.* трэшчына, след ад чаго-н. *Загиб, як кажуць, прапаў и щурачки не нашли.* Серж., СРБП, 51; Лучыцы Маз.

**ШЧЫГУ'ЛІСТЫ** *прым.* Франтаваты, фарсісты. *У іх была бяда, а ён, як ні ў чым не бывала, усё такі ж чысценькі і шчыгулісты, павольна каціў па бруку на сваім матацыкле.* Рак., СЛС, 56. Параўн. ш ч ы г у л ь н ы ў 1 знач.

**ШЧЫГУ'ЛЬНА** (щегулно) *(прысл.* Фарсіста, франтавата. *Красных девушак любити — щегулно ходити.* Рам., БС, I—II, 125; Перарост Гом.

**ШЧЫГУ'ЛЬНАСЦЬ** *ж. толькі адз.* Акуратнасць, франтаватасць. *Ні-*

*чога ў яго няма ад бацькоўскай шчыгульнасці: часта ён мурзаты, летнік ці кашуля ў масляных плямах.* Рак., СЛС, 111.

**ШЧЫГУ'ЛЬНЕНЬКА** *прысл. Ласк.* Толькі-толькі, ледзь-ледзь. *Гэтага шчыгульненька хапала толькі на тое, каб есці сухі хлеб ды раз у два дні талерку якога гарачага варыва.* Саб., ЗПД, 159.

**ШЧЫГУ'ЛЬНЫ** *прым.* **1.** Тое, што ш ч ы г у л і с т ы. *Спрытны і ўсмешлівы, у чорненькай берэтцы, хлопец шчыгульны і бывалы, ён перш за ўсё вывешваў на відным месцы афішу.* Рак., СЛС, 74, **2.** Грацыёзны, зграбны. *Накінуўшы пінжак, Расціслаў абняў правай рукой тоненькую, шчыгульную Лорыну талію.* Саб., I, 159.

**ШЧЫКІТА'ЦЬ** (щекитаць) *незак.* Шчабятаць. *Щекитала ластушка на заре, заплакала девочка на мори.* Рам., БС, I—II, 16.

**ШЧЫПАТО'СЦЬ** *ж. толькі адз.* Скруха. *Аддай дэчачку, куды хочацца, Ой і ой люлі, куды хочацца. Ці за старага, ці за малага, Ой і ой люлі, ці за малага. Што й за старага — сухатосць мая, Ой і ой люлі, сухатосць мая. Што й за малага — шчыпатосць мая, Ой і ой люлі, шчыпатосць мая.* ПК, 172; Рудня Сталбунская Ветк.

**ШЧЫПА'ЦЬ** (щипать) *незак.* Рваць. *И як буду ў субор ехаць, каб яблоны цвели, а як с субору — каб я яблоки щипав и ев.* Рам., БС, III, 169; Мяркулавічы Раг. *Повьев куму в виноград: «Щипли, кумка, ягодки».* Шэйн, III, 389; Ельск Маз.

**ШЧЫРУ'ХА** *ж.* Жанчына працавітая. *Шчыруха. Ростам усяго два вяршкі, а і падлогу памые, і вады прынясе, і яшчэ карову падоіць.* Дан., Н, 61.

**ШЧЫРЭ'СЕНЬКА** *прысл. ласк.* шчыра. *Бяжыць яна скарэсенька, Просіць бога шчырэсенька.* РП, 152.

**ШЧЭПІ'ЦЬ** *зак.* Сашчапіць,. *Той господар шчэпіў рукі, да кажэ.* БКЭ, № 20; Камаровічы Маз. *Маць як угледзела, да шчэпіла рукі, да стала голосіць по дочцэ.* БКЭ, № 13; Камаровічы Маз.

**ШЧЭ'РБАЧКА** (щербочка) *ж. памянш.* зазубінка, шчарбінка. *Горщочак кипить, сы щербочки льлетца.* Рам., БС, I—II, 183; Балотня Раг.

**ШЫБАНУ'ЦЬ** зак. **1.** Хутка пайсці, пабегчы. *Аксеня перадыхнула і шыбанула далей ад гэтага месца.* Лупс., ВТ, 228. *Малыя, што корпаліся ў пяску, шыбанулі па дварах.* Лупс., П, 41. **2.** Кінуць, шпурнуць. *Ды ён забягае ў склад, дзе солі кулі, хватае па дзесяць мяхоў зразу і шыбануў ёй у рот.* ЧК, I, 70; Рудня Чач.

**ШЫБА'ЦЬ** *незак.* Хутка ісці, шыбаваць. *Параўняўшыся з намі, яна кідае нам кароткае «дзень добры» і ўжо шыбае далей.* Лупс., ВТ, 175.

**ШЫГАЛЛЁ** *н. толькі адз. Зборн.* Ігліца. *Пад лёгкім крокам жанчыны патрэсквала шыгаллё.* Саб., БАС, 14. *Скажы ты, якая прага да сонца, святла: ядраныя капелюшы зялёнак успучвалі над сабой пясок з шыгаллём.* Дан., Ж, 176.

**ШЫЗА'Р** м. Заал. Голуб дзікі. *Данеслася турканне шызара.* Дан., НД, 48.

**ШЫЙКА** *ж.* Закомінак. *Лямпа з прыкручаным кнотам стаіць у самай шыйцы.* Нав., В, 17.

**ШЫКО'ЗНЫ** *прым.* Шыкоўны. *Затое падасінавікі ў чырвоных шыкозных капялюшыках на ніжэйшых мясцінах можна было напаткаць часта.* Дан., НД, 29.

**ШЫ'ЛЕГА** *ж. толькі адз.* Тонкія пруты, розгі. *Яўстрат скрывіў набок галаву і, таячы ў кутках губ тонкую, трошкі прыкрую ўсмешку, пачаў падбіраць шылегу — дубец да дубца.* Рак., СЛС, 69.

**ШЫ'ЛЕЖЫНА** *ж.* Тонкі, прут, лозга. *Яўстрат неяк крыва пасміхаецца, шукае вакол сябе ў абрэзках нож, каб затачыць шылежыну.* Рак., СЛС, 70. *А каб не скінуў яе, крылы шылежынай пра-*

*ткнулі і пад барадой звязалі.* Рак., В, 237.

**ШЫНК** (шинк) *м.* Шынок. *Ну, зайшли мы ў шинк, выпили по восьмушцы.* Рам., БС, IV, 102; Маркавічы Гом.

**ШЫРО'ЗНЫ** *прым.* Шырачэзны. *Паставілі пры такіх шырозных ды высозных дзвярах, што як бы ні падскоквай, да ўзгалоўня рукою не дастанеш.* Саб., БАС, 37.

**ШЭ'ДЗІНЬКІ** (шэдинький) *прым. ласк.* шэры. *Споткалася с шэдиньким вовком.* Рам., БС, VII, 34; Гом.

**ШЭЛЕ'Г** (шелег) *м.* Тое, што **ш а г.** *Свёкра продала — шелег ўзяла.* Дэмб., ООМГ, I, 587; Гом.

## Ю

**Ю'ЛКА** *ж.* Вулка. *Мати на юлку не пускала; ды у комнаточку замыкала.* Рам., БС, I—II, 266; Юркавічы Гом.

## Я

**ЯДЗЕ'ННЕ** *н. толькі адз.* Ежа. *Сычас стол адкрыўся-такі, што чаго ўгодна — і піцення, і ядзення.* ЧК, II, 31.

**ЯДРАНІ'СТЫ** (едрынисты) *прым.* Вельмі ядраны. *Буйна жыта каласіста, ядраніста.* ЗП., 205; Колкі Рэч. *Да зородзи Боже Да нашаму королю Жито колосистэ, Ды едрынистэ.* Шэйн, I, 96; Мелішковічы Маз.

**Я'НГУЛЬ** *м.* Анёл. *Адно акенца — то яснае сонца. А другое акенца — янгуль зазірнуў.* ЗП, 142; Тонеж Лельч.

**Я'РКНУЦЬ** *незак.* Ззяць, зіхацець. *На захадзе ў пойнеба яркла яшчэ зарыва.* Лупс., П, 77. *Стаяў жнівень, і ў небе ярклі вялізныя зоры.* Лупс., П, 101.

**Я'РМАЛАК** *м.* Кірмаш. *Бярыце два вазы тавару і едзьце на ярмалак!* ЧК, II, 539; Беліца Гом.

**ЯРША'** (ерша) *ж.* Прылада рыбалоўная, падобная на нерат. Дэмб., ООМГ, II, 579.

**ЯРШО'ЎКА** (ершоўка) *ж. Рыб.* Перамёт. Дэмб., ООМГ, II, 581.

**ЯРЫ** *прым.* Яравы. *Як посею я яру пшаницу, налетели сизы голубочки, сели пали на яру пшаницу.* Рам., БС, I—II, 147; Гом.

**ЯСНО'ТА** *ж. толькі адз.* Ясната. *Хораша было на душы ў яе — такая вось яснота, цяплынь і зелень, як і навакол.* Шам., I, 526.

**Я'ТРЫЦЦА** *незак.* Лютаваць. *Не вялікі пан, пачакае. А тым часам і злосць трохі адхлыне, ятрыцца так не будзе.* Сач., ЧН, 195.

Н 30 **Народная** лексіка Гомельшчыны ў фальклоры і мастацкай літаратуры: Слоўнік / [У. В. Анічэнка, В. А. Горленка, Л. І. Злобін, Д. А. Лявончанка]; Пад рэд. У. В. Анічэнкі.— Мн.: Выд-ва БДУ, 1983.—174 с.

У пер.: 1 р. 10 к.

Слоўнік змяшчае каля 3500 слоў і фразеалагічных словаспалучэнняў. Складзены на аснове фальклорных матэрыялаў, сабраных у розны час на тэрыторыі Гомельшчыны, і твораў пісьменнікаў — выхадцаў з Усходняга Палесся.

Разлічаны на спецыялістаў-філолагаў.

Н $\frac{4602020000-049}{М317-83}$ 58—83

ББК 81.2Бел-3

**Народная лексика Гомельщины в фольклоре и художественной литературе**

Издательство БГУ им. В. И. Ленина Минвуза БССР и Госкомиздата БССР

На белорусском языке

Рэдактар *В. В. Сербантовіч*
Малодшы рэдактар *Г. М. Школьнік*
Мастак *В. Н. Крывуля*
Мастацкі рэдактар *С. В. Балянок*
Тэхнічны рэдактар *В. П. Безбародава*
Карэктары *З. М. Машкевіч, Н. Б. Гуліш*

ІБ № 713

Здадзена ў набор 07.12.82. Падпісана да друку 27.06.83 АТ 08659. Фармат 84×108 1/32. Папера друкарская № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум.-друк. арк. 9,24. Ум. фарб.-адб. 9,45. Ул.-выд. арк. 14,7. Тыраж 1000 экз. Заказ 1309. Цана 1 р. 10 к.

Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна МінВНУ БССР і Дзяржкамвыдата БССР. 220048, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня Выдавецтва ЦК КП Беларусі, 220041. Мінск, Ленінскі праспект, 79.